# *Змагар за вольную Беларусь*

Жыццё чалавечае можна параўнаць з кнігаю. Бывае яна часам і вялікім тоўстым фаліянтам, і непрыкметнаю адразу, танюсенькаю брашураю.

Па-рознаму лёс распараджаецца кнігамі. Адны забываюцца, другім наканавана доўгае жыццё. Але здараецца і так, што нейкая злая рука наўмысля выдзірае многія старонкі, хавае кнігу ў сутарэнні, а то і паліць, бязлітасна паліць у агні...

На працягу трох гадоў, радок за радком прыйшлося збіраць распарушаную спадчыну Язэпа Лёсіка (1883—1940). Многае незваротна страчана, знішчожана, многае, відаць, застаецца яшчэ нявыяўленым. Тым не менш назбіралася багата матэрыялу — нават тэхнічна цяжка аб'яднаць яго ў адну кнігу. Вось таму першы зборнік ахоплівае творчую спадчыну Я. Лёсіка пераважна з 1912 па 1918 гг.* Іншыя матэрыялы перыяду 1919—1938 гг., а таксама цікавыя дакументы і перапіска розных гадоў, спадзяюся, яшчэ ўбачаць свет.

Усё разам гэта не проста спадчына Язэпа Лёсіка. Гэта — ягонае жыццё.

«Родныя вобразы». Невыпадкова дадзена такая назва раздзелу прыгожага пісьменства Я. Лёсіка. Яшчэ ў далёкім 1921 годзе сам аўтар апрацаваў свой багаты архіў і ўклаў зборнік апавяданняў менавіта з гэтай назвай. Сведчыць аб тым цудам захаваны «Протокол № 1 Сходу Навукова-Літэратурнай Колегіі пры Комасьвеце Беларусі ад 15 сакавіка 1921 г.»**, на якім прысутнічалі Д. Жылуновіч, Я. Лёсік, С. Некрашэвіч, В. Тэпін і Ільючонак. Тады абмяркоўваліся выдавецкія планы і па 8-й пазіцыі, дзе гутарка йшла пра «Родныя вобразы» Я. Лёсіка, было прынята рашэнне: «Выдаць у ліку 10 000 экз.; заплаціць аўтару гонорар за 12 друкаваных лістоў 2.000.000 руб.». Праз два дні высокі чыноўнік накладзе рэзалюцыю: «Не возражаю при условии согласия РабК. инспекции». І, мусіць, «инспекция» таксама не «возражала», бо ўжо 22 сакавіка Лёсіку быў выплачаны аванс. Праца ж па выданні вялася Беларускім каапэрацыйна-выдавецкім таварыствам «Адраджэньне» і да 1922 года была амаль скончана. У перавыдадзенай гэтым часам першай частцы «Практычнай Граматыкі»

---

* Усе выяўленыя літаратурныя творы, што ўключаны ў кнігу, датаваныя 1912—1919 гг.

** ЦДАКР. Ф. 101, воп. 1, адз. 76. С. 31. Тут і далей захоўваецца правапіс арыгінала.

Язэпа Лёсіка было рэкламнае паведамленне аб хуткім з'яўленні «Родных вобразаў».

Але гэтага не адбылося. Прыгожае пісьменства Я. Лёсіка так і не знайшло тады свайго чытача. Галоўлітам, а папросту цэнзурай маладой таталітарнай сістэмы выданне «Родных вобразаў» было забаронена з-за «нацыяналістычнага», «рэлігіёзна-дагматычнага» характару. Сумны лёс спаткаў і выдавецтва «Адраджэньне» — яно было расфарміравана і спыніла сваё існаванне.

Не ацалелі, відаць, машынапіс, карэктура ў «12 друкаваных лістоў»; спаленыя ў 1930 г. рукапісы...

Якімі ж былі першыя літаратурныя спробы Я. Лёсіка? На гэта цяпер ніхто не зможа даць адказу. Першы вядомы нам твор быў надрукаваны толькі ў 1912 г. У «Нашай Ніве» за 19 ліпеня (ст. стылю) было змешчана маленькае апавяданне «Рабы Міхась Крэчка, што быў за суддзю». Яно цяпер і адкрывае літаратурны раздзел гэтай кнігі.

Але ці ж гэта — пачатак творчасці Язэпа Лёсіка? Ці не сам ён адказвае на гэта ў вершаваных радках «Апавядання без назвы» (раздзел «Гаронім-ляснік»), калі з далёкай халоднай Сібіры звяртаецца ў думках да маці?

«І цяпер усё ходзе глядзець, «ці ня гоне ён быдла із лесу?» А мо с кніжкай у руццэ, у чорным плацці, адзін, пахаджае на сьцежцы ля лесу,— кветкі-зельля ірве, у паперы кладзе ды, нагнуўшыся, нешта ўсё піша?»

Што піша ў тыя паперы маленькі Юзік-Язэп, а мо і падлетак, семінарыст? Відаць, вершы. Хараство ваколіц роднага сяла, не кранутая яшчэ бязглуздай гаспадаркаю прырода натхнялі да творчасці. І тут няма нічога надуманага, бо менавіта на гэтай глебе ўзгадаваны быў і Якуб Колас.

Лёсік пісаў вершы. Пісаў, але рэдка адкрываўся, дзяліўся напісаным. Лічыў гэта не вартым, не патрэбным, сам ніколі сябе да паэтаў не залічаў.

Вядомыя ўсяго тры ягоныя вершаваныя спробы. «Мой ты краю, родны, мілы...» друкаваўся ў газеце «Звон» № 1 за 25 жніўня 1919 г. Гэты вершык-аднадзёнка носіць публіцыстычны характар — ён апошні з вядомых.

У 1914 г. надашле Лёсік у рэдакцыю газеты «Bielarus» каляднае віншаванне. Яму, праўда, больш адпавядала б назва «Віншаванне з ссылкі», чым «Віншаванне з салдатаў». Але, мусіць, таго вымагала цэнзура, ды й доля салдацкая была не лепшай тады за долю ссыльнапасяленца. Газета надрукавала верш лацінкай 18 снежня (ст. стылю) 1914 г. пад крыптанімамі Я. Л., дадаўшы ў дужках слова «апалчэнец».

Але толькі першыя вядомыя па часе паэтычныя радкі з «Апавядання без назвы» (канец раздзела «Гаронім-ляснік»), напісаныя вясной 1914-га, можна лічыць сур'ёзнай працай. Гэта — споведзь душы ў выгнанні, у далечыні ад радзімы. Так мог напісаць толькі паэт, і каб яе не было, дык пра Лёсіка-паэта наогул не прыйшлося б гаварыць усур'ёз. Радкі з той споведзі ўзяты эпіграфам да «Родных вобразаў».

Але не вершы прынясуць Лёсіку вядомасць. Сібірскае выгнанне зро-

біць яго таленавітым пісьменнікам і вядомым публіцыстам. Самыя значныя ацалелыя апавяданні-замалёўкі напісаны менавіта ў той час.

...Падпісчыкі «Нашай Нівы» не маглі не адзначыць дэбют у газеце невядомага аўтара. Жартаўлівы і лаканічны аповяд пра пацешнага рабога Міхася Крэчку, што быў за суддзю, гэта маленькая, але такая змястоўная гісторыя была падпісана псеўданімам М. Кепскі, і толькі рэдакцыя ведала, што гэта Язэп Лёсік. У кастрычніку 1912 г. апавяданне перакладзена М. Багдановічам для перавыдання ў кіеўскім зборніку разам з творамі С. Палуяна, Власта, Ядвігіна Ш., Тараса Гушчы, Ф. Багушэвіча, Алеся Гаруна і інш.* «Ці выйшла гэтая кніжка? Аб гэтым ніякіх інфармацыяў ня маю»,— прызнаецца Антон Луцкевіч **. Няма іх і ў нас.

А неўзабаве на старонках «Нашай Нівы» з'явілася гісторыя пра карчомнае жыццё — «Не ўсе ж разам, ягамосці!..» — апавяданне невялічкае, але шматпланавае. Рэальныя чалавечыя лёсы і будзённыя карчомныя з'явы пададзены захапляюча і павучальна. Невыпадкова ў 1914 г., праз два гады пасля друку ў «Нашай Ніве», гэты твор выходзіць асобнай кніжкай. На вокладцы і шмуцтытуле, праўда, пазначаны аўтарам Антон Лёсік, брат Язэпа. Але гэта невыпадковая памылка — усё з тых жа цэнзурных меркаванняў подпіс аўтара хаваецца ў самым канцы апавядання, на апошняй старонцы. Тым не менш менавіта праз гэтую кніжачку — «Не ўсе ж разам, ягамосці!..» — пашыраецца прызнанне і вядомасць Лёсіка-пісьменніка.

Да гэтага часу належыць і апавяданне «Першынка». Маленькі Анцік са сваімі запаветнымі жаданнямі, дзіцячай непасрэднасцю і прыгодамі тут галоўная дзеючая асоба. Саступаючы хлопчыку, аўтар толькі зрэдку ўмешваецца ў яго справы. Высока ацаніў «Першынку» Максім Гарэцкі.

Але самай маштабнай работай таго перыяду будзе «Апавяданне без назвы». Сталася, праўда, так, што гэты буйны і найлепшы літаратурны твор Я. Лёсіка аказаўся найменш вядомым. Напісаны ў лютым — чэрвені 1914 г., ён рыхтаваўся ў «Нашу Ніву». Закрыццё ж газеты расійскімі вайсковымі ўладамі перад нямецкай акупацыяй Вільні надоўга адсунула выданне. Ужо пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917-га «Апавяданне без назвы» не без перашкодаў на працягу ажно трох гадоў друкуецца ў газетах «Вольная Беларусь» і «Беларусь».

Плённымі ў літаратурнай творчасці Язэпа Лёсіка будуць гады сібірскай ссылкі. Асабліва тут вылучаецца перыяд 1912—1914 гг.

«Предоставляю Господину Киренскому Уездному Исправнику на распоряжение и доношу Его высокородию,— піша прыстаў 2-га стану Кірэнскага павета 31 мая (ст. стылю) 1913 г.,— что с. поселенец Иосиф Лосик холостой, оседлости и домообзаведения не имеет, поведения удовлетворительнаго, занятий постоянных не имеет и пропитывается поденными заработками, образ жизни ведет средний, в Мельничном выселке живет около года»***. Жыве не адзін — амаль год, як зарганізавалася тут невялічкая камуна ссыльных палітыкаў, беларусаў. Сярод тых, з кім звёў

---

* Ант. Навіна. З недрукаванае спадчыны па М. Багдановічу. Гадавік Бел. Нав. Тав-ва. Кн. 1. Вільня, 1933. С. 165—166.

** Тамсама. С. 166.

*** Іркуцкі абласны архіў. Ф. 34, воп. 1, адз. 11365. С. 9.

выгнанніцкі лёс Язэпа Лёсіка, вядомы імёны Янкі Усціновіча і трох Алесяў: Прушынскага (Алесь Гарун), Капусціна і Толпінскага.

Сябры разам жывуць і працуюць. А інакш не выжывеш, бо нялёгка даецца сібірскі хлеб, фунт якога каштуе тут 7 капеек. Работы ў выселку часовыя і цяжкія — гэта раскарчоўка дзялянак, нарыхтоўка дроў далёка ў тайзе, касьба на параскіданых у лесе невялічкіх галявінах. Проста зашчасце, што некаторыя з ссыльных ведаюць рамяство і знаходзяць заробак у самім выселку па вырабе або рамонце немудрагелістага сялянскага рыштунку. А калі ўжо зусім прыціскала, дык недалёка — праз рэчку — Кірэнск. На прыстанях гэтага горада-выспы яшчэ можа пашчасціць адшукаць якую-колечы работу. Сябры рэдка бяруць Лёсіка з сабой на заработкі, бо ведаюць, што мала толку будзе ад настаўніка там, дзе ў першую чаргу патрэбны фізічная сіла і спрытныя рукі. Усё болей ён увіхаецца па гаспадарцы, здабываючы прадукты і гатуючы ежу. Менавіта да гэтага перыяду можна аднесці радкі з успамінаў Антона Лёсіка: «У ссылцы Язэп жыў разам з сябрамі ў няшчасьці — з іншымі палітычнымі. Аднаму з такіх сяброў удалося нелегальна прыехаць у Ноўгарад-Северск, дзе была ягоная радня. Апавядаючы мне аб жыцьці Язэпа ў ссылцы, ён, між іншага, дабавіў, жартуючы, што Язэп ужо атрымаў мэдаль... бульбяную, бо ён добры кухар»*.

Але «кухару» больш за ўсё хацелася вучыць дзяцей. Ён, настаўнік па прызванні, з болем зазначаў, што ў многіх сібірскіх сёлах няма нават пачатковых школ. Спроба ж арганізаваць прыватныя ўрокі і вучыць чалдонскіх дзяцей грамаце адразу была прыпынена, калі даведаліся аб гэтым жандары. Афіцыяльна настаўнічаць у ссылцы да 1914 г. забаранялася.

На некалькі гадоў выселак Мельнічны стаў родным домам, маленькаю выспаю ў акіяне таежнай Сібіры. Тут былі сябры, была падтрымка. Тут гучала роднае беларускае слова і не так тужліва было на сэрцы. Выпісвалі беларускія газеты і кнігі, дзяліліся заробкам і дапамагалі адзін аднаму — ладзілі нават вечарыны. Для Лёсіка ж гэты перыяд з 1912-га па 1914-ты будзе асаблівым творчым этапам. А знаёмства з Алесем Гаруном, якое прыпадае менавіта на 1912 год, вырасце ў шчырае сяброўства і значна ўзбагаціць абодвух.

Апавяданні Язэпа Лёсіка — гэта не проста ўмела скампанаваныя сюжэты, эпізоды з сялянскага жыцця. Гэта ўспаміны, успаміны са свайго маленства і юнацтва, замалёўкі з жыцця роднага сяла Мікалаўшчыны (так любоўна клікаў Лёсік сваю радзіму). Усім мастацкім вобразам адпавядаюць канкрэтныя прататыпы, усе месцы дзеяння маюць канкрэтную геаграфію. Маленькі хлопчык, што прыходзіць за татам у карчму («Не ўсе ж разам, ягамосці!..»), шчаслівы Анцік са сваёю першынкай, шаляніца Юзік («Апавяданне без назвы») і семінарыст Адась («Па-валачобнаму») — гэта ўсё адзін і той жа чалавек. Гэта — аўтар. І тут шмат можна

* Антон Лёсік. З жыцьця Язэпа Лёсіка. Новы Шлях. Менск, 1944, № 4(40).

знайсці дзеля раскрыцця ўнутранага свету і характару будучага пісьменніка, публіцыста, грамадскага дзеяча, навукоўца.

Творчасць Лёсіка абыдзена ўвагай крытыкі, бо напісанае ім ніколі не выдавалася асобнай кніжкаю, а тое, што пабачыла свет, распарушана ў газетныхварыянтах. Але не гэта галоўная прычына — разам з імем аўтара ягонай спадчыне наканавана было забыццё, цемра глухіх скляпенняў. Толькі цяпер можна прывесці каштоўныя меркаванні М. Гарэцкага (1919), сучасніка і шырокавядомага пісьменніка-літаратуразнаўцы: «Лёсік дужа талентны апавяданнік і напісаў выдатную ў нашай эпічнай поэзіі рэч «Апавяданьне бяз назвы». Асабліва ўдаецца яму маляваць беларускіх дзетак (Анцік, Юзік). Творчасць Лёсіка вельмі нацыянальная, народна-беларуская. Нейкі захаваны надлом свае душы адбіў ён у вядомым «Не ўсе ж разам, ягамосці!..»... Гэтага слаўнага пісьменьніка чакаець яшчэ слаўнейшая будучына»*.

Надоўга зацягнулася рэабілітацыя Язэпа Лёсіка. Гэты «нацыяналіст», «нацдэм» ніяк не ўпісваўся ў рамкі існаваўшай афіцыяльнай гісторыі. «У сваіх літ. творах і навуковых даследваннях дапускаў памылкі нацыяналіст. характару»**,— сведчылі партыйныя «кампетэнтныя эксперты». Пра публіцыстыку яны нават і не згадвалі. Барані Божа — для тых «экспертаў» яна была самая-самая небяспечная і крамольная. Асабліва тая яе частка, што ўключана ў гэтую кнігу...

У публіцыстыцы Лёсіка адразу відаць перыядычнасць. Кожнаму этапу характэрны свае творчыя прыёмы. Пачаткам жа яе будзе сібірскі перыяд, тыя вядомыя карэспандэнцыі ссыльнапасяленца і палемічныя нататкі, што друкаваліся ў «Нашай Ніве» на працягу 1912—1914 гг. Спадчына невялічкая, але цікавая інфармацыяй аб быце «палітыкаў», іх нялёгкім лёсе.

Асобна вылучаецца год 1917-ты. Адсутнасць якой-колечы цэнзуры, агульны творчы ўздым і спрыяльныя ўмовы працы — гэта накладзе значны адбітак на творчасць Лёсіка. А яна тут аб'ёмная і разнастайная па тэматыцы. Але самае істотнае — перад намі не раздушаны цэнзурнай кувалдай, не прычасаны рэдактарскім грэбенем аўтар са сваімі перакананнямі, духоўнымі каштоўнасцямі і жыццёвымі прынцыпамі.

Перыяд 1918—1920 гг. ужо будзе рэзка адрозніваецца ад папярэдняга. Гэтым гадам творчасці Лёсіка яшчэ можна было б даць агульную, ёмкую назву «акупацыйных» і падзяліць на тры асобныя часткі (па формах акупацый) — на бальшавіцкую, нямецкую, польскую...

Ад ліпеня 1920 г. пачнецца новы, адмысловы этап. Яго можна назваць савецкім. Язэп Лёсік — паважаны вучоны, аўтар шматлікіх падручнікаў і публікацый, але адначасова — сталёвыя кайданы цэнзуры, недавер і падазронасць.

20 ліпеня 1930 г. Лёсіка арыштуюць. Няўгодны, небяспечны вучоны будзе высланы з БССР. А выгнанніцкае жыццё абарвецца фізічнай расправай увесну 1940 г.

Публіцыстыка Лёсіка — не толькі думкі, разважанні. Гэта светлыя і сумныя, яркія і пакутныя старонкі гісторыі твае, любая Беларусь.

---

* М. Гарэцкі. Гісторыя беларускае літэратуры. Вільня, 1920. С. 203.
** БелСЭ. Т. 6. 1972. С. 351.

«Все ссыльные политические имеют право свободного передвижения, возвращения родину. Объявите. Точка.»* — тэлеграмы з такім зместам на пачатку сакавіка 1917 г. абляцяць усе воласці Іркуцкай губерні.

З думкамі пра Беларусь, пра яе лёс вяртаецца Язэп Лёсік з сібірскай ссылкі. У красавіку ён ужо ў Мінску. Палітычнае жыццё тут віруе, набірае моц. Не стаяць убаку і беларусы: актывізуюць сваю дзейнасць партыйныя групоўкі, грамадскія і вайсковыя згуртаванні. 25—27 сакавіка** праходзіць першы з'езд беларускіх нацыянальных арганізацый. Для каардынацыі іх працы абіраецца Беларускі нацыянальны камітэт (БНК).

Сацыял-дэмакрат яшчэ сібірскай загартоўкі, Лёсік уступае ў мінскую секцыю Беларускай Сацыялістычнай Грамады (БСГ). Патрэбна праца, і ён знаходзіць яе: БНК кааптуе Лёсіка ў свой склад і даручае яму рэдагаванне газеты. Першы нумар «Вольнай Беларусі», органа БНК, выходзіць 28 мая.

У «сваю» газету Лёсік шмат піша — фактычна кожная перадавіца належыць яму. А колькі ж тут публікацый не падпісаных? Недахоп карэспандэнтаў, абмежаванасць сродкаў, тэхнічныя складанасці і нізкая нацыянальная свядомасць мас прымушала працаваць за дваіх, за траіх...

«Выдаваць беларускую газэту акуратна і нормальна вельмі цяжка. На гэта ў нашых заможных людзей «шкада грошы». Нашые газэты хутка родзяцца і хутка паміраюць, бо фактычна нашые главары імі мала цікавяцца,— прызнаецца Змітрок Бядуля.— Штодзённую газэту прыходзіцца пісаць як бы колечы двум асобам ад першага да апошняга радкоў. А выдаваць беларускую газэту ў 5 разоў цяжэй, чымся расійскую або польскую. Тут ножніцы нічога не дапамагаюць. Нават і абвесткі прыходзіцца перапісываць па-беларуску. А калі хто дае матар'ял хоць па-беларуску, дык у большасьці прыходзіцца перапісываць і выпраўляць.

Потым новая бяда з карэктурай — добрага карэктара трудна знайсьці»***.

«Вольная Беларусь» не памёрла — яна выжыла, стала на ногі. Шмат у чым дапамог менавіта Змітрок Бядуля. Ён не толькі прытуліў Я. Лёсіка ў сябе на кватэры па Мала-Георгіеўскай, 12****, але і стаў верным яму памочнікам, сябрам. Вершы, прозу, артыкулы Змітрака Бядулі мы часта сустракаем у «Вольнай Беларусі».

Архіў рэдакцыі не захаваўся. Ён быў вывезены і знішчаны бальшавікамі ў снежні 1918-га. І мы ніколі не будзем ведаць іменаў тых, хто спрычыніўся да выдання гэтай першай мінскай беларускай газеты. Гаўрыла Гарэцкі незадоўга перад смерцю згадваў пра Ванду Лявіцкую, карэктарку і машыністку рэдакцыі «Вольная Беларусь». Што ж, магчыма. Гэтая дзяўчына, дачка вядомага беларускага пісьменніка Ядвігіна Ш., пакарыла Язэпа Лёсіка сваім розумам і сціпласцю, ціхім, але рашучым і цвёрдым характарам. Увосені 1917-га яны бяруць грамадзянскі шлюб, а наступнай

---

* Іркуцкі абласны архіў. Ф. 466, воп. 1, адз. 96. С. 10.

** Тут і далей стары стыль.

*** З. Бядуля. Беларускі рух і беларуская літаратура. Беларусь, 1919, № 50(77), 21 снежня.

**** ЦДГА Беларусі. Ф. 24, воп. 1, адз. 3666. С. 36.

вясною, у маі, злучыць іх лёсы вянчальны абрад у касцёле на Залатой Горцы.

Не толькі газетнымі справамі заняты рэдактар. Без нацыянальнай свядомасці, культуры і асветы не будзе поступу і росквіту Беларусі — Я. Лёсік, як прыроджаны педагог, адчуваў гэта. Ён — адзін з першых арганізатараў бясплатных беларускіх курсаў у Мінску восенню 1917-га. Пад час працы другога з'езда беларускіх нацыянальных арганізацый — ініцыятар аднаўлення «Беларускага вучыцельскага хаўрусу» (9.VII.1917), адзін з аўтараў яго статута.

Мацнее аўтарытэт Я. Лёсіка. Сябры па партыі вылучаюць яго кандыдатам у гласныя Мінскай гарадской думы*, а неўзабаве — і кандыдатам на выбарах ва Устаноўчы сойм на Міншчыне. На другім з'ездзе беларускіх нацыянальных арганізацый (8—10.VII.1917) Лёсіка абіраюць старшынёй Выканаўчага камітэта Цэнтральнай рады беларускіх арганізацый.

У пачатку жніўня ён займаецца падрыхтоўкай першай сесіі Цэнтральнай рады беларускіх арганізацый (ЦРБА) і ўдзельнічае ў яе рабоце (5—6.VIII.1917). Уваходзіць у Вялікую беларускую раду, створаную на другой сесіі ЦРБА (15—17,24.X.1917). Прымае ўдзел у Беларускім навуковым з'ездзе (15.XII.1917) і ў працы Усебеларускага кангрэсу (15—17.XII.1917).

І ўсё ж газета, гэтыя чатыры старонкі вялікага фармату, застануцца асноўнай работай Язэпа Лёсіка. Цяжкія ўмовы выдання адымаюць шмат часу, не даюць продыху (ён нават увосень перабіраецца жыць у рэдакцыю па Захараўскай, 18). Толькі ў кастрычніку, як выключэнне, Лёсік з'ездзіць у Петраград па справах партыйных. А так ён нават не можа вырвацца на радзіму, у любую Мікалаеўшчыну: да сваякоў, да бацькоўскіх магілак... І такі складзецца лёс, што не давядзецца гэтага ўжо ніколі.

Тэматыка і жанры артыкулаў Язэпа Лёсіка ў 1917 г. самая разнастайная — гэта палітычныя агляды, гістарычныя нарысы, працы па мовазнаўстве і пытаннях культуры. Усе яны розныя, аб іх цяжка гаварыць — трэба чытаць. А чытаць іх цікава нават цяпер: настолькі актуальныя многія публікацыі, столькі ў іх прарочых, прадбачлівых выказванняў.

У пачатку 1918 г. «Вольная Беларусь» мяняе сваё аблічча. Вялікая і не вельмі зручная, яна становіцца цяпер удвая меншага фармату, на 8 старонках са скразной нумарацыяй. Мяняецца не толькі знешні выгляд, але і накірунак газеты, яе змест. Палітычная хроніка ўсё болей саступае прыгожаму пісьменству і працам па гісторыі, мовазнаўстве, эканоміцы, краязнаўстве.

Мяняюцца і ўмовы працы. Уначы з 17 на 18 снежня 1917 г. быў разагнаны бальшавікамі Усебеларускі кангрэс (з'езд). Лёсікава газета выступіла тады з рэзкай крытыкай ганебнага ўчынку і прызвала да «рэвалюцыі»**. Гэта яўна не спадабалася бальшавікам, якія да таго моманту цал-

---

* ЦДГА Беларусі. Ф. 24, воп. 1, адз. 3666. С. 42.
** Вольная Беларусь, 1917, №№ 35, 36. 21, 31 снежня.

кам кантралявалі сітуацыю ў Мінску. Вось чаму першыя нумары «Вольнай Беларусі» за 1918 г. выходзяць пад пільным вокам «загадчыка народнай прасветы» бальшавіка Рэзаўскага, таго самага Рэзаўскага, што разам з Крывашэіным разганяў Усебеларускі кангрэс. Але ўплыў гэты доўжыцца нядоўга, слабее. Ужо № 5 «Вольнай Беларусі» за 17 лютага* скідвае тое апякунства.

19 лютага 1918 г. бальшавікі пакідаюць Мінск. Насоўваецца нямецкая акупацыя. Язэп Лёсік усё болей цяпер заняты справамі палітычнымі, грамадскімі — вырашаецца лёс Беларусі. Ён удзельнічае ў працы Народнага сакратарыяту Беларусі і абвяшчэнні Беларускай Народнай Рэспублікі, уваходзіць у склад яе Рады і выступае адным з ініцыятараў акту незалежнасці БНР. Ад 14 мая 1918 г. абіраецца старшынёй прэзідыума Рады БНР.

«Прымаючы на сябе ў гэты няпэўны і трагічны час для нашай Бацькаўшчыны абавязкі старшыні такой дзяржаўнай установы, як Рада Б. Н. рэспублікі, я мушу зазначыць, што нашаю мэтай і сьвятым нашым заданнем павінен быць дабрабыт нашага народу,— той дабрабыт, каторы само сабою разумеючы эканамічны росквіт, ні можа зьдзейсьніцца без культурна-нацыянальнаго развіцця і яго нізалежнасьці, а культурна-нацыянальная нізалежнасьць і яе поўнае развіццё, у сваю чаргу, ні можа зьдзейсьніцца без дзяржаўнай нізалежнасьці Беларусі. Такім парадкам, культурна-нацыянальная і дзяржаўная нізалежнасьць Беларусі — вот наша мэта, наша сьвятое заданне і той галоўны грунт нашай чыннасьці, с каторага мы ніколі ні саступім»**.

Але Лёсік усё ж не быў палітыкам. Для гэтага, акрамя належнага вопыту, патрэбна было прызванне. Цвёрды і рашучы па натуры, ён мала падыходзіў там, дзе патрэбны былі дыпламатычнасць, гнуткасць. Усё болей ён раскрывае сябе на культурнай ніве: у красавіку — чэрвені чытае лекцыі на курсах беларусазнаўства, з верасня пачынае выкладаць на педагагічных курсах. Вучыць другіх і вучыцца сам. Перакладае Дуніна-Марцінкевіча і рыхтуе школьныя падручнікі, піша.

«Вельмі цікавай асобай быў грамадзянін Лёсік, старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі,— успамінае Францішак Кушаль.— Гэты чалавек працаваў, здавалася, дзень і ноч без адпачынку. Удзень ён працаваў у Выдавецтве, увечары пачыналася ягоная праца як старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. Ён выдаваў газэту, супрацоўнічаў у іншых беларускіх часапісах, працаваў навукова ў галіне пэдагагічнай і, апрача таго, вёў адказную палітычную працу.

Побач яго працаваў Алесь Гарун (Аляксандр Прушынскі), які адзначаўся гэткай жа самай працаздольнасьцяй. У Выдавецтве гэтыя дзьве высокія й худыя фігуры заўсёды можна было знайсьці схіліўшыся над цэлай гарою рукапісаў і кніжак. Дапаўняла іх Ванда Лявіцкая, дачка ведамага беларускага пісьменьніка Лявіцкага (пісаў пад псэўдонімам Ядвігін Ш.). Пад кіраўніцтвам гэтай тройкі знаходзілася й беларуская кнігарня: беларускую літаратуру там заўсёды можна было атрымаць у якойхаця колькасьці.

---

* Тут і далей новы стыль.

** Вольная Беларусь. 1918, № 18, 19 мая.

Аднойчы я, хочучы атрымаць беларускую літаратуру, зайшоўся ў Выдавецтва. Усю тройку засьпеў пры працы. Перш я нават сумеўся, ці варта адрываць іх ад працы сваймі малаважнымі справамі, тым больш, што буду мець дачыненьне і з старшынём Рады Беларускай Народнай Рэспублікі і з ведамым паэтам. Але якое-ж было маё вялікае зьдзіўленьне, калі яны, убачыўшы мяне, прынялі з такой сардэчнасьцяй і простасьцяй, што я проста быў расчулены. Увечары таго-ж самага дня я бачыў гэтага добрага й простага чалавека на становішчы старшыні Беларускага Парлямэнту. Сапраўды цікавая метамарфоза: з простага, культурнага работніка ўдзень — у паважнага дзяржаўнага кіраўніка ўвечары!

Калі цяпер падумаць, што гэты чалавек, які так бескарысьліва ўлажыў гэтулькі працы ў беларускую справу і зьгінуў у бальшавіцкай катоўні толькі за тое, што шчыра любіў сваю Бацькаўшчыну й свой народ, дык сапраўды пацьвярджаецца філёзафічная заўвага, што вялікая ідэя вымагае й вялікіх ахвяр»*.

Немцы не вельмі прыязна ставяцца да беларускай палітычнай чыннасці, але выхаду «Вольнай Беларусі» не замінаюць: іх мала турбуе літаратурны беларускі тыднёвік. Няма асаблівых перашкодаў і ў культурнай, асветніцкай працы. Лёсік адчувае гэта і максімальна скарыстоўвае сітуацыю. Пасля ўздыму 1917 г. ён разумее, што адным прыступам справу не вырашыць: патрэбна нацыянальнае абуджэнне народу, шырокая асветніцкая дзейнасць.

Нямецкая акупацыя доўжыцца, аднак, нядоўга. У пачатку снежня 1918 г. у Мінск прыходзіць новы «хозяин». Бальшавікі хутка наводзяць свой парадак: разагнаны ўрад БНР і яе ўстановы, радаўцы абвешчаны па-за законам, і іх шукае «чрезвычайка». Разграблена Беларуская кнігарня і рэдакцыя «Вольнай Беларусі», што месціліся тады па Захараўскай, 18. Апошні нумар газеты (39—40) выйшаў 20 лістапада. Вось што ўспамінае Язэп Лёсік: «...бальшавіцкія грабежнікі ачысьцілі рэдакцыю да апошняй паперкі. Забралі пішучую машыну, шапірографы, рукапісы, канцэляр. паперу, пячаткі, канторскія кніжкі, рахункі, адрасы падпісчыкаў, пісьмы і г. д.

...Гдзе гэта ўсё дзелося — няма ведама. Згінуло навекі, а тым часам там шмат было рукапісаў вядомых беларускіх пісьменьнікаў, каторых ніякімі грашыма аплаціць немагчыма, бо гэта былі аутэнтыкі»**.

Доўгія гады потым усё «крамольнае», няўгоднае выкрэслівалася, выкідалася з нашага жыцця, з нашай гісторыі і культуры. Расцягваліся, паліліся ці абрасталі рознымі грыфамі архівы, дакументы, рукапісы, знішчаліся сведкі. Таму «Вольная Беларусь» Язэпа Лёсіка, яго публіцыстычная спадчына 1917—1918 г.— унікальная крыніца інфармацыі.

---

* 1918 год у Менску. Менская Газэта. 1941, № 15, 2 снежня. Пад крыпт. К.

** Беларуская кнігарня. Звон. 1919, № 9, 12 верасня. Пад псеўд. Я. Ксяневіч.

З улікам гэтага ў кнігу ўключана амаль усё, што на сённяшні дзень пашчасціла адшукаць і расшыфраваць.

Вось толькі ніколі не будзе збор твораў Я. Лёсіка поўным, нават калі немець на ўвазе публіцыстыку, што друкавалася і ацалела*. Акрамя неразгаданых, спрэчных крыптанімаў, у газетах шмат непадпісаных публікацый, кронік, аглядаў і т. п. Толькі пры поўным перавыданні «Вольнай Беларусі» можна гаварыць пра поўнае перавыданне твораў Язэпа Лёсіка за 1917—1918 гады.

*Алесь Жынкін*

---

* Страчаны нумары 37 і 38 «Вольнай Беларусі» за 1918 г. Іх няма ў бібліятэках Менска, Вільні, Масквы, С.-Пецярбурга, Кіева... Апрача таго, у кнігу не ўвайшлі наступныя публікацыі Я. Лёсіка: Выбары гласных у Мінскую гарадскую думу. Вольная Беларусь. 1917, № 13, 11 жніўня (пад крыпт. П. К.); Расійская рэспубліка. Вольная Беларусь. 1917, № 21, 29 верасня (пад крыпт. Я. Л.); Хто такія бальшавікі? Вольная Беларусь. 1917, № 29, 14 лістапада (пад крыпт. Я. Л.).

# ЛІТАРАТУРНЫЯ ТВОРЫ

*...Беларусь, Беларусь!*
*Агнём імя тваё мне гарыць,*
*З песні ласкаю маткі нясецца,*
*Ясным слонцам у размове стаіць*
*І грымотай у гнеў раздаецца.*
*Бачу смуклую постаць тваю,*
*Як абраз усялюдскай пакуты...*
*Табе песні складаю, вяршую, пяю —*
*К табе сэрцам навекі прыкуты...*

Сібір, 1914 г.

# *Рабы Міхась Крэчка, што быў за суддзю*

(Маленькая гісторыя
памяці Гіполіка Малчановіча з Івянца)

## I

Я як бы ведаў, што вы пацікавіцеся, адкуль наш суддзя, хто яго бацькі, ці мае ён жонку, ці вялікія дзеткі, ці добрыя ў яго суседзі, дык і пачынаю сваю гісторыю з канца.

Міхась Крэчка, як усе добрыя людзі, жыве ў Пустоўскай воласці. А калі запытаеце, дзе гэта Пустоўская воласць, то я вам параджу вельмі далёка не шукаць гэтага мейсца — яно саўсім блізка каля вас: ідзіце ўсё прама і як толькі спаткаеце многа сабак, а вуліцы крыж-накрыж, то вы ўжо і прыйшлі ў Пустоўку. А калі сабака рване вас за ікру або палатае сярмяжыну і ўсім целам сядзеце ў яміну, так і ведайце, што гэта ўжо бацькаўшчына Міхася Крэчкі. А калі да вас падойдзе карчмар і, скрывіўшы плечы, пакліча ў шынок, то ўжо лічыце сябе ў доме Крэчкі. Цяпер мне здаецца, што дарогу ў Пустоўку добра ведаеце і не заблудзіцеся: ідзіце ўсё прама і глядзіце найбольш у зямлю і па бакох, каб не было з вамі якога злога выпадку.

А далей, мусі, трэба вас пазнаёміць і з самымі пустоўцамі. Людзі гэта някепскія: аруць, сеюць, носяць сярмягі і робяць усё, чаго іх бацькі навучылі, але калі другі, барані Божа, вымкнецца ў чым ды спракудзіцца, то гэткага доўга памятаюць, ды і сваім дзеткам нават раскажуць:

— ... вот быў Ігнась разумны і папаўся...

Але не думайце, што ў Пустоўцы няма людзей з мазгамі. Ого! Тут ёсць такія, што па кусочках разгледзяць, разбяруць вас, а пасля скажуць: «Даруй, Божа, нам нашы грахі...» І ўсё ж у Пустоўцы ніхто двух вякоў не жыве, а пакуль стаіць свет, кажуць яны, і ёсць гарэлка, а суды судзяць, то і піць трэба. «З панам, з ксяндзом піць не будзеш, а са сваім братам суддзёй як не выпіць?! Кепска, добра судзіў — усё роўна — пі, пакуль не паваліўся, і годзе!»

Усялякія людзі бываюць у Пустоўскай воласці. Адзін,

як вып'е лішнюю чарку, пачынае плакаць, як бацьку пахаваўшы, а жонкі і дзяцей ні на вочы не пускае і б'е, калі пападуцца пад руку. Другі — лезе цалавацца і — каб білі яго — усё роўна лезе. «Бі, ну, бі,— прычэпіцца ён да чалавека,— а ўсё ж такі дай пацалуемся!» Вельмі дрэнна на сходах з гэткімі людзьмі: крычаць — ажно горлы трашчаць, а толку ніякага.

Наш пісар — вялікая галава; ён кажа, што мужыку трэба найбольш маўчаць, бо галава ў яго сядзіць так сабе, а ўвесь фундамент у руках! Людзей, што на сходах аказваюцца, называе проста «крыкунамі» і саўсім іх не любіць. Як бывае ў добрым гумары, ён гэтак кажа: «Каб уся грамада была, як тыя крыкуны, то перш за ўсіх яму, пісару, трэба было б уцякаць з гэтага свету, а пасля і ўсім добрым людзям. Убачылі б тады крыкуны, як жыць без пісара, і ўсе б жывымі ў зямлю палезлі». Але не ўсе ж на адзін капыл роблены. Пісар не нацешыцца з тых людзей, што на сходах другіх слоў не маюць, як «але, паночку», «гэтак трэба», «сагласны, усе сагласны». Добрыя гэта людзі: патаўкуцца, паціскаюцца пасля сходу і ідуць сабе дамоў, калі і нічога пісар не даў на гарэлку,— не то, што «крыкуны». Бывае, прыстане другі: «Дай пан на гарэлку, яй-Богу дай». Пасадзіш яго за рашотку — ён пасядзіць і зноў просіць: «Дай, паночку, дай хоць на чарачку». Дасі яму адчэпнага, і ўсё добра. І гаспадар ты, пісар, як ёсць над усімі ў воласці. Старшыню, старасту, суддзю — усё ты сам выбіраеш. Ведама, «крыкуны» мала дзе патрэбны, а ціхага чалавека чаму не ўзяць для службы: гэткі, брат, што не падложыш — падпіша. Шкоды ад яго нікому не будзе, а што вып'е — яму на здароўе.

## II

Калі падышоў час выбару суддзі, усе сходзіліся на тым, што не будзе ніякай бяды, абраўшы Міхася Крэчку. Нават мала крычалі, бо пісар, ведаючы ўсегдашнюю прыказку Крэчкі — «язык да дабра не даводзіць», зараз жа прыгаварам зацвердзіў выбары.

І прычапіўшы медаль, Крэчка не зафанабэрыўся: спаў на печы і еў разам з жонкаю і пастухом. У апратцы ўсё засталося старое, адно новыя завяліся боты, што абуваў на суды. Ніколі ён не хваліўся, як другія яго калегі: «мы прысяжныя, мы прысяжныя», а быў добрым хлопцам і браў,

што давалі, без усялякай спрэчкі. Ён не быў гэткім мудрым, як сам прадсядацель суда, каторы прыдумаў цацку з дзірачкай. Прадсядацель лічыўся не абы-якім чалавекам: Бога баяўся, спаўняў прысягу. «Усё трэба рабіць па хворме,— казаў ён,— Божэ барані, калі рука мая возьме грош, суд — святая рэч». Але ўсім было ведама, што ў прадсядацеля ёсць у стале скрыначка з дзірачкай, і калі ў яе кінуць што, то пэўна нідзе не прападзе, апрача кішэні прадсядацеля. Хто гэтага спосабу не ведаў і прама саваўся з грашыма да прадсядацеля, ён ад яго ўцякаў з хаты, а ўжо жонка адкрывала сакрэт, што прысяжны не бярэ, а калі чалавек мае што, то можа кінуць у скрыначку — і грэху не будзе, і дзела споўніцца.

Наш Крэчка, як ведама, быў добрым хлопцам, але як зрабілі яго начальнікам, то Пранузя, яго жонка, цяжка ўздыхуўшы, сказала:

— ...Глядзі ты, Міхась, ну!

У яе недакончанай думцы так і чулася нейкая бяда. Але хто слухае бабы? Смяяўся і Міхась са сваёй кабеты. У судзе ён убачыў, што дзела не саўсім проста: яго сябры без гімароў кроку не зробяць, ды і земскі нос суне ў мужыцкія справы і цісне суд. Адна бяда. Сядзі ўвесь дзень без падмоскі — аж галава круціцца.

Дзякуй Богу, халера пайшла і такі выйшаў прыказ: «Халоднай вады не піць». Тады пажылі. На судах стаяў самавар, як бы з пераваранай вадой, а налівалі яго спірытусам. Адзін раз сядзеў на судзе земскі, а наш галава-прадсядацель звяртаецца да яго і кажа:

— Вашэскародзіе, ці можна напіцца?

— Кіпячонай вады?

— Так точна.

— Ідзі,— кажа,— гэта можна.

Пацягнуў ён, а за ім і ўсе мы.

І рэвізіі гэта — абрыда... А па-нашаму, самы большы фэлер, калі прадсядацель гарэлку з півам мяшае — ну, але, бо мала вып'е і ўп'ецца.

## III

Службу сваю выпаўняў Крэчка, як зносіла яго галава. Глядзеў ён аднаго, каб як-небудзь ад таварышоў не адстаць, да рабіць, што яны робяць. Гэтак служачы, мы ўжо думалі, што да самай смерці не расстацца Крэчцы са сваім

суддзёвым медалям, але выйшла саўсім іначай і гэтак, як, мусі, жонка Пранууся спадзявалася. Ды яшчэ як! Згубіў чалавек не аднаго сябе, а ўвесь Пустоўскі валасны суд. Гэта было, як усе пустоўскія суддзі за мястэчкам у гаі гулялі «лета». Усё б добра абышлося, каб не адна бяда. Нялёгкае якраз прынясло ў гай і земскага. Ходзіць ён памаленьку па лесе, чуць ногі цягне, і, якраз, нічога не ведаючы, ідзе на тое месца, дзе сябры, зарабіўшы на судзе грошы, гуляюць. Ён бы найшоў на самую бяседу, каб не прадсядацель, каторы адлучыўся на бок. Убач прадсядацель земскага перад пачаткам выпіўкі, ён бы не скеміў, што рабіць у гэткім страшным часе і, як акамянелы, стаў бы, пакуль земскі не ўзяў бы за вуха і не адвёў бы за рашотку, але цяпер ён зразу рвануўся з месца і, як страла, паляцеў да падводы. Усе кінуліся за ім і, штоўхаючы адзін другога, як-небудзь паўлазілі на воз; адзін толькі Крэчка, найгорш спалоханы, як непрытомны, круціўся каля калёс і ад страху ніяк не мог сесці. Сабраўшы апошнія сілы, ён гэтак скакануў, што, не зачапіўшы пятамі ваза, пераляцеў на другі бок фурманкі, а сябры яго, думаючы, што ўсе на возе, маланкай панясліся ад благога месца. Тым часам выйшаў земскі на дарогу, а там і Крэчка...

Цяпер можаце дагадацца, які быў канец: злосны земскі ў тры мігі раскасаваў увесь пустоўскі суд.

І што ж вы думалі?

Ізноў наш Міхась Крэчка, катораму ўсміхнулася доля і абула ў боты, надзеў пракавечныя лапці і па-стараму топае на сходзе перад панам пісарам, дабіваючыся чаркі гарэлкі.

# Гэркулес і селянін.

*(Даўнейшая грэцкая казка).*

Селянін ўграз з возам у балоці. Як ня біў ён свайго каня, як не катаваў яго, але воз ні з мейсца!

Што тут рабіць?!

У вялікай турбоці, звярнуўся ён з малітвай да Гэркулеса:

— Божухна мой, моцны Гэркулесе! Ты дужы і табе лёгка выратаваць мяне. Памажы, злітуйся!..

І пачуўся голас с хмары:

— Я памагу табе, бедачэ, толькі ты павінен слухаць мяне.

— Кажы, Божухна, слухаю!

— Перш-на-перш вось што: ачысьці гразь с кол... Цяпер — выймі рэмень с пад кол, засып і зараўнуй каўдобіны.

Селянін зрабіў усё. што загадаў Гэркулес.

— А цяпер і я табе памагу,—сказаў Гэркулес: бяры лейцы у рукі ды гукні на каня.

Селянін падняў лейцы, гукнуў і—не агледзіўся, як конь лёгка і ёмка вывез воз з гразі.

— Дык вот-жэ дзякуй!—гукнуў у неба селянін.

— Дык вот-жэ дурэнь!—атказаў яму Гэркулес.

**Я. Лёсік.**



## «Не ўсе ж разам, ягамосці!..»

### I

Дзеля прынады ў карчму людзей, а мо і дзеля сваей уласнай уцехі трымаў шынкар заморскую птушку, папугая. Клетку з птушкай пачапіў ён пад столлю, якраз каля тае шафы, дзе стаялі ўсялякія пляшкі з гарэлкаю. Падчас гарачавата крыху дый нават чадна было пад столлю, дык затое не халодна і супакойна. Але не гэта меў на ўвазе шынкар, як вешаў так клетку. Ён ведаў натуру папугая, робячы гэтак, меркаваўся з тым, каб яму зручней было бачыць, што дзеелася ў карчме. З гэтага боку лепшага месца нельга знайсці, і папугай добра разумеў выгаду сваёй «пасады». Дык ён часу дарэмна не бавіў, але пільна ўсім цікавіўся, шчыльна да ўсяго прыглядаўся, і нічагутка не магло выслізнуць ад яго прагавітага вока. Сачыў ён гэтак шчыра ды сумленна, што іншы раз — не трэба таіцца — не пад густ прыходзілася самому шынкару. Трапіцца там штоколечы прыкупіць тайна або, напрыклад, закрасіць гарэлку вадой, дык хоць ты да склепу хавайся: утаропіцца, бестыя, як немаведама на што. Яно, ёсць ведама, птушка — не чалавечае вока,— бачыць, але не скажа, а ўсё ж неяк нядобра робіцца, калі дужа прызіраецца ды назаляецца: здаецца, пакруціць галавою ды скажа: «Ну і шэльма ты, Моўша». А Моўша — што Моўша? Моўша надзіва чалавек сумленны! Круцельства, ашуканства альбо якога шальмоўства ні разочку ніхто ад яго не бачыў. Ён і з простым чалавекам, як з панам, заўсёды прыветны, ласкавы; усім паслугуе, наровіць усім роўна дагадзіць і заўсёды чалавеку раду падасць. Няхай людзі скажуць, калі сказаў ён што кепскае каму ці зрабіў якую прыкрасць каму, а калі трошкі разводзіў гарэлку, дык — вада ж не атрута, дый рабілася гэта, спагадаючы людзям, дзеля іх жа ўласнае карысці: і больш вып'юць, і не прудка ўп'юцца. А колькі ён дабра людзям зрабіў — дык, каб яму гэтулькі рублёў, даўно б, пэўна, карчмарства пакінуў... Вунь Шлёма — крыжам расцягніся,— ані на грош нічога напавер не дасць...

Але папугай, як і людзі, і нічога не казаў, а толькі цікаваў. Гэткім чынам не ў доўгі час ён з усім чыста азнаёміўся, спазнаўся і ўсё чыста ўкеміў, што датычыла гаманлівага карчомнага жыцця, яго нораву і цікавых звычаеў. Урэшце стаў, падла, пазнаваць у твар карчомных «жыхароў» ды налажыўся «дзень добры» даваць і кожнага

клікаць па імені і па прозвішчу. Скончылася тым, што яму ўжо не трэба было турбаваць вачэй, каб даведацца, што першы зранку, як толькі адчыняцца дзверы, уходзіць ваўкалаты Сёмка. Сёмка пастаянна без вопраткі, у шарачковых, з чырвонымі латамі на каленях, портках і ў чорнай, як зямля, зрэбнай кашулі. Шапка на ём бадай ці не кожны дзень была іншая, але заўсёды — улетку зімовая, а ўзімку летняя.

Цікавасць брала папугая, дзе ён іх даставаў? Ці не краў, як часам даводзілася і яму, калі што кепска ляжала або здавалася занадта прынадным?.. З зубоў у Сёмкі заўсёды стырчала даўжэзная, накшталт кульбакі, люлька. Яна вымалася з губы ласне ў той момант, як трэба было высмаркацца або выпіць чарку гарэлкі, бо ён спаў з ёю ў зубах, заліхвацкі ўмеў пляваць, не вымаўшы люлькі, адкапыліўшы лупу, і калі не брахалі, дык аднакраць, на хаўтурах сваёй жонкі, прыпёрся ў царкву, пыхкаючы з яе, як з кадзіла. Колькі часу назад папугай прыкмеціў, што раней меў Сёмка іншую люльку. Тая, як ён памятае, была невялічкая ды з маленькім, як у імбрычку, рыльцам, касцяным цыбуком. Зваў яе Сёмка «гарнушкам». Забрамны маскаль шкіліў, што той «гарнушак» Сёмка страціў у бойцы з туркам. Шкада гнявіць, але нічога не зробіш; прыйшлося дарэчы, дык трэба, мусі, сказаць, з якім гэта туркам была бойка ў Сёмкі. Няхай ласкава выбачае; сам, здароў, ведае, што з песні, кажуць, слова не выкінеш.

Страх, як не любіў Сёмка сварыцца і да таго здарэння хваліўся нават, што і завядзення таго не мае, каб лаяцца з Антоляю. Дзе там! Спрэчак, гневу жаднюткага ў іх не траплялася, хоць спытайце ў людзей. Але не брэшуць, мусі, людзі, калі кажуць: май ды не выхваляйся. Вось зухаўства гэта і ўздрантавала чорта; дзеля таго ён і прыстаўлены, каб зводзіць добрых людзей на сваркі ды на бойкі. Не чорт, кажа — не. Дык хто ж гэта назвадыяшыў, хто ж, як не чорт, адвярнуў розум ды засланіў яму вочы? Нешта думаеце, што сам ён завёўся? Дык ён памятаў бы, як гэта і за што пачалося, а то, хоць забі, нічагутка не ведае. Памятае толькі, што нябожчыца, ухапіўшы з качарэжніку чапялу, як шалёная, рынулася на яго, калі ён выбіваў аб стол попел з «гарнушка». Ведама, выцяць сябе ён не даўся; чапялу адабраў ды шпурнуў пад лаву. Тады Антоля ўляпілася аберуч за валасы, а не здолеўшы пакаціць, вырвала з зубоў люльку ды ўмомант здрабязіла яе таўкачом на калодцы на малюсенькія друзгі.

— Ось як табе, булава, памятай! — засопшыся, як мех,

крычала яна, паказваючы пальцам на чара́пкі ад «гарнушка». Слова на гэта не прамовіў Сёмка; пайшоў ды маўчком лёг на тапчане. Мо брыдка было ў вочы людзям паказацца ці надта ўжо зазлаваў ён на жонку — няведама, а толькі тры дні нікуды не сходзіў з тапчана. Спалохалася Антоля ды кінулася шукаць рады. Святым Духам надало ёй забегчы да Чылінавае Пранцэлі. Тая паслухала, пабедавала ды, дзякуй ёй, нараіла: «Купі, нябога, новую люльку: ці не паможэ?» Дык не йсці ж блізкі свет дзеля люлькі на рынак?! Яна абегала ўсю вёску і нейдзе-такі расстаралася. Не самавітая гэта была люлька, шчарбатая, без цыбука і без вечка, але зрабіла цуда: Сёмка ўстаў. Ён зараз жа вышмаргнуў з-за пояса капшук, набіў люльку, прыціснуў крыху кіпцем, каб не сыпалася табака; Антоля выгарнула ды падала яму вугаль, а ён, прыпаліўшы, аддаў назад вугаль ды задыміў, як з коміна, трымаючы люльку ў жмені. Антолі і яму, абаім, мусіць, адлягло і пасвятлела ўваччу, бо хутка пачалася лагодная размова.

— Мо б ты, мой саколік, капустачкі або скварачку з'еў? — ласкава пыталася Антоля, лісліва зазіраючы яму ў вочы.

— Дык дай, калі ёсць,— казаў Сёмка, сядаючы за стол.

Узіму на вячорках, каб чым-колечы аддзякаваць Сёмку за тое, што заўсёды ахвотна і лэпска бубніў на ігрышчах, хлопцы высмалілі яму цыбук даўжынёю з локаць. Яны спадзяваліся, што ён адрэжа колькі трэба на звычайны цыбук, а рэшту схавае на ўсялякае здарэнне. Але Сёмка паглядзеў на справу з другога боку: каб не псаваць, дык ён цалікам насадзіў яго на люльку.

Вось гэтым цыбуком, калі не было чаго рабіць, Сёмка меў звычай штурхаць пад бок папугая, і папугай добра ведаў, што канец яго абсуслены і слізкі, так што дужа непрыемна робіцца.

Хоць і крычаў папугай «дзень добры, Сёмка», але той не звяртаў на гэта ўвагі: абрыдла бо штодня здароўкацца з птушкаю. Ці ён, няхай Бог крые, блазан які, або што, каб патураць усякаму глупству?! Ды агульна Сёмка быў негаваркі чалавек. Ён моўчкі садзіўся за доўгі карчомны стол, аблегаўся ды нешта, мусі, рахаваў. Потым азіраўся, мармытаў, пазяхаючы, ды раптам, грукнуўшы кулакамі, сіпата гукаў праз цыбук:

— Моўша, паўкварты!

Атрымаўшы гарэлку, не спяшаўся з ёю, але спаважна, мяркоўна, як газу, наліваў у чарку, скрыва, быццам на

нешта цудоўнае, паглядаў на яе, а ўжо потым, мэрам рыхтуючыся лічыць зоры, задзіраў галаву ды не піў, а, заплюшчыўшы вочы, выліваў сабе чарку ў губу. Пазіраючы збоку, здавалася, што заміж гарэлкі Сёмка праглынуў кілішак воцату, бо так крактаў і крывіўся, што аж млосна рабілася глядзець. Затым, абмацаўшы на стале шчыпту хлеба, падносіў яго пад нос ды, нюхнуўшы разоў колькі, казаў, выціраючы рукавом вусы:

— Ядавітая, падла! Брр — э!..

Яшчэ, бывала, не ўправіцца ён наліць другую, як зараз нехта загрукаціць на ганку. А папугай ўжо пэвен, што гэта не хто іншы, як бязногі Карусь Ратуй... І тож хітрушчы быў гэты папугай! Крый Божа, каб ён памыліўся ды абазваў Каруся Ратуем. Спанатрыў, што гэта мянушка, а не прозвішча. Не раз бо яму даводзілася бачыць, як бязногі пёрся да бойкі, калі хто, не ўсцярогшыся, аклікаў яго гэтак: «Я табе нос падатру! — крычаў тады бязногі, замахнуўшыся кульбаю.— Ты ў мяне язык прыкусіш, нябось!» — Знаў папугай, за што й прадражнілі Каруся Ратуем. Вось як, разгаварыўшыся, апавядаў Сёмка.

Неяк апоўначы, крыху, мусі, пад чаркаю, немач яго ці якое ліха прымусіла несці смольны корч дадому. Папацёмку чэрці яго насунулі на студню. Зруб яму прыдаўся парканам, а «баба» — шулай каля хаты. Не разгледзеўшы, падняў ён, як звычайна, нагу ды цвёрдаю ступою стаў, ведама, пералазіць, але трапіў не да сябе на двор, а ... на дно студні. «Ратуй! — залямантаваў ён на ўсю вёску.— Хто ў Бога верыць, ратуй!» На гвалт пазбягаліся людзі з кіямі, з ліхтарамі, з качэргамі. Угледзь гэта з калодзязі і Карусь, дык ён абамлеў бы са спалоху. Біць не давялося нікога, а Каруся выратавалі. Ён паламаў сабе ногі, расквасіў нос і патыліцу, а назаўтра не далічыўся чатырох пярэдніх зубоў. Дзеля гэтага,— дадаваў апавядаўца,— загадалі абгарадзіць калодзезі па вёсках.

«Ратуй» заўсягды ахвотна вітаўся з папугаем і за кожным разам трымаў за пазухай нешта ласае для яго. Ухмыляючыся на ўсю бяззубую губу, ён падходзіў да клеткі, даставаў гасцінца ды, задраўшы галаву, прамаўляў:

— На вось, схрумстай, крываносы!

І Карусь надта спадабаўся папугаю, хоць сам добра не ведаў папугай, за што больш: за прысмакі ці за яго вясёлую натуру. Вельмі ж бо здаўся Ратуй на ўсялякія шкілярствы. Ён ні кроплі не быў падобен на Сёмку: як прыйдзе, не сядзе, не будзе маўчаць. Курыў, праўда, і ён люльку, але

змерна і ніколі не меў нораву штурхацца, як Сёмка, сваім цыбуком. Не, Карусь саўсім другі чалавек. Ніхто ў карчме не патрапіць гэтак здатна і смешна паскакаць ці паспяваць, як бязногі Ратуй! Досыць яму, напрыклад, праглынуць чаркі са дзве, дык ён ужо не ўрымсціць на месцы. Зараз выходзе на сярэдзіну, шпурае зямлю кульбаю, на якую досі апіраўся, бярэцца ў бокі, дый пачынае вычвараць, як той камедыянт:

Дзяўчыначка чарнаброва
Паехала ў лес па дровы,
Зачапілася за пень,
Прастаяла цэлы дзень.
Каб не тыя кавалеры,
Прастаяла б дзве нядзелі.

Трэба было самому бачыць, як ён зграбна выробляў пад песню ўсялякія выкрунтасы. Падарвешся, бывала, з рогату, пазіраючы, як ён пачне яшчэ ківаць, падміргіваць ды на ўсе лады майстраваць сваімі кульбамі па падлозе... На што ўжо сур'ёзны быў Сёмка, а і ўтрымацца не мог: глянуўшы на гэтыя штукарствы, сцінаў зубы, аж цыбук трашчаў, трос галавою, а потым браў чарку ў рукі, бразгаў ёю аб паўпляшкі ды перацінаў у тахту:

Вой ты Тодар, я Тадора,
Та-бе ла-паць, мне а-бо-ра.

А Ратуй, кінуўшы сваё, пачынаў затым утураваць яму:

Вой скачыце, майткі мое,
Бо ёсць дома яшчэ трое...

Пад гэту камедыю падыходзіла яшчэ колькі вясковых ягамосцяў, а сярод іх добра знаёмы папугаю Пранцісь Канцавы. Толькі не шэнціла Пранцісю: не доўга ён бавіўся ў карчме. Забягаў ён сюды, як сам казаў, на часінку, на адну хвіліначку, але й тая не праходзіла спакойна, бо хутка чэрці прыносілі Тэклю. Заўсёды, каб яна згарэла, неўспадзеўкі Пранцісю, як віхрам расчыняліся дзверы і на парозе, маўляў, у люстэрцы, з'яўлялася постаць аспідкі-жонкі. Скаштаваў ад яе Пранцісь гора, пазнаў — няхай ёй калом зямля — пачом хунт ліха! Ведаў ён, чымсьці гэткая з'ява пахне, але сядзеў ужо, нібыта не ён, жмурыўся ды чакаў. Вось гэтак пачувае сябе той, хто рынуўся спотырч галавою ў ваду й не чакае сабе ратунку... А Тэкля, схаваўшы пад хвартух мяшалку (яна заўсёды, мусі, свінням мяшала, бо заўсёды, як торкнецца Пранціся, і мяшалка, і хвартух,

і нават канец носа былі аброблены ў муцэ), на момант супынялася на парозе ды хістала галавою, мэрам гатуючыся заспяваць: «Чалавечэ-гаспадару, а што ж ты тут робіш? Дома жонка, дзеткі голы, а ты ў карчму ходзіш!» Ды не ў галаве Тэклі спевы, не дзеля гэтага сюды прымчалася, рынуўшы хату! Яна акідала злосным вокам карчму ды выглядала Пранціся. Згледзеўшы, што той, прытуліўшыся, сядзеў ціхутка дзе-небудзь у куточку, яна куляю, як ястраб на курыцу, шыбалася на гаротнага гаспадара.

— Зноў піць, каб ты смалы напіўся! — верашчала яна на Пранціся ды так спрытна штоўхала мяшалкай яго карк, што небарака вокам не паспее міргнуць, як заскародзіць носам па ганку... Рогат бразгаціць па карчме, а Тэкля ўжо галасіла на вуліцы:

— Я й туды, я й сюды — дзе Пранцісь, дзе Пранцісь? Ажно ён у карчме!..

— Дык я ж на часінку. Хіба...— прабуе мяльнуць губою Пранцісь.

— Маўчы ўжо ты!..

## II

Самая пацеха пачыналася не ў будзённы дзень, а ў нядзелю або ў якое свята. Тады кожын чалавек мае вольны час і кожын рупіцца праводзіць яго як найлепей і весялей. У святы дзень чалавек паконча рахавацца з варункамі будзённага жыцця, мае спраможнасць рабіць тое, што яму падабаецца, павэдлуг свайго нораву і густу. Дзеля гэтага ў карчму пачынаюць збірацца яшчэ досвіта, чуць золак, як толькі жонкі завінуцца каля печы. Недарма ж у песні спяваецца: «Устане рана, не хрысціцца, моў, не памятае; устане рана, не моліцца — да карчмы дыбае». Гаспадыня, шапочучы пацеры, гатуецца пячы бліны, смажыць верашчаку, а гаспадар нашча падаецца ў карчму. У карчме, кінуўшы агульнае «дзень добры», кожын сам сабе шукае месца. Хто захваціцца раней, дык займае лепшае, пачэснае, за сталом, на лаве ці зэдліку; а хто спозніцца, калі там саўсім патоўпіцца нельга, дык садзіцца на парозе ці проста ў куточку на падлозе, абы «не замінаць вельмі». Размасціўшыся, як каму давялося, кураць люлькі, зажываюць табаку, частуюцца тутуном сваёй гадоўлі, хваляць добры, ганяць кепскі, а часам і заспрачаюцца на гэтым грунце.

— Слухаць не хочу! — трасе галавою дзядзька.— Хіба

гэта тутун? Гэта — капуснік, а не тутун! Запробуй майго: уся хата чхае, як крышыць пачынаю! Жонка кажа, не трэба лепшага лякарства ад катару...

— Дарма,— не згоджваецца другі,— у нос то ён б'е, але смаку, як следна, не мае, дый пяршыць, дзярэ ў горле...

— Ат, вярзе чалавек, ажно слухаць моташна! Базыль,— звяртаецца ён да другога,— ты курыў! Няўжо ж і ты скажаш...

Але Базыль не слухае, і спрэчка хутка канчаецца. Збоку пачалі размову пра чуткі, здарэнні, пра кірмаш...

— Ця-пер і Клецак, і Капыль саўсім заняпалі: казы добрае не то што купіць не патрапіш! А даўней, яшчэ за маю памяць,— вядзе сівы, с пажоўклымі ад табакі вусамі, дзед,— дык, можа, на ўсём свеце гэткага кірмашу не было... Або вось Мір...

— Дык гібее народ, няма чаго казаць! Я сам памятаю, як у нас зямлі не хацелі браць,— падаткаў, ці што, баяліся; пашы тае колькі было, быдла!.. А цяпер зямля гэтага не родзіць. Я летась — дзе на навозах — насення не сабраў!..

— Галеюць людзі дазвання,— дадае трэці,— розуму не дабярэш, што гэта будзе, як далей жыць давядзецца! Мэрам усё нешта вернецца, руйнуецца і разваліцца не можа. Страхоцце, ды годзе! У газетах вунь...

Гэта ўсё злучаецца ў агульнай гутарцы пра сучаснае становішча, пра грамадзянскія справы, пра суседскія стасункі. Кожын бажае выказаць свае думкі, паслухаць людзей, прапытацца пра тое, што робіцца на свеце. У другі дзень некалі — за працаю свету не бачыш — дык на свята назбярэцца ці мала справункаў, аб якіх «трэ конча парадзіцца з суседам». Дык людзі гамоняць, бядуюць, уздыхаюць, жартуюць, смяюцца. Тым часам адзін выходзіць, другі прыходзіць, і каля карчмы людзі, як каля вулля пчолы, цалюткі дзень то ўзад, то ўперад пахаджаюць. Беспераста нку бразгае клямка, скрыгаюць завесы, стукаюць дзверы. Пад паўдня натоўпіцца паўнютка карчма, не раўнуючы, як на Вялікдзень у царкву: ані прайсці, ані прашыцца. Часам, як пашле матка хлопчыка па бацьку, дык той наўперад ужо ведае, што лезці ўсярэдзіну — няхай яго агні спаляць — бацькі не знойдзеш, ногі адтопчуць, а назад не выкарабкаешся. А то яшчэ трапіш на Сёмку, дык не палянуецца, гад, вушы выдзерці або «квасу даць». Зараз, каб ён спрогся, запыніць:

— Чакай-чакай, жэўжык! Сербані,— скажа,— кваску на дарогу.

Уцякай, калі ногі маеш, а то ўлепіцца, трасца яго галаве, за лоб дый пачне круціць, як шэйну*-катарынку, прымаўляючы: «Ішоў чынорык цераз панскі дворык, згубіў сякерку й тапорык... Ці рог, ці качан?» Крывішся, ведама, ад болю, абмылішся ды як скажаш: качан,— дык ён: «Я йзнова пачаў: ішоў чынорык цераз панскі дворык...» Круціць, недаверак, аж покі не схамянешся сказаць: рог. Тады ўжо, тузянуўшы апошні раз, аж слёзы з вачэй пакоцяцца, скажа: «Ідзі, леўка, за парог!..» Уцякай, не азірайся, а то яшчэ пстрычак надае: гэта ён арэхі, моў, лушча. На вуліцы — трасцу б ён дагнаў, а тут — куды ж ты ўцячэш?! Дык каб абмінуць гэтае ліха, хлапчына мяркуе ўскарабкацца на бочку, каторая заўсёды стаяла каля дзвярэй; а калі на ёй знайшоў сабе прыпынак дзядзька або й два, дык ушчэпіцца на дзверы, а ўжо адтуль гукае, быццам дзе ў лесе, у гушчарне:

— Тата, дзе ты?

— Га, сынку!

— Ідзі, татка, дадому палуднаваць.

Іншы раз і даклічашся, асабліва калі бацька яшчэ не вельмі выпіўшы. Тады ён прапіхаецца, падходзіць, чырвоны, як з лазні, да сына, ухмыляецца ва ўсю шчаку, знімае яго з дзвярэй ды кажа:

— А мой каток, мой памочнічак! Тату прыйшоў клікаць? Дай жа бусі тату — баню дам.

Ухапіўшы аберуч кручаны абаранак, каторы бацька выняў з кішэні, сынок і памкнецца даць бусі, але як зачуе з рота ў бацькі сморад гарэлкі, дык толькі нагамі задрыгае: пусці, моў,— не хочу!..

— Смярдзіць? — пытае той.— Ну, ідзі, ідзі!.. Ох, сынок, сынок! Ты ж думаеш, піў бы яе, каб людскае жыццё наша? Хай бы яе высмаліла, гэту згубу нашу! Маленькі ты яшчэ, нічога не цяміш. Расці, вучыся ды ўцякай адгэтуль... Але хадземо,— матка нябось прачакалася,— канчае ён, ды абое выходзяць за дзверы.

Яно размова размоваю, а кожын мае на думцы, што добраму чалавеку не павінна зашкодзіць, калі дзеля свята вып'е чарку гарэлкі. Іншы раз больш і не хацеў бы, гэтым бы, здаецца, і здаволіўся, дык як жа ты зробіш? Калі — кум стрэўся, са шваграм даўно не бачыўся, сват надыдзе, брацейнік з заработкаў вярнуўся, і — пачнеш, і пачнеш. З тым,

---

* Шэйна — нэрвовая жанчына. (Тут і далей, за выключэннем асоба агавораных выпадкаў, заўвагі ўкладальніка.)

з другім, а тым часам к змроку начастуешся, ледзве ногаеш. Яшчэ як скародзіш ботамі вуліцу, як дражніш сабакаў спрэчкамі з вугламі, дык нібы крыху памятаеш. Але якім шыхам выбраўся з карчмы, як трапіў дахаты — Бог яго ведае! Не памятаеш, хто распранаў, хто разуваў, неўпамкі, як і спаць улёгся...

А той ці іншы выпадак здарыцца з кожным можа — так не абмінеш, каб не нашлёгацца пад вечар. Тагды ў карчме ўшчухаюцца спрэчкі, звадкі, песні — такі гоман, што крый Божа! Гармідасія пойдзе, бадай ці не гэтак, а можа, й горш, як даўней у Клецку на кірмашы.

— Я яму, як добраму, а ён, трасца яго матары, і нос закапыліў!..

— Вып'емо, кумок! Бог святы ведае, ці будзем жывы заўтра. Пій да свата! Сватка!

— Годзе табе, Габрусь! Вот згінённік!

— Як-то згода?! Ён мяне зневажае, а я буду даровываць? Не дажджэ ён...

— «Я й п'яніцаю ра-дзіў-ся, я й бу-ду ў карчме і ўміраць»,— не пяе, а як не плача нехта, уткнуўшыся носам у стол.

На вуліцы курта брэша,
А да мяне Янка чэша.
Ці ты Янка, ці ты не,—
Спа-да-баў-ся ты мне,—

перацінае п'яны Ратуй, дрыгаючы кульбамі заміж музыкі.

— Моўша! Моўша, каб ты апруцянеў, дзе цябе чэрці дзержаць! Моўша!..

Моўша гасае па карчме, як на пажэжы. Пот з яго рагамі ліецца, ярмолка збілася назад і чуць ліпіць на патыліцы. Няма ўвіхнейшага шынкара за Моўшу, а і ён не ўпраўляецца ўсім настрэнчыць, за ўсім даглядзець, ды дай ты свет! Той крычыць, той гірчыць, той лае, а той, няхай яму ліха, мяркуе каўхануць знячэўку. Нарэшце — не разарвацца ж яму? — ён кідае слухаць, а толькі, як вар'ят, бліскае вачыма ды асекаецца ва ўсе бакі:

— Пачакай!.. Не ўсе ж разам, ягамосці!.. Трымайся чаргі, калі ласка!

Турбацыя Моўшы дадае шмат клопату і папугаю. Спагадаючы гаспадару, ён метушыцца па клетцы, як непрытомны, злуе, верадуе. Згледзеўшы, што колькі дзядзькоў зляпілася цалавацца, вытарачыцца на іх ды, як пуп яго не трэсне, галасуе:

— Не ўсе ж разам, ягамосці! Трымайся чаргі, калі ласка!

Але гэта б яшчэ асвяціся! Трэба жыць, трэба й патурбавацца. Захочаш есці, дык знясеш паняверку, ператрываеш і знявагу. Дарма, кажуць, і каза воўку не скача,— разумна разважае Моўша. Толькі не бачыў ён карысці, не было яму жаднага рахунку вось з тае завірухі, якую завіналі хлопцы з дзяўчатамі, справіўшы пад поўнач ігрышча. Не, не, не кажыце, з гэтым Моўша дагэтуль не хоча згадзіцца! Крўцяць, вернуць галавы, а чаго, каб хто спытаўся? Так, абы бэсціцца. Няма каму біць...

І, пачуўшы вясёлы малады рогат, ён толькі скрывіцца, як кіслага яблыка з'еўшы. «Пайшла верабінавая ноч,— махае Моўша рукою,— цяпер за якую двузлотку будуць таўчыся да трэціх пеўняў». Каб дарма не турбавацца, дык ён на гэты час кудысь саўсім знікае. Бо — няхай яго пярун спаліць — як не ўдыгай, а распустам гэтым, лабатросам не ўнаровіш, а як не трапіш пад густ, дык і па патыліцы атрымаеш. Былі здарэнні, ён не забыўся, памятае. Дый досыць з яго! Набегаўся, навярэдзіўся. Гэта не жарты! — цалюткі дзень як на спружынах: ані з'есці, ані прысесці.

Цяпер і цукеркі, і іншыя дзявочыя ласункі прадае сама Мырка, а застаецца даглядаць за ўсім адзін папугай. Лепшага вартаўнічага пашукаць трэба: вока не спусціць з таго, што творыцца ў карчме. Не першынка яму бачыць. Ігрышчы спраўляюцца амаль не кожна свята, узіму, напрыклад, але ж заўсёды яму цікава, усё роўна, як і тым дзецям, што на гэты час паўпіраюцца насамі ў шыбы, пішчаць і мітусяцца на прызбе. Дый не адны дзеці на ігрышча ідуць паглядзець, ідуць і маладзіцы, і нават старыя кабеціны. Толькі яны заходзяць у самую карчму, прыпыніўшыся дзенебудзь у куточку, навідавоку, яны падпіраюць бароды рукамі, шэпчуцца, ківаюць галовамі ды стрыгуць вачыма. Не адна ўспомніць маладыя леты і не раз уздыхае цяжка, глянуўшы на сябе і навокала...

Вось тромкнула скрыпка, разоў колькі прайшоўся па струнах цымбаліст. Ёкнула сэрца ў моладзі. Як маланкаю, асвяціўся твар у сарамлівых дзяўчат. Цясней сціснуліся ў кучку яны, часцей забілася сэрца іх. Бледнасць ірвецца прэч, і раскладваюцца вусны ў шчаслівую ўсмешку.

— Дзядзька, «Лявоніху»! — гукнуў нехта з хлопцаў і — «грай музыка, калі граеш, калі добру жонку маеш!» Не грукацяць гэтак вогіры* на стайні, як затупацелі хлопцы абцасамі. Падхапіўшы спаднічкі, распусціўшы хвартушкі

* Жарабкі.

ў пальцах, заружавеўшыся, маўляў, пурышкі на ясным сонцы,— дробна, як бобам, сыплюць дзяўчаты. Далікатна, лёгка, як птушкі, уюцца яны каля хлапцоў, не крануўшы, здаецца, чаравікам падлогі. Раз'юшаныя павабным мірганнем, даклярушчым палкім вокам дзяўчыны, ажно жахаюцца хлопцы. Той прысвісне, той зашлепча, там цокаюць, тут гокаюць, а Сёмка — даруй, Божа, цяжкі грэх — узмасціўся на стол, нахіліў да пляча бубен (трымаць, як трэба, замінала люлька) наўвоч б'е па ём цырубалкам ды падцінае:

Ляво-ні-ха дабра-дзей-ка бы-ла,
За два гро-шы сара-коў-ку дала.
Ой, Ля-во-ніха, бадай це не відаць!
Не хадзі ма-ей капу-сты ла-маць.

Нехта шапярнуў штось на вуха цымбалісту, а той, паслухаўшы, адхіліўшы ўбок галаву, нібыта знянацку сцігануў на «Мяцеліцу» ды — як урэзаў, як уцяў — дык раптам усё супынілася і замоўкла. Аж увушшу зазвінела, аж папугай прытаіўся ў клетцы, перапалоханы апанаваўшаю цішаю. Усе стаяць, чакаюць, маўчаць... Ніхто не адважыцца пачаць першы. А цымбалы звіняць, гавораць, задораць...

Ба-дай таго ка-ва-ля
Мя-це-лі-ца замяла,—

аднекуль з закутка перарэзаў цішу моцны голас Ратуя.

Што ён мя-не ма-ла-ду
Ды зма-ро-зіў на ля-ду,—

падхапілі хлопцы з дзяўчатамі, цымбалам падсекла скрыпка, загрымеў бубен і — ўмомант усё віхрам завалтузілася. Звіняць бутэлькі ў шафе, вокны бразгацяць, пыл курыцца,— карчма ходырам пайшла! Усё збэрсалася, зблыталася ў клубок мітусіны. Не чуваць, не відаць нічога, адна лямпа мігціцца, як воўчае вока ўночы...

— Ці не звар'яцелі яны?! — думае папугай і ва ўсё горла лямантуе: — Не ўсе ж разам, ягамосці! Трымайся чаргі, калі ласка!

### III

Някепска жылося папугаю: не самотна і не маркотна. Спадабалася яму карчомнае жыццё з яго гульнямі, ігрышчамі, з тымі святочнымі сэсіямі сялян, як іх, жартуючы, называў Моўша. Густаваў ён камедыянства Ратуя, любіў і Сёмку, хоць той ніколі не песціў яго і ніколі не патураў яму. Усё гэта агулам рабіла тое, што папугай не меў ні часу, ні ахвоты марнавацца па даўнейшым жыцці, а прагавітая цікавасць да ўсяго нішчыла ўпачатку нуднае пачуццё па страчанай вольнасці. Калі часам заварушацца дзесь там, на таёмнай глыбіне яго душы, малюнкі прамінулага, калі її заманецца зірнуць на родныя абшары, дык варункі жыцця карчомнага так збэрсаюць і перакруцяць думкі аб гэтым, што здавалася: іначай, як ёсць, і быць не павінна. Потым сталася тое, што нядолю сваю ён стаў лічыць доляй звычайнаю, а гадкі пра лепшае жыццё сярод родных пушчаў — пустымі, шкадлівымі марамі. Пад гэткім нахілам невялічкая клетка яго мэрам пабольшала і паслабанела, а густыя краты перасталі замінаць і наводзіць журбу на сэрца і цяжкі смутак на душу. Нарэшце, як страціў уласную гаворку сваю ды злаўчыўся што-кольвек выгукваць пачалавечаму, дык паяднаў жыццё сваё з жыццём чужаніцы ды сумленна, павэдлуг свайго розуму і спраможнасці, стаў дбаць на карысць чужой гаспадаркі. Тагды карысць Моўшы рахаваў за сваю карысць, а асобнасць уласных інтарэсаў лічыў маруднаю і непатрэбнаю. Турбаваўся Моўша — клапаціўся ён; рад быў той, дык весела было яму. І плыў час, і жыў сабе папугай, запамятаўшы нават, што ён — птушка і што за кратамі свеціць сонца, шуміць лес, спяваюць птушкі.

Дык не пражывеш, мусі, на свеце, каб не прыдарылася жаднае прыгоды; няма, мусі, гэткага шляху, каб хібіла на ём каўдобін. Не зьлітавалася жыццё і над папугаем... Вось слухайце.

Аднакраць, раніцаю, яшчэ досвітку, трапілася Моўшу адвінуцца з карчмы на часіну. Запамятаўся ён або меўся хутка вярнуцца, ды затрымала што, а толькі дзверы знадворку не прычыніў. Папугай цяперся ўжо прачнуўся. Ён наеўся, напіўся, прычапурыўся ды шчупаўся паволі ў пер'і, чакаючы будзённых карчомных з'яваў. Знадворку патыхнула свежым прыемным паветрам. Падняў папугай галаву, зірнуў ды — шусь на ґанак, пацікаваць, што робіцца на вуліцы. Каля карчмы звычайна, як у будзённую раніцу,

нічога асаблівага не было, і папугаю, як ён і сам потым уцяміў, трэба было вярнуцца назад ды сесці ў клетку. Дык каб жа знаццё, каб жа той розум наўперад, што надыходзіць ззаду! Гэтак ужо вядзецца: пакаштуеш разок таго, што забаронена, ды потым не лёгка стрымацца, каб не паквапіцца на што-небудзь горшае і шмат шкадліўшае. Падцюкнуў чорт, закарцела і папугаю. Сперша боязна ды неяк усцішна здавалася, але жаданне навін ды прыродная памаўзлівасць пераважылі страх. Узмахнуў скрыдламі папугай ды шыбануў пацешыць вока сваё вольным светам. Упамкі яму гэта раніца, канаючы, не мог ён забыцца яе.

Шчабяталі ластаўкі на крокввах, ціўкалі верабейчыкі па гуменнях; па дварох пішчалі гусяняты, гергеталі гусі; моцна прысядаючы, кракалі качкі. Мэрам нехаця, спрасоння, рыпелі на ўсялякія лады вароты, скрыгалі весніцы і спаважна грукалі засовы. Сціху, нібы прабуючы горла, рыкала быдла, бляялі ягняты, меркаталі авечкі. Недзе здалёк заіржала жарабя, яму адклікнулася матка. Скрыпела студня, грукалі вёдры, чулася жаночая размова. Па падворку бегаў хлопчык, ляскаў пугаю па зямлі ды раз-параз выгукаў: «Быдла выганя-яй!» Вёска прачнулася, гаманіла, гула, як вулей з пчоламі пад час раення.

Папугай імчаўся далей, за вёску.

Хмурнеўся навокала маўчозны, насуплены лес. Здавалася, быццам ішоў ён, спыніўся ды замысліўся, абступіўшы ваколіцы цёмна-зялёнымі мурамі. З лесу, як з-пад зямлі, чуць чуваць данасілася кукаванне зязюлі. Срэбрам блішчэла на сонцы рэчка, абапал абросшая купчастымі вербамі, алешнікам, тонкім гушчар-лазняком. Сонца купалася ў вадзе, і вада ззяла, усміхалася, падобна да люстра ў каштоўнай зялёнай аправе. Сярод парасніку на ўзлессі вышэлі магутныя дубы, трымаючы на галлі, як абярэмя лам'я на галаве, бусліныя гнёзды. У гнёздах на адной назе, як на тонкім чырвоным пруце, стаялі буслы ды, падняўшы ўгару дзюбы, ляскалі з радасці, мусіць, што даў Бог харошы дзянёк і ў іх не горш, як у іншых: ёсць і гняздо, будуць і дзеткі. Знізу ж пад гнёздамі за нешта сварыліся шпакі з вераб'ямі. Па той бок — распасціраўся шырокі, роўны луг, прыбраны ў кветкі, як маладая да шлюбу. Гэта — доўгімі зялёнымі ўстужкамі рунеліся ніўкі з дзікімі грушамі, яблынямі, з кудзёркамі ракітніку па межах. А там — пад гарою, прытуліўся шэры будынак з белым, агорнутым гаем бярэзніку, касцёлам пасярэдзіне. Адтуль жа выбягала, абгароджаная ў дзве жэрдкі, дарога ды шпарка імчалася па

полю. Яна закрыўлялася, выпроствалася, выкручвалася, як вуж, ва ўсе бакі, разбягалася чорнымі сцежкамі, а потым, стрэўшы другую, пускалася з той навыперадкі, аж покі не знікалі абедзве за пясчаным узгоркам...

Спявалі жаваранкі, і песні іх, як незлічонае мноства срэбных звонікаў, звінелі, зліваліся ў нябёсах, абрываліся, як струны, зноў пачыналіся, а гуртам рабілі адно цудоўнае, благаснае набажэнства, адну вялебную ўдзячную канту.

Наогул, усё было аздобна, слічна і пекна, як «у сэрцы чалавека ў часіну шчырае малітвы».

Задрымацела сэрца ў папугая ад хараства Божага свету! З вялікае, нестрыманае радасці ён не чуў сваіх скрыдлаў: лётаў узад, нёсся ўперад, садзіўся, узнімаўся, імчаўся ўвыш, спускаўся ўніз і — не мог нацешыцца, не мог наглядзецца. Аж покі не супакоіўся на крыжы, што, як сівы дзед, маркотна схіліўся на дарогу, стоячы каля маленькае трухлявае капліцы. Сеў — ды засмуціўся. Чаго? Якая журба агарнула душу яго, які смутак сціснуў сэрца яго? Хто гэта скажа?! Хто можа ведаць, што дзеецца на патаемных закуццях чужой душы, хто калі бачыў сакрамэнты чужога сэрца? Мо горкі жаль адзіноцтва апанаваў яго, а мо — спевы чужаніцы пабудзілі змоўкшыя песні далёкай бацькаўшчыны і ўскалыхнулі пачуццё роднай краіны? Бо нельга забыцца аб тым, што крывавым атрамантам упісана ў сэрца; немагчымасць нікому й ніколі страціць тыя пачуцці, што агарнулі душу пры яе нараджэнні. Ніхто ніколі да скanання не забудзе тых журботна-вясёлых песень, якія спявала матка, схіліўшы галоўку над калыскаю свайго дзіцяці! Ёсць можнасць занядбаць, заняхаяць; можна прыспаць усё гэта, заглушыць, як брыдкае зелле глуша ніўку ў нядбалага, але надыдзе час, страсянецца душа і яно ачнецца, загарыць, запалае, як на вятру ад іскры з попелу патухлае вогнішча!...

Зажурбёны, змаркочаны, апанаваны роем нахлынуўшых думак, сядзеў папугай, і не ў галаве яму, што сваёй яркай адзёжкай, сваім незвычайным аблíччам звярнуў на сябе ўвагу тутэйшага птаства. Не рад ён быў, што маці справіла яму калёрыстую вопратку, што дала адметную ўроду...

Першы ўбачыў яго грак. Той з маленства звучыўся шанаваць здароў'е, а дзеля гэтага меў звычай, устаўшы раніцаю, ісці на шпацыр па вольным паветры. Заўсёды прыбраны, як граф, у чорны сурдут, ён пахаджае сабе па дарозе, як штосьці заманулася яму глянуць, ці высока

сонца. Павярнуўшы галаву набок, ён зірнуў ды — аж прысеў на хвост, згледзеўшы на крыжы папугая. Апамятаўшыся, тройчы сплюнуў з пераляку ды з гэтым нечуваным дзівам падаўся ў беразняк да сваіх. Неўзабаве, хістаючыся, як на гойдаўцы, шпарка ляцеў, мабыць, на крадзёж, стары верабей. На дарозе агледзеўся ён, што забыўся пайстрыць дзюбу, але варочацца дамоў не хацеў, маючы на думцы, што гэта зрабіць можна на крыжы, на якім часта даводзілася спачываць, вяртаючыся здалёк дадому. Месца было добра знаёмае, ён ужо і лапкі выпрастаў, каб прысесці, ды — як той д'ябал, адхіснуўся ўбок. З сапалаху ён забыў, мусі, што мае язык, бо нейкі час мітусіўся моўчкі, а потым нарабіў такога гвалту, што з усіх бакоў, як на пажар, пачалі злятацца вер'і, ластаўкі, жаваранкі, смяцеі. Страхоцце, колькі іх назбіралася!

— Уга, уга! — дзівіўся папугай, зірнуўшы ў другі бок: там яшчэ чарада прэцца. Гэта грак сваякоў вёў, а за тымі, быццам бабы, каўдыбалі вароны; крыху ззаду цярушылі скрыдламі, як маладзіцы, падсяваючы жыта рэшатам, сівабокія галкі.

— Сварацца яны, жэняцца, ці якое ім ліха? — пацягаў плячыма папугай ды чакаў, што будзе далей. Але чакаць доўга не прыйшлося. Распачаў справу той самы жэўжык — верабей. За ім уся гэта арава з піскам, з крыкам рынулася на бедалашчага папугая, ды як пачалі пытляваць, як пачалі дубасіць, джгаць — Божухна мой літасцівы! Іскры сыпаліся з вачэй, пух ляцеў, як з разпоранае падушкі, не ведаў, бядак, за які бок хутчэй хапацца. Ён зваліўся з крыжа вобземлю, зашыўся пад плот, пад віткі, але не было ратунку. Ды дзе ў чорта! Йшчэ горай, бо вераб'і, прымасціўшыся на вітках, дзяўблі зверху па галаве, як кавалі малаткамі па кавадле...

У гэты момант натрапіў сюды Моўша. Ён хутка агледзеўся, што папугай уцёк з клеткі, ды ўжо цяперсі шукаў яго на полі.

— Ой, вэй-мір, вэй-мір! — заенчыў ён, успляснуўшы рукамі, як угледзеў гэту баталію. Папугай саўсім змогся, аслаб; ён ужо не бараніўся, не асякаўся, а толькі як з плачам крычаў:

— Не ўсе ж разам, ягамосці! Трымайся чаргі, калі ласка!

# Winszawańnie z sałdatаŭ.

*Winszuju was z Światam*
*Bożym Naradżeńniam,*
*Najpiersz mamu z tatam*
*Z dobrym pawadzeńniam;*
*I siostry i braćcia*
*Winszuju ŭsich z światam*
*Chto żywieć u chacie*
*I z mamaj i z tatam.*
*Żadaju wiasioła*
*Światа światkawaci,*
*Pryszoŭszy z kaścioła*
*Kalady śpiewaci.*
*Dyk hromka śpiewajcia.*
*Na hora zabudźcia,*
*Boha wychwalajcia,*
*Wiasiołymi budźcia.*

**J. L.** (Apałczeńniec).

# *Першынка*

Анцік апошні ў маткі і самы маленькі ў хаце. Хлапчына ён жвавы, але ўзімку нікуды не ходзіць, бо не мае ні лапцёў, ні ўласнай вопраткі. Цалюткі дзень сядзіць дома, круціцца, свішча, спявае і гайсае па лавах, як па шырокай прасторнай дарозе.

Яшчэ летась ён бегаў без портак і не саромеўся, а сяголета стаў скардзіцца матцы, што яму ўжо брыдка ў голай сарочцы. Даводзячы гэта, нават збрахаў, бо дзяўчаты з яго не смяяліся, дый начхаў бы ён на іх выскалянне, а тым часам жальбу павёў так, што каб не дзявочы, моў, смех, дык бы і портак не трэба было.

З дзяўчат ён сам насміхаўся, а ў гульнях камандаваў імі, як певень курамі. Падчас наўмысля зневажаў іх і біўся, каб усе бачылі і ведалі, што з дзяўчатамі ён не кампануе і нічога супольнага не мае. Сваю вайну з дзявоцтвам распачаў ён з тых пор, як пасварыўся з Друкаровай Амількай. Уласна кажучы, дык гэта і не сварка была, а так нешта-нейкае, на што й назвы не дабярэш.

Друкарова Амілька — яго равесніца, а мо крошку й старэйшая. Дзяўчынка яна слухмяная і разумная. Сінія вочкі яе бліщчаць і вабяць, як два васілёчкі ў полі, а вялікія й таёмныя, як паўночнае неба. На іх глядзіш як у цёмны калодзезь або на дно цёмнай вады, дзе адбіваюцца і зоры, і неба, і хмары. Часам прыгледзішся, узірнешся, дык аж вусцішна робіцца. Здаецца, нейкі туман ля іх уецца, не то праменні мігцяцца. Анцік узяў раз ды дакрануўся пальцамі да яе воч, а Амілька замаракавала, натапырыла губкі ды сказала:

— Які ты нягодны — пыркаеш у вочы!..

Анцік ёй спадабаўся, і хутка яны ссябраваліся. Бывала, сыдуцца, трымаючы пальцы ў роце, пасядуць на прызбе, гуляюць ды пазіраюць адно на аднаго, як маладыя цяляты на новыя вароты.

Раз Амілька ткала пояс, а Анцік поркаў зямлю пальцам ды глядзеў. Пояс яму спадабаўся, хацелася пахваліць, але каб зрабіць гэта, дык ён распачаў гаворку здалёк. Першнаперш запытаўся:

— Чаму вас дражняць Друкарамі?

— Не ведаю,— адказала Амілька,— мо за тое, што ў нас вокны памаляваны... А ласне гэта кепска? — спытала яна.

— Дык нёж не! Вунь на цябе кажуць Друкарыха,—

адказаў Анцік і спытаў: — Хто цябе навучыў паясы ткаць?

— Мама.

— А мяне мама не вучыць.

— Дык ты ж хлопец,— засмяялася Амілька,— а гэта дзявочая работа.

Анцік памаўчаў трошкі, а далей пагладзіў пальчыкам пояс ды неяк сарамліва сказаў:

— Пекненькі... як галінка.

— Дальбо? — зрадзела Амілька.— Дык я табе яго падарую, як кончу ткаць.

Пасуліла, нябога, дый вочкі вытрашчыла. Анцік як чорта ўгледзеў. Ён раптам схапіўся, азірнуўся ды драпануў ад Амількі, аж пяты яго заляскаталі.

— Няхай ты згары са сваім поясам! — адказаў ёй Анцік, уцякаючы.— Крый Божа, дазнаюцца — прасмяюць, Друкаром прадражняць, мая палюбоўніца — скажуць.

З таго часу ён адцураўся сяброўства з Амількай, не ўзлюбіў дзяўчат і стаў мсціцца...

Дзявочы смех дадаў ён дзеля таго, каб матка не спрачалася, ды каб хутчэй рупілася пашыць яму порткі. І мяркуючы гэта, не памыліўся бэстыя, бо маці запраўды спачатку не слухала, а толькі гладзіла па галоўцы ды прасіла, дакляруючы:

— Пачакай, каток! Вось ухаджуся з работай, дык пашыю табе і порткі, і крамную кашульку...

Але не такоўскі быў Анцік, каб, распачаўшы справу, кінуць, не скончыўшы.

— Не трэ мне кашулі, мне трэба порткі,— адказаў ён матцы, ды тхнуць не даў, покі яна не згадзілася ды не ўзялася за шытво.

Неяк увечар, пры лучніку, разлажыла яна сваё швацкае начынне, узяла кусок паска, змерала ў яго паясніцу і ногі ды пашыла першыя порткі са старой ператыканай спадніцы. Не за тым, ёсць, ведама, што не было з чаго, альбо пашкадавала палатна, ці што іншае,— не,— кроячы порткі са старой спадніцы, яна кіравалася той мэтай, што ўсё ж роўна за тры дні парве або дзе згубіць на беразе. Матка нацешыцца з яго не магла і каб магла, дык на дражджах, здаецца, гадавала б яго, абы хутчэй рос ды ставаў на ўласныя ногі...

Увесь час, покі матка шыла, Анцік не адыходзіўся ад яе. Сеўшы на кукішках, ён вока не зводзіў з шытва — не соп, не варушыўся, паводзіў галоўкай за ніткай ды нават рупіўся памагчы, стаць матцы ў прыгодзе.

— Дай, мамка, я зацягну нітку, у мяне вока вастрэйшае.

І маці аддавала іголку яму, а сама цярпліва чакала, покі ён длубаўся з ніткай. А длубаўся ён доўга, бо ўвесь дрымацеў, дрыжэў і спяшаўся. Як назадор, нітка слізгала міма, згібалася і не хацела лезці ў вушка. Урэшце, з дапамогаю маткі, нітка зацягвалася. Анцік урачыста падымаў іголку за нітку, смяяўся і казаў:

— Во яна — як плотка на вудзе!

Скончыўшы, матка прымерала. Выйшлі не порткі, а чыстыя майткі, не згорш за крамныя. Каб бачыў Бэрка-кравец, дык бы напэўна сказаў: «Хва! Вот табе й Несвіж!» Несвіж Бэрка не любіў, бо яму пастаянна калолі вочы, што ў Несвіжы лепшыя за яго краўцы.

Порткі былі з падцяжкамі, з блішчастым масянжавым гузікам і з чырвонаю, як жар, паясніцаю. Матка наўмысля аздобіла іх чырвонаю рызаю, справядліва гадаючы, што чырвонаму кожан блазан рад. Зірнуўшы на паясніцу і пекны, у дробную клетачку рабенькі, як зязюля, колер портказ, Анцік гадаў, што гэткіх слаўных майтак і шляхціц не мае. І рад быў, леўка, як на свет нарадзіўся.

...Добра дзіцятку! З чырвонай латкі радзее яно! А вырасце, зробіцца сталым, дык свет не здаволіць яго. Запрагнецца шчасця, любошчаў, кахання; захочацца волі, прасторы, свабоды, і — будзе часамі за доляй па свеце пакутаваць, марыць, спадзявацца і верыць.

А долі не знойдзе нідзе і ніколі...

Тым часам жыццё не стаіць, яно не счакае. Гадочкі пралятуць, праімчацца, леты сплывуць, пазнікаюць, моў, дым у паветры, як хмары ў небе, і не пакінуць ні следу, ні знаку... Сэрцайка сціхне, заб'ецца паволі, рызыка пройдзе, задор прамінецца, пачуцці пагаснуць і замоўкнуць, а розум спакойна падлічыць, зрахуе ўсе дзеі, учынкі ды моўчкі пакажа халодны свой прысуд:

— Кружыўся, нябога, на месцы, як змалку ў стойцы або ў бегуну сярод хаты...

Тады мо і ўцяміць, ды будзе па часе.

Шукаючы долі, згубіў сваё шчасце!

Назаўтра, ранютка ўстаўшы, першым дзелам Анцік пабег да сяброў пазухавацъ і пахваліцца. І ўсюды, куды ні заходзіў ён, малыя зайздросна глядзелі й маўчалі, а старыя дзівіліся і хвалілі.

— Уга, уга! Дзяцюк, ды годзе! — падхвальвалі людзі. Дзеля лепшага агляду яго ставілі задам, варочалі перадам, прасілі прайсціся па хаце, потым спынялі ды загадвалі ўзяцца ў бокі. Анцік маўчком вырабляў усе выкрутасы, толькі чмыхаў носам і сарамліва міргаў вачыма. Яму аж нядобра і ўсіх шкода рабілася, што вот ён, а не хто іншы, стаў зэсам агульнай увагі. Ён бы бажаў, каб кожын меў гэткія порткі ды не зайздросціў яму, а разам з ім смяяўся, радзеў, весяліўся...

У іншай хаце мацалі корт на портках, пыталі, ці дарага каштуе, дзе набіралі — у Мыркі ці ў Іцкі, а распытаўшыся, азіралі здалёк ды, успляснуўшы рукамі, уголас казалі:

— А, а! Вот бо дзе харастве! Ці не жаніць цябе бацька сабраўся?!

Нацяк на жаніцьбу трошкі не да ладу адчуваўся ў вусе, але Анцік не прыслухоўваўся і не звяртаў увагі. Сеўшы дзе-небудзь на лаве або проста стоячы збоку ля столу, ён пазіраў на ўсіх поглядам чалавека, катораму раптам адчыніўся свет Божы, і ён угледзеў рэчы, якіх досі ніколі не бачыў...

Ды не доўга цешыўся Анцік. Нехта пазайздросціў яму, брыдкім вокам зірнуў і здзівіў яго порткі. Не меў ён шчасця спажыць іх як следна, стрэла іх прыкрая доля, і згінулі яны ад брыдкай ганебнай смерці на пяты дзянёк свайго жыцця.

Як часта смех наш канчаецца плачам! Як часта нашы ўцехі, ласашчы на дне прыгорклы і прыгарэлы! Зазвычай, што прыемна пачнецца, дык скончыцца сумна й нядобра. Мэрам хтось сочыць за намі, зайздросціць ды, спакусіўшы, рагоча, сыпнуўшы ў кубак жаданага трунку жменю чамяру...

Кожная рэч, як вядома, патрабуе датэмпнага і разумнага ўжывання, бо ў іншым разе выйдзе не карысць і ўцеха, а смех і гора. Гэта датыча ўсіх і ўсяго — старога і малога, адзежы і начыння. За прыклад нам будзе Шуськаў Габрусь. Хлопец ён сталы, не блазан дзяцюк, а вось як узяўся, за што не ўмеў дый не трэба было брацца, то яшчэ й досі саромеецца на вуліцу выйсці. Людзі ходзяць, гуляюць, смяюцца, а ён сядзіць дзе-небудзь у запечку ды турбуе галаў, ломіць мазгі над пытаннем, што лепей: дзесяць болек на носе ці панскія порткі навыпуск? Чалавек ён някепскі — шкада дзецюка, а йшчэ горш будзе шкода, калі не сцяміць начхаць на абое, бо абое рабое.

Габрусь даўно жадаў мець крамныя порткі. Бывала, ідзе

паўз вокны семінарыі, семінарысты ў чорных портках навыпуск, дык ён як шыбы не выпхне: уваткне нос, цікуе, глядзіць, пацінаецца ды аж цмокае ад хараства і зайздрасці. Семінарыст пройдзе, схаваецца, а ён адхіснецца ад вакна, цяжка ўздыхне, схісяне галавою ды безнадзейна прамовіць:

— Хараство!

Не дасцё веры, глядзець было млосна, збоку шкада было хлопца. Дзяцюк вачавідкі сохнуў, марнеў. Каб змога, здаецца, сам бы купіў або ўкраў дзе — хай іх высмаліць з гэтымі панскімі порткамі,— абы дзяцюк не нудзіўся гэтак, не марнаваў свайго жыцця. Урэшце фартуна,— на што ўжо бязлітасная, запанслівая кабета,— а й тая злітавалася, і яна абярнулася тварам да хлопца, пасміхнулася і пашкадавала. Мабыць жа, і ў яе сціснулася сэрца ад жалю, бо на Уласа ўвечар Габрусь трымаў папяровы пакунак, адкуль выглядалі крамныя порткі ў палоскі, ды пытаў кожнага, хто захадзіў у хату:

— Як васан гадае, дорага каштуе вось гэтакая рэч? Не, не,— вы скажаце,— як на вашу гадку?.. Ня ведаеця? Га... вот жа бачыця! Гэта, брат, ня шворань купіць, а тыж ж думаў як?!

І Габрусь цмокаў, міргаў і смяяўся, але цаны не казаў. Ён то клаў порткі на стол, то ізноў браў у рукі, разгортваў, вешаў, цешыўся ды зноў складаў, зноў абгортваў паперкай і завязваў ніткай. Нарэшце аддаў мацеры схаваць, і тая занесла ў камору ды замкнула ў кублі. Але Габрусь яшчэ доўга не мог супакоіцца. Зашчаміўшы рукі за карк, ён крочыў па хаце, марыў, пасміхаўся ды сам сябе цешыў у думках, як будуць зайздросціць яму, дзівіцца і хваліць. Было шкода, што ўжо вечар і позна, што нельга прыбрацца ды выйсці на вуліцу, пайсці на вячоркі. Як бы шчары зірнула Анелька! У Габруся сэрца вяла і салодка дрыжэла. Ён увесь абмяк, як кісель ад вады, і думаў: «Не, цяпер брэшаш, Анелька! Годзе табе шкіліць і выскаляцца! Не мінеш ты маіх рук, вазьму, як рыбку на беразе...» А покі што пахаджаў ён па хаце ды на паўгубы перацінаў:

Ці я табе не жана,
Ці не гаспадыня?
Тры дні дома не была,—
Есці не варыла.

Ці я цябе не ўшчуваў,
Ці я не сварыўся?!
Бізуном раз лупцаваў,
Тры да-да, дай-да!

Краўчыха Агата гэтаксама на Уласа была на месцы і бачыла, як Габрусь таргаваўся. Назаўтра, забегшы да нас

пазычыць агню, яна нам сказала, што Габрусь заплаціў за свае порткі чатыры злоты і шаснаццаць грошы.

Дачакаўшы першага свята, Габрусь прыбраўся, аглядзеўся ў люстэрку ды выйшаў на спацыр. Было яшчэ рана, нават не званілі ў царкве...

Спацыр — пекная рэч, і спацыраваць ніколі не шкодзіць. Гэта карысна для здароўя, а дактары — дык заўсёды раяць пагуляць часіну па вольным паветры. Але калі ты ўзяўся спацыраваць, дык спацыруй на здароўе і трымайся, будзь ласкаў, надуманай мэты. Так жа сама трэба памятаць, што кепска той робіць, хто, задраўшы нос, удзень зоры лічыць. Зоры няхай будуць зоры, а ты не забывайся пад ногі глядзець. Капейкі мо й не знойдзеш, дык, напэўна, не спаткнешся ды не гупнеш, як гляк, вобземлю. А то вось — ці ж гэта хараша? — пытаюць дзеткі ў мацеры:

— Мамка! Хто табе губу разбіў?

— Ат, ехаў разявака некі, ды аглобляю ў рот...

Дык ласне кожнаму ўталкуеш? Вот і Габрусь, і не дурны хлопец, здаецца, а тым часам кроку не ступіў, каб не спыніцца ды не азірнуць сябе з усіх бакоў. Яму здавалася, што порткі цісънуць, задзіраюцца, лезуць уверх, фалдуюцца і не ляжаць, як трэба. Дык ён нагінаўся, тузаў, абцягваў, разгладжваў складкі, папраўляў паясніцу ды, азірнуўшыся, памаленьку крочыў далей. Такім робам дайшоў да студні. Там трапіў на лёд, паслізнуўся, не ўстоіў і бразнуўся вобземлю. Рэч вядомая, далікатны корт порткаў не вытрымаў: порткі трэснулі і разляцеліся.

Якраз дзеўкі чэрпалі ваду, і іх рогат, як гром, неўспадзёўкі, аглушыў Габруся дарэшты. Каб была тут гразь — ён бы, напэўна, тройчы перавярнуўся назло ўсяму свету. Але пад ім быў лёд; ён ляжаў, як жэрдка, пасярод вуліцы, заплюшчыў вочы і не хацеў уставаць. Тым часам Анелька-сакатуха не чакала. Яна кінула вёдры ды, ухапіўшыся за жывот, як пенька не трэсне, рагатала над самым вухам Габруся.

— Уставай, Габрусь, няхай цябе цяміць,— крычала яна,— коні наедуць!

Габрусь крошку папяўся, прыстаў, потым сеў, павёў непрытомна вачыма, заківаў галавою ды распачліва прамовіў: — Вот табе і партэ-эчкі!

Анціку — дык ліха надарылася з іншага боку.

Матка мэрам што ведала, як казала, прымяраючы порткі:

— Глядзі, сынок, шануйся! Даглядай, абы-дзе не кідай...

Дык што ж ты зробіш? Суджанага не мінеш, а што прамінула — не вернеш...

Покі курэўся хмель новай навіны, Анціку было хвацка ў портках — прынамсі, не чуўся, каб дзе што муляла або замінала. Потым... Вот кажуць, што порткі — спрытная рэч, не замінаюць, а Анціку яны вот дзе сядзелі.

Перш-наперш гэтыя гузікі з падцяжкамі... Яны адляталі кожнага дня, а той масянжавы, напрыклад, згубіўся назаўтра. Не раз прыходзілася затуляць рукамі і трымаць у руках, покі не знаходзіла матка часу прышыць яму новыя. Не раз на бягу порткі спускаліся, путалі ногі і — Анцік ляцеў вобземлю і разбіваў сабе нос. Прабаваў бацька рабіць яму гузікі з дзерава. Гэтыя гузікі не прышываюцца, а іх прывязваюць да паясніцы шпагатаю, пракалоўшы дзве дзіркі верацяном. Нічога не памагала — гузікі ламаліся, а шпагат заставаўся.

У канцы порткі пачалі брындацца, мокнуць, карэць і дапякаць у гульнях. Бывала, заганяеш свінку, даўней хоць падолам прыкрыеш, а ў портках трасцу змахлюеш. А вот як Каўгар высцебаў яго крапіваю за грушкі — хто ж быў вінен, калі не порткі? Ён саўсім ужо ўцёк, дык чорт надаў зачапіцца за кол калошаю. І то ж, падла, б'ецца — праз тры дні пякло, як махнушаю*.

Дык на час гульняў, а то й так пад гарачы час, Анцік скідаў к чортавай матары порткі ды вешаў дзе-небудзь паблізку на плоце. Гэтак жа зрабіў ён і на той раз, як трапіў на іх дворны кнораз (кнур). Гэты кнораз жыве гадоў дзесяць і, мусі, нямашака ваўкоў на яго ў лесе. І не колюць яго, і не рэжуць яго, і чорт іх ведае, што яны думаюць сабе. Не баіцца ён нікога й нічога. Ломіць платы, варочае парканы, лазіць у шкоду, і няма на яго справы на свеце. Хадзілі скардзіцца, але аконам і вухам не вядзе.

— Загарадзі,— кажа,— лепей — не ўлезе!

Гарадзілі і чаго ні чынілі, дык хіба жалезам, бо й мур яго не стрымае. Летась увосень залез к Чурыле ў капусту і зматлашыў дазвання. Рассердаваны Чурыла хацеў застрэліць, нават стрэльбу набіў, але дзядзька Мацюта адрадзіў.

— Няхай ён,— кажа,— сам лепей здохне, а ты стрэльбу кінь і не чапайся...

Вось гэты кнораз сцягнуў з плота Анцікавы порткі

---

* Махнуша — недагарэлае палена.

і пашматаў на кусочкі, а чырвоную паясніцу з падцяжкамі завалок к Чурыле на сметнік.

Анцік горка плакаў, а ў хаце шкілілі.

— Дык як ты згубіў свае порткі?

— Каб жа згубіў, а то свінні з'елі!

— Бадай ты скіс, сынку, бадай ты! — дадаў і бацька.— Што ж цяпер рабіць? За цябе ж ніводная дзеўка замуж не пойдзе.

Назаўтра матка наўмысля засталася дома ды пашыла яму новыя порткі — з новага, моцнага, як скурат, шарачку. Цяпер яна не баялася, што Анцік згубіць.

## *Апавяданне без назвы*

### ЯЎХІМ ПЛАШКА

Татулька наш — скарбовы рыбак і кіраўнічы ў рыбацтве, мэрам той сотнік ці ротман* у плытніцтве. Ён любіць свой талент і талянтуе рыбацтвам даўно, як запамятаць. Увесь двор наш, платы, усе жэрдкі пад стрэхамі абчэплены розным рыбацкім начыннем. Але не шукайце, бо няма ў нас трох рыбацкіх рэчаў: тапчана, бродня і вудаў. Гэтым начыннем татулька ганьбуе і не вельмі шануе таго, хто мае яго.

— Вудаю,— кажа ён,— ловіць гультай, тапчаном — дурань, а броднем — бабы.

Вось Цыбаты Яўхім, або Плашка, чалавек і не кепскі, а татулька не ўзлюбіў яго за тапчан, як чорт знае завошта.

Яўхім надта густуе свежую рыбу, і пад святы дзень хібіць не можа, каб не збегаў у тонь ці ў Нёмнішча.

Летась на Ушэсце заснуў ён у царкве ды, мабыць, сасніў, што сом той ці мянтуз выслізнуў з торбы, бо нарабіў ляманту на ўсю царкву.

— А браткі ж вы мае, уцёк!.. Вялізны, як плашка!

Часам ён сам, здароў, бачыць, што не час яму кошкацца з рыбай, што ў доме няўпраўка, збожжайка плача, жонка сярдуе, крычыць, верадуе, і здаецца, няхай бы яе пярун

* Старэйшы плытагон.

спаліў з гэстаю рыбай, дык, бачыш, стрымацца не можа. А вырвецца з дому — з гарматы не спыніш...

Вось заходзіць сонца. Аздобна і пекна ў паветры, як на Вялікдзень у хаце. Крэўчык, як са сну, бомкае ў царкву... Абвязаўшы хусткамі твар ад загару, мятуць каля хатаў дзяўчаты. Мыюць у гасподах, прыбіраюць знадворку. Пасыпаюць жоўтым пясочкам двары свае, прызбы, надворныя сцежкі ды весела гудуць, жартуюць, смяюцца... А дзеці ў коні гуляюць. Ўссеўшы на палкі або пабраўшы, як цуглі, аборкі ў зубы, гайсаюць па вуліцах то ўзад, то ўперад, покі не зморацца або не паб'юцца...

Варачаюцца з поля, з работы... Рыпаюць дзверы, скрыгаюць студні, рыпяць, як рагочуць, вароты. Вёска гудзе і шамоча, як вулей увечар... Патаміліся людзі — ходзяць паціху, гавораць спавагу. Прыветны і рады, што заўтрайка свята і вольна часіна. І кожын ахвотна і рупна прыгладжвае конус тыднёвае працы... Яўхім жа — тым часам імчыцца на рыбу.

І, мусіць, не рыба цікавіць Яўхіма, і не карысць ім кіруе, як не карысцю й жадобай кіруецца той паляўнічы, што страляе качак на рынку, ідучы дамоў з палявання. Яму проста прыемна паплюхацца ў тоні, люба пабрадзіць па цёплай вадзіцы, пабэрсаць нагамі лапух з расою ды, спрытна падняўшы тапчан над вадою, борздзенька глянуць: ёсць там што-кольвек ці гола, як бубен? І кожны вечар, пад свята, Яўхім клянецца і божыцца жонцы, што гэта — апошні ўжо раз, і калі на гэты раз нічога не зловіць, дык няхай яму рукі адсохнуць, калі дакранецца хоць пальцам да сеткі. А надыдзе нядзелька ці свята якое, выпадзе вечар харошы — тапчан зноў на плячы, і Яўхім зноў чэша на рыбу...

Каб лацвей было брадзіць ды ямчэй варочаць нагамі ў вадзе, дык ён заміж портак ускладае жаночую спадніцу, а на сябе, дзеля агульнай спрытнасці, жончын мантон без рукавоў. Рудая ад брыдкай вады спадніца вісіць на ім, як на кіі; мантон падраны: латка на латцы; з-пад мантона высмыкае падол паласатай, кшталтам жыдоўскага багамолля, сарочкі. На галаве аблавухая шапка з вушыма; спераду, на шыі, шэйдаецца каравая торба з-пад рыбы, ззаду, дзеля асцярожнасці на вадзе, чырвоны кісет з тутуном. Вушы ў шапцы целяпаюцца на хаду, як у надворнай свінні на бягу. У гэтым убранні — Яўхім копана тое страшыдла, што ставяць бабы ў агародах на страх усяму варавітаму птаству. Трымаючы адной рукой тапчан на плячы, а другой —

люльку ў зубах або апусціўшы другую звольна матацца ў тахту, ён так шпарка сцігае і моцна ступае, што здаецца, да бойкі рвецца або рыхтуецца скокнуць праз плот ці на муру. Вось татулька часам згледзіць яго, як ён прэцца па вуліцы, мэрам той бусел па лузе, дык аж плюне. Потым адвернецца, страсяне галавою ды скажа:

— Мм-ы! Божа, твая воля, колькі таго глупства на свеце! Вунь — зноў, абібок, пацыбаў плюхацца ў Нёмне.

## ГАРОНІМ-ЛЯСНІК

### I

Ёсць і паны, што шануюць пасты, на ўсіх грэх людзям наракаці. У Энскім замку, напрыклад, дык, мабыць, і ў пятніцу посцяць, бо штодня, у чацвер, ловіцца рыба да панскага стала. Татулька наш, як скарбовы рыбак і кіраўнічы ў рыбацтве, пачынае збірацца на рыбу яшчэ з панядзелка. Каб потым не кошкацца ды не тачыць, як той кажа, гарачкі па часе, дык ён загадзя ўжо спраўляе начынне, аглядае ўсе тоні ды склікае патрэбных людзей. А ў чацвер, яшчэ шэраю гадзінай, прыходзіць да нас Гаронім — ляснік, назірач у скарбовым рыбацтве.

Ахрышчан Гаронім іначай, а гэтак завецца ўмоўна, з ласкі першага папа ў нашай парахвіі і вось з якога прыпадку.

Ужо адным з'яўленнем на свет нарабіў ён клопату ў хаце. Дый радзіўся ён неяк саўсім неўспадзеўкі. Прынамсі, нябожчык бацька яго, дык, мабыць, саўсім не чакаў, ці Бог яго ведае, бо так здзівіўся, мэрам хто свіснуў яго зняцэўку кулаком па патыліцы. Пачуўшы крык дзіцяці, ён увесь сцепануўся, кіўнуў барадою, як бы валаючы кагось да сябе ў сведкі, пасміхнуўся ды сказаў:

— Ага, чалеснікі абваліліся...

Каб доўга не вэдзгацца ды не траціцца дарма, дык бацька назаўтра ранютка ўстаў, нагатаваў сяго-таго для пачастунку, паклікаў зараз кума з кумою, сунуў ім у рукі пляшку гарэлкі, лусту хлеба з соллю ды выправадзіў борздзенька хрысціць да папа ў плебанію. Аб імю й забыліся. Вось поп і пытае: «Якое ж бажаеце даць імя дзіцяці?» А далей разгарнуў святцы, пашмараваў пальцам па друку дый кажа: «На сягодня, значыцца, Нікіфара, патрыярха канстантынопальскага. Дык мо Нікіфар хай будзе імя яму?» — запытаў ён, пазірнуўшы на куму праз чорныя

акуляры. Кума была, як той кажа: «цераз плот, у агарод — нарву сабе мяткі; а хто хоча мяне ўзяць — запытайся ў маткі». Імя ёй спадабалася — яна аж пасміхнулася з радасці — так яно далікатна і хораша зычэла з вуснаў свяшчэнніка. І загадзя ўжо цешылася думкай, што вот, моў, прыйдзе дадому, зложыць хорашынька губкі ды на запытанне родных тоненька, па-панску адкажа: Н і к і п а р. Тут яна крыху папярхнулася, але не звярнула ўвагі. А на вуліцы, па дарозе да хаты, колер грэцкага імя стаў прэнтка ліняць і аблазіць, і на запытанне стрэчных — як дражняць хрышчонага? — кума ўжо сарамліва хавала вочы ды паціху адказвала: Мікіпар. Дома ж дарэшты зблыталася і стала, як слуп, сярод хаты. «Вотаж, небажаткі... Ва імя Ойца й Сына!.. Саўсім забыла...» — чуць не плакала яна, збянтэжаная, ды церабіла, нешта мармычучы, хвартушок у руках. Забыць жа яна не забыла, але слабая галоўка яе так перакруціла незнаёмае грэцкае імя, што язык не варочаўся вымавіць. Яго вымавіў кум. Ён дзесь затрымаўся на вуліцы і скрыпнуў дзвярыма ў той момант, як кума, стоячы на месцы, чырвоная ад бяды і сораму, напружала апошнія сілы, каб як выцягнуць з памяці гэтае запанслівае панскае імя «Нічыпар»,— гукнуў кум. «Ну, вот то дальбог жа, Лючыпар,— спытайце хоць папа...» На хрысцінах усе войкнулі і замітусіліся. Кабеты ўспляснулі рукамі ды захрысціліся. Нябожчык Сцёпка Банюта падняў голаў, мэкнуў ды нешта хацеў сказаць, але нічагутка не сказаў, а толькі вышмаргнуў капшук з-пад паясніцы ды стаў набіваць люльку, увесь трасучыся. Матка ўсхапілася, зірнула людзям у вочы, уся затраслася, як ліст, збялела, енкнула ды схілілася зноў на пасцель, абамлеўшы. Усчухаўся гоман, крык, прычытання... Тым часам бацька, схапіўшы кума з кумою, рынуўся з імі да папа.

— Змяні імя, пан ойча! — завалаў ён, упаўшы на калені.— Змілуйся над намі! Лючыпар па-нашаму — чорт, самы большы д'ябал у пекле...

Поп — хвала яму — не стаў перавучваць, мабыць, скеміў, чым справа запахла, ды адказаў гэтак:

— У паперах — нельга перапраавіць. Там няхай яно стаіць, як стаяла, а вы — клічце яго Г а р о н і м.

Яшчэ й досі людзі не адважваюцца кпіць з гэтага, а з трывожным пачуццем містычнага жаху апавядаюць таемна, на вуха, пра гэта здарэнне. А тагды быў час неспакойны — вярнулі людзей на праваслаўе. Татулька расказваў, што сам ён у той час, яшчэ маладым хлопцам, ехаў

раніцай з поля — папары зябліў каля ельніку, як яго запынілі на грудку каля крыжа ды павалалі да папа. Увесь грудок быў усыпаны народам. Там пасярэдзіне стаялі сталы пад белымі абрусамі, а каля сталоў два папы ў рызах. Абапал — народ на каленях, а навокала — казакі вярхом на канях, з пікамі ў руках і стрэльбамі за плячыма. Мужчыны маўчалі, кабеты хрысціліся, гаварылі пацеры ды паціху плакалі, бо за лямант і прычытанне казакі хвасталі нагайкамі. Тым часам дзеці, трымаючы ў зубох дудкі з разбітых касцельных арганаў, бегалі па вуліцы ды гралі. Труна са святым Пабіянам стаяла тут жа на грудку на зямлі. Некія паны з бліщчастымі гузікамі, з цэшкамі на шапках, падыходзілі да труны, нешта мацалі, шапталіся ды рагаталі. Ксяндза — дык таго арыштавалі, пасадзілі ў буду ды павезлі да Мінску ў вастрог, як казалі. «Такога страхоцця,— дадаваў татулька,— не было яшчэ на свеце». Народ перапалохаўся. Старыя жанкі прыгатавалі смяртэльныя сарочкі, паабвязвалі галавы белымі хусткамі ды з жахам чакалі антыхрыста. Казалі, што прыедзе ён адзін на самакаце, без коняў, і будзе мець постаць афіцэра ў сіняй шынелі, з чырвонаю, як жар, барадою і з цвікам на лбе. Усім, хто пакарыцца яму, дык ён загадае пацалаваць сабе руку і, каб аддзяліць верных ад няверных, уваб'е кожнаму ў лоб па цвіку. А тым часам людзей вярнулі на праваслаў'е. Дзеля гэтага падводзілі да папа чалавек па дзесяць, ставілі на каленкі ды, загадаўшы падняць па два пальцы ўверх, спавядалі. Назаўтра зганялі прычашчацца. Татульку дык адзін поп пахваліў нават за тое, што ён завецца Юрка. «Те там,— казаў ён,— всё — Прянцись, Габрусь да Карусь, а у тебя имя хорошее — исконі русское и ... православное».

## II

Леснікуе Гаронім даўно. Доўгія вусы яго ўжо пасівелі і звіслі наніз, як у Тараса Бульбы на малюнку. Тым часам не звык ён да службы і не зжыўся з ёю. Здаецца яму, што дачэсна ён леснікуе і не моцна сядзіць на гэтай пасадзе. Бог яго ведае чаму — сэрца яго з некай містычнай упартасцю, пад час найбольшай цішы і пакою, пачынае дрыжаць і баяцца, што раптам расчыніцца хата, панойдуць людзі — закрычаць, загалдзяць, як жыды ў сваёй школе, і зляціць ён з пасады, як голая галка з гнязда. А то з'явіцца нехта страшэнны, выскаліць зубы ды, пасміхнуўшыся, скажа:

— Як се маш, ягамосць! А ці не час табе лахі пад пахі — га? Ці не пара, кажу, выбірацца адгэтуль?...

Звычайна чалавек разважны й разумны, ён трапіць даладнасць і тарахціць, як папсаваная машына, калі дзела таркнецца леснікоўства ці яго абавязкаў. І, прыйшоўшы да нас, ён першым дзелам пытае: «Куды сёдня — на вазёрыны ці ў Нёман?» А ўжо потым дае «пахвалёны», вітаецца ды з упрашаннем садзіцца на лаве. Распытаўшыся пра штоколечы, падсоваецца бліжэй да лучніка (свяцільні), паправіць агонь, паложыць корч, асцярожна дастане ды памаленьку пачынае набіваць сабе люльку.

Яго люлька, не ў жарты, варта ўвагі. Цікавыя рэчы, як і добрыя людзі, заслугуюць пашаны. Не ўвалгаўся нехта, давёўшы, што не людзі, а звычайныя рэчы пануюць на свеце, а чалавек у іх — наймiт. Але брэша той, хто кажа, быццам кожны з нас сам свае долі каваль. Недавумства і жарты,— сказаў бы Гаронім. Хутчэй ты, мабыць, выкуеш сабе трасцу, не шчасце, калі не атрымаеш у спадчыну малатка і кавадла. Але як бы там не было, а для нас даволі і таго, што кожная рэч мае ўласную вагу. У гэтым Гаронім пераканаўся даўно, і сваёй люльцы наровіць, як маці дзіцяці. Курачы, напрыклад, ён трымае яе не за цыбук, як зручней і звычайна трымаюць добрыя людзі, а знізу за пыпцік, пад кадобчык ладонню. Трымаючы за цыбук, не заўсёды, бачыш, усцеражэшся — люлька прыпадкам можа зваліцца ды — крый Божа — разбіцца, а з гэтае люлькі, калі хочаце ведаць, курыў сам яснавяльможны пан князь. Гэта люлька ў свой час прывяла Гароніма на новы шлях жыцця, і, дзякуючы ёй, ён знайшоў сабе іншую долю ды выйшаў у людзі...

## III

Не радзіся красным, а радзіся шчасным.

Каб знаццё чалавеку, дзе ён рынецца ды ўстане без носу, дык бы загадзя ўжо паслаў там саломкі. А каб ведаць чалавеку, дзе яго доля гуляе, дык бы не рыпаўся дарма, не вандраваў бы па белым свеце, а пабег бы насустрач, распасцёр бы рукі, расставіў бы ногі ды стаў бы лавіць яе, леўку, як ловяць бабы курэй панадворку. Але ніхто не знае, дзе яго доля спаткае, і часам натрапіш на лёс свой там, дзе страціш апошнюю надзею. Хіба ведаў Гаронім, што, купляючы люльку, ён трапіў купіць сабе й долю?!

Да леснікоўства Гаронім гайсаў па плытох і ў хвалях Нёмна шукаў свайго шчасця. Нёман ён ведаў, як гаспадыня

ўласныя ночвы, а ўсе сёлы, мястэчкі і вёскі на беразе Нёмна пералічваў па пальцах і пра кожнае апавядаў шмат розных цікавых гісторый. Вось у Шчорсах, напрыклад, дык ёсць таемніца, а ў тэй таемніцы — кнігарня. Штогодна пад Новы год, апоўначы, загараюцца там ліхтарні ды з'яўляюцца людзі — даўнейшае вяльможнае панства нашага краю. Блядыя, у чорных з белымі — палярынай — каўнярамі, старасвецкіх убраннях яны ціха садзяцца круг столу, разгартаюць чорныя са срэбнымі зашчэпкамі кніжкі ды, аблёгшыся, моўчкі чытаюць, покі не пачуецца лопат крылляў і спеў пеўняў. Тагды ўсё раптам знікае — і кнігарня, і людзі, і самае месца — толькі блісне агонь у паветры і пойдзе дымок да нябёсаў. Адрокшыся ад веры продкаў сваіх і знявvažыўшы звычаі краю свайго, яны паддаліся чужынцам ды сталі з кніжкаў даводзіць, што Бога няма, а вера — шальмоўства. Але пракляў іх Пан Бог з высокага неба, і зніклі яны з нашай зямлі, як кампора, мэрам, даруйце, карова языком злізала. Толькі раз у год, на другую куццю, апоўначы, з'яўляюцца яны ў розных месцах, па кнігарнях, на страх і навуку, дзеля вялікай спакусы ўсёй беленькай Русі, бо кожын, хто забажае, дык можа дайсці да тэй таямніцы. Трэба толькі нікому нічога не казаць, дачакацца Новага года ды пайсці да кнігарні апоўначы. Падышоўшы да дзвярэй, трэба стукнуць чучкамі* трэйчы аб дзверы і схіліць голаў на грудзі, а трохі счакаўшы, калі хопіць сілы і адважнасці, набожна, як пацеры, пераказаць ось гэта: «Пічэмся, лічэмся,— кудой нам пайці ў шыбкі, у лыбкі, у пятровіцы, лебядовіцы? Сушчык, лушчык, шыка, брыка, пац!» Пачуецца рогат нялюдскі, задрыжыць зямля, заблішчыць маланка, і пойдзе смурод навакола. Потым паўстане смяртэльная ціша ды мэрам з нетраў зямліскі ці с тэй дамавіны пачуецца голас жалобны: «Апамятайся,— што робіш, смяртэльны?!» У гэты момант расчыняцца дзверы, шугане табе свет з таямніцы і адтуль завалаюць хаўтурным спевам: «Проша да столу!» «Але не дай Божа гэтага нікому,— кажа Гаронім.— Хто прадасць сваю душу ды пачне чытаць тыя кніжкі, дык засне там навекі і не ўстане ніколі, бо пра вошта піша ў тых заклятых кніжках — пра тое не можна ведаць нікому на свеце».

А вось пад Магільнай, каля Пясочнага, жыве на адзіноце старэнькі, сівы як голуб дзядуля. Дык ён бачыў смерць — Чырвоныя боты, ды нават вальчыў з ёю. Якраз

---

* Чучкі — суставы пальцаў рукі.

на Усіх Святых, пад поўнач, нешта не спалася дзеду. Зажыўшы табакі, сядзеў ён на печы ды пералічваў грошы, дастаўшы іх з кадаўбцом з падпечы. Аж раптам чуе — захісталася хата і ціха ўздымаецца ўверх. Глянуў — аж гэта смерць падняла хату знадворку, трымае аберуч, як скрынку, і чырвоныя боты на прызбе відаць. Дзед перахрысціўся, дастаў з покуці грамнічную свечку і, трымаючы яе, як поп крыжа, каля грудзей, тройчы прамовіў: «Адступіся, шайтану — бо я табе ў лоб запалю!» Далей сплюнуў убок праз плячук, і — нічагутка не стала.

Гэты ж самы магілянскі дзед расказваў, чаму цяпер колас у збожжы такі маленькі. Даўней колас вырастаў ад камля да верху. Тагды людзі не працавалі так цяжка і мала збыткоўна, бо хоць мала пасееш, многа нажнеш. Але грэшныя людзі, праз цяжкі ўчынак нягоднай, скупой на ялмужну* кабеціны, угнявілі бязмежную ласку літасцівага Бога. Тая кабеціна цяжка абразіла Бога, завітаўшага да хаты к ёй у постаці жаброўнага дзеда. Толькі вялікая літасць да катоў і сабак устрымала гнеў Боскі. Бог, выйшаўшы з хаты кабеціны ў поле, узышоў на мяжу, узяў каліву жыта і хацеў сашмаргнуць яго колас з верху да нізу, але падскочылі каты і сабакі, сталі выць, скавытаць і прасіць, лізалі рукі і ногі Богу, і тым упрасілі Яго аставіць хоць шчопцю на іх горкую долю. Шкада стала бязмоўных стварэнняў, злітаваўся Пан Бог і пакінуў на пражыццё ім столькі, сколькі трымаў коласу ў жмені...

У Ярэмічах жыве ярэміцкі Пабіян. Чалавек гэты, казаў Гаронім, слынны тым, што вялізны, як слуп, і, не пры вас кажучы, злодзей. Але крадзе ён толькі муку ў суседзяў і то змерна — гарчык, не болей. А як пападзецца на кражы, калі зловяць яго ў засеку ці ў жорнах, дык ён не ўцякае, не зарэдзе і не клянецца, як іншы, што красці не будзе, а напрамілы Бог просіць, каб пасадзілі ў вастрог. «Бо ўсё ж роўна, ягамосці, заўтра зноў пайду красці»,— адказвае ён ды спакойна ідзе на суд, гдзе трымае сябе як вар'ят. Нікога не слухае, а толькі круціць галавою і мармыча: «А ці я гэта не казаў?»

А вот за Бакштамі жывуць літвіны. Іх мова інакшая і па-нашаму ніводзін гаварыць не ўмее. Бывала, плывеш з плытам, дык яны пазбіраюцца на бераг і давай дражніцца: «Паўлюк!» А мы ім: «Клэўсь, а ці цэлы яйца ў сучкі?!» Часам як раз'юшымся, дык пачынаем крычаць на іх усе

---

* Ялмужна — міласціна.

разам, як за гусямі на каршуна: «Клаўсе, твае дзеці не ўсе, палавіну ва ўсе,— а ты — га!»

Шмат чаго ведае Гаронім — усяго не перакажаш. Бывала, збяруцца людзі пад свята якое ці ў нядзельку ўвечар да Бірулі «на сэсію» — агню не запальваюць, сядзяць папацёмку, кураць, жартуюць і вядуць гаворку аж да трэціх пеўняў. Чаго толькі тут не пачуеш: і пра даўнейшых каралёў, і пра забраны наш край, і падзямельныя лёхі, пра смерць, пра страхі і пра жыдоўскага гамана. Бывала, наслухаешся, набярэш сабе ў галаў, дык потым да дому ісці боязна. Ідзеш, а сам дрыжыш, як асіна. Так і здаецца табе, што выскачыць страх з цёмных з судачкаў альбо смяртвец цябе строне. І перахрысціцца не трапіш. Заракаешся нават, што болей не пойдзеш і слухаць не будзеш — няхай ім пусты свет з гэстымі страхамі — але марна. Надыдзе вечар святочны — і цябе зноў, як магнусам, цягне. І страх не страшны, і смертвяцоў не баішся. Такая цікавасць возьме, што на месцы не ўседзіш.

Не падабаў толькі Гаронім аднаго. Не любіў ён, калі хто пачынаў шкіліць і дзеля кпінаў пытаўся пра адно здарэнне, што трапілася з ім аднакраць у Вільні. Глянуўшы зверам на запытаўцу, ён варушыўся, соп носам, мацней смактаў люльку і трымаў сябе так, як бы ні да чаго была мова альбо недачуваў крышку на вуха. Ліха тое надарылася з ім яшчэ змаладу, з першых лет яго плытніцтва.

Хто з нас не чуў пра Вострую Браму? Або хто не слухаў у дзяцінстве, пабожна сцішыўшыся і пільна гледзячы ў рот апавядаўцу, цудоўных здарэнняў пра Вастрабрамскую Божую Матку? Шмат чаго чуў і Гаронім, наслухаўся й ён ад вясковых кабет і падарожных. Трапіўшы, варочаючыся з плытоў, першы раз у сваём жыцці да Вільні, ён так утарапіўся на ўсё чыста ў месце, што забыўся і шапкі скінуць, падышоўшы да Вострае Брамы. Свет не без добрых людзей — знайшлася і ў Вільні добрая душа, што не паляналася напамятаць Гароніму, агрэўшы яго кулаком па патыліцы. Шапка звалілася, а кругом зарагаталі. Гаронім зморшчыўся ад болю, стаяў, моргаў вачыма і не ведаў, што яму рабіць — ці плакаць, ці смяяцца. А далей, зірнуў на абразніка ды, неўспадзёўкі нікому, боўтнуў праз слёзы:

— Дзякую васпану, што напамяталі!..

Як плытнік дасціпны, старанны і працавіты, Гаронім не раз хадзіў на віціны*, а з віцінамі — у Прусы. Вось недзе

---

* Віціна — пласкадоннае судна на Нёмне і Прыпяці.

ў Прусах і трапіў ён купіць сваю люльку. З чаго яна зроблена — чорт яе ведае. Кульгавы Баўтрук — на што ўжо знаўца і майстар вялікі,— а і той не пазнаў. Пакруціў яе ў пальцах, памацаў, паскроб на невашта каля вечка кіпцям ды нават нюхнуў разоў колькі, а нарэшце палажыў асцярожна на стол, зірнуў на яе скрыва, як певень у люстру, развёў рукі ды сказаў:

— Чартэ ж яе, братке мае, ведае, з якой яна трасцы зроблена!..

На звычайнае вока — гэта люлька як люлька. Хто нічога не чуў і не ведае, дык нават і ўвагі не зверне, не то што каб скеміў, што ў гэтай звычайнай на простае вока крывульцы якісь там сакрэт захован. Цікавая толькі ў ёй бародка з двух пыпцікаў знізу, штукарскі вырабленых накшталт барады ў казла, бо калі трымаць люльку ў жмені цыбуком уніз, дык яна выглядае так, як смоўж з тулаба, каторы сопалаху хаваецца ў тулаб, а калі пахукаеш ды шчыра папросіш, дык ён заварушыцца і рожкі пакажа. Ну, а больш — нічагутка. Ласне цыбук? Цыбук яна мае даўжэрны, сплецены з рэменя, накшталт бізуна, з касцяным белым пупішкам на канцы. Дык, мабыць, не, не ў цыбуку тут справа. У мяне ў самога гэтакі самы цыбук, а не даў жа ён мне ні шчасця, ні долі, ні Латаковай Антолі...

IV

Гады ў рады робяць у нас паляванне. Тагды прыязджае князь, а тропам за князем — цэлая хеўра паноў і падпанкаў. Іншы патрэбен тут, як сабаку пятая нага, але прэцца блізкі свет без жаднай, здаецца, рахубы, як нашы жанкі на вяселле. І маладога яны, пэўна, ведаюць, як аблупленага, з маладою добра знаёмы, бо не раз сварыліся ля студні; і ніхто іх не кліча і не дае абяцанак, а тым часам ідуць, цісн‌уцца, лезуць. Музыкаў паслухаць, а тым часам — чым чорт не жартуе — пастаіш, пацікуеш, дык і чарку гарэлкі вып'еш і пірага пакаштуеш, калі пашанцуе. А хіба не цікава потым забегчы к суседу ды ўсім расказаць, што маладыя не туды сеў і не гэтак трымаўся; што сват няўдала прымаўляў і нязграбна караваем абсылаў; што хараства ў маладой ані на шчопцю, як за тры грошы люлька, а прыданкі жлукцяць гарэлку, як ваду. Цікава. Вот і засцянковая шляхта, бывала, прычвалае за дзён колькі наўперад. Князь бадай што з замку не варушыўся, а яны даўно ўжо шпацыруюць

па вуліцах, як кажаны ў ціхі вечар. Нешта гавораць, вера-дуюць, спрачаюцца і заганяюць перапуджаных сабак у пад-варотні...

На параду князь супыняўся на грудку каля крыжа альбо каля карчмы на дзядзінцы. Народу збярэцца, як на кірмаш ці на пажэжу. Выходзяць старыя і малыя, хлопцы і дзяўча-ты, дзяды і кабеты. Усім цікава, кожнаму хочацца паглядзець. Гэта рэдкае, незвычайнае з'яўленне ў жыцці вёскі, і трэба акамянець на той момант, каб не выйсці глянуць як на князя, так і на яго коней.

Паваланы агульным натхненнем цікавасці, выйшаў і Гаронім, зафайкаваўшы сваю прускую люльку. Набраўшы-ся хванабэрыі, ён прапхнуўся з натоўпу наперад ды стаў на самым зэсі, на ваччу ў князя. Князь яго не надта зацікавіў. Вандруючы па плытох, ён бачыў свет і наглядзеўся на ўсялякіх людзей па вялікіх гарадох, а затым, зірнуўшы на князя, ён хутка забыўся аб ём. Усю ўвагу звярнуў ён на князевых коней. Вот дзе коні дык коні! Белыя, тлустыя, і зграбныя, як лялькі. Запрэжаны цугам, адна за аднэй, як жаўнеры. Пры кожным — конюх, кожны даладне і пекна прыбраны. Убранне абчэплена срэбнымі звонікамі, па кан-цох — кутасы, усе рамення аздоблены бліскучастымі зала-тымі і срэбнымі брыжамі. Зварухнуцца — дык усё звініць, зіхаціць і мігціцца! Гаронім аж цмокнуў ад хараства і паце-хі. На хартоў ён і глядзець не хацеў. Харты што — псіна, і болей нічога. А вот коні — га! Гэтакіх коней на свеце не знойдзеш. Бадай кожны рублёў дваста, а то й трыста каш-туе...

Хоць Гаронім уласнай гаспадаркі ніколі не меў і зроду каня не трымаў, але ж яго вельмі цікавіла думка — здоль-ны гэтыя коні да працы ці не здольны? Памеркаваўшы крыху, разважыў, што не, не здольны. «Дзе ў чорта! — думаў Гаронім, скрывіўшыся ад знявагі, як кіслага яблыка з'еўшы, і падняўшы губы к носу.— Дарма што гладкія, а на моц — як націна. Дрыгунцы, як і самі паны: як што трош-кі — спацее, самлее і язык з рота высуне... Стаяць толькі пры жолабе ды хрумсцяць авёс з канюшынай...»

Гаронім выняў люльку з губы, плюнуў, потым выбіў попел аб кіпець ды стаў набіваць свежага тутуню. Ён, мусі, крыху патрывожыўся, бо, закурыўшы зноў люльку, за-чадзіў, як з каміны.

— Нябось,— разважаў ён далей,— злезла б з вас сала, каб запрог у саху або з'ездзіць у лес па калодкі. О-го-го, яшчэ б як! А то — бач, бач... воўчая рэзь, не ўстоіць! Так

і рымсціць, так і рымсціць, падла, мэрам хто яго жыгалам пад хвост тыча...»

Немаведама, чым бы скончыў Гаронім свае думкі, каб яго не перабілі. Ён так разышоўся, што гатоў быў крыкнуць на сярэдняга каня, каторы абпеніў келзы, дрыгаў нагамі, матаў галавою і захадзіўся ўвесь, як на спружынах. Але мусіў стрымацца, бо народ нешта замітусіўся і сціхнуў... Падлоўчы хацеў штось сказаць. Стаўшы на дыбачкі, ён распасцёр рукі, як крылля, выпяўся, быццам мяркуючы падняцца ў паветра, задраў бараду ды завалаў:

— Не гаманеця-я! Супакойся, грамада!

Глянуў Гаронім, і — ці цябе чэрці! — сядзіць князь у брычцы, перагнуўся, аж пяро звісла ў шапцы, утарапіўся на яго і да сябе пальцам валае. «Ці не здань гэта? — падумаў Гаронім і замаргаў вачыма.— Дык не, бок,— вось і людзі пад бокі штурхаюць...» Выняў ён люльку з зубоў, плюнуў пад ногі і толькі стаў класці люльку ў кішэню, як князь голасна кажа:

— Падыдзі сюды, чалавеча!.. Пакажы мне, што за рэч ты хаваеш у кішэню?

— Люльку, пане ксенжа! — сіпата, з пераляку адказаў князю Гаронім.

— Бачу, што люльку. Вот жа ты пакажы мне яе...

Гаронім адкашляўся, затуліўшы рот жменяю, паўкнуў сліну ды падаў князю люльку. Князь разглядае ды далей пытае:

— Дзе ж ты яе дастаў?

— У Прусах купіў, пане ксенжа.

— У Прусах? Чаго ж ты там быў, у Прусах?

— На віціны хадзіў, яснавяльможны пане ксенжа,— крыху пасмялеўшы, адказаў Гаронім.

— На віціны хадзіў? А-га, сядай тут! — сказаў князь ды палопаў каля сябе рукою па сядзенню.

Перш чым зварухнуцца з месца, Гаронім азірнуўся — ці не выскаляюцца людзі, хай ты згары саўсім разам! Але ніхто не смяяўся, усе з цікам глядзелі, што яно далей будзе. Кульгавы Баўтрук штурхнуў Сцёпку Рагозу і шапярнуў: «Камедыя, брат!» Як не сваімі нагамі, падышоў Гаронім да брычкі і сам не памятае, як узлез на воз ды сеў поплеч з князем.

Звыклі казаць, што ад страху ўваччу туманее, а вось Гаронім, дык праз свет свету не бачыў. Кружыўся ўваччу яго нейкі жоўты, іскрысты туман, і не чуў ён нічога, і не бачыў нікога. Толькі калі-нікалі, як праз сіта, бачнелася

пёрка ў князевай шапцы, ды, як з-пад зямлі, адчувалася ў вусе тое ці іншае слова. Не памятае Гаронім, пра вошта пытаўся князь у яго і якія адказы даваў ён князю. Запамятаў ён адно — што сеў на брычку батраком, а стаў на зямлю леснікам.

Потым смяяліся людзі, што князь — праўда ці не — курыў яго люльку, але сам Гаронім — не трэба лгаць — нічога не бачыў.

У маскалёх Гаронім не служыў, стрэльбы ніколі ў руках не трымаў, а затым, як чалавека не з нашае вёскі, яго прызначылі на пасаду да нас, дзе ляснога абходу няма, а значыцца, умець страляць не конча й патрэбна. Двойчы на тыдзень, у вывозныя дні, ён павінен быў сядзець дома на ганку ды пільнаваць, каб дровы вазілі вэдлуг меркі, па цэтліку; шточацверга назіраў за рыбацтвам, а рэшту часу — гасаў з наказамі.

З таго часу — штотыдня, у чацвер, шэраю раніцай, ходзіць ён к нам да татулькі.

Накурыўшыся, ён асцярожна выцярушвае попел з люлькі ды, матнуўшы на вакно галавою, звяртаецца да татулькі:

— Світае. Ці не пара нам, пан Юрка, збірацца?

— Дык няма чаго длякацца,— адказвае татулька,— раней — заўсёды лепей...

Тым часам на двор надыходзіць народ. Заходзяць і ў хату, але рэдка, хіба зімою ў мароз або за справункам. З хаты чуваць, як на дварэ гамоняць, грукаюць, стукаюць, запрагаюць каня, шарахцяць прысамі, валтузяцца з невадам...

— Не тузай, каб ты спрогся! Не тузай, кажу — парвеш,— крычыць якісь дзядзька.

— Па-апраў казе хвост,— адказвае другі.— Вот ты вымі лепш люльку з губы ды патрымай каня... Не стаіць, ваўкачэчына... тпрр...

— Ачэрпай вады — напаіць трэба,— нехта раіць збоку.

— Тпрр!.. І без папа ведаю, што ў нядзелю свята. Тпрр, каб на цябе Пранцэля не глядзела! Тпрр, калёсы пераверпеш!..

А малы Хвэлькаў Плён, што тайком ад бацькоў уцякае на рыбу, скача на месцы, узбударажаны суматохай, ды спявае:

Шабаш рыду паганяе,
Рыда задам падкідае.
Стой, стой, мая міла,
Каб калёсаў не пабіла!

— Ёсць! — канстатуе нехта, што воз такі перавярнуўся.

Выходзіць татулька з Гаронімам, нешта гавораць, штось папраўляюць ды паганяюць каня. Суматоха знікае, на двары заціхае.

Паўстае ціша ў хаце, мэрам дзе ў склепе ці ўночы ў лесе — аж увушшу звініць. Робіцца сумна, нядобра, маркотна. Здаецца, застаўся ты адзін-адзінюткі на свеце і не пачуеш болей ніколі ні смеху, ні жартаў, нічога. Гэтак бывае ў гасподзе, як параз'язджаюцца госці. Вясёлыя жарты і смех разлятаюцца і нікнуць; зыкі музыкаў мяшаюцца з песнямі і гоманам, падымаюцца ўверх і там заціхаюць і моўкнуць, як згукі вячорнага звону ў паветры. Застаюцца ў хаце ціша і смутак — кружацца, уюцца, вагаюцца, б'юцца, як тая вада ў вазерыне ад павеву сціхнуўшай буры... А на душы — сумна, маркотна, нядобра...

## V

З рыбы прыходзіць татулька позна, увесь мокры, галодны, але пры добрым гумары, заўсёды ласкавы і вясёлы. Матка дык тая тлумачыць гэта тым, што «рыбакі маюць брыдкі звычай хадзіць на досвітку к Хайцы». Балазе, моў, карчма блізка, як наўмысля на беразе, пры самай дарозе. А карчма ў такім месцы, як гарох пры дарозе ці тая павабна дзяўчына: хто ні йдзе, той і ўшчыкне. Дапраўды ж карчма тут не вінна. Трэба сказаць, што не кожны рыбак трымаўся гэтакай звычкі, як пасведчае матка. Тут быў варунак іншага гатунку, ад рыбакоў цалкам незалежны. Рэч у тым, што за рыбацтва, апарт цэтліка на воз тонкага, у цаль*, сухастою, увечар «задарма даваўся кілішак гарэлкі». Дык і не дзіва, што галодны і мокры, як квач, рыбак першым дзелам вандруе да карчмы...

Бачу, як ты пасміхнуўся, ласкавы чытачу, бо цешышся іншым, шляхетнейшым паглядам на жыццё. Але ж я — спрачацца не буду. «Маўчанне — гэта золата!» — сказаў калісь адзін дэпутат, трапіўшы з Думы дамоў, а не за краты. Любіў і я, у шчаслівую пару дзяцінства, папрастарэкаваць і паспрачацца, любіў, ды зарокся. Няхай ім пусты свет, з гэтымі споркамі!..

Вось як цяпер памятаю... Лагодзіцца матка кудысь на

* Дзюйм.

радзіны. Пячэ налісньікі. Чапяла — аж мігціцца ў руках то ўсоваючы, то вымаючы скавароды на прыпек. Згарнуўшы налісьнік у чатыры столкі, яна спрытна мачала яго ў масла, пасыпала цукрам на ўсе бакі ды клала кастром на талерку. Сквірчыць каўбаса ў печы, пякуцца скваркі, смажыцца верашчака. Пах — поп бы сказаў: благорастворение воздухов! А я тым часам сяджу каля печы на кукішках ды сліну глытаю. Матцы і не ў галаве. Яна ўвіхаецца і глядзіць на мяне, як на кусок кругляка або на палена якое. «Хоць бы ў нас хто барджэй абрадзініўся!» — думаю сабе, каўтаючы сліну, бо цякла яна, як з крыніцы, аж сківіцы нылі. Я варушыўся, кашляў, нават засвістаў бы, каб можна было свістаць у хаце, але нічога не памагала — завінаючыся каля печы, матка не звяртала ўвагі. Сядзеў я, сядзеў, а далей уздыхнуў на ўсе грудзі ды, не спускаючы вока з жоўтых, пахучых налісьнікаў, чуць не плачучы, кажу:

— Я надта пшоннае люблю!

— А мой каток,— пасміхнулася матка,— а мне й неўпамкі!

Ды дала мне маленькі, згорнуты, як сурвэтка, налісьнік. Я не з'еў, а праглынуў яго цалкам. Смак — аж язык усярэдзіну цягне! А матка й кажа:

— Падзякуй жа, сынку, Богу!

— Як-то? — агрызнуўся я.— За гэтакі малюсенькі блінчык ды дзякаваць Богу?!

— А ты думаў як? — утарапілася матка.— Трэба, каток, а то Бог руку скарае.

— Няхай сабе карае, калі Яму хочацца, а я назадор, усё ж роўна дзякаваць не буду...

I пачаў, і пачаў — матка аж рот разявіла.

— Божухна мілы! — успляснула яна рукамі.— Што ты кажаш, што ты, дзіцятка, кажаш!..

А далей, расперазала паскі і — пачала даводзіць, што і за маленькі блінчык трэба дзякаваць Богу... Стоячы потым на каленях прад абразамі, глянуў я знянацку ўгору, ды аж затросся ўвесь сопалаху: абразы нахмурылі вочы і так узіраліся на мяне, як першы раз бачылі. Зложыўшы рукі, я ўжо пакорліва і з жахам пераказваў за маткаю:

— Ацю Богу міламу!..

З таго часу прыкусіў я свой язык і закаяўся людзям напоперак ставіць. I цяпер ніколі не спрачаюся, а толькі слухаю, маўчу ды думаю:

— Каб не той налісьнік, не сядзеў бы я моўчкі...

А наша матка гэтак жа сама не любіць карчом і кажа,

што карчма — гэта палац шайтана. «Бо як радзілася,— сведчыць яна,— дык ніколі не бачыла ў карчме крыжа». Ужо на моцы аднае свае кабечае натуры, яна цярпець не можа гарэлкі і пад вечар, як заходзяць дзяды па кутках, стрымацца не можа, каб не выскачыць глянуць на вуліцу, ці не пакажацца бацька з-пад карчмы. На яе думку — у карчме, як у каханкі — смолныя лаўкі. Ні Хаім дык Хайка — хто-небудзь, напэўна, запросіць да столу. І мігціцца ёй Хаім з цікавай размовай, і стаіць уваччу ўдыглівая Хайка з ліслівай усмешкай. Патрывожаныя думкі яскрава рысуюць малюнак, як абступаюць яны татульку і, пабраўшыся абое за рукі, кружацца, скачуць і ўпрашаюць прысесці за стол хоць на хвілінку. На добры лад, дык яна й сама ведае, што дарэмна турбуецца — татулька і сам там не бавіўся, але сэрца... з сэрцам нічога не ўдзееш. Заўсёды яно непакоіцца, мэрам штось прачувае. Досць раз хоць зняверыцца ў чалавеку, каб потым трудна было і на пэўны выпадак даць яму веры... А гэта было — даўно, з першых лет іх малжонства, але было. Беднота ўпачатку даводзіла татульку і да прыкрых учынкаў...

Цяпер гаспадарка ў нас, як дунай, а даўней, расказваюць людзі, дык не было за што рук зацяць. Бывала, прыйдзе на досвітку нябожчык дзед наш па матцы, гляне навокала, схісяне галавою ды з некім дакорлівым жалем безнадзейна прамовіць, пазіраючы татульку ў вочы:

— Ягомасць, ягомасць!..

А зірнуўшы на нас, сваіх унукаў маленькіх — абмурзаных, босых, у падраных кашульках — сярдзіта пытаўся:

— А гэта што?! Цацкацца з імі? У людзі аддай... Карміць будуць, капейку заробяць...

Абыходзілася сэрца ў татулькі ад цесцевых слоў. Пачуваючы ў грудзях пякельны агонь і пакуту, аднакраць устаў ён, падышоў да цесця і, не можучы глянуць ад жалю ў вочы, ціха сказаў:

— Тата!.. Не крой сэрца майго... Вось клікну жонку сюды, ляжам абое вось гэта на хаце, і няхай яны кроў нашу з голаду ссуць, а служыць не аддам... не аддам!

І не стрымаўся, нябога, сеў каля стала ды горка заплакаў...

Мой тату, мой голубе сівы! Хоць у сне пакажыся ты мне, завітай да мяне на чужыну. Раскажы, як ты маешся там, як на старасць турбуешся, дбаеш; як кахаеш гасподу сваю, яе з думак і ўноч не спускаеш? Расскажы, як матулька жыве, як, старэнькая, жыва-здарова; як свой рэй у гасподзе вядзе,

увіхацца і дбаціякова? І цяпер усё плача па мне, з гора сохне і ные, нябога,— палівае зямельку слязьмі, упрашаючы Госпада Бога? І цяпер усё ходзе глядзець, «ці не гоне ён быдла із лесу?» А мо з кніжкай у руцэ, у чорным плацці, адзін, пахаджае па сцежцы ля лесу, кветкі-зелле рве, у паперы кладзе ды, нагнуўшыся, нешта ўсё піша? А мо босы, малы, па ржышчы бяжыць у кашульцы бялёвай кужэльнай, з хаты весткі нясе або воду імчыць із крынічкі халоднае жнеям? Ды нідзе не відно, не чуваці яго — у халоднай Сібіры гібее... І за што? — усё пытае ў сябе і не можа ўцяміць, нябога, за што сына забралі яе, засудзілі, трымалі ў вастрозе, на засланне ў кайданах вялі па шырокай сібірскай дарозе... Ды стаіць у чыстым полі адна, нешта ў яснага слонца пытае; рукі ломіць свае, з ветрам мову вядзе — усё сыночка свайго ўспамінае...

Прысніся, мой тату, з'явіся, радзоны, паглядзі на жыццё свайго сына!.. Раскажы пра гасподу сваю, пра садок, паплавы, пра крынічку; раскажы, як там Нёман цячэ, ціха лозы растуць, салавейка спявае ў лузе; як шуміць сіні бор, ходзіць яха па ём і зязюлька кукуе ў тузе? Як руніць збажына, бела грэчка цвіце, як там жыта-пшаніца красуе? Раскажы, як там нівы растуць, сумна жнеі пяюць, зелянеюць лугі аксамітам; як каліна цвіце, сумна груша расце на мяжы, ля раллі, у адзіноце? Раскажы, як народ наш жыве, раскажы мне пра край наш каханы...

Беларусь, Беларусь! Агнём імя тваё мне гарыць, з песні ласкаю маткі нясецца, ясным слонцам у размове стаіць і грымотай у гнеў раздаецца. Бачу смуклую постаць тваю, як абраз усялюдскай пакуты... Табе песні складаю, вяршую, пяю — к табе сэрцам навекі прыкуты. Як нявеста ў няроднай сям'і, ты пасагу сабе не надбала; залатыя кляйноты свае ў пыху сёстрам сваім даравала. Ссохлі вусны ад смагі твае, пахілілася голаў на грудзі... Слязьмі выела вочы табе... Абабралі красу тваю людзі. І стаіш у мяне ты ўваччу, цябе з думак і ўночы не зводжу. Як жаніх на нявесту гляджу, адарваці вачэй я не можу!..

Беларусь, Беларусь! Ты ядына маё заляцанне, ты і вера мая, і надзея мая, і любоў ты мая, і каханне. Ужо яснае сонца над намі ўзышло, асвяціла праменнем свабоды; расчыніліся дзверы ў нова жыццё, у гмах братэрства, і шчасця, і згоды. Закрасуй, запышэй, Беларусь, як цвет маку і красак у маю. Няхай славіцца імя тваё па бел-свету ад краю да краю!

## НАША ГАСПОДА

Ды не спалохала цяжкая праца татульку. Атрымаўшы ў спадчыну — як ён сам выслаўляўся — два бёрды, навой і кажух без каўнеру, ён не меў сапачынку і ўночы: рупіўся, дбаў, прыспараў і не даў сабе тхнуць, покі не ўзбіўся на вольную сцежку. І гаспадарка з часам зацвіла й загула, як дунай. Цяпер, куды ні зірнеш, на што вокам ні кінеш — усё голасна сведчыць, што гэта заможна гаспода, што жыве тут старанны, працавіты гаспадар, і прыдбана ўсё гэта не ў год і не ў два, а доўгім жыццем, ахвотнаю працай да сэнсу.

Двор наш зрабіўся, як вуліца ў вёсцы. Шэры будынак яго шчыльна стуліўся абапал і робіць уражанне доўгае лініі ў лесе.

На першым месцы тоўпіцца хата, яшчэ старасвецкай, дзядоўскай будоўлі. Страха на ёй звісла на сцены, як аблавухая шапка на вочы. Улетку зарастае яна травою, рамонам, нейкімі доўгімі жоўтымі кветкамі і смугла-зялёнай лебядою — тэй самай лебядою, каторую ў свой час дзяды нашы прымешвалі ў хлеб дзеля «спорнасці і прыбытку». Цяпер дзяўбуць яе куры на дождж, а пад навальніцу ліжуць сабакі — больш нікому яна не патрэбна, бо й жывёла, нюхнуўшы, трасе галавою ды шукае іншае стравы... Сама хата сагнулася, як баба ад старасці, нахінулася неяк назад ды ўелася ў зямлю, але падслепаватыя, чорныя здалёк, вокны вызіраюць з-пад стрэх прыветна й ласкава, як родная маці. Побач, каля брамы з парканам, што адгароджвае двор наш ад вуліцы, прытулілася студня з высокаю тоўстаю «бабаю». «Баба» знізу крыху падгніла і нахілілася ўперад, дык, дзеля падтрымання, яе абнеслі навокала зрубам і ўтрамбавалі каменнем з зямлёю. З гэтага зруба выглядае яна, моў тая чапля з купіны, калі стаіць нерухома, падкурчыўшы нагу, ды сочыць пажыву. «Журавель» з вядром, як дзюб бусла з купінай у роце, вісіць над вялізным карытам, дапасаваным з таўшчэрнага даўнейшага чоўна.

З гэткага чоўна зроблен у нас жолаб у стайні. Нябожчык наш дзядзька Матэва праз дзён колькі «хаваўся ў ём ад праваслаў'я» і казаў, што пачуваўся там добра й прасторна, як лепей не трэба. А чалавек ён быў не маленькі! Бывала, па хаце не пройдзе, каб не сагнуцца, бо замінала яму і столь, і бэлька, і ўсё чыста ў хаце. І вось у той час, як добрыя людзі шукалі сабе паратунку па ямах, паграбох, лёхах, як уцякалі яны ў лес ды гібелі там з голаду і холаду, як Хвэлька Каваль мусіў апынуцца ад жаху ў Коўне — тым

часам дзядзька спакойна палежваў пад сенам у жолабе і вухам не вёў. Конь хрумстаў сена, а ён пасміхаўся ў вусы...

Не расце цяпер лес, як даўней! Вось глянеш на кавалак даўнейшага чоўна, дык дзіва бярэ, дзе магло вырасці гэтакае дрэва, які грунт узгадаваў гэтакую веліч? Паглядзіш, змяркуеш і — такім пышным і мілым малюецца ў думках абраз старавіны, што Божа мой мілы! Робіцца сумна, нядобра... Як яснае слонца чорнаю хмараю, засцілаецца сэрца смуткам і жальбою. Стаіш, як прыкуты, глядзіш, як непрытомны, ды — марыш і марыш бясконца. І здаецца, што не было даўней ліха на свеце, што не ведалі людзі сучаснай галоты, бяды і ўціску, а ўсім было добра, спакойна і вольна. І слонца, здаецца, свяціла яскравей, грунт быў чарней, ураджайней, і скрозь панавалі прастор і краса. Ды знікла ўсё гэта, растала, як мара, і не вернецца болей ніколі, як маладосць наша, як першае наша каханне...

Проці хаты, крокаў колькі ад студні, стаіць варывенька з маленькімі, у дзве шыбы, вакенцамі. Шалявання ў вокнах няма, шыбы пасінелі й пажоўклі ад слонца і пазіраюць на хату, як сляпы ў паветра. За варыўнёю, пад аднэю страхою, пасталі ў радок свіран з прыгрэбнікам, павець, хлявы і дрывотня. Разам з хатаю, у адным зрубе з ёю — камора, за камораю — сметнік, рассаднік, абгароджаны тынам, а далей — зноў хлявы. На канцы двара, мэрам на горцы, красуе садок, або пчольнік, адгароджаны ад двара парканам з пералазам і весніцамі збоку, а за садком, на задох — гумно і адрынка. Паўздоўж садка, каля гумна і адрынкі — зелянее пругмень, і здаецца здалёк, што і садок, і гумно, і адрынка стаяць на зялёным ядвабным каберцы. Садок невялічкі, але густы і прыгожы. Вось як разрасцецца вясною, як зацвіце, закрасуе, як запахне цветам і кветкамі ды разальецца ў паветры салодкі пах мёду, дык і стаяў бы й глядзеў бы!..

## КАЛЯ КАРЧМЫ

Пачынае змяркацца, а татулькі з рыбы няма і няма. Матка — дык тая разоў колькі, бывала, збегае глянуць, ці няма рыбакоў каля карчмы, але надарэмна. Так яно заўсёды бывае, калі чаго пільна чакаеш. А рыбакі ніколі і самі не бавіліся ў карчме. Кожны памятаў, што не час цяпер джынджыкі біць — няма калі: трэба хутчэй сапачыць, каб заўтра

рана ўстаць ды зноў за работу прымацца. Каля карчмы ў гэты час адбываліся толькі звычайныя ў нас, будзённыя карчомныя з'явы. Там, на ганку ці на прызбе, пастаянна сядзелі вядомыя й па-за межамі нашага сяла — Антось Лузун, Сцёпка Латак і дзяк Ралькоўскі — ды кожны па-своему выяўляў сваю натуру. Трудна выабразіць сабе нашую карчму без гэтых людзей. Яны сядзелі тут з ранку да вечара. Карчма была для іх прытулкам і ўцехай, асабліва пасля таго, як яны, «спраўляючы ката», нарабілі пажару ды спалілі дзякову кватэру. Ледзьве выскачылі яны з палаючай хаты, а дзяк астаўся і босы, і голы. З таго часу ўлетку хадзіў ён, накінуўшы на плечы вялікую жаночую хустку, Бог яго ведае адкуль узятую, а ўзімку насіў «раманаўскі кажух», каторы купілі яму сяляне ў складчыну. На лета кажух адбіралі, каб не прапіў, ды хавалі ў старасты.

Антось Лузун, Сцёпка Латак і дзяк Ралькоўскі разам жылі, разам пілі, разам начавалі, але ніколі не сварыліся, бо, выпіўшы, мала размаўлялі, а больш спявалі і то кожны паасобку, не замінаючы і не перашкаджаючы адзін аднаму. Дзяк любіў перасыпаць свае кароткія спевы «пякельнымі», як людзі казалі, словамі. Праспяваўшы, напрыклад, слоў колькі, ён раптам скрыгітаў зубамі ды крычаў:

— Ссаддоммія!

А далей дробна, як рассыпаючы гарох, зноў пачынаў выводзіць пачатак аднае і тае песні:

Скучна мне, скучна мне
На чужой старане!
Чужа-дальня старана...

— Ггамморрыя! — канчаў ён ды зноў пачынаў скрыгатаць зубамі заядла і ўпарта, мэрам жадаючы паламаць сабе зубы. Спяваў ён каля карчмы і духоўныя канты, але на матыў звычайных сялянскіх песняў. У цэркаў хадзіў рэдка і неспадзявана як для сябе, так і для людзей. Там замяняў яго стараста Крэўчык, каторы спачатку смяшыў людзей сваімі асабістымі спевамі, а далей нічога, прывыклі. Спяваючы, Крэўчык так моцна выцягваў уверх сваю шыю і так тоненька і піскуча выводзіў, што свежаму чалавеку здавалася, што яго нехта рэжа. У дадатак да гэтага, ён так праймаўся кліросным спевам, што часта блытаў ц.-славянскія спевы з польскімі і заміж «аллілуіа» спяваў «аллялюя». Але яшчэ горш было, як трапляў на кліра сам пан Ралькоўскі. Усчыналася калатня. Дзяк намагаўся вярнуць страчанае права на гаспадарства на клірасе, а Крэўчык не здаваўся.

— Ідзі праспіся! — шыпеў Крэўчык на дзяка.

— Лезь на званіцу! Чаго ўзбіўся на кліраc? — рыпеў траскучым шопатам Ралькоўскі ды, зняважліва павярнуўшыся ў другі бок, задаваў сабе тон: «соль-сі-рэ-сі-соль». Уз'ярытаваныя, яны часта штурхалі адзін аднаго пад бокі і забываліся адказваць на возгласы свяшчэнніка. Тагды стары, сівы наш попік, моцна кашлянуўшы, пачынаў сам сабе адказваць, цярпліва выжыдаючы, покі яны ўлагодзяцца. Дзяк быў далёка спрытнейшы ў спевах і часта наўмысля збіваў Крэўчыка з тону. А збіўшы таго з панталыку, зларадна пасміхаўся ды шыпеў на ўсю царкву:

— Куды ж ты завёў, каб цябе сляпога вадзілі! Ці ж ты не чуеш, што трэба браць у актаву?!

— Адчапіся ты са сваёю актаваю! — бараніўся Крэўчык.— Сам цягне, як воўк у Піліпаўку, а шчэ другіх папраўляе. Згіненне, даруй, Божа, цяжкі грэх!

Людзі спачатку абураліся, а далей прывыклі ды спакойна чыталі кантычкі, не звяртаючы на тое, што вычваралася на клірасе.

У той час, як Ралькоўскі выгукваў каля карчмы свае абякельныя словы, скрыгочучы зубамі, Сцёпка Латак, абхваціўшы голаў рукамі і хістаючыся з боку на бок, як жыд на багамоллі, нудна, як плач у чыстым полі, спяваў свае незлічоныя песні. Пачынаў ён іх ціха, а сканчаў яшчэ цішэй ды доўга сядзеў моўчкі, звесіўшы паміж калень ніколі не часаную голаў, мэрам углядаючыся ў тыя малюнкі, што выклікаліся песнямі. А памаўчаўшы, трос галавою ды зноў пачынаў:

А хто дачок мае,
Няхай навучае:
Позна да карчомкі
Гуляць не пускае.

Яшчэ нядаўна Сцёпка Латак быў сталым, паважным дзяцюком і павабным жаніхом. Дзеўкі лезлі к яму, як машкара на агонь, але ён адносіўся да іх, як певень да курэй.

— Акыш, каб на вас арлэ! Чаго лезеце, як слата?! — часам крычаў ён на іх з нейкай патураючай зняважлівасцю. А дзяўчаты не адставалі. Тым часам толькі адна займала яго сэрца. Трапілася так, што пайшла яна ў горад у наймічкі ды недзе зацярушылася ў горадзе. Казалі, што ўпала ў распусту. Сцёпка пешкі хадзіў даведацца ў горад, а вярнуўшыся дамоў, стаў піць, гуляць і не вылазіць з карчмы. Бабы курылі яго рознымі зёлкамі, паілі настойкамі,

пасылалі да знахароў і знахарак, нават раілі тайком паспавядацца ў ксяндза — ці не адверне, але нічога не памагала. Хлопец хадзіў як непрытомны. Ратунку не знайшлі ды адышліся. Так і застаўся ён сам з сабою, бо бацькі паўміралі яшчэ да гэтага выпадку. Любіць ён пагаварыць з Ральkoўскім аб сваёй згіблай палюбоўніцы, але той мала здавальняе яго запытанні.

— Кінь, Сцёпка, назаляць! — адказваў яму Ральkoўскі.— Нічога я не ведаю. Пі, калі п'ецца, і нічога не думай. Вось я нарабіў сабе сваімі думкамі. У семінарыі вучыўся, да акадэміі хацелі паслаць, а потым выгналі мяне, як сабаку, за думкі мае, і апынуўся я ў карчме. Кінь, брат, свае думкі аб ёй. Будзем піць, а далей — памром і нічагутка гэтага не будзе...

— Мне толькі жадаецца ведаць,— казаў Сцёпка,— хто яе падбіў на гэта і нашто яна гэта зрабіла?!

— Гэ! Лягчэй табе будзе, ці што?! — адказваў дзяк.— Бо сцерва была, ты думаеш што лепшае?

Дзяк пачынаў сердаваць, а Сцёпка адварочваўся, цяжка ўздыхаў ды зноў верадаваў свае раны песнямі:

А Божа, мой Божа,
Што цяпер за свет!
Каго верне любіш,
Таму праўды нет.

Антось Лузун не паходзіў ні на дзяка, ні на Сцёпку Латака. Гэта быў чалавек іншага кшталту. Досыць сказаць, што рудыя вусы яго мелі такі задорлівы выгляд, мэрам хацелі сказаць усім добрым людзям:

— Крані толькі майго гаспадара, дык пазнаеш ты, па чом хунт ліха!

І людзі сцерагліся Лузуна і паважалі яго, як той бруд на трэсцы. Але натура Лузуна не мірылася з бясчыннасцю і вымагала актыўнага руху. Нягледзеячы на асцярожнасць людзей, ён такі трапляў недзе на свайго, бо шкурка на яго носе ніколі не зажывала, і часта яго сіне-барвовы нос аздабляўся папяроснай паперкаю, асабліва ў гарачы, спякотны час, як назалялі мухі. Сам ён тлумачыў незажыванне свайго носа тым, што ў яго пастаянна лужыцца шкурка, а людзі прадражнілі яго за гэтую брахню Лузуном. І цікава, не зважаючы на сваю ваяўнічую натуру, Лузун ніколі не біўся з таварышамі па пляшцы, хоць яму падчас і маркотна, мабыць, было з імі, бо да спеваў ён здольнасці не меў. У вольны ад гарэлкі час ён ціха сядзеў і нешта

думаў, а прахапіўшыся ад думак, трос у паветры кулаком ды пагражаў некаму ворагу:

— Ану, маршч у катух! Не маеш полнага права!..

Што ён думаў? Бог яго ведае. Мабыць, распаляўся смяртэльнай помстай да тых, хто быў вінавайцам яго ніколі не зажываючага носа. Усю паўнату свае натуры Лузун выяўляў дома, ваюючы з жонкаю і дзяцьмі. Звычайна рабілася гэта пад поўнач, у той час, як траплялася яму вярнуцца дахаты. Гаспадарку ён кінуў даўно, разважыўшы, што ўжо сваё адрабіў, а цяпер павінны працаваць на яго дзеці. Дзеці былі яшчэ малыя, а таму ўсю гаспадарку вяла яго працавітая, паважаная ўсімі жонка, Мар'яна. А ён піў і гуляў, піў і ніколі не каяўся і не заракаўся, як гэта робяць іншыя на пахмеллі. Ён п'янстваваў без жадных хітрыкаў і цягнуў у карчму ўсё, за што можна было выпіць: жыта, хлеб, хамут, дугу, хусткі, жончыны ўбранні, курэй і яйца. А вярнуўшыся часам пад поўнач дадому, біў гаршкі, ламаў качэргі і катаваў жонку, калі тая не ўспявала схавацца да суседзяў. Апошнімі часамі Мар'яна з большым сынам ухітрыліся звязваць яго вяроўкамі ды класці пад пол. Ён роў там, як вяпрук, ды аж плакаў ад злосці. Дзеці, пахаваўшыся на печы, трымацелі ад страхоцця і не спалі да свету, покі не засыпаў бацька, змогшыся пад палом.

Меў яшчэ Лузун маленькую сучку, Шульку. Бывала, угледзець Антося без Шулькі альбо Шульку без Антося было б надзвычайным з'яўленнем. Яны былі злучаны непарушным замілаваннем.

Цяпер Шулькі няма. Яе задушыў пан Ралькоўскі дзвярыма, як казалі, наўмысля, бо ненавідзеў яе за памаўзлівасць і назалянне. Тым часам Антось Лузун еў з ёю з аднае міскі, слаў ёй пасцель, няньчыўся з ёю, як маці з дзіцем, і не расставаўся з ёю ані на момант. Дзе быў Антось — там была і яго Шулька. І хто яго ведае, чым больш праслаўляўся Антось: сваёю натураю ці гэтаю Шулькаю. Лузун тры дні плакаў па Шульцы, як задушыў яе пан Ралькоўскі, а потым зрабіў труну і пахаваў на ўздарожжы. Ён маніўся паставіць крыж, і толькі пагроза сялян, што паскардзяцца станавому, усцерагла Лузуна ад гэтага кроку.

## ДОМА

### I

Змрокам татульку чакае ўся хата. Ужо лучнік разложан, запален агонь, а яго няма. Пара вячэраць. Сям'я сланяецца па хаце, як мухі ўвосень. Асабліва верадуе Катарына. Яна ўжо прыбралася, прычапурылася і не ўрымсціць, каб хутчэй павячэраць ды бегчы к дзяўчатам на прызбу або на вячоркі. Паўлюк гэтаксама, абуты ўжо ў боты, жадаў бы выйсці на вуліцу да хлопцаў. Петра, як гаспадар у хаце, трымае сябе павальней. Ён проста хоча есці і сапачыць — наверадзіўся за цэлы дзень. Нават каб трапілася, што ў Бірулі цікавая «сэсія» сягоння, дык ён бы не пайшоў. Міхаліна, яго жонка, не мудруючы доўга, без жадных там хітрыкаў, лажыцца на лаўцы «спагнаць крошку сон». Сон — яе вораг. Часам і вокам маргнуць не паспее, як зляжа ў ног свайго супастата. Дзеля таго яна заўсёды ў стане змагання з ім. Улетку бароніцца ад сну тым, што палошча твар халоднай вадою, а ўзімку — морыць яго верабінамі. І толькі ў вольную часіну «спаганяе сон» лежучы. Самы дасканалы спосаб — апошні, бо верабіну, напрыклад, трэба ўжываць бясконца: покі есць ды ныюць сківіцы ад кіслі, дык не спіць, а як перастала — зноў заснула...

Ёсць у хаце ў нас яшчэ адна асоба, каторая жджэ не дажджэцца татулькі. Гэта — малы наш Юзік. Праўда, не вячоркі яго руцяць і не есці яму хочацца, бо ён павячэраў даўно — Юзік чакае гасцінца. Сон спавівае яго пачуцці, вочы зліпаюцца, векі цяжэюць, але ж ён не кладзецца. Каб не заснуць, як Міхаліна, дык ён шукае сабе забаўкі. З гэстаю мэтай залазіць на печ, лажыцца там з краю, падлажыўшы пад голаў халат ці кажушак, ды пачынае барабаніць аб столь кулакамі, перацінаючы ў тахт языком, як музыка на іскрыпцы. Робячы гэта, ён забівае двух зайцаў у адзін прысест: праганяе сон і дражніць Катарыну, каторая ўжо цеперся ўвіхаецца каля люстэрка.

На хлопцаў роста,
На дзяўчат кароста,—

пачынае ён спярша борзда і весела, а потым змерна і з націскам, скрывіўшы набок губы і адбіваючы кулакамі тахту:

Не вяліка й не мела,
Як дубовая кара,
Каб чуха-ліся, дралі-ся!
На вячоркі спя-ша-лі-ся!

Збоку гледзячы, можна падумаць, што Кацярына й вухам не вядзе — начхаць ёй на гэтага задзіру, а тым часам, праходзячы міма, яна стрымацца не можа, каб не ўшчыкнуць яго за кумпяк, хоць і сама потым не рада, бо Юзік крычыць на ўсю хату:

— Не лезь, калі цябе не чапаюць, бо горай буду!

І дапраўды, пачынае горш, ды так, што аж матка прымушана ўмяшацца.

Не йдзі, не йдзі, дзеўча, ў поле,
Бо там цябе казак сколе,
Ды такою тычынаю,
Што не будзеш...

— Э-эй, леўка, што ён выслаўляе! — супыняе яго матка.— На што добрае — глузду не хопіць, а гэта — глядзі ты!..

А Юзік здолен як на добрае, так і на благое. Ён дзесь чуў на вуліцы дый дадаў пры здарэнні. Сцяміўшы, што сказаў нешта брыдкае, ён чырванее, як рак, ды змаўкае.

Расчыняюцца дзверы, і ў хату ўваходзіць татулька. Чакаюць яго ўсе, а прыходзіць ён неўспадзеўкі. Дзеля таго, мабыць, першы сустрачае яго кот, катораму Петра адсек кончык хваста, каб не пекла печайка на той выпадак, калі б ён, па недагляду ў хаце, пахлябтаў часам вады ці якое стравы. Знюхаўшы рыбу, кулем, гад, шугае з печы, потым задзярэ хвост, яўкае, трэцца аб ногі ды скваплна пазірае на мокрую торбу з рыбаю.

— Псік! — адганяе яго татулька.— Абнадзіўся! Мышкаў табе мала ў каморы, ці што?

Калі ёсць маленькая, дык татулька дае яму рыбку або дзве, а калі няма, дык крыкне яшчэ раз «апсік» ды пачынае распранацца.

— А дзе ж гэта Юзік — спіць? — пытае тым часам татулька, наўмысля пазіраючы не ў той бок, дзе Юзік.

— Вось я, татка, за сталом! — аказваецца Юзік, як Піліп з канапель. Ён трапіў ужо злезці з печы і сесці за стол.

— Вунь дзе ты! — усміхаецца ў вусы татулька.— А я й не бачу ды думаю, што спіш...

Юзік ведае, што татулька перш-наперш дастане з кішэні пачак махоркі, панюхае яе з аднае ноздры, потым з другое, чхане разоў колькі, а нарэшце страсяне галавою ды аддасць Петру, прамовіўшы:

— Моцны ж, падла,— аж табе зорна ўваччу!

Сам татулька не курыў, хоць і прабаваў змоладу наву-

чыцца. «Але як пачало мяне ванітаваць,— расказваў ён,— дык затрашчалі ўсе шлункі мае. Я думаў, што жылы з мяне выцягне, хай ты згары, хай ты! А курыў я мох, зрабіўшы люльку з бульбіны...»

Распрануўшыся, татулька нешта хавае ў жмені ды, залажыўшы руку за спіну, падыходзіць да стала і садзіцца каля Юзіка.

— Злавіў я, сынку, зайчыка,— кажа ён перш, як аддаць гасцінца,— злавіў я зайчыка — ось там, каля крынічкі ў кустох. Хацеў прынесці дадому ды аддаць матцы на смажаніну. Аж ён кажа мне: «Не забівай мяне, чалавеча! Змілуйся нада мною: пусці мяне ў зялёны гаёк, у цёмны лясок, да кустоў гусценькіх, да дзетак маленькіх! За гэта я дам табе шмат пекных гасцінцаў, а ты занясі свайму маленькаму...»

— Юзіку! — падказвае Юзік і смяецца.

Татулька жартуе, але зайчыха, як жывая, стаіць уваччу, і Юзік бачыць нават, як яна плача ад гора, апусціўшы доўгія вушкі. Яму робіцца шкода і неяк прыемна. Атрымаўшы гасцінца, ён удзячна цалуе руку, а татулька гладзіць яго па галоўцы ды, адмераўшы да столі рукою, кажа:

— Вялікі расці!

## II

Юзік уцеха татулькі. Ён вельмі любіць яго, але патурацъ — не патурае. Нават не песціць і ніколі не цалуе, каб не асвойтаўся, як ён кажа, ды не страціў пашаны да бацькі. Юзіку ўжо гадкоў пяць, але выглядае ён большым. Колькі яму год, Юзік нікому не кажа і нават не любіць, калі хто й запытае.

— Табе мо сто год,— адказвае ён, зірнуўшы спадлоб'я,— а я ж не пытаю, не лезу ў вочы.

Чаму ён гэта робіць і дзеля чаго яму таіцца — Бог яго ведае. Гэта некі яго ўласны, таемны рахунак, каторы мае звязак з вучэннем, бо не раз ён дапытваўся, колькі трэба год, каб прынялі ў вучылішча. Яму сказалі, што трэба семвосем год, а ён яшчэ малы для навукі. Трэба яшчэ расці ды набірацца розуму. У звязку з гэтым Юзік нешта й надумаў.

Юзік вялікі ласун. Матка песціць яго і нацешыцца не можа. Каб прымеў, дык яна, здаецца, на дрожджах гадавала б яго і немаведама, што б аддала і зрабіла, каб ён хутчэй рос ды станавіўся на ўласныя ногі. «Нікому я ўжо не патрэбна,— часта гаворыць яна яму,— нікому, мой коцю!

А табе патрэбна, ой як патрэбна! Тыя ўжо пажаніліся, павыходзілі замуж ці так, дзякаваць Богу, пазнаходзілі сабе талент ў жыцці — астаўся толькі ты, мой любы нялетка. А я ўжо старая, ой, старая! Ногі мае не ходзяць, спіна не гнецца і сама ўся ледзьве цэгаю. Хавай Божа, памру — хто ж дагледзіць цябе, сірату? Хто расчэша тваю галоўку? Хто прывітае, хто так шчыра прыгорне, абніме, як родная маці!» І матчыны вочы мімаволі ўзнімаюцца ўгору, а вусны шапочуць малітву. Юзіку робіцца шкода і хочацца плакаць. Ён ведае, што далей матка пачне гаварыць пра сваю смерць, пра смяртэльнае белае плацце, а потым расплачацца, дадаючы сабе жалю, ды будзе цалаваць яго, прыгартаючы к грудзям. У такіх выпадках ён мяркуе ўцячы хутчэй на вуліцу, бо саромеецца, каб не падгледзелі хлопцы ды не прасмяялі яго «пестуном».

Татулька гэтаксама не спускае думкі аб ём. У вольную часіну сядзе каля яго, распачне гаворку ды спагадае.

— Падгадую цябе, аддам да навукі,— разважае татулька,— пастаўлю цябе на ногі і — тагды спакойна памру.

— Як, тата, памрэш? — пытаецца Юзік, шырока раскрыўшы свае вачаняты. Ён бачыў дзядзьку Матэву ў труне і смерці баіцца.

— Зіхану — дый па ўсём! — адказвае татулька.

— І цябе, тата, ніколі на свеце болей не будзе? — пытае Юзік, ківаючы ад дзіва галоўкай.

— Не будзе, сынку. Гэта я праўду кажу. Закапаюць, згнію і асот на мне вырасце.

— Чаму, тата, асот?

— Чаму? А што ж лепшае вырасце на костках старога чалавека?!

— А навошта, тата, Бог дае смерць?

— Не ведаю! Не хачу лгаць, сынок, не ведаю. Вось пойдзеш у навуку, дык мо сам дазнаешся з кніжак... А вучыцца трэба, конча трэ,сынку,— няма на што спадзявацца. Як адбярэ князь «пусткі», дык я не ведаю, што будзем рабіць! А чуваць — адбярэ, лесам хоча засаджваць.

У Юзіка свой рой думак, і ён распытуе далей:

— Тата! А калі Бога моцна папрасіць, дык Бог смерці не дасць, не дасць, тата?

— Не, сынку! Прасілі і чаго ні чынілі — не памагае. Прыйдзе час — маўчок! Дый што? На што старому жыць? Вунь Хлёрка стары — не жыве, а спіць, толькі ў хаце замінае.

— А чаму, тата, Хлёрка стары не хоча ўміраць?

— Бо Бог смерці не дае. Мусіць, памёр бы, каб смерць прыйшла. Доўгага веку чалавек, з французам ваяваў...

— А я, татачка, ніколі не памру. Буду ўсё жыць да жыць,— кажа Юзік, уздыхнуўшы на ўсе грудзі,— і цябе з мамаю шкадаваць. Вот як шкадаваць! — дадае ён, сціснуўшы ад шчырасці зубкі і прыціснуўшы да грудзей рукі.

## III

Павячэраўшы, татулька пастаянна кладзецца на пол, падкінуўшы пад голаў падушку ці што, [illegible] Юзіку загадвае раззуць яму лапці. Дзеля таго, каб зручней было раззуваць, дык ён спускае ногі на падлогу. Юзік садзіцца каля ног на кукішкі ды пачынае длубацца з мокрымі слізкімі аборамі. Аборы не развязваюцца, вузлы ад макраты заціснуліся, канца не знайдзеш. Юзік кідае вокам на стол, ці няма дзе паблізку нажа. На яго погляд тут лепшае рады няма, як узяць нож ды разрэзаць вузел, але татулька, адгадаўшы намеры яго, навучае:

— Ты зубкамі, зубкамі, а то мне аборы папсуеш!

Юзік нагінаецца ніжэй, дзярпае кіпцямі па вузлу, адлучаючы адзін кончык аборкі ад другога, а татулька тым часам распачынае гаворку на любыя яму біблейныя тэматы.

— Калі ты гэтакі, сынку, разумны,— кажа ён, ласкава пазіраючы на яго русявую галоўку,— калі, кажу, ты гэтакі разумны, дык скажы мне, за што Якуб больш за ўсіх любіў Язэпа — ага?

— Нёш не скажу! Бо ён быў самы маленькі ў хаце,— адказвае Юзік.

— Добра, хоць і не саўсім! А завошта браты не ўзлюбілі яго? Вось гэтага, напэўна, не скажаш?

— Бо яны зайздросцілі яму за лепшае ўбранне.

— І гэта добра! Ну, а цябе любяць браты ці не?

На гэтае запытанне Юзік адказвае не зразу. Ён спярша перабірае ў галаве, ці не зрабіў хто крыўды яму і ці не выдзер хто часам за вушы. Але не скаргу ён мае на мэце, не жаліцца татульцы ён хоча. Яго, бач, натура такая, што патрабуе падчас пачуваць сябе пагарджаным, бязвінна абражаным, сіратой-беспрытульніцай. Каму добра жыць, таму здзеку хочацца. І калі што-колечы трапіцца — а гэта часта здаралася — дык Юзік шморгае носам, пачуваючы салодкі козыт ад набягаючых слёз, ды сумна адказвае:

— Не, не любяць! Гэтаксама зайздросцяць ды мяркуюць, каб як прадаць мяне жыдам на мацу...

— Ха-ха-ха! — рагоча татулька.— Хто ж цябе прадасць — Петра, ці што? Ну, й дурань! Там было добра, даладне, а гэта ты скепсціў. Дзе ж бо ты бачыў, каб дзяцей ды прадавалі на мацу?! Ты ж думаеш, леўка, што — калі жыд, дык і Бэрка? Не, казаў я табе і яшчэ раз кажу: сам ты маленькі, а дурань на-адта велькі!

Юзік абражаецца. Ён сапе носам, варушыцца і нешта мармыча.

— Чаго ж ты маўчыш? — пытае татулька.— Марыкуеш, ці што?

— Вялік пень, але дурань! — адказвае ён, варавіта зірнуўшы на татульку. А далей хапае лапці ў рукі ды ўцякае на печ.

— А гад жа ты! А бадай жа ты скіс, сынку, бадай ты! Ха-ха-ха! — рагоча татулька.— Чуеш, маці, што ён кажа на бацьку? На язык, гад, востры, вось паглядзім, як будзеш вучыцца. Ці не гэтак, як Сёмкаў Плён: пытаюць у дурня, дзе жыве цар, а ён і кажа: у Клецку!..

У хаце смяюцца.

## ПАДАРОЖ ДА НАВУКІ

### I

Ніхто ў хаце не ведаў, што Юзік двойчы ўжо памыкаўся вучыцца і абодва разы ўкрадкам, нікому нічога не сказаўшы.

У першую падарож да навукі яму не пашанцавала. У школе на ганку стаяў некі маскаль у чорным, з блішчастымі гузікамі, сурдуце. Апрач таго, на галаве маскаль меў шапку з чырвонымі кантамі пры белай чэсцы на аколышку. Юзік спалохаўся. Гэтакія гузікі і чэску ён бачыў у пристава з вураднікам у той час, як тыя прыязджалі на разборку пасля пажару. Юзік гэта памятае.

Прыехаўшы тагды, пристаў першым дзелам завалаў прынесці драбіны, а далей ускочыў к Вальку на страху ды давай матлашыць абчасамі кадаўбы ў комінах. Паразбіваўшы іх, як табе кажу, ён сшугнуў на зямлю ды, у баяўнічым запале, стаў таптаць нагамі чарапы ад разбітых кадаўбоў, што паскідаліся са страхі.

— Не рабі гэтакай коміны, не рабі! Рабі з цэглы, рабі

з цэглы! — лямантаваў ён, топчучы нагамі чарапы з такою злосцю, мэрам пад нагамі ў яго ляжаў сам гаспадар пабітых комінаў.

Разматлаўшы усё на маленькія друзгі, ён памкнуўся быў да другое хаты, але ў той момант трапілася нешта, чаго прыстаў не чакаў. Валька Карусь бліснуў вачыма, выгнуў шыю, як бык перад бойкай, ды, выцягнуўшы ўперад рукі, цвёрда, але лагодна, прамовіў:

— Не спяшай, не спяшайся, пане прыстаў!..

А быў той час нашага жыцця, калі раптам трахнуў пярун у паветры і загойдаўся грунт пад нагамі. Неба ўкрылася чорнымі хмарамі, а паветра дыхнула магутнаю верай у волю і шчасце народа. Людзі радзелі, шчасліва смяяліся; як на Вялікдзень, братэрскі віталіся, і віншаваў чужак чужаніцу. Грудзі ўздымаліся высока і смела, калаціласся сэрца святою трывогай, а свет выглядаў як прыбраная хата ў свята і повен быў ласкі і шчасця, як сэрца нявесты, ідучай насустрач каханку!

Гэта быў той незабытны час жыцця, калі ржавыя кайданы з бразгам і звонам разляцеліся ў бакі, ■ над трухлявым гмахам людскай няволі закурэўся пыл парахні і руйнавання. Паўстаў народ, прачнуўся адвечны гаротнік, падняў вочы, поўныя жалю і скаргі, і, у прадчуванні лепшае долі, задрыжаў, сцепануўся ды з клічам у запечаных смагаю вуснах — жыцце ці смерць! — схваціў загрудкі пана адвечнага гора, пакуты й няволі...

— Не спяшайся, кажу, пане прыстаў! — казаў Валька спакойна і лагодна.— Не спяшайся, кажу,— увярэдзішся!..

— Что?!

— Паехала сто, пайдзі дагані — будзе твае! — адказаў Валька прыставу.— Ты чаго тут расхадзіўся гэтак? Чаго ты раз'еўся, каб цябе пранцы раз'елі?! Ці не шлёгнуў ты дзеля смеласці?

— Арэс-с-таваць! — гукнуў прыстаў, падняўшы губы, і арлом азірнуўся навокала, чапаючы шаблю рукою.

— Каго арыштаваць?! — падскочыла Вальчыха.— За што арыштаваць, абармот ты нялюдскі?! Ты думаеш, што ўшпігаваў свае грудзі, каб цябе кароста шпігавала, гэтымі бліщчастымі гузікамі, дык я спалохалася? Нашто ж ты кадаўбы пабіў, каб цябе Пан Бог з пяруна пабіў, каб цябе?! Нашто ты пасек іх, каб цябе скачыхі секлі; нашто ты паглуміў іх?! А Божухна мілы, а людцы мае! — кінуўшы прыстава, загаласіла Вальчыха.— А хто ў Бога веруе — сюды!!! ...

Панаходзілі людзі. Натоўп аступіў прыстава. Прыстаў

стаяў, як вар'ят, бліскаў вачыма, як воўк, і не ведаў, бядак, адкуль што бралося. Старшыня, каторы таксама прыехаў на разборку, сядзеў ужо на вазу ды торкаў лейчынамі, каб уцячы, мабыць, а вураднік, падцяўшы шаблю, як сабака хвост ад страху, ціскаўся по-пад вуголлю ды нешта міргаў старшыне. Але той нічагутка, мабыць, не бачыў ад страху. Тым часам народ валіў, як вада ў навальніцу.

— Годзе! — крычалі навокала.— Годзе здзекавацца, даволі смакталі нашую кроў!..

— Прэч! Далоў!

— Бунт! Страляць! — крыкнуў прыстаў, згубіўшы прытомнасць.

— Які бунт?! Нашто палохаць чорта ў балоце! Убірайся ты к чортавай матары!

— А вось я яму пастраляю, пачакай трошкі! — крычаў нехта з натоўпу.— Пусці, расхініся, народ!..

Як не здурэў прыстаў ад страху, як не тумавіў глузду яму зняважаны гонар яго, як не шалеў ён ад пачуцця ўласнага бяссілля, але сцяміў, што гэта піва непярэліўкі і трэба паслухаць інстынкту, даўно валаўшага павярнуць аглоблі наўцёкі. А праканаўшыся, што трэба ўцякаць ад ўчынку ўласнага глупства, ён раптам абмяк, пасавеў і сагнуўся. Пацёк пот у яго па твару, валасы ліплі на лбе; палеты схіліліся і звіслі на ніз, як у мокрае курыцы крылля. Задам, не спускаючы воч з натоўпу, ён прапхнуўся да брычкі, дзе ўжо сядзеў вураднік са старшынёю, сеў, як мяшок, ды даў махні-драла. А ўслед за ім, як маханне шапак і хустачак пры адыходку цягніка, нясліся жарты й смех, жаночыя «літанні» і дзіцячы плач...

Усё гэта Юзік успомніў. І цяпер, угледзеўшы маскаля з бліскучастымі, як у прыстава, гузікамі, Юзік схаваўся за шула ды стаў цікаваць: што ён там робіць, успёршыся на пярыла? А маскаль (салдат) трымаў пад пахаю сякеру ды пыхкаў цыгарку.

Цыгарка ўжо дагарала, але ён, мабыць, не накурыўся, бо не кідаў. Шчыльна трымаючы недагарак у кіпцях, ён выцягваў губы, як бы пнучыся пацалаваць нечы твар у паветры, асцярожна падносіў недагарак да вуснаў, смачна смактаў ды ўздыхаў на ўсе грудзі, пускаючы дым у тры рагі — з рота і з ноздраў. Гэтак зрабіў ён раз, другі і трэці, а на чацверты раз не ўдалося: цыгарка згарэла і пасыпалася.

Маскаль, мусіць, апёк сабе кіпці і губы, бо раптам хуркнуў і плюнуў; потым затрос пальцы ў паветры ды, рас-

цёршы абчасам рэшты цыгаркі, стаў брыдка лаяцца. Юзік спалохаўся ды даў драла дадому.

Нягледзячы на няўдачу, тым часам гэтая падарож, ад хаты да вучылішча і ад вучылішча да хаты, мела свае добрыя скуткі: Юзік працерабіў сабе сцежку да школы і набраўся адвагі. У другі раз ён быў смялейшы, тым больш што і на ганку нікога не было. Тагды ён, як следна, трапіў да клясы і меў там з настаўнікам цікавую размову, а якую — хутка пабачым.

## II

Юзік даўно ўжо зайздросна паглядаў на тых хлопцаў, што бегалі ў школку: яму жадалася мець уласныя кнігі. А ў вучняў заўсёды працьма ўсялякіх кніжак, пёрак, алоўкаў і паперы. Усе яны ўвечар, прыйшоўшы дадому, пачынаюць нешта пісаць і чытаюць; потым нешта ўсё лічаць, рахуюць і з кніжак малюнкі рысуюць. А яму так хочацца пагартаць кніжку, паглядзець рысункаў, папісаць алоўкам альбо пёркам па паперцы. Дык яму не даюць, шкадуюць або баяцца, каб не падзёр кніжкі ды не папсаваў пёрка. А ён, даліпан жа, ніколі б гэтага не зрабіў! Было такое здарэнне, дык — калі? Ён быў тагды зусім яшчэ маленькі і дурны ды не ведаў, як што і да чаго.

Гэты выпадак трапіўся з ім летась на Каляды, тагды, як прыязджаў з семінарыі Антось наш на вакацыі. Антосю заманулася нешта парысаваць. Матка заслала стол чыстым абрусам, выцерла яму лаву ля стала, а сама лягла сапачыць на печы. Дома нікога не было. Адзін толькі Юзік сядзеў на палу ды рабіў сабе скрыпку з лучыны. Антось разлажыўся на стале, дастаў алоўкі, паперы, скрылікі хварбы ў жоўценькай, з чорным вечкам скрыначцы; выняў лінейкі, пёркі, стрынгалі, як батлейчыкі, з бліщчастымі вострымі ножкамі, ды, нахіліўшыся над папераю, стаў нешта маляваць, развёўшы хварбу ў малюпаценькіх белых талерачках. Пакрэмзаўшы крыху, Антось кудысь адвінуўся — мабыць, выйшаў на двор, а Юзік тым часам, кінуўшы скрыпку, ускочыў за стол, схапіў борздзенька аловак у руку ды давай шмараваць па шурпатай тоўстай паперцы. На паперцы быў нарысаваны якісь стаўбунец і намалёвана гвязда ў розныя колеры. Юзік да іх не дакрануўся, каб не запэцкаць, а шмараваў алоўкам знізу, пад гвяздаю. Накрэмзаўшы кучкаў пяць кашы, ён маніўся ўжо скончыць ды

йсці дарабляць сваю скрыпку, але зажадалася яму стрымацца, каб нарысаваць зверху крывульку. Дзеля лепшага выканання, каб чарней вывесці хвосцік у гэтай крывульцы, дык ён паправіў другою рукою аловак у руцэ, нахіліўся бліжэй да столу, выцягнуў шыю, высалапіў язычок ды так моцна шмаргануў збоку налева, што аловак луснуў і адваліўся. Нарабіўшы бяды, ён азірнуўся і раптам пачуў, як застукала сэрца і пагарачэла ўсярэдзіне. Што рабіць? Не чакаючы доўга, ён прутка скочыў на зямлю, узлез на тапчан, пералез цераз матку ды прытаіўся на печы за комінам.

У гэты момант рыпнулі дзверы і — увайшоў Антось. Той быў пры добрым настроі і, уваходзячы ў хату, спяваў, а спяваючы, намагаўся ўзяць самую тоўстую актаву. «Пастары граюць,— спяваў Антось,— цуда, цуда паведаюць. Хрыстос радзіўся, Бог ваплаціўся!» — скончыў ён, зачыняючы хату. Сеўшы за стол, ён сцепануўся ад холаду знадворку, зрабіў сабе цыгару ды зірнуў на паперы... потым на хату ды зноў на паперы. Цыгара патухла і прыліпла к губе. Антось устаў, аперся аб стол і, стоячы гэтак, паводзіў галавою то з хаты на паперу, то з папераў на хату. Уся постаць яго выяўляла адно дзіва і запытанне. Цуд, ды годзе! І нікога, здаецца, у хаце не было, а тым часам... цікавасць!

Каб Антось знаём быў са спірытызмам, дык бы навоч пераканаўся, што «ёсць на свеце нешта такое, мой дружа Гараціо, чаго й не снілі мудрацы».

Тым часам ад напружання, ці ад жары, ці проста ад пылу на печы, у Юзіка запяршэла ў горле і заказытала ў носе. Ён не стрымаўся і — чхнуў на ўсю хату... Выйшла простае тлумачэнне таёмнага з'яўлення...

Але ж гэта было даўно, і цяпер Юзік сам добра ведае, што рабіць так не можна і кепска. Цяпер такое глупства ён ніколі не зробіць, бо ўжо не маленькі і не дурненькі...

А дома, апарт польскай Бібліі, у парудзелых чорных вокладках кантычак, з абразікамі ўсярэдзіне, Юзік жадных кніжак не бачыў. Антось мае шмат кніжак, але ж ён гэтаксама не дае паглядзець і хавае ў скрынцы. Хіба часам увечар, як збяруцца да нас суседзі, пачытае «Сёмку», каторы адратаваў людзей, спыніўшы цягнік, трымаючы ў руцэ, заміж сігналу, выкачаную ў сваю кроў хустку; або яшчэ «Гутарку Паўлюка», каторая надта прыкладна і смешна напісана. Чытаў ён раз пра тое, як маскаль вядзьмара падашукаў. Вот дзе было смеху!

Вядзьмар быў на вяселлі і вельмі хваліўся, што ён што захоча, тое і зробіць. Людзі яго баяліся, наравілі, як той скуле, і паважалі, не раўнуючы, як той бруд на трэсцы. Вось маскаль слухаў, слухаў, а далей і кажа: «Гэ! Што ты за вядзьмар?! Вот я вядзьмар дык вядзьмар! Захачу — дык зараз зраблю, каб табе вочы на лоб павылазілі».— «А ну, зрабі!» — кажа вядзьмар. «Добра!» — адказаў маскаль ды стаў гатавацца да чарадзейства. Дзеля гэтага наліў шклянку гарэлкі, паказаў ведзьмару ды запытаў: «Бачыш, што гэта?» — «Бачу,— кажа вядзьмар,— гарэлка».— «Ну, вот і дзякаваць Богу. А цяпер стрывай крошку, васпане, я мушу паваражыць»,— сказаў маскаль ды, адвярнуўшыся, усыпаў у шклянку табакі. А ўсыпаўшы, размяшаў яе ды падаў ведзьмару, кажучы: «На, пі, але ўсю да кроплі, бо задушу!» Той пакаштаваў ды паставіў на стол. «Пі!» — грукнуў маскаль кулаком. Вядзьмар мусіў выпіць, ды аж вочы вытарашчыў. А далей ў лямант: «Ратуйце, добрыя людзі, усё нутро маё загарэлася!» І пачало ванітаваць яго з усіх шлункаў яго...

Потым доўга людзі рагаталі, успамінаючы той ці іншы выраз з аповесці, ды аж за жываты хапаліся...

Да гэтага часу Юзік здавальняўся тым, што калі-нікалі гартаў кантычкі, і толькі таго. Біблii ён не чапаў, бо яна дарма што важкая, як цэгла, а рысункаў не мела. Рысункі былі ў дзвёх толькі кантычках: у адной сярод тэксту, на звычайных лісціках, а ў другой — асобныя маляваныя абразкі на розныя здарэнні з жыцця Езуса.

Кантычкі разам з Бібліяй ляжалі высока на бэльцы і, каб дастаць іх, дык трэба збудаваць рыштаванне. Праўда, можна было спароць, як спорваюць гнёзды, але Юзік баяўся, бо ў кантычках татулька клаў свае акуляры, спораш — паб'еш, хай іх цяміць! Іншае рады не было, як прымасціцца, зрабіць сабе рыштаванне. Дзеля гэтага, дачакаўшы нядзелькі ці свята якога і высачыўшы, што ўсе паразыходзіліся з хаты, адна матка ляжа на печ сапачыць, насунуўшы намітку на вочы,— Юзік ставіць пад бэлькай зуслон, на зуслон — калодачку, а на верх залазіць сам ды, стаўшы на дыбачкі, шарыць па бэльцы рукою, покі не знойдзе кантычкі. Калодачка хісталася, ногі дрыжэлі і — як ён трымаўся, каб не абазвечыцца, то Бог яго ведае! Але што? Па гнёзды ён лазіў і не на гэтакую вышыню і — нічагутка. Дрыжыць, леўка, калоціцца, а лезе...

Ціха ў хаце, адзін кот мурмэча на лаўцы. Хата прыбрана, чыста замецена. На абразох — фіранкі, на сценах —

доўгія ручнікі. Стол засланы абрусам, а на стале, з краю — кастры блінцоў пад белым настольнікам. З печы смачна патыхае верашчакай.

Матка спіць. Ціха. Чуваць, як лётаюць мухі. У кутку за сталом сядзіць Юзік. Ён нахіліўся на стол і ціха шамоча паперанк. Гэта ён гартае кантычкі, дастаўшы іх з бэлькі, ды глядзіць рысункі. Не адзін раз ён бачыў гэтыя рысункі, а ўсё цікава! Ён ужо ведае, што, дзе і на якім баку будзе; з іншымі рысункамі ён нават размаўляе, як са старымі добрымі знаёмымі. Адгарнуўшы, напрыклад, лісцік з рысункам, дзе апостал Петра трымае рыбу на вудзе, Юзік знаёма пасміхаецца ды звяртаецца да рыбы запанібрата:

— А ты й досі на вудзе? Не адарвалася? Мо-о-цна ён цябе трымае за гарляк!

А вот таму маскалю, што стаіць з пікай каля крыжа, Юзік прашараваў пальчыкам вочы за тое, што той, як тлумачыў татулька, пракалоў Хрысту грудзі. Потым татулька сварыўся, бо разам з вачыма прашараваліся і літары на другім баку, але Юзік не каяўся, бо надта ж быў сярдзіты на таго маскаля.

З гэтых рысункаў у кантычках Юзік дазнаўся, што Пан Езус нарадзіўся ў стадоле на сене, разам з быдлам, дзеля гэтага й досі, на ўспамін Хрыста, засцілаюць сенам стол на Куццю. Татулька расказваў яму, што ў той час, як Езус нарадзіўся ў Батлееме, дык з'явілася гвязда на небе і прывяла к Хрысту трох каралёў на прывітанне. Затым і цяпер ходзяць з гвяздою на Каляды і робяць батлеяў. А калі Пан Езус хрысціўся, дык на галоўку яго зляцеў з неба голуб. «Дзеля гэтага,— дадаваў татулька,— на Правады пускаюць галубка ў паветра».

— А навошта, тата, страляюць? — пытаўся Юзік.

— Як навошта? Каб галубок спалохаўся ды ўздымаўся вышэй, пад неба.

Татулька часта заставаў Юзіка за разгляданнем рысункаў і адбіраў кантычкі.

— Ць-а! Зноў, гад, дабраўся да кантычак,— казаў татулька.— Дай іх сюды, а то падзярэш! Вось ты паслухай лепш, што я буду чытаць.

І татулька клаў кніжкі на бэльку, а браў адтуль Біблію ды пачынаў чытаць, заўсёды з таго месца, дзе кніжка сама разгорнецца.

Біблія — укаханая кніга татулькі. Яму плытнікі прынеслі яе з Вільні. Наогул, ён шанаваў кнігі рэлігійнага зместу. І хоць багамолствам татулька не слынуў, але аку-

ратна спавядаўся, любіў набажэнства, кожную нядзелю хадзіў да царквы, а калі трапіцца, то і да касцёла. Касцёл паважаў ён болей за царкву і лічыў сябе каталіком, хоць спавядаўся ў царкве і быў вернуты на праваслаўе таго часу, калі дзядзька Матэва хаваўся «ад праваслаўя» ў конскім жолабе.

Татульку вельмі цікавіць пытанне, чыя вера лепшая — «руская» ці «польская», каталіцкая ці праваслаўная? На гэты тэмат ён заўсёды ахвоч пагаварыць і паспрачацца, і як прыедзе, бывала, Антось з семінарыі, дык толькі і гаворкі з ім што пра веру. Справядлівасць веры татулька бачыць у тым, якая з іх першая пачалася і якая лічыцца самаю найдаўнейшаю. «Бо даўней,— кажа ён,— сам Пан Езус Хрыстус хадзіў па зямлі, а значыцца, даўнейшыя людзі лепей ведалі, якую Бог даў лядзям пастанову». З гэстага боку Антось ясна даводзіў лічбай з тэй кніжкі, якую вучыў у семінарыі, што праваслаўная вера пачалася першая. Але ж яму хацелася паказаць татульку розніцу вер у самым грунце рэчы.

— Спачатку,— казаў ён,— не было ў іх розніцы. Гэта была адна вера, адно вызнанне, і абедзве яны пачаліся разам. Але з часам, у XI сталецці, папа рымскі...

— Святы Ойцец папеж,— рэдактуе матка, падпёршы шчаку рукою і пільна слухаючы. Яна была набожная каталічка, мела дзеда вунiята i да папы адносілася з глыбокай пашанай. А татулька ў спрэчках сам ужываў моцных слоў і не вельмі сцярогся, а дзеля таго і на другіх не звяртаў увагі.

— Рымскі папа,— не спыняўся Антось, зірнуўшы на матку з такім выглядам, як бы хацеў сказаць: «ат, кабеціна!»,— але папа рымскі, з уласнага сумлення, стаў мяняць, перакручваць і дабавіў у сымбол веры «філеоквэ»...

— Што ты мне ўсё тыцкаеш гэтую ф і л я б о к в у! — сярдуе татулька, бо слова гэтае, вядомае татульку ў асобку, у спорцы зацямнялася і засланяла яму розум. Ён пераставаў цяміць: мова Антося раптам рабілася чужою і неразумелай, «філябоква» разрасталася, чарнела і стаяла ўваччу, як сукаватая доўгая палка.

Наогул жа іх спрэчкі канчаліся лагодна, бо Антось шануе татульку, а татулька шануе Антося. Татулька нават паважае Антося, як сына, каторы хутка скончыць семінарыю ды будзе настаўнікам,— самому сабе гаспадар. У свой час ён навучыў Антося чытаць па-польску, а Антось аддзячыў яму тым, што, у сваю чаргу, навучыў яго чытаць па-

расійску. Яшчэ надта шкадаваў Антось, што татулька не цяміў славянскае граматы і прабаваў яго навучыць, але нічога не выходзіла.

— Не, нічога не будзе! — матаў татулька галавою.— Гэта лічба і літара... стаіць, напрыклад, тры літары — нельга вымавіць, а раскусіш, дык там вялізнае слова. Не, кінь і не турбуйся! Не цямлю, мабыць, стары стаў,— канчаў ён нарэшце. Потым Антось даведаўся, што татулька проста не хацеў вучыцца па-славянску, каб не чытаць праваслаўных малітваў. «А Эвангэлія,— казаў ён,— і па-польску ёсць, досыць з мяне».

Па-расійску татулька чытае ўсё, што пападзецца пад руку: газету, падручнік, «Возсоединеніе уніятовъ»; трапіцца «Іосафатъ Кунцевичъ» або Афонскі лісток, дык і пра Кунцэвіча і пра Афонскі манастыр прачытае. Яго асабліва дзівіць арыфметычны задачнік. Прачытаўшы, напрыклад, задач колькі, ён адвернецца, бывала, і загаворыць:

— Няхай Госпад крые, колькі тых грошай на свеце! І за сукно плаці, і за цукар плаці, і за машыну плаці — і на ўсё патрэбны вялікія грошы!

Толькі па-польску татулька нічога ў рукі не бярэ, апарт Бібліі і кантычак. Біблія — укаханая кніга татулькі.

Дзве рэчы мы маем — бязмен і Біблію, каторыя толькі на імя нашыя, а дома рэдка бываюць. Яны вандруюць з хаты ў хату і абыходзяць па чарзе ўсё сяло, як вартаўніцкая булава. Розніца толькі ў тым, што булава сваім часам перадаецца па чарзе ад суседа к суседу, а Бібліі і бязмена ніколі ніхто не прыносіць. Падчас трапіцца што зважыць, дык ідзі, распытуй, шукай, дазнавайся; выпадзе вольная часіна, заманецца татульку пачытаць Біблію, дык Юзік усё сяло агасае, покі ўзаб'ецца на троп, у каго апошні раз яе бачылі.

## III

Усё гэта агулам зрабіла тое, што Юзік цвёрда наважыў мець свае ўласныя кніжкі. Дзеля гэтага, разумеецца, кірунак адзін: трэба пайсці ў школу.

Няўдача першае падарожы да школы не супыніла Юзіка. У другі раз, як і першага разу, ён раненька ўстаў, апрануў матчын мантон (бо ўласнае вопраткі не было), узлажыў святочную Петраву шапку ды паціху ад усіх пачвалаў раніцай у школу. На гэта раз абышлося ўсё добра. Не

толькі на ганку ў школе, а нават на вуліцы нікога не было. Адно нечы кашлаты певень ганяўся па вуліцы за курыцай да Замкова Катрэчка за невашта лаялася праз плот з Дзямідоваю Зуляй.

— Увесь род твой памаўзлівы! — крычала Катрэчка.

— А тваю матку Сёмка злавіў у каморы,— адказвала ёй Зуля.

— Калі? Скажы, калі, каб табе ў бокі калола! — уз'елася тая.

— А летась на Святка, як муку крала...

У школе ў сенцах Юзік скінуў шапку ды стаў паціхеньку адчыняць дзверы, адкуль гуло, як з вулля. А расчыніўшы дзверы, стаў на парозе ды, як стары, прывітаўся:

— Пахвалёны Езус Хрыстус!

У класе зарагаталі. Юзік зірнуў і ўгледзеў поўную хату дзіцячых вачэй. Яны бегалі, гэтыя вочы, блішчэлі, як зоры, смяяліся ды, як магнусам, прыцягвалі да сябе Юзіка. Тым часам настаўнік, пахаджаўшы па класу, падышоў да Юзіка. Юзік ведаў яго.

Настаўнік быў родам, як казалі, з-пад Ярэміч і часта прыходзіў к Антосю ў госці. Бывала, улетку многа збіралася настаўнікаў і семінарыстаў у нас у адрынцы. У хаце горача, цесна, «дух цяжкаваты», дык Антось жыў у адрынцы. Там і стол стаяў на таку, зэдлікі, а па сценах былі развешаны малюнкі. Зышоўшыся, настаўнікі спачатку заводзяць спрэчкі, потым граюць на скрыпках, спяваюць, а пад вечар, як спадзе гарачыня, «маёўку праўляюць». Гарэлку глушаць, як ваду. І надта ж быў смешны наш настаўнік! Возьме пустую пляшку ў рукі, пацісне яе над чаркаю, а далей падніме ўгару ды заспявае:

Меня пад бочкай схораніце,
Паўным павнёханькай віна,
І так к ней кран вы проведзіце,
Чтоб водка с крана в рот цекла!

Юзік ведаў гэтую песню на памяць, але спяваць папанску саромеўся. Хай ім пусты свет з гэтымі панскімі песнямі і з іх панствам разам! Ён раз — не заспяваў, а толькі так, знячэўку неяк ужыў адно панскае слова і то — аж цяпер горача робіцца з сораму.

Зажадаў ён раз малачка, а мо і дапраўды жыватох забалеў. Вот ён звярнуўся да маткі ды кажа:

— Не табе кажучы, мамка, я нешта больной стаў.

І годзе! У хаце як падхапілі гэтае слова, дык Юзік гарэў ад сораму. Чуць што, дык — «А дзе ж гэта наш больной?

Ці не памёр наш б о л ь н о й, нешта ляжыць і не варушыцца? Добра б о л ь н о й, дзве міскі крупніку з'еў ды яшчэ не даволі! А ці не бачылі вы нашага б о л ь н о г а?» І пайшлі і пайшлі! Хай ты згары саўсім разам!..

Усё гэта зрабіла тое, што Юзік не вельмі спалохаўся, увайшоўшы ў клас.

— Чаго ты прыйшоў сюды? — спытаў настаўнік.

— Вучыцца! — не маргнуўшы вокам, адказаў Юзік.

— А колькі ж табе год?

— Восем,— салгаў Юзік і пасміхнуўся.

— Ой, брэшаш ты, жэўжык? — не даў веры настаўнік.— Надта ты, брат, зялёны, мэрам учора з яйца выйшаў!

— А я ўсе літары і абецадло з канца да канца ведаю! — сказаў Юзік ды борздзенька, каб не перабілі, стаў пераказваць: — a, b, c, d, e, f, l, m, n...

— Малайчына, малайчына,— чамусь басам загаварыў настаўнік,— але ідзі, брат, дадому, няхай матка лепш верашчакаю корміць,— скарэй вырасцеш...

Юзік так быў рад, што забыўся, па вошта прыйшоў. Доўга не чакаючы, узлажыў ён шапку на голаў ды, рады і вясёлы, шпарка памчаўся дадому. Дома нікому нічога не сказаў, каб не пакеплівалі, мабыць, але доўга кружыўся па хаце, скакаў на аднэй назе і спяваў:

Нашы едуць, вашы йдуць;
Нашы вашых падвязуць;
Вашы едуць, нашы йдуць,
Вашы нашых падвязуць!
Як і ў нас, так і ў вас, на вуліцы елка,—
Па сто рублёў кавалер, па тры грошы дзеўка.

## «ПАНСКІЯ ДЗЯЎЧАТЫ», АБО ЮЗІКАВА НАТУРА

Юзік так расхадзіўся, перацінаючы і скачучы на аднэй назе, што матка мусіла яго супыніць.

— Годзе табе, сынок, а то галоўка забаліць!

Але не заўсёды можна яго ўняць. Падчас з ім рады нямашака, аж хата ходырам ходзіць. Матчыных паскаў ён не баіцца і выцяць ніколі не дасца. Улепіцца, гад, ззаду за спадніцу, і хоць ты што хочаш рабі. А калі часам пашанцуе матцы хвасянуць яго разоў колькі, дык ён адбяжыцца ды пакепліваць пачынае:

— Дзякуй табе, мамка, што спінку пачухала! Мэрам мух абагнала, не баліць анізваннечка!

Вауецца ён аднаго татулькі. Але калі татулькі ў хаце няма, дык нічога не ўдзееш. Застаецца адзін спосаб, каторы матка падчас з карысцю і ўжывае. Дзеля гэтага яна, нібы знячэўку, пачынае гаворку пра сады альбо агароды. Тагды Юзік раптам сціхае і зараз жа рупіцца знікнуць з вачэй. Калі нельга ўцячы на двор, дык ён залазіць на печ, садзіцца там каля коміна ды пачынае сціху спяваць і наўмоц трасці галавою, каб не пачуць ніводнага слова. Гаворка гэта дратуе душу яго і валтузіць сэрца яго. Кожнае слова скрабе і скрыгіча ўвушшу, як нож па шклу. Не разумеючы, у чым тут справа, можна падумаць, што гэта Юзік вінен, што не цвілі сёлета яблыні, што гуркі згінулі, чэрва грушы зглуміла, а бручка з рэпай не ўрадзіліся. А дзела тлумачыцца проста: у справах агародных і садовых Юзік мае нячыстае сумленне. Ён пэвен, што калі пад гэтакую гаворку будзе назаляць ды стырчэць на ваччу, дык не мінецца, каб не тхнуў хто пальцам ды не вызверыўся на яго, сярдзіта нахмурыўшы бровы:

— Дык ці ж ад гэтых шаляніц што захаваецца?! Завязацца не дадуць!.. І як іх жываты трываюць, скажыце на ласку Божую?!

А няма горш нічога, як моўчкі зносіць здзек і паняверку! Праўда, ён дасціпнейшы агароднік сярод сваіх сябрукоў і лазіць у агароды, ён таіцца не будзе, бо не лічыць гэта за грэх. Але ён згарэў бы ад сораму, каб палез у свой агарод. У чужыя агароды лазяць усе, і брэшуць людзі, як кажуць, што за гэта Бог руку скарае. Вот свістаць у хаце, красці ці лаяцца або паказваць пальцам на вясёлку — вот гэта праўда, што грэх. А то...

— Ат! — моршчыцца Юзік, седзячы на печы за комінам.— Думаюць, што малы, дык і дурны. Дый няшкода ім малога. Ведаюць, што прыкра слухаць, дык і робяць усё на задор.

Ад гэтых думак Юзіку робіцца сумна й нядобра. Шмаргануўшы носам, ён цяжка ўздыхае. Нудныя думкі плывуць адна за адной, цягнуцца, уюцца, як павуццё ў паветры, ліпнуць, сплятаюцца ды асаджаюцца пылам дзесь усярэдзіне. Ён не бароніцца ад іх, не хаваецца, а шчыльней туліцца да коміна ды яшчэ горш пачынае журыцца. Падчас прыемна бывае бязмоўна пераносіць здзек і пагарду і пачуваць сябе горкай сіратой. Сіроткі ўсюды маюць прывет і ласку, іх усюды шкадуюць, прымаюць і кормяць... І здаецца Юзіку, што не сын ён бацькоў сваіх, не іх дзіця радзонае, а якісь невядомы хлопчык-знайдзёныш, без бацькі і маткі.

І Антось не брат яго. Катарына не сястра яго родная, а чужаніца, як і Шапытовых Пінка, прыкладам...

Гэтую Пінку Юзік зняві́дзеў, як першага ворага.

Пінка належала да ліку тых вясковых дзяўчат, каторых дражняць у нас «панскімі». Не даўно яны з'явіліся на свет і не шмат іх бывае на вёсках. Калі падрахаваць век іх уважна, дык выйдзе, што яны равесніцы вясковаму настаўніцтву — таму настаўніцтву, што, атрымаўшы адукацыю ў царскіх семінарыях, станавіліся панамі ў вачах роднага бацькі, лікам жа тых панскіх дзяўчат роўна столькі, сколькі тых гаспадароў на сяле, у каторых падсяваны хлеб на стале і дзедаў бот на назе.

«Панскія дзяўчаты» трымаюцца заўсёды асобнай шчуплай жменькай. Яны лічаць сябе разумнейшымі, зграбнейшымі і харашэйшымі за незаможных сваіх равесніц і сяброўствам з імі пагарджаюць. Яны не сядзяць з імі ўвечар на прызбах, не спяваюць песняў і не ходзяць на спацыр. Яны заўсёды трымаюцца асобна.

Усё, што мае просты, вясковы, звычайны выгляд, што носіць знаёмую азнаку, яны ненавідзяць усімі шлункамі цёмнае душы свае. Са свае мовы смяюцца, перакрыўляюць яе і з цёмнай агідаю сляпога зневажання дражняцца і націскаюць на «э», вымаўляючы словы: садэ, валэ, селядцэ. Пераступіўшы парог свае хаты, яны не размаўляюць папросту, а «пшыкаюць» па-польску або «какаюць» па-маскоўску, як гдзе лічаць гэта патрэбным ці вымагаецца, на іх думку, момантам. Колісь некі дурань сказаў на іх д а м ы, дык гэтае абрынданае французскае слова так падышло да іх густу, што яны, перакруціўшы яго ні к сялу ні к гораду, ужываюць пры ўсялякім здарэнні, кажучы на сябе: «мы — да». Апошняя часціна гэтага слова, мабыць, не ўтрымалася ў іх памяці або недачула іх вуха, ды так і пайшоў гуляць па вёсцы першы складок.

На ўборы цягнуць з бацькоў апошнюю капейку. Насіць лапці саромеюцца і па-будзённаму ходзяць босыя, а ў свята абуваюцца ў чаравікі з бліскучымі галёшамі ўзімку і ўлетку. Каб быць бялейшымі, дык яны тайком ад мацяркоў мыюцца малаком і абвязваюць хусткаю твар ад загару, а дзеля кволасці — часта посцяць і ядуць па-курынаму. Іншыя гладка зачэсваюцца, а другія носяць «моду» на лбе накшталт жарабячае грывы.

Штовечар сядзяць яны на прызбах, спяваюць песні і да поўначы спацыруюць з настаўнікамі, семінарыстамі і тэлеграфістамі. У нядзельку ці ў свята якое пахаджаюць з імі

па вуліцах, кожная пад парасонам, у белых пальчатках, у бліскучых галёшах і ў крамных спадніцах з хвальбонамі і хвалдамі. Набажэнства не апускаюць ніколі, хіба захварэе каторая або сіламоц хто затрымае. У царкве становяцца асобна, але навідавоку, на самым зэсі, каб пазухаваць уборамі ды каб зручней было ўглядацца, як хто хрысціцца, у вошта апранут і ці хараша моліцца. Раней, паводлуг касцельнага звычаю, бралі ў царкву кантычкі і, разгарнуўшы, глядзелі ў іх, як авечка ў аптэку, бо чытаць не ўмелі. Цяпер гэтага не робяць, затое ходзяць на клірас спяваць, і спяваюць там тонка і моцна, як пенька не трэсне. Кожная рупіцца рабіць гэта як найгучней, каб усе чулі і ведалі, што гэта вывела яна, а не хто іншы. У вольны ад спеву час хрысцяцца, дзеля чаго, нахіліўшы голаў і моцна сціснуўшы пальцы, прыкладаюцца да лба; патрымаўшы там руку, спаважна паднімаюць вочы ўверх ды мяркоўна, мэрам прышпільваючы гузік, кладуць пальцы на іншыя месцы. Да крыжа падыходзяць спаважна і ціха, але, падышоўшы, рупяцца пацалаваць крыж першымі, чаго надта не любіць наш сівы старэнькі пан-ойцец.

Старэнькі ўжо стаў, ён недачувае крошку на вуха і дзяцініцца падчас. Прыйшла, напрыклад, раз да споведзі кабеціна з суседняй вёскі, і, Бог яго ведае, ці то кабета нічога не сказала, ці то пан-ойцец недачуваў, а толькі ён нешта верадаваў і пытаўся на ўсю царкву:

— Чаго ж ты, нябога, маўчыш? Святая, ці што? Кажы, чым Богу грэшна!

Нарэшце яна, мабыць жа, нешта сказала, бо ён раптам схапіўся і зарагатаў, а далей адвёў яе наперад ды, паказваючы народу, загаманіў:

— Глядзіце, добрыя людзі — вот панна Марыя з Магдалаў! Яна, бачыце, як мясіла хлеб, дык... ха-ха-ха! Як мясіла, кажу, хлеб, дык яна... ха-ха-ха!..

Не любіць наш бацька панскіх дзяўчат. Часам, не стрымаўшыся, ён біў іх крыжам па губах ды казаў:

— Ку-ды лезеш, загладуха!

Смяецца з іх Бог і добрыя людзі. Не хваляць і дома, ды нічога не ўдзееш. Не вінаваты медаль, што мае два бакі, не вінавата палка, што мае цень, не вінаваты і яны, што сталі ахвярай нацыянальнага заняпаду. І калі недаўпадобы каму выраб пэўнае рэчы, калі не па густу яму кшталт яе аблічча, дык яна мае пэўнае права сказаць, запытуючы:

— Хіба ж я вінна, што мяне гэтакую зрабілі?!

І кожная з іх спадзяецца, што выйдзе замуж за пана

і зробіцца паняй ды будзе панаваць і чыста хадзіць. Часам зварачаюць іх увагу на тое, што яны не адукаваны і не патрапяць быць панямі, але дарэмна. Панаваць — не гараваць, кажуць яны: навучышся! І чакаюць. З хлопцамі не кампануюць, на ігрышчы не ходзяць, вясковых вячоркаў цураюцца. Тым часам жыццё не стаіць, не чакае; гадочкі ідуць сабе ўперад, плывуць і знікаюць, як дым у паветры ці хмаркі ў небе, ні следу ад іх, ані знаку. Рызыка пройдзе, задор прамінецца; сэрцайка сціхне й заб'ецца паволі, а розум спакойна падлічыць усе дзеі-ўчынкі ды моўчкі пакажа халодны свой прысуд, што — кружыўся, нябога, на месцы, як з малку ў стойцы або ў бегуну сярод хаты...

Тагды схамянуцца, ды будзе па часе. І ўцямяць, што, шукаючы долі, згубілі сваё шчасце. Пайшла б за вала, абы дома не была, але позна.

— Не,— кажуць людзі,— гаспадынь з іх не будзе! — і махаюць рукою.

Шапытовых Пінка самая дасціпная з-паміж панскіх дзяўчат. Амаль ні штодня яна забягае да нас, нібыта да Катарыны, а дапраўды ж цікавіць яе не Катарына, а Антось. Яна лашчыцца да яго, лісліва зазірае яму ў вочы і так брыдка сябе трымае, што Юзік аж моршчыцца ад знявагі і агіды.

Рыпайся, рыпайся, дулапяцень,— думае ён, назіраючы за ёю збоку,— спадзявайся, як жа, не бачыўся дзюбы!

А стрэўшыся з ёю воч-навач, пачынае дражніцца:

Самы смак у рыбы — спінка,
У Шапытовых — цурка Пінка.

Увесь сэнс свае абразы Юзік месціць у слове ц у р к а*. І, мабыць, не памыляецца, бо Пінка аж трасецца ад злосці. Злавіўшы яго дзе-небудзь у судачках, яна так моцна дзёрла яго за вушы, што ў Юзіка іскры сыпаліся, але ж ён не плакаў і не прасіўся, а толькі сцінаў наўмоц зубы і вырываўся. А вырваўшыся, адбягаў крокаў колькі ды зноў пачынаў дражніцца:

— Ы, цурка! — крычаў ён, злосна зіркаючы вачыма.— Ты думаеш, што баліць? Анізвання!.. А наш Антось казаў на цябе — скныда, ага!

Здаецца, разарвала б яго Пінка, дык не гасаць жа за дзіцем па вуліцы! І яна толькі трасла кулаком, дакляруючы:

---

* Дачка *(польск.). (Заўвага Я. Лёсіка.)*

— Памятай жа ты, шыбельнік! Хіба ж я цябе не злаўлю, я ж табе пакажу!

— Пахвалішся, як зловіш,— адказваў Юзік,— цурка!

Самы смак у рыбы — спінка,
У Шапытовых — цурка Пінка.

І вось нагадаўшы, седзячы за комінам, гэтую нялюбую Пінку, ён яшчэ горай хмурнеў і нудзіўся. Салодкі жаль спавіваў пачуцці яго; нейкі смутак, як туман, рассцілаўся па сэрцы. Гэтак у ясны, пагодны дзянёк хмурнеюць краскі і колер зямлі, калі слонца заслоніцца хмарамі і халодная цень разальецца наўкругі.

Рабілася шкада сябе. Казытала ў носе, і слёзы як боб каціліся па твары.

Юзік бажаў сабе смерці.

Прыбяруць яго ў белую паркалёвую сарочку, зачэшуць галоўку, чырвоным паяском падпяражуць; узложаць белыя, як снег, панчошкі ды паложаць у труне пасярод хаты на зуслоне. Заплаканая Кася прыбярэ галоўку яго рутаюмятаю, а ўсю труну абсыпле пахучымі кветкамі. Запаляць свечкі, дадуць яму абразік у рукі і ціха пасядуць наўкола. Адна матка не будзе нічога рабіць; яна, седзячы ля столу, будзе горка плакаць.

Панойдуць людзі, укленчаць ды зашапочуць пацеры, а стараста Крэўчык жалобна зазвоніць у царкве па яго душы. А ён — у белі, у кветках, чысты і маленькі, як анёл — будзе ляжаць у халоднай сасновай труне. Тагды заломіць рукі матулька, кінецца да труны, абніме яго ды моцна загалосіць, прычытаючы:

— А мой сынок, а мой сакалок! А куды ж ты прыбраўся да куды ж ты прычасаўся? Ці да Бога маліцца, ці да школкі вучыцца? Ці да цэркаўкі святоі, ці да сястрычкі радноі? Ці на ігрышча скакаці, ці на вяселле гуляці? Ці на музыкігуляніцы, ці ў госцейкі к сястрыцы?

А кветачка мая любая, а дзіцятка маё мілае! Чым я табе не ўнаравіла, чым табе не дагадзіла, што мяне пакідаеш, закрыў вочкі, спачываеш? Злажыў ручкі на грудзях, адрокся пры людзях; мяне старэнькую забываеш, усіх нас пакідаеш?

Ой, выйду ж я азірнуся, пайду з жалю разаб'юся! Буду ж я паглядаці, ці сыночка не відаці. Пайду к людзям спытаці, ці не стрэлі дзіцяці — дзіцяці малога, майго сыночка дарагога? Дамоў прыйду — схісянуся, слязьмі ўся абальюся. Нідзе няма, не чуваці, адно плацейка ў хаце. Не знасіў сынок, не спажыўся — Пану Богу знадабіўся.

Ой, людзі, людцы, што рабіці, як на свеце цяпер жыці?!

Падыдзе татулька, возьме матку за руку і скажа:

— Годзе табе, маці!

А сам — затрасецца ад жалю, закрые вочы рукою, усхліпне ды заенчыць у роспачы:

— С...сынок, сынок мой, што ты нарабіў?!

Потым Катарына ўсплясне рукамі, абальецца слязьмі, абніме ногі яго ды таксама загалосіць, дадаючы жалю сабе, прычытаючы:

— А мой братка, а мой касацік! Ці ты гэтак утаміўся, што ўдзень спаткі ўлажыўся? Твае сябры ўсе гуляюць і песенькі спяваюць; песенькі спяваюць, цябе, братка, чакаюць, цябе, братка, чакаюць, у вакенца пазіраюць. Няўжо ты не ўстанеш, на свет белы не спаглянеш? А хто ж мяне на пасад павядзе, хто ж мяне, маладзенькую, застрыжэ, з прыданкамі павязе? Каму ж я паясок сатку, каго ж я падпераjжу? Каму кашульку згаптую*, каму бялёвую згаптую?

А мой братка, а мой касацік! Да куды ж ты сабраўся, нас усіх адцураўся? Ці я цябе не любіла, ці ж я табе не нравіла? Ці я цябе не кахала, ці я цябе не шкадавала? Штосуботкі вымывала, штонядзелькі зачасала; у цэркаўку вадзіла і песенькі вучыла; кветачкі рвала, табе вяночкі сплятала; табе вяночкі сплятала, на галоўку ўскладала. А за што ж ты ўгнявіўся, што ў дамавіну палажыўся? І завошта, за якое? Ці за крыўду за якую, ці за слова ліхое? Ці на айца з мамкай марыкуеш, ці на мяне ты сярдуеш? Ці на мяне ты сярдуеш, што далёка вандруеш — да Тройцы святоі, да зямелькі сыроі; у жоўты пясочак, у вечны куточак?!

Падыдзе і Пінка, але ж ён пакажа на яе пальцам і скажа:

— Адыдзіся ад труны мае і не турбуй касцей маіх!

Прачынаўся Юзік ад журбы свае ўвесь мокры ад слёз, спакутаны і змарнелы ды пачынаў сапраўды плакаць, покі матка, ведаючы яго натуру, не падыходзіла яго супакоіць. І ўсё праз тыя агароды, каб іх агні высмалілі! Як ні хітраваў Юзік, як ні вараваўся, але, мабыць-такі, не ўсцярогся: у хаце дазналіся, што ён лазіць у чужыя агароды і ўжо не першы год. Не хацеў Юзік верыць, што бацькі ведаюць, покі не дачуўся на ўласныя вушы. А да таго часу цешыў сябе думкаю, што ўсе яго шаленствы нікому невядомы.

Раз ён позна загуляўся «ў свінку». Ужо добра сцямнела, як ён, закінуўшы кій на плячо, шпарка імчаўся дамоў на

---

* Гаптаваць — вышываць.

вячэру. Вароты былі зачынены. Юзік упёрся плячом, каб расчыніць дзверцы ў варотах, аж раптам чуе размову. Гаворыць татулька з маткаю, седзячы, мабыць, на прызбе.

«Пра мяне!» — спалохаўся ён ды, затаіўшы дух, стаў прыслухвацца.

— Не дам веры, бацька,— казала матка,— наш не лазіць. Дзе яму?!

— Не лазіць! — перапыніў яе татулька.— Дай ты свет, маці! Гэта мы не ведаем нічога, а паслухай, што кажуць людзі, на вуліцу брыдка выйсці! У Труды — грады сталачыў, у Дзямешкі — галлё паламаў; хеўру завёў, у Катрэчкі — пеўня задушыў...

— Пеўня? — здзівілася матка.— Нашто ж яму певень здаўся?

— Нашто? Зводзіць біцца. Да ці я табе не казаў? Пазаўчора,— пачаў расказваць татулька,— прыязджаю я з ворыва гэтак апоўдня. Распрог я каня ды, не скідаючы хамута, вяду яго ў хлеў, аж тут — адкуль ён узяўся? — падскаквае гад гэты ды пытае:

— Татка, больш не паедзеш араць? Дай я завяду каня на выган!

— На які,— кажу,— выган? Вось крошку спадзе гарачыня ды зноў трэба ехаць на поле.

— Дык ты яго, татка, прывяжы да возу, а я буду мухі аганяць.

— Нашто аганяць? Няхай ідзе ў хлеў: там і халадок і мух няма,— адказваю я ды адчыняю, вядома, вароты. Толькі я прычыніў дзверы, аж тут як пырснуць мне ў вочы куры, дык я думаў, што чэрці павылёталі з пекла — няхай ты згары, няхай. Ушчухаўся крык, галас: конь спудзіўся ды ўцёк. А гэта ён налавіў ды зачыніў тут пеўняў, каб потым зводзіць біцца...

Татулька яшчэ штосьці казаў матцы, але Юзік не стаў болей слухаць. Ён ціхенька адышоўся ад варотаў ды пашыбаваў зноў да хлопцаў. У той вечар вярнуўся дадому ён позна. Тагды ж трапілася з ім яшчэ адна прыгода, каторая надоўга пасварыла яго з Катарынаю.

У хаце ўжо спалі і пагасілі агонь. Ідучы дамоў, Юзік не йшоў, а краўся, як кот, каб паціхеньку ўвайсці ў хату ды непрыкметна легчы спаць. Раптам пачуў ён, што ў садку, каля весніц, нешта шалпочацца. Юзік спалохаўся і спыніўся, але не ўцякаў, а вытрашчыў вочы ды стаў углядацца. «Ці не зладзеі? — падумаў ён.— А можа, хто ў грушы

палез? Дык не павінна,— гадаў сабе Юзік,— садавіна зялёная. А тым часам, што ж гэта за яно?!» І страшна, і ўцякаць боязна, каб не схапіла што ззаду. І вось стаіць ён, трымаціць ад страху, стрыжэ вушыма ды слухае. Ціхата. Хмаркі бягуць па небе, а месяц то заблішчыць, то зноў схаваецца...

— Адчапіся ты, слата! — пачуўся ціхі дзявочы голас.

— Адчаплюся, як ажанюся! — адказаў нехта смеючыся.

Юзік пачуўся, што ў яго ў роце высахла. Ён лізнуў языком губы і пракаўтнуў сліну. Тым часам з цемры выплылі дзве постаці — дзявочая і хлопцавая. Юзік папярхнуўся і чуць не крыкнуў ад здзіўлення... Гэта была нашая Катарына з Дзіваковым Адамам. Выйшаўшы на віднае, яна ўшчапілася на плот, села ды стала гойдацца на жэрдцы, перацінаючы:

Не тупай, не тупай,
Казак, нагою!
Не выйду, не выйду
Гуляць з табою!

Дзівак таксама не маўчаў, ён таксама хістаўся, тупаючы нагою, і нібы адказваў, спяваючы:

Брэшаш, дзяўчына,
Брэшаш, любчына,
Брэшаш, сэрца маё!

Тым часам Катарына стаяла на сваём і перацінала далей:

Не выйду, не выйду
Гуляць з табою!

— А бадай жа ім брыдкі свет! Любяцца,— шапярнуў Юзік, а далей аж рот разявіў ад неспадзяванкі. Дзівак раптоўна абхапіў Касю ўпол ды стаў лашчыцца і абнімацца. Катарына спярша не давалася, валтузілася, адпіхалася рукамі, а потым неяк сцішылася, абмякла ды абвіла яго шыю рукамі. Юзік стаяў на месцы і не ведаў, дзе яму дзецца ад гэтакага сораму і дзіва. Шчокі яго загарэліся, сэрца калацілася, як птушка ў сіле. Паціху, як кот, падкраўся ён да дзвярэй ды ўскочыў у хату. Матка штось пыталася ў яго, але ён моўчкі залез на пасцель, закрыўся коўдраю з галавою ды заплюшчыў вочы. Тройчы перахрысціўшы яго, матка моцна пазяхнула ды гэтаксама сцішылася.

Назаўтра, ранютка ўстаўшы, Юзік увесь час шукаў здарэння напаткаць Катарыну дзе-небудзь адну. Нарэшце яму пашанцавала: Катарына пайшла ў камору ды стала

там длубацца ў кухры. Ён падышоў да яе, праглынуў сліну, каб прамачыць у роце, ды сіпата, з некім пералякам, запытаў:

— Што гэта ты рабіла з Дзіваком?

— Калі? — запыталася тая.

— Нібыта не ведаеш! А ўчора ўвечар, на плоце.

Пачуўшы гэта, Катарына адхіснулася ад кухра, нея к выпрасталася, азірнула яго, так як першы раз бачачы, пахістала на невашта галавою ды нея к ціха, нібы разв珍ажаючы, прамовіла:

— Дурань!

Потым адвярнулася, нагнулася зноў над кухрам ды, пасміхаючыся, дадала:

— Вырасцеш, дык будзеш ведаць.

— А я маме скажу,— сказаў Юзік з хітрасцю, каб дасведчыцца, ці спалохаецца яна.

— Не руш, Юзік, не трэба! Грэх гэта, братка,— ты ж хлопец,— стала прасіць Катарына, пазіраючы кудысь такімі вачыма, быццам бачыла рай або Бога самога. Гэтак сумна і хораша пазірае Боская Матка на абразах у касцёле. А Юзіку стала нудна на сэрцы. Нешта мілае, бязмерна каштоўнае адарвалася і знікла навекі. Ён раптам пачуў, што паміж ім і Катарынаю працягнулася некая сцяна, тонкая і халодная, як туман. Катарына, наша Кася-весялуха, што так хораша спявала песні, што садзіла кветкі ў агародзе і пляла яму вянкі на голаў, што давала яму цукеркі і ўсялякія цацкі, зрабілася цяпер чужою і далёкаю, як і іншыя дзеўкі на вёсцы. Аж на плач разбірала Юзіка...

Пасля гэтай гутаркі Катарына доўга баялася, што Юзік памсціцца ды раскажа матцы або асароміць пры ўсіх калінебудзь у хаце. Яна называла яго браткам, саколікам, удыгала яму, часам цукеркі купляла, але надарэмна. Юзік казаць не казаў, але й на залёты не йшоў. Яна стала для яго чужою...

## ГАРОНІМ У ДАРОЗЕ

У такіх выпадках Юзік не любіў аставацца дома. Яму рабілася нядобра, маркотна і нечага шкада.

Некі смутак агартаў яго і трымаў у задуменні яго дзіцячую душу.

Не хацелася аставацца дома, каб не запытаў хто, чаго ён маркотны.

А хіба мог ён расказаць, што робіцца на душы? І хіба гаворка тут паможа? Гэта праходзіць само сабою, як праходзяць хмары, што ўсцілаюць неба, і як расходзіцца дым у паветры. Трэба толькі сысці з хаты і пабыць на самоце.

І Юзік ішоў на агароды, на луг ці, наогул, у чыстае поле, дзе хадзіў, як нядзелька, па межах, слухаў спеў птушак ды трос у задуме галоўкай, каб разагнаць апанаваўшую маркоту.

«Матка ж мая да старэнькая, не давай жа ты паясочкаў ткаць! Не давай жа ты паясочкаў ткаць, каб ён з гора ды не страціўся»,— звінела ўвушшу песня, якую ён чуў, як спявалі дзяўчаты ў пост на вячорках. Ад гэтага такі жаль разбіраў душу яго, што слёзы як боб каціліся па твары, і Юзік лажыўся на траву ды плакаў. А ўстаўшы, браў у рукі паднятый на дарозе аскабалак ды хвастаў перад сабою, збіваючы галоўкі ў кветак. Пазіраючы на тое, як адбітыя раслінкі з кветкамі ціха, без скаргі, клаліся на зямлю, ён, чуць не плачучы, казаў: «Ага, вот раслі, а я ссек, і не будзе вас на свеце ніколі!» Шкада было раслінак і кветак, што так неспадзявана згінулі са свету, але ссякаць ён не пераставаў.

На задор сабе і ўсяму беламу свету, ён выцінаў цэлыя лапіны ў збожжы і таптаў іх нагамі.

Так мсціўся Юзік за тыя сумныя пачуцці, што не давалі яму супакою!

Заходзіў ён тагды і да Гароніма-лесніка, калі траплялася гэта пад «вывозны дзень», у каторы возяць дровы з лесу. Гаронім сядзеў тагды на ганку і пільнаваў, каб не праехаў хто міма кватэры ды не правёз дроў не па цэтліку. Нязручна было старому Гароніму тупаць цэлы дзень каля ганку на вуліцы, адбіраючы ў людзей цэтлікі. Спрытней рабіў гэта Юзік. Ён шпарка бегаў ад аднаго воза да другога, браў памятыя ў сялянскіх кішэнях цэтлікі ды падаваў іх Гароніму, а той глядзеў, седзячы, ці няма там якога падашуканства.

У вольны час яны сядзелі абое на ганку ды паволі гутарылі. Гаронім што-небудзь рабіў, курачы люльку, а Юзік сакатаў у яго каля вуха, распытуючы пра ўсё чыста, што цікавіла яго дзяцінүю думку.

— Дзядзька,— пытаў Юзік,— навошта гэта дзяўчаты любяцца да выходзяць замуж?

— Як навошта? Каб не зваліся людзі са свету, дый гаспадыня часам патрэбна ў хаце,— адказваў Гаронім.

— А чаму ж дзядзька не захацеў жаніцца?

— Як не? Гэтаксама збіраўся, але ж неяк час прайшоў, а потым і з думкі сышло.

— А нашто гэта князь прадае цэтлікі на дровы?

— На грошы прагавіты. Лесу процьма, а людзям і трэсак шкадуе. Усё купі, за ўсё заплаці. Назбірае грошай, а потым гуляе сабе па карчомках у горадзе.

— А праўда, дзядзька, што ў князя ў замку заклятыя кніжкі ёсць?

— Ёсць, дзеткі, але іх чытаць ніхто не можа. А каб хто прачытаў, то даведаўся б пра ўсё чыста, што рабілася ў нашым Забраным краю: пра нашых каралёў, пра нашае каралеўства і пра тое, як у людзей дастатак і волю адабралі. Але прыйдзе час, тагды людзі даведаюцца, пра што ў гэтых заклятых кніжках пішацца. Не навек яны закляты. Тагды наш Забраны край зноў стане вольны і нікому непаслушны.

— А чаму гэта, дзядзька, наш край — Забраны?

— Бо маскоўцы, дзеткі, забралі. Пайшлі на нас вайною ды забралі пад сваю абладу. Раней край наш з Польшчай хаўрусаваў, і гэтак жа сама цяжка жылося, а цяпер вось — дык і тхнуць нельга. Чуў мо, як у песнях спяваюць: «Наступіла чорна хмара, настала шчэ й сіва: была Польшча, была Польшча, а цяпер Расія».

— А калі мы не захочам карыцца маскалям, дык што, дзядзька, будзе?

— Як што будзе? У вастрог забяруць, на шыбеніцу пашлюць.

— А вастрог — гэта куніца?*

— Але, гэтакая самая куніца. Трымаюць там чалавека на адным хлебе і вадзе, покі ён не памрэ або не змілуюцца над ім. Толькі даўней куніцы рабілі пры царкве і саджалі туды людзей за грахі, а вастрогі цяпер будуюць у горадзе...

— Вот каб ты згарэла, як кепска жыць на свеце! — уздыхнуў ад думак Юзік.

— Чаму, дзеткі, кепска? — адказаў Гаронім.— Не чапай нічога і не бойся нікога. Няма мілей нічога, як на белым свеце ў Бога...

У такіх гутарках Юзік праседжваў з Гаронімам да самага змроку. Найчасцей Гаронім расказваў, што ён бачыў у Нясвіжы, як ездзіў да замка з рыбаю.

---

* Пры кожнай царкве знаходзіўся прыкаваны да сцяны ланцуг з наручнікамі, наножнікамі ці ашэйнікам для грэшнікаў, асуджаных на публічнае пакаянне. *(Заўвага ўклад.)*

Як вядома, у чацвер, пасля рыбацтва, Гаронім не прыходзіў дадому. Ён заставаўся ў карчме і выпіваў там лішнюю чарку, бо ў гэты дзень ён не меў спачынку і ўночы. Яму трэба было ехаць да ляснічага на кватэру, дзе рыбу перабіралі, сартавалі, пісалі рэестр, а ўжо апоўначы, з рыбаю на возе і з рэестрам у кішэні, ехаў Гаронім да замка, каб паспець з рыбаю панам на сняданне.

І вось — спяць добрыя людзі, маўчыць цёмная ночка, адзін Гаронім трасецца ў палукашку па каўдобістым гасцінцы, паспяшаючы з рыбай да замку! Нават тоўсты стары беразняк, што пастаў увабапал гасцінца, і той спіць і не шапоча дробным лісцем сваім. Сумна і вусцішна, асабліва ўвосень. Холадна, хмурна. Не цвіце расліна, не руніцца зёлка. Сціхла ўсё, змоўкла й замерла.

Не стракоча конік, не гудзе ўжо пчолка, не спявае птушка. Толькі вецер гасае па полю ды шапоча быльнік па межах. Вусцішна ў полі, самотна ў дарозе!

Цёмна. Укрыла ноч зямлю, як тоўстаю коўдрай, і робіцца душна. Хочацца скінуць з сябе гэты цяжар, разарваць гэту цемру ды азірнуцца навокала. Ціха — ні зыку, ні песні, як на руінах, як у пустой гасподзе. Аж грудзі сціскаюцца з жалю!

Торкне Гаронім каня і чуе, як сэрца калоціцца ў грудзях і звініць увушшу ад смяртэльнае цішы. Конь струханецца, хуркне ды зноў сабе крочыць вольнай ступою. Едзе Гаронім, калышацца ў возе і не ведае сам, ці марыць ён, ці дрэмле. Думкі сляпіцаю лезуць у галаў, і не адгоніш іх, не адмахнешся. Плывуць яны, як павуццё ў паветры, цягнуцца адна за аднэй, рвуцца ды нікнуць недзе ў бяздонні. Невясёлыя, сумныя думкі!

Цяжка, ой цяжка жывецца на свеце! Таўчэцца народ, як Марка ў пекле. Б'ецца чалавек, працуе, а трапіцца ліха якое, дык і рук зацяць не за што. Гібеюць людзі, і канца не відаць людскай пакуце. А зямліскі тае, зямліскі навокала! Касі, ары, сей! Ды не свой, не працоўны народ уладае гэтым абшарам. Дармаеды абселі зямельку нашу і не даюць людзям прастору. І навошта гэтакая процьма зямлі аднаму чалавеку, хоць бы князю таму?!..

Нагадаўшы князя, Гаронім варушыцца на возе і мацней паганяе каня, бо гэта раптам напаміналала службу яго і ўсё, звязанае з ёю.

Перабіраючы ў думках сваё лесніkoўства, Гаронім не бачыў светлай часіны. Праўда, быў хлеб, быў прыпынак, ды не было жыцця. І калом стаў у горле гэты хлеб лесні-

коўства. Не меў Гаронім вольнай часіны ні ўдзень, ні ўночы, ні ў святую нядзельку. Цалюткія дні трэба бегаць, гасаць, удыгаць і толькі й чуеш, як цябе лаюць, грызуць, ушчуваюць. Часам так дапячэ ўсё і дадзене, што, здаецца, на край-свет пайшоў бы, абы не чуць і не ведаць нічога. Але што ж ты зробіш? Трэба карыцца, цярпець...

Колькі раз Гаронім цешыў сябе думкай, што стрэнецца з князем або падсочыць, як той выйдзе з пакояў, падыдзе, раскажа яму пра сваё жыццё, паскардзіцца ды папросіць палёгкі. Але князя не стрэў, і як потым дазнаўся, дык той бадай што ніколі й не жыў у замку.

Бачыў ён раз, як нейкі пан выбег з пакояў і, думаючы, што гэта князь, памкнуўся быў да яго, каб вылажыць сваю справу, як пан спыніўся сам і запытаў:

— А ты чаго тут, чалавеча?

Гаронім скінуў шапку, а пан — мармынуў нешта ды зноў памчаўся ў пакоі. «Лекай, мусіць»,— падумаў Гаронім. Так і прапала надзея выпрасіць палёгкі ў князя, а тут яшчэ чорт надаў пабіцца з аб'ездчыкам...

Ёсць людзі, з каторымі іншае рады няма, як звязаць ды кінуць пад печ. Вот гэтакі быў аб'ездчык. Прычэпіцца, гад, дык хоць ты крыжам ляж, а не злітуецца. Аж збялее ад злосці і, здаецца, са шкуры выскачыць. Прывязаўся раз к Гароніму і — рады нямашака. Крычыць, лае, бэсціць, тупаціць нагамі ды аж з кулакамі лезе. Гаронім маўчаў-маўчаў, а далей не вытрываў:

— Адчапіся ты, вар'ят! — буркнуў ён з агідаю. Той падскочыў, замахнуўся ды — плясь яго па шчацэ. Аж пацямнела ўваччу ў Гароніма ад знявагі. Не памятаючы сябе, ён рынуўся на аб'ездчыка, схапіў яго загрудкі ды так бразнуў вобземлю, што той аж ёкнуў ад болю. А далей уссеў яму на грудзі ды запытаў:

— Ну, што мне з табою рабіць?!

А той (шануючы вас і месца гэтага) зварухнуўся, зароў, як мядзведзь, ды кажа:

— А вось пачакай: я павярнуся, а ты пацалуй мне ў сампітэрню!

Гаронім раптам абмяк і асунуўся. Сэрца як малатком стукала ў грудзях.

— Ну, вот, вот і па ўсём,— думаў Гаронім,— вот і шабаш, канец! Прагоняць!.. Ой, у лесе пры даліне, у нас сталася бяда... Прагоняць...

Але яго прагнаць не прагналі. Толькі ў нядзелю на «сэсіі» ляснічы вылаяў з апошніх слоў і, патросшы кулаком каля носа, пагразіў:

— Ну, памятай жа ты... пруская люлька!

Цяпер здаецца Гароніму, што пра гэту бойку дазналіся ўсе чыста на свеце. І — як раней жадалася ўгледзецца з князем, так цяпер зірнуць яму брыдка было б у вочы. І такім слаўным і мілым рысуецца ў думках далёкі час плытніцтва, што Божа мой мілы...

Бывала, плывеш сабе з плытамі і гадкі не маеш. Сонейка грэе, птушкі спяваюць, рыбка пляскоча, а ты — стаіш, пазіраеш ды толькі пільнуеш, каб не заехаць «казла», каб не стукнуцца плытам у бераг. А плыт сабе йдзе непрыкметна, ціха шамоча і скрыпіць на заваротах, як той дзед на печы, выпраўляючы старыя косці. Не агледзішся, як вечар настане. Сонца схаваецца, а чырвоныя пасмы яго яшчэ доўга блішчаць і мігцяцца за лесам, як полымя пажару. Гракае драч недзе на лузе: «Драч, драч, сеў спаць пад пнём, з агнём. Агонь стух, драч спух». Буркуе голуб дзесьці ў лесе, кукуе зязюлька. Часам слухаеш ды запытаеш, як калісь у дзяцінстве: «Закукуй, зязюлька, закукуй,сівая, закукуй, баравая, колькі мне год жыць?» А птушкі ўжо змоўклі, паснулі. За дзень наспяваліся, а ноч — невялічкая. Трэба сапачыць, каб заўтра ранютка ўстаць, каб прывітаць упору яснае слонца ды несці да Бога хвалу і падзяку.

Ціхата. Толькі дзесь чуюцца сумныя спевы далёкае песні. Гэта дзяўчаты, ідучы з работы, пяюць «салавейку».

Салавейка лугавы,
Не пой рана, да зары.
. . . . . . . . . . . . . . . .
Ой, выйду ж я на сяло,
Нігдзе агню не відно.
Аж у нас агонь гарыць,
Маці з сынам гаварыць.

Слухаеш, і робіцца сумна і добра. Сэрца дрыжыць і трапечацца, як у ясны, пагодны дзянёк матылёк над вадою. Салодкі жаль агартае пачуцці, і хочацца плакаць і ціха смяяцца, як бывала ў дзяцінстве. Бывала, прытулішся моцна да маткі, абнімеш яе за шыю, падкурчышся ды плачаш. Маці глядзіць табе ў вочы, гладзіць дрыжучай рукою тваю галоўку ды з трывогай пытае: «Дык чаго ж ты, каток? Аж саму некі жаль прабірае!» А ты плачаш — радзееш, трэш кулачком свае вочкі і растлумачыць не можаш, што — сэрцайко б'ецца, бо добра жывецца; што люба сядзець у маткі на прыполе ды слухаць, прытуліўшыся, як весела хлопцы гуляюць, як куры сакочуць і ластаўкі ў сенях шчабечуць на гнёздах...

Гаронім трасе галавою, праводзіць па твары рукою і мацней паганяе каня. Ён варушыцца, апраўляе сядзенне, каб разагнаць нахлынуўшыя ўспаміны, але разварушаны розум, як чароўны ліхтар, разгортае ўсё новыя і новыя стужкі ўяўленняў, і абразы прамінулага ажываюць, устаюць і стаяць уваччу, як жывыя. Думкі і смутак коцяцца, уюцца, і чуюцца зыкі новае песні, смутнай і мілай, які і ты, наш краю каханы!

Палавіна лет мінае,
Я шчасця не знаю.
Як жа а мне Бог прызначыў,
Што чыніці маю?!

Шырокае поле, жоўтыя ніўкі! Цёмны лес сінее навокала. Стаіць гара высокая, ■ на ёй, як стары падарожны, прыпыніўся кудлаты ад моху камень-капліца. Пад гарою зялёным каберцам разлёгся лужок. Крынічка цячэ, ■ каля яе зіхаціць, як люстэрка, возерка на сонцы. Стаяць па адной, уасобку, яблыні, грушы па межах, кучаравіцца ракітнік па полі... Слонца заходзіць. Спяваюць жнеі. Яха ляскоча па лесе...

Хаджу — блужу, хаджу — блуджу,
Як то слонца ў крузе;
Куды пайду ці што раблю,
А ўсё сэрца ў тузе.

Гаронім закрые твар рукамі і схіляе голаў на грудзі. Робіцца млосна. Гарачыя слёзы абліваюць твар і коцяцца бобам праз пальцы. Моладасць, шчасце, надзеі — дзе вы? Адгукніцеся! А моладасць не вернецца; не вернецца ізноў!.. І зайздрасць, як брудны касматы чарвяк, запаўзае ў душу — зайздрасць на шчасце, на долю, на вольную волю...

## *Бусел і бусляняты*

Ведама, што часта бацькі даюць сваім дзецям такое выхаванне, каб яны былі карыснымі ім, а не сабе.

Вось дзеля такіх бацькоў раскажу я байку аднаго нябошчыка-беларуса.

Ляціць бусел па-над морам і нясе пад сваімі крыллямі трох буслянят. Як стала цяжка несці, дык ён пытае ў першага дзіцяці: «Ці будзеш ты мяне несці, як я саста-

рэюся?» Бусляня спалохалася, каб бацька не кінуў яго ў мора, дый кажа: «Буду». Бусел кінуў яго ў мора.

Паляцеў ён далей з двума буслянятамі. Зноў стала цяжка. Пытае ён тагды ў другога бусляняці: «Як састарэюся я, ці ты будзеш несці мяне таксама, як я цябе нясу?» — «Буду!» — са страху адказала і другое бусляня. Бусел кінуў яго ў мора, бо й яно сказала няпраўду.

Паляцеў ён цяпер з апошнім дзіцем. Пасярэдзіне мора ізноў стала цяжка несці. Бусел пытае ў свайго трэцяга бусляняці, ці будзе яно несці бацьку, як ён зробіцца старым. «Не, не буду,— адказала бусляня,— бо тагды я буду мець свае дзеці, і мне трэ будзе насіць іх».

Трэцяе бусляня сказала праўду, і бацька перанёс яго цераз мора.

## *Нёман*

Ціха цячэ ў нас Нёман, ціха і сумна, як час па растанню. Не імчыцца ён з рызыкай ўперад, не шуміць, не гудзе і не пышыцца сілай, а паволі, ступою, моў, скуты журбою — льецца, як срэбра, па родным грунце. Чысты, як шкло, светлы, як дзень, сумны і пекны, як хараство ў задуме, ходзіць ён, смуклы юнак, ва ўсе бокі, цешыцца-песціцца на матчыных грудзяў, льецца-нясецца, сумуе-журбуе і не можа расстацца з роднай краінай...

Міл яму ціхі гаёк каля лесу, любы зялёныя доўгія ніўкі; мілы лясы, пясчаныя выдзьмы, горы, вазёры, груды, сенажаці, люб яму й жоўты пясочак на ўласным беразе. Ды, як скованы думкай вечнай разлукі, пахаджае ён смутна па роднаму краю — усё разглядае, з усім размаўляе, усё ціха жагнае, моў, цяжка ўздыхае. Падыдзе, засмучаны, к цёмнаму лесу — сцішыцца, змоўкне, замрэ й абамлее, а потым завернецца — падасца ўперад ды знікне ў лесе. Там пагуляе, у цяньку сапачыне, пагамоніць задумліва з ёлкамі, соснамі, пазіхне, устрапянецца ды выбежыць у поле — заззяе, як срэбра, заблішчыць-засмяецца на сонцы ды разальецца ўстужкай па квяцістым лузе...

І куды б ні забег ён, дзе б ні разліўся — скрозь, як пачэсная варта вяльможнага пана, бяжыць за ім услед і мігціцца абапал зялёна-купчастая пушча. Лозы, алешнік,

касацісты дзягіль, ажыннік, маліннік, аер з ачаротам — усё пазрасталась, зліпла, сплялося і стаіць над вадою разгатай сцяною. Сумны вярбняк, пастаўшы ў радок, моў, тыя пратэсы ў азнаку пашаны, параскідаў галлё ва ўсе бакі і нахіліўся на ваду, а тонкае вецце яго пазвісала ўніз, як матчыны косы над дзіцячай калыскай. Чырвона каліна ірдзіцца на сонцы, трапечацца лісце асіны ў паветры, з кустоў выглядае пурышка і глядзіцца ў ваду, як красна дзяўчына крыёма ў люстэрка, а па ўзгорках — магутна, яе вежы, уздымаюцца ў неба дубы... Птушкі спяваюць, конікі граюць і пчолкі гудуць, як арганы, у паветры...

І толькі вось там, дзе трапіцца плёса, дзе жоўтае поле пяску разляглося — толькі там гэта пушча, як чуйная варта нябогі, нібы расступаецца, застаецца пазаду як бы дзеля таго, каб Нёман пабегаў адзін, пагуляў на самоце ды каб потым ізноў абступіць, агарнуць, увабраць яго бокі ў зялёныя шаты...

Ужо ў самым пачатку, з першых крокаў свае падарожы, Нёман не волен ад жыццёвых турботаў. Толькі парвуцца кайданы зімовай няволі, як слабым грудзям яго трэба ўжо напружацца і несці ў чужыну багацце і пыху роднага краю.

І ад самай вясны да халоднай восені плывуць ды ідуць жалобнай працэсіяй плыты: то нязграбныя, сухія і белыя, як чалавечыя косці, куртатыя згоны, то хмурныя і цёмныя, як маўчозна сінеючы навокала лес, дзябёлыя, лавак у трыццаць, важкія плыты. Ды толькі і чуеш, як з ранку да вечара магільнаю яхай раздаюцца выгукі каманды:

«Тарнуй на барбару-у! За-кідай шыры-гу-у!»

А то рахубны купец-скупяндзя махне, пасміхнуўшыся, рукой на забароны ды пусціць шарось*. Тагды чыстыя хвалі яго ўкрываюцца брудам, як чалавечыя грудзі каростай. А ўброд — ні прайсці ні праехаць; коні храпуць, рыкае ад страху жывёла, крычаць аж да поўначы качкі, гусі дамоў не прыходзяць, плача пастух, і чуюцца ўсюды праклёны...

А часам спрадвесня, у поўную ваду з мэтай бадання, прыімчыцца аднекуль жывец-параход, загудзе, залапоча чырвонымі крыллямі, чмыхне, як бы праканаўшыся, што:

«Квол яшчэ, браце,— не ўздымеш віціны!»

А штотыдня, у чацвер, у пагоду й нягоду, узімку і ўлетку, варочае нетры Нямніска скарбовы рыбак. Закінуўшы

* Тут: сплаўны лес.

волак і пабраўшы вяроўкі на плечы, ухаюць, пнуцца рыба-кі-небаракі, стогнуць, ірвуцца з апошняе сілы, каб заможнае панства ў замку мела свежую рыбу да стала...

## *Па-валачобнаму*

Ужо сцямнела, як Забрамны Адась вярнуўся дадому. Быў першы дзень Вялікадня, і ў хаце агню не было, як і ўсюды на сяле ў гэты вечар на Вялікдзень. Адась гэта ведаў, і калі вярнуўся дахаты, каб сядзець у цемнаце ў той час, як вуліцы кішэлі народам, то меў на гэта свае прычыны і вельмі важныя для яго, як для заўзятага гулякі ў біткі і семінарыста першага класу.

На дварэ было цёмна, як у скляпенні. Каб не гамонка на прызбах, то можна было падумаць, што гэта не сяло, а так сабе, пустая сяліба сярод чыстага поля. Здавалася, што нехта ўзяў тоўстую дзяругу ды накрыў ёю ўвесь свет з галавою. Было так цёмна і чорна, як зажмурыўшы вочы. Толькі калі-нікалі бліскаў агоньчык на прызбах або іскрыўся праз вокны. Гэта курцы палілі цыгаркі, гуляючы ў біткі, а старыя дзядзькі, седзячы ў хатах, выкрасалі агонь на люлькі.

Неба зацягнулася хмарамі, але было цёпла і ціха, як гэта часта трапляецца ў харошую вясновую ноч.

Старыя людзі даўно ўжо паразыходзіліся з вуліц па хатах, і дома — хто спаў, хто курыў, а хто проста ляжаў ды паціху вёў гутарку. Адна моладзь была на вуліцах і гаманіла на прызбах, гуляючы ў біткі або рыхтуючыся ісці па-валачобнаму. Дзяўчаты сядзелі асобна ад хлопцаў. Не такі сёння дзень, каб дурэць з хлопцамі. І ў біткі яны не гулялі, бо не дзявочая гэта гульня. Але кожная трымала ў прыполе па чырвонаму яечку й у кожны момант гатова была стаць у прыгодзе свайму кавалеру, пазычыўшы яму свайго яйца, калі той прайграўся да апошняй біткі. Не мяшаючыся ў хлопцавы гульні, дзяўчаты нецярпліва чакалі тае часіны, калі можна будзе распачаць валачобнае. Бо на ўсё свая пара, і звычай вымагае быць асцярожным, каб не нарабіць сабе сораму, распачаўшы справу не ў пору. Трэба дачакацца і, прынамсі, упэўніцца, што усе гаспадары разышліся па хатах. Дык покі што яны сядзелі, чакаючы; пераходзі-

лі з прызбы на прызбу ўдосвіткі адны да другіх, смяяліся, жартавалі ды раіліся паміж сабою, хто з кім пойдзе, якія спяваціумуць песні, хто будзе гаварыць рацу і з каго, з якой вуліцы пачнуць валачобнае. Часам тая ці іншая, схапіўшы сяброўку за руку, падбягала да хлопцаў і пачынала тармашыць іх, што пара ўжо пачынаць — біткі ў лес не ўцякуць і ваўкі іх не з'ядуць. Паспеюць нацешыцца: хопіць часу нагуляцца й заўтра — Вялікдзень наперадзе! Хлопцы ж, мабыць, не спяшаліся, бо чуваць было, як рымсцілі дзяўчаты:

— Ат, зараз, зараз! Ваша з а р а з, як жыдоўскае п а ч а к а й...

Тым часам Адась, увайшоўшы ў хату, падышоў, растапырыўшы рукі да ашорстку, распрануўся, потым вобмацкам знайшоў сваю пасцель ды сеў. На душы было дрэнна, як дрэнна бывае ў роце, пракіслага з'еўшы. Гэта не жартачкі, прагуляць за адзін дзень усе свае яйцы і не выбіць ніводнае біткі! Вось каб не з'еў на разгавенні забабоннага скрыліка яйца, то не давялося б нават і пакаштаваць, які смак маюць яйцы. Але не аб тым ідзе, не ў спажыўнасці справа. Ліха б яго бяры, каб толькі гэта. Ён не ласун і не яец яму шкада. Тут — не так тая шкода, як невыгода... «Не такі б быў жаль, каб дзе ў ярыне, а то на моры, на сіняй вадзе»,— саўсім недарэчы ўспомніліся Адасю словы з песні. Не шкада яец, а шкада таго, што наперадзе ўвесь Вялікдзень, а заўтра хоць на вуліцу не вытыкайся. Бо што ты маеш рабіць там з пустымі рукамі, калі распачнецца гульня яшчэ з большай заўзятасцю, як сягоння, і калі да гульні прыстануць і старыя гаспадары?!

— А бадай табе ліха, бадай табе! — уздыхнуў Адась ды ўстаў. Потым са злосцю зноў сеў, раздзеўся і лёг. Лёг на задор, помствуючы і караючы сябе, каб такім парадкам стрымацца ды не пайці болей на вуліцу. Няхай кроіцца сэрца, няхай грызе зайздрасць, а ён на вуліцу не выйдзе. Узяў чорт кароўку, няхай бярэ й вяроўку! «На задор сабе лягу ды буду спаць»,— думаў Адась.

Так пачуваў сябе хіба той ваявода, што паліў караблі, каб адрэзаць сабе сцежкі да адступлення...

Тым часам ні спаць, ні ляжаць Адасю не хацелася і аставацца ў цёмнай хаце было не соладка, але ж і на вуліцы — яшчэ горшае згіненне! Таптацца каля прызбаў і моўчкі пазіраць і слухаць, як навакола сакочуць, мацуючы, яйцамі і задзірыста прыгаварваюць: «дзяржы! вярні! давай! дзякуй! » — не, дзякуй за ласку! Гэта ўсё роўна, як бы хто нагнаў на паляўнічага зайцоў ды выхваціў у яго

з рук стрэльбу ў той момант, як ён злажыўся выстраліць... Не, лепш ляжаць дома і нічога не бачыць. Нічога не зробіш! Лепшага ратунку нямашака. Не купіў бацька шапкі — няхай вушы мёрзнуць! Не па-валачобнаму ж хадзіць яму, будучаму настаўніку з усялякімі там падшывальцамі? Не выпадае яму, семінарысту, валачыцца ў добрых людзей па падвоканню. Лепш ляжаць ды пастарацца заснуць, а заўтра відаць будзе,— разважаў ён у думках. Можа, хто ў госці надарыцца або што іншае начаўпецца. Здараецца часам, над'едуць неўспадзёўкі сваякі і навязуць столькі яец, што абдзеляць усіх чыста ў хаце. Ды якіх яец? Не свойскіх, а апліканскіх, адмыслова моцных, як скалка.

І, варочаючыся па пасцелі, Адась плюшчыў вочы, закрываўся з галавою і нават прабаваў лічыць да соткі, каб нагнаць на сябе сон. Але сон не йшоў, і Адась пачуваў, што такім парадкам можна пракачацца досвета, а заснуць не заснеш.

— Не шанцуе мне ў гульнях,— парашыў ён, перавярнуўшыся на другі бок. «Затое ў любошчах павязе»,— быццам пасміхнуўся хтосьці ў адказ. «Ат, глупства якое вярзецца!» — махнуў Адась галавою і перавярнуўся на стары бок. Аб дзяўчатах ён саромеўся думаць і лічыў, што гэта вельмі брыдка. Дзяўчат ён неяк баяўся і ніяк не мог зразумець, на якое ліха хлопцы ходзяць да дзяўчат і — што яны гавораць, зышоўшыся разам? Што тычыцца яго, то ён згарэў бы ад сораму, каб давялося застацца аднаму з дзяўчынаю, а што да гаворкі, то прасядзеў бы цэлы дзень, не мяльнуўшы губою. У яго б язык не павярнуўся загаварыць да дзяўчыны, не то што займацца жартамі. «А ім, мусі быць, няма чаго рабіць, калі трацяць час на такія групствы,— думаў Адась, напаткаўшы прыпадкам закаханую пару.— Хіба гэта гульня — аднаму, з дзяўчынаю на адзіноце?!» І слова «гульня» зноў навяло думкі на стары лад.

Ужо змрокам выенчыў ён у маткі апошняе цэлае яйцо і прабіў. А матка не хацела даваць, ой як не хацела! «Пабойся ты,— кажа,— Бога, сынок! Усё ж роўна праб'еш, і ніхто дзякуй не скажа. Пералузаў ты, дзетка, сягоння з паўкапы,— сказала яна, даючы яйцо,— а ў мяне і валачобнікам не засталося. Хрышчоныя дзеткі няхай ужо выбачаюць. Хіба куры нанясуць да на Раданіцу пашлю...» Брыдка было браць, але ж гадалася, што пашанцуе нарэшце і можна будзе адгуляцца. Недарма ж бо кажуць: хто не рыскуе, той не зыскуе. Дык на табе! Прабіў у першай бойцы. І каму? Яўхіму Асьмаку, з каторым ён яшчэ летась за-

ракаўся не гуляць у біткі ніколі. І не стрымаўся. Ды не такі б быў жаль, каб прабіў упростую, а то прамяняў, як той жыд басэтлю...

І то ж хітры, гад гэты Асьмак, як вуж! Стаіць, звадыяш, панабіраўшы ў рукі яец, і падбухторвае:

— Дзяржы, пане Адаме! Не ў яйцы ж мы, браце, радзіліся. Дрэфіш? Э-эх, брат! А яшчэ пан... кех-кех-кех! — і смяецца сваім паскудным дробным смехам, трасучы сваёю шырокаю, як кудзеля ў прасніцы, барадою. І чэрці яго ведаюць, як ён можа ўтрымаць у адной руцэ гэтулькі яец! Растапырыць пальцы, накладзе на далонь яек з дванаццаць — сырых і вараных, хварбованых і белых — ды тупае сабе каля прызбаў, сочучы ахвяры...

— Ну, дык як будзе? Можа, памяняем, га? — прыстаў ён да Адася.— Маё, брат, яйцо, як скалка, траха не аплІканскае,— і выбраўшы адно яйцо з сярэдзіны, закруціў ім перад самым носам у Адася.

— Не, дзядзька, хто мяняе, у таго хамут гуляе,—сказаў Адась і дадаў.— Давайце памацуем!

Э, дай ты свет! Вось чаго не люблю, дык не люблю! Сам ніколі не мацую і другім не раю. І навошта ляскаць яйцом па зубах? Дзяржы, васан, проста!

Адась стаў прыглядацца, якога сорту было Асьмакова яйцо. Яно выглядала нішто: невялічкае, вострае, з круглаю пухою. Такія яйцы падчас трапляюцца, як скалкі. Тым часам яго яйцо, хоць і завялікае было, як на курынае, і больш надавалася да качага, але трупцела, як разбіты ґаршчок. На моц — як нацІна. Каб не такое скрутнае становішча, то ён бы яґо і ў рукі не ўзяў. У такія яйцы можна гуляць толькі на менкі. І Адась падумаў: «Было не было, а запытацца можна! Кажуць жа: чым чорт не йграў, тым і сеяць не стаў», і сказаў:

— Мяняем?

— Згода,— адказаў Яўхім.— Адно глядзі, не падашукайся. Хто мяняе, у таго хамут гуляе,— пажартаваў ён ды заліўся сваім праціўным дробным смехам: «Кех-ке-кех!»

Кругом настаражыліся ды сталі цікаваць, хто каго пераможа. Дзяржаць прыйшлося Адасю, як першаму, нагадаўшаму гэтакі спосаб гульні.

Асьмак біў. А біў ён не абы-як, не падобна да таго, як звычайна б'юцца ў біткі добрыя людзі. Яўхім Асьмак рабіў гэта так, што збоку пазіраць, дык рабілася мутарна. Біў ён смакуючы — памаленьку, з перапынкамі і з рознымі выкрунтасамі, з відочным жаданнем памуштравацца і паму-

чыць свайго партнёра, каб потым павыскаляцца з яго палахлівасці.

Спачатку, узяўшы яйцо ў тры пальцы, Асьмак шаруе ім зверху, быццам прыгладжваючы выстаўленае з кулака яйцо свайго праціўніка; потым патрасе ім над рукою, як бы мяркуючы спрытней стукнуць, а далей падніме руку ўверх, прышчурыцца і, здаецца, гакне па яйцы са ўсяго размаху, а на дзеле чуць дакранецца ды зноў пачынае свае выкрунтасы спачатку.

— Да не марудзь ты, дзядзька! — хочацца крыкнуць на яго, стоячы збоку.— Бі, калі б'еш! Не дзяржы ты душы перад пеклам!..

А ён ўсё яшчэ манежыцца і вытне якраз тагды, як не чакаеш, аж усярэдзіне ёкне ад неспадзяванкі.

— Вярні! — пачуў Адась і перавярнуў яйцо пухою ўверх, адзервянеўшы ад таго, што здарылося.

— Дзякуй! — сказаў Асьмак, забіраючы бітку, і зарагатаў: — Кех-ке-кех! Гэта ж вылівак, а не яйцо — ці ж ты, браце, не бачыў? Кех-ке-кех! Калі не поп, то не ўбірайся й у рызы! — дадаў ён на развітанне і адвярнуўся да другіх. Навокала пасміхнуліся.

— Калі шанцуе, то й Халімон танцуе,— сказаў Адась, абы не маўчаць.— Добра вам рызыкаваць, калі вы гаспадар у хаце і свае яйцы маеце...

Але на яго словы ніхто не звярнуў увагі. Ён стаяў як апараны. Было брыдка і шкада. Зірнуўшы на людзей, ён зрабіў крок уперад і папрабаваў быў камусь дарадзіць у гульні, каб затаіць сваю роспач, але, убачыўшы, што ніхто не слухае, павярнуўся і шпарка падыбаў дадому, стараючыся не спаткацца са знаёмым. На душы ныла і казытала ад жалю ў носе...

«Добра быць малому,— думаў Адась, перавярнуўшыся на пасцелі раз мо ў соты.— Бывала, як прыйдзе Вялікдзень, то кожны сваяк лічыць патрэбным надарыць цябе чырвоным яечкам, не кажучы ўжо пра хрышчоных бацькоў. У тых гэта вымагаецца звычаем. А то пойдзеш, бывала, да сваякоў і як абойдзеш хат колькі, дык вернешся дамоў з поўнымі кішэнямі. А не, дык проста ідзеш да каго-небудзь, нібыта абмяняць сваё яйцо на мацнейшае, і таксама прыйдзеш дахаты не з пустымі рукамі. Ніхто, разумеецца, на абмен не згодзіцца і заўсёды скажа:

— Вось яшчэ выдумаў, хлопец! Азьмі так і гуляй сабе на здароўе!

Такім парадкам яйцы не зводзіліся праз увесь Вялік-

дзень. А цяпер? Цяпер не тое. Цяпер па хатах не пойдзеш, хрышчоныя бацькі не прышлюць, сваякі не надараць, бо завялік ужо стаў. І што ён заўтра мае рабіць? Хіба ў Шлёмы купіць? Дык брыдка, хай ты згары саўсім разам! Не выпадае купляць на Вялікдзень. Прачуюць людзі, дык прасмяюць. Дый грошай дастаць таксама нялёгкая штука.

— Не, не ўвалгаўся нехта, сказаўшы, што «дорага яечка ка Хрыстову дню»,— успомнілася яму прыказка с семінарскага падручніка. І каб не думаць болей пра гэта, Адась стараўся перавесці думкі на другое.

Вось каб можна было запаліць агонь, то ўзяў бы кніжку. Хоць зноў жа, якое там у чорта чытанне, калі на вуліцы ідзе гульня напрапалую! А тым часам ляжаць стала так нудна й нядобра, хоць ты плач. Аб тым каб заснуць, не можна было і думаць. Сон быў далёка і, мабыць, забыўся, што існуе на свеце Забрамны Адась.

«Кепска, пане Грыгоры: што далей, то горай! » — сказаў сабе Адась, а потым устаў, абмацаў попацёмку пасцель свайго старэйшага жанатага брата, Петры, і стаў шарыць рукамі ў галовах, шукаючы капшука з тутуном. Яму зажадалося закурыць.

— Петра, ты спіш? — запытаў ён шопатам, каб не пачулі бацькі, бо курыць пры бацьках Адась вараваўся.

— А што табе? — адклікнуўся той.

— Дай, братка, закурыць! Не спіцца нешта...

Петра дастаў капшук з-пад падушкі, усыпаў яму ў жменю шчопцю карашкоў, потымададраў на папяросу паперы ды, аддаючы, шопатам сказаў:

— Агню дастанеш у ямцы!

Зрабіўшы цыгарку, Адась гэтаксама вобмацкам падышоў да пячуркі, выгарнуў вугаль з агнём ды прыкурыў. Потым схаваў цыгарку ў жменю, каб не свяціўся агонь, падышоў да пасцелі ды зноў лёг. Зацягнуўшыся разоў колькі засап, ён раптам пачуў, што крыху адлягло ўсярэдзіне. Думкі сталі вальней, а на сэрцы зрабілася лягчэй. Адась аж пасміхнуўся ад радасці. Ён зноў стаў падносіць цыгарку да губ, каб зацягнуцца яшчэ раз, і раптам шпурнуў папяросу вобземлю, ды аж падскочыў ад болю. Гэта ён неасцярожна шаргануў папяросай аб коўдру і абсыпаў сабе грудзі гарачым попелам. Адась усхапіўся і сеў, абцярушваючы попел з сарочкі.

У гэты момант пачуўся знадворку гоман і тупат. Прыйшлі валачобнікі. Яны спыніліся ў двары, каля першага ад вуліцы вакна, і ўсе, як па камандзе, закашлялі. Крыху

счакаўшы, нехта пастукаў пальцам у шыбу і тройчы прамовіў:

— Хрыстос васкрос!

Петра прыўстаў і паглядзеў у вакно. Тым часам прачнулася і матка.

— Якія гэты, Петра? — запыталася яна.— Ці не блазнюкі якія?

— Здаецца, што не,— адказаў Петра.— Ці не з Меськай вуліцы толькі... Прывітацца, ці што? — запытаў ён, і, не дачакаўшы адказу, сказаў у вакно:

— Ваісціну васкрос!

На двары зноў закашлялі і загаманілі. Потым усё сціхла. Затромкала скрыпка. Нехта штось сказаў. Хтось пасміхнуўся. А далей зайграла скрыпка, і ўсе ўраз заспявалі:

Вя-лі-і-к святы-ы нам дзе-ень настаў!
Са сла-вай з гроба ваз-сі-яў,
Хрыстос васкрос, Хрыстос васкро-ос!
Хры-ы-стос васкро-ос!
Су-ботня по-оўнач чуць пра-шла-а...

Адась утарапіўся. Сярод дзявочых галасоў выдзяляўся адзін, каторы здаваўся яму знаёмым і чамусь заварушыў яго душу. Так, гэта быў знаёмы голас. Толькі дзе ён яго чуў? На начлезе хіба? І чаму ён так хватае за душу, як нешта мілае, але далёкае і забытае? Ці...ці не Зося гэта? — схамянуўся Адась.

Ён падсунуўся пад вакно, каб паглядзець, але трудна было разабраць, што ў цемнаце. Заметна было, што стаіць на двары натоўп людзей, бо там, дзе стаялі валачобнікі, было яшчэ чарней, як у іх збоку. Але паасобку нельга было разабраць нічога, толькі з натоўпу адражняліся белыя хусткі на дзявочых галовах.

Тым часам спяваць скончылі. На двары зноў зашушукалі і загаманілі, перасмейваючыся. Нешта вясёлае тромкала скрыпка, а ў тахт ёй перацінаў знаёмы Адасю голас: «Тай-та, тай-та, та-та».

— Заспявайце, валачобнічкі, яшчэ,— папрасіла матка, уткнуўшыся тварам у шыбы.

— Якую? — запыталіся знадворку.

— Быле якую... Адасю,— адказала матка.

— Зося, Адась дома? — моцна сказаў нехта з валачобнікаў, а дзяўчаты захіхікалі.

Адась аж скалануўся. Сэрца закалацілася і моцна затухкала. Салодкі жар разышоўся ўсярэдзіне. Гэта была яна, Тамашова Зося. І ў галаве ўсё асвяцілася, як маланкаю...

Сенакос. Пах сена. Яны на начлезе. Каля агню гурт хлопцаў і дзяўчат. Чуваць конскія звонікі і песні начлежнікаў з розных бакоў. Ноч цёплая, зорная.

Каля агню, наўпроціў яго, сядзіць Зося і пазірае яму ў твар сваімі вялікімі, бліскучымі ад агню вачыма. Яна шчыпле траву і шпурляе ў вагонь. Часам, нібы ненарокам, трава падае Адасю на калені. Ён маўчыць і сарамліва апускае вочы.

— Адась спаткі хоча! — смяецца Зося.

— Анізвання не хочу! — адказвае ён і чырванее як рак...

Успомніўшы гэта, Адась неяк само сабою шугнуўся да вопраткі і стаў адзявацца. А валачобнікі тым часам весела і вабка зачалі другую песню, ужо наўмысля для Адася:

Пасярод двара да стаяла ложа,
Вясна красна на двары!
На тэй ложы спіць паніч гожы,
Вясна красна на двары!
Спіць гадзінку, спіць другую...

Адась спяшаўся. Рукі яго трасліся, і справа з адзяваннем пасувалася не так шпарка, як таго бажалася. Ужо шукаючы шапкі, ён пачуў, што спяваць перасталі і сталі раіцца, каму гаварыць рацу.

— Зося, няхай кажа Зося! — загаманіла колькі галасоў. Тая, мабыць, не спрачалася, бо хутка пачуўся яе прыемны звонкі голас:

Дай табе Божа, пане гаспадару,
Піва варыці, сына жаніці,
Гарэлку гнаці, дачку аддаваці!
Дай табе Божа, пане гаспадару,
І ў каморы і ў аборы;
Дзе гара, там жыта капа,
Дзе лог, там сена стог!
Пане гаспадару! Не кажы нам іці.
Не кажы іці, кажы падарыці.
Нашы дары невялікія:
Пачынальнічку — па дзесятнічку,
Кожнаму пяўцу — па аднаму яйцу,
А кашаланосу — пірог к носу.
Хрыстос васкрос, Сын Божы!
Проша, пане гаспадару!

Петра ўстаў, пашастаў рукою па стале, нешта ўзяў ды выйшаў у сені, каб аддаць валачобнікам праз дзверы, бо вокны яшчэ не адчыняліся. За ім выйшаў і Адась, накінуўшы наапашкі сваё семінарскае паліто і змяшаўшыся ў цемнаце з валачобнікамі.

Жартуючы і весела гамонячы, валачобнікі падышлі да суседняй хаты. Там іх не прынялі, адмовіўшыся тым, што ў іх сёлета жалоба. У трэцяй хаце стукалі, стукалі — не дастукаліся. Тут жыў Вугнівы Рысь, як яго дражнілі на сяле. Ён, мабыць, наўмысля не адклікаўся, бо чалавек быў скупы і непрыветны. Ён часта сварыўся з жонкай і ў злосці біў гаршкі і міскі. Раз, пасварыўшыся з жонкаю, ён так раз'юшыўся на яе, што схапіў з качарэжніку качаргу але, абярнуўшыся назад, на хату, угледзіў прыпадкам абразы.

— А вы чаго ўтарапіліся на мяне?! — вызверыўся на абразы Рысь.— Хіба першы раз? — і пачаў матлашыць качаргою, заміж жонкі, па абразах...

— Скупяндзя! — гукнуў хтось з валачобнікаў на адыходку. А Ратуеў Плён, з каторым Адась пасвіў калісь быдла па лесе, спыніўся каля вушака і стаў віншаваць гаспадара па-своему:

Не далі яечка, каб здохла авечка!
Не далі кока, каб вылезла вока!
Каб на вашай хаце лебяда расла,
Каб ваша гаспадыня ўпроч пайшла!

Раптам шаснула вакно. Рысь высунуў галаў на двор і загаманіў сваім вугнівым голасам, не выгаварваючы зыку «р».

— Бнашы, бнашы — набнэшашся! Пныдзе пана — павесішся!

А Плён правіў сваё:

Каб вашы дзеці не жаніліся!
Пайшлі ў рэчку — патапіліся!

— Годзе табе, Марцін! — закрычалі валачобнікі на Плёна.— А то шчэ выскачыць з хаты ды лаяцца стане. Няхай яго нарац не знае, скупяндзю гэтага.

Спыніліся валачобнікі ў двары пасэсара. Хата пасэсара стаяла на ўзгорку, на шырокім дзядзінцы. Адгэтуль удзень сяло відаць было як на далоні. Унізе, за гумнамі, бачнелася рэчка і ахіляла ўсё сяло, як шырокім сталёвым пасам. За рэчкаю, цераз шырокі луг з бліскучымі вазярынамі, відаць былі пад гарою шэрыя вёскі зарэчанцаў, а па другі бок, за агародамі, каля дубовага гаю па беразе рэчкі, разлёгся шляхецкі засценак у адну вуліцу. У канцы засценку, каля крыжовых дарог, стаяла капліца, а каля яе, увабапал — тры вялікія крыжы з вострымі дашкамі і з белымі хвартушкамі пад кожным дашком. Адтуль, нібы з-пад зямлі, пачыналіся дарогі ды шпарка імчаліся паміж платоў па полю.

Яны ўзбягалі на ўзгоркі, спускаліся ўніз, зноў падымаліся ды недзе гінулі ў хмурным здалёк лесе.

І як удзень з дзядзінцу добра было разглядаць усё сяло і яго ваколіцы, так цяпер добра было чуваць, аб чым гаманілі людзі ў гэтую першую ноч на Вялікдзень. Гэта адзіная ночка ў цэлым годзе, калі ўсе сёлы і вёскі на Беларусі не маюць упынку ад людскага руху ад самага змроку да белага рання. Усе людскія сялібы гудуць і гамоняць. Усе людзі радуюцца, і радасць іх зліваецца ў адзін агульны спеў, у адзін прывет вясне...

Кампанія, да якой далучыўся Адась, мабыць, была аднаю з першых, бо калі яны затрымаліся каля пасэсара, то песні гэтаксама распачыналіся. Вось справа, як недзе з падзямелля, вынік сумна-набожны спеў «васолаў», спачатку спаважна і ціха, а потым мацней і шпарчэй:

Ва-со-лы нам дзі-ісь дзе-ень настаў,
Кту-рэ-эга з на-ас ка-жды жондал...

А з другога боку, як бы ў адказ яму, адгукнуўся прыспевак:

Алелюя, алелюя, а-а-ле-лю-я!

І раптам моцна, быццам аднекуль вырваўшыся, выбухла недзе ў канцы сяла і заглушыла ўсе іншыя спевы песня са скрыпкай і басэтляй:

Лу-укаш з Клеі-о-пам,
Разам адным тропам,
Йшлі да мястэчка Эма-ус,
Спаткаўся ім пан Езус.
Але-лю-юя!

А дзесь усярэдзіне, пасярод сяла, шчабяталі дробна, як птушкі, адны дзяціныя галасы:

Да на Вялікдзень, да на першы дзень,—
Хрыстос васкрос, Сын Божы!
Валачобнічкі збіраліся,
Збіраліся, рахаваліся,—
Хрыстос васкрос на ўвесь свет!
Слаўнага пана да пыталіся,—
Хрыстос васкрос, Сын Божы!
Слаўнага пана, пана гаспадара,—
Хрыстос васкрос на ўвесь свет!
Валачобнічкі не дакучнічкі,
Да ў год ходзяць, пана Бога просяць,—
Хрыстос васкрос, Сын Божы.

Хутка вуха пераставала адражняць паасобныя спевы.

Сталі даносіцца песні з суседніх ваколічных вёсак і засценкаў. Адны канчалі, другія зачыналі; тут сціхалі, там спявалі. Гэтак у ясную пагодную раніцу да ўсходу яснага слонца спяваюць у полі жаваранкі. Зазвініць адна, ёй паможа другая, падхопіць трэцяя, і так збоку, спераду, знізу, зверху і — усе нябёсы напаўняюцца адным агульным спевам, адным удзячным ранічным набажэнствам... Так людзі віталі прыход краснай вясны — мацяру зелені, кветак і жыцця...

Пакінуўшы пасэсара, Адасева кампанія абышла яшчэ хат колькі ды стала збірацца дадому. Усе адразу загаманілі, што ўжо хадзіць даволі — пара дзяліць валачобнае. Сталі раіцца, у чыю хату пайсці, каб падрахаваць валачобнае. Згадзіліся на тым, што для гэтай справы лепшага месца няма, як хата Вочытавай Труды.

— У іх нікога дома няма,— сказаў хтосьці,— паехалі ў госці, адна старая Труда на печы.

Быўшая тут унучка Труды пацвердзіла гэта, і ўсе шпарка павярнуліся і пайшлі. Па дарозе затрымаў іх Сцяцок Атось, зачыняўшы вакно, і папрасіў заспяваць хоць адну песеньку яго Юрачку. Юрачка быў адзін сын у Сцяцка сярод кучы дачок. Сцяцок насіўся са сваім Юрачкам як з пісанай торбай і не мог нахваліцца ім. Ён кожнаму расказваў пра яго, выхваляў яго недзяціныя здольнасці і не звяртаў увагі на тое, што людзі кпяць і выскаляюцца. Раз, каля манапольki, зайшла гутарка пра разумных і пісьменных. Сцяцок, дачакаўшы зручнага моманту, умяшаўся ў гаворку і сказаў:

— Вы кажаце — пісьменны... Гэта відаць з маленства. Вот мой Юрка, прымерам кажучы, дык зразу відаць, што будзе разумны і пісьменны. Уваходжу я раз у хату, аж ён разліў крупнік на стале, сеў ды пальцам піша...

Людзі аж паклаліся са смеху, а потым разнеслі славу пра Сцяцка і яго Юрачку па цэламу свету, шмат чаго дадаўшы ад сябе.

Праспяваўшы Атосю адчэпнага, кампання нідзе ўжо болей не спынялася і пайшла проста дахаты. Адась ішоў разам і пачуваў нейкі смутак і нездавальненне. Шкада было, што так скора ўсё скончылася. Ён бы рад быў хадзіць сёння цэлую ноч. Тым часам трэба было пакідаць кампанію ды йсці дадому, бо ў хаце пры святле ён будзе толькі замінаць ім.

Але расставацца не хацелася, і пры думцы аб гэтым ныла на сэрцы. І ён ішоў далей, пільнуючы, каб не страціць з

вока Зосю, каторая як магнусам выцягнула яго з дому і прыкавала да сябе ўсе яго думкі.

Адась увесь час трымаўся воддаль ад Зосі і толькі цікаваў за ёю, а цяпер падбавіў шагу, параўняўся і пайшоў побач з ёю. Яна гэта прыкмеціла і наўмысля зменшыла крок, каб астацца крыху ззаду ад кампанні. Валачобнікі, ідучы, гаварылі, смяяліся, жартавалі, але Адась не прамовіў да Зосі ніводнага слова. Маўчала і яна і толькі зрэдку перакідалася словам з тым, хто да яе звяртаўся. Адасю падабалася, што яна сама ні з кім не загаворвала, але сам загаварыць да яе не адважваўся. У яго нямеў язык, і ўсе словы вылятали з галавы, як толькі намерваўся што-небудзь сказаць. Ён напружваў усе свае думкі, каб што-небудзь прыдумаць, з чаго б пачаць гаворку, але нічога не выходзіла. Усе словы рабіліся нецікавымі і пустымі, няввартымі ўвагі. Ён ішоў і зайздросціў тым хлопцам, што так весела і ўдала смяшылі дзяўчат і ўсю кампанню.

Зося пачувала на сабе ўвагу Адася і мімавольна трымалася крошку іначай, як бы гэта было без яго. Прыкмячаў гэта і Адась, шчыльней захіляючы паліто, бо ўвесь трымацеў ад унутранага хвалявання. Яго апанаваў неспадзяваны холад. Былі моманты, што ён баяўся, каб да яго не загаварыла Зося ці хоць бы хто іншы, бо адказаць бы ён не змог ад праняўшых яго дрыжыкаў. Язык ацерп і адзервянеў. Рукі пахаладзелі і шорхлі, а сам ён здаваўся самому сабе спружынай, напятай да апошняй магчымасці. Тым часам Зося спакойна, як здавалася Адасю, ішла поплеч з ім, нешта думала сваё і кідалася ў вочы яму сваёю белаю хусткаю на галаве і чорным мантонам, зграбна аблягаўшым яе маладзенькі дзявочы стан.

Увайшлі ў двор. Скрыпнула закрутка ў дзвярах, і валачобнікі шухнулі ў сені. За імі пайшла і Зося. Адась неяк само сабою схапіў Зосю за руку і затрымаў. Яна лагодна падалася назад, не аднімаючы рукі. Адась сціснуў яе невялічкую, крыху шорсткую ад работы руку, і потым сам не памятае, як апынуўся з Зосяй у канцы двара, каля паркана, за каторым чарнелася голае галлё дрэў у садку.

— Зося! — сказаў засмяглым голасам Адась.

— Што? — шопатам адазвалася яна.

— Мілая, радасць мая, сэрца маё! — горача загаварыў ён, абняўшы яе за стан і тулячы да сябе. Яна падатна хілілася і трымала яго за другую руку. Адась мякка прытуліў дзяўчыну да грудзей і абняў за шыю. Галава яе схілілася Адасю на грудзі, а ціхі подых абдаў твар Адасяў пры-

емнай цеплатою. У Адася патуманела ўваччу... Ён мацней абняў яе за шыю, пацалаваў у шчаку. Стала саўсім цёмна, і галава салодка закружылася. Адась пераступіў з нагі на нагу, каб не паваліцца, бо невымоўна салодкая млосць разлілася па ўсяму яго целу. Губы ўтрымалі пацалунак мяккі, як шоўк, і салодка кальнуўшы ў самае сэрца. Ап'яняючы ошчуп шчакі расплыўся па сэрцы і агарнуў яго душу пачуваннем першыны, што здараецца толькі раз і не паўтараецца ў жыцці ніколі. «Шчасце, гэта шчасце, любошчы»,— як праз сон, праняслося ў яго галаве, і ён загаварыў далей усею сваёю істотай, як малітву:

— Радасць мая, шчасце маё, птушка мая, Зоська мая мілая! Я люблю, я цябе люблю!..

Зося маўчала, апусціўшы рукі, спачутна аддаўшыся ў яго абоймы, у яго моцнае, маладое ўлонне. Галава яе даходзіла да яго твару, а высмыкнуўшыя з-пад хусткі валасы кранулі яго вені. Адась ахапіў яе галаву рукамі і стаў цалаваць у валасы, у вочы, у абедзве шчочкі і трымацячым голасам пытаўся:

— Ці любіш ты мяне? Ці любіш, галубка мая? Скажы, ягадка мая, шчасце маё?

— Ты ж мяне не возьмеш... Кінеш ты мяне,— аказалася яна чуць чутным шэпатам.— Я простая, вясковая, а ты...

— Зоська мая, любка мая! Клянуся жыццем сваім, няхай пракляне мяне маці мая, калі я цябе кіну! Скажы ж, ці любіш ты мяне?

— Гэтак усе бажыліся, а хто з вашага брата ўзяў нашу сястру? Параз'язджаліся па свеце і адракліся на чужой старане...

— Не, я не кіну! Не кіну, любка мая! Наша Кася гэтаксама вясковая, а каб захацела, то пайшла б за вашага Уладзю. Яна не захацела, а не ён. Гэтак і ты... Ты гэта кажаш, бо не любіш мяне... Зоська, мілая мая, скажы, ці любіш ты мяне?

Апошні довад з Касяю, мабыць, праканаў Зосю і выбіў грунт у яе з-пад ног, бо далей яна не спрачалася, а цясней прытулілася к яму, зірнула ў вочы і шэпатам сказала:

— Люблю... саколік ты мой!..

І спалохалася таго, што сказала, бо адхіснулася ад яго і прамовіла:

— Пойдзем дадому! Ужо позна...

Адась не ўпрашаў. Яму самому хацелася астацца аднаму, бо рваліся грудзі ад нахлынуўшых пачуццяў. Ён узяў яе за руку і сказаў:

— Хадзем!

Якраз спрыпнулі дзверы ў сенцах, і нечая постаць у белай хустцы высунулася на двор і стала разглядацца па баках. Мусіць, валачобнікі трокнуліся, што няма іх у хаце, і хтось цікавы выскачыў паглядзець. Адась з Зосяй спыніліся і нахіліліся пад страху ў цёмны бок. Але дзверы зноў стукнулі, і постаць у белай хустцы знікла.

У хаце гарэў агонь. Праходзячы паўз вокны, Адась угледзеў, што ўсе валачобнікі былі каля стала. На стале гарэла газніца, пускаючы ўверх доўгі хвост чорнага дыму. Стол быў засланы белым абрусам, а на стале, каля газніцы, ляжалі яйкі, ахварбованыя ў розны колер. Найбольш было чырвоных, але відаць былі і белыя, напэўна, сырыя. За сталом сядзелі хлопцы і смалілі цыгаркі. Дзяўчаты стаялі. Двое хлопцаў, унурыўшыся за сталом, нешта лічылі. «Грошы, мусіць»,— падумаў Алесь.

За ўсю падарож да Зосінай хаты Адась не прагаварыў ніводнага слова. Маўчала і Зося. Яны разумелі сябе без слоў. Адась трымаў Зосю за руку і ціхенька паціскаў. Яна адказвала яму тым жа. Адась хацеў быў узяць яе пад руку, але саромеўся, каб не выйшла па-панску. Хвальш і ненатуральнасць была цяпер праціўна.

Так яны прыйшлі ў двор. Каля дзвярэй развіталіся. Ужо пераступіўшы парог, Зося затрымалася і сказала:

— Прыходзь, Адась, заўтра ўвечар к нам на прызбу. Будуць дзяўчаты...

— Прыйду! — сказаў ён.— Бывай здарова!

— Хадзі здароў,— адказала яна і замкнула дзверы.

Сяло ўжо спало. На ўсходзе пачынала віднець. Неба праяснілася, і паказаліся зоры. Крыху пахаладнела. Узышоўшы на грудок, Адась пачуў, што ў засценку яшчэ спявалі. Там звычаі былі інакшыя. Валачобнікаў збіралася адна кампанія, каторая абходзіла ўсе хаты. Там кожны гаспадар, пасля рацы, заклікаў валачобнікаў у хату і даваў пачастунак. Валачобнікаў надаралі ўсім, чым хата багата: салам, яйкамі, каўбасамі і грашыма. Па такіх шляхецкіх засценках валачобнікі хадзілі да самага свету. Ужо Адась прыйшоў дадому, як там, мабыць выйшаўшы з хаты, зноў заспявалі валачобную польскую песню, бо жылі там адны каталікі:

Хрыстус з мартвых устае,
Нам на пшыклад дае.
Чэго мы пожондалі,
Тэго мы дачакалі.
Алелюя!

Дома усе спалі, як Адась увайшоў у хату. Ён заўважыў нават, што ўжо Кася і тая спала.

Распрануўшыся каля ашорстку, Адась паціхеньку, каб не нарабіць груку, падышоў да сваёй пасцелі і сеў. Усё яго цела ныла ад салодкай утомы. Сэрца трапяталася ў грудзях, поўнае ціхай радасці. Неяк без дум, без жаднага замеру, саўсім неспадзявана для самога сябе, Адась сашчаміў на каленях рукі, абярнуўся да абразоў у хаце і стаў маліцца, выразна вымаўляючы словы:

«Отчэ наш, іжэ есі на небесех! Да свяціцца імя Тваё, да прыідзет царсцьвіе Тваё, да будзет воля Твая, яко на небе, так і на зямле».

Залопаў крыллямі певень і заспяваў. Пачало развідняцца.

# ПУБЛІЦЫСТЫКА

*Можа ж быць, раней загінем,*
*Дык усё ж мы след пакінем,*
*Бо, браток, хоць промень свету*
*Прыняслі мы ў пушчу гэту!*

Алесь Гарун. Сібір, 1912 г.

# 1912—1914

## *Сібір, г. Кірэнск, Іркуцкай губ.*

Каля горада Кірэнска прытулілася амаль не сотня палітычных ссыльных. Шукаючы работы, зышліся яны сюды з усіх куткоў Кірэнскага павету, дый паспыняліся ў ваколіцах, у вёсках, бо ў горадзе жыць забараняецца. Невялікі гэта горад, але мае дзве пристані, ды кожын спадзяваўся паблізку зарабіць на кавалак хлеба. І запраўды, таму, хто ведаў якое майстэрства, пашанцавала знайсці заработак, але гэткіх надта мала, рэшта, паабіваўшы парогі, стрэлася твар з тварам з магутным голадам. Калі дзе трапіцца, ідуць за хлеб у парабкі, згаджаюцца на ўсякую работу, абы не памерці з голаду. Ёсць многа гэткіх, што не маюць ува што ані абуцца, ані апрануцца. На дварэ сібірская сцюжа, а тут не дзіва спаткаць на вуліцы «палітыка» ў адным кулёчку*. Тутэйшы народ ніколі не бачыў гэткага здарэння і вельмі дзівуецца, што «які трывалы расейскі чалавек»... Іншыя праз колькі гадоў не бачылі гарачай стравы, жывяцца адным хлебам, ды і то, калі з дому прышлюць рубельчык ці два; а як не, то па колькі дзён святым духам сядзяць. І гібеюць людзі бясконца, гінуць марна, як мухі ўвосень. Той занядужае ад холаду і голаду ды памрэ, а той не вытрывае, ды сам сябе звядзе са свету. З таго ліку таварышоў, з якімі я прыйшоў, гэткім парадкам страцілася ўжо 9 чалавек. Ды каб вы ведалі, мае землякі, якія гэта ўсё людзі маладыя, пісьменныя, надта патрэбныя нашай гаротнай старонцы... Ніхто не ведае, што здарыцца заўтра, ніхто не бярэцца сказаць, ці хопіць магчымасці прагнаць заўтрашні дзянёк. Боязна зірнуць у вочы заўтраму, бо яно, як ваўкалак, стаіць, выскаліўшы зубы...

Да гэтага яшчэ прылучаецца нуда па роднай старане. Сэрца заходзіцца ад жалю, што, можа, ніколі не давядзецца

---

* Кулёчак — пінжак з даматканага матэрыялу.

хадзіць па родных сцежках, ніколі не пачуць тых мілых песень, якія сам спяваў з маленства. Таварыш мой усхопіцца ўночы, ды пачне заганяць гусей: «гыля, гыля!» Потым прачнецца, звернецца да мяне ды запытае: «Ці няма у нас лустачкі хлеба? Ну, хоць малюсенькай скібачкі?..» — «Няма, братка! Сам ведаеш: учора з'елі»... Ды ўжо не спіць усенькую ноч, усё варочаецца, уздыхае і думае... Што ж ён думае? — ці не можа хто адгадаць?

## *г. Кірэнск, Іркуц. гб.*

У дзень шостых ракавін існення «Нашай Нівы», віншуем Рэдакцыю і супрацоўнікаў з вялікім святам нараджэння першай нашай газеты. Ад шчырага сэрца зычым Вам здольнасці і моцы ў Вашай вялікай сумленнай працы. Ужо, пакрытая буйністай збажыной, шуміць і рунее некалі мёртвая і незычная наша Маці-Ніва. Хай жа расце і мацнее, няхай красуе і спее на шчасце, на долю, на карысць ды на спажытак сэрцу й розуму нашага Народу! «Будуйце, браты, будуйце!» Вецер павее ды хмары разгоне, неба праясніцца, сонца пакажацца і хутка развіднее над нашай краінай. Час недалечка, прачнецца народ наш ды сам ён — вялікі пакутнік, спрадвечны гаротнік — вялікі скажа Вам дзякуй!

Віншуем цябе, Беларускі Народзе!

У сумнай разлуцы з мілай радзімаю, мы шлём табе пажаданне, укаханае сэрцам тваім спаконвеку! Няхай закрасуе Ніва твая жытам, пшаніцаю, няхай запануе гаспода твая дабром ды скарбніцамі! Каб сонца навукі, братэрства і згоды ўзышло над тваёю зямліцаю, каб доля шчаслівая, доля ласкавая завітала к табе гаспадыняю, ды каб усміхалася ў хаце тваёй цветам, калінаю! Няхай закрасуе дзявоцтва тваё макавым цветам, няхай запышэе ўся моладзь твая талентам, навукай, асветаю! Ды каб наша бажанне эхам кацілася ўсюды і скрозь, дзе чуецца нашая мова, дзе б'ецца беларускае сэрца!

Жахам вее ад твае гісторыі, вялікі Беларусе! Мабыць, уся моц пякельная, уся немач сусветная, зрадзіўшыся, пасталі ўпоперак табе на дарозе. Як кінеш вокам на мінуласць тваю, як зірнеш у крывавае мора тых слёз, пакуты і енку, што абдаравала цябе гістарычнае жыццё тваё, дык

сэрца кроіцца ад смяртэльнага жалю, грудзі рвуцца ад непераможнага смутку! Хочацца ўкленчыць, плакаць ды маліцца табе, многапакутнаму, доўгатрываламу. Нельга даць веры, што можна вытрываць гэту пакуту, а ты вытрываў, перамог, але й дарагім жа коштам...

У безупынным змаганні за жыццё сваё, у няроўных борках з нядоляй сваёю ты страціў усё: правы, асвету, суды, законы, школу,— нават імя свайго забыўся! Ты стаў нацыяй без імені, чалавек без прозвішча, гуртам «простых» невядомых людзей! Тваім імем завуцца другія, тваім скарбам зухуюць чужыя! Ды не здолеў ты, не стрымаўся, не ўстояў пад цяжарам крыжа свайго,— застагнаў, паваліўся і самлеў доўгім летаргічным сном...

Навокала ішлі, гаманілі, дбалі, змагаліся — жылі, весяліліся, и ты — сплюшчыўшы змарнелыя вочы, сцяўшы засмяглыя вусны, спачываў ад гістарычнай турботы... Падарожныя рабавалі гаспадарку тваю, а ты не меў абаронцаў скарбу свайму, пагубіў вартаўнічых мення свайго, сам жа не здолеў устаць ды крыкнуць ім: прэч! Здавалася, навекі ты змоўк, навекі спачыў, бо пачаў рабіцца тым гноем, на якім выраслі ўсяму свету вядомыя кветкі... І дзеці твае адкраліся ад цябе ды паразыходзіліся ва ўсе бакі, шукаючы новай долі, новай бацькаўшчыны...

Але, яснае сонца вечнага жыцця, дух адраджэння завітаў і к табе. Ты прачнуўся, устаў, падняў вочы, поўныя скаргі і жалю, азірнуўся, шукаючы прыпынку, ды патрабаваў сваёй часткі ў агульным людскім жыцці. Тагды абапал аступілі цябе парадчыкі, ды наперабой сталі раіць, не рабіць драбніцы, не кваліцца на асобнасць, а прылучыцца да іх, бо, моў, спрадвеку належаў да іх і ніколі не меў уласнай гаспадаркі. З навукі цвёрда даводзілі табе, што ты — не ты, што мова твая паганая, брыдкая — сорам пры людзях сказаць, што з ёю нельга ўвіхацца каля гэткае гаспадаркі, як навука, асвета, культура. Толькі іх мова пекна ды здатна для навукі, набажэнства, толькі ім даў Бог права быць культурнымі ды асвечанымі, а ў цябе ёсць святая павіннасць дастаўляць ім пісьменнікаў і паэтаў, дбаць аб іх славе, большыць іх культуру, навуку. Яны бажыліся табе, што, працуючы не дома, а ў людзях, сеючы чужыя нівы, карысць будзе большая і для цябе ўасобку, і для культуры агульнай. Але ўцяміў ты, на якую сцежку кіруюць парадчыкі: ззаду ў іх ты ўгледзеў кайданы, а напрыканцы тае сцежкі — смерць, ды з агідаю ў душы, з болем у сэрцы за ненатхланнасць людскую, моўчкі, без спрэ-

чак адвярнуўся ад іх, заспяваў песню сусветнай пакуты ды стаў склікаць дзетак сваіх да вялікай працы на карысць уласнай гаспадаркі. Пазляталіся яны, непрытульныя сокалы дый зашчабяталі, прабуючы свае, яшчэ неўмацаваныя скрыдлы!

Дык жыве Беларусь!
Хай жа цвіце і красуе Беларусь!

## *Украінска-беларуская вечарынка ў Сібіры*

У канцы лістапада гэта адбылася вячорка, нарыхтаваная палітычна-ссыльнымі ўкраінцамі і беларусамі. Зышоўшыся аднакрацць грамадою, хлопцы парадзіліся ды згодзіліся ўспамянуць сваю далёку радзіну роднымі песнямі, танцамі, дэкламацыяй. Налагодзілі пачастунак, паклікалі гасцёў — таварышаў і мейсцовых знаёмых. Гэта, як і агульна ў ссылцы, украінцаў больш, як беларусаў, а загэтым на вячорцы перавагу мелі яны. На жаль яшчэ — беларусы разышліся па розных кутках, дык маглі прыйсці на вячорку невялічкім толькі гуртком. З гэткаю жменькаю нельга было сарганізаваць свайго хору, ні танцаў. Усе так няздатны на скокі, што ніводзін не ўмеў даладна ківвяльнуць нагою, хоць кажуць, удаліся беларускія танцы. Уся ўвага была звернута на дэкламацыю і песні. Дзеля знаёмасці мелоды песняў ігралі на струнным аркестры. І трэба сказаць, што з гэтага боку ўдалося зацікавіць беларушчынай як найлепей. Надта ўсім спадабалася і зрабіла моцнае ўражанне песня «Ой, за лозамі». Яе зайгралі якраз апасля ўкраінскага «гапака». Было многа гоману, і за смехам ды гоманам не ўсе нават расслухалі, як гаспадар вячоркі апавяшчаў, што будуць іграць беларускую песню. Але ўсе раптам змоўклі і сцішыліся, як ціха, мэрам аднекуль знадворку, пачуўся плач мандаліны. Непрыкметна ўся хата напоўнілася такім балючым жалем, такім смуткам і журбою, што скура шорхла і галава хілілася на грудзі. Аркестр плакаў, стагнаў; ён цяжка ўздыхаў ды быццам намагаўся вымавіць:

Ой узыдзі, узыдзі рута-мятачка,
Хаця ты завяжыся!
Ой прыйдзі, прыйдзі ка мне міленькі
Хаця ты пакажыся!

— Колькі тут жалю, смутку, жалобы! — казалі адны.

— Пад гэту песню не заскачаш,— дадавалі другія.

— Але не, ты паслухай: звычайная з'ява — кахаў, перастаў, а... а...— не знаходзіў слоў сваім пачуццям трэці.

Гэтаксама добра спадабалася і дэкламацыя, асабліва «Тарас на Парнасе». Многа было смеху, рогату. Пачалі дапытвацца, хто напісаў, калі, ці багата наша літаратура гэткімі пекнымі рэчамі?

— Дык як, ваш Тарас лез на Парнас? — са смехам пыталіся потым на спатканні.

— А Венера — дзеля красы нечым белым твар свой беліць?

У канцы адзін беларус прадэкламаваў вершаваны твор «За што я быў у вастрозе?». Слухаючы яго, на думку ўсплывалі тыя далёкія дзянькі, калі, здаецца, само паветра патыхала вераю і надзеяй, калі было лёгка на сэрцы, светла на душы, і кожны быў дома...

Трэ сказаць агульна, што беларускія рэчы ўсіх вельмі зацікавілі і слухаліся з вялікай ахвотай. Усё гэта было першынкай, навінкай; мала хто чуў нашу мову, а што беларусы маюць сваю літаратуру, дык гэта даведаліся мо першы раз зроду. Ці мала было тут людзей і досыць асвечаных, але аб беларусах, як гэта вядзецца, мала хто ведаў; лёс батакудаў або гаттэнтотаў больш іх цікавіў, чым жыццё людзей, каторыя жывуць з імі поплеч. Гэтак ужо заўсёды, калі што пастаянна стаіць перад вачыма, дык робіцца звычайным, нецікавым і здаецца ўцямным. Шмат шкоды нарабляе школа, праводзячы погляд на беларусаў, як на «искони русских людей». Адзін расеец казаў, што ён запраўды думаў, што ўся розніца паміж намі ў тым і тоўпіцца, што жывём мы ў асобных месцах, быццам у розных губернях. Кожны, ведама, чытаў і ў школе вучыўся, што Беларусь — гэта нядаўна забраны край, ніколі раней да Масквы не належаў, а значыцца, меў іншую гісторыю і іншыя варункі жыцця, але ніхто на гэтым не спыняўся і не пакладаў увагі. Цікава, што нашу мову блытаюць з украінскаю, і адзін пан з Расеі памылкова лічыў ды другім казаў, што «Тарас на Парнасе»—украінскі твор. (Дарэчы сказаць: гэты пан прызнаваўся, што ён «аж спацеў», пакі перачытаў два лісцікі «Гісторыі Беларусі» Власта. Які ж цяжар трэ здзержыць беларускім дзецям, каб навучыцца граматы па-расейску?!)

Усё гэта сведчыць за тое, што нам самім трэба рупіцца аб тым, каб аб нас ведалі, з намі знаёміліся ды шанавалі. Трэ самім дбаць, бо — «хто дбае, той і мае». Украінцы

дзеля гэтага маюць спецыяльны журнал, а мы — у нас сабе нямашака журнала, нет штодзённай газеты і — сорам пры людзях вымавіць — мы так нядбалы, нярупны, што не можам падтрымаць свае ядынае газеты «Нашай Нівы». Не ў тым, кажуць, сіла, што кабыла сіва, а што возу не цягне. Не аб тым ідзе, каб назвацца беларусам ды сядзець заціяўшы рукі. Пачэснае імя «беларус» вымагае дзела; яно накладае на нас святую павіннасць працаваць на карысць свайго краю, шырыць свядомасць паміж бязбожна занядбаных, блудзячых у цемры братоў сваіх. Трэба будзіць свядомасць нацыянальную і грамадзянскую. Пара ўжо ўцяміць, што нацыянальна несвядомы народ — грамадзянска цёмны народ; гэта тая каламутная вада, у якой спрытныя людзі ўмеюць рыбку лавіць. Кіньце вокам на гісторыю апошніх год, і вы ўгледзіце, што нацыянальна сведамы народ умее добра бараніць і грамадзянскія, і агульналюдскія правы. Не дзіва, што Беларусь пасылае ў Думу самых цёмных дэпутатаў, што не маюць ніякага нацыянальнага пачуцця. Кіньце вокам на часы даўно мінулыя, разгарніце гісторыю, і вы ўгледзіце, што навука, асвета пачалі расці ды шырыцца ў Еўропе толькі з тых пор, як там запанавала родная мова. Покі мовай навукі, школы была лаціна, там не маглі з'явіцца гэткія людзі, як Сервантэс, Шэкспір і др. Толькі роднаю моваю мог быць напісаны «Фауст», толькі на родным грунце мог радзіцца гэткі вялікі пісьменнік, як Гётэ. Мёртвая і незразумелая лаціна сушыла сэрцы й розум людзей, не давала ніякай стравы для душы; дык і не дзіва, што тагды тапталіся на месцы, шукаючы «жывучага і гаючага эліксіру», не ведаючы таго, што яго і шукаць не трэба: тым «гаючым эліксірам» была родная мова...

Дык да працы, браты; з верай і надзеяй, з прыемным пачуццём таго, што й наша цагліна ўмуравана ў вялікай будоўлі светлай будучыні нашай бацькаўшчыны!

Добра б зрабілі тыя мясцовыя расейцы і палякі, што маняцца працаваць на карысць старонкі, іх узгадаваўшай ды выпестаўшай — добра б, кажу, зрабілі яны, каб узяліся знаёміць расейскае і польскае грамадзянства з Беларуссю і беларушчынай. Гэта мо самае лепшае, што яны могуць зрабіць пры варунках сучаснага жыцця... Цікавасць, ды годзе: дзе гэта беларускі буржуа? Ажно смех бярэ: добрыя людзі розуму не дабяруць, як ад іх адчапіцца, а нам каб хоць паглядзець на іх, як на тых белых вераб'ёў! Ці не вы гэта, выбачайце, будзеце «палякі з Літвы»? Бо дзе ж яны падзеліся, патомкі даўнейшага беларускага баярства? Мэ-

рам іх карова языком злізала... Пара ачухацца ад гістарычнага чаду, час паставіць сабе пытанне: «хто мы, чые сыны, якіх бацькоў?» Жыццё рухаецца ўперад праз варункі ад нас незалежныя; яно не рахуецца з нашым густам і жадобаю, а ідзе сваім уласным шляхам, абумоўленым і абмяркованым пярэднім поступам і гісторыяй. Загэтым, кожны сумленны працаўнік павінен разгледзець гэты шлях, гэту сцежку грамадзянскага руху ды рупіцца аб тым, каб ачышчаць яе ад усякага хламу й лам'я, панакіданага гісторыяй. Нічога з намі не зробіш: беларусы мы былі, імі і застанемся. Гэткі мы ўжо ўпарты народ!..

Нельга замоўчыць аднаго здарэння, якое выявілася на вячорцы. Адзін хлопец, каторага ўсе лічылі за шчырага сведамага беларуса не прыйшоў нешта на вячорку. Гэта ўсіх зацікавіла, і пачалі дапытвацца, чаму, якія ён меў на гэта матывы? Ды вось даведаліся: ён не беларус, а літвін. Радзіўся ён на Беларусі, усё беларускае яму дарага, блізка і міла, але прылучаць сябе да беларусоў ён не можа, бо йшчэ маленькім чуў, што яго бацька з маткай размаўляў па-літоўску. Сам ён па-літоўску не ведае ніводнага слова; пекна гаворыць па-беларуску, а звычайна па-расейску, але па-апошняму так добра і здатна, што ў ш. п. Струвэ валасы дуба пасталі б, каб яму давялося пачуць сваё роднае «койнэ» з вуснаў гэтага хлопца...

Не шкодзіць, каб і беларускія «палякі» ды «расейцы» пайшлі па сцежцы таго хлопца. Годзе ўжо дурыць галаву і сабе, і людзям, час і вум па галаве пусціць.

# 1917

## *«Вольная Беларусь»*

... Беларусь, Беларусь!
Агнём імя тваё мне гарыць,
С песні ласкаю маткі нясецца;
Ясным сонцам ў размове стаіць
І грымотай у гнеў раздаецца!

Як нявеста ў н携роднай сям'і,
Ты пасагу сабе не надбала —
Залатыя кляйноты свае
Ў пыху сёстрам сваім даравала.

Калі мы азнаёмімся з вялікай кнігай гістарычнага лёсу народаў, дык хутка пабачымо і праканаемся, што ніводная нацыя, ніводзін народ на свеце не меў горшага жыцця, горшай гістарычнай долі, як наша старонка, нашая родная Маці-Беларусь. Атрымаўшы становішча паміж розных народаў, яна нікога не чапала, ні на кога ніколі не нападала, ні з кім не змагалася, а толькі баранілася, ратавала сваё жыццё, сваю нацыянальную самабытнасць, покі хапала сілы, покі была змога і магчымасць. І мо за гэта завецца яна не вялікая ці малая, не чорная ці чырвоная, а *Белая Русь,* чыстая, светлая, як бель-беляваная, без плям зайздрасці, без задзірства і здзеку.

Але і слаўная мінуўшчына нашага краю!

У той час, як на Маскоўшчыне стаяла страшэнная цемра, у нас панавалі навука, прасвета, шырока квітнела грамадзянскае жыццё. Цёмныя людзі Маскоўскага царства грамілі друкарні, гасілі прасвету, баяліся кнігі, не раўнуючы, як чумы ці халеры, тагды як наша грамадзянства, не здавальняючыся ўласным выхаваннем, пасылала дзяцей сваіх да вышэйшых навук за граніцу, дзеля большай адукацыі, дзеля лепшага выхавання. І лепшыя, асвечнейшыя

людзі і Масквы, як Курбскі*, напрыклад, або Мсціславец** ці Тодар Друкар***, хаваючыся ад раз'юшанага натоўпу, шукалі ратунку ў нашай бацькаўшчыне і знаходзілі тут братэрскі прывет і пашану. Відаць, што на той час Беларусь была для Маскоўшчыны, як Швейцарыя ці Францыя нашага часу, куды ўцякалі ад царскага гневу лепшыя людзі дарэвалюцыйнай Расіі. Наогул, нацыянальная культура на Беларусі тагды стаяла досыць высока: існавала рэлігійная вольнасць, не было нацыянальнага ўціску, і жыды, напрыклад, мелі роўныя правы з усімі людзьмі Літоўска-Рускага гасударства. У 1517 годзе Францішак Скарына ўзяў на сябе справу вялікае вагі — пераклаў і выдаў Біблію на беларускай мове «ку лепшаму,— як ён пісаў,— выразумленію люду паспалітаго». Праўда, не надта ўжо проста і зразумела яна перакладзена, шмат мае царкоўна-славянскіх зваротаў, але гэта была эпоха ў культурным жыцці беларусаў, асабліва калі ўзяць на ўвагу шырокую публіцыстычную літаратуру таго часу і адправы набажэнства па-беларуску. Культура на Беларусі цвіла і рунела, і каб не стрэла на шляху сваім цяжкіх варункаў агульнага жыцця, дык, напэўна, яна даўно стаяла б нараўне з культурай Заходняй Еўропы.

Ды не так яно сталася, як жадалася. Беларусь заўсёды была прынаднай краінаю, смачнаю лустай, і суседзі грызлі яе з усіх бакоў. Немцы, або крыжакі, маскоўцы ці палякі — тыя ці другія скублі яе адтуль ці адгэтуль. А народ наш спакон веку быў ціхі і лагодны. Ён не любіў ваяўніцтва і больш здольнасці мае да сахі на полі або да пяра на паперы. Ваяўніцкая шабля яму не да густу. Сумныя песні яго поўныя скаргі і жалю на ваенную калатніну. Тым часам палітычнае жыццё вымагае саўсім іншага. Хто хоча абараніць сваю самабытнасць і захаваць палітычную незалежнасць, той павінен не толькі бараніцца, але мусіць і сам нападаць ды заваёўваць, чаго беларусы па сваім лагодным характары рабіць не маглі і не хацелі. Мэрам ведаючы гэта, суседзі дарэмна часу не марнавалі і добрых людзей не шкадавалі. Амаль не штогодна нападалі на нас, палілі вёскі, нішчылі гарады, палендравалі палеткі, гуртамі ўво-

---

* Курбскі Андрэй Міхайлавіч (1528—1583) — князь, рускі палітычны і ваенны дзеяч.

** Мсціславец Пётр Цімафееў (г. н. і см. невядомы) — адзін з беларускіх і рускіх першадрукароў.

*** Тодар Друкар — Іван Фёдараў (г. н. невяд.— 1583) — заснавальнік кнігадрукавання на Украіне і ў Расіі.

дзілі людзей у няволю. Зямля курылася ад крыві людскай, засцілалася неба дымам пажараў. Няма грунту такога, няма таго месца ў нашай старонцы, дзе б ні лілася кроў бацькоў нашых, дзе б ні трухлелі косці ворагаў нашых. Беларусь змагалася, як магла баранілася, але нічога не ўдзела. Упарты быў вораг яе, дужага і зайздроснага даў Бог суседа ёй. Дзеля змагання з немцамі яна злучылася да супольнага жыцця з Літвою ды разам з ёю ратавала сваю бацькаўшчыну. Дзеля гэтай жа мэты не раз ядналася яна ў хаўрус з Польшчай, покі ў страшэннай Грунвальдскай баталіі немцы не былі разбіты спрэс. Збавіўшыся ад немцаў, Беларусь тым часам сапачынку сабе не знайшла. Трэ было бараніцца ад Польшчы і Масквы. Але адна яна справіцца з імі не магла. Трэ было шукаць іншай рады. Аб палітычных умовах Маскоўскага царства хадзілі страшэнныя чуткі (Іоанн Грозны). Гістарычныя варункі вымагалі знайсці сабе хаўрусніка. І выбіраючы з двух ліх меньшае, яна памірылася з Польшчай ды злучылася з ею, як роўная з роўнай і вольная з вольнай. Але дабра не бачыла. Увесь час супольнага жыцця прайшоў у змаганні з паланізацыяй (апалячваннем) і ў бажанні выкарабкацца з-пад суседзяў на шлях самабытнага жыцця. Скончылася тым, што абедзве яны папалі ў цупкія рукі Маскоўскага царства...

У безупынным змаганні з нядоляй сваёю Беларусь страціла ўсё: сваю палітычную незалежнасць, сваю школу, асвету, законы (Літоўскі статут) ды нават імя свайго забылася. Мы сталі нацыяй без імя, народам без прозвішча, гуртам «тутэйшых», «простых» людзей, «дзядзькамі» з забранага краю. Народ змогся, страціў апошнія сілы ды мэрам заснуў летаргічным сном.

І мабыць у гэты страшэнны час цішы і нацыянальнай паняверкі стварылася казка пра забітага брата. Апавядаецца яна не ўлетку, як свет Божы грае й красуе, і не ўзімку, калі мароз і завіруха, а ў час вялікага посту, напрадвесні, напярэдадні новага жыцця.

Мяне брацяйкі забілі,
Нож мне ў сэрцайка ўсадзілі,
Чарапком вочы накрылі.
Не грай, дудачка, не грай,
Майго сэрца не ўражай!..

І апавядаецца ў казцы гэтай, дзе дастаць тых лекаў, дзе можна расстарацца тае вады жывучае і гаючае, каб адратаваць забітага брата.

Для нас, сучасных дзяцей Беларусі, тымі лекамі, той

вадою жывучай і гаючай ёсць наша беларуская мова і асвета на грунце роднай культуры.

Вялікая Расійская рэвалюцыя паадчыняла дзверы да вольнага жыцця не толькі паасабістым людзям, але і цэлым народам, усім пакрыўджаным і зняважаным нацыям, а ў тым ліку і нам, беларусам. Ад шчырага сэрца вітаючы вольнасць Дзяржавы Расійскай, мы з набалелаю, пакутнаю душою рвёмся да новага жыцця, да культурна-нацыянальнага адраджэння нашага народу. Мы цвёрда ведаем, што гэтакага маменту двойчы не будзе і што страцім цяпер, таго не найдзём ніколі. Наша святая павіннасць, доўг кожнага свядомага грамадзяніна і беларуса не бавіць часу, а цяпер жа, да склікання Устаноўчага Сойму (Учредительного Собрания), аддаць свае сілы і розум на службу многапакутнага народу. Няхай запануе ў душах нашых грамадзянін, шчыры сын сваёй бацькаўшчыны і ўсяго працавітага народу. Пойдзем на вёскі, на сёла, пойдзем на фабрыкі, заводы, у крамы, канцылярыі і панясём туды святло *нацыянальнай, палітычнай і грамадзянскай* свядомасці. Мы ведаем, што трэ будзе змагацца не толькі з забабонамі чужынцаў, але й з уласнаю цемрай, каторая спавіла нас чорнаю хмараю пад час панавання царскага самадзяржавія. Соткі год трымалі нас у кайданах няволі, соткі лет атручвалі народ наш то польскасцю, то маскоўшчынай, і цемра наша да жаху страшэнна густая і вялікая. Народ блудзіць па ёй, мацаючы і растапырваючы рукі, як сляпы без павадыра,і прымае прыхільніка за ворага, а ворага за прыхільніка.

Цяжкі грунт нашай працы. Повен гвалту і неспадзёвак шлях нашай будучыні. Мо не раз разаб'емся мы да крыві, не раз заплачам мы горкімі слязьмі, але бясконца вялікая вера наша ў святую справу нашу. І які б лёс ні спаткаў па дарозе да нашай мэты, нішто нас не затрымае і супыніць не можа. Да вялікай працы, браточкі, уставайце! Да змагання за аўтаномію Беларусі, за дэмакратычную рэспубліку Дзяржавы Расійскай!

*Жыве вольная Беларусь!*

У вялікі час выходзіць наша газета...

Стары лад скончыўся і не паўстане болей ніколі. Няма цара, няма здзеку, уціску і паняверкі. Выйшлі на волю барцы за вольнасць і шчасце народу. Расчыніліся дзверы да светлай будучыны, у вялікі гмах братэрства, вольнасці і згоды.

Расія стала напярэдадні новага жыцця.

Параскіданы царскія троны, папарываны кайданы, паламаны шыбеніцы. Народ сам стаў дзяржаўцам сваім, царом жыцця свайго. Устаў ён, вялікі, магутны і вольны, падняў вочы, поўны жалю і скаргі, азірнуўся, уздыхнуў на ўсе грудзі ды загукаў на ўвесь свет: «Браты! Хай кожны паспяшае адно нам думаць і рабіць. Хто быстру рэчку затрымае, скуль сілу гэтаку дабыць?»

Расчыніліся дзверы да вялікай майстэрні, у кузню новага жыцця. Народ будзе сам сваю долю каваць. І ніхто ўжо не стане яму на дарозе, ніхто не затрымае і не спыніць яго, цара цароў і гаспадара гаспадароў.

Калом зямля яму, таму ладу старому! Будзь ён тройчы праклятьі, лад крывавага царскага панавання, лад шыбеніц, астрогаў, заслання, уладараства, цямноты, галоты, здзірства і здзеку!

Мо нікому на свеце не даўся ён гэтак у знакі, як нам, беларусам. Мала таго, што з нас высмоктвалі кроў, але і дбалі пра тое, каб народ наш быў найцямнейшы і паслухмяны, як тая жывёла.

Недарма ж звалі нас «быдлам». Яны таптаді чалавецтва наша, абсмейвалі сакраманты душы нашай, здзекаваліся над мовай нашай і прагналі яе са школы, з судоў, з усіх інстытуцый. Заміж роднага, з дзяцінства нам мілага слова, яны давалі спачатку нам польскую мову, потым расійскую або маскоўскую і каб магчыма, здаецца, дык далі б нам татарскую, абы ямчэй сядзець на карку нашым, абы лягчэй смактаць кроў нашу. Бо без мовы, без роднага слова, народ, як тое быдла, з якім робяць хто што хоча. Пад гумар жартуюць, а ў злосці катуюць. Прыпамятай, беларусе, што з табой выраблялі!?

Каб апісаць усё атрамантам, дык загаласілі б людзі лямантам...

Але народ як спружына: чым мацней націскаць яе, тым раптоўней выпростваецца яна ўверх і з нязмернай сілай б'е таго, хто не здолеў стрымаць яе.

Паўстаў народ і магутным рухам сваім разарваў векавыя кайданы.

Як трухлявае дрэва разбілася на друзгі царскае самадзяржавіе, гэты ідал крывавы, вінавайца нашага гора, слёз і пакуты. Зрабілася цуда. Раптам не стала цароў, зніклі прывілеі, усе сталі роўнымі і вольнымі. Разам з тым знікла, як дым, і тая розніца, што дзяліла мову людскую на панскую і мужыцкую. Усе яны — і польская, і расійская, як

і наша беларуская — маюць права на жыццё і пашану; усе роўныя і аднакія, няма паміж іх ні горшай, ні лепшай, як няма сярод роўных большага ці меншага.

Дык устань, Беларус, пратры вочы свае і смела глянь на белбожы свет!

Падай руку братэрскі суседу свайму, прывітайся да ўсіх, як роўны з роўным, як вольны з вольным.

Будзь горд, Беларус! Ты маеш права, бо і твая кроў лілася за вольнасць Дзяржавы Расійскай, і твае дзеці ішлі на шыбеніцы, у вастрогі, на пакуту ў засланне за вольнасць, за шчасце, за вольнасць народа.

Будзь горд, Беларус! Ты маеш права на гэта, ты заслугаваў пашану сабе ад суседа і ад усяго белага свету. І твая цагліна лягла ў падмуроўку агульнай вольнасці, і твая слязіна цэментавала будынак лепшага жыцця.

Цяпер у нашых руках наша будучыня, ад нас саміх залежыць скаваць сабе лепшую долю. Памятайце гэта, злучайцеся ў гурткі, арганізуйце хаўрусы. «Вздувайце горна, куйце смело, пока железо горячо!»

Моцна стойце на родным грунце! Любіце бацькаўшчыну сваю ўсёю душою, усім сэрцам сваім, бо хто матку забывае, таго Бог карае. Шануйце мову сваю — гэта скарб наш, моц і аздоба наша. Вучыцеся, чытайце; чужому навучайцеся, але свайго не выракайцеся. Даглядайце свайго, як маці дзіцяці.

Тварыце культуру сваю, шырце свядомасць сваю! Тут наша спасенне. Толькі на грунце роднай культуры мы пабудуем лепшае жыццё, толькі пашана да роднай мовы звядзе нас на свет Божы. Інакш згінем, памром, як асобны беларускі народ, зробімся полем для чужынцаў, тым брудным гноем, які ўзгадуе смярдзючая зямля на страх і агіду суседзям. Праклянуць нас дзеткі нашы і адракуцца добрыя людзі!

Да вялікай працы, браточкі, уставайце! Набліжаюцца выбары да Устаноўчага Сойму. Наша святая павіннасць паслаць туды не чужынцаў, што прыехалі да нас у заработкі, не палякаў ці расійцаў, каторым край наш чужы і невядомы, а сваіх, шчырых сыноў Беларусі, хто любіць яе, як самога сябе, хто будзе бараніць народ наш і інтарэсы яго ды не спужаецца нікога і нічога, хто гатоў аддаць жыццё сваё за справу беларускую. Нам трэба паслаць да Сойму такіх людзей, каторыя парупяцца пра тое, каб Беларусь мела шырокае краёвае самаўпраўленне ды ўпраўлялася самімі беларусамі, шчырымі дзецьмі свае зямелькі, а не

тымі, хто адракаецца ад нас і мовы нашай ды лічыць нас за расійцаў ці палякаў. Бойцеся людзей гэтых! Гэта здраднікі, рэнегаты, Юды, што гандлююць бацькаўшчынай нашай наогул і паасобку. Выбірайце тых, хто шануе вас і мову нашу, хто будзе дбаць пра тое, каб у школах, цэрквах і касцёлах ды ва ўсіх інстытуцыях нашага краю заводзілася наша родная беларуская мова. Выбірайце тых, хто моцна, аж да смерці, будзе стаяць за зямлю і волю народа, за культурна-нацыянальнае адраджэнне Беларусі, хто будзе стаяць за дэмакратычную рэспубліку Дзяржавы Расійскай на федэратыўнай падмуроўцы. Пасылайце да Сойму *беларусаў!*

*Няхай жыве вольная Беларусь!*

## *Як учынілася рэвалюцыя*

Рэвалюцыю чакалі даўно, і ўсе пэўны былі, што яна хутка прыйдзе. Тым часам паўстала яна саўсім неўспадзёўкі і загрымела, як пярун, знячэўку. «Ніхто не ведае ні дня, ні гадзіны, калі Сын Чалавечы зыдзе на зямлю судзіць людзей».

Ужо 1905 год расхістаў царскі трон, і з таго часу ён ледзьве ліпеў. Але патрабавалася 12 гадоў, каб народ праканаўся, што стары лад згніў, што ён усё псуе і валтузіць і што гэтак далей жыць нельга.

Ушчухалася страшэнная вайна. Лепшыя, багацейшыя часткі зямлі былі заваяваны немцамі. Армія адступалася, бо не было чым бараніцца. Паўстала дарагоўля. Пазнікалі тавары з крамаў, не стала хлеба на рынку. Дзяржава руйнавалася і сунулася ў багну...

З лямантам «Хлеба, хлеба» натоўп выйшаў на вуліцы ў Петраградзе. Да яго прылучыліся рабочыя, да рабочых салдаты. Усе бачылі, што, не скінуўшы цара і самадзяржаўнага панавання, нічога не зробіш. Дзяржава зруйнуецца, і ўсіх чакае безгалоў'е.

Палітычная вольнасць патрэбна ўсім: і рабочым, і сялянам, багатым і бедным. Усе класы і станы злучыліся разам і — мур царызму не стрымаўся. Што будавалася сотні гадоў — развярнулася ў колькі гадзін. Недарма ж за граніцаю ахрысцілі нашу рэвалюцыю *цудам.*

23 лютага ў Петраградзе натоўп выйшаў на вуліцу

з крыкам «хлеба». На галодных людзей нацкавалі паліцыю. Але паліцыя не магла запыніць магутнага руху людзей. Пачаліся мітынгі, дэманстрацыі. Супыніліся фабрыкі, заводы. Рух нарастаў. Паліцыя і жандармы пачалі страляць, салдаты адмовіліся. Рэвалюцыйны рух пачаўся ў войску.

26 лютага старшыня Г. Думы Радзянка звярнуўся да цара з тэлеграмай, у каторай раіў яму скінуць зненавідзеных народам міністраў і скласці адпавядальны ўрад. Цар не паслухаў ды загадаў нават распусціць Думу.

27 лютага салдаты сталі злучацца з паўстаўшым народам. Каля 26 тысяч войска пайшло бараніць Думу. Іх не пушчалі салдаты, каторыя яшчэ трымаліся за цара. Пачаліся бойкі. Былі страты людзьмі. Але ўсё ж такі салдаты трапілі да Думы. Дума, угледзеўшы, што народ яе падтрымае, ухваліла не слухаць царскага прыказання, не разыходзіцца.

А рух рос і шырыўся. Народ захапіў арсенал, адчыніў турмы ды вызваліў палітычных вязняў. Стары лад затрашчаў, захістаўся і паваліўся. Заміж яго, з агню рэвалюцыі, паўстаў новы лад...

Гасуд. Дума выбрала Выканаўчы Камітэт, каторы ўзяў кіраўніцтва і ўладу ў свае рукі. У той жа дзень рабочыя склалі ўласную арганізацыю. На фабрыках і заводах былі выбраны Рады рабочых дэпутатаў, каторыя моцна сталі на варце патрэб працоўнага народу, падбіваючы новы ўрад змагацца дарэшты са старым рэжымам.

28 лютага ўсё войска прылучылася да народу. Былі арыштаваны міністры ды пасаджаны ў вастрог, дзе сядзяць да гэтага часу, чакаючы суду і кары за зладзейскія ўчынкі свае.

Тым часам паліцыя яшчэ змагалася з народам, бароняючы стары парадак. Па ранейшаму загаду міністра Пратапопава*, на будынках, у падвалах, паграбах былі пастаўлены кулямёты, і паліцэйскія, схаваўшыся, стралялі ў народ. Але гэта былі апошнія сударгі канаючага царызму.

1 марта салдаты выбралі сваіх дэпутатаў, і склалася вядомая ўсім Рада Раб. і Салд. Дэпутатаў. Паліцыя была скасавана; заміж яе паставілі варту з народу, так званую міліцыю. 2 марта пачалі прыходзіць весткі ў Петраград, што Масква і іншыя вялікія гарады гэтаксама паўсталі.

Выканаўчы Камітэт Гасуд. Думы, парадзіўшыся з Ра-

---

* Пратапопаў Аляксей Дзмітрыевіч (1866—1917) — рускі дзяржаўны дзеяч, з верасня 1916 г.— міністр унутраных спраў.

боч. і Салдац. Дэпутатамі, выбраў новае міністэрства, або ўрад. Гэты новы ўрад — часовы. Ён будзе кіраваць дзяржавай і трымаць уладу да таго часу, покі збярэцца Устаноўчы Сойм. Устаноўчы Сойм, атрымаўшы паўнамоцтва ад усяго народу, ужо сам разважыць пытанне, які парадак у нас запануе і кім будзе кіравацца. Часовы Урад пакляўся даць амністыю за ўсе палітычныя і рэлігійныя справы, свабоду прамовы, друку, хаўрусаў і сходак, скасаваць рэлігійныя і панскія прывілеі, замяніць паліцыю народнай міліцыяй ды як найхутчэй склікаць Устаноўчы Сойм.

Старога ўладарства ўжо не існавала. Мікалай II мусіў зрачыся прастолу на карысць, як ён пісаў, свайго брата Міхаіла. Але і той, перапалоханы народным гневам, не адважыўся ўзлажыць на сябе царскай кароны ды гэтаксама зрокся. Уся ўлада перайшла да рук самаго народу. Народ сам стаў царом сваім і гаспадаром жыцця свайго. Вось што заваяваў народ у буры рэвалюцыйнага дзейства!

Першай прылучылася да новага парадку Масква. Там войска адразу пайшло за народам, і моцныя муры царызму былі хутка паламаны. Рэвалюцыйны віхар шпарка паімчаўся па ўсёй Расіі, усё пазмятаў, счысціў і над Расіяй узышло Слонца свабоды.

Цяпер Расія вольна, але многа працы наперадзе, покі адбудуецца новае лепшае жыццё.

## *Нацыянальны ўціск*

Перамены, якія сталіся ў апошнія часы, ускалыхнулі ўсім гасударствам, усімі яго асновамі.

Гэтыя перамены нясуць свабоду ўсім грамадзянам і ўсім народам, а ў тым ліку і нам, *беларусам.* Дзякуючы гэтым пераменам, цяпер можна смела загаварыць аб сваёй крыўдзе і аб сваіх патрэбах.

Якая ж наша крыўда?

А крыўда наша вось якая. Усім жылося цяжка пад царскім панаваннем. Увесь працоўны люд Дзяржавы Расійскай цяжка стагнаў і пакутаваў пад царскім уціскам, але мы, беларусы, пакутавалі двойчы. Стары лад скаваў нас ланцугамі двайнога здзеку, падвойнай паняверкі, асаблівага ўціску — уціску нацыянальнага. Гэта значыць, што самадзяржавіе, выцягваючы з людзей апошні грош, мела нас

і іншых недзяржаўных нацый, як, напрыклад, украінцаў, на сваёй асаблівай царскай ласцы і дбала пра тое, каб мы забыліся, што мы беларусы, каб мы выракліся мовы нашай і ўсяго роднага, з дзяцінства нам мілага, ды парабіліся маскоўцамі або расійцамі. І самадзяржавіе мабілізавала дзеля гэтага ўсю сваю моц: школы, суды, цэрквы, жандармаў, чыноўнікаў і ўсё, што магчыма было. Ды рабілася гэта так хітра і ўпарта, што народ сапраўды стаў думаць, што ён маскаль або паляк. Паўстала такая блытаніна, што пачалі лічыць рэлігію за нацыю, а нацыю за рэлігію. Каталік стаў сінонімам паляка, и праваслаўны — маскоўца. Беларусы-каталікі мянуюць сябе палякамі, а беларусы праваслаўныя — расейцамі. Гэта блытаніна перайшла і да мясцовай інтэлігенцыі. Перакінчыкі польскага стану ўважаюць сучасную беларускую справу, беларускі нацыянальны рух расійскай інтрыгай, и перакінчыкі маскоўскага боку — за польскую інтрыгу. Адны кажуць, што беларускі рух падтрымліваецца польскімі грашыма, а другія — расійскімі. Гэтаксамюсінька, як чорная сотня, бывала, пра рэвалюцыю. Свядома і несвядома, яна ўпарта даводзіла, што рэвалюцыя — справа грошаў жыдоўскіх, японскіх, германскіх і т. д. Як дурню законы, так чорнай сотні гісторыя не пішацца. Поп, кажуць, сваё, а чорт сваё. Праца царызму дарма не прапала — выйшлі багатыя скуткі...

Тым часам ні маскалём, ні палякам народ наш зрабіцца не мог, ды немагчыма гэта цэлай нацыі ніколі. Пятру ці Габрусю можна абрусець ці апалячыцца, але цэлай нацыі асіміляваца няма магчымасці. У гэтым кірунку нацыя не мае іншага выхаду, як пайсці да Бога ахвяраю. Дужы і здаровы, народ наш не памёр, але сталася тое, што і трэ было самадзяржавіе. Беларус стаў самым цёмным, самым забітым і пакорлівым народам — літаральна зрабіўся тым гноем, на якім гадавалася аж занадта пахучае зелле і ўсялякая брыдота. Народ наш стаў пастаўшчыком жандармаў, шпегаў і іншай свалаты, на каторых трымаліся царскія троны. А калі ўзяць пад увагу характар нашага народу, яго сумленнасць і працавітасць, дык можна лёгка скеміць, якіх верных і шчырых служкаў меў цар з царанятамі. Не дала старонка наша Дзяржаве Расійскай ні Керанскага, ні Пляханава, ні Чарнова, ні Чхеідзе, але ўсім добра вядомы нашы дэпутаты ў Думе, уся Расія ведае Замыслоўскіх, Саланевічаў*, Акаловічаў і Кавалюкоў — гэтых рыцараў чорнай

* Саланевіч Лук'ян Міхайлавіч (1868 — ?) — журналіст, ідэолаг абруселага чыноўніцтва, заснавальнік газеты «Северо-Западная жизнь» (1914 г.).

сотні, гэтых гасіцеляў свету, праўды і справядлівасці. І дзівіліся людзі з Расіі, чаму яно гэтак,— дзівіліся, бо не ведалі палітычных варункаў нашага краю. Панасылаўшы ў наш край сваіх чыноўнікаў, папастаўляўшы ў школы паслушных настаўнікаў, у царквах — папоў-абрусіцелей, самадзяржавіе праз соткі год атручвала сэрца і розум нашага народу, здзекуючыся з мовы яго, звычаяў, песняў і быту яго. І народ, бачачы, што ўсе паны і гавораць начай, і жывуць лепш, як ён,— стаў цягнуцца за імі, слухаць іх і рабіць тое, што казалі яму панасланыя, чыноўнікі і здраднікі роднага краю. Дайшло да таго, што на сялянскім з'ездзе нашы сяляне перад усім светам адракліся і ад саміх сябе, і ад мовы свае, і ад усяго беларускага. «Не трэба нам беларусаў, далоў беларусаў!» — крычалі сяляне і вучыцелі-беларусы, сціскаючы кулакі і бліскаючы вачыма. Досыць было прамовіць слова *беларус*, каб усе замітусіліся, заверадавалі, не раўнуючы, як той бык ад чырвонай анучкі. Асабліва стараліся вучыцелі, або, як іх называюць у нас, настаўнікі. Трэ было загаварыць аб беларушчыне, як яны літаральна пачыналі раўці, як тое неразумнае быдла, знюхаўшы кроў... Праца царызму не прапала дарма. Абрусіцелі ўсіх станаў, паглядаў і перакананняў маюць права пацерці рукі ды ладзіць хаўтуры... то бок — выбачайце — пабеднае ігрышча.

Нават вялікая Расійская рэвалюцыя не здолела развеяць тых страшных чорных хмараў, што спавілі нашу старонку праз соткі гадоў царскага панавання...

З гэтакіх грамадзян карысці не будзе ні сабе, ні людзям. Народ наш быў кайданамі на нагах паступовага і рэвалюцыйнага грамадзянства. Расійская інтэлігенцыя павінна зразумець, яна павінна ўявіць сабе гэта і прыйсці да нас на помач, бо гэтак далей жыць немагчыма. Інтарэсы свабоды і лепшай, светлай будучыні, інтарэсы агульнай культурнасці людзей усяго свету вымагаюць таго, каб лепшыя людзі Расіі і Польшчы голасна выказалі сваё пажаданне культурна-нацыянальнага адраджэння Беларусі. Інтарэс агульнаграмадзянскі накладае на іх няўхільную павіннасць асудзіць тых, хто цешыцца скуткамі цемры. Яны павінны адкрыта і шчыра сказаць, што Беларусь ёсць Беларусь, і што радзець і цешыцца з таго, што народ наш, блудзячы па цемры, пад уплывам рэнегатаў і іншых абрусіцеляў, выракаецца самога сябе і пнецца стаць маскоўцам — што гэта не мае ніякага сэнсу. Пацехі тут мала, а жаху многа, не ведаюць бо, што твораць, як не ведала, што рабіла вось

хоць тая кабеціна, што прыносіла дроў на касцёр Гуса, спадзеючыся атрымаць сабе спасенне...

Расійская інтэлігенцыя да гэтага часу больш цікавілася бушменамі і гугенотамі, чым сваімі суседзямі,— беларусамі і ўкраінцамі. Пара гэта кінуць...

Народ разбудзіўся, і што сказаў учора, таго не скажа сягоння. Інстынкт жыцця выведзе яго на родную сцежку. Сцяміць ён, што яго падманулі, што без мовы сваёй, без культуры сваёй ён не знойдзе таго, што шукае. Народ зразумее, што і яму, як і ўсім людзям, патрэбна свая мова, свая школа, прасвета і навука; што яму патрэбна сваё краёвае самаўпраўленне, свой Беларускі Сойм і свае людзі, шчырыя дзеці сваёй бацькаўшчыны.

*Беларусь жыла, жыве і жыць будзе!*

## *Настаўніцкі з'езд*

Напрыканцы мая адбыўся ў Мінску з'езд настаўнікаў, або сялянскіх вучыцялёў Мінскай губерніі. На ўсіх, хто быў там наўмысля ці трапіў туды выпадкова, гэты з'езд адбіўся бясконца цяжкім уражаннем. Слухаючы прамоўцу на з'ездзе, не хацелася даваць веры, што гэта дзеецца ў рэвалюцыйнай Расіі, што перад вамі дзеці народу, тыя працаўнікі, што, на агульны пагляд, «сеют разумное, доброе, вечное». «Здавалася,— пісала мясцовая расійская газета «Товарищ»,— што гэта парада парахвіяльных папоў, разважаючых пытанне, як найлепей выславіць «чувства безпредельной любви к обожаемому монарху». Ад прамоў іх патыхала вогкасцю* склепа і такой архаічнасцю, кансерватызмам, адсталасцю і дзікарствам, што нехаця, якось само сабой паўставала пытанне: што гэта — з'езд настаўнікаў ці «собрание истинно-русскихъ людзей»? Старасвецкія прамовы дакладчыкаў, здзек і выскалянне з усяго роднага, беларускага, незразумелая пагарда і пакепліванне з таго, што не расійскае, крывавая помста немцам, баязлівасць таго самага народу, адкуль яны выйшлі і вучыць каторага яны пристаўлены,— вось тыя матывы, што панавалі на з'ездзе, тыя мацнейшыя мелодыі, ад каторых настаўнікі з фронту затыкалі вушы ды ўцякалі вон з пасяджэння.

* Вогкасць — вільготнасць.

Не маючы на ўвазе гаварыць аб тым, што там дзеелася наогул, цікава нам спыніцца на тым, як стасавалася беларускае вучыцельства да беларускай справы. Тым больш што, супыніўшыся на гэтым, не трудна будзе дагадацца, што магло зрабіць яно ў справах іншага зместу — педагагічных, палітычных і грамадзянскіх.

Бо досыць сказаць, што ўсе даклады кансерватыўнага зместу праваджаліся аплядысментамі і з'ездам ухваляліся, каб зразумець, у якім кірунку разважаліся пытанні.

Стасоўнасць з'езду да беларускай справы выявілася з першага дня. Пачаць з таго, што адна вучыцелька за прамову па-беларуску была абсмяяна, спынена і нават цяжка абражана. Трэ было бачыць, як шчыра і сумленна верадавалі і абражаліся настаўнікі, што на іх з'ездзе, на з'ездзе гаспод-вучыцялёў, хтосьці адважыўся загаварыць да іх на «мужыцкай гаворцы», на «простом наречии», як ахрысціў старшыня з'езду беларускую мову, тую самую мову, якая панавала ва ўрадавым ужытку ва ўсём Літоўска-Рускім гасударстве і пануе цяпер сярод 10-ці мільённага беларускага народу.

Беларуская справа? Далоў, прэч яе! Гэта турбуе мазгі, варочае дагары нагамі ўсю тую вучобу, якую спазналі яны з семінарскай крыніцы прамудрасці, нішчыць дашчэнту іх жыццёвы пагляд і робіць ім асабістую непрыемнасць. Яны ж бо ўвесь час прапанавалі народу, што ён не ён, і мова не яго, і што ўся беларушчына адна толькі брыдота, якую чым хутчэй забудзеш, тым яно лепш будзе. Не, выбачайце, беларускай справы няма. Гэта выдумка, махлярства і іх не падашукаеш. Асабліва, калі ўзяць на ўвагу, што гэта патрабуе развагі, думак і працы...

Барані Божа! Працаваць і думаць яны не вучыліся. Яны вучыліся за паноў, і ў семінарыі ім ясна даводзілі, што настаўніку многа ведаць не трэба, а знаццё — рэч небяспечная, шкадлівая. Многа аб чым даведаешся, дык часам і ў катаргу трапіш. Бывалі здарэнні, прыкладаў нямала. Настаўнікам трэба крыху навучыцца расійскай граматыцы, цвёрда праканацца, што яны «искони русские и православные», а ўсё ліха на свеце ад палякаў, ды ісці спакойна на вёску калечыць душы дзяцей і вучыць добрых людзей так, каб чалавек мог распісацца ў воласці, ідучы пад арышт на высідку.

А тут на табе, ахцыкі якія! Беларуская справа, мова, культура, адраджэнне... Далоў, гэта вунія, польская інтрыга. Аб гэтым мы ў семінарыі чулі, і не такоўскія мы, каб

якісь там «беларус» нас падцукраваў. Смяхота, ды годзе — вучыцца па-беларуску!.. Ды ці няма тут германскага шпігоўства?!

І можна было бачыць на з'ездзе, як гэтыя «светачы народныя», панакупляўшы беларускіх газет, рвалі іх на шмаццё, шпурлялі на падлогу ды тапталі нагамі... Што гэта, чытачу,— барбарства, глупства ці недавумства?!

«Калі справядлівая пагудка,— піша вышэйпамянёная газета,— што нямецкі вучыцель у свой час перамог французаў, дык беларускі настаўнік, з адным скарбовым клункам у глуздзе, гэты прыхвасцень папоў і паліцэйшчыны, нікога не пераможа; што ад сяўбы гэтых сейбітаў вырасце чамяр, а не разумнае, добрае, вечнае. Трэба як найхутчэй ліквідаваць казённую і інспектарскую школу і на руінах яе пабудаваць народную беларускую з навучэннем у роднай мове, і толькі за гэтакую школу скажа шчырае «дзякуй» беларускі народ».

Сучаснаму беларускаму вучыцельству, прынамсі, у тым яго складзе, які выявіўся на гэтым з'ездзе, беларус, напэўна, не выславіць падзякі. Гэта калі не разумеюць, дык адчуваюць яны самі, бо на павятовым з'ездзе, напрыклад, яны рыхтаваліся арганізавацца ў тым сэнсе, каб адгарадзіцца ад народу, бо, як шчыра прызнавалася адна настаўніца, сяляне іх не любяць, смяюцца, «не даюць дроў на апалу» і дражняць дармаедамі і гультаямі. Ці зрабілі яны якую пастанову ці не — немаведама — паны-настаўнікі не прывыклі выносіць смецце з хаты і публічнасць не надта шануюць, але можна было бачыць як пацiскалі людзі плячыма ды пыталі: што гэта — «чайная саюза рускага народу» ці з'езд Саланевічаў, Кавалюкоў і Акаловічаў?

Над нацыянальным пытаннем з'езд дарэмна галавы не турбаваў. Усё ім ясна, проста і зразумела. Досыць разгарнуць гісторыю Пуцыковіча або Бранцава*, каб кожнаму пабачыць, што, як і да чаго. І вось дзеля праканання слухачоў, што беларускай мовы ніколі не было і беларусы дарэмна з гэтым спрачаюцца, дык дакладчык па нацыянальнаму пытанню прыводзіў артыкул з «Літоўскага статуту»: а «пісар земскі мает па-руску словы і літары позвы пісаці, а не іншым ензыком і літарамі». Слухай дабрадзейства, па-руску, а не па-беларуску. І зала з'езду грымацела ад усплескаў «таварышаў-прафесароў», як мянавалі сябе настаў-

---

* Бранцаў Павел Дзмітрыевіч (1845 — ?) — рускі гісторык, вядомы працамі па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага.

нікі. Слухаючы такое пэўнае тлумачэнне гістарычных дакументаў, мабыць, не адзін «прафесар» пазайздросціў яснасці, пэўнасці і праканаласці дакладчыка. Вот дзе галава! І то скажы, гад, выкапае, раскусіць і дадасць да рэчы. А як скажа, дык як звяжа!

Непатрэбнасць аўтаноміі для Беларусі дакладчык аргументаваў тым, што нельга будзе карыстаць з багацця «Матушки-Росии» і не дастанеш газы(!). Ergo, аўтаномія — гэта хітрыкі, вунія з Польшчай, і болей нічога.

Каб «навучна» праканаць, што беларускае мовы няма, што гэта жаргон, расійскі правінцыялізм (паветалізм), дык дакладчык спасылаўся на Карскага*, Шэйна**, Сербава*** і інш.

Уся праца людзей ахвяравана беларушчыне, яе мове, творчасці і літаратуры, а сялянскія «прафесары» ўмудрыліся тым часам скарыстаць яе па-своему. Хтосьці сказаў, што каб «двойчы два — чатыры» перашкаджала інтарэсам людзей, дык бы, напэўна б, людзі і досі спрачаліся з гэтым.

«Уся навука, гісторыя, усе сусветныя педагогі, як Ушынскі, напрыклад, прапануюць,— прамаўляе беларус-вучыцель,— што без навучэння ў школах на роднай мове...» — «Брахня! — абсякаюць прамоўцу настаўнікі.— Гэтага ніхто нідзе не казаў»...

У кулуарах з'езду тыя з вучыцялёў, у каторых яшчэ тлее іскра жыцця, наіўна прызнаваліся, што калі згадзіцца з беларусамі, дык прыйдзецца страціць пасады, бо яны ўвесь час насміхаліся з беларушчыны, мову забыліся і вучыць па-беларуску не здольны. Як бачым, нават у сумленнейшых і лепшых сярод іх, шкурны інтарэс на першым месцы і засланяе вымогі часу, вялікай праўды і справядлівасці. Наогул жа, з'езд выявіў нечуванае ў гісторыі з'явішча. Сыны народа, светачы вясковай цемры, адракліся ад бацькаўшчыны свае, адцураліся мовы бацькоў сваіх і на ўвесь свет выславілі, што яны ненавідзяць усё роднае, беларускае і рады і надалей цягнуць ярмо маскоўшчыны і нацыянальнага ўціску. Мала таго, яны ахвотна згадзіліся ўскладаць ёрмы падданства і на тых меньшых братоў сваіх, каторыя будуць ухіляцца. Актыўна абараняючы сваё рэне-

---

* Карскі Яўхім Фёдаравіч (1860—1931) — філолаг-славіст, заснавальнік беларускага мовазнаўства, філалогіі і фалькларыстыкі.

** Шэйн Павел Васільевіч (1826—1900) — беларускі і рускі фалькларыст і этнограф.

*** Сербаў Ісак Абрамавіч (1871—1943) — беларускі этнограф, фалькларыст, археолаг.

гацтва, яны ўпарта перашкаджалі тым таварышам, каторыя сапраўды жадалі азнаёміцца з Беларуссю, яе гісторыяй і сучаснымі вымогамі. І ў зладзействе прыемна мець прыхільніка. Прынамсі, уцеха будзе на ўсялякія здарэнні: не я адзін — і той гэтакі самы...

Не ведаюць, што твараць... Яны павінны ведаць, гэта святая павіннасць кожнага грамадзяніна. А калі да гэтага часу не ведаюць і ведаць не хочуць, дык «з дурня — глупая навіна! Хто наш звычай ці ігрышча на пасмеішча падыме — што ж з яго край родны зышча? Што ж з пустой каліты выме?!»

Рабы былі і рабамі засталіся.

«О, поле, поле! Хто цябе ўсыпаў мёртвымі касцямі?!»

## *Вялікі дзень на Украіне*

На Украіне сталася вялікая навіна. 10-га чэрвеня (июня) Цэнтральная Украінская Рада ўхваліла Універсал да ўсяго ўкраінскага народу, каторым абвяшчаецца аўтаномны лад на Украіне. Гэты дзень застанецца навекі вялікім і незапомным днём у гісторыі братняй нам Украіны.

У гэты дзень, 10-га чэрвеня, найблізшая па мове, звычаям і супольнасці гістарычнай долі, сястра нашай Маткі-Беларусі стала на ўласныя ногі і зрабілася сапраўднай гаспадыняй у гасподзе сваёй, паўнамоцным гаспадаром маёнтнасці сваёй. Пышны расцвет нацыянальных магчымасцяў, вольная вольнасць, культура, прагрэс — вось што рысуецца прад вачыма нашымі ў светлай будучыні вольнай Украіны...

Слабая была надзея, што петраградскі Урад зразумее і здаволіць дамаганні народу ўкраінскага: трудна было спадзявацца, што ён пойдзе яму насустрач і дапаможа вывесці край свой праз вагар рэвалюцыйнай буры моцна арганізаваным, лагодным і добра дапасаваным да творчай чыннасці.

Досыць вагання!

Надзея не спраўдзілася, спадзяванка не збылася. Петраградскі Урад адхіліў усе дамаганні Украінскай Рады, адапхнуў, як кажа Універсал, працягнутую руку і тым выявіў сваю непрыхільнасць і нячуласць да патрэб недзяржаўных нацый.

Цэнтральны петраградскі Урад не згадзіўся здаволіць справядлівых жаданняў, ён адмовіўся прыйсці на дапамогу ўкраінскаму народу, пасуліўшы абяцанку праз Устаноўчы Сойм. Тады і толькі тады Цэнтральная Украінская Рада мусіла ўзяць справу адбудавання свайго жыцця ў свае ўласныя рукі. Польшчы і Фінляндыі можна ўсё даць і зрабіць без парады з Устаноўчым Соймам, але што можна і па часе для іх, тое не можна і не на часе для Украіны і Беларусі. Ён усё чакаў, усё спадзяваўся, вось «приедет барин — барин нас рассудит». Урад, бачыш, лічыцца «только с фактами», пацяшаючы сябе ў душы, што народ цёмны і несвядомы — самадзяржавіе аб гэтым парупілася — і, напэўна, выкажацца за мову й культуру расійскую. Але памыліўся. І многа неспадзёвак яшчэ чакаюць расійскую інтэлігенцыю. Бо да гэтага часу яна больш цікавілася батакудамі, як сваімі суседзямі, і ў гэтым сэнсе была адной думкі з ... самадзяржавіем.

Беларусь маўчыць... Напэўна, «благадзенствуе» пад скрыдламі расійскай культуры...

Ад гэтага часу доля і лёс Украіны ў руках самой Украіны. Чым дружней стане працаваць на карысць роднага краю, тым спарней будзе праца яе; чым менш будзе звяртаць увагі на гвалт вуліцы і лямант з маскоўскага боку, тым хутчэй увойдзе ў жыццё тое, пра вошта гаворыцца ў Універсале, тым скарэй складуцца новыя, лепшыя парадкі. Чым згадней і мацней будзе трымацца яна свайго ўласнага грунту, тым здальней павядзе кірунак у справе творчасці свайго вялікага цвітучага краю.

Вялікі час перажывае Украіна. Няхай жа дзяржаўная мудрасць народу яе дапаможа ёй з хвалой і пашанай выйсці на вольны шлях аўтаномнага існення! Яшчэ кволая ад нечуванага здзеку, уціску і паняверкі, цяжка змарнаваная самадзяржаўным панаваннем, Беларусь наша, радасна ўзіраючыся ў светлую будучыню, весела вітае дужэйшую сястру сваю і голасна кажа:

— Няхай жыве Вольная Украіна!

# *1517—1917*

(Да юбілею 400-леццproperties беларускага друку)

Надта мы, беларусы, нейкі дзіўны народ. Мы мала цікавімся сваім і мала яго ведаем. Гісторыя якога-небудзь Кітаю нас пэўна што больш цікавіць, чым гісторыя Беларусі.

А тым часам колькі ў гэтай гісторыі ёсць слаўных і пекных страніцаў! Праўда, што калі на гісторыю глядзець, як на суму вестак аб каралях ды аб войнах, дык у нас, можа, і ніякае гісторыі не было. Бо не з войнаў, захватаў і гвалту складаецца наша гісторыя. Народ наш ніколі не меў і не мае інстынктаў воіна-грабіцеля. Беларусь ніколі нікога не крыўдзіла, не захоплівала чужога; яна толькі баранілася. Слава і хараство нашай гісторыі крыецца саўсім у другом.

Народ наш быў калісь адным з самых культурных народаў у Еўропе. Ён быў, як кажуць, «крайнім фарпостам Заходняй Еўропы на Усходзе». Тая культура, што расла і ўзмацнялася на Захадзе, ідучы на Усход, не мінала нашай старонкі. Беларусь, не знаўшая татаршчыны, была ў цесных звязках з Заходняй Еўропай і йшла разам з ёю у культурным развіцці.

У 1440 року немец Гутэнберг вынайшаў друк. У 1455 року была надрукавана першая Біблія, а праз 28 гадоў пасля гэтага, значыць, у 1483 року, пачаліся друкавацца кніжкі і для нашага краю. У Кракаве залажылася друкарня, дзе і друкаваліся славянскія кніжкі для царкоўнай службы на Беларусі, Украіне і Паўднёвай Славяншчыне. Гэты рок, па праўдзе кажучы, мог бы лічыцца пачаткам з'яўлення друкаванай кніжкі на Беларусі. Але гэта не быў спецыяльны беларускі друк.

У 1517 року доктар Францішак Скарына з Полацка пачаў друкаваць у Празе чэшскай Біблію: па-беларуску і для беларусаў. Гэты рок ужо смела можа лічыцца рокам пачатку *беларускага друку* не толькі ў тым сэнсе, што кніга друкавалася для беларусаў, але і ў тым, што яна друкавалася па-беларуску, на роднай беларускай мове зваротам на ц.-славянскі лад. У цяперашнім 1917 року прыпадае якраз 400-леццe беларускага друку. Юбілей дужа важны, і яго не можна прамінуць, нічым не адзначыўшы 400 гадоў,— гэта салідная цыфра. Як ведама, дык большаю цыфраю з усіх славянскіх народаў могуць пахваліцца адны толькі чэхі.

А гэты важны юбілей з жыцця нашага народу яшчэ

нікім не ўспамянуты. Усе як быццам забыліся аб ём. Усе памятаюць, як некалькі гадоў раней маскоўцы спраўлялі 350-гадовы юбілей свайго друку,— сколькі яны паднялі тагды гармідару. А яны ж спраўлялі толькі 350-гадовы юбілей друку ў царкоўнаславянскай мове! У нас юбілей шмат важнейшы, а мы маўчым, як бы і не ведаем. Брыдка перад усімі культурнымі людзьмі!

Запрашаем усіх свядомых беларусаў добра падумаць аб гэтым. Нам трэба як-небудзь згаварыцца, каб цяпер, у часе страшэннай вайны, калі самае паняцце «культура» топчацца ў балота, калі людзі ўсю моц свайго розуму кіруюць на тое, каб як найбольш забіць сваіх братоў,— каб нам цяпер ціха адсвяткаваць сваё вялікае культурнае свята.

## *Цёмныя сілы заварушыліся*

Беларускі рух расце і шырыцца. З усіх бакоў Дзяржавы Расійскай прыходзяць весткі, што беларус прачнуўся, самаўсведамляе сябе нацыянальна і патрабуе свайго права на культурна-нацыянальнае існенне. Арганізуюцца матросы-беларусы балтыйскага і чарнаморскага флатоў, моцна гавораць аб сабе салдаты заходняга і паўднёва-заходняга фронту, атрымліваюцца весткі аб нацыянальным самаўсведамленні сярод уцекачоў-беларусаў з далёкай Сібіры. Віцебскі губернскі з'езд сялян ухваляе пастановы аб няўхільнай патрэбе аўтаноміі, аб нацыяналізацыі школы (навучэнне ў школах на роднай мове), аб размеркаванні спосабаў перадачы зямлі і карыстання ёй Беларускай Краёвай Радай. Рух расце, шырыцца, набірае моцы, а побач з гэтым набухае і злосць ворагаў беларускага адраджэння. Тут, у Мінску, у горадзе Шміта, Курлова, Саланевіча і архірэйскага засілля, чорная сотня заварушылася і распачала свой сатанінскі гармідар. Інсінуацыі, брахня, правакацыйныя ўчынкі сыплюцца з цёмных куткоў, як з рогу дастатку. Ворагі дакладаюць усіх сілаў, каб ачарніць святое дзела адраджэння нашай старонкі. Сумленне, гонар, гісторыя і чалавечая логіка для іх не існуе.

Першаю адважна зашыкала на беларускі рух мясцовая газета «Новая Заря». Знайшоўшы сабе беларуса-перакінчыка, яна высунула голаў з падваротні ды піскліва гаўкнула, што беларусаў няма, а беларускі рух — панская інтры-

га. Умеючы трымаць нос у паветры, другая тутэйшая расійская газета «Мінскі Голас», знюхала, што з Петраграду падзьмуў вецер зручны і пэўна, што можна бяззбройна выйсці на вуліцу і паказацца на вочы. І гэты вулічны, камерцыйны лісток, азірнуўшыся і кінуўшы прыхільна ў бок беларусаў, якраз перад скарбоначным зборам на карысць беларускага нацыянальнага фонду, ахвотна даў месца другому перакінчыку дзеля аслінага выбрыку. Гэты ягомасць, каб зручней было падбрыкнуць, зблытаў у адзін калдун: нацыянальны камітэт, сацыялістычную грамаду, партыю народных сацыялістаў — скартаваў заданні і артыкулы праграмаў іх, як шулер карты, ды завалаў: «Паглядзіце, дабрадзеі, на спрытнасць рук маіх!» «Мінскі Голас» паглядзеў, пацёр рукі ды сказаў сабе: «Лоўка, даліпан, лоўка! Нумароў сто раскупіцца лішніх і стацейку дарма атрымаць можна. Напэўна ж аспрэчваць будуць!..»

Знайшліся гэткія дабрадзеі, што ў пякельнай злосці чорнасоценнага іступленія, накідваліся на дзяўчат, прадаваўшых білеты на беларускі спектакль, лаяліся з апошніх слоў і рабілі ўсялякія вар'яцтвы. І ўсё гэта робіцца пад штандарам ратунку айчызны, пад флёрам дэмакратызму. «Шалійце, шалійце, скажэнні каты», а беларускага руху вам не спыніць. Заглянула сонца і ў наша ваконца!

Нацыянальны рух — гэта покі што адзіны грунт, на каторым цёмныя сілы нашага краю могуць, не азіраючыся, паказацца людзям на вочы. Перапалоханыя грымотай вялікай Расійскай рэвалюцыі, яны спачатку пахаваліся па закутках ды ціхутка сядзелі там, бліскаючы воўчымі вачыма. Цяпер, з павевам антынацыянальнага ветру з Петраграду, яны пасмялелі і пачынаюць пырскаць ядавітую сліну на ўсё светлае, святое і справядлівае. Карыстаючыся цемрай і нацыянальнай маласвядомасцю нашага сялянства, утылізуючы скуткі пякельнага панавання самадзяржавія і абрусіцельства, гэтыя рыцары чорнай сотні і рэнегаты роднага краю, захінуўшыся штандарам дэмакратызму, пашыраюць свае брудныя чуткі на ўсіх лепшых сыноў беларускага народу. Як чорная сотня, бывала, упарта цяўпла, што рэвалюцыя — справа рук жыдоўскіх, мільёнаў японскіх, інтрыгаў германскіх, так рэнегаты роднага краю цвердзяць, што беларускі рух — інтрыга польская, выдумка панская. Прадажныя душы не разумеюць бескарыснага аддання ідэі. Яны прывыклі ўсё прадаваць і купляць, ім трудна ўявіць сабе справу без гандлю. Гэта яны, гасіцелі свету, праўды і справядлівасці, распіналі Хрыста, палілі

Гуса, білі пракокаў, цкавалі рэвалюцыянераў. На каго яны рахуюць, каго падманваюць, каму дураць галовы? Хоць бы выдумалі што-небудзь іншае. Перахварбавацца хваціла сумлення і глузду, а голас — голас чорнай соткі... «А скінь скурку, дабрадзею, бо зубкі відаць!»

Як дурню законы, так ворагам беларускага руху гісторыя не пішацца. Яны не бачаць таго, што ўсе народы рвуцца да вольнага жыцця; прыклад сербаў, чэхаў і ўкраінцаў ім не навука. А раз светлая справа паўстала, калі з'явіліся бескарысныя працаўнікі на ніве народнай, дык іх прадажная натура не можа стрымацца, каб не апаганіць іх імені, бо ідэйнае змаганне ім не пад сілу. Але дарэмна — беларускі рух расце і шырыцца, і ніякія сілы пякельныя спыніць яго не могуць. «Хто быстру рэчку затрымае, скуль сілу гэтаку дабыць?» «Яко тает воск ат ліца огня... растачацца вразі его».

## *Хто я?*

Я, як і ўсе нашыя браты, лічу сябе «простым», «тутэйшым чалавекам» з забранага краю.

У пачатковай школе я навучыўся расійскай мове, але мне брыдка было гаварыць па-расійску дома, пры бацьку і матцы. На 16-м року аддалі мяне бацькі ў вучыцельскую семінарыю, каб зрабіць з мяне пана. Тут ужо я добра вучыў расійскі «язык», пачаў гаварыць на ём дома, з бацькамі, братамі і сёстрамі, і думаў, што зрабіўся ўжо сапраўды «рускім». Гэтак казалі мне мае настаўнікі ў семінарыі, усе тыя падручнікі, па каторым я вучыўся, і ўсе тыя начальныя асобы, што нас адукоўвалі.

Адзін адно раз у пачатковай школе здарылася мне кніга на нашай мове «Як ся маеш, дабрадзею?» і «Так жа сама». Але той, чые гэта былі кніжкі, адабраў іх у мяне ды схаваў недзе. Пэўна, баяўся вучыцеля.

Больш пятнаццаці гадкоў вучыў я беларускіх дзетак «государственному языку», ці, начай кажучы, калечыў душы іх, дапамагаў абмаскаліваць родны край...

У 1908 годзе я дастаў ад выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца» вершы Янкі Купалы і нашыя казкі. Тагды я меў вялікую радасць чытаць гэтыя кніжкі і радзіў сваім сябрам-вучыцелям чытаць іх, але дарэмна. Яны з пагардаю адварачваліся ад роднага слова...

Паўстала рэакцыя, і немагчыма было даставаць беларускія кніжкі.

Апошні рок вучыцельства пазнаёміўся я з адным беларусам. Ён добра гаварыў па-польску і не кепска па-расійску (па-маскоўску). Аднаго разу ён мне расказаў, што ў Варшаве яго лічылі за «кацапа», хаця ён гаварыў там па-польску, а ў Маскве, дзе яго дачка была замужам, яго лічылі за паляка, хаця ён гаварыў там па-расійску і меў сабе шырокую кацапскую бараду.

Я не пераставаў лічыць сябе за расійца і з гэтага разу, бо добра ведаў маскоўскую мову. Але трапіў я ў навуку і на курсы Шаняўскага ў Маскве, і мае таварышы-велікарусы сказалі мне, што я не рускі (не маскаль), бо ў мяне заходні акцэнт. А другі мой знаёмы беларус больш за 20 гадоў жыў у Маскве, быў чыноўнікам, быў жанаты з маскоўкаю і — што ж? Яго жонка казала, што ў яе мужыка «акцэнт» (гаворка) саўсім не рускі.

З усяго таго такі вынік. Трэба перш-наперш ведаць і шанаваць сваю мову. Чужыя мовы трэба вучыць, калі ад гэтага можа быць карысць дзеля сябе і краю, але не трэба думаць, што калі навучыўся крошку граматна гаварыць і пісаць па-чужому, дык ты ўжо і не беларус. Твой рот цябе выдасць. Не кажу ўжо пра твой саўсім інакшы характар, каторы робіць цябе чужаніцаю на другой старане.

Другім разам напішу аб парадках у школах 80 і 90-х гадоў. З таго будзе відаць, што мэта школы той пары была абрусіцельная.

## *У забранай немцамі часціне Беларусі*

Да гэтай вайны Вільня была цэнтрам беларускага нацыянальна-культурнага руху. Там выдаваліся беларускія газеты, быў беларускі клуб, беларускія выдавецтвы, кнігарня беларускіх кніжак на ўвесь край.

Пачалася вайна. Шмат працаўнікоў было забрана да войска, да крыкаў і лаянкі «истинно русских людей» далучылася «административное усмотрение».

Сякія-такія законы, што былі ў Расіі, замяніліся праізволам. Цяжка стала працаваць...

У канцы лета 1915 року немцы забралі Вільню. Гэта было новым ударам беларускаму руху. На нейкі час ён

спыніўся. Але ператрывожанае ваеннай бурай жыццё патроху стала ізноў уходзіць у норму. Астаўшыеся ў Вільні беларусы пачалі выдаваць газету «Гоман». Трымаючыся традыцыяў «Нашай Нівы», яны хацелі выдаваць яе гражданкай. Немцы не дазволілі, бо праціўнікі беларускага руху ўводзілі ім у вушы, што рэдакцыя «Гоману» — гэта хеўра расійскіх агентаў, што яны будуць старацца толькі шкодзіць немцам, вясці проціў іх прапаганду і т. д.

Але патроху немцы разабраліся, у чым справа. Спачатку газета выходзіла раз на тыдзень лацінскімі літарамі, пасля дабілася дазвалення перайсці на гражданку і стала выходзіць два разы на тыдзень — у аўторак і ў пятніцу.

Не ўсе з краю выехалі. Народу асталася і нават шмат. Не можна было яго аставіць без асветы. У Вільні зарганізавалася школьная беларуская камісія. Пад канец 1915 року яна залажыла курсы дзеля падгатоўкі настаўнікаў у пачатковыя школкі. Навучэнне вялося ў беларускай мове. Апрача звычайных навукаў, выкладалася беларуская мова, гісторыя Беларусі і беларускага пісьменства. У вясну 1916 року ў Вільні было ужо 5 школак. Меліся яшчэ залажыць каля 10. Калі гэта ўдалося, дык школьная патрэба ў Вільні магла б лічыцца залатвенай. Ёсць ведамасці, што беларускія школкі былі заложаны і ў другіх месцах, як, напрыклад, у Гродне, пры Барысавым манастыры, але сколькі і гдзе — немаведама, бо весткі адтуль прыходзяць надта туга. Ведама толькі, што ў апошніх месяцах 1916 року ў мястэчку Свіслач, Гродзенскай губ., залажылася настаўніцкая семінарыя з пачатковай школкай пры ёй. Ведама з расійскай газеты «Речь», што пры пачатку вучэння ў гэтай семінарыі было 20 вучняў і ў пачатковай школцы пры ёй 53 хлопчыкі. Ведама яшчэ, што ў Вільні пры універсітэце ёсць катэдра беларускай мовы, гісторыі і пісьменства. Працуе «Камітэт падмогі пацярпеўшым ад вайны», але дэталічных вестак аб яго працы няма.

## *Хто вінавайца вайны*

Як земляробам патрэбна зямля, дык гэтак прамыслоўцам — фабрыкантам і заводчыкам — патрэбны рынкі. Уся моц селяніна-земляроба ў зямлі, а сіла прамыслоўца ў рынках. Чым больш рынкаў у прамыслоўцаў, тым ім лепей

і выгадней. Калі няма рынкаў, дык няма куды збываць тавары, а як няма гандлю, дык няма прыбыткаў. Тагды прамыслоўцы прымушаюцца спыняць свае фабрыкі і заводы. Прамыслоўцы застаюцца без барышоў, а рабочыя без работы. Адгэтуль мы бачым, што інтарэсы капіталістаў-прамыслоўцаў і інтарэсы фабрычных рабочых пры капіталістычным ладу моцна паміж сабой звязаны. Страта і недахват рынкаў шкадлівы не толькі фабрыкантам і заводчыкам, але і тым рабочым, што працуюць на фабрыках і заводах. Гэта вельмі важна, і хто хоча ўразумець сэнс цяперашняй вайны, той павінен гэта запамятаць.

Расія — дзяржава вялікая, народу ў ёй многа, а значыцца, і рынкі яна павінна мець шырокія. Ліха толькі ў тым, што народ наш надта бедны і неасвечаны і не мае культурных патрэбаў. Не маючы грошаў, ён не можа купляць таго, што вырабляецца на фабрыках і заводах, а не маючы добрай асветы, ён ужо сам не цікавіцца тым, што робіцца на свеце. На што яму, напрыклад, кніжкі, газеты, тэатры, калі ён і чытаць не ўмее. Самадзяржавіе цiснула яго, трымала ў цямноце, а палёгкі людзям не давала. Каб зрабіць сялянам палёгку, дык трэ было адабраць у паноў зямлю, і каб даць яму асвету, дык трэ ўцякаць самому, бо асвечаны чалавек ніколі не згодзіцца, каб адзін чалавек панаваў над ім ды вычвараў што забажаецца. Самадзяржавіе гэта ведала, а дзеля таго і трымала народ без асветы, у муштрах і паняверцы. Каб народ як-небудзь не даведаўся аб чым-колечы сам, па ўласнаму дaследу, дык яно панастаўляла ўсюды жандармаў, паліцэйскіх і шпігаў. Мы памятаем, што яно выробляла з тымі людзьмі, што хацелі адкрыць людзям вочы. Іх лавілі, садзілі ў турмы, катавалі, засылалі ў Сібір на засланне, стралялі і вешалі.

Прамыслоўцы і ўсе багатыры-капіталісты разумелі, што трымаць народ у беднаце і неасвечанасці нядобра. Першнаперш ім жа самім невыгодна: з бедным і цёмным чалавекам многа не нагандлюеш і шмат грошаў не заробіш. Бедны чалавек на рынку часта не бывае, у крамах мала што купляе, а ўсё мяркуе, каб як абысціся хатнімі дастаткамі. Купіць там солі ці гузік які, а сам ходзіць у лапцях і ў зрэбнай кашулі. Тым часам прамыслоўцы або, як кажуць, капіталісты, мала дбалі пра тое, каб скінуць цара з яго пякельным панаваннем. Хоць ім гэта і карысна было б, але ж яны баяліся. Хто яго знае, як яно там выйдзе, а цар можа арыштаваць ды кінуць у вастрог, а то й на засланне спрaвадзіць. Багатаму чалавеку страшна турма, як таму д'яблу

крыж. Хто прывык жыць у раскошы й дастатку, той напэўна не адважыцца выйсці на вуліцу змагацца з царызмам. Вось мы й бачым, што рэвалюцыю рабілі не багатыры ці капіталісты, а рабочыя і салдаты — усё народ бедны, катораму ў змаганні з царызмам няма чаго траціць, апроч кайданаў і таго жыцця, што туманіла яму вочы. Багатыры сядзелі сабе ў залачоных пакоях, папрыбіраныя ў шоўк і аксаміты, пілі салодкую каву і гарбату, а пра тое й гадкі не мелі, што народ пухне з голаду, а салдаты мруць на вайне без куль і гарматаў. Яны ведалі, што гэта дрэнна і нават спачувалі енку людзей, але каб дапамагчы людзям, каб паўстаць ды скінуць цара, дык не — гэтага яны баяліся і рабіць не хацелі. Бо з царом зручней было жыць, ён памагаў ім эксплуаціраваць (дзерці) людзей і не саўсім дрэнна абыходзіўся.

Дык заміж таго, каб збавіцца ад цара ды ўзбагаціць свае ўласныя рынкі дзеля прадажы тавараў у сябе дома, капіталісты ўвайшлі ў хеўру з царом ды разам з ім дурылі галаў народу. У 1904 годзе яны павандравалі былі ў Карэю, каб там заграбастаць сабе рынкі. Карэя ўласных фабрыкаў і заводаў не мела, а тым часам абысціся без таго, што вырабляецца на фабрыках і заводах, аніяк нельга. Дый ласы карэйцы на ўсялякія чырвоныя стужкі — чырвонаму, кажуць, кожын дурань рад. Вось і сунуліся туды нашы капіталісты са сваім гандлем, каб панабіваць сабе кішэні. Але за карэйскімі рынкамі сачыў Японец. Японскім прамыслоўцам карэйскія рынкі патрэбны былі самім, і пускаць туды чужых не мелася жаднай рахубы. Ушчухалася спорка, каторая, як мы памятаем, скончылася вайной. Тагды Расія не толькі не разжылася на новыя рынкі, а, наадварот, яшчэ страціла сама добры кавалак уласнай зямлі (Сахалін). А колькі народу згінула на вайне, колькі страціла марна народных грошаў і ўсяго іншага — і пералічыць трудна. Кажуць, што падрахункі вайны з японцам падлічваюцца яшчэ й досі. Народ сцяміў тагды, хто вінавайца вайны і паўстаў, каб скінуць цара з яго хаўруснікамі, але справіцца тагды (1905 г.) з самадзяржаўным ладам не здолеў. Бунтаўшчыкоў пералавілі, адных павесілі, другіх аддалі на катаргу ці ў Сібір на засланне, трэціх пасадзілі ў турмы.

Прайшло тры-чатыры гады, народ замёр і прытаіўся пад дружным гвалтам царскіх супыннікаў. Каб задушыць паўстаўшы народ, царскія прыхвасні не шкадавалі ні бізуноў, ні куль, ні шыбеніц. Перапалоханыя паўстаннем капіталісты сцішыліся, покі не абурыліся ды зноў не заварушы-

ліся. Нароблены тавар доўга ляжаць на складзе не можа — хутка пачне гніць і псавацца. Трэба шукаць ратунку. І капіталісты пачалі разнюхваць, ці не пахне дзе рынкам. Водзячы носам у паветры, яны хутка даведаліся, што ў Турцыі, напрыклад, умацаваўся ўжо немец. З Кітая і Карэі прагналі — туды і скрыпацца няма чаго — схвацяць за каршэль ды вышпурнуць. Тым часам, прырадзоная пажадлівасць не давала спакою. Паблізу, у суседстве, была Персія, што ляжыць у нас па-за Каўказам. Вось туды і павандравала наша дыпламатыя пад кіраўніцтвам прамыслоўцаў-капіталістаў.

Праўда, на поўдні Персіі ўжо гаспадарылі англічане, але паўночны бок гэтай старонкі, суседні з намі, быў яшчэ волен. Англічане і немцы ахвотна згадзіліся аддаць Расіі на карыстанне гэты бок Персіі, або, як кажуць дыпламаты, прызналі «сферу расійскага ўплыву». Тут, моў, гаспадаруй сабе на здароўе, але, проша пана, не замінаць нам там, дзе мы ўжо пабудаваліся. Трэба сказаць, што англійскія і нямецкія прамыслоўцы не вельмі вараваліся расійскіх. Фабрыкі і заводы ў іх лепшыя, тавары таннейшыя і гатунку мацнейшага, а значыцца, расійскія прамыслоўцы канкураваць (змагацца) сваімі таварамі на рынку не маглі і мала ім перашкаджалі. За тым-та яны так лёгка і згадзіліся на «сферу расійскага ўплыву», і сама справа ўладзілася без вайны і звадкі.

Вось гэтак, пасля ганебнай і прыкрай карэйскай авантуры, пачалася персідская авантура, з каторай кошкаюцца і да гэтага часу. Персія афіцыяльнай вайны нам не рабіла, а тым часам, дзякуючы гэтай авантуры, нам даводзіцца, ваюючы з туркамі, змагацца і з персамі.

Зразумела, што персам не надта спадабалася, што чужыя людзі без дай прычыны пачалі там гаспадарыць, як у сябе ў кублі. Пачаліся сваркі, звадкі і нават забойства. А дыпламатам нашым гэтага толькі й бажалася. Знайшлася зачэпка. «Дык вы бунтавацца?» — захадзіліся дыпламаты.— Не хочыце нашых падарункаў (тавараў), не разумееце, дурні, што мы вас прыйшлі навучаць вуму-розуму?! Паслаць сюды войска! Зацкаваць іх казакамі!»

І войска паслалі, і да гэтага часу там ваююць. Соткі тысячаў нашых салдатаў — сялян, працаўнікоў зямлі і рабочых злажылі косці свае ў далёкай персідскай зямлі. На што іх кінула туды вар'яцкая рука самадзяржавія? Завошта ўміралі яны там, на чужой-чужаніцы? Яны не ведалі і не ведаюць бацькі і маткі іх дагэтуль, за што гінулі

сыны іх на чужой старане! Хіба цар і яго служкі казалі каму, што яны робяць? Хіба яны радзіліся з кім ці пыталіся ў каго аб чым-небудзь? Ніколі на свеце! Яны прымусам забіралі людзей, гналі іх, як бязмоўную гавяду, і ніколі ні з кім не рахаваліся. Цёмны народ ішоў ды яшчэ песні спяваў у дарозе: «Ай да цар, ай да цар, праваслаўны гасудар!» Праціўна і горка, брыдка і жаль сэрца кроіць...

Калі збянтэжанаму японскаю аплявухаю самадзяржавію ўдалося ўціхамірыць казакамі Персію, дык гэтым не давялося супакоіць англічан. Рэч у тым, што па суседству з Персіяй, каля вядомага старасвецкага горада Багдада, ляжыць найбагацейшая ў свеце старана, Індыя. За гэтую зямлю ўхапіліся англічане аберуч і трымаюць яе як мага. Яны цупка ўчапіліся за яе і даражаць ёю больш за ўсё на свеце. Індыя — багаты, але не прамысловы і малакультурны край. Англійскім прамыслоўцам і чыноўнікам тут проста лахва. Яны набіраюць тут грошы па поўнай жмені і вяртаюцца дадому багатырамі.

Аб гэтым даведаліся немцы. Разабрала іх зайздрасць. Што рабіць? Германія ад Індыі далёка, апроч таго,паміж імі стала на дарозе Турцыя. Праўда, яна нічога не робіць, але як-ніяк замінае. Вось нямецкія прамыслоўцы праз сваіх хітрых дыпламатаў лісліва падлезлі к туркам і выманілі ў іх дазвол пабудаваць жалезную дарогу ад сваёй сталіцы Берліну праз Канстанцінопаль (турэцкая сталіца) да Багдада. Такім чынам яны спадзяваліся трапіць са сваімі таварамі ў багатую, вабкую Індыю.

Пасуванне немцаў на Багдад перапалохала англійскіх капіталістаў. Яны ўгледзелі небяспеку свайму ўладарству не толькі ў паўднёвай Персіі, але й у самой Індыі. І, трэба сказаць, мелі на гэта пэўную рацыю. Нямецкая прамысловасць к гэтаму часу ўмацавалася, акшталцела і стала вырабляць тавары таннейшыя і не горшыя за англійскія. Уся моц Англіі — яе прамысловасць і гандаль, а першым дзелам тыя рынкі-калоніі, куды яна возіць на продаж свае завадскія і фабрычныя вырабы. Калі папусціцца, каб убіўся сюды немец, дык, напэўна, страціш палавіну сваіх рынкаў. А чым чорт не жартуе — немец хітры і ўпарты, тавары мае добрыя, дык можа зусім іх выціснуць з гэтых пажытачных рынкаў. Тады — безгалоўе, ні ўзад, ні ўперад — хоць жывым у труну кладзіся. Страта рынкаў, як вышэй казалася, шкадліва не толькі прамыслоўцам, але і тым рабочым, што ў іх працуюць. Адгэтуль зразумела, чаму гэтак лёгка англійскія і нямецкія рабочыя паслухалі свайго ўраду ды

згадзіліся на вайну. Адгэтуль мы бачым і тое, чаму ім так трудна заміріцца, не давёўшы вайны да канца. Дапраўды, калі, скажам, на вайне перамогуць англічане, французы і рускія, дык немцаў прагоняць адусюль і гандляваць забароняць. А калі перамогуць германцы, дык будзе наадварот. Тады паспыняецца шмат фабрыкаў, заводаў; рабочыя страцяць работу, заработкі ды апынуцца на вуліцы, у цяжкім становішчы.

Вось тут і завязаўся той вузел пракляты, той востры канфлікт паміж гасударствамі, каторы немагчыма было ўладзіць згодай і каторы, канец-канцом, стаў вінавайцам страшэннай, сусветнай цяперашняй вайны.

Англіі і Расіі не пад густ было, што немец завітаў на Турэччыну, але немцы не маглі добраахвотна пакінуць Турцыю. Турцыя — багаты рынак для нямецкіх прамыслоўцаў, а таксама надта прыгодны край дзеля перасялення, або, як кажуць, для каланізацыі. Край гэта багаты, ураджайны, і лепшага месца трудна знайсці для тых людзей, што не маюць прытулку дома. Народу ў Германіі многа, лік яго з кожным годам расце і павялічваецца, а тым часам само гасударства, сціснутае з усіх бакоў чужымі дзяржавамі, пашырацца не магло. Трэ было шукаць сабе месца пад сонцам. «Гасударства не дрэва,— пісаў адзін немец,— расці ўвыш яно не можа, а мусіць пашырацца ў бокі». Гэта значыць — хочаш жыць, дык старайся зямлі, начай — безгалоўе. Вось чаму нямецкія сяляне так моцна і згодна трымаюцца за Вільгельма і вось чаму не хочуць рабіць замірэння без перамогі. Вільгельм ваюе якраз за тое, што патрэбна людзям: ён хоча пабольшыць сваё гасударства. Адгэтуль мы бачым, што нядобра рабілі нашыя сяляне, уцякаючы з сваёй роднай зямелькі. Яны астаўлялі пустое месца для нямецкай каланізацыі і тым несвядома памагалі немцам лягчэй дабіцца сваёй мэты. Кінуўшы сваю хатку, нялёгка вярнуцца дадому: той памрэ ад галаду і пошасці, а той прымайструецца на чужыне дый думаць кіне аб сваёй зруйнаванай сялібе. Дужы і згодны народ павінен трымацца за зямлю як мага. Без зямлі чалавек, як рыба без вады.

З другога боку, англічане гэтаксама не маглі пamірыцца з тым, што Германія рыхтуецца ўмацавацца ў яе пад бокам, на дарозе, і саўсім недалечка ад Індыі. Згадзіцца на гэта яна не мела жаднай рахубы. Гэта б значыла, што яна, Англія, па добрай волі падпускае ваўка да чарады авец, гэта б значыла, што яна сумысля адказваецца ад найба-

гатшых калоній на свеце і ад той працы і страт, якія палажыла яна на тое, каб захапіць гэтыя калоніі і пабудавацца там. Два мядзведзі, кажа прыказка, у адным логавішчы ўжыцца не могуць. Немагчыма ўжыцца побач і Англіі з Германіяй.

Вось гэтак, непрыкметна, нарвала тая скула, каторая прарвалася страшнай, нечуванай ў гісторыі вайной. Там, дзесь на краі свету, пачаў бэрсацца той вузел, разглядаючы каторы людзі з жахам узіраліся ў таёмную будучыну. Усе дзяржавы ўзброіліся. Кожны год яны трацілі страшэнна вялікія грошы на кулі, бомбы і гарматы, трымалі пад руж'ём вялікую моц войска, чакаючы таго страшнага мамента, калі гістарычны прымус рыне іх у крывавую бойню. Не будучы прарокам, вучоныя за колькі год наўперад казалі, што справа скончыцца вайной. Калі на кладцы стрэнуцца двое і ніводзін не захоча вярнуцца назад, каб уступіць дарогу другому, дык бойка пэўна пачнецца, бо прастаяць на месцы, сціскаючы ад злосці кулакі, доўга немагчыма. Ці пан, ці прапаў, а развязаць спорку трэба. Хто каго скіне з кладкі, чый будзе верх — англічанкі ці немца — хутка пабачым. Завіруха пачалася, трэці год яна свішча і бушуе, і скончыцца павінна.

Калі чорныя хмары завалакуць яснае неба, калі пойдуць па небу грымоты й маланка, калі свет сцішыцца, замрэ й абамлее, дык немагчыма людзям стрымаць навальніцу. У справах палітычных і грамадзянскіх падзеі людскія ўчыняюцца і кіруюцца варункамі, ад густу людзей незалежнымі. Гэта мы бачым на сучаснай вайне: ніхто з нас вайны не хоча, а тым часам ваяваць трэба. Рэчы, звычайныя рэчы — карысць і прыбытак пануюць на свеце, а чалавек у іх найміт, будзь ён хоць тройчы Вільгельм германскі. Людзям здаецца, што яны самі робяць сваю гісторыю, як здаецца, што мы па ўласнаму бажанню носім свае вопраткі. Гэта здаецца, што слонца ўсходзіць і заходзіць, а дапраўды, прынамсі, датычна той часткі бязмежнага свету, каторая завецца сланечнай сістэмай, дык слонца стаіць нерухома, а наша зямля кружыцца каля слонца.

Грамадзянскія стасункі ўсведамляюць (определяют) палітычны і жыццёвы погляд людзей і кіруюць іх чыннасцю. Гістарычныя з'яўленні можна ўмеркаваць, як магчыма ўрэгуляваць віраватую рэчку, але затрымаць ці змяніць іх кірунак на ўласны густ, па ўласнаму кшталту, і пусціць на гладкі, жаданы шлях паступовасці — гэта покі што людзі зрабіць не могуць. Надыдзе час, і час гэны не за гарамі,

калі людзі самі стануць будаваць сваё жыццё, або, як гэта кажуць, людзі самі пачнуць рабіць гісторыю, але цяпер, у наш час прамысловасці і капіталізму, гісторыя чыніцца па варунках, ад нас не залежных. Адгэтуль не трудна зразумець, што не лгуць немцы, як кажуць, што яны не хацелі вайны. Гэтаксама справядліва і наадварот, што Англія, Расія, Францыя і інш. не жадалі гэтай сусветнай бойкі. Вінаваты ўсе наогул і ніхто паасобку.

Адгэтуль жа відаць памылковасць і таго погляду, што быццам гэтая вайна апошняя і што, скончыўшы яе, людзі ўмовяцца раз назаўсёды жыць згодна, па-братэрску, а калі з'явіцца задзіра, дык прымусам заставяць яго сядзець ціха. Але гісторыя вучыць, што людзі, змогшыся на вайне, як пеўні ў бойцы, не раз умаўляліся паміж сабой на вечны мір,— толькі нічога з гэтага не выходзіла. Гэты жаданы ўсімі «вечны мір» трываў роўна столькі, сколькі трэ было часу, каб людзі зноў не пасварыліся. А сварыліся яны заўсёды, як толькі інтарэсы кіруючых станаў суседніх дзяржаваў стыкаліся на адной дарозе. Стрэўшыся, моў тыя казляняты на кладцы, інтарэсы гэтыя разыціся па добрай ахвоце не могуць. Дый разыціся няма як — кладка заўсёды вузкая, а вярнуцца назад нельга, бо гісторыя пасуваецца ўперад на моцы няўхільных законаў капіталістычнага ладу.

Стаяць нерухома гісторыя не можа, бо гісторыя — гэта само жыццё людзей, а жыццё павінна развівацца ды ісці ўперад, калі не жадае памерці. І вось дзяржавы, стрэўшыся на адной пуцявіне, спіхаюць адна другую з дарогі і коштам крыві, мора слёз і гора расчышчаюць сабе сцежку. Вайна скончыцца, і людзі будуць жыць вольна, згодна і па-братэрску, але не цяпер, пакі існуе лад промыслу і гандлю, або лад капіталізму. Пакі існуе ўласнасць на зямлю і на ўсе прылады і начынне прамысловага (хвабрычнага і завадскога) вырабу, пакі зямля і прамысловасць трымаюцца паасобнымі людзьмі ў кожным гасударстве, пакі ўласнікі зямлі, хвабрыкаў і заводаў маюць на ўвазе толькі свой, асабісты інтарэс, сваю асабістую карысць і нажыву, да таго часу вайна будзе вісець над жыццём людзей, будзе пагражаць у *магчымасці.* Пакі ўсё гэта існуе і не пеpажыта, пакі не зруйнаваны капіталістычны лад дзяржаўнага будавання, да таго часу людзі не могуць быць пэўнымі, што вайна ці там, ці тут зноў не загарыцца. Вайна скончыцца, і з вайною людзі расквітаюцца навекі толькі тады, як запануе па ўсём свеце *сацыялізм.* Тады людзі сапраўды выскачаць з царства прымусу і гвалту ў царства вольнасці, братэрства і згоды.

Цікава, што за гадоў колькі наўперад французскія і нямецкія вучоныя, пытліва ўглядаючыся ў таёмную будучыню, пісалі, што вайна пачнецца якраз у Сербіі, па дарозе ад Берліна праз Канстанцінопаль на Багдад. Так яно і выйшла. У Сербіі забілі аўстрыйскага наследніка. Потым выявілася, што ўчынілася гэта не выпадкова, а наўмысля, дзякуючы розным дыпламатычным махлярствам. Надта ж бо нямецкім капіталістам і прамыслоўцам хутчэй хацелася прабрацца к Багдаду, дзе разлягаецца багатая мяйсцовасць — Месапатамія. Але на дарозе да гэтага вабкага краю стаяла Сербія, невялічкая сама па сабе, але ўсё-такі са сваім уласным вокам. Вось і трэ было выдумаць зачэпку, каб сапхнуць з дарогі сербаў. Так, без дай прычыны, чапляцца нязручна і брыдка — і суседзі ворага глянуць, а тут — на табе: забілі наследніка! Гэтакага здарэння дачакаць трудна. «Помста, помста!» — лямантавалі нямецкія імперыялісты. Аўстрыякі ў цеснай згодзе з немцамі або, справядлівей сказаць, камандуючыя станы тых і другіх і слухаць, бач, не хацелі, калі сербы запрапанавалі ўсё, абы ўладзіць справу згодай, справядліва кажучы, што не вінавата ж цэлае гасударства ў тым, што натварыла адна вар'яцкая рука. Тым часам немцы рабілі ўсё ад іх залежнае, каб скарыстаць гэты мамент дзеля сваёй заваявацельнай мэты.

Такім чынам, Аўстрыя пайшла вайной на Сербію, абвясціўшы, што яна прымушана гэта зрабіць праз тое, што Сербія не хоча здаволіць іх «справядлівага» пачуцця помсты за забітага «наследніка». Але «умысел тут был иной», і Сербія вінавата была толькі тым, што немцам хацелася есці.

Маючы таёмны зговар з Германіяй і згоду з ёю, Аўстрыя дамагалася праглынуць Сербію разам з суседнім маленькім каралеўствам, на назву Чарнагорыя. Яны рыхтаваліся захапіць усе землі на беразе Адрыятычнага мора і квапіліся ўмацавацца ды стаць паўнамоцным гаспадаром на Балканах.

Але жаданне Аўстрыі запанаваць на Балканах не пад густ было самадзяржаўнай Расіі. Расія сама квапілася на гэта, і памаўзлівасць Аўстрыі станавілася папярок дарогі— гэта перашкаджала яе інтарэсам. Расія глядзела на ўсе балканскія народы (сербы, баўгары, чарнагорцы і інш.) як на сваіх малодшых братоў, за каторымі яна, на моцы сваяцтва і большасці, самім лёсам прызначана апекаваць, назіраць і захіляць ад напасці, кіруючыся той думкай, што не

цяпер, дык у чацвер, а ўсе «славянскіе ручьи» павінны «слиться в русском море», хоць ад адной думкі злучыцца з самадзяржаўнай Расіяй «малодшых братоў» кідала ў жар і праймаў халодны пот. Камандуючыя станы Расіі пазіралі на славянскія народы як на цэглу і кафлю для будаўніцтва моцы і гонару вялікарускага дзяржаўства. «Усе — дзеля Масквы, а Масква — гаспадыня» — так мыслілі расійскія імперыялісты.

Квапячыся прашыцца гаспадарным братам на Балканы, Расія чакала толькі зручнага мамента. Мала гэтага, зайздросная і памаўзлівая, яна рахавалася за адзін прысест захапіць і Канстанцінопаль з тамтэйшымі пралівамі, а турак прагнаць зусім. Як мы ведаем, першыя міністры Часовага Урада насіліся з думкай гэтай, як кот з кілбасой — так шкода было багатырам расійскім расстацца з вабнай марай аб Царградзе. Трэба сказаць, што калісь-та там, дзе цяпер туркі, было Грэцкае царства, адкуль мы, славяне, злучаныя цяпер у Дзяржаве Расійскай, атрымалі веру. І толькі трымаючыся гэтага дрыгвянага грунту, расійскія імперыялісты — прамыслоўцы і капіталісты — матывуюць і маральна апраўдваюць сваё права на захват Канстанцінопаля. З гэтага мы бачым, што калі вымагае таго інтарэс кішэні, дык сама рэлігія, справа сумлення і Бога, ідзе на падмогу зайздрасці багатыроў. У справах нажывы і рабунку багатыры не маюць нічога святога і самога Бога гатовы ўжыць дзеля карысці і зыску...

Як ведама, на пагрозы Аўстрыі пайсці вайной на Сербію Расія старога самадзяржаўнага ладу без попыту ў працоўнага народу мабілізавала сваё войска. Нібы ў адказ на гэта Германія, хаўрусніца Аўстрыі, абвясціла сваю мабілізацыю. А Англія з Францыяй, быццам стоячы на грунце агульнай справядлівасці і абараняючы ад крыўды Сербію, заступіліся за Расію. Карты былі стасаваны, раздадзены і... крываўніца пачалася.

Англійскім і французскім прамыслоўцам Расіі нябоязна. Расія ім нястрашная, бо дзяржава яна малакультурная і саўсім непрамысловая. Фабрыкаў і заводаў у яе мала, тавары вырабляюцца дорага, кепска і тандэтна*. З таварамі тандэтнага і брыдкага вырабу змагацца або, як кажуць, канкурыраваць на сусветных рынках немагчыма. Ім боязна было нямецкіх прамыслоўцаў, нямецкіх тавараў. Але Расія вялікая, мае шмат войска і ў гэтым сэнсе як не трэ лепей

* Тандэтны — нетрывалы, танны.

можа стаць ім на дапамозе. Злучыўшыся з ёй, можна пабіць немцаў. Тым-та й не дзіва, што Францыя і Англія, вольныя і ганарыстыя, не паганьбавалі трымаць хеўру з самадзяржаўнай Расіяй, з каторай яны самі пакеплівалі і называлі барбарскай і гвалтаўніцай. Але як патрэбавалася бараніць кішэнь ад немцаў, дык «барбарства» Расіі не пашкодзіла іх кампанейству і сяброўству. Што Расія бедная і не мае добрых ваяўніцкіх прыладаў — гэта не бяда,— затое людзей, салдатаў многа і шмат featherрознай зямлі. Куль і гармат можна надаслаць, а пад зямельку і грошаў пазычыць няважка. Дый Амерыка стане ў прыгодзе — яна даўно ўжо кастрыцца на немца, баючыся іх суседства на моры.

Усё пайшло як па-пісанаму. Нават Амерыка не стрымалася ды ўблыталася ў гэту страшэнную вайну. Японія зрабіла хітрэй за ўсіх. З самага пачатку вайны яна захапіла на моры ўсе нямецкія калоніі ды гаспадарыць там, як у сябе дома. Сваім учынкам яна напудзіла Амерыку. Тая агледзелася, што Японія, бадай што, страшней за немца. Яны ворагі на моры. Папускацца гэтым не мае рахубы. А тым часам і прыгразіць японцу нельга, бо Японія хаўрусніца Англіі, з каторай сварыцца не выпадае.

За гэтую вайну Амерыка страшэнна разбагацела, гандлюючы гарматамі і збожжам. Дайшло да таго, што грошы пачалі траціць сваю каштоўнасць — такую гібель яна нагандлявала. Швед, напрыклад, дык той загадаў не пускаць больш у свой край чужога *золата*, каб не патаннела тое, што маецца дома. Такім чынам, вайна, спачатку багаціўшая нейтральныя дзяржавы, пачала нарэшце шкадліва адбівацца на іх дзяржаўнай гаспадарцы. З крыніцы прыбытку яна стала багнай патапельніцтва. Паўстала пытанне аб тым, ці не пара б ужо скончыць вайну? Спачатку галава Амерыкі, прэзідэнт Вільсан, папрабаваў ласкай угаварыць ваюючыя дзяржавы памірыцца. Дзеля гэтага звяртаўся да іх з лістамі, або, як кажуць, з «пасрэдніцкімі нотамі». Ён пісаў, што вайна — гэта чыстае непаразуменне, што, на яго погляд, дык ніхто і не бажае пакрыўдзіць нікога, што калі спыніцца ды ўважна памысліць, дык хутка можна прыйсці да згоды. Тым часам яго ніхто не паслухаў, і з пасрэдніцтва яго нічога не выйшла. Трэба было шукаць іншага ратунку. І Амерыка знайшла сабе выйсце.

Як-ніяк, а вайна вечна цягнуцца не можа. Сваім гандлярскім нюхам Амерыка пачула, што хутка справа пахіліцца да згоды. Прыйсці на дзяліцьбу з голымі рукамі не мае сэнсу. Гэта саўсім не выпадае. Трэба ўзброіцца і на

дзяліцьбу завітаць з войскам і гарматамі. Тады стрэнуць яе з пашанай і кожнае слова на міравом пасядзэнні меціме сілу і павагу. Ваюючыя дзяржавы змогуцца, патомяцца і будуць пільна прыслухвацца да таго, што скажа яна, свежая, дужая і ад ног да галавы ўзброеная. А сказаць ёй шмат чаго трэба. Перш-наперш Японія захванабэрыла, а потым і з немцам парахавацца не шкодзіць. Але як гэта зрабіць? Як умяшацца ў гэтую сусветную бойню? Яе вораг на моры — Японія. Задзірацца з ёй не выпадае: яна хаўрусніца Англіі, а сама Англія, па-сваякоўску, сябруе з Амерыкай і ніколі папярок дарогі не стаяла. І Амерыка пачала прыдзірацца да Германіі. З пачатку вайны, калі ўсю ўвагу займаў іншы інтарэс, інтарэс кішэні, дык яна й вухам не вяла, што Германія топіць яе караблі. Скажа там слоў колькі дакору і — толькі таго. Не было часу сварыцца: яна гандлявала і набівала кішэні. Цяпер іншая справа. Кішэнь набіта, нават драцца пачынае, і ўсе грошы гатовы рассыпацца чарапкамі, як у таго зайздроснага жабрака ў бойцы. Трэба спяшацца. Што прабачалася спачатку, таго нельга даравáць цяпер. Да Германіі прыдрацца было лёгка. Амаль не штотыдня тапіла яна амерыканскія караблі і на пратэсты Амерыкі не звяртала ўвагі. Дастаўляючы Англіі збожжа і ваяўніцкія прылады, Амерыка тым самым варожа ставілася да Германіі. Германіі было ўсё роўна — ці будзе ваяваць з ёй Амерыка, ці не будзе. Прынамсі, рукі развяжуцца. Амерыка ляжыць далёка ад Германіі, і немец разумеў, што, ваюючы з ім, тая асаблівай шкоды не зробіць, як і Японія, напрыклад. Скончылася тым, што Амерыка абвясціла вайну Германіі сама і пачала падбухторваць на гэта суседак. Як мы самі бачым, Германіі ад гэтага не горш, не лепей. Амерыканцы ўсё гатуюцца і, мабыць, доўга яшчэ гатавацца будуць, а вайна як ішла, так і йдзе. Не памыліўся немец, калі на вайну з Амерыкай не звяртаў асаблівай увагі. Памылілася Амерыка, бо канца вайны не відаць штосьці...

Так склалася тая падзея, што ўскалыхнула ўвесь свет і немаведама, калі скончыцца.

На падрахунак англійскіх вучоных гэта нечуваная ў гісторыі вайна за першыя два з паловай гады каштуе больш за 200 мільярдаў рб. і страцілася забітымі і раненымі больш за 20 мільёнаў людзей. Адгэтуль відаць, што не за пакрыўджаную справядлівасць вядзецца вайна, а за штосьці бліжэйшае сэрцу ваюючых дзяржаваў.

Дык хто ж пачаў вайну, хто вінавайца гэтай крывавай

патапельніцы, сусветнага згубства, мора крыві, слёз і пакуты? Пачаў гэту вайну і вінавайца гэтай вайны той *сацыяльна-эканамічны лад* дзяржаўнага будаўніцтва, імя катарага *капіталізм.* Яда і трунак гэтага пана-капіталізму — зыск, прыбытак і нажыва, а сэнс жыцця яго — бястхланная жадоба.

Калі ўзяць агулам народ расійскі, англійскі, французскі, балгарскі, турэцкі, сербскі, бельгійскі, дык гэта вайна, яшчэ ніколі не бывалая па ліку людскіх ахвяр і жорсткасці, не патрэбна яна простаму народу — рабочым і сялянству. Ядыная нагарода і ўцеха за тыя ахвяры, за пакуту, слёзы і гора, што прынесла з сабою вайна для нас, сучасных грамадзян Дзяржавы Расійскай,— гэта рэвалюцыя, збаўленне ад цяжкага самадзяржаўнага панавання. Раскідалі самадзяржаўны лад не тыя кволыя рукі рабочых і салдатаў, што былі пад час рэвалюцыі ў Петраградзе, а несканчоныя ахвяры вайны, што невядомымі курганамі рассыпаны па палях Беларусі, Польшчы, Галіцыі, Літвы і Валыні. Дзякуючы ім, гэтым пакутнікам, мучальнікам самадзяржаўнага вар'яцтва, над Расіяй узышло слонца вольнасці і збаўлення. На касцях бацькоў, сыноў і братоў сваіх мы пабудуем сваё новае жыццё.

Але вайна ідзе. Палавіна краю нашага адрэзана і знішчана вайною. Жывое цела многапакутнай бацькаўшчыны нашай разрэзана надвае, і гэтак застацца не павінна. Скінуўшы самадзяржавіе, мы ваюем ужо за ўласны інтарэс, за зямлю і волю народа.

## *Эканамічны заняпад Дзяржавы Расійскай*

Тры гады ідзе страшэнная вайна, тры гады льецца людская кроў. Палавіна зямелькі нашай знішчана, збіта, абернута ў пустэлю. Паразбіваны сялібы, страчаны помнікі, параскіданы святыні. Аруць нівы хлебароба не плугі і сохі, а бомбы і кулі, рыдлёўка салдата.

Чвэрць народу нашага пакінула скарбы свае, паўцякала з зямелькі дзядоў сваіх, паразбягалася па далёкай чужыне і дзесь там, сярод непрыхільных чужынцаў, плача і цяжка ўздыхае ўцякач-беларус, успамінаючы хаткі свае, сваю родную краіну.

Руйнуюцца гарады, гінуць вёскі, сёлы, засценкі. Павы-

таптаны нівы, папалены хаты, спавілася бацькаўшчына наша страхаццём і жахам навокала. Кроіцца сэрца ад жалю і болю...

Не хапае хлеба, няма вопратак, абутку. Паспыняліся фабрыкі, пасталі заводы. Папсаваліся рэйкі, паламаліся вагоны...

Змоўклі званы, апусцелі вёскі. Не чуваць спеву, не слыхаць смеху. Пазарасталі сцежкі быльнікам і ніўкі пырнікам. Вайна пазабірала на фронт бацькоў нашых, сыноў і дзяцей...

Крывавае панаванне царскага самадзяржавія спаляндравала* Дзяржаву Расійскую, як п'яніца гаспадарку.

Цяжкую спадчыну атрымаў народ ад царскага самадзяржавія. Страхоцце бярэ, як паглядзіш навокала!..

Гасударства Расійскае гарыць, моў тая свечка, запаленая зверху і знізу. Як карабель сярод мора ў час бурынавальніцы, хістаецца ён, гнецца, трашчыць і захлынаецца. Патрэбны вялікія сілы, напружанне ўсіх сіл народу, каб адратаваць айчыну сваю ў гэты сумны час яе гісторыі...

«Аб эканамічным заняпаду ў нас гаворыцца многа,— піша расійская газета «Новая Жизнь»,— але большасць бадай што зусім не ўяўляе сабе сапраўднага становішча і бліжайшых выпадкаў, чакаючых нас у перспектыве. На палітычныя пытанні ўсе маюць свае погляды, хоць досыць і няпоўныя. У эканамічных і грашовых (фінансавых) справах нават загадчыкі і кіраўнічыя палітычных партый і грамадзянскай гурткаўшчыны, выслаўляючыся далікатна, арыентуюцца вельмі кепска».

Тым часам гэты грунт рэчы, павэдлуг сваёй вагі, бязмерна важней непастаянных, бягучых палітычных камбінацый, каля каторых гуртуецца ўся грамадзянская ўвага.

«Калі ў гасударстве спыняцца жалезныя дарогі, стануць фабрыкі і заводы, не мецімуць гарады хлеба і іншых рэчаў першай патрэбы, тагды не памогуць «палітычныя камбінацыі». Тагды нічога не ўдзее ані Урад (Правіцельства), абабраны з прадстаўнікоў Работніцкіх і Салдацкіх Дэпутатаў, ані кааліцыя (хаўрус, супрацоўніцтва) буржуазных і рэвалюцыйна-дэмакратычных элементаў. Пачнуцца анархія, рабункі, забойствы, выміранне (смяртэльнасць) ад голаду... І тагды могуць скласціся такія варункі, пры каторых уладарства захопіць ваенная дыктатура, аперпшыся на арганізаваныя станы буйной буржуазіі (прамыслоўцаў і ка-

---

* Спаляндраваць — знішчыць, стаптаць.

піталістаў), паноў-землеўласнікаў і багатшага сялянства». Гэта няўхільны вынік эканамічнай бязладзіцы і гаспадарчага заняпаду. Самае архірэвалюцыйнае правіцельства не пратрымаецца некалькіх дзён, калі не будзе дзе дастаць і даць народу хлеба ды запыніць анархію.

Катастрофа (раптоўнае няшчасце) сапраўды пасуваецца. Лік непапсаваных цягнікоў (паравозаў) і вагонаў з кожным разам зменшваецца, а рамонт «хворых» пасуваецца надта ціха. Запасы апалу на жалезных дарогах рашаюцца і спадаюць, не перабольшваючы 10-дзённай патрэбы. Іншыя дарогі, напрыклад, дык проста перахватваюць той вугаль, што ідзе па заказу ў другое месца, і толькі такім робам падтрымліваецца жалезнадарожны рух. Фабрыкі і заводы не маюць патрэбнага запасу апалу, сырога матэрыялу (сыромлі) дзеля вырабу і іншых рэчаў і начыння дзеля абсталюнку. Рэчы першай патрэбы, або першага абыходку, надыходзяць у гарадскія цэнтры ў меншым ліку, як вымагаецца абыходкам (патрэбай); запасаў амаль што няма, людзі сціскаюць сябе ва ўсём.

«Бяднейшае насяленне па гарадах літаральна галадуе, пашыраецца цынга, пабольшаецца смяртэльнасць сярод дзяцей. У вёсках няма каму рабіць, мясцова збожжа на полі сохне і абсыпаецца. Не дастаючы на рынку патрэбных рэчаў для гаспадаркі, сяляне не вязуць на продаж збожжа. На фронце салдаты гэтаксама церпяць недахват, хварэюць на цынгу, а конскі лік зменшваецца на вайне ад недахвату корму. Самае жахлівае ва ўсём гэтым тое, што бязладзіца безупынна шырыцца і тыя захады, што ўчыняюцца дзеля змагання з ёй, на лепшы выпадак, толькі стрымоўваюць яе шпаркі поступ, а часцей за ўсё, не даюць жадных скуткаў».

Першым вінавайцам бязладзіцы і руйнавання дзяржаўнай гаспадаркі ёсць, ведама, вайна, каторая адбірае вялікую частку хлеба, корму, фабрычных вырабаў, чалавечага жыцця і рабочых рук. Але Германія, становішча каторай яшчэ горшае, як у Расіі, тым часам не перажывае гэтакай бязладзіцы. Там можна бачыць вялікае знішчэнне ва ўсём, пачуваецца недахват і нават галадоўля, але заняпаду, бязладзіцы няма. Пры гэткім недахваце хлеба, як у Германіі, у нас даўно началося б гуртавое выміранне людзей, а там мае месца толькі «геніальна дапасаваная галадоўля».

Наша бязладзіца вынікае з анархічнага, рабункавага гаспадарання заможных станаў буржуазіі, а, з другога боку, неарганізаванае змаганне рабочых, паніжэнне скутачнасці працы наогул яшчэ горш ускладняюць сумнае становішча.

Запыніць эканамічны заняпад і бязладзіцу ў дзяржаўнай гаспадарцы можна толькі самымі адважнымі, рэвалюцыйнымі захадамі.

«Ліха толькі ў тым,— піша далей газета,— што прадстаўнікі буржуазіі, з каторымі супрацоўнічае ў гэтай справе правіцельства, не толькі не спрыяюць, але й затрымоўваюць работу ў гэтым кірунку». Кіраўнічыя міністэрствам гандлёвых спраў тармозяць ініцыятыву (чыннасць) дэмакратычных элементаў. Нічога добрага з гэтага не будзе.

Мікалай II страціў карону, паміж іншым, праз тое, што «крошку спозніваўся» са згодай на ўступкі. На адпавядальнае міністэрства, напрыклад, ён згадзіўся ў той час, як фактычна перастаў быць царом.

«Трэба і Часоваму Ураду (правіцельству) не пазніцца з пастановамі на рэч змагання з эканамічнай бязладзіцай» — дадае газета.

## *Беларускі тэатр*

Мінск 23 — VI. Другі раз ужо давялося мінчанам бачыць беларускі тэатр. Першы раз 24 красавіка, як ставілі «Паўлінку». 23 — VI праграма была ўладжана так, каб даць усяго пакрысе. Перш-наперш аркестр зайграў наш беларускі гімн «А хто там ідзе?..». Пасля хор спяяў «Марсальянку» і песню Бальмонта «Да здравствует Россія». Усё гэта публіка выслухала стоячы. Шмат у каго са свядомых беларусаў заварушылася недзе ўсярэдзіне думка: «А ці не можна было б так зрабіць, каб беларускі хор на беларускім ігрышчы пяяў беларускі гімн, беларускія рэвалюцыйныя песні?» Праўда, што хор цяпер, дзеля спецыяльных умоў яго працы, не мог падгатавацца да гэтага, і мы не можам надта на яго насядаць. Будзем толькі спадзявацца, што на другі раз будзе па-другому.

Ігралі трагедыю «Сягонняшнія і даўнейшыя» і камедыю «Міхалка». «Сягонняшнія і даўнейшыя» прайшло даволі нудна і асаблівага ўражання на публіку не зрабіла, хоць гэта рэч надта трагічная і сэнсоўная.

Затое вясёлая і жартаўлівая камедыя «Міхалка» захапіла цалкам усе сымпаціі. Простая, ясная тэма, шмат руху, камізм палажэнняў, добрая ігра артыстаў — усё злажылася разам. Надта рэльефныя і рэальныя абразы вытварылі



Фотаздымкі
з царскай судовай справы,
1908 г.




Вокладка
першай кнігі Я. Лёсіка



Вёска Мікалаеўшчына. Тут на вул. Дворнай (цяпер Наднёманскай) калісьці стаяла гаспода Лёсікаў. «Ды знікла ўсё гэта, растала, як мара, і не вернецца болей ніколі, як моладасць наша, як першае наша каханне...»



Вёска Мікалаеўшчына. Месца, дзе знаходзілася карчма.
Тут некалі жыў Папугай («Ня ўсе ж разам, ягамосьці!..»)
і бавілі час Сцёпка Латак, Антось Лузун і дзяк Ралькоўскі
(«Апавяданне без назвы»)

Я. Лёсік
і А. Прушынскі (Алесь Гарун).
1914 г.



Фотакопія першай
і апошняй старонак допісу
ссыльнапасяленцаў Я. Лёсіка,
А. Прушынскага і інш.



г. Кірэнск, Іркуц. г. 1

У дзень шостых ракавін існавання „Нашае Нівы", вітаем Рэдакцыю і супрацоўнікаў з вялікім сьвятам нараджэння першае нашае газэты. Ад шчырага сэрца жадаем Вам
здароўя і [illegible]
працы. [illegible]
шчыць і рун[illegible]
Наша-Ніва [illegible]
еце і сьпее на[illegible]
на славу [illegible]
ы!" Будучыня, [illegible]
жыцьця раса[illegible]
ца і хутка [illegible]
Нас недалечка [illegible]
вялікі пакут[illegible]
кае сказаць Ва[illegible]
Вітаем [illegible]
У сумнай раз[illegible]
табе пажада[illegible]
паконьвеку [illegible]
ашанцаў, [illegible]
да скарбніцы [illegible]
ства і годы [illegible]
доля шчасьлів[illegible]
табе гаспадн[illegible]

Толькі іх мова песьня здатна для навукі, пісьменства, толькі ім даў Бог права быць культурнымі да асьветнымі, а ў цябе ёсьць сьвятая павіннасьць [illegible] ім [illegible], казаць аб іх славе, большыцы іх культуры, навуку. Яны бачаць ад табе, што, працуючы на дома, а ў школах, сёньні чужыне [illegible], карысьць будзе большая і для цябе ў асобку і для культуры агульнае. Уцяміўшы, на якую сьцежку кіруюць парадчыкі: ззаду ў іх ты ўгледзіў кайданы, а на прыканцы тае сьцежкі — сьмерць, ды загідаю ў душы, і болем у сэрцы за [illegible] без спрэчак адвярнуўся ад іх, заспяваў песьню асьветнай працы, стаў склікаць дзетак сваіх да вялікае працы на карысьць уласнае гаспадаркі. Памятай яны, непрытульныя дні [illegible], прабудзілі вас, [illegible] нязрашчаваныя скрыдлы!

Няхай жыве Беларусь!
Хай-жэ цьвіце і красуе Беларусь!

Палітычна-ссыльныя беларусы: Я. Лёсік
А. Прушынскі. [illegible]
[illegible]






Я. Лёсік, Бадайбо, 1915 г., 1-шы здымак



Менск,
вул. Малагеоргіеўская, 12
(цяпер Талстога). Дом,
дзе вясной 1917 г.
жыў Я. Лёсік




Вокладка брашуры
«Аўтаномія Беларусі». 1917 г.



Я. Лёсік, Бадайбо, 2-гі здымак



Другая сесія Цэнтральнай Рады беларускіх арганізацый 15.X.1917 г. Сядзяць (злева направа): 1) Я. Мамонька, 2) І. Дварчанін, 3) Л. Дубейкаўскі, 5) Я. Лёсік, 6) Я. Варонка, 7) Я. Дыла, 9) ген. Кандратовіч, 10) С. Рак-Міхайлоўскі, 11) П. Бадунова, 13) М. Муха. Стаяць з першага па 5-ты вайскоўцы, 6) Чэрня (сястра Бядулі), 7) А. Лявіцкі (Ядвігін Ш.), 8) П. Мядзёлка, 17) Л. Сівіцкая (Зоська Верас), 18) А. Чарвякоў (са слоў Зоські Верас).



**Фрагмент здымка дэлегатаў другой сесіі Цэнтральнай Рады беларускіх арганізацый**



Менск, 1918 г. Вул. Губернатарская, від у бок Саборнай плошчы



Беларускія настаўніцкія курсы. 1918 г.

# Звон.

Беларуская штодзенная палітычна-літаратурная часопісь.

Рукапісы [illegible] Рэдакцыі.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: г. Мінск. Юбілейны дом.

Цана нумару 1 марка.

Год выданьня 1.

Рэдакцыя [illegible]

Цана абвестак: [illegible]

**№ 1.** Менск. Панядзелак 25 жніўня 1919 г. **№ 1.**

Ў чытаецца як W; ДЗ — як польскае dz.

Дзеле вялікага недахвату паперы газэта часова выходзіць тры разы на тыдзень: *у панядзелак, сераду і пятніцу.*

Грамадзяне! Вучыцеся чытаць на-беларуску. Гэта ў вашых інтарэсах. Годзі выстаўляць сябе на сьмех перад культурнымі людзьмі!

## Загад № 2.

На падставе Урадовага Дзеньніка № 1.

Ст. 1.

На абшарах занятых польскімі войскамі урадовай мовай лічыцца **мова польская.**

Урадовыя загады будуць выдаваны ў польскай мове побач з перакладам **на мову беларускую.**

Першае месцо займае аснова польскай мовы.

Ст. 2.

У сваіх зносінах з уладай насяленьне можа ужываць, побач з польскай, таксама **мовы беларускай.**

Менск, дня 20 жніўня 1919 г.

Намесьнік Генеральнага Камісара Менскага Округу *Ул. Рачкевіч.*

Адміністрацыйны Кіраўнічы Справамі *Мешчаноўскі.*

## Апавяшчэньне II.

На абшарах, занятых польскімі войскамі і польскай уладай, касуюцца ўсялякіе бальшавіцкіе установы, а так сама выдадзеные імі пастановы і прыказы.

Намесьнік Генеральнага Камісара Менскага Округу *Ул. Рачкевіч.*

Адміністрацыйны Кіраўнічы Справамі *Мешчаноўскі.*

## Нашае заданьне.

Мы будзем бараніць інтарэсы працоўнага народу. Мы будзем дамагацца усіх старанным, каб як найскарэй споўнілося жаданьне нашага спакутаванага сялянства адтрымаць сабе зямлю, а рабочым ў горадзе і вёсцы — справядлівыя варункі працы, роўные з тым, якімі карыстаюць усе рабочые культурных старонках.

Мы будзем старацца аб тым, каб вярнуць дадому нашых пакутнікоў бежанцаў, параскіданых па галодных абшарах бышай Расіі. Мы будзем дамагацца, каб ім памаглі і далі магчымасьць адбудаваць свае зруйнованые сялібы коштам скарбовай дапамогі.

Мы ані на момант не забудземся, што наша старонка — беларусь — зруйнована вайною і крывавым панаваньнем маскоўскіх бальшавікоў. Мы ведаем, што калі што залавелося ад вайны, тое не ўратавалося ад маскоўскіх бальшавіцкіх грабежнікоў. Дзеля гэтага першаю і сьвятою павіннасьцю кожнага грамадзяніна нашае Бацькаўшчыны — працаваць над тым, каб падняць нашу старонку з руін заняпаду і паставіць яе на яе ўласные ногі.

Мы будзем даводзіць свайму гаротліваму народу, што не пазбудзецца ён ліха ніколі, калі не адбудуе свае уласнее Беларускае дзяржавы, свайго роднага Беларускага Гаспадарства. Толькі тагды, калі народ наш не захоча быць нікім іншым, а толькі *беларусам* з сваею роднаю мовай і культурай, — толькі тагды ен возьме сваю долю ў свае рукі і забудзе сабе тое, чаго дамагаецца і што патрэбно для вольнага культурнага жыцьця.

Толькі утварыўшы сваё беларускае войско, і праз яго злучыўшы ўсе свае беларускіе землі, народ наш здолее сыцца на свой Установчы Сойм, выявіць сваю волю і знайці сабе сваіх прыяцелеў і саюзьнікоў.

Толькі тое моцна і трывала, што будуецца на цьвердым гістарычным грунце, а гэты гістарычны грунт гаворыць пра тое, што нам трэба збавіцца ад тае палітычнае сувязі, каторая ўкінула нашу старонку ў пожар сусьветней і грамадзянскай вайны, абярнуўшы наш край у попел пажарышча і параскідаўшы наш люд па ўсяму беламу сьвету.

Што тычыцца нашых адносін да Польшчы, то мы зьвяртаемся да польскай дэмакратыі з гэтакімі словамі: колісь, за часоў бышага Вялікага Князьства Беларуска-Літоўскага, нашы продкі памаглі вашым продкам збавіцца ад нямецкай крыжацкай навалы; колісь супольна мы бараніліся ад нашых ворагаў і былі дужые і культурные, але калі Польшча перастала паважаць нашы дзяржаўные і культурна-нацыянальные патрэбы, то гэта прывяло да згубы і доўгалетняго палону і нас і вас. Гэта [illegible] гістарычная навука павінна кіраваць усею нашаю і вашаю палітычнаю чыннасьцю, не даючы забыцца ані на момант, што Б[illegible] павінна быць *Беларусьсю*, а [illegible] уходняю зямлёю.

## Да насяленьня б. В. Кн. Беларуска-Літоўскага.

Ваш край ужо сто колькідзесят гадоў ня ведае свабоды, гнябены варожым гвалтам расейскім, нямецкім, большэвіцкім, — гвалтам, каторы, ня пытаючыся насяленьня, накідаў чужацкіе прымеркі наступнікаў, зьвязываючы [illegible] ламаючы жыцьце.

Гэтакая бязупынная [illegible] добра ведомая і мне самому, як радзіўшамуся на гэтэй нешчасьлівай зямельцы, павінна быць урэшці спынена і на гэтай бышам забытай праз Бога старонцы павінны запанаваць свабода ды правы свабоднай ніцым нязвязанай гутаркі аб жаданьнях і патрэбах.

Польскае войска, каторае я з сабой прывеў, каб выкінуць гаспадараваньне гвалту і [illegible], каб спыніць кіраваньне краем прошлых [illegible] жыдароў, гэтае войска нясе ўсім Вам свабоду.

Хачу Вам даць магчымасьць развязаць унутраные нацыянальные і рэлігійные справы гэтак, як самі захочаце, без чыёга-небудзь гвалту або нашкоў з боку Польшчы.

Першая старонка газеты «Звон». 1919 г. № 1




15-гадовы юбілей творчасці Янкі Купалы. У другім радзе злева: 5) Я. Лёсік, 6) Ул. Луцэвіч (жонка Янкі Купалы), 7) Янка Купала. У першым радзе злева стаіць Алесь Гарун

сваёй ігрой Ф. Ждановіч* (Міхалка) і Янка Беларус (роль бацькі). Ігра Ф. Ждановіча была папраўдзе добрая: роўная, вытрыманая спачатку да канца ў строгім духу рэалізму, не пераходзячая ў фарс, яна спадабалася і публіцы, і знатакам. Я. Беларус іграў таксама дужа добра, шкада толькі, што ён хацеў заставіць нас забыцца, што фарс і камедыя — дзве рэчы даволі розныя.

З усіх дэкламатараў, выступаўшых у дывэртысменце, найбольш спадабаўся публіцы Я. Беларус, дэкламаваўшы камічныя вершы А. Паўловіча «Ракі» і «Каты». Яму кідалі на сцэну шмат жывых красак.

Выступаў хор. Напевы беларускіх песняў дужа спадабаліся ўсім, быўшым у тэатры. Танцы беларускія таксама заваявалі агульныя сымпаціі.

Кажучы так наогул, трэба ўсё-такі прызнацца, што ігрышча зрабіла добрае ўражанне. Тыя ж недахваты, якія былі, тлумачацца ўмовамі працы, і іх можна выбачыць.

## *Пара звярнуць увагу*

Шмат хто спадзяваўся і да гэтага часу спадзяецца, што ў сваіх нацыянальных дамаганнях стрэне прыхільнасць і дапамогу сярод расійскага (маскоўскага) грамадзянства. Думалася, што ў нацыянальным уціску вінавата адно самадзяржавіе, а інтэлігенцыя велікаруская тут непрычынна: што яна гэтаму ніколі не спачувала, а толькі моўчкі пераносіла гвалт і паняверку. Здавалася, што трэ скінуць самадзяржавіе, і жаласлівая маскоўская інтэлігенцыя рынецца к нам на падмогу, паможа ўстаць нам на ногі і тым знішчыць цяжкія скуткі царскага панавання. Але гэта памылка. Шырокі ўкраінскі рух паказаў, што маскоўскае грамадзянства наскрозь цэнтралістычна, што таёмна спачувала яно не нам, а самадзяржавію і лічыцца толькі з сілай, толькі з голым, моцна падкрэсленым фактам. У гэтым сэнсе выказаліся ўсе расійскія газеты, і нацыянальны рух выклікаў у іх нездавальненне і нават пагарду. Украінскі універсал голасна сведчыць, што чакаць падмогі і спачування адтуль не мае пад сабой грунту. І характэрна, у той

---

* Ждановіч Фларыян (1884—1942) — беларускі акцёр, рэжысёр, тэатральны дзеяч, адзін з заснавальнікаў беларускага прафесійнага тэатра.

7—784

час, як украінскі рух дзён колькі не зыходзіў з аркушаў расійскіх газет, ніводная з іх нават і словам не заікнулася аб беларусах, так як іх на свеце не было, так як Беларусь саўсім не існуе. Яны паважаюць толькі сілу і рахуюцца з голым, моцна падкрэсленым фактам...

Праўда, непрыхільнасць сваю да нацыянальнага руху маскоўскае грамадзянства тлумачыць тым, што разважаць свае ўласныя, хатнія спрэчкі цяпер не па часе, што цяпер бязладзіца, вайна і т. д. На жаль, аргументацыя іх саўсім непраканалая і больш падобна да няўдалай агаворкі і ўхілення, чым на адкрыты брацкі адказ. За вайну цяпер хаваецца кожны, хто мае крывыя думкі і не можа проста пазіраць у вочы. Вайна — гэта тая фартэцыя, адкуль смела страляюць усе, каму страляць хочацца: рэакцыянеры і паступоўцы, рэвалюцыянеры і кансэрватысты. Вайна ўсяму замінае і ўсяму... памагае. Хіба не вайной палохалі нас тыя, хто баяўся рэвалюцыі? Хіба не казалі нам, што было б вар'яцтвам ушчынаць рэвалюцыю, покі не скончыцца вайна, і хіба рэвалюцыя адбылася і адбываецца не ў час ваеннай калатніны?

Хіба васьмігадзінны дзень працы, гэта вялікай вагі сацыяльнае (грамадскае) пытанне, заведзены не цяпер, не ў час вайны? Ласне здавальненне справядлівых жаданняў не ўзмацняе сілы дзяржавы, ласне згода і супрацоўніцтва не павялічвае працаздольнасць грамадства?.. Не, вайна тут не замінае і мае такі сэнс, як «у вагародзе лебяда, а ў Кіеве дзядзька». Вайна тут прыплятаецца дзеля таго, каб шляхетна ўхіліцца ад нежаданай справы...

Трэба памятаць, што кожны ўчынак, кожная падзея мае сваю філасофію, і ўсё, што робіцца на свеце, дык рупіцца мець свой уласны грунт і апраўданне. Каб даведацца аб тым, чым была выклікана расійская непрыхільнасць да нацыянальнага руху — сапраўды вайною ці чым іншым, цэнтралістычнымі звычкамі, напрыклад,— дык нам трэба азірнуцца назад і глянуць на тое, як стасавалася расійская інтэлігенцыя да недзяржаўных нацый да гэтага часу і чым яна выявіла сваё спачуванне да нацыянальнага руху ў сябе дома, пад бокам, хоць бы да нас, беларусаў, напрыклад.

Маскоўская, або велікаруская, інтэлігенцыя цікавілася ўсім, толькі не сваімі суседзямі, толькі не беларусамі і не ўкраінцамі. Бліжэйшая сястра наша па крыві, мове і гістарычнай долі — Украіна — наўмысля, дзеля інфармацыі (азнаямлення) выдавала асобны журнал, як бы кажучы: «Схамяніцеся, панове-брацця, мы ж тысячу раз цікавей

готтэнтотаў і батакудаў, лёс каторых так пільна займае вашую думку!» І дапраўды, калі ўважна перагартаць маскоўскую літаратуру, дык нідзе не спаткаеш таго, каб яна сапраўды цікавілася тым: хто гэта беларусы, які іх край, што тут за людзі, якой мовай гавораць, чаго яны хочуць, куды ідуць, чаго дамагаюцца і чаму ... маўчаць. У гэтым сэнсе маскоўская інтэлігенцыя моўчкі трымалася таго пагляду, які вытварыўся яшчэ з часоў маскоўскага князя Івана Каліты. Беларусь — гэта «вотчына», тая самая Яраслаўская губернія, толькі з асобнай назвай. І калі часам траплялі да нас гісторыкі ці лінгвісты, дык яны ўжо наперад пэўны былі, што стрэнуць тут сваіх «тульскіх мужычкоў», толькі з цікавымі асобнасцямі. Тут людзі дзэкаюць, спраўляюць Купалле, ходзяць з гвяздаю на Каляды, а па валачобнаму на Вялікдзень загавораць — дык уцяміць трудна. Заміж *гаспадзін — пан* кажуць, заміж *здравствуй — дзень добры* даюць, і ў размове з бабамі можна аб *трэсцы* дачуцца,— аб той самай праклятай *трэсцы*, каторая таямніцай стырчыць у летапісах «ісконі маскоўскіх» і турбуе голаў вучоным аж да нашага часу. Цікавы край, цікавыя людзі, а маскоўскія вучоныя шчыра і сумленна разглядалі нас праз свае маскоўскія акуляры, атрыманыя ў спадчыну ад розных Іванаў, князёў маскоўскіх. Што Беларусь паўтараста толькі год, як прылучана да Масквы, што яна мела сваё магутнае гасударства, сваю культуру, асвету і навуку, што беларускія вучоныя нямала працавалі дзеля асветы маскоўскага царства, што сама граматыка іх пабудавана на грунце беларускай мовы — гэтым яны не цікавіліся, гэтага яны ніколі не таркаліся і абыходзілі навокала. На што яго чапаць, калі яно маўчыць і не варушыцца, і так прыемна аглядаць чужое дабро, як сваю маёнтнасць, багацце і пыху.

Тым часам не магла ж маскоўская інтэлігенцыя не бачыць, што ў нас штось дзеецца нядобрае. Паўтараста год Беларусь маўчыць, паўтараста год стаіць тут магільная ціша. Няўжо «благаденствуютъ»? Дык тады незразумела, чаму абы дэпутат з Беларусі, дык царскі прыхвасцень; што не цёмная сіла, дык родам дзесь з гэстага боку...

Царызм будаваў сваю моц на абрусіцельстве і ўціску недзяржаўных нацый. Перакінчыкі і рэнегаты былі кайданамі на нагах паступовага (прагрэсіўнага) і рэвалюцыйнага грамадзянства; нацыянальны ўціск валтузіў і затрымоўваў поступ культуры і прагрэсу; недзяржаўныя нацыі заўсёды кішэлі чорнымі сотнямі, на здрадніках і рэнегатах трымаўся царскі трон, а маскоўская інтэлігенцыя, змагаю-

чыся з царызмам палітычна і сацыяльна, пра абрусіцельства і нацыянальны здзек маўчала. Уся прамысловасць нашага краю сцягвалася к цэнтру, жалезныя дарогі гэтаксама; не адзінай вышэйшай школы на цэлы край, на цэлы дзесяцімільённы народ, а маскоўская інтэлігенцыя, турбуючыся аб народнай прасвеце, пра універсітэт на Беларусі маўчала, свядома маўчала пра цэлы край.

На шляху нацыянальнага здзеку самадзяржавіе не страчала сабе перашкоды. Мала таго, расіец, выхаваны на славэтных традыцыях «собирателей земли русской» і трапіўшы да нас у заработкі, добраахвотна памагаў нішчыць душу беларускаму народу.

Расійскае самадзяржавіе трапіла да нас у той час, як усе вышэйшыя станы і інтэлігенцыя нашага краю былі спаланізаваны (апалячаны). Заставаўся адзін цёмны, забіты народ. Трэ было даць яму інтэлігенцыю, надзяліць загадчыкамі, і яно панасылала сюды сваіх чыноўнікаў, паноўземлеўласнікаў ды злучна з імі распачало сваю душагубскую працу. Надарованыя маёнткамі памешчыкі і пасадамі чыноўнікі, па сумленню аддзячылі ласкаваму самадзяржавію. Яны стараліся не за страх, а па сумленню, як іх пенька не трэснула.

Але самадзяржавіе разумела, што адным наводным, чужым элементам многа не зробіш. Народ заўсёды будзе кастрыцца на чужынцаў і не так пакорліва пойдзе за імі, як таго бажаецца. Трэба закрасіць чужынцаў мясцовым элементам, тутэйшымі людзьмі, тагды справа пасунецца лагодней і скутачней. І, распачынаючы сваю сатанінскую працу, самадзяржавіе, як той злодзей у сваёй ахвяры, перша-наперш вырвала ў народа яго язык, яго мову, роднае слова. Дзеля гэтага забараніла вучыць, чытаць і друкаваць па-беларуску і выгнала спрадвечную мову нашу з усіх інстытуцый краю. Далей, пабудавала школаў-казёнак, дзе атручвалі розум дзіцячы пагардай і здзекам з беларушчыны і выраблялі фанатычных абрусіцеляў і верных памочнікаў сабе і сваім наймітам.

Народ і скардзіцца не мог. Чужой мовай гора не выкажаш, чужым словам жалю не вылажыш. Запякліся вусны ад смагі, рвалася сэрца ад болю і мукі, а народ маўчаў і нават плачам не мог паклікаць людзей на ратунак, звярнуць на сябе ўвагу людскую. Запанавала магільная ціша. Толькі калі-нікалі смяртэльны спакой прасякнуўся шатанскім рогатам чорнай соткі і ачумелымі скокамі здраднікаў і рэнегатаў роднага краю. А народ маўчаў, і толькі

змарнелыя вочы яго адбівалі нявыказаную муку, пякельную пакуту і сусветнае гора. Але хто бачыў гэта? Хто, жаласлівы, прынёс яму слова ўцехі, хто мог абагрэць яго ласкаю, светлай надзеяй і спадзяванкай, калі родныя дзеці пакінулі яго і абыходзяць навокала, як біблійныя людзі Іова.

А маскоўская інтэлігенцыя моўчкі пазірала на агонію нашай старонкі. Родная мова, родная школа — гэта там, за граніцай, нацыянальны здзек і паняверка — кепска там, дзе немец катуе славянаў. А дома гэта «славянские ручьи сливаются в русском море», гэта «собирается Русь воедино». Стогн і енк недзяржаўных нацый — гэта брацкі гімн на банкеце злучэння. Паўтаравяковая беларуская ціша — гэта «благоденствие под сенью российской культуры...».

Цяпер пытанне не ў тым, ці спачувае нам маскоўская інтэлігенцыя, ці не. На спачуцці гісторыя не будуецца. Гістарычная чыннасць грунтуецца толькі на сіле, а грамадзянскі лад выпрацоўваецца ўмеркаваннем (соотношением) яе. У гэтым выпадку людзі рахуюцца толькі з фактамі. У змаганні за сваю нацыянальную самабытнасць, за сваё нацыянальнае існенне ніхто нам не паможа. У нашай справе мы сабе і работнікі, і памочнікі, і ў справе ўласнага вызвалення павінны чэрпаць сілу, веру і надзею.

Нацыянальнае вызваленне — гэта барацьба культур. Само разуменне гэтай справы паказвае, што той, з кім боруцца, на моцы свайго змагання не можа перайсці на бок праціўніка. Беларуская культура вальчыць на два бакі — на польскі і маскоўскі,— і было б дзяцінствам думаць, што прадстаўнікі той ці другой культуры далучацца да нас ды стануць біць саміх сябе. І калі мы хочам жыць на свеце, калі мы хочам быць беларусамі, калі нам сапраўды праціўна рабіцца цэглай і кахляй на чужы будынак, на чужую славу і пыху, дык мы павінны нябаўна, цяпер жа злучыцца ў адну згодную, моцна злучаную грамаду, павінны стварыць ядыную, моцную, як мур, сям'ю беларусаў і згодна паўстаць на абарону сябе, свайго гонару і нацыянальнага існення.

Гісторыя вучыць, што раз змаганне паўстала, дык не спыніцца ніколі, пакі не даб'ецца перамогі, пакі распачатая борка не скончыцца вызваленнем пакрыўджанага, знявbooжанага і абяздоленага. Перашкоды на гэтым шляху толькі распаляюць хцівасць, валтузяць, злуюць і нахіляюць людзей на прыкрыя ўчынкі, але жаданых скуткаў не набі-

раюць. Ідэя гвалту не баіцца, і святло вызвалення блішчыць людзям вечна.

Дык выходзьма на работу! За нас гісторыя, культура, прагрэс; нам дапаможа няўхільнасць гістарычнай паступовасці і вялікая ідэя несмяртэльнасці нацыянальнага пачатку. Нацыянальнасць — гэта крыніца, гэта вечны калодзеж людскага багацця, цнот і развою ўсяго чалавецтва. Касмапалітызм — выдумка буржуазная, хітрая пагудка капіталістычнага ладу. Як імперыялізм — безадхланная жадоба ўладаць адным усёй зямлёй, так і касмапалітызм ёсць хітрыкі прамысловасці, капіталізму. Тым, хто дамагаецца ўладаць сусветнымі рынкамі, карысна зрабіць увесь свет шэрым і мутным, бо ў каламутнай вадзіцы ямчэй рыбу лавіць.

Нацыянальнасць — вот грунт дэмакратыі. Толькі праз нацыянальнасць, праз захаванне крыніцы прагрэсу, мы трапім да згоды, у свет братэрства і сацыялізму. Толькі праз нацыянальнасць людзі дайшлі да сучаснай вышы культурнага развіцця. Нацыянальнасць стварае ўсё: навуку, штукарства і літаратуру.

Толькі стаўшы на грунт нацыянальнай культуры, З. Еўропа выйшла з цемры барбарызму на шлях светлай паступовасці. Толькі на грунце роднай культуры мог з'явіцца Талстой, Шэкспір, Сервантэс ці Гётэ; толькі англійская культура магла спарадзіць Дарвіна, а нямецкая дала нам Канта.

Так вучыць гісторыя.

Хто мае вушы слухаць, няхай слухае.

## *Беларускі тэатр*

10.VII у Мінскім Гарадскім Тэатры Першае Беларускае Таварыства Драмы і Камедыі ставіла «Раскіданае гняздо», драму Янкі Купалы, у друку яшчэ не быўшую.

Тэмат гэтай драмы ўзяты з часоў 1905 г. Сялянская сям'я з даўных часоў, з роду у род сядзела на дворнай зямлі і плаціла чынш. Астаўся ў двары гаспадарыць малады паніч. Ён загадаў чыншавікам ачысціць яго зямлю. Сям'я не хоча, бо яна, як дрэва, урасла ў гэтую зямлю і, сышоўшы з яе, не будзе мець куды дзецца. Тэрмін, даны на высяленне, прайшоў. Дворныя людзі раскідаюць хату. Бацька

ў роспачы вешаецца. Гэта 1-шы акт. Другія акты адбываюцца на ламацці, на месцы быўшай хаты. Маці хоча, каб старэйшы сын пайшоў і перапрасіў паніча, каб ім дазволілі астацца на старым мейсцы й паставіць новую хату. Сымонка (сын) не хоча, бо «бацькава магіла навекі раздзяліла іх ад нас». Ён чакае суду. Трагедыя яшчэ большая, бо старэйшая дачка Зося закахаўшыся ў гэтага самага паніча. Сымон ненавідзіць і сваю сястру за тое, што яна звязалася з заклятым ворагам сям'і, згубіўшым бацьку і выгнаўшым іх на двор. Суд рассудзіў не на карысць пакрыўджанай сям'і, бо сведкі былі падпоены. Апошнія надзеі прапалі. Асталося або перапрасіць паніча, або жабраваць ісці. Сымонка ніякім парадкам не хоча ісці кланяцца людзям, загнаўшым у труну яго бацьку, апаганіўшым яго сястру й давёўшым яе да вар'яцтва, бо, учуўшы аб шлюбе свайго каханка з нейкаю паненкаю, яна хацела павесіцца, але як ёй не далі — яна звар'яцела. У гэтыя часы па вёсках усюды хадзілі агітатары «зямлі і волі». Адзін з такіх агітатараў, нейкі фабрычны, прыходзіць і да Сымона, кліча яго «на вайну з цмокам», «на сход вялікі». Сымон думае-думае і такі ідзе, не гледзячы на просьбы мацеры сваёй. Астаўшыся адна з трыма малымі дзяцьмі, Марыля (маці) выбіраецца жабраваць. Раптам недзе загараецца вялікі пажар. То гарыць двор. Пры блеску пажару Марыля адыходзіць разам з дзяцьмі і адным старым дзедам-жабраком, якога яны раней ахвотна дарылі, як сядзелі на гаспадарцы. Астаецца толькі адна вар'ятка — Зося. Прыбягае Сымон, бачыць — нікога з сям'і няма, хапае сястру за руку і ідзе з ёю «на сход».

Такі, у самых агульных рысах, ход драмы. Раней, чым гаварыць аб ігры асобных артыстаў, варта зрабіць пару агульных увагаў. Гэтая драма Купалы й так напоўнена русіцызмамі ад пачатку да астатку. Ставілася яна надпаспешным парадкам, і дзеля гэтага артысты не ўспелі падгатавацца, вывучыцца сваіх роляў. На сцэне яны за невялічкімі вылічэннямі трымаліся даволі баязліва і ўсё стараліся, каб не адысціся далёка ад суфлёрскай будкі. Дзякуючы не саўсім чыстай мове арыгінала і малай знаёмасці артыстаў з ролямі, са сцэны так сыпаліся русіцызмы, што і запраўды можна было думаць, што ніякай беларускай мовы няма, а ёсць толькі «макулатурная тарабаршчына», як нядаўна пісала адна тутэйшая газета «Новая Заря». «Нічэво», «ты должэн», «не надо», «меня», «тебя», «нет» і т. д. так і сыпаліся, проста як з мяшка.

Хор паправіўся трохі й не частаваў ужо нас маскоўскімі

песнямі, а даволі прыгожа спяяў у пачатку ігрышча «А хто там ідзе?» і «Ад веку мы спалі», устрэчаныя публікай надта прыхільна. Затое артысты пастараліся, дай Бог ім здароўечка, выявіць усю чыстату й пекнату беларускай мовы.

Найбольшае ўражанне на публіку зрабіў сваёю ігрою А. Крыніца* (роль Гаспадара). Містычная любоў земляроба да свае зямелькі, што ўладае ўсёю душою Лявона, што відаць ў яго кожным слове, нашла сабе добрага выразніка. Трагедыя земляроба, сілком адрываемага ад глебы, да якой ён прырос, задыхаючагася, як рыба, вынутая з вады, была добра выяўлена артыстам.

Роль старэйшага сына, Сымонкі, выпаўняў Ф. Ждановіч. Тая самая любоў да зямлі, што давяла бацьку да магілы, уладае і сынам, кіруе кожным яго рухам, кожным яго ўчынкам. Артыст добра ўдумаўся ў сваю роль і ведаў яе, але трошкі шкодзіла яму куча староnніх клопатаў (Ф. Ждановіч разам з тым і рэжысёр) і звязвала яго на сцэне.

Зоська (А. Ліпнічанка**) выявілася на сцэне трошкі не такою, як у драме. У творы Янкі Купалы выведзена дзяўчына нервовая, уражлівая, што не можа аддзяліць вытканага сваёй фантазіяй ад праўдзівага жыцця, што не знае, «гдзе яна, а гдзе толькі цень яе»; а на сцэне мы бачылі спакойную, прызвычаіўшуюся артыстку, што хацела ўзяць толькі ўмеласцю. Недахват тэмпераменту адзначаўся ясна і прачуваўся публікай. Доўгія маналогі, гдзе Зоська выяўляе багацтва сваёй фантазіі, выкладае малюнкі, створаныя ёю, выходзілі нуднымі.

Мала жыцця было і ў Марылі, жонкі Лявона (В. Тарасік***). Яна ж найболей за ўсіх сыпала русіцызмы.

Добра выпаўніў сваю роль жабрак (Р. Жакоўскі****).

Аб рэшце артыстаў што можна сказаць: адны трошкі лепей, другія трошкі горай. Наогул жа кажучы, хоць артысты й не спраўдзілі нашай баязні за правал драмы, але ўсё ж спешнасць пастаноўкі дала сябе знаць.

---

* А. Крыніца — Ждановіч Антон Паўлавіч (1898—1937) — беларускі акцёр; удзельнічаў у стварэнні Першага беларускага таварыства драмы і камедыі, яго вядучы актор.

** Ліпнічанка Аляксандра — у 1917—1918 гг. удзельніца Першага беларускага таварыства драмы і камедыі (ПБТДіК); выконвала ролю Паўлінкі.

*** Тарасік Вера Рыгораўна (1899—1986) — настаўніца, удзельніца ПБТДіК.

**** Жакоўскі Рамуальд (1897—1919) — беларускі артыст; у 1917—1919 гг. у трупе ПБТДіК.

## *Да спакою*

У гэтым нумары нашае газеты чытэльнікі знойдуць адозву Украінскай Цэнтральнай Рады да свайго народу, у якой яна, маючы на ўвазе пасуванне немцаў на Валынь і Падольшчыну, заклікае ўсіх быць спакойнымі, не пакідаць сваіх родных сяліб і заставацца на месцы. Цэнтральная Рада, са свайго боку, дакляруе зрабіць усё ад яе залежнае, каб не нішчыліся дарэмна гарады, сёлы і вёскі, каб асталося ў людзей тое, што ім патрэбна, каб не нарушаўся парадак, і што яна, Рада, будзе дапамагаць і бараніць людзей пад час пераходу яго да рук ворага. «Мы пэўны,— піша ад імені Рады Генеральны Сакратарыят,— што рэвалюцыйнае народнае войска, расійскае і ўкраінскае, не папусціць на паталу нашай Украіны, і вораг скора спыніцца, а потым пойдзе назад.

Але мы павінны быць гатовымі да ўсяго і мець сілу, каб перажыць цяжкі час вайны... Грамадзяне, не давайце веры тым, хто злачынна будзе клікаць вас пакідаць сваю зямлю».

Там, на братняй Украіне, ёсць каму патурбавацца аб сваім народзе: там украінскі народ, не гледзячы на перашкоды, здолеў стварыць у сябе сваю краёвую арганізацыю, як Цэнтральная Рада, каторай даручыў узяць справы свайго роднага краю ў свае ўласныя рукі. Там народ не слухае брахні ворагаў сваіх і не пабаяўся цяпер жа, у час вайны, паруліцца аб сваёй долі, цвёрда памятаючы, што калі сам сабе не паможаш, дык ніхто чужы не паспагадае і не дапаможа.

Адно ў нас, на Беларусі, нічагутка няма. Заштурханы, збэшчаны народ беларускі і да гэтага часу блудзіць па цемры, не ведаючы, куды пайсці, што рабіць, куды прыхіліцца. Народ наш і да гэтага часу прымае ворага за прыхільніка, а прыхільніка за ворага і не можа ўцяміць, нябога, што трэба скінуць гэтую агідную апёку чужынцаў, прагнаць ад сябе няпрошаных парадчыкаў з расійскага і польскага боку, ды стаць на ўласны грунт, узяўшы сваю *беларускую справу* ў свае беларускія рукі. Толькі тады адкрыюцца вочы яму, праясніцца цемра і шырока расхіліцца той жаданы шлях лепшай долі, што вядзе ў гмах лепшай светлай будучыні. Расійскія парадчыкі ўсялякага стану і прakanання падавалі народу нашаму многа бліскучых абяцанак, але трэ дакаціцца хвілі ваеннай калатніны да нашай зямлі, каб яны паўцякалі адгэтуль, кінуўшы

народ на ласку Божую. А мо ці не думаюць яны, уцякаючы самі ад немца, павалаць і народ наш за сабою? Дык не будзе гэтага! Цяпер народ не паслухае іх. Першы раз, за часы цара Мікалая II, яго прымусам, сіламоц выганялі з родных зямель, сёл і гарадоў ды расцярушвалі па Сібіры і Расіі на здзек, пагарду і галодную смерць на чужыне. Мы добра памятаем, як раз'юшаныя казакі адсякалі рукі старэнькім дзядам нашым, каторыя, абхапіўшы ў абоймы вушакі хаткаў сваіх, Хрыстом-Богам упрашалі аставіць іх дома. Усе мы ведаем, колькі перамёрла людзей ад холаду, голаду і пошасці. Усе мы добра памятаем, колькі гора, слёз і пакуты зазналі ўцекачы-беларусы, як цяжка ім было хіляцца па дарогах, пад плотам і чужых хатах. Цяпер не будзе гэтага.

Вас, расійскія сацыялісты і дэмакраты, чакае пачэсная праца ў сябе дома. Едзьце дамоў, накарміце там уцекача-беларуса, абагрэйце яго, прывітайце як брата і дайце яму прытулак. Паедзьце дадому і расталкуйце землякам вашым, што нягожа сустрачаць няшчасных абяздольных людзей каламі, лямантам і лаянкай, як рабілася гэта ў 1915 годзе. Едзьце дадому, а гэта абыдзецца і без вашай чужынскай няшчырай фатыгі*.

Пара народу нашаму зразумець, што няхай будзе хто тройчы сацыялістам і дэмакратам, а калі ён не шануе нас і мовы нашай, калі не рахуецца з нашым нацыянальным гонарам, калі топча культуру нашу, калі хоча зрабіць з нас маскалёў (расійцаў) ці палякаў, заклікаючы да Масквы або да Варшавы, дык ён вораг наш, вораг нашае *беларускае зямлі і волі.* Хто хоча працаваць на карысць народу нашага, той павінен звяртацца да яго на яго роднай мове, дбаць пра развіццё нашай культуры, пашыраць нашу літаратуру і абуджаць у беларусаў яго свядомасць нацыянальную і грамадзянскую. Хто гэтага не разумее або не хоча разумець, той вораг наш і вораг прагрэсу агульначалавечага.

Ды адкінем з пагардай няшчырыя парады чужынцаў, будзем цвёрдымі, поўнымі веры і надзеі ў лепшую долю, і які б лёс не спаткаў нас у гэты крывавы час ваеннай калатніны, мы павінны быць спакойнымі і заставацца дома. Там, на непрыветнай чужыне, чакае нас холад і голад, пагарда, здзек і нават смерць, а гэтага, дома, мы меціме хоць уласны прытулак, свой родны куток і сапачынак. Не

* Фатыга — клопат, турбота.

будзем слухаць тых, хто стане валаць нас да ўцякання, «не давайма веры тым, хто злачынна будзе клікаць пакідаць сваю зямлю».

## *Беларуская Рада*

На адбыўшымся 8—9 ліпеня з'ездзе ў Мінску ўтворана Цэнтральная Рада беларускіх арганізацый. Выбранаму на гэтым з'ездзе Выканаўчаму Камітэту было даручана склікаць Раду ў магчыма кароткім часе. Першая сэсія Рады мае пачацца 5 жніўня ў г. Мінску. Па думцы Выканаўчага Камітэта, яна павінна разгледзець гэтакія справы: арганізацыйную, фінансавую (грашовую), сучасны палітычны мамент і адносіны да яго, апрацаванне дэкларацыі або адозвы да ўсяго народу і выбары да Устаноўчага Сойму.

Ужо даўно адчувалася пільная патрэба ў цэнтральным, яднаючым органе нашага краю. З першых дзён рэвалюцыі пачалі атрымоўвацца весткі, што скрозь закладаюцца беларускія гурткі, хаўрусы, сяброўства і арганізацыі. Параскіданыя па краю, распарушаныя па ўсіх кутках Расіі, яны, не маючы аб'яднаючага цэнтра, не пачувалі пад сабой цвёрдага грунту, слаба выяўлялі сваю чыннасць і не маглі адпавядаць вымогам гістарычнага маменту.

Мала таго, параскіданыя, расцярушаныя, за хібнасцю звязваючага пачатку, яны не мелі жадных зносін паміж сабой і нават не ведалі аб тым, дзе і якія існуюць гурткі і арганізацыі. Створаныя імпульсіўна, выкліканыя да жыцця кіпучым мамэнтам, працавалі яны без сістэмы, без агульнага напрамку, і праца іх не набірала жаданай скутачнасці, а то проста замірала і марнела ў нерухомасці. Час вымагаў палажыць гэтаму канец і надаць справе болей руху, чыну і жыцця.

Першай мэтай Цэнтральнай Рады, першым крокам яе чыннасці і будзе з'яднанне параскіданага, згуртаванне расцярушанага ў адно цэльнае, моцнае і працаздольнае і надаць яму сілы, павагі і аўтарытэтнасці. Цэнтральная Рада і будзе тым светачам, тым склікаючым маяком, каторы згуртуе каля сябе ўсіх, хто жадае свайму краю лепшай долі, хто дбае аб культурным развіцці свайго народа і жадае яму пачэснага і ганорнага месца сярод славянскіх і неславянскіх народаў Дзяржавы Расійскай.

Многапакутная айчына наша, перакіданая з боку на бок, ад суседа к суседу, ад дзяржавы да дзяржавы, зазнаўшая гора, як ніводная нацыя на свеце, першы раз па страце сваёй самабытнасці, сваёй палітычнай незалежнасці становіцца на ўласны грунт і праз сваіх лепшых сыноў маніцца ўзяць справу свайго жыцця, дабрабыту і нацыянальнага гонару ў свае ўласныя рукі. Не толькі ворагі, але й спагадачы і прыхільнікі гадалі, што Беларусь памёрла, асімілiравалася і не паўстане болей ніколі. Але памыліліся. Яна не памёрла, а спала, не канала, а спачывала.

Цяжкім лёсам абдаравала нас гісторыя. Здаецца, уся немач сусветная, уся моц пякельная, здрадзіўшыся, пасталі ўпоперак нам на дарозе. Жахам вее ад нашай гісторыі. Калі кінеш вокам на мінуласць народу нашага, як узірнешся ў мора тых слёз, пакуты і енку, што зазнаў у жыцці сваём народ беларускі, дык грудзі рвуцца ад непер襲можнага жалю, сціскаецца сэрца смяртэльнай жальбою і хочацца плакаць і маліцца яму, многапакутнаму і доўгатрываламу.

Трудна даць веры, што магчыма вытрываць усё тое, што выпала на долю беларускаму народу, а ён вытрываў, перажыў, перамог, хоць і дарагім коштам. Праўда, не стрымаўся ён пад цяжарам крыжа свайго — не ўстояў, паваліўся ды самлеў доўгім, летаргічным сном... Навокала ішлі, гаманілі, дбалі, змагаліся, жылі, весяліліся, а ён спачываў ад цяжкіх гістарычных турботаў. Падарожныя ішлі, рабавалі гаспадарку яго, а ён не меў абаронцаў скарбу свайму, пагубіў вартаўнічых мення свайго, і ўласныя дзеці адракліся яе і параскідаліся па бел-божаму свету, шукаючы новай долі, новай бацькаўшчыны. Яго імём сталі звацца другія, яго скарбам зухуюць чужыя...

Але вецер павеяў — неба праяснілася і развіднелася над нашай старонкаю. Дух адраджэння і яснае слонца адвечнага жыцця завіталі й да нас. Народ прачнуўся — устаў, падняў вочы, поўныя жалю і скаргі, ды затрэбаваў сваёй часткі ў агульным жыцці. Тады абступілі яго парадчыкі, наперабой раючы не рабіць драбніцы, не квапіцца на асобнасць, не вабіцца на самабытнасць, бо ён спрадвеку належаў да іх і ніколі не меў уласнай гаспадаркі. З навукі ўпарта даводзілі яму, што ён — не ён і мова не яго, гэтая паганая «мужыцкая гаворка», на каторай брыдка пры людзях размову весці, не то што ўвіхацца каля такой запанслівай гаспажы, як навука, асвета, культура. Толькі іх мова здатна і пекна, толькі ім даў Бог права быць самабытнымі, культурнымі і асвечанымі, а ў яго ёсць святая павіннасць

пастачаць ім Міцкевічаў, Касцюшак, Дастаеўскіх, дбаць аб іх славе, большыць іх культуру й навуку. Яны бажыліся, што, працуючы не дома, а ў людзях, засяваючы чужыя нівы, карысць будзе большая як для сябе ўасобку, так і для культуры агульна. Але народ, на моцы доследу пасланцаў сваіх, сцяміў, куды кіруюць парадчыкі яго. Ззаду ў іх ён угледзеў кайданы сабе, і на шляху злучэння — смерць сваю. Ды з агідай адвярнуўся ад іх, заспяваў песню сусветнай пакуты ды стаў склікаць дзетак сваіх да вялікай працы на карысць уласнай гаспадаркі. І сталі пакідаць яны службы парабецкія, злятаюцца дамоў, пяюць і шчабечуць, як маладыя птушкі, прабуючы свае, яшчэ не ўмацаваныя, скрыдлы.

Жыве Беларусь!

Ужо пакрытая буйністай збажыною, шуміць і руніцца нашая маці-ніва. Няхай расце і буйнее, няхай красуе і спее на шчасце й на долю, на карысць ды на спажытак нашаму народу. Каб слонца навукі, культуры й асветы век-векаў свяціла над нашай зямлёй; каб доля шчаслівая, доля ласкавая завітала да нас гаспадыняю ды ўсміхалася ў хатках нашых цветам-калінаю! Каб наша жычэнне кацілася скрозь і ўсюды, дзе чуецца нашая мова, дзе б'ецца беларускае сэрца!

Няхай запышэюць нівы нашыя жытам-пшаніцаю, няхай запануюць гасподы нашы дабром ды скарбніцамі! Няхай красуе дзявоцтва наша макавым цветам і ўславіцца моладзь наша талентам, асветаю!

Няхай жыве Беларусь!

## *Наша культурнае свята*

Чатырыста год назад, 6-й, як гадаюць вучоныя, лічбы месяца жніўня (августа) пачала выходзіць у свет беларуская Біблія, надрукаваная і перакладзеная стараннем і працай Францыска Скарыны на тагачасную літаратурную беларускую мову «ку лепшаму», як ён пісаў, «выразуменію люду паспалітага», «людзям простым паспалітым на карысць і размножэніе добрых звычаяў». Чатыраста год назад Францыск, або Георгі, Скарына, вялікі незабутны муж «із слаўнага граду Полацку», доследам свайго розуму і навукі дасведчыўся, што толькі праз жывую родную мову, праз

навучэнне ў ёй можна вывесці людзей на шлях культуры, асветы і дабрабыту. І ўсё сваё жыццё, свой талент, навуку і здольнасць аддаў вялікай працы на карысць і на спажытак свайму народу.

У тыя далёкія часы, сярод славянскіх народаў, атрымаўшых веру грэцкага звычаю, панавала ў кнігах і ў навучэнні мёртвая, малазразумелая царкоўнаславянская мова. На ёй адбывалася набажэнства, вучылі ў школках, пісалі акты, летапісы і вялі пісьмаводства ва ўсіх інстытуцыях таго часу. Нежыццёвая, а праз тое нязграбная, падчас незразумела і не да сэнсу ўжываная,— яна не магла спрыяць навучэнню, бо сушыла розум, нішчыла думкі, адбівала ахвоту да кніг і да навукі. Трэ было мець асаблівую цікавасць і надзвычайную здольнасць, каб перамагчы труднашчы кніжнага славянізму. Тым-та й бачым мы, што толькі манахі, ахвяраваўшы жыццё сваё на службу Богу, ускладалі на сябе як ахвяру, як цяжкі крыж працу пісання кніг на ц.-славянскай мове. І калі хто ў тыя часы не толькі чытаў, але й умеў яшчэ перапісваць кнігі, дык ён лічыўся чалавекам надзвычайнага розуму.

Чуючы і бачачы скрозь у пісьменстве адну ц.-славянскую мову, людзям таго часу трудна было ўразумець, не то што адважыцца пісаць і вучыцца па-своему. Гэтак цяпер, стыкаючыся ў школах, царкве і розных інстытуцыях з пануючай скрозь велікарускай мовай, малаасвечаным людзям трудна агоўтацца з тым, што можна пісаць, чытаць і вучыцца па-беларуску, як і па-французску. Трэ было з'явіцца чалавеку з вялікім талентам, навукай і асветай і цвёрдай воляй, каб наважыцца перавярнуць старасвецкі ўклад на добры бок ды паставіць яго на ўласны грунт. Трэ было глыбока праканацца ў тым, што родны грунт — ядыная і справядлівая дарога да асветы і гістарычнай паступовасці (прагрэсу), каб пайсці проці векавога быту, проці забабонаў і вякамі ўмацаванага погляду і кансэрватызму.

Такім чалавекам на Беларусі чатырыста год назад быў Францыск Скарына. Жывучы доўга за граніцай, дзе ён вучыўся ў вышэйшых навучных інстытуцыях З. Еўропы, яму не раз успадала на думку параўнаванне культурнага становішча свайго народу з жыццём людзей за граніцай. Закаханы ў сваю далёкую айчыну, вітаючы ў думках у сваём слаўным горадзе Полацку, ён бачыў, нябога, як далёка стаяць ззаду ад тутэйшых людзей нават вышэйшыя станы роднага грамадзянства. Тым часам і ў З. Еўропе не шмат даўно, як кінулі латынь па школах, звярнуўшы ўвагу

на родную мову, на гэты жыццёвы эліксір, на несмяротэльную крыніцу развіцця, культуры і прагрэсу. Напэўна, яшчэ і тагды не раз загараліся спрэчкі аб латыні, аб тым, што толькі яна, а не які іншы язык здацен і здолен да навукі, што толькі па-латыні ёсць вялікія творы краснага і філасофскага пісьменства. Чуў тыя споркі Скарына, як мы чуем цяпер лямант прыхільнікаў маскоўскай або польскай культуры. Але лепшыя людзі таго часу разумелі шкоду латыні, а на лепшы выпадак, бясскутачнасць і смярцьвешчыну латынскай вучобы, і ўсе свае сілы пакладалі на тое, каб запанавала ў навучанні родная мова. Разумеў гэта і Скарына, прычыняючыся да вялікай працы перакладання Бібліі з мёртвага ц.-славянскага языка на жывую і гучную родную мову. І сваёй працай ён утварыў эпоху ў культурным жыцці нашага народу. І мы бачым, што з таго часу прасвета на Беларусі пайшла шпаркім крокам уперад. Чытаючы кнігі да набажэнства ў сваёй роднай, простай мове, продкам нашым не трудна было дасведчыцца, што тым больш можна вучыцца, пісаць і тварыць літаратуру па-своему. І пачалі адчыняцца школы, з'явілася літаратура, начала расці і шырыцца прасвета. Жыццё зацвіло і загаманіла. Толькі цяжкія ўмовы гістарычнай долі запынілі культурны поступ нашага народу.

Сяткуючы дзень вялікага свята беларускай культуры, мы павінны аддаць усе свае сілы, розум і працу на тое, каб найхутчэй запанавала ў нашым краі наша гучная, пекная, родная мова; каб завітала да нас уладарнай гаспадыняю, стаўшы магутным чыннікам культурнага развіцця нашага народу. Памятайма, што толькі шануючы самога сябе, сваю славу і нацыянальны гонар, толькі стоячы на грунце роднай культуры мы атрымаем магчымасць стаць поплеч з асвечанымі народамі З. Еўропы. А «въ сей день, его же сотвори Господь, возрадуемся и возвеселимся въ онъ!»

## *Працiўнiкам беларускага руху*

Найгоршымі ворагамі нашага руху ёсць беларусы-перакінчыкі, атрымаўшыя выхаванне расійскае ці польскае. Беларусы-каталікі не хочуць вучыць сваіх дзяцей па-беларуску, адно па-польску, каб зрабіць з іх праўдзівых палякаў, хаця самі яны зусім не ўмеюць гаварыць па-польску.

Таксама беларусы-праваслаўныя стараюцца зрабіць сваіх дзяцей рускімі. І палякі, і маскоўцы смяюцца з польскае і рускае мовы нашых перакінчыкаў. Але ім бяды мала: яны ўжо прызвычаіліся да здзеку і паняверкі над сабою. Лепей яны будуць псаваць чужую мову, але на сваёй гаварыць не хочуць. Каталікі-беларусы лічаць сябе за палякаў. На гэта ім скажам, што французы, іспанцы, чэхі і інш. народы каталікі. Дык ці ж яны палякі дзеля таго, што каталікі?

Беларусы-перакінчыкі разам з маскоўцамі-абрусіцелямі — ворагі 1) нашай мовы і 2) нашай аўтаноміі.

Яны кажуць, што беларускай мовы няма, а ёсць толькі гаворка (падмова, нарэчіе) расійскай мовы (гэтак кажуць масквафілы) або польскай (паланафілы). Іншыя кажуць, што беларуская мова — гэта мешаніна з расійскай, польскай, украінскай і інш. моваў. Кажуць, што мова расійская зусім добра зразумелая для дзяцей-беларусаў. Калі беларуская мова — гаворка расійскай або польскай мовы і дзеля гэтага яе не трэба вучыцца, а трэба вучыцца расійскай ці польскай мовы, дык тагды і іх не трэба вучыць, бо гэта дзве гаворкі славянскае мовы, значыць трэба вучыцца толькі па-славянску. Калі беларуская мова не ёсць мова дзеля таго, што мае ў сабе элементы расійскія, польскія ці ўкраінскія, дык агнельская мова таксама не ёсць асобная мова, бо ў ёй змешаны элементы нямецкай, французскай і кельцкай моваў. А як цяжка беларускаму дзіцяці вучыць расійскую мову,— ведама кожнаму. Першыя два гады дзеці вельмі слаба разумеюць «Русское Слово» 1-га і 2-га году. У 1-й кнізе яна не разумеюць усіх слоў, якія далічаліся да катэгорый: «мебель, утварь, цветы» і т. д. У 2-й кнізе яны саўсім не разумеюць артыкулаў «Изъ детскіхъ воспоминаний». Язык іх не можа выгаварыць шорсткіх расійскіх слоў.

Нам яшчэ кажуць адны, што беларусы не маюць літаратуры, а другія кажуць, што мы маем адну «любительскую» літаратуру. Першыя пэўна што саўсім не знаюць нашай літаратуры. Другія трошкі чыталі яе, але так знаюцца ў ёй, што лепей не казаць. Ведама, што ў нас няма яшчэ ўсясветных песняроў дзеля таго ўціску, які мы цярпелі да самага апошняга часу. Але мы маем надзею, што яны будуць. І цяпер ужо наш Янка Купала, або Якуб Колас, або Максім Багдановіч пішуць не горш, як лепшыя песняры другіх народаў.

Цяпер, кажуць нашы ворагі, не час разлучацца, а трэба злучацца; трэба перш зваяваць немца, а тагды ўжо дзя-

ліцца. Але да рэвалюцыі нас лучылі вастрогі, ссылка, катарга, ланцугі. Чаму ж мы тагды не зваявалі немца? Моц дзяржавы залежыць ад моцы і здароўя кожнай яго часткі. Калі Маскоўшчына, Украіна, Беларусь і т. д. будуць здаровымі і моцнымі, тагды і ўся рэспубліка будзе моцнаю. Вось мы й бачымо, што наймацнейшыя дзяржавы гэта такія, гдзе асобныя народы і краі маюць аўтаномію. Германія зляплена з 25 кускоў, Англія дала шырокую аўтаномію сваім калоніям, Злучаныя Штаты маюць 40 асобных дзяржаў, а ўсё гэта наймацнейшыя дзяржавы. Часовы Расійскі Урад выказаў прынцып самаазначэння народаў. Сказаць пекныя лозунгі мала — трэба правесці іх у жыццё. Мы хочам, каб гэтыя лозунгі не засталіся пекнымі, але пустымі словамі, і па нашаму адрасу пускаюць усякую брахню. Не дзіва, што ўкраінцы і фіны не хацелі верыць, што гэтыя пекныя словы спраўдзяцца. Мы будзем мірна, але цвёрдаісці сваёю дарогай і з яе не саступім.

## *Што рабіць?*

Надыходзіць вучэбны год. Набліжаецца час, што па школах распачнецца навука. Хутка ўходзяцца людзі з работай, паслабанее дзеткам і пашлюць іх у школкі шукаць сабе навукі, асветы і добрага прыкладу. Большая частка нашага настаўніцтва забрана на вайну, а пустыя пасады пазайманы людзьмі, нічога супольнага са справай навучэння не маючымі і нахлынуўшымі сюды проста па закону запаўнення пустаты. Яны, гэты выпадковы элемент, чужыя і нам, і нашаму краю, і нашай справе. Гэта мы бачылі на тых з'ездах, што рабіліся сёлета ў Мінску, і маглі судзіць аб іх па тых рэзалюцыях, якія яны ўхвалялі і публікавалі. Ад іх нам няма чаго чакаць, на іх няма чаго спадзявацца. У тупой упартасці малаасвечаных, неадукаваных людзей яны зноў пусцяць у ход старую ржавую машыну абрусіцельства ды зноў стануць пустошыць душы дзяцей нашага краю. Уся наша ўвага пакладаецца на тых нацыянальнасведамых вучыцялёў, што шчыра любяць свой край і гатовы аддаць усю сваю працу на карысць свайго народу, на выкананне нашых культурна-нацыянальных заданняў. Прад імі, дапраўды, агнявымі літарамі ставіцца пытанне: што рабіць, з чаго пачаць, за што зацяць рукі?

Але любасць да роднай старонкі, шчырае каханне сваё бацькаўшчыны дапаможа ім у гэты пераходзячы момант нашай гісторыі, а дух адраджэння нашага народу навучыць іх, што казаць і што рабіць. Увесь сэнс педагагічных заданняў не ў тым, аб чым вучыць, а як вучыць. Бяда не ў тым, што няма ў нас кніжак, падручнікаў, лемантароў, а ў тым, што хібіць шырокай свядомасці. Шкадлівы ўплыў самадзяржаўнай казённай школы тоўпіўся не ў тым, што ў навучэнні панавала маскоўская мова, а ў тым, што ўся навука па школах была накіравана на здзек і нішчэнне ўсяго беларускага. Усе кніжкі, падручнікі, малюнкі падбіраліся і дапасоўваліся так, што наша роднае ўхілялася ўбок, аддавалася на смех, выскалянне і кпіны, тапталася нагамі і мяшалася з гразёю, а за прыклад выстаўлялася чужое, велікарускае, дзецям не даступнае і малазразумелае. І калі часам траплялася, што абысці чаго немагчыма было, дык яго наўмысля малявалі ў такіх ганебных хварбах, што нявінным дзецям заставалася толькі сароміцца, цурацца, забываць і выракацца.

Памятаючы гэта, свядомаму беларусу-настаўніку покі што досыць будзе абмежавацца тым, што ён, моцна трымаючыся роднага грунту, пачне ўсё навучэнне ў школе асвячаць з пункту рэчы сваіх нацыянальных заданняў. Ужываючы лепшыя маскоўскія кніжкі і падручнікі і ведучы па іх навучэнне ў школах, настаўнік павінен усё тлумачэнне з дзецьмі рабіць па-беларуску і нахіляць думкі і цікавасць дзіцячую на сваё роднае, беларускае, прышчапляць любасць і пашану да роднай мовы, да матчынай песні; разбуджаць нацыянальную і грамадзянскую свядомасць і развіваць свой гонар, знаёмячы з нашай гісторыяй, са слаўнай нашай мінуўшчынай. Настаўнік павінен чытаць дзецям кніжкі па-беларуску, знаёміць іх з лепшымі творамі нашых пісьменнікаў і паэтаў, вучыць пісаць, рабіць пераклады па-беларуску і спяваць нашыя беларускія песні. А галоўнае — як пуцяводная звязда павінна стаяць уваччу вучыцеля беларуская справа, справа адраджэння і вызвалення з нацыянальнага палону нашага многапакутнага народу. Рэшта — сама дадасца нам.

## *Няма веры*

Становішча Дзяржавы Расійскай што далей, то робіцца горай. Армія адступаецца, вораг пасуваецца ўперад, і немагчыма затрымаць яго наступ. Грамадзянства разбілася на два варожыя станы, і страчаны грунт для паразумення. Дарагоўля расце, недахват павялічваецца. Бязладзіца, непарадкі агарнулі кругом, як чорнаю хмараю. Гром грыміць, бура ірдзіцца і гатова хлынуць раптоўна смяртэльнай навальніцай. А людзі як людзі. Сходзяцца, радзяцца, жартуюць, смяюцца, ды не маюць веры ні парадам сваім, ні жартам сваім, ні жадным сваім установам. Сталася так, што сама рэвалюцыя страціла сэнс, сілу і значэнне. Пажоўклі яскравыя лозунгі, жалобай адбіваюцца рэвалюцыйныя песні. Некультурныя, цёмныя масы сунуцца ўперад, павінуючыся гавяжаму інстынкту, і не хочуць уцяміць, што гаспадара няма, што кіраўнік свайго жыцця ён сам, і калі дзяржаўная машына з разгону заедзе «казла», дык разляціцца на друзгі. Адозвы, прамовы, сходы і з'езды абрыдлі, прыеліся і нікога не да чаго не прымушаюць. Мэрам гісторыя аддзялілася ад людзей, а людзі ад гісторыі, і рухаецца ўсё паасобку.

Тым часам скліканне Сойму адсунута назад, а разам з тым, траціцца вера, што гэта апошні тэрмін, што за першым адкладам не пойдзе другі, трэці і т. д. Але Часовы Урад, пачуваючы смяртэльную небяспеку, як баячны Антэй, ірвецца наніз, каб ад зямлі набрацца моцы, творчай веры і гаючай сілы. Ён шукае палёгкі ў народзе, дзеля чаго склікае ўсерасійскую ў Маскве параду. Туды пакліканы прадстаўнікі ўсіх партый, усіх арганізацый, усіх грамадскіх інстытуцый. Паваланы дэпутаты ўсіх чатырох Гасуд. Дум. З'едзецца каля паўтары тысячы людзей, а веры няма, чамусь нікне надзея, не відаць спасення. Кіраўніцтва дзяржавай траціць даладнасць, трупціць, як сапсаваная машына, і яшчэ больш павялічвае тую багну, што расступілася перад намі і гатова праглынуць і рэвалюцыю, і волю, цэльнасць і незалежнасць самой дзяржавы. Чуюцца пагрозы «крывёй і жалезам», але ніхто не лякаецца і не звяртае ўвагі. Робіцца ўражанне, што карабель топіцца, захлынаецца вадою, і кожан кідаецца туды, дзе бачыць найбліжшы ратунак. Яшчэ чутна каманда, яшчэ аддаюцца прыказы, але ніхто не верыць у моц карабельнай улады. І кожны спяшае сесці ў чайку* і пашукаць ратунку па

* Тут: шлюпка.

уласнаму даследу. І мы бачым, што фінляндцы зняверыліся ў Расійскім Урадзе. Наперакор распараджэнню рыхтуюцца яны адчыніць свой сойм і дамагаюцца вывесці расійскія войскі, выклікаючыя непарадкі, не шануючыя мясцовых законаў і павялічваючыя цяжар харчовай справы. Украінцы, нездаволеныя наданымі ім правамі, адмаўляюцца пасылаць сваіх прадстаўнікоў на маскоўскую параду, страціўшы веру ў скутачнасць супольнай працы. Яны адчаяліся намацаць грунт для супрацоўніцтва і па тропу фінляндцаў шукаюць ратунку паасобку. А расійскае грамадзянства, не прызнаючы свайго гістарычнага граху — нацыянальнага ўціску, пасылае ў дагонку пагрозы «крывёй і жалезам». Але там, дзе пытанне пастаўлена рубам, дзе справа паўстала аб жыцці і смерці — там пагрозы нікога не лякаюць, нікога не спыняюць, нікому не памогуць, а толькі раскапаюць шырэй тую багну, што залягла паміж імі. Дый адкуль жа ўзяць тую веру, калі нямашака жаднага грунту? Хіба ўкраінцы ці тыя фінляндцы не бачаць, як ставіцца ўрад і ўсё расійскае грамадзянства да нас, беларусаў? Маўчаць — значыць, здаволены, і хоць бы словам хто закінуўся аб тым, што беларусы жывуць, дыхаюць і есці хочуць. Хіба ж не відно, што чуллівае вуха маскоўскага грамадзянства ў нацыянальных пытаннях больш нахілена да таго, што было, як да таго, што павінна быць? Хіба Часоваму Ураду не казалі пра нас, хіба не прасілі яго дапамагчы і падтрымаць нас у нашым цяжкім становішчы? А ласне паслухалі нас, ласне пацешылі нас хоць словам, добрай парадай ці абяцанкай? Сумна, але факт,— вораг робіць тое, што павінен зрабіць сябра. Немец не заводзіць спрэчак, што беларусаў няма,— ён разважыў гэта пытанне даўно, і там, у забранай частцы Беларусі, будуе школы, робіць курсы, друкуе падручнікі. Мала гэтага, ён рыхтуецца здзівіць цэлы свет заявай, што ў Дзяржаве Расійскай, на берагах Нёмна і Дзвіны вынайшаў цэлы асобны народ са сваім уласным бытам, з асобнай культурай, звычаямі і мовай. Сумна, але факт! А ў нас заява аб сваёй гістарычнай самабытнасці, аб жаданні ўласнага культурнага жыцця нават лепшымі людзьмі маскоўскага грамадзянства талкуецца як сепаратызм, дзяліцьба і калатніна. Дык адкуль жа ўзяцца той веры?!

## *«Чаму гэта так?»*

Хто ўважна чытаў нашу яшчэ маладзенькую, неўмацаваную газету, хто спагадае нам у справе адраджэння нашага народу, хто хоць крошку знаецца на справе выдання друкаванага слова ў неспагаднай, цёмнай і малакультурнай гушчы, той не можа зрабіць нам даганы, што мы наўмысля, не па нядбаласці ўхіляемся ад таго ці іншага пытання.

Жыццё шырокае, вялікае і мнагакантавае — сілы ж нашы невялічкі, шчуплы і кволы, і не маем фізычнай магчымасці ахапіць ў нумарох колькіх усё кіпучае і шырокае, як мора, жыццё нашай многапакутнай старонкі. Мы не можам судзіць сваёй працы. Яна мае многа хіб, шмат памылак, недагледаў — гэта так. Але, памятаючы, што не памыляецца той хіба, хто нічога не робіць,— мы пазваляем спытаць сябе: дзе, што, які артыкул нашай газеты непатрэбен і шкадліў для справы беларускага адраджэння наогул і дзеля шчасця й інтарэсу працоўнага народу ў асобку? Калі мы ўхіляліся падаць руку пакрыўджанаму, усцешыць гаротнага, памагчы абяздоленаму? Ці была калі праўда, каб мы, «як злая нянька, затыкалі вушы і рот палітыкай, палітыкай і палітыкай»? Ці праўда гэта, што «Вольная Беларусь», «баючы дзіўныя казкі пра вольнасць айчыны, не звяртала ўвагі на жыццё ўцекачоў»? Кожан наш нумар, кожна стацця і артыкул нашай газеты — гэта крык пакрыўджанага, плач абяздоленага, енк запакутанага. Хто чытаў наш артыкул «Да спакою», у таго язык не павернецца сказаць нам, што мы забылі братоў сваіх уцекачоў. І толькі агіда да слёз і ляманту стрымоўвае нас пастаянна плакаць, ныць і скардзіцца.

Годзе плакаць! Мы абуджаем павагу, будзім нацыянальны гонар і кожным нумарам газеты клічам беларусаў не спаць, ачнуцца, забраць сваю справу ў свае рукі і будаваць сваё жыццё ўласнымі захадамі. Цяжка жывецца ўцекачу! «Вольная Беларусь» ведае, што ўсіх нашых уцекачоў маскалі нагамі падкідаюць, што іх лічаць дармаедамі, гультаямі, што «нашы блазноткі — сіроты не ўсюды ў Расіі маюць добры прытулак», што «беларускім сялянам несправядліва плацяць за збожжа, пакінутае ў адрынах і на кораню». Гэта «В. Беларусь» ведае; ведае яна яшчэ і тое, што не «па прычыне стыхіі апынуліся ў Расіі» ўцекачы-беларусы, а паразганяла і параскідала іх па шырокай Расіі і халоднай Сібіры вар'яцкая рука самадзяржавія. «Вольная Беларусь»,

ведае, што ўцякач не жыве, пакутуе, што мруць нашыя браты на чужыне, як мухі, але ад той ці іншай стацці не палягчае. Тут патрэбна грунтоўная помач, помач кожнага грамадзяніна і ўсяго гасударства. Аркушы нашай газеты шырока разгорнуты для ўсіх. Прыходзьце, пішыце, гукайце, склікайце! Пішыце ўсё, памагайце грамадой, тады не паўстане пытанне: «Чаму гэта так?» Чаму гэта было і да гэтага часу ёсць, што дзесяцімільённы народ ледзьве здолен выдаць 15 нумароў газеты, што, выпускаючы нумар сягоння, не можа быць пэўным, што выдасца заўтра. Чаму яно гэтак,— ці ведаеш, шаноўны чытачу? Чаму гэта так, што досыць з'явіцца на Беларусі беларускаму дзелу, каб зараз абсыпаў яго шашаль і пачаў грызці й тачыць, покі не паваліць з караню? Чаму гэта так,— ці ведаеш, шаноўны чытачу?!

## *Сон рэдактара*

Жыў на свеце рэдактар адной дэмакратычнай газеты. Як і ўсе людзі яго пахаджэння, ён надта пакутаваў ад пэнкнуўшай* жоўці і дакораў нячыстага сумлення. Засне ён, нябога, ці што-небудзь робіць, пойдзе да знаёмых ці сядзе да столу, каб выпіць шклянку гарбаты (рэдка, але ўжываў ён гэты панскі трунак), а ўваччу ўсё мігцяцца зарэзаныя літаратурныя дзеткі, нездаволеныя падпісчыкі, абражаныя палітыкі, абсмяяныя паэты, непрыласканыя таленты. Апарт гэных людзей, складаўшых звычайны крыж яго жыцця, аднекуль вылазілі і з кожным днём пладзіліся яшчэ іншыя стварэнні — не то людзі, не то аргусы, не то хрэн яго знае што. Яны ўсё бачылі, усё чыста ведалі, і ад іх прагавітага вока не было гдзе захавацца. Заманецца рэдактару паснедаць ці што, а аргус ужо сцігае пад вокнамі і трагічна шапоча: «Верашчаку есць! А за чые грошы ён яе есць, каб хто спытаўся?!» Стане цяжка на сэрцы, замысліцца рэдактар, аблёгшыся на стол, а аргус ужо цікуе: «Злоўмышляе штось, Каін! У-у, гад каб яму выхварэць!» Засмяецца рэдактар,— а ўжо аргус камусь міргае: «Гляньце — Расія гіне, а ён радуецца!» Пойдзе ён з гора на спацыр, а кругом ужо шэпчуць: «Пацыбаў! Ідзі, ідзі, Юдаш,— там Скірмунт

* Пэнкнуць — трэснуць.

з Радзівілам чакаюць». Заплача рэдактар, прыйшоўшы дахаты, а аргус лямантуе: «Ось табе маеш! Панэ грошай не далі — бач, як разроўся!» А калі часам патрапіць рэдактару заснуць, дык ляманту й дакорам аргусаў няма канца. Яны зыходзяцца каля рэдактарскай кватэры, тыцкаюць пальцамі ў зачыненыя вокны і шыпяць, як вужакі: «Спіць, недавярак! Бежанцы мруць, як мухі ў восень, а ён сабе спіць,—і не бырае».

Разумеецца, пры гэткіх варунках жыццё рэдактара паходзіла на якуюсь фантасмагорыю, а сапачынак і сон — на хваравлівую пакуту. Дарэмна ён у паўночную гадзіну, перакідаючыся з боку на бок па пасцелі, ужываў усіх, вядомых самому і нараяных суседзямі, захадаў, каб як змарыў сон. Ні «Новая Заря», ні «Минскій Голос», ні артыкулы Крыжаноўскага і процьмы іншых «белоруссовъ» — нічога не памагала і не давала жаднай палёгкі. Рэдактар варочаўся, стагнаў і вёў несканчоную скаргу на Бога.

— Мой моцны Божа! І на што Ты пусціў мяне на свет, гэтакага адзінокага, бяздольнага, нялюбага? — скардзіўся ён.— Не ўкраў я нічога, не забіў нікога, нават стары, як сабака, досі й не жаніўся,— дык завошта ж Ты мяне караеш, чым угнявіў я ласку Тваю?! Раней, калі дэмакратызм у Расіі караўся законам, у мяне былі пэўныя прыхільнікі, верныя дружкі і шчырыя спагадачы. Кожны вечар, бывала, хадзіў я да пана цэнзара і аддаваў яму на перагляд свае рукапісы, напісаныя «кроўю сэрца майго і сокам нэрваў маіх». Стары дзядок (усе цэнзары былі тагды старыя дзядкі) чытаў, цешыўся, потым браў асцярожнаю дрыжачаю рукою чырвоны аловак ды, плачучы, выпэцкваў усё, з пачатку да канца. Ён разумеў мяне, а я разумеў яго; ён спачуваў мне, а я спачуваў яму, і абодва мы доўга, бывала, плакалі і тужылі над цяжкім становішчам беларускай літаратуры. І я ведаў, што кінуць мяне супрацоўнікі, пакінуць чытачы, паразбягаюцца ў «сень струй» паэты, а гэты старэнькі дзядок застанецца пры мне да апошніх дзён майго жыцця, як пэўны сябра маёй тугі, як пільная нянька маёй пісаніны. Але вось прыйшла дэмакратыя, захварэў на перапалохі і раптоўна памёр з параляку мой ядыны дружак, і няма каля мяне нікога, апроч аргусаў.

Гэтак скардзіўся рэдактар, і з воч яго бобам каціліся чарнільныя слёзы на скамечаную падушку.

Аднакраць стаў рэдактар чытаць артыкул па нацыянальнаму пытанню вялікага знаўцы і спагадача не то з польскага, не то з маскоўскага боку. І сталася неспа-

дзяванае цуда: яго раптам змарыў сон. І сніў вось што.

Ідзе ён па доўгай, гарбатай вуліцы ў Мінску. Дзе-нідзе над казённым будынкам брындаюцца ў паветры парудзелыя чырвоныя штандары. Відны напісы па-польску і па-маскоўску: «рада салдацкая», «польская ядлодайня», «рада сялянская», «польская кавярня», «камітэт георгіеўскіх кавалераў». Каля камітэта — вялізная, як прасціpадла, сіняя афіша: «Трэба ваяваць? Трэба! А хто не хоча — па карку». І на ўсёй вуліцы — нікагутка. Нават аргусы кудысь пахаваліся. Толькі на коміне ў Гарадской Думе стаяў «избранник минский», галава Кашчанка, уціраў твар хусточкай і азіраў сваю маёнтнасць. Потым распасцёр рукі, як дэман крылля, і заспяваў на матыў «Праклятый мір». «Земля их велика и обильна, а порядка нет, и я пришел княжить и володеть ими». Праспяваўшы гэта, ён праваліўся ў коміну, як кампора. «Господзі! — уздыхнуў рэдактар.— Як слаўна жыць на свеце ось тут, на Беларусі. Палякі кормяць, кавай пояць, маскоўцы параду, уцеху — духоўную страву даюць, а «земгусар» наводны ў господзе рэй вядзе. І чаго верадуюць гэтыя прагавітыя беларусы, якога ім ражна трэба?! Дапраўды, цераз хлеб хлеба шукаюць»... У гэты момант паказаўся панок. Ён спыніўся каля беларускай кнігарні ды стаў пільна ўглядацца праз шыбы. Раптам ён скалануўся, пераступіў з адной нагі на другую і сказаў: «гм!» Падышоў другі, спыніўся каля яго і сказаў: «гм!» Падышоў трэці і гэтаксама сказаў: «гм!» Падышоў рэдактар і, не спыняючыся, сказаў: «гм!»

Хадзіў рэдактар па пустых вуліцах у Мінску роўна тры гады і тры месяцы. За гэты час ён так агоўтаўся з тым, што колісь было пры нябошчыку-цэнзару, што пачало здавацца яму, нібы старэнькі дзядок заварушыўся ў труне і заківаў да сябе чырвоным алоўкам. І папоўз страх па-за шкур'ю рэдактара, і стаў азіраць ён у думках сваіх спіс смяртэльных грахоў сваіх і пытаць сябе: «Чым жа я правінаваціўся? Не спаў я, не еў, не смяяўся і не плакаў, а тым часам — чаго ж мяне жах прабірае?!» Тут споведзь яго абарваў зычны голас таго панка, што стаяў ля кнігарні і тыкаў носам у шыбы. «Дзяржы, мы не папусцімся, каб расхваталі Расію па часткам! Годзе,— лаві гэтага ўкраінскага сепаратыста!» Паназбягаліся людзі з палкамі, з аскабалкамі, з павыскалянымі зубамі і — раптам скеміў рэдактар, уразумеў усёй сваёй істотаю, што вярнулася прамінулае, што ён зноў меціме пэўных дружакоў і неразлучных падарожнікаў і крыкнуў на ўсе грудзі: — Ура!

Ён прачнуўся. А аргусы стаялі каля вакна і гулі: «Крычыць, халера! Немцу сыгнал падае»... Але рэдактару было лягчэй на душы. Уставалі малюнкі мінулых дзён, а надзея расла і мацнела. Ці збудзецца гэта, чытачу? Ты кажаш — не, і я кажу — не. Ішоў чынорык цераз панскі дворык, згубіў сякерку і тапорык. Ці рог, ці качан?

## *Дзеля чаго і як пішуцца прыгавары пра навучэнне ў роднай мове*

Грамадзянства, таварышы, браты, сёстры, сыны і дочкі адной нашай Мацеры-Беларусі! Злучайцеся ў адну беларускую сям'ю, каб выявіць сваю сілу, сваё нацыянальнае аблічча, каб ніхто не мог сказаць нам, беларусам, што мы людзі, которыя адцураліся ад сваёй мовы і ад сваёй Мацеры-Беларусі, каторыя забыліся, хто яны, чые сыны, якіх бацькоў. Горка нам будзе слухаць такія гутаркі пра нас, як народ, што быў вольны, меў сваю школу, свой суд, сваю волю і шанаваў сваю мову. Дзяды нашы і прадзеды ўмелі самі ў сябе гаспадарыць, не дазвалялі зневажаць сябе чужынцам, покі цяжкая гістарычная доля не аддала ў няволю спачатку пад Польшчу, а потым пад Маскоўшчыну. Не забывайце, грамадзяне, што ўся наша зямелька зліта кроўю шчырых сыноў Беларусі, каторыя не шкадавалі жыцця свайго, каб абараніць бацькаўшчыну сваю, нашу волю і нашу зямлю.

Мы цяпер вольны і праз гэта павінны самі падбаць пра сваю лепшую долю, пра адбудаванне нанава свайго грамадзянскага жыцця. А жыццё наша стане лепшым толькі тагды, калі мы ўсе грамадой парупімся аб тым, каб па сёлах, вёсках і гарадах пазаводжаны былі нашы беларускія школы, дзе навучэнне будзе выкладацца на нашай беларускай мове. Покі не будзе ў нас нашай школы, да тых пор мы будзем цёмнымі, заштурханымі, зняважанымі, а цёмнаму чалавеку не прынясе карысці ні зямля, ні воля. Мы павінны яшчэ дабіцца таго, каб скрозь — па судах, у земствах, камітэтах, у цэрквах, касцёлах запанавала наша беларуская мова. Тагды ніхто не асмеліцца з нас насміхацца, тагды не будуць казаць, што наша мова простая, сялянская, як ніхто не казаў гэтага і не смяяўся ў тыя

слаўныя часы, калі наша старонка жыла самабытна, незалежна і мела свае школы, суды і законы. Тагды і нас, і мову нашу шанавалі і палякі, і расійцы, пранцузы і немцы. А сталася так тагды, як мы страцілі сваю беларускую волю да зрабіліся беднымі. Зразумейце ж, браты-беларусы, што нас падашукалі. Смяяліся з нас і з мовы нашай толькі паны, цары да багатыры, каторым карысна было, бо хто саромеецца сваёй мовы, хто не мае сваёй школы і не вучыцца на сваёй роднай мове, той заўсёды будзе цёмны і неразумны, як бязмоўнае стварэнне, і ім лягчэй камандаваць, лягчэй трымаць у прымусе ды ў пастаянным парабецтве. Але брэшуць яны, скончылася іх панаванне, і мы, беларусы, возмем ў свае рукі і школу, і сваё права.

Браты-Беларусы! Да гэтага часу гаспадарылі ў нас чужынцы — палякі ці маскоўцы. Яны зрабілі вялікі беларускі народ сваім парабкам, папіхачом, трымалі яго ў цямноце і здзеку. Каб умацаваць сваё панаванне і мець заўсёды паслухняных служкаў, дык яны вырвалі ў народа нашага яго язык, яго спрадвечную бацькаўскую мову, завёўшы па школах, судах і ўсіх інстытуцыях краю сваю, малазразумелую для нас мову. У школах вучылі дзетак нашых, і вучылі выракацца ад усяго роднага, беларускага, і смяяцца з бацькаўскіх звычаяў. Скончылася тым, што народ паверыў падашуканству ворагаў сваіх ды ўзапраўду стаў лічыць сваю мову «простай», «мужыцкай» і «брыдкай». Цяпер мы ведаем, дзеля чаго гэта рабілася, дык не давайма ворагам нашым, палякам і расійцам, заводзіць свае парадкі. Няхай яны, у Польшчы ці Маскоўшчыне, у сябе дома робяць што хочуць, а мы, беларусы, абойдземся і без іх панскай фатыгі. Смейцеся з іх мовы, калі яны з нашай смяюцца, бо цяпер вы ведаеце, на што яны гэта робяць. Яны гэта рабілі і робяць, каб трымаць вас у кайданах няволі, каб ямчэй сядзець на вашай шыі.

Збірайцеся, беларусы,— талкуйце, разважайце, злучайцеся ў грамады, закладайце гурткі і хаўрусы. Рабіце складчыну на грошы і выпісвайце з Мінска беларускія кніжкі і газеты. Чытайце, вучыцеся, шануйце родную мову, тагды станеце асвечанымі і разумнымі і ніхто вам крыўды не зробіць. Пішыце прыгавары, што хочаце мець сваю беларускую школу, хочаце вучыць сваіх дзетак у школах беларускай мовай. Пасылайце прыгавары гэтыя ў камітэты, у земствы, да вучыцельскіх хаўрусаў. Пакажам ворагам нашым і тым «прыяцелям», расійцам і палякам, што насміхаюцца з нас, пакажам ім, што мы вольны народ, што

мы любім нашу Матку-Беларусь, нашу родную беларускую мову. Украінцы, палякі, літвіны і фінляндцы ўжо зрабілі гэта — брыдка нам, беларусам, аставацца ззаду. Трэба нам зрабіць волю для Беларусі, завесці ў сябе дома свае беларускія парадкі, бо «ў сваёй хаце свая праўда, сіла і воля». Мы не хочам, каб у нашых школах вучылі не нашай, чужынскай мовай, каб рабілі з дзетак нашых некіх паракінчыкаў, што потым смяюцца з бацькоў сваіх і са звычаяў нашых. Наша мова, наша песня не памрэ, не згіне. Гэта наша слава, гордасць і пыха. Некалі, яшчэ да паншчыны, на Беларусі больш было асвечаных людзей, і нашы людзі вучылі маскоўцаў, цяперашніх расійцаў, а як адабралі ў нас нашу родную мову, як забаранілі вучыцца і друкаваць кніжкі па-нашаму, дык народ наш стаў самым цёмным і заштурханым па ўсёй Расіі.

Кайданы, у якіх быў закованы беларускі народ, цяпер парваліся. Падайма адзін другому рукі і злучымся ў адну згодную беларускую сям'ю. Беларусы праваслаўныя і каталікі — усе мы брацця, усе дзеці адной нашай Маткі-Беларусі. Да працы, грамадзянства! Спаць няма калі. Хто будзе спаць цяпер, той не сын Беларусі, а непрыяцель усяго беларускага народу. Няхай яхаю коціцца па ўсём свеце роднае слова пра родную Беларусь.

Прыгавары пра навучэнне роднай мовай пісаць трэба гэтак:

«Году 1917, месяца.....................
«...» дня. Мы, грамадзяне, сяла........
....... воласці ........ павету .......
....... губерніі ......................

Сабраўшыся гэтай лічбы на абраду нашых грамадскіх спраў, абмеркавалі пытанне пра навучэнне ў нашай школе дзяцей нашых роднай беларускай мовай. Абмеркаваўшы гэтую справу з усіх бакоў, пастанавілі: 1) з пачатку гэтага 1917—18 вучэбнага году пачаць навучэнне дзяцей нашай роднай беларускай мовай; 2) прасіць мясцовую паветавую Земскую Управу (або Школьную Раду) прызначыць да нас, у нашу школу вучыцеля-беларуса або таго, хто ведае беларускую мову і 3) прасіць паведаміць нам пра тое, што будзе зроблена дзеля выканання гэтага прыгавару. Подпісы».

Прыгавар трэба паслаць куды належыць, а копію з яго — у беларускую газету дзеля ведама ўсіх.

# *Граматыка і родная мова*

Атрымаліся весткі, што ўжо напісаны і хутка надашлюцца да друку тры беларускія граматыкі трох розных аўтараў. Адзін з гэных аўтараў, філолаг Б. Тарашкевіч*, наўмысля, каб ухіліцца перашкод у працы, удаўся быў на вёску ў Фінляндыю на цэлае лета і там абдумваў, укладаў і цяпер скончыў пісаць беларускую граматыку і аддаў на перагляд знаўцам і крытыкам, каб дасведчыцца, ці ўсё ясна працавана, ці няма якіх хіб і ці не трэ дзе зрабіць якіх перамен або паправак. Значыць, не ў далёкім часе яна надрукуецца, выйдзе ў свет, і мы мецімем сваю ўласную беларускую граматыку. На моцы гэтага ўсцешнага для нас выпадку цікава азнаёміцца з тым, чаго вымагае сучасная навука ад граматыкі, як школьнага падручніка, чым мае кіравацца і якой мэты павінен трымацца настаўнік у справе навучэння граматыцы роднай мовы, і такім чынам падкрэсліць сабе, чаго мы маем спадзявацца і вымагаць і ад аўтараў першых спробаў беларускай граматыкі або, як пісалі даўней, «навукі добра размаўляць і пісаць». Наконт гэтага існуе многа разумных паглядаў, навука мае многа гіпотэз, але самы лепшы для справы навучэння будзе той погляд, што дамагаецца і мае на ўвазе перш за ўсё тое, каб дапасаваць граматыку дзеля найлепшага і лягчэйшага спосабу развіцця мовы і ўпрашчэння правапісу. Разбіраючы гэта, мы ўгледзім, што правапіс у граматыцы займае саўсім не значнае месца павэдлуг таго, што вымагаецца расійскімі падручнікамі, і што сэнс і заданне граматыкі зусім не ў тым, дзе тоўпіла яго маскоўская школа; што дзеці нашы дарэмна лілі слёзы, перамагаючы трудношчы маскоўскага правапісу, і што нам трэба раз назаўсёды адхіснуцца ад той граматнасці, каторая ўнетрылася сярод нашай інтэлігенцыі праз маскоўскую школу на грунце не расійскай, а некай «інтэрнацыянальнай» маскоўскай граматыкі. Зразумелі гэта і маскоўцы, на моцы чаго і быў выдан міністрам цыркуляр аб упрашчэнні велікарускага правапісу.

На гэты раз мы падамо ў агульных рысах, з дзе-якімі ўласнымі ўвагамі, змест артыкула: «Рідна мова в українській школі» І. Огієнка, надрукаванага ў украінскай газеце «Нова Рада».

* Тарашкевіч Браніслаў Адамавіч (1892—1941) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, асветнік, філолаг.

# I

«Калі мы ўважна прыцікуемся да таго, чаму вучаць па сярэдніх школах, калі мы пільна і дакладна разгледзім праграму нашых школьных навук,— піша Огіенка,— дык адразу кінецца ў вочы іх убогасць, малая іх навуковая і жыццёвая вартасць. Чалавеку, каторы не праняўся школьнымі забабонамі, нават кінецца ў вочы з такога пагляду і тое, што нехта як наўмысля пастаянна нахіляў школьную навуку ў той бок, каб яна забівала дзецям розум і дурыла іх слабыя галовы «навуковаю» бяссэнсіцаю».

Найважнейшаю з школьных навук грунтоўнаю падставаю школьнай асветы, безумоўна, была і заўжды будзе родная мова. Навучэнне роднай мове, роднай літаратуры ў новай школе павінна стаць моцным падмуроўкам усёй школьнай навукі. На гэта трэба звярнуць як можна больш увагі, затраціць як можна больш часу, як можна больш сілы і знання. Калі руйнуецца стары лад, калі яшчэ не выраблен лад новы, дык трэ баяцца таго, каб наша маладая беларуская школа не пабудавалася са старога плана, з плана расійскай школы. План той даўно падгніў, даўно ўжо прыстаў ад жыцця. Яго латалі, як маглі, латалі на белую нітку, наспех, абы толькі не свяцілася праз убогае ўбранне грэшнае цела. І стаіць цяпер на раздарожжы расійская школа, абсмыканая ўсялякімі Шварцамі і Кассо, налатаная Дзялянавымі і Ігнацьевымі. Стаіць у латанай вопратцы, як цыганскае дзіця або як жабрацкі павадыр. І толькі вялікая армія заскованых, заштурханых, духоўна і матэрыяльна прыціснутых настаўнікаў ратавала тую школу, бараніла яе сваім жыццём, душу сваю пакладаючы за яе. Бараніла яе, бо спадзявалася, што і з гэткай школы разыдзецца свет, загарацца іскрачкі і раздзьмухнуцца ў вялікае полымя.

Вось і боязна, каб, закладаючы новую школу, не пабудаваць яе са старога, трухлявага плана. У жыцці складаецца так, што калі руйнуецца старое, дык яно не нішчыцца дашчэнту; і заўжды будуюць новае гэтак, што падмалёўваюць, латаюць і паджыўляюць старое. Гэта бывае як у палітыцы, грамадскіх стасунках, так і ў навуцы і ў справах школьнага навучэння. Трэба заўважыць, што навучэнне роднай мове не павінна ісці бітымі сцежкамі, тым шляхам, якім яно праводзіцца ў расійскай школе. Трэба асцерагчыся, каб у нас у пытанні пра мову не бралі за прыклад школы расійскай, не пераймалі той праграмы мовы, што пануе ў старой школе.

## II

Прыгледзімся да таго, чаму навучалі ў расійскай школе пад назвай «родная мова (русский язык)». Навучалі не мове, не асобнасцям мовы, яе сапраўдным прыкметам, а навучалі сухім толькі формам мовы, навучалі такім формам мовы, каторыя аднакія з усімі мовамі Еўропы. У *расійскай* школе не вучылі граматыкі *расійскай* мовы, а вучылі і вучаць граматыку інтэрнацыянальную. Вучаць адмяняць канчукі слоў, як,напрыклад: «стол, стола, столу», ці «ношу, носиш, носи», ці знайці «подлежащее» або «сказуемое» ў той ці іншай думцы, гэта яшчэ не азначае вучыць граматыку. Вазьміце якую хочаце расійскую граматыку, перакладзіце яе на мову, скажам, шведскую, падмяніце парадыгмы — і граматыка шведскай мовы гатова... «А калі так,— піша Огіенка,— дык я пытаю, чаму ж такая граматыка завецца граматыкай мовы *расійскай?* Што тут ёсць *расійскага?*»

Адгэтуль відаць, што нам трэба асцерагацца пераймаць што-небудзь з гэткіх інтэрнацыянальных граматык. Нам асабліва трэба трымаць гэта на ўвазе, бо мы самі выхаваны і ўзраслі на старых расійскіх граматыках, і трэба быць вельмі асцярожным, каб не паддацца ўплыву таго, да чаго нас прывучылі з дзяцінства ў старых расійскіх школах. А калі так, то паўстае пытанне — што ж павінна даваць беларуская граматыка, аб чым яна павінна вучыць, на якім грунце давядзецца яе будаваць? Дый дарэчы сказаць — што гэта *граматыка*, які яе змест?

Першай падставай, на якой павінна закладацца беларуская граматыка, гэта будзе навука. Граматыка наша павінна будавацца толькі на навуцы, на навуцы сапраўднай, на моцных навуковых законах. А ўсё тое, пра вошта не даведзена навукай, не павінна мець месца ў нашай граматыцы. І ўсё трухлявае, што даўно асуджана навукай, не павінна мець сцежкі да новай беларускай граматыкі. У нас сталася так, што скрозь проста баяцца навуковасці ў граматыцы, жахаюцца гэтай навуковасці, як страхоцця, як чагось нечуванага і немагчымага. Навуковасці не жануць ані з гісторыі, ані з прыродазнаўства, ані з матэматыкі. Толькі нябога-граматыка мусіць цурацца навукі, як чагось чужога, не роднага і нават шкадлівага. І цяпер па школах пад назваю граматыкі вучаць нешта такое мізэрнае, што з пагляду навукі не мае жаднай вартасці. Усе вучоныя-філолагі даўно ўжо ў адзін голас прызналі, што расійская школьная

граматыка набіта шкадлівай бяссэнсіцай, усім, чым хочаш, але не тым, што мае звязкі з сапраўднай навукай. Мы ўсе вучылі расійскую граматыку, але мы вучылі не сапраўдную граматыку, а толькі граматычныя формы і правапіс. Усе мы ведаем, што словы, скажам, «тереть, мереть, переть» праз ѣ пісаць не можна. А чаму? Кажуць — гэта вылучнасць (исключение). Далей, кожны з нас ведае, што словы «прежде, втуне, вообще (наогул)» не маюць на канцы ѣ. Чаму? Зноў расійская граматыка адказвае, што гэта вылучнасць. І гэтак на кожным кроку. Бедны вучань прыходзіць да думкі, што нібыта няма закону без вылучнасці. Маскоўцы гэтак і выслаўляюцца: «нет правила без исключения». Да такой шкадлівай думкі прывучае іх сама іх тхлявая граматыка, тагды як навука нам кажа зусім іншае.

Трэба парупіцца, каб беларуская граматыка ўхілілася ад шкадлівых забабонаў. А граматычныя забабоны страшэнна цупкія і вякамі пануюць у школьных граматыках. Напрыклад, возьмем пытанне — аб чым павінна вучыць граматыка? На гэта яшчэ вядомы рымскі граматыст Элій Донат адказаў: «Граматыка ёсць навука добра размаўляць і пісаць». Першыя беларускія (і ўкраінскія) граматысты перанеслі гэтае Донатавае разуменне граматыкі і да сваіх кніжак. У граматыцы Лаўрэнція Зізанія* 1596 году чытаем: «Граматика есть певное ведане, жэбысь мы добре мовили и писали». Гэта самае знаходзім і ў вядомай беларускай граматыцы М. Сматрыцкага** 1619 году. Цікава зазначыць, што гэтая беларуская граматыка амаль не два сталецці служыла падставаю, на якой будаваліся ўсе расійскія (маскоўскія) граматыкі.

З часу Доната прамінула ўжо не больш не менш як 15 вякоў, а школьныя граматыкі яшчэ і цяпер ставяць сваім заданнем Донатава разуменне граматыкі, хоць навука даўно ўжо давяла, што змест граматыкі не ў тым павінен тоўпіцца. На беларускай граматыцы павінна быць чырвонымі літарамі выдрукавана: «Граматыка — гэта навука пра жыццё беларускай мовы». І з гэтага навуковага задання ў нашай граматыцы мы і мусім паказаць, што *граматыка надае законы і кіруе жыццём нашай мовы.* Вучні з гэтакай граматыкі павінны дасведчыцца, што мова — гэта арганізм

---

* Зізаній Лаўрэнцій (? — 1634) — беларускі педагог, царкоўны дзеяч, перакладчык.

** Сматрыцкі Мялецій (1572—1630) — беларускі і ўкраінскі, царкоўны і грамадска-палітычны дзеяч, пісьменнік-палеміст.

жывы, які пастаянна трымаецца сваёй уласнай сцежкі і залежыць ад сваіх цікавых законаў. З'явішчы мовы родзяцца, жывуць і канаюць, як кожная жывая істота. Граматыка павінна даць поўны і дакладны малюнак жыцця нашай мовы, павінна вымаляваць яе ад яе пачатку да нашага часу. Яна павінна паказаць, што працэс утварэння мовы ніколі не прыпыняецца. Кожны з такой граматыкі лёгка пяроймецца думкай, што цяперашняе становішча нашай мовы не апошняе: быў свой пачатак, ёсць сваё жыццё, будзе і свой пэўны канец. Мова пастаянна пасуваецца ўперад, асабліва калі маецца добры грунт на яе ўзрост і поступ. Гэтак жыве кожная мова, гэтак будзе жыць і наша мова.

З гэткай граматыкі кожны навоч пабачыць, як не да сэнсу тыя выгадкі, што нібыта ў беларускай мове не хапае слоў, што выдумляюцца новыя, штучныя словы, што ў нас многа чужых, не сваіх, пазычаных слоў, што мы не пішам так, як гавораць на сёлах. Усё гэта выгадкі нашай філалагічнай цемнаты, скуткі таго, што мы не ведаем, як расце і жыве кожная мова, які яна мае шлях і паступовасць. Кожнаму з нас даводзілася чуць, што кажуць пра чалавека, каторы варачаецца дадому з навукі: «як ён пераменіўся — не пазнаць!» І той, хто кажа, што нашы кнігі і газеты друкуюцца не гэтак, як гавораць на вёсках, не ведае, што кажа; не ведае, што ён пристаў ад жыцця, што не скардзіцца і выгадваць яму трэба, а вучыцца і даганяць, як мага даганяць, каб не заблудзіць у адзіноце і не загінуць марна. Наша мова — пекная галіна агульнай славянскай мовы, і не дзіва, што ў нас многа аднакіх слоў з палякамі, расійцамі, чэхамі, балгарамі і т. д. Але сэнс зусім не ў тым. Музыкальная гама аднакая ва ўсіх народаў: до, рэ, мі, фа, соль, ля, а тым часам, што ж мы бачым? Кожны народ так умее перастаўляць асобныя часткі гэтай гамы, так іх перарабляе па свайму густу, натхненню і здольнасці, што выходзіць саўсім асобная мелодыя: музыка і песня італьянская, нямецкая, іспанская, польская, маскоўская і т. д. Літаратурная мова — гэта мёд, што збіраецца пчоламі з розных кветак і раслін. Чым больш сокаў з усялякіх кветак уходзіць у склад мёду, тым ён прыемнейшы, салодшы, смачнейшы і пахучы. Літаратурная мова павінна, цвёрда трымаючыся агульнага нацыянальнага грунту, лучыць да сябе ўсе тыпічныя характэрныя словы, прыслоўі, выразы і іншыя асаблівасці тых мясцовасцяў, гаворак таго народу, мовай каторага яна ёсць. І расійцы зрабілі вялікую па-

мылку, згадзіўшыся з тым, што тыпічнай мовай іх языка ёсць падмова маскоўская, гаворка вось тых кабет, да каторых хадзіў вучыцца іх вялікі паэт і пісьменнік Пушкін. Гэта іх памылка, што яны, прыняўшы адну гаворку, смяюцца з другіх уласных гаворак, як з брыдкіх, сарамлівых паветалізмаў (правінцыялізмаў). І не дзіва, што просты селянін-расіец, не гледзячы на тое, што іх мова пануе ўсюды, бадай што саўсім не разумее той мовы, на якой пішуцца ў іх кніжкі і друкуюцца газеты. Самі расійцы гэта разумеюць, і вось што, напрыклад, піша аб расійскай літаратурнай мове вядомы расійскі крытык Дабралюбаў: «Ведь у нас язык литературы собственно не русский, и через сто лет над нами, конечно, будут так же смеяться, как мы теперь смеёмся над языком ассамблей петровского времени». Наогул, як даводзяць знаўцы, народнага языка расійскага ў пісьменстве ніколі не было і няма, іх народная мова цалкам асобная па свайму складу ад мовы пісьменнай, на каторай расійцы пішуць.

Заўважыўшы гэта, мы павінны далажыць усіх сіл, усіх заходаў, каб ухіліцца ад гэткага сумнага з'явішча. Мова — гэта душа чалавека, краса і аздоба. Мова, як чалавек, павінна шанавацца, паважацца і прыбірацца з кожным разам у лепшыя, багацейшыя і зграбнейшыя ўбранні. Кожнае адметнае слова, кожны асобісты выраз нашых беларускіх гаворак мы павінны з пашанай страчаць і з вялікай любасцю, як надзвычайную вартасць, далучаць у агульную скарбніцу нашай літаратурнай мовы, а не хавацца за паветалізм, не урацца і не казаць неабачна, што *ў нас гэтак не кажуць*. Калі, скажам для прыкладу, у адным месцы кажуць *яха*, а ў другім *рэха*, калі адзін кажа *маланка*, а другі *бліскавіца*, *марыць* і *летуцець* — дык і хвала яму, абы яно было наша роднае, беларускае. Наша мова так багата, пекна і гучна, што часам, дапраўды, не ведаеш, якое слова, які выраз лепей ужыць — ажно вочы разбягаюцца. Ужо адно наша кароткае і доўгае *у* чаго варта, ёсць чаму пазайздросціць. А гэтыя кароткія і доўгія канчукі ў словах *ідзе — ідзець, спявае — пяець* — гэта цэлы скарб для нашых пісьменнікаў і паэтаў! Усё гэта разам злучанае, разумна і датэнпна ўжытае, дадае багацця, красы, гучнай ёмкасці і далікатства ў літаратуру і людскую размову. Апарт гэтага, мова так узгадаваная, усімі гаворкамі вылешчаная, робіцца здатнай, сардэчнай, усім любай і лёгка зразумелай кожнаму, хто хоць крошку падвучыцца.

## III

Усё, што б мы не вучылі ў беларускай граматыцы, усё павінна быць асвечана гістарычным паглядам. Трэба пастаянна рупіцца аб тым, каб вучні, або, як заве іх беларускі народ, студэнты, заўжды пыталіся, чаму гэта так у жыцці мовы, и чаму не іначай. Трэба варушыць у іх думку і заўжды наводзіць на гадку, што ў складзе мовы няма нічога выпадковага. І аніяк не можна завучаць дагматычна таго, чаго мы не разумеем. Дзякуючы расійскай казённай школе, наша грамадзянства гісторыі сваёй мовы не знае. Сярод шырокага грамадзянства пэўны лік, або, як кажуць, мінімум знання па гісторыі, матэматыцы яшчэ патрабуецца, але знання, знаёмства з гісторыяй роднай мовы не вымагаецца. Склалася гэтак, што калі хто знае расійскі ці польскі правапіс, дык ужо і кажуць, што гэты чалавек «граматны», што граматыку ён ведае. Граматыку ў нас падмянілі на правапіс і думаюць, што граматыка — гэта правапіс...

У школе расійскай першыя тры гады па сярэдніх школах толькі тое і робяць, што вучаць правапісу. Вот жа ў школе беларускай няхай ніколі не будзе таго, каб правапіс заступіў граматыку. На наша шчасце, правапіс беларускі ўжо й цяпер такі лёгкі, такі просты, што не павінен займаць многа часу і дасць поўную змогу вучыцца таму, чаго вымагае сапраўдная граматыка. Наш правапіс ніколі не зробіцца той недаступнай прамудрасцю той, дапраўды, кітайскай граматнасцю, якою стаў расійскі правапіс. Трэба спытаць у тых, хто прабаваў не вучыць, а толькі паказваць, як трэба пісаць па-беларуску, каб праканацца, як лёгка і скора гэта пераймаецца.

## *Царква і дэмакратыя*

Як ведама, на Сяткі, 15-га жніўня, у Маскве распачаліся пасядзэнні ўсерасійскага царкоўнага сабора. З прычыны гэтага ўкраінская газета «Н. Рада» пытае: «Якую пазіцыю зоймуць там прадстаўнікі нашай украінскай — калісь-та аўтакефальнай царквы? Ці напамятае ім дзень Успення лепшых часоў рэлігійнага жыцця, што квітнела ў нашых манастырах і царквах, калі хрысціянства адно што запанавала на Русі? Ці напамятае ім дзень Успення пра слаўныя

традыцыі брацтваў?..» З такім запытаннем можна звярнуцца і да нашага беларускага духавенства, царкоўная мінуласць каторага аднакая з украінскаю, і каторыя маюць сваіх прадстаўнікоў на саборы. Але не, мы пэўна ведаем, што рэакцыйны, антыбеларускі склад нашага духавенства пакорліва пойдзе за маскоўскімі павадырамі, не ўспамятаюць сваёй Маткі-Беларусі, не заікнуцца яны пра беларусізацыю царквы, пра набажэнства ў роднай мове, і ніхто з іх не падбае, каб здаволіць рэлігійную патрэбу народу нашага ў яго матчынай, Богам дараванай мове, каб даць яму кнігі Святога пісання ў роднай, зразумелай гутарцы. Гэтага яны не зробяць, у гэтым мы пэўны, а праз тое — не будзем замінаць мёртвым хаваць сваіх смерцьвякоў—і лепш памяркуем аб тым, як дэмакратыя павінна дапасавацца да царквы, чаго яна можа дамагацца ад яе і на што спадзявацца. Знаёмства з жыццём народу паказвае, што царква народу патрэбна, атэізм, нявер'е горада яго не крануліся: ён з царквою лічыцца, яе патрабуе, без яе абысціся не можа, да яе йдзе і шукае сабе ўцехі. Значыць, царква існуе, абысці яе моўчкі нельга, з ёю трэба рахавацца, трэба найсці пэўны грунт сваіх адносін як да самой царквы, так і да яе прадстаўнікоў.

Не таркаючыся таго, калі царква на Беларусі была вольная, калі яна абараняла інтарэсы народу і стаяла на варце нашых нацыянальных патрэб, змагаючыся з паланізацыяй нашай старонкі праз каталіцтва, будуючы школы, закладаючы брацтвы, арганізуючы грамадзянства — мы бачым, што разам з прылучэннем нашай айчыны да маскоўскага царства беларускае духавенства папала ў бабілонскі палон царскага панавання, хутка там агоўталася і праз соткі гадоў добраахвотна насіла кайданы самадзяржаўнай улады. Пад жалезнай апекай свецкай уласці царква акамянела, жывое жыццё тут спынілася, памёрла і не здавальняла патрэб веруючых. За гэты час яна не стварыла нічога ні ў літаратуры, ні ў навуцы, ні ў запытаннях грамадзянскага або дзяржаўнага будаўніцтва, за што б яе можна было ўспамянуць добрым словам і хоць крошку апраўдаць тыя злачынствы, якія чыніла яна грамадзянству, патураючы тым зладзействам, што вырабляла, не ведаючае межаў і ўстрымання, крывавае самадзяржавіе. Там, дзе жыў, хадзіў і вучыў епіскап Тураўскі Кірыл, там, дзе калісь гарэлі агнём праўды і справядлівасці светачы нацыянальнай культуры, асветы — брацтва, там цяпер маліліся за распуснікаў, гвалтоўнікаў, забіўцаў, там з крыжам у руках,

з малітвай на вуснах і палохаючы пякельнай пакутай упарта даводзілі, што няма ўласці, калі не ад Бога, што беднасць, здзек і верхаводства багатых станаў над бедным, працоўным народам ёсць воля міласэрнага Бога! Гдзе ўзяць словы, каб выказаць усю агіду і знявагу тым, што гэта рабілі? Чыё сэрца не сціснецца жалем, хто не адхіліць вачэй сваіх ад гэтых служкаў цемры, гвалту і грамадзянскай несправядлівасці?!

Рэвалюцыя скінула самадзяржавіе, яна разарвала і тыя кайданы, у якіх вякамі трымалася царква. Царква стала вольная, але духавенства апынулась саўсім непадгатаваным да новага жыцця. Прывыкшы да цемры, іх вочы балюча адчуваюць раптоўна нахлынуўшы свет вольнасці, і з нечастрыманай сілай іх цягне назад, асабліва ў нас, на Беларусі.

Тым часам рэвалюцыя ўчынілася, воля настала, і хто хоча жыць, той павінен дапасаваць сваю чыннасць да новага ладу. Парваліся кайданы, валтузіўшыя вольны поступ грамадзянства і яго духоўных сіл. Царква атрымала магчымасць самаазначэння і можа пачаць новую эру свайго жыцця. На маскоўскі сабор з'ехалісь не адны біскупы і манахі, не толькі духавенства; да развагі пытанняў царкоўнага адбудавання паваланы і прадстаўнікі простых людзей, парахвіян. Вось яны і павінны, не чакаючы і не спадзеючыся на пачын з боку духавенства, адразу сказаць ім, што хоць яны ў Маскве, але жывуць у дваццатым сталецці і — у час рэвалюцыйны. Пастыры павінны ведаць, а калі не ведаюць, дык павінны ўразумець зараз жа, нябаўна, што сацыяльнае і палітычнае жыццё кіруецца цяпер не рэлігіяй і не царквою. І зробяць яны непапраўімую памылку, калі зноў аддадуць атрускі свайго ўплыву на грамадзянства ў рукі палітычнай улады ды зноў пойдуць у палон дзеля спакойнага і тлустага жыцця. Царква павінна стаць незалежнай і сама пайсці насустрач вымогам часу. Гэта вымагаецца самім духам Хрыстовай навукі і заданнямі царквы здавальняць рэлігійныя патрэбы людзей, а не блутацца ў палітычную і сацыяльную барацьбу. Не ў змаганні з народам, не ў варунках цемры народнай, як гэта вялося да гэтага часу, ляжыць будучына і існаванне царквы.

Такім чынам, царква павінна быць незалежнай ад гасударства і не быць у яго на пенсіі. Духавенства павінна шукаць сабе кoштаў к жыццю там, дзе яно працуе; яго павінны падтрымоўваць тыя, чые патрэбы яно здавальняе. Праўда, гэта патрабуе працы, клопату і згоды з народам, за тое выйграе чыстата, святасць і ўплыў рэлігійнай навукі.

Гэта першае, другое — духавенства павінна б, здаецца, само падбаць аб тым, каб рэлігія не выкладалася ў школе, дзе на кожным кроку трэба стыкацца з навукай. Усім зразумела, што ў гэтых спатканнях больш непрыемнасці для самой рэлігіі, як для навукі. Трэба дадаць, што да гэтага часу ні адна навука ў школе не выкладалася так дрэнна, як закон Божы. Свяшчэннікі, выпаўняючы казённую павіннасць, па гультайству і нядбаласці адносіліся да справы навучэння быля-як, абы пазбыцца, і часта, нагаварыўшы вучням процьму высокіх слоў, чынілі даносы як на вучняў, так і на іх настаўнікаў. Усіх гэтых прыкрасцяў можна ўхіліцца, калі школы рэлігійнай навукі будуць залежаць ад дагляду саміх законавучыцелей злучна з парахвіянамі. Кепска стане навучаць свяшчэннік — яго ўхіляць, а калі добра, дык усім спадабаецца, і меціме заслужоную хвалу і пашану.

Цяпер, калі ўсю зямлю спадзяюцца адабраць і перадаць у рукі таго, хто на ёй працуе, было б саўсім недарэчы, каб у першую чаргу не адабраць і не перадаць народу тых зямель, каторымі валодаюць нашыя манастыры і цэрквы. На што ім землі, калі яны павінны трымацца на кошты веруючых і першым чынам турбавацца п спасенні, а не аб зямных дастатках. Трэба прызнацца, што нашы манахі мелі някепскі густ, навыпрашваўшы ў час цемры народнай лепшых мясцовасцяў пад блакітным небам. Кажам у час цемры, бо цяпер бадай што на свеце не знойдзеш такога добрага пана, каб ён, дзеля спасення сваёй грэшнай душы, пааддаваў гэтыя цудоўныя месцы на берагах азёр, чыстых крыштальных рэчак, на вясёлых, прыгожых узгорках, дзе пабудаваны і красуюць цяпер манастыры. Жывучы ў такіх пекных мясцовасцях, не лёгка адарвацца думкай ад зямлі і падацца да неба, трудна і даць веры, што зямля «юдоль плачу и печали», як любяць прамаўляць манахі. Усе гэтыя землі патрэбны не манахам, каторыя выракаюцца ўсяго зямнога, і нават не аднаму працоўнаму люду ў асобку, а ўсяму грамадзянству. Там павінны быць пабудаваны школы, бальніцы, прытулкі для пачэсных, заслужаных людзей і месца сапачынку працоўных, патомленых працай і турботамі грамадзян.

Такія думкі выклікае ўсерасійскі сабор праваслаўнага духавенства. Але трудна спадзявацца, каб сабор, нават пад націскам свецкіх прадстаўнікоў, адважыўся самачынна стаць на гэты шлях чыннасці ды пайшоў насустрач вымогам часу і патрэбам грамадзянства. Што датыча беларуска-

га духавенства, дык можна напэўна сказаць, што яно выявіць сябе на саборы самым адсталым, некультурным і рэакцыённым. Здрада нікому не даруецца. Той, хто адрокся маткі свае, хто цураецца мовы і наймення свайго, той не можа быць добрым чалавекам: нячыстае сумленне пастаянна дакарае яму, і ён ненавідзіць і гатоў задушыць таго, хто любіць і шануе тое, ад чаго ён адрокся. А адрокшыся свайго і прылучыўшыся да чужога, ён павінен ужо скакаць пад дудку таго, да каго далучыўся. І дапраўды, за ўвесь рэвалюцыйны час мы не бачылі ні ядынага папа, ні ядынага праваслаўнага біскупа, хто б выступіў на абарону інтарэсаў працоўнага народу і нашых нацыянальных патрэб і дамаганняў. Не тое мы бачым з боку каталіцкага духавенства. Там не народ праганяе свайго пастыра, як гэта ўчыняюць нашы сяляне з праваслаўнымі папамі,— ксяндзоў уціскаюць і скідаюць з пасадаў паны, землеўласнікі і багатыры, здраднікі нашага краю, перакінчыкі ў палякі, і за тое, што ксяндзы звяртаюцца да народу са шчырай душой, абуджаюць у ём нацыянальную свядомасць, прышчапляюць любасць і пашану да свайго роднага, беларускага,— за тое, што яны — *беларусы.*

Беларуская дэмакратыя павінна ўсё гэта цвёрда запамятаць і, дамагаючыся свайго нацыянальнага і сацыяльнага вызвалення, павінна ўмець адбіраць *куколь* ад пшаніцы.*

## *Нашы патрэбы*

### I

Сялянам, як рыбе вада, патрэбна зямля. Без зямлі селянін затхнецца на Беларусі, як рыба на беразе. Не гледзячы на тое, што навокала процьма зямлі і панскай, і казённай, і манастырскай, і што гэтай зямлі хваціла б на ўсіх аж занадта, а нашаму селяніну прыходзіцца ўсё-такі пакідаць сваю родную хату, расставацца са сваімі людзьмі ды вандраваць у свет шукаць сабе хлеба... Найчасцей, пажагнаўшыся з роднай краінай, падаецца ён у чужы далёкі горад, часамі ў Амерыку, а праз апошнія гады сяля-

---

* Пустазелле.

не нашы цэлымі вёскамі перасяляліся ў Сібір. Але нідзе няма лепей, як дома. На чужыне заўсёды нудна, кепска і нядобра. Апарт таго, чалавек, трапіўшы на чужыну, пачынае пераймаць чужую мову, чужыя звычаі і калі прыпадкам і вернецца дадому, дык пачувае сябе як адрэзаная луста хлеба. Пераняўшы чужую гаворку, чужыя звычаі і ўклад жыцця, чалавек як-бы ўмірае для свайго краю і народу. Такім чынам, народ можа раскідацца па свеце, аслабець, расцярушыцца, як нацыя, і загінуць саўсім, як асобны народ. Вось і трэба парупіцца і паклапаціцца аб тым, каб гэтага не здарылася, каб народ наш беларускі жыў заўсёды разам, на сваёй беларускай зямлі, каб ён рос, крапчаў і пашыраўся ды не даў сябе праглынуць большым і дужэйшым суседзям.

Цяпер, дзякуючы рэвалюцыі, атрымана поўная магчымасць ухіліцца ад гэтых сумных і прыкрых з'явішч. Дзеля гэтага народ павінен адбудаваць нанава ўвесь дзяржаўны лад у гасударстве, трэба завесці новыя парадкі ва ўсём грамадскім жыцці. Стары парадак згніў і раскідаўся, і так ці гэтак, а людзям трэба будаваць новы парадак. Кожын з нас памятае, як трудна жылося пры старым парадку. Вось жа і трэба цяпер усё ўважна абмеркаваць, абгледзець і паруліцца аб тым, каб той новы парадак, каторы мы маем пабудаваць, быў дапасаваны да нашых патрэбаў, да патрэб усяго працоўнага народу, каб ён не ціснуў на нас, як даўней, не валтузіў і не запыняў нашага поступу да лепшага жыцця, а каб, наадварот, дапамагаў нашаму развіццю і спрыяў нам у нашых дамаганнях лепшай будучыны.

Патрэб у кожнага народу многа, але ўсе іх можна раздзяліць на дзве часткі — на патрэбы агульныя, каторых дамагаюцца ўсе людзі на свеце, усе народы або нацыі, і на патрэбы асабістыя, каторыя аднаму народу не патрэбны, бо яны ўжо іх маюць, а другому патрэбны, як хлеб і вада. Гэтыя асабістыя патрэбы маюць усе дзяржаўныя нацыі, як у нас расійцы, або маскоўцы, напрыклад, і не маюць іх нацыі недзяржаўныя, як мы, беларусы, і ўкраінцы ці літоўцы ў Расіі.

Мы — беларусы, нацыя недзяржаўная, а гэта значыць, што мы апроч агульных, супольных патрэб з усімі народамі Расіі маем яшчэ свае асабістыя, беларускія патрэбы. Гэта мы заўсёды павінны трымаць на ўвазе і ў сваіх палітычных і грамадзянскіх дамаганнях павінны кіравацца сваімі інтарэсамі, сваімі беларускімі патрэбамі. Без гэтых сваіх асабістых патрэб трацяць свой сэнс і значэнне агульныя па-

трэбы. Да агульных, супольных усім народам Расіі, патрэб належаць *зямля і воля*, а ўсе асабістыя патрэбы можна выславіць адным словам: *аўтаномія*, г. зн. права самім заводзіць у сябе свае парадкі, права на тое, каб наша родная беларуская мова скрозь панавала ў нашым краі, каб на ёй вучыліся, гаварылі, каб яна ўжывалася нараўне з расійскай ва ўсіх урадавых інстытуцыях, каб развівалася наша беларуская культура, літаратура, навука, умеласць, каб мы, беларусы, сталі нараўне і поплеч з усімі народамі, што жывуць на свеце — з расійцамі, палякамі, французамі, ангельцамі, немцамі і т. д. Усяго гэтага мы прычакаем, калі даб'ёмся сабе *аўтаноміі*, калі здабудзем аўтономію для нашага краю, *аўтаномію Беларусі*.

Учыніўшы рэвалюцыю, мы здабылі сабе волю. Волю мы ўжо маем, але аб зямлі трэба яшчэ падбаць. Маючы волю, лёгка здабыць сабе зямлю. Дзеля гэтага і кажуць, што воля — самая важная і самая грунтоўная патрэба чалавека. Без волі чалавек, як без вады рыба.

Да гэтага часу мы ўсе жылі для багачоў і правіцельства, дзеля сябе нам некалі было жыць, дый не давалі нам жыць дзеля сябе. Цяпер жа гэта мінулася. Дзякуючы волі, мы можам узяць уладу ў свае рукі і павінны ўзяць яе так, каб потым ніхто не мог адабраць. Бо які народ не возьме ўлады ў свае рукі, дык ён мала таго, што не разжывецца на зямлю, але страціць яшчэ і сваю волю ды зноў пападзе ў няволю да багачоў і цароў. Вот жа каб гэтага не было, каб не апынуліся мы зноў каля разбітага карыта, дык нам трэ падумаць, ад чаго гэта залежыць. А залежыць гэта будзе ад таго, каго мы пашлём да Учрадзіцельнага Сабранія, або панашаму, да Устаноўчага Сойму. Значыць, да Устаноўчага Сойму нам трэба паслаць такіх людзей, каторыя павінны ўстанавіць у Расіі *федэратыўную дэмакратычную рэспубліку*, або, сказаць па-нашаму, каб кожан народ быў сам сабе галава і каб увесь народ быў сам сабе цар. Вось калі мы ўстановім у нашай дзяржаве гэтакі лад, тагды, напэўна, можам шчыра падзякаваць тым, хто меў многа зямлі: панам, царам і манастырам. І тагды нашы дэпутаты, каторых мы самі выбярэм ды пашлём да Устаноўчага Сойму, напішуць такі закон: «Уся зямля ў нашым гасударстве належыць усяму народу». Пасля гэтага кожны чалавек, мужчына ці кабета, можа ўзяць, калі захоча, роўны з усімі кавалак зямлі ды працаваць на ём, жывучы на карысць сабе і ўсім добрым людзям. Будзе ўстаноўлена «працоўная норма», або, іначай сказаць, колькі дзесяцін або маргоў

у той ці іншай мясцовасці можна даць на душу. Трэба заўважыць, што кавалак зямлі будзе давацца такі, каб чалавек мог жыць на ём па-людску. Будуць меркавацца з тым, каб хваціла не толькі піць, есці ды хораша прыбрацца, але каб чалавек мог купляць сабе кніжкі, выпісваць газеты, хадзіць у тэатр. Гэтага кавалка зямлі ніхто не мае права ні прадаць, ні залажыць, ані здаць у арэнду. Ён твой, покі ты працуеш на ём, а перастаў рабіць — зямля зноў адыходзіць да народу. Такім чынам, адзін чалавек ніколі не збярэ многа зямлі і не будзе ў вёсках ні вельмі багатых, ні надта бедных — хіба хто будзе занадта гультаіць.

Гэтак кажуць адны. На іх думку, гэта самы лепшы спосаб развагі зямельнага пытання. Другія ж з імі не згаджаюцца і кажуць: што будзе рабіць удава з дробнымі дзяцьмі? Парабка наняць не можна ды ён і сам не пойдзе, бо будзе мець сваю ўласную гаспадарку, а тым часам есці трэба. Яны, гэтыя другія, гэтаксама кажуць, што зямля павінна належаць да ўсяго народу, але не трэба яе рэзаць на дзялянкі і рабіць з яе арцабную* дошку. Пры такім парадку не павернешся ў полі з вялікай машынай і будзеш поркацца з сахою, як і дзед твой поркаўся. Наогул, народ павялічваецца, а зямля ўсё тая. Каб яна магла пракарміць усіх людзей, дык яе трэба штораз лепей абрабляць і ведаць, дзе, як і што лепей пасеяць. Гэта вымагае агульнай развагі, харошых знаўцаў земляробства і прасторнасці ў полі. А адзін чалавек на сваём невялічкім кусочку хіба ж можа з усім гэтым управіцца? Вот людзі і кажуць, што пасля таго, як зацвердзіцца закон, што ўся зямля пераходзіць да рук усяго народу, дык яе не трэба дзяліць на дробныя часткі, а каму-колечы прырэзаць, а рэшту заставіць у вялікіх, асобных кавалках, каторыя будуць абрабляцца тымі, хто не мае ўласнай гаспадаркі — накшталт таго, як гэта робіцца на фабрыках і заводах. Там кожны работнік не мае нічога свайго, асобнага, а працуюць усе разам, як бы не дзеля сябе, а, тым часам, і робяць яны меней за селяніна ў полі, і жывуць яны лепей за земляроба або за таго, хто мае свай уласны кавалай зямлі. Дзеля загаду ўсёй працай на такіх вялікіх кавалках будуць выбірацца пры кожным месцы мясцовыя «зямельныя рады», каторыя і будуць кіраваць усім гэтым, як загадчыкі, кіраўнічы і інжынеры на фабрыцы ці заводзе.

Як бачым, на кожнае пытанне людзі маюць свае аса-

* Арцабная — шашачная.

бістыя погляды, каторыя яны стараюцца правесці ў жыццё. Кожнаму здаецца, што яго погляд найлепшы і разумнейшы за другіх. Але каб той ці іншы погляд зрабіўся законам для ўсіх, дык яго павінна зацвердзіць Учрэдзіцельнае Сабраніе, або Установўчы Сойм, па-нашаму. Значыць, усё будзе залежаць ад Сойму і ад таго дзяржаўнага ладу, каторы ён установіць. А ўсё гэта агулам залежыць ад таго, якіх мы выбярэм ды пашлём да Сойму дэпутатаў. Значыць, першнаперш трэба падумаць аб тым, якіх людзей нам выбіраць за дэпутатаў. Трэба глядзець, каб да Установўчага Сойму не папаў вораг простага народу; асабліва ж трэ пільнаваць, каб не выбраць ды не паслаць туды ворага нашай бацькаўшчыны, Беларусі. А гэта можа здарыцца, калі мы будзем падаваць голас за чалавека, каторага саўсім не ведаем, або прадамо свае галасы за чарку гарэлкі ці за грошы, як гэта даўней рабілася пры воласці. Няхай не дажывём мы да гэтага сораму, да гэтакага ганебнага ўчынку. Нам, беларусам, асабліва трэ трымаць вуха востра. Мы народ удвойчы пакрыўджаны, нам мала таго, што хто паабяцае стаяць у Сойме за *зямлю і волю.* Зямля і воля — добрая рэч, але мала з гэтага карысці будзе, калі мы зноў пападзём у нацыянальную няволю да расійцаў ці палякаў. Мы павінны кожнага, хто дакляруе нам зямлю, яшчэ спытаць, а як ён, пане-дабрадзею, ставіцца да нашай мовы, а ці шануе ён нас як беларусаў, ці хоча ён або ці будзе стаяць у Сойме за тое, каб у нас былі свае беларускія школы, каб мова наша панавала ў нашым краю, каб у нас былі свае беларускія парадкі, каб мы сваёю зямлёю распараджаліся самі так, як гэта нам люба і карысна — адным словам, мы павінны спытаць, ці будзе ён дамагацца *аўтаноміі Беларусі.* А калі ён нам гэтага не дакляруе, дык мы павінны прагнаць яго ад сябе прэч, хоць бы ён быў і сацыяліст. Аўтаномія нам патрэбна, як рыбе вада, птушцы воздух, а земляробу зямля. Без аўтаноміі і зямелька не пойдзе нам на карысць. Гэта мы павінны цвёрда запамятаць і пастаянна трымаць на ўвазе. Божа нас барані, каб мы праз падашуканства ці праз што-небудзь другое адказаліся ад гэтага ці згадзіліся з кім, што аўтаномія нам не патрэбна, што з нас досыць і таго, калі мы атрымаем зямлю.

Што гэта *аўтаномія* і дзеля чаго, уласна, мы, беларусы, павінны яе дамагацца — аб тым гутарка пойдзе ў другі раз. А покі што трэба памятаць, што той, хто будзе палохаць нас аўтаноміяй і даводзіць нам, што яна непатрэбна і шкадліва, дык ён вораг наш, вораг усяго беларускага народу.

Аўтаноміі дамагаемся не адны мы, беларусы, а ўсе народы Расіі: украінцы, літоўцы, латышы, фінляндцы і т. д. Ужо з гэтага відаць, што яна штосьці не кепскае, калі яе так прагнуць людзі. А калі мы, беларусы, адмовімся ад гэтага, дык толькі пасведчым усім людзям на смех, што мы народ цёмны, баязлівы і самі не ведаем, чаго нам трэба.

## II

Як толькі справа паўстане аб тым, як павінен карыстацца народ той зямлёй, што адыдзе да яго па закону, зацверджанаму Устаноўчым Соймам, дык кожын пачынае разважаць гэта пытанне па-свойму. Прынамсі, адна партыя кажа так, а другая гэтак; адзін народ хоча ўстанавіць свае парадкі, а другі свае. Тут нельга сказаць, што той памыляецца, а гэты кажа праўду, або — што адзін ілжэ, а другі падашуквае. Кожын гаворыць так, як падказвае яму яго сумленне, яго асабістае праканание або, лепей выславіцца, кожын мае на ўвазе свае інтарэсы — інтарэсы таго стану, таго народу, думкамі і патрэбамі каторага ён пераняўся, на поглядах каторага ён выхаваўся. Калі чалавек пераняўся поглядамі сялянства, дык ён і будзе бараніць яго патрэбы, змагацца за яго інтарэсы. А калі справа паўстане аб інтарэсе ўсяго народу, аб патрэбах цэлай нацыі, дык маскаль або расіец будзе стаяць за свае маскоўскія нацыянальныя інтарэсы, украінец за свае, а паляк — за свае. І напэўна можна сказаць, што ў гэтым змаганні яны рэдка прыйдуць да згоды, бо кожнаму хочацца зрабіць сабе лепш і захапіць сабе больш. Размеркаваць пытанні аб тым, дзе канчаюцца інтарэсы адной нацыі і пачынаюцца патрэбы другой, калі яны жывуць у адной дзяржаве,— можна толькі сілаю, моцнай, згоднай арганізацыяй і разумным, цвёрдым змаганнем.

Заўважыўшы гэта, мы, беларусы, павінны заўсёды трымаць на ўвазе, што народ мы асобны, не падобны ні да расійцаў, ні да палякаў, а значыцца, і патрэбы ў нас асобныя, свае, беларускія, адметныя і нават нязгодныя з патрэбамі расійцаў або палякаў ці якога іншага народу. Ім бы, як нацыі, напэўна б лепш было, каб мы адракліся ад сваіх беларускіх патрэб ды прылучыліся да іх. У кожным выпадку яны стануць разважаць свае справы па-свойму, на карысць свайго ўласнага жыцця, а мы павінны меркавацца з патрэбамі і інтарэсамі сваімі, кіравацца ў сваёй чыннасці тым, што вымагаецца варункамі нашага жыцця, што ка-

рысна нам і што спрыяе нашаму нацыянальнаму, культурнаму і гаспадарскаму дабрабыту.

Але што ж будзе, калі мы забудземся аб сваіх беларускіх патрэбах і сапраўды згодзімся з тымі, каторыя кажуць, што ў Дзяржаве Расійскай трэба зрабіць адзін парадак, аднакі для ўсіх народаў Расіі? А будзе тое, што маскоўцы пабудуюць гэты парадак на свой густ, дапасуюць яго да патрэб свайго жыцця і зямлю, напрыклад, падзеляць так, як яны звыклі карыстацца ёй спакон веку. Яны гэта зробяць, бо іх больш за нас, і іх дэпутатаў у Сойме гэтаксама будзе больш. Усё гэта трапіцца з намі, калі мы станем слухаць тых «дабрадзеяў», што не прызнаюць нас за асобны народ, не лічаць нас за беларусаў, каторыя кажуць, што ў нас сваёй мовы няма і нам непатрэбна яна, што мы павінны парабіцца расійцамі або палякамі, дзеля чаго, моў, будуйце ў сябе школы расійскія ці польскія, а не свае, беларускія. Іншыя кажуць гэта наўмысля, а другія проста па недавумству і глупству. А то бывае і так, што чалавек, як расійскі сацыяліст, напрыклад, не ведае ні нас, ні жыцця нашага. Ён нават і шчыра хацеў бы зрабіць нам дабро, дык не можа і сваёй фатыгай толькі псуе нам і нарабляе шкоды, бо, не ведаючы ні нас, ні жыцця нашага, шые абутак для нас на свой уласны, маскоўскі капыл. Разумеецца, такі абутак будзе заўсёды муляць нам і дапякаць пры ўжыванні.

Ніхто лепей не ведае нашых патрэб, як мы самі; ніхто не завядзе лепшага парадку ў гаспадарцы, як сам гаспадар. Калі мы папусцімся і аддамо развагу сваіх патрэб у рукі чужынцаў або сваіх вырадкаў, што адракліся і нас і мовы нашай, дык яны ўсё зробяць так, як гэта добра для жыцця на Маскоўшчыне або дзе-небудзь у Польшчы. Канец канцом мы сцямім і схамянёмся па часе, што нарабілі сабе клопату, але будзе позна. Нас заўсёды запыняць і скажуць: «Не верадуй, васпан,— скачы, уражэ, як пан кажэ!..»

Вось дзеля таго, каб ухіліцца ад усіх гэтых прыкрых з'явішч, каб не папасціся пад загад і кіраўніцтва чужынцам, каб потым не скардзіцца, не верадаваць, праклінаючы жыццё сваё па часе, каб не клялі нас дзеткі нашы, апынуўшыся праз нас, праз недавумства і нядбаласць нашу ў *нацыянальным* палоне ў чужынцаў — маскоўцаў або палякаў — дзеля ўсяго гэтага мы і павінны дамагацца *аўтаноміі* для свайго краю, *аўтаноміі Беларусі.* Супольныя справы, да каторых належаць: дзяржаўны лад, грашовыя знакі, абарона дзяржавы — гэтыя справы мы разбярэм супольна, разам з усімі народамі Расіі на Устаноўчым Сойме,

а свае асобныя, беларускія справы, мы можам разважыць толькі самі ў сябе дома, у сваёй Беларускай Краёвай Радзе. Права мець сваю асобную Беларускую Краёвую Раду мы атрымаем толькі тагды, як даб'ёмся аўтаноміі для свайго краю. Дзеля гэтага нам трэба загадзя ўжо патурбавацца аб тым, каб намеціць, ды каб потым паслаць да агульнага, усім народам Расіі Устаноўчага Сойму, сваіх *беларусаў*, шчырых прыхільнікаў працоўнага народу,— такіх людзей, каторыя любяць край наш, шануюць мову нашу і каторыя будуць дбаць аб тым, каб здабыць для Беларусі аўтаномію. Калі мы гэтакіх дэпутатаў выбярэм, дык даб'ёмся сабе права на сваю Краёвую Раду, бо ў гэтай справе да нас прылучацца ўкраінцы, літоўцы, латышы, эстонцы, Сібір і Каўказ, каторым гэтаксама патрэбна аўтаномія. Злучыўшыся з імі, мы згуртуем каля сябе большасць у Сойме і разам з імі напішам сабе законы, якія нам патрэбны, а ў тым ліку і закон аб аўтаноміі для Беларусі. Трэба яшчэ дадаць і тое, што ў вольнай дзяржаве ніхто не мае права забараняць жыць так, як народ сам таго хоча, абы не перашкаджала вольнаму жыццю другога народу, бо кажуць, што кожны народ мае права на самаадзначэнне, г. зн. мець свае парадкі, вучыцца і гаварыць сваёю моваю, словам, жыць уласным жыццём, развіваючы сваю культуру і свой гаспадарскі дабрабыт. І калі народ у Дзяржаве жыве сваім уласным жыццём, калі ён мае свае парадкі, свае законы і ўстановы ў сваём родным краю і ніхто яму не перашкаджае, дык і кажуць, што гэты народ жыве *аўтаномна.* Аўтаномна жыве Ірландзія, Трансваль (буры) у Англіі, на грунце аўтаноміі пабудавана жыццё ўсіх краёў у Амерыцы. Усе культурныя, асвечаныя людзі дамагаюцца аўтаноміі, а гэта знача, што і мы, беларусы, не павінны праставаць ад іх, каб не заблудзіць ды не згінуць у цемры. Хто хоча сабе дабра, той не скажа, што яму не патрэбна аўтаномія. Толькі цёмны, забіты народ можа сказаць гэта...

Нашы сяляне на з'ездах выслаўляліся ў тым сэнсе, што ім не патрэбна аўтаномія, але ж рабілі яны гэта па недавумству і цемнаце сваёй, а найбольш па падашуканству, бо разам з гэтым яны казалі, што і мова іх не патрэбна. Ніхто на свеце не выракаецца ад сваёй мовы,— і немцы, і французы, і палякі, і расійцы, чэхі і балгары шануюць і любяць сваю мову, а нашы сяляне адракаюцца. Значыць, робяць яны гэта па недавумству і цемнаце. Ведаючы, што наша сялянства забіта і цёмна, ворагі Беларусі карыстаюць з гэтага і кажуць:«Запытайце ў народу». А хіба,спытаем мы

іх, рэвалюцыянеры пыталіся ў народу, як ушчыналі рэвалюцыю? Хіба яны не ведалі, што народ па цемнаце сваёй мог спалохацца ды выслявіцца за тое, каб цара не чапалі? Яны гэта ведалі і рабілі так, як яно па разумнаму дasледу выходзіць лепей і карысней. І цяпер кожын з нас шчыра ім дзякуе.

Яшчэ ворагі беларушчыны кажуць, на што будаваць беларускія школы, калі народ іх не хоча. Народ... А прыпамятайце, калі ласка, што рабіў народ пры князю Уладзіміры, як дзяцей забіралі ў школы да навукі? Як жа народ наш запатрабуе сваіх беларускіх школаў, калі ён іх ніколі не бачыў і нічагутка ў гэтай справе не цяміць? Хіба можна пытацца ў народу аб тым, ці патрэбны нам, напрыклад, вось хоць тыя лабараторыі, дзе працуюць і поркаюцца ўсё жыццё вучоныя? Цёмны народ заўсёды скажа, што — не трэба. І дзіўная гэта звычка ў людзей пасылацца на народ там, дзе яно саўсім недарэчы. У ва ўсіх іншых пытаннях мы звяртаемся да знаўцаў і спецыялістаў, а вот пры дзяржаўным адбудаванні здавальняемся думкамі такіх майстраў, як цёмны, некультурны народ, каторы ў халерны год забіваў дактароў, и ў час рэакцыі лавіў ды выдаваў царскай паліцыі рэвалюцыянераў, паламаўшы ім рэбры... Народ — добрая рэч, але яму трэба расказаць, растлумачыць, яго трэба спачатку асвяціць, навучыць, а ўжо потым клікаць да сябе на параду...

## III

Да гэтага часу Расія была і покі што застаецца дзяржаваю не хаўруснаю, або, як кажуць, не федэратыўнаю. Ніводзін народ у Расіі не меў аўтаноміі, а жыў так, як загадвалі яму з Петраграда цар і яго служкі. Манархічная Расія ўяўляла з сябе велізарную казарму, дзе павінны былі жыць адным парадкам, слухаць адныя каманды. Усе народы і краі Расіі былі цесна звязаны паміж сабою, але не добраахвотным перавяслам братэрскага пачуцця, а прымусам і прынукаю, ланцугамі царскага самадзяржавія, накшталт таго, як звязвалі калісь катаржнікаў, заганяючы іх у Сібір.

Няма чаго казаць, што такое супольнае жыццё народаў не мае жаднай вартасці і пры першай прыгодзе рвецца, як гнілая нітка. Толькі добраахвотная, палюбоўная супольнасць моцна звязвае людзей і стварае грунтоўную і магутную дзяржаву. Гэта мы бачым на прыкладзе Англіі,

Амерыканскіх Злучаных Штатаў і самой Германіі, з каторай мы цяпер ваюем. У гэтых дзяржавах не толькі кожны асобны народ, але і кожная асобная па жыццёваму ўкладу частка дзяржавы мае свае парадкі, свае законы і ўстановы. Раней за ўсіх зразумела патрэбу і няўхільнасць аўтаноміі Англія. Праўда, дарага гэта ёй каштавала — за сваю наву-ку яна заплаціла стратаю багатай калоніі — Паўноч. Амэрык. Злучаных Штатаў, але раз дасведчыўшыся, што сіламоц нікога ўтрымаць нельга, яна павярнула на іншую дарогу і цяпер сама спрыяе і дапамагае завядзенню аўтаномнага ладу. Сваёю разумнаю палітыкай яна ўтрымала за сабою Канаду, частка якой хацела прылучыцца да суседніх Злучаных Амэр. Штатаў, і ўмацавала прыхільнасць прылучаных да сябе вайною бураў у Афрыцы. За цяперашнюю вайну гэтыя калоніі многа дапамагалі Англіі грашыма, людзьмі і ваеннымі прыладамі, хоць маглі і не рабіць гэтага.

Усе гэтыя прыклады сведчаць пра тое, што аўтаномны лад дзяржавы не аслабляе і не разлучае дзяржаву, а, наадварот, спрыяе таму, каб яна ўзмацнялася ды зноў злучалася нават тагды, калі распад ўжо пачаўся. Знача, тыя людзі, што палохаюць распадам дзяржавы пры завядзенні аўтаномнага ладу, не маюць пад сабою жаднага грунту. Яны або кепска дасведчаны ў гэтым пытанні, або наўмысля, маючы на ўвазе ўласную карысць і рахуючы выкарыстаць чужую недасведчанасць, пускаюць байкі пра шкадлівы ўплыў аўтаномнага ладу. Гэта трэба запамятаць і, адхіліўшы ўсялякія нагаворы, як мага дамагацца аўтаномнага ладу для свайго роднага краю. Мы павінны мець свой беларускі парламент, сваю Беларускую Краёвую Раду, цалкам незалежную ў межах свайго краёвага заканадаўства ад цэнтральнага, агульнадзяржаўнага ўраду. Толькі такія справы, як зносіны з заграні́чнымі дзяржавамі, мытна-грашавая сістэма, вярхоўнае кіраўніцтва ваеннымі сіламі, важнейшыя жалезныя дарогі,— павінны знаходзіцца пад загадам агульнадзяржаўнай уласці, каторая гэтаксама павінна складацца з прадстаўнікоў усіх нацый і краёў. Агульнадзяржаўная ўласць павінна быць прадстаўніцай усіх людзей, усіх народаў і краёў і іх аб'яднаць.

Мала дабіцца рэспублікі, трэба дамагацца яшчэ і таго, каб рэспубліка была і федэрацыйнай, або, па-латыні, хаўрусной, кожны край, кожны асобны народ каб меў сваю аўтаномію. У Францыі рэспубліка існуе ўжо больш соткі год, але яна цэнтралістычна. Там, як і ў нас цяпер і як было

гэта пры царызме, усім загадваюць міністры з Парыжу, а міністраў прызначае агульнадзяржаўны парламент. Пры кожнай перамене большасці ў парламенце змяняюцца і міністры. Жыццё валтузіцца кожны раз пры змене загадчыкаў-міністраў. У самых дробных мясцовых справах трэба чакаць дазволу і ласкі цэнтральнага правіцельства. Такая рэспубліка нас не здавальняе. Мы ўсе патаміліся страшным і прыкрым цэнтралізмам старога, скінутага рэжыму і не хочам, каб ён жыў далей, хоць бы і пад рэспубліканскім чырвоным сцягам. Мы хочам, каб у нашым краю будавалі сваё жыццё нашы людзі і каб у нашы беларускія справы не мешалася цэнтральная ўласць з Масквы ці з Петраграду. Мы хочам, каб знікла нарэшце тая абрыдлая, да смерці шкадлівая розніца паміж дзяржаўнаю і недзяржаўнаю нацыяй, каторая высмоктвала з нас усе нашы сілы. Мы хочам, каб усе народы былі дзяржаўнымі на сваёй зямлі.

Усе ў адзін голас кажуць, што Беларусь самы бедны край, а народ наш самы цёмны пасярод народаў Расіі, але ніхто даладне не расказаў, чаму гэта так, чаму Беларусь, колісь складаўшая магутнае Літоўска-Рускае гасударства, не ведаўшая татаршчыны, дыктаваўшая сваю волю Маскве, прылучыўшая да сябе ўсю багатую Украіну,— чаму цяпер дайшла да такога заняпаду? Беларусь наша бедна, а народ наш цёмны не за тым, што ён горшы за другіх або не мае здатнасці да навукі і прасветы. Нядоля наша ў тым, што мы, страціўшы сваю незалежнасць, па цяжкіх умовах гісторыі, не здолелі адстаяць сваю нацыянальную самабытнасць і сталі папасам для суседзяў, спажыткоўнаю ніваю для чужынцаў. Яны высмоктвалі з нас апошнія сокі, адбіралі ў нас нашых лепшых людзей (Міцкевіч, Касцюшка, Дастаеўскі) і зруйнавалі краіну нашу да сучаснага становішча. Але гэта мінулася, недарма настала свабода. Мы павінны дабіцца сабе аўтаноміі і стварыць у сябе свае ўласныя беларускія парадкі і зажыць сваім уласным беларускім жыццём. Годзе быць пашаю для чужынцаў, годзе карміць чужынцаў сабе на згубу і пастаянную пакуту. Аўтаномія для нас — пытанне жыцця і смерці. Калі мы любім свой край, калі жадаем сабе лепшай долі, калі абрыдзела нам парабецтва, калі мы не страцілі дашчэнту свайго нацыянальнага гонару і не рашыліся чалавечнай вартасці, дык мы павінны стаць на ўласныя ногі. Мы павінны дамагацца самакіравання, бо цэнтралізм маскоўскі і ўплыў польскі заесць нас дазвання. Цэлыя соткі год нас апалячвалі, больш як сто год нас амаскалівалі, але ні

паланізм, ні русіцызм не кранууся народу нашага анізвання. Народ у істоце сваёй застаўся непарушаным. У гэтым наша сіла, наша збавенне і залог светлай будучыны.

## IV

Утварыўшы аўтаномны лад на Беларусі, мы станем паўнамоцнымі гаспадарамі на сваёй зямлі і атрымаем поўную магчымасць павярнуць усе скарбы нашага краю на карысць свайго народу, на свае нацыянальныя патрэбы, дзеля развіцця культуры і гаспадарскага дабрабыту. Тагды беларускія працоўныя масы, каторыя на працягу цэлых вякоў абдзіраліся і выкарыстоўваліся дзеля росту і панавання багатых станаў, чужых ім як па нацыянальнасці, так і па культуры, і дзеля развіцця гэтай чужой культуры дастануць змогу выйсці на вольны шлях эканамічнага і культурнага развіцця і збавяцца ад свайго заняпаду матэрыяльнымі і духоўнымі скарбамі свае зямлі. Тагды можна будзе ўжыць усіх багатых заходаў дзеля развіцця ўсёй паўнаты беларускага культурнага і палітычнага жыцця, далучыўшы да гэтага шырокія народныя масы, увесь працоўны народ, коштам каторага да гэтага часу выраслі толькі чужакультурныя станы і іх эканамічныя і палітычныя ўплывы.

З эканамічнага боку вельмі важна, каб дастаткі беларускай зямлі і людская сіла нашага краю не марнаваліся дарэмна ды не перацягваліся наўмысля на чужы бок рознымі штучнымі і прыватнымі эканамічнымі рахункамі з вялікаю шкодаю для краю і дарэмнаю стратаю для ўсяго нашага народу, а каб ужываліся мудра, маючы на ўвазе інтарэсы свайго краю і дабрабыт свайго народу. Беларусь уяўляе з сябе асобную краіну са сваім уласным выразным тварам і жыццёвым укладам. Яна як трэба абдарована ўсялякімі прыроднымі ўмовамі для эканамічнага развіцця і поступу. Яна мае свае рэчкі, горы, радзючы грунт, многа лугоў для гадоўлі гавяды, вялікія запасы лесу, а — перш за ўсё і важней за ўсё — народ працавіты, старанны, крэпкі, здольны і цямушчы, што пры самых цяжкіх умовах сваёй гістарычнай далі здолеў паставіць сваё земляробства вышэй за ўсіх у Расіі. Не гледзячы на свой пясчаны грунт, зямля наша родзіць добра, і дзякуючы разумнай працавітасці народу нашага, Беларусь не бачыла павальнай галадоўлі — гісторыя не ведае такога здарэння, каб дзяржаўная

казна прыходзіла да нас на дапамогу сваімі коштамі, як гэта рабілася на Маскоўшчыне і па іншых кутках Расіі. Зямля там бадай што і лепшая, ураджайнейшая за нашу, але народ маскоўскі (велікарусы) да таго некультурны, нядбалы і няўмелы, што галадаў амаль не кожнае пакаленне. Пры самых цяжкіх варунках беларус не траціў датэнпнасці і быў гаспадаром свайго становішча. Адным словам — Беларусь мае ўсё патрэбнае, каб зрабіцца краем цвітучым і багатым, а не такім заняпалым і занядбаным, якім стаўся ён пад загадам маскоўскай дзяржаўнасці. І мы, усе грамадзяне зямлі беларускай, павінны далажыць усіх сіл, каб скінуць з сябе апякунства чужынцаў і збавіць край наш ад кіраўніцтва маскоўцаў. Гэта мы павінны зрабіць, бо грубае, некультурнае ўладарства Масквы знішчыць край наш дашчэнту і прывядзе да загібелі, як яно вынішчыла і загубіла Дзяржаву Расійскую. Нам трэба дабіцца, каб кіраўніцтва эканамічнымі і грамадзянскімі справамі належала да самога краю, да яго аўтаномнага краёвага Сойму. Тагды Краёвая Рада, кіруючыся інтарэсамі і дабрабытам свайго народу, не дазволіць, каб цэнтральны ўрад living рознымі тарыфнымі штукамі і мытнай палітыкай калечыў развіццё нашай прамысловасці і гандлю; тагды краёвы ўрад не папусціцца, каб нашу эканамічную энергію і сыровы прадукт перацягвалі штучна да розных пазакраёвых фабрычна-прамысловых раёнаў; тагды не будзе таго, каб цэлы край, заселены народам са светлай і вялікай гісторыяй, пазбаўлен быў вышэйшых навучных інстытуцый і праз соткі год не мог вярнуць таго, што ў яго адабралі гвалтоўна (Віленскі універсітэт). Дзеля ўсяго гэтага нам патрэбна аўтаномія. Нам патрэбна аўтаномія, каб запэўніць беларускаму хлебаробу як найбольшы прыбытак, а беларускаму пралетарыю — як найвышэйшы заработак, каб даць сваім людзям работу дома, на месцы, на грунце ўласнай *беларускай прамысловасці*, і каб нашы людзі не вандравалі, шукаючы заработкаў, у свет на чужыну, дзе і сам работнік і яго рабочая сіла прападалі для нашага краю. І мала таго, што наш работнік, трапіўшы ў чужы край, пераймаўся чужыншчынаю і навекі гінуў для роднага краю, але, апарт таго, вярнуўшыся дадому, ён нарабляў шмат шкоды, пашыраючы дэнацыяналізатарскую заразу.

З погляду на культурнае становішча нашага краю становіцца ясна, што толькі пры аўтаномным ладзе пачне расці і квітнець культура, навука, літаратура і ўмеласць здольнага і багата абдараванага нашага народу. Толькі пад

затадам аўтаномнага ладу народ наш, з прышчэпу да агульнадзяржаўнага будаўніцтва, вырасце ў магутную асобную расліну — заваюе сабе пачэснае месца ў свеце, стаўшы поплеч з народамі Еўропы. Узгадаваўшы культуру багатую, моцную і арыгінальную, разгарнуўшы ўсю сваю вялікую здольнасць, народ наш стане цэнтрам у сваём краю і сваёю літаратураю, навукаю і мастацтвам звяжа шчыраю любоўю ўсе народнасці Беларусі, каторыя, у сваю чаргу, аддадуць усе свае сілы і розум на карысць супольнай айчыны, на дабро і пыху роднага краю. Усё гэта так важна, проста і ясна, што сапраўды трэба ўлажыць усю сваю душу, аддаць усе свае сілы, каб утварыць светлую будучыну сваёй бацькаўшчыны, здабыўшы шырокую *нацыянальна-тэрытарыяльную* аўтаномію для Беларусі. «Падумайце,— піша праф. Грушэўскі*,— якая гэта будзе эканомія часу і энергіі, колькі адпадзе дарэмных турботаў... Адпадзе ўся барацьба за нацыянальнае права, якая пастаянна валтузіла і затрымоўвала эканамічны і палітычны поступ... Не трэ будзе пакладаць свае здольнасці і энергію на заходы каля палагоджання сваіх нацыянальных і краёвых спраў у агульнадзяржаўным парламенце, не патрэбны будуць хітрыя партыйныя камбінацыі, каб правесці сваю справу, не трэ будзе «абрабляць» расійскае ліберальнае грамадзянства і іншыя расійскія партыі, каб прыхіліць іх да сваіх нацыянальных і краёвых патрэбаў. Даволі гэтага! Даволі мы мелі гэтага пры змарлым рэжыме і добра ведаем, як прыемна стасавацца да расійскага грамадзянства! Няхай яно жыве здарова, як само хоча, а нам трэба свае справы развважаць у сябе дома, у сваём краёвым сойме, і толькі тое невялічкае, што датычыцца ўсяе дзяржавы, мы развжым супольна на агульным прадстаўніцтве Расійскай федэратыўнай рэспублікі».

Але не досыць атрымаць аўтаномію хоць бы і самую поўную. Трэба яшчэ падбаць аб тым, каб сама дзяржава, у склад каторай Беларусь мае ўвайсці, была пабудавана на цвёрдым федэрацыйным грунце, каб гэта была дзяржава *дэмакратычная і федэратыўная*. Чаму ж гэта важна і дзеля чаго гэта трэба?

«Рэч простая,— піша вышэйпамянёны праф. Грушэўскі ў сваёй брашуры «Якой мы хочам аўтаноміі і федэра-

* Грушэўскі Міхаіл Сяргеевіч (1866—1934) — украінскі гісторык, адзін са стваральнікаў Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Галіцыі і Цэнтральнай Рады.

цыі»,— калі мець нават шырокую палітычную аўтаномію сваёй нацыянальнай тэрыторыі, але калі дзяржава, з каторай яна будзе злучана, застанецца дзяржавай цэнтралізаванаю, дык хоць бы аўтаномія была забяспечана на моцы канстытуцыйнай хартыі, тым часам становішча яе не будзе пэўнае і адносіны яе да дзяржавы не будуць добрыя. Наша старая гетманская Украіна,— чытаем мы далей,— мела шырокую аўтаномію, была праўдзіваю дзяржаваю, а як звязалася з цэнтралістычнаю Маскоўскаю дзяржаваю, дык яе аўтаномія стала на дрыгвяную плошчу. Да таго часу тая аўтаномія трывала, покі маскоўскі ўрад (Пятра I) не пачуў сябе дужым ды не наважыўся зламаць свой «трактат з Багданам Хмяльніцкім». I зламаў». Гэтаксама было і з Беларуссю. На моцы Люблінскай уніі (1569 г.) яна злучылася з Польшчай у адну Рэч Паспалітую (дзяржаву) як роўная з роўнай і вольная з вольнай, а тым часам стрэў яе аднакі лёс з гістарычнай доляй Украіны. Тое самае мы бачым і на прыкладзе Фінляндзіі. Яна мела сваю канстытуцыю, покі расійскі ўрад не скасаваў. Нават Кацярына II, прылучаючы прымусам Беларусь да Маскоўшчыны, дакляравала захаваць яе вольнасці і права павэдлуг старых звычаяў і прывілеяў «на вечныя часы», але ўсім нам ведама, колькі трывалі гэтыя «вечные времена». Скончылася тым, што паступовая русіфікацыя Беларусі, аб якой Кацярына II пісала графу Разумоўскаму, была ўквечана страшэнным у свеце гвалтоўствам — забаронаю ўжываць беларускую мову.

На моцы гэтага гістарычнага і палітычнага даследу мы павінны дамагацца, каб усе часткі Расійскай Рэспублікі былі не толькі аўтаномнымі правінцыямі, а і дзяржавамі, злучанымі паміж сабою *федэрацыйным* (хаўрусным) пераяслам на грунце агульнага інтарэсу, супольнай патрэбы і ўзаемнай дапамогі. I толькі тагды становішча Беларусі будзе забяспечана і адносіны яе да Расійскай Рэспублікі будуць шчырыя і пэўныя, калі гэта станецца або калі справы аўтаномнага жыцця злучаць усе народы Расіі ў адзін вольны дзяржаўны хаўрус — *федэрацыю*. А гэта будзе, бо яно вымагаецца і жыццём, і гістарычным поступам народаў Еўропы. Так, гэта будзе, бо павінна быць, калі хоча таго жыццё, калі ў гэтым — прагрэс і культура ўсяго чалавецтва.

# *Лісты з Петраграду*

(Ад нашага карэспандэнта)

## I

Учора апоўдні прыехаў я ў Петраград. Толькі выйшаў з вакзала, як адразу жа ўбачыў, што з Піцерам творыцца нешта недаладнае, не паходзіць ён на даўнейшы Піцер. Пагода стаіць ясная, але народу на вуліцах не шмат; з непрывычкі здаецца, што нікога няма, што горад вымер. Трамвай ходзіць, але паціхеньку, як які стары дзядок або як людзі ў пакоіку, гдзе ляжыць хворы. У параўнаванні з Піцерскім трамваем Мінская конка лётае, як маланка. Народ не вісіць ужо на ём такімі гірляндамі, як даўней; пападаюцца вагоны напалавіну пустыя. Няма мітынгаў на кожным рагу вуліцы, мітынгі забаронены, і ў дадатак людзі страцілі ўжо ахвоту малоць языкамі і абмяркоўваць пасланні «да народаў усяго свету». Чуецца нейкая апацыя да палітычных пытанняў: абрыдлі яны. Затое амаль на кожным рагу вуліцы стаяць бязногія і бязрукія калекі — ахвяры цяперашняй вайны — і просяць злітавацца над іх калецтвам, надарыць іх.

Падыходжу да ізвозчыка: «Сколькі на Знаменскую вуліцу?» — «Сем рублікаў, паночку!» — «Што ж так дорага? Яшчэ вясною я плаціў тры».— «Ну што ж, вясною за авёс мы плацілі 12 р.— 15 р. пуд, а цяпер — 30 р., сена сеянае — 20 р. пуд». На такія аргументы што-небудзь адказаць цяжка. Бяру сваю валізку, саджуся і еду. Ізвозчык вядзе далей сваю гутарку: «Калі я за дзень не выезджу 40—50 рублёў, дык і займацца ізвозам няма сэнсу. І так ужо шмат народу кінула гэты промысел. Даўней было 30—40 тысяч ізвозчыкаў, а цяпер ледзьве набярэцца якіх-небудзь 10 тысяч. А далей — яшчэ менш будзе. І гэта не гледзячы на тое, што цяпер мы бяром разоў у 10 больш, чым раней. Бярэш грошаў шмат, а карысці з іх няма. Бяда на свеце, ды годзі...»

Выязджаем мы на Неўскі. Божа! Ці ж гэта той самы Неўскі, што быў у марцы і апрэлі? Народу таксама мала, як і на другіх вуліцах, шматпавярховыя камяніцы глядзяць неяк страшна на чалавека, як быццам хочуць цябе з'есці. Людзі, што пападаюцца насустрач, пазіраюць на цябе так, як бы ты забіў іх бацьку альбо каго другога з іх блізкіх. Няма той прыветнасці, што была ў першыя дні рэвалюцыі.

Піцер мае цяпер яшчэ больш злы выгляд, чым калі бы то ні было,— выгляд галоднага ваўка...

Ізвозчык застанаўліваецца праціў дому, гдзе кватаруе беларускі камітэт. Разлічваюся з ізвозчыкам, бяру валізку і падымаюся на пяты паверх. Адчыняю незамкнёныя дзверы і заходжу ў кватэру камітэта. Заходжу ў адзін пакоік, другі, трэці... Вокны расчынены, холадна, у кутках валяецца смецце. Вее ад усяго пусткаю... Аж недзе ў другім канцы кватэры ляпнуў нехта дзвярыма, і зараз паказаўся адзін з маіх таварышаў, каторы цяпер жыве тут. Пытаюся ў яго, што гэта азначае, і даведваюся, што цяпер тут заўсёды гэтак. Вясною (я сам памятаю) народ аж кішэў тут. Штодня прыходзілі дзесяткі і нават соткі людзей, то папытацца аб чым-колечы, то пагаварыць аб Беларусі, то купіць кніжку або газету, то даведацца, калі будзе мітынг і т. д. А цяпер — усіх як памялом вымела. Раз у тыдзень, як праз абмылку, забрыдзе які-небудзь прапаршчык альбо салдат. Расчыніў я шафу ў «чытальні» — апошнія №№ «Вольнай Беларусі» ляжаць цалкам нераспраданымі. Прайшоў ■ ў залу; на лаўках ляжыць слой пылу; відаць, што на іх даўно ўжо ніхто не садзіўся. Пакоік, гдзе была кнігарня і гдзе даўней прадаваліся беларускія кніжкі, зачынены на замок. Пустка... пустка... Рэвалюцыя заставіла нашых беларусаў у Петраградзе трохі заварушыцца. Схлынулі першыя хвалі, і беларусы ізноў пачалі драмаць, нават не прадраўшы яшчэ як мае быць сваіх вачэй. Ды і ўсё цяпер у Петраградзе неяк прыціхае, не адны толькі беларусы. Усюды раздор, развал, адцвітанне ўслед за росквітам... Нейкі жаль і смутак агортваюць душу...

## II

### «САМААДЗНАЧЭННЕ НАРОДАЎ»

Як ведама, расійская рэвалюцыя парушыла нацыянальнае пытанне, выгаласіла прынцып самаадзначэння народаў. Памятаю, якім былі мы ўсе напоўнены энтузіязмам і радасцю ў першыя дні рэвалюцыі. Тагды нам сапраўды здавалася, што вот мы пакончылі з абрыдзеўшым нам старым жыццём, паставілі над ім крыжык і пачынаем новую пекную страніцу гісторыі. Тагды ўся наша жыццёвая практычнасць неяк забылася, і моцна тагда верылася ў шчырасць і дабрату людзей. Так мы верылі і так мы спа-

дзяваліся. Але хутка надзеі нашы былі аплёваны і ўтоптаны ў балота. Далей голай фразы справа не пайшла. Выгаласілі пекную формулу, выкінулі штандар з пекным напісам і ... супакоіліся. Пацешыліся і кінулі надаеўшую цацку. А для нас, недзяржаўных нацый, справа ішла не толькі аб пекных лозунгах, але аб нашым жыцці і нашай смерці. Мы не маглі так жыва нацешыцца пекнымі словамі «права народаў на самаадзначэнне» і кінуць іх. Наадварот, ідэя гэтая расла і крэпла сярод нас. Многамільённыя народы, стогнам стагнаўшыя праз цэлыя вякі царскага панавання, не маглі здаволіцца аднымі пекнымі абстрактнымі формуламі. Ім патрэбна было праўдзівае лякарства, якое б прагнала смагу і залячыла болькі ад царскага самаўладства. Нацыянальны рух выбухнуў з новаю, неспадзяваную сілаю. Пачаліся пробы спраўдзіць, правясці ў жыццё даўно наспеўшыя патрэбы, якія былі санкцыянаваныя выгалашанай у часы рэвалюцыі формулай самаадзначэння народаў. Пачалі расці, як грыбы, нацыянальныя арганізацыі, пачалі яны гатавацца да будавання новага жыцця.

І вось тут прыйшлося спаткацца са старай праўдай, што словы — гэта адно, а справа — гэта другое. Рэвалюцыйны Урад Расійскай Рэспублікі не ішоў насустрач наспеўшым патрэбам недзяржаўных нацый, але ўсякімі спосабамі стараўся ўвільнуць, ухіліцца ад адказу, а калі бываў прыпёрты да сцяны, стараўся даць як мага менш, таргаваўся з усіх сіл, як старая таргоўка на рынку. На ўсё ён меў гатовы адказ: «Цяпер у нас вайна, цяпер не час займацца грунтоўнаю ломкаю вякамі зложанага ўкладу жыцця, не час займацца перабудаваннем Расіі, калі непрыяцель ломіцца ў дзверы. Трэба спачатку супольнымі сіламі адкінуць ворага, а тагды мы парахуемся».

Так-то яно так, але калі рабілі рэвалюцыю, ніхто не думаў, што цяпер не час займацца грунтоўнай ломкаю. Ламалі, бо далей у гэтым укладзе было немагчыма жыць, бо людзі ў ім задыхаліся. Чаму ж там было можна, а тут раптам — не? Чаму там было па часе, а тут не па часе? Чаму ўрад не падумае аб тым, што калі пасылаць людзей на бітву, калі вымагаць ад іх найбольшай ахвяры, якую яны могуць даць, ахвяры жыцця, дык трэба сказаць ім аб мэце, дзеля каторай яны павінны ахвяроўваць сваё жыццё; трэба, каб гэтая мэта была варта той страшнай ахвяры, якая за яе вымагаецца. Даўней недзяржаўныя нацыі Расіі, падганяемыя казацкімі нагайкамі, ішлі ваяваць за веру і за цара. А цяпер за што ім ісці? Можа, за Керанскага? Можа,

«за великую, неделимую Россию», за права насіць і надалей ярмо ўціску, здзеку, паняверкі і русіфікатарства? Чаму нічога не гаворыцца аб далейшай долі народаў, якія насяляюць Расію? Чаму нічога не гаворыцца аб тым, што правы недзяржаўных нацый цяпер не будуць так таптацца ў гразь, як гэта было за царом? Чаму нічога не гаворыцца аб пэўных гарантыях, што гэтага больш не будзе?..

Адной абяцанкі «парахуемся пасля» нам мала. Трэба быць пэўнымі, што нас на гэты раз не ашукаюць, як ужо не раз ашуквалі. Ахвяр ад нас вымагаюць вялікіх, а аб тым, што мы атрымаем за іх,— маўчок. Нават самая формула самаадзначэння народаў нейк шчэзла ўжо з памяці рускіх (велікарускіх) людзей: нешта не чуваць яе, нешта выйшла яна з рахунку. Формула гэтая была добрая і харошая тагды, як яе меркаю думалі вымераць Нямеччыну і Аўстрыю, калі думалі аб тым, як «самаадзначыць» Чэхію, Боснію, Трансільванію, Трэнціна, Познань, Галіцыю... Нават «Новое Время» тагды спявала гімны новай формуле, складала хвалебныя дыфірамбы расійскай рэвалюцыі. Але калі прыйшлося «самаадзначыць» Польшчу і калі на чаргу дня стала пытанне аб доле Літвы, Украіны, Беларусі, Фінляндзіі, Латвіі, Грузіі, Арменіі і т. д., калі прыйшлося падумаць аб іх «самаадзначэнні»,— хараство новай формулы ўтраціла сваю даўнейшую вагу ў вачах рускіх людзей.

Разуменне «великой единой матушки-Россіи» «от Финских хладных скал до пламенной Колхиды», разуменне, з якім яны зжыліся ад самага свайго дзяцінства, аніяк не ўкладалася ў галаве разам з нейкімі там аўтаноміямі нейкіх хахлоў, каторыя ядуць галушкі, пінскіх лапацонаў, што ходзяць з калтуном на галаве і нейкіх, ужо зусім нечуваных, літоўцаў, эстонцаў і «міфічных летгальцаў»*.

Урад не клапоціцца аб напаўненні абстрактнай формулы самаадзначэння народаў якім-небудзь рэальным зместам, а ўсе «истинно русскіе» людзі стараюцца як-небудзь схаваць, засунуць як мага далей і самую ненавісную цяпер ім формулу...

Але «шыла ў торбе не схаваеш» — яно ўсё ж такі вылазіць наверх на злосць і рускім людзям, і рускім газетам. Лямантуюць цяпер яны, аж страх, злуюць на «ніпамеркоўныя трэбаванні» недзяржаўных народаў. Як гэта можа быць, каб якіясь там «хахлы» маглі трэбаваць — вучэнне

---

* Як выславілася вячэрняя газета «Русская Воля» № 235.*(Заўвага Я. Лёсіка.)*

ў школах альбо царкоўныя службы адбываліся ў іх пахахлацку? Гэтага ж быць не можа і не павінна!..

І чаго-чаго толькі буржуазна-расійскі друк не гавора аб недзяржаўных расійскіх народах? Якім толькі брудам не стараецца абліць іх нацыянальныя ідэалы? Дзеля прыкладу перапішу некалькі радкоў з газеты «Русская Воля» (вячэрні выпуск, № 235), гдзе грамадзянін Борух Гіршэвіч Міркін-Гецэвіч (падпісваецца: Борис Мирский), узяўшы на сябе роль абаронцы вялікарасійскага нацыяналізму, так піша аб прамовах прадстаўнікоў нацыянальнасцей на Дэмакратычнай Парадзе:

« ... Однако самое тягостное и поистине трагическое впечатление производят не большевики, а представители национальностей. Характерно: все эти великодержавные агенты малых народностей выступают только с требованиями. Они не просят, они не жалуются,— они требуют... «Мы требуем от Временного Правительства» — вот почти шаблонное начало всех *косноязычных деклараций национальных представителей...»*, «... все эти латыши, эстонцы, литовцы, украинцы, латгальцы (есть и такие) назойливо выступают вперед и только требуют, требуют и требуют...», «... читая *шершавыя речи всех этих инородческих завоевателей*, читая их требования, их вопли о правах, без единаго указания на обязанности, невольно подумаешь, что это не представители России съехались,— а полувраждебныя государства послали своих делегатов на предмет объявления России войны...»

« ... И вот *вылезает какой-то* украинский «представитель» и начинает требовать, требовать, требовать...»

Вот як піша расійскі нацыяналіст з Палесціны аб украінцах, беларусах, літоўцах, эстонцах і т. д., каторыя складаюць больш чым палавіну Расіі. І яго словы знаходзяць водгук у расійскім сэрцы.

З гэтага відаць, што надта пакладацца на расійцаў не можна. Расія на краю пагібелі сваёй, Расія гіне, а расійскія нацыяналісты, як з Яраслаўскай і іншых губерніяў, так і з Палесціны,не толькі што не хочуць пазбыцца панавання над іншымі недзяржаўнымі нацыямі, але яшчэ хочуць заставіць іх ісці ўміраць за вялікадзяржаўныя апетыты маскоўскіх нацыяналістаў і прыстаўшых да іх палесцінскіх перавертняў. І яны яшчэ дзівяцца, калі недзяржаўныя народы не выказваюць ахвоты ісці на смерць дзеля таго, каб абараніць права далейшага нашэння маскоўскага ярма на сваёй шыі...

Недзяржаўныя народы ўжо нямала паклалі сваёй працы і пралілі сваёй крыві над падтрыманнем цэласці і дабрабыту Расіі. Палавіна нашай маткі-Беларусі спустошана вайною, сотні тысяч дзяцей яе на выганні ў чужыне, сотні тысяч сыноў яе сядзяць у акопах і бароняць... каго і за што? Павінны ж яны пачуць, што яны кладуць сваё жыццё не толькі дзеля чужых мэтаў, але й за свае ўласныя. Трэба, каб у іх было за што ваяваць і што абараняць.

Бо іначай... гора Расіі!

## *Расійскае бязладдзе*

Надзвычайнае з'яўленне знайшло звычайнае тлумачэнне. Надзвычайнае цуда абярнулася ў звычайны людскі гармідар, каторы ў справах грамадскага жыцця завецца бязладдзем, або анархіяй. Расійская рэвалюцыя, каторая звалася цудам, была стыхійным рухам некультурных масаў. Гэту стыхійнасць і гэту некультурнасць найбольш выказала маса маскоўскай зямлі, дэмакратыя велікаруская, каторая складае большасць у дзяржаве і надае ўсяму свой спецыфічны маскоўскі характар. Цяпер маскоўская дэмакратыя трымае ўладу і кіруе дзяржаўным будаўніцтвам. Вось і трэба там, сярод маскоўскага грамадзянства, на гонях маскоўскай зямлі, шукаць таго, што завецца тлумачэннем падзеяў нашага часу. Сказаць, што ў з'явах сучаснага бязладдзя вінаваты ўсе, што прычынны да гэтага ўсе народы Расіі,— не мае сэнсу і несправядліва. Гэта была б памылка і вялікая памылка, бо, напрыклад, мы, беларусы, не мелі і не маем жаданага ўплыву на справы дзяржаўнага кіраўніцтва. Беларусы пад маскоўскім дзяржаўствам не прычыняліся да ўлады і не павінны браць на сябе адпавядальнасці за тое, што вычвараецца цяпер у Расіі. І калі згіне Дзяржава Расійская, калі расхапаюць яе ворагі нашы, дык мы з чыстым сэрцам можам сказаць: не наша віна. Мы прасілі прыняць нас на абарону, мы фатыгаваліся сваёю парадай, але нас адсунулі, нас ухілілі, нам ва ўсём адмовілі маскоўскія павадыры, і няхай яны самі адказваюць за тое, што самі нарабілі. Наша заданне — абараніць наш край ад загубы, захаваць яго ад тае заразы, што насуваецца з цэнтру, і адшукаць тлумачэнне таму, што дзеецца навокала.

Некультурнасць расійцаў вядома была і раней, недарма

ж казалі: паскрабі маскаля — знойдзеш татарына. Але гэта асабліва выявілася цяпер, у гэту дванаццатую гадзіну для Дзяржавы Расійскай. Адусюль з Маскоўшчыны нясуцца жахлівыя весткі, што скрозь ідуць грабункі, нішчэння грамадскага і прыватнага дабра і рэзаніна. Трапляюцца нават пагромныя эксцэсы, замахі на дабро і жыццё жыдоўскай люднасці, а наогул, пагромы прыватнага дабра і паасобных людзей зрабіліся звычайным з'явішчам, і свядомасць бязкарнасці за ліхія ўчынкі дадае зладзеям небывалай смеласці. Яшчэ горшае чуецца з фронту. Поле, хаты, будынак, збожжа і ўсялякае гаспадарскае дабро, нават жыццё людское нішчыцца, бэсціцца і паляндруецца. Раз'юшанаму натоўпу цёмнае масы няма ўстрымання. Сілы, цвёрдай і пэўнай улады няма, а аўтарытэт і пракананне для рабоў не існуе. Усё робіцца ахвярай таго, што пападае насустрач гэтай буры і навальніцы...

Магутным рухам народаў Расіі зруйнаваны муры маскоўскага царызму. Усе народы выйшлі на волю. Тым часам расійцы па-своему зразумелі значэнне перавароту. Сучаснасць нам сведчыць, што шырокія масы маскоўскай дэмакратыі падсвядома жадалі таго, проці чаго паўсталі. Вырваўшыся за дапамогай паднявольных суседзяў з кайданаў раманаўскага самадзяржавія, гэта цёмная маскоўская маса захапіла ў свае рукі ўладу, уселася гаспадарыць на царскае месца і бушуе, якісты дзікар, ап'янелы воляй і нестрымаласцю. Сама інтэлігенцыя гэтай масы пераняла ўсе звычкі і забабоны старога рэжыму і праз свае камітэты, рады і арганізацыі, апіраючыся на моц кулака, робіць арышты, карае смерцю, садзіць у турмы, зачыняе газеты, накладае цэнзуру, рэквізуе друкарні. Якраз учыняецца тое, з чым людзі змагаліся, дзеля чаго ішлі яны ў турмы, астрогі, на шыбеніцы. Расійскае грамадзянства ў агуле сваём не разумее заданняў маменту і нават не здольна разгледзець здалёк той страшэннай багны, каторая пасуваецца з шалёнай шпаркасцю. Велікаруская нацыя, не гледзячы на сваё нацыянальнае панаванне і дзякуючы гэтаму панаванню, не мае не толькі нацыянальнага, а нават племяннога, сваяцкага пачуцця. Яна, бачыш, вышэй за гэта і пустэлю свайго нацыянальнага пачуцця запаўняе пустым зыкам касмапалітызму. Разуменне дзяржаўнасці для яе не існуе, гэта — «хітрая выдумка буржуазіі» — яна разумее дзяржаўнасць Іаана Грознага. І, складаючы большасць насялення ў дзяржаве, яна становіцца страшэнна шкадлівай, разносячы заразу свайго разгільдзяйства з цэнтра на акраіны. Пры-

цягваючы па закону большасці малыя элементы, яна пасувае іх на загібель і ганебныя ўчынкі...

Чым жа вытлумачыць гэтыя з'явішчы, як не хранічнаю цемрай і гістарычнай некультурнасцю. Ды і праўда — што такое гісторыя маскоўскага народу? Гэта спрадвечнае панаванне Іаана Грознага і Грышкі Распуціна ў палітыцы і Нікіты Пустасвята ў царкве і грамадзянскім жыцці. Адкуль жа тут узяцца культурным звычкам і здольнасці да грамадскага будаўніцтва?! — Памёр Грозны — прыйшоў Пётр Першы, [redacted] за ім — перайманне без жаднага толку і сэнсу. Перагартайце ўсю іх гісторыю спачатку да канца, і вы не знайдзеце там нічога добрага, нічога светлага — нічагуткі такога, на што б можна было пазайздросціць і каб запазычыцца добрым прыкладам і разумным даследам. Раманаў вешаў, ссылаў, катаваў. Пётр Першы біў сваіх парадчыкаў, як сабак, палкаю; Грозны рэзаў людзей, як воўк авечак ў хляве, а самы разумны вяльможа яго часу, Курбскі, не прыдумаў нічога лепшага, як уцячы ад гневу царскага к нам, на Беларусь, і тут пашукаць сабе прытулку. І гісторыя не захавала ні аднаго здарэння, ніводнага прыкладу, апарт модлаў Піліпа,— каб хоць адзін хто адважыўся ссадзіць гэтага галаварэза з прэстолу і збавіць людзей ад ганебнай быдлячай смерці. Дык адкуль жа тут магла вырасці тая культурнасць, калі гісторыя гэтага народу не давала жаднага грунту!

І ўсё гэта на Маскоўшчыне дзеялася ў тыя часы, як у нас, на Беларусі, усе пытанні дзяржаўнага зместу разважаліся на вольных соймах, калі ўсе землі Літоўска-Рускага гасударства карыстаюцца шырокай аўтаноміяй і каралі абіраюцца на прастол дзяржаўнаю радаю. Вось як, напрыклад, кароль Казімір* перад смерцю ўпрашае Раду абабраць на караля сына яго Аляксандра**: «Будучы ему в Городне, паразумел, што уже с тое хоробы выйті немог, і он узвал к собі паноў рад сваіх, Велікого Княства Літовского в ложніцу на пакоі, і пачал іх прасіті вельмі умільна і пакорне, штобы панове рада узялі собі гаспадаром на Княства Літоўскае сына яго серэдольшага Александра каралевіча; і панове рада відечы гаспадара своего так пакорне просячы і к тому памятаючы, іж он Княства Літов-

* Казімір IV Ягелончык (1427—1492) — вялікі князь літоўскі з 1440 г. і кароль польскі з 1447 г.

** Аляксандр, сын Казіміра (1461—1506),— вялікі князь літоўскі з 1492 г. і кароль польскі з 1501 г.

ское добрэ раділ і справовал, і на то прызволілі по жывоте его взяті на Велікое Княство Літовское сына его королевіча Александра». (Летапіс Быхаўца. С. 62).

Культурнасць — не матыматыка — яе вывучыць немагчыма. Культурнасць гадуецца вякамі. Яна не пераймаецца праз «вакно ў Еўропу» — гэта не французскі парык і не прускі мундзір. Культурнасць людская ствараецца самымі людзьмі і вырастае на грунце гістарычнага выхавання...

Беларусы, ратуйце айчыну нашу ад заразы з цэнтру і не давайце краю свайго на паталу барбарам, хоць бы то былі і маскоўскія сацыялісты!.. Разгарнеце кнігу ўласнай гісторыі і адтуль набірайцеся сілы, знацця і разумнага даследу. Айчына наша спакон веку жыла ўласным жыццём, і ўсе народы ў нашым гасударстве цешыліся самабытнасцю, воляй і федэрацыйнай дзяржаўнасцю. Чытайце гісторыю продкаў сваіх, шукайце парады ў дзядоў вашых!..

## *Устаноўчы Сойм*

Бязладдзе з кожным днём павялічваецца. Зараза з цэнтру, дзякуючы барбарызму сацыялістаў маскоўскага кшталту, перакінулася і ў наш спакойны, ціхі край і пагражае захлынуць сваім разгільдзяйствам лагоднасць нашага народу. З усіх бакоў нясецца крык роспачы і жаху. Адозвы, прамовы, пагрозы і ўгаворы не спыняюць нікога й нічога. Салдаты, каторых пусцілі з фронту дадому, не зважаючы ні на вошта, сунуліся ўсе адразу і захапілі ўсе чыгункі. Кажуць, што такога зграмаджэння па станцыях не могуць уявіць сабе нават расійскія грамадзяне, каторыя набачыліся ўсяго на свеце. Салдаты пагражаюць жалезнадарожным служкам пагромамі і расстрэлам. Трапляецца часта, што служачыя разбягаюцца, кінуўшы ўсё чыста на Боскую волю... Становіска ў Расіі ўтварылася такое, што яго ніякім чынам лічыць нармальным не можна. А тым часам у гэтым моры нечуванага бязладдзя маюць адбыцца выбары да Устаноўчага Сойму. Калі ўзяць яшчэ пад увагу, што насяленне саўсім непадгатаванае да выбараў, што ўсе сем месяцаў волі прайшлі ў пустых лемантацыях на мітынгах і пагрозах «буржуям», у тых барбарскіх пагрозах, каторыя маюць скуткам знявагу, дзікую злосць і недаверра да ўсяго культурна-асвечанага і грамадскі-выхаванага, дык трэба

зазначыць, што агульнадзяржаўны Сойм, нават калі б ён і адбыўся, нічога не паправіць і нікога не збавіць па той простай прычыне, што не будзе мець ні аўтарытэту, ні дзяржаўнай вагі.

Некаторыя гарады на поўдні просяць адкласці выбары на месяцаў колькі. Немаведама дзеля чаго існуе дэмакратычная Рада. Казацтва на Доне патрабуе, каб іх выдзелілі ў асобную выбарную акругу, матывуючы сваю вымогу тым, што пры цяперашніх варунках, калі казацтва распарушана па фронту, яно не спадзяецца выявіць даладне волю свайго народу. Наш край запоўнен войскам і чужынцамі, мясцовыя арганізацыі, дзякуючы ваеннай калатніне, адціснуты ўбок, і ў сацыялістычных спісках кандыдатаў у Сойм мігацяць імёны расійцаў, палякаў і нават грузінаў (!). Пры такіх умовах можна сказаць, напэўна, што Беларусь не будзе справядліва прадстаўлена на Устаноўчым Сойме, і мы павінны заўважыць раней, што пастановы Сойму не здаволяць беларускіх патрэб, а праз тое для нас, маючых права на ўласнае самаадзначэнне, яны не павінны быць *устаноўчымі.* Мы, дамагаючыся палітычна-тэрытарыяльнай аўтаноміі Беларусі, не можам добраахвотна скарыцца і прызнаць волю загадчыкаў маскоўскага імперыялізму, як бы яны ні харашыліся чырвоным сцягам сацыялізму.

Мы, беларускія сацыялісты, як шчырыя і верныя служкі свайго народу, павінны напружыць усе свае сілы і далажыць усіх захадаў, каб вытлумачыць працоўнай беднаце свайго краю, што яна глыбока памыліцца, калі даверыцца абяцанкам надворных людзей, усіх тых сваякшталтных сацыялістаў, у каторых там айчына, дзе тлуста жывецца. Абяцанка-цацанка і толькі аднаму дурню радасць. Мы павінны цвёрда памятаць незабытныя словы Бебеля, каторы сказаў, што ён перш за ўсё сын сваёй бацькаўшчыны, а потым — сацыяліст, і памятаючы гэта, несці святло нацыянальнай свядомасці ў сёлы, вёскі, мястэчкі — пад чорную страху селяніна, у цёмны куток пралетарыя. Мы павінны зрабіць гэта, мы павінны ўсвядоміць іх, што наша збавенне — у нацыянальным адраджэнні, у адбудаванні жыцця свайго на грунце ўласнага, нацыянальнага існення. Ніхто нашых патрэб не разважыць і не мае права разважаць, апроч нас самых. Нашым Устаноўчым Соймам павінна быць наша Беларуская Краёвая Рада. Тым мы выкажам думкі свае, выллем боль сэрца свайго і паломім дашчэнту тыя праклятыя ёрмы нацыянальнай няволі, што вякамі трымалі нас у здзеку, пакуце і паняверцы, выцяг-

ваючы з нас жылы нашы. Там, на сваім Устаноўчым Сойме, вольна загамоніць Беларусь на цэлы белы свет — развяжыць свае справы, апрацуе план будаўніцтва, уложа статут свайго незалежнага нацыянальнага істнення і вынесе яго дзеля ўзаемнай ухвалы на Устаноўчы Сойм усіх народаў Дзяржавы Расійскай.

## *Петраград*

(Ад нашага карэспандэнта)

На дэмакратычнай парадзе, адбыўшайся ў месяцы верасні ў Петраградзе, прадстаўнікамі Цэнтральнай Рады беларускіх арганізацый былі: Варонка*, Душэўскі**, Жылуновіч***, Сабалеўскі****, Мамонька***** і Фальскі******.

Ад імені Бел. Цэнтр. Рады грамадзянінам Варонкам была прачытана дэкларацыя, глаўнейшыя пункты каторай такія: абвяшчэнне Расійскай Дэмакратычнай Федэратыўнай Рэспублікі з забеспячэннем правоў меншасці; утварэнне Рады па нацыянальных справах, якая выбірала б спаміж сябе міністра нацыянальных спраў; абвяшчэнне раўнапраўнасці ўсіх моваў у судзе, школе, упраўленні; прызнанне права за ўсімі народамі Расіі склікаць свае нацыянальныя Устаноўчыя Соймы; нацыяналізацыя войска; неадкладная патрэба зрабіць самыя энергічныя захады да дэмакратычнага міру і некаторыя другія.

Прадстаўніком Цэнтральнай Рады беларускіх арганізацый у прадпарламенце будзе грамадзянін Варонка і прадстаўніком Бел. Сац. Грамады — старшыня яе Цэнтральнага Камітэту — Жылуновіч.

---

* Варонка Язэп Якаўлевіч (1888—1943) — адзін з лідэраў БСГ, старшыня першага ўрада БНР.

** Душэўскі Клаўдзій Сцяпанавіч (1891—1959) — бел. культурны і грамадскі дзеяч.

*** Жылуновіч Зміцер Хведаравіч (1887—1937) — беларускі пісьменнік (Цішка Гартны) і грамадскі дзеяч.

**** Сабалеўскі Дзмітрый Міхайлавіч (1886—1961) — выкладчык беларускіх школ Петраграда, аўтар «Схемы автономной Белоруссии в составе общероссийской федерации».

***** Мамонька Язэп — дзеяч. бел. нац. адраджэння. У 1917 г.— член ЦК БСГ, у 1918—1919 гг. займаў розныя пасады ва ўрадзе БНР.

****** Фальскі Усевалад Сцяпанавіч (1886—?) — у 1917 г. член Беларускага нацыянальнага камітэту ў Менску.

## *Совет Российской Республики*

Хто цешыцца кемкаю памяццю, той, напэўна, памятае, што ў Петраградзе існуе «предпарламент», або Совет Республики. Гэты Совет Республики мае сваім заданнем замяніць Устаноўчы Сойм да яго склікання і будзе замяняць Устаноўчы Сойм, калі ён, дзеля тых ці іншых прычын, не будзе склікан. Гэта вышэйшая расійская інстытуцыя, каторую ўтварыла «ўсерасійская дэмакратычная парада» ў Петраградзе і каторая з'яўляецца вышэйшым прадстаўніцтвам і нават у дзе-якіх выпадках заканадаўчым ворганам,— пазваляе нам судзіць аб тым, чаго мы маем спадзявацца ад той установы, каторую яна цяпер замяняе і каторая мае сабрацца ў Маскве або ў Петраградзе. Совет Республики — гэта роднае дзіця расійскай (маскоўскай) дэмакратыі, і чыннасць яго паказвае ўсе тыя карты, каторыя будзе трымаць так званы ўсерасійскі Устаноўчы Сойм. Нават больш за гэта, бо да Устаноўчага Сойму трапяць і прадстаўнікі цэнзавых элементаў і можна будзе думаць, што воля расійскай дэмакратыі не магла як след выявіцца, як яна можа выявіцца цяпер, у Совет Республики, дзе ёй ніхто не замінае і нават сам Урад прад ёй адпавядае. Вот і цікава — як жа ставіцца гэта расійская дэмакратыя да спраў нацыянальных дамаганняў, да патрэб недзяржаўных нацый?

Шмат хто песціў надзею, што дэмакратыя, каторая ў сваіх адозвах да ўсяго свету абдарае ўсіх чыста ўсялякімі аўтаноміямі, у першую чаргу, як атрымае ўладарства, зверне ўвагу на сваіх суседзяў — на ўкраінцаў, беларусаў, і патурбуецца знішчыць цяжкую спадчыну маскоўскага царызму. Усе вуглы на вуліцах, каменне ў бруку даволі наслухаліся, што расійская дэмакратыя нясе права на самаадзначэнне ўсім народам і не дазволіць, каб адна нацыя ўладала другою. Тым часам, напіс на чырвоным сцягу лгаў, абяцанка засталася цацанкай, і расійскі дэмакрат, ласкава пашыраючы сваю дабрату на тых, каму яна не патрэбна і хто фатыгі яе не патрабуе, стрэла дэкларацыі беларусаў, украінцаў і інш. у Совете Рэспублики крыкам, шыканнем і выскаляннем. А калі расійскай дэмакратыі паказвалі на чырвоны штандар, дык яна тыкала пальцам у пустапарожнае месца ды казала: «Пачакайце — вось будзе Устаноўчы Сойм!..»

Мы ніколі не пакладалі надзей на маскоўскую дэмакратыю, мы не чакалі падмогі ад расійскіх сацыялістаў і заўсёды клікалі парваць зносіны з тымі, хто сам сябе парадзіць

не можа. Мы заўсёды казалі, што маскоўскі сацыяліст цяжка хвор на самадзяржаўны цэнтралізм і што там, на Маскоўшчыне, разбой, анархія і несцалёнае разгільдзяйства. Хворага трэба лячыць, але перш забяспечыўшы сябе ад заразы. І цяпер, поўныя веры ў творчую сілу сваёй нацыі, мы звяртаемся да сваіх чытачоў, прыхільнікаў і спагадачоў ды кажам: хіба вы не ведаеце, што наш край пазбаўлен свайго права ў сваёй хаце і не зможа паслаць да Устаноўчага Сойму таго, каго б ён хацеў паслаць? Хіба вы не бачыце, што ў нашай хаце пануе маскаль-цэнтраліст, каторы, абвязаўшы свой твар чырвонай хусткай, пройдзе ад нас і да Устаноўчага Сойму? І працаваць ён там будзе не для нас, не на карысць той нацыі, коштам каторай гадуецца. Хіба мала вам прыкладаў з нашымі меськімі думамі? Пара кінуць вясці кампанейства з безнадзейна нядужым і заразліва хворым: настаў час упэўніцца, што там Масква не дасць нам палёгкі. Наша будучына ў нашых руках, і наш Устаноўчы Сойм павінен быць на нашай слаўнай Беларускай зямлі. Продкі нашы заўсёды цураліся Масквы і змагаліся з ёю і наказалі нам жыць сваім уласным беларускім жыццём, справуючыся праз свой беларускі Краёвы Парламент.

## *Вялікая Беларуская Рада*

Беларускі нацыянальны рух набірае сілы стыхійнасці. Нацыянальная свядомасць раптоўна абуджаецца не толькі сярод арміі, але і ў сёлах, вёсках і засценках. Адчуванне гэтай магутнай сілы нацыянальнага пачуцця моцна адбілася на чыннасці другой сесіі Цэнтральнай Рады беларускіх арганізацый, каторая, апіраючыся ўжо на рэальную сілу вайсковых арганізацый, абвясціла сябе *Вялікай Беларускай Радай* і выдзеліла з паміж сябе Выканаўчы Камітэт, каторы ў поўным зборы будзе складаць так званую Малую Раду. Пабудаваная на прынцыпах поўнага дэмакратызму, перадачы зямлі працоўнаму народу і абароны інтарэсаў работнікаў, Вялікая Рада можа сапраўды назваць сябе адпавядальным кіраўніком і прадстаўніком усяго беларускага руху і беларускай справы. І сама цяпер, калі анархія і гаспадарскае бязладдзе разліліся руйнуючай навальніцай па ўсяму цэнтру расійшчыны, беларускі народ утварыў

сабе грунтоўны цэнтр, моцную, непарушную падвалу і, згуртаваўшыся ў адну згодную дэмакратычную сям'ю, здолае захаваць сябе і свой край ад бязладдзя, калатні і заняпаду. Ён здолее зрабіць гэта — у гэтым парукай нам яго здаровы грамадзянскі інстынкт, гістарычнае мінулае і гаспадарнасць нашага хлебароба.

Многа перажыў беларускі народ, многа чорных дзён бачыла наша многапакутная старонка, але нішто не магло зламаць нашага народу. Ён заўсёды заставаўся самім сабою — цвёрдым, дужым, працавітым і гаспадарным. Здолее ён і цяпер абараніцца і захаваць сябе ў гэтым моры расійскай калатніны і руйнавання. Шмат ад чаго ўжо не можна ўхіліцца, паднявольнае суседства з Масквою не прамінулася для нас без шкадлівага ўплыву, але шмат што магчыма паралізаваць, калі кіраўнічыя Рады здолеюць стаць на пэўны грунт і ўтрымаюцца на высокасці свайго прызначэння. На жаль, сярод сябрукоў Выканаўчага Камітэту пападаюцца элементы саўсім выпадковыя, не разумеючыя вялікіх заданняў нацыянальнага адраджэння і зацікаўленыя больш дэмагагічным уплывам або няздольныя да рэальнай палітычнай і культурнай працы. І калі яны самі не сцямяць свае непатрэбнасці і нікчэмнасці там, дзе ўсё павінна гарэць святым агнём ахвярнасці ідэі адраджэння, дык час выцісне іх сам, як здаровы ачуньваючы арганізм выціскае з сябе ўсё шкадлівае і недарэчнае, што трапіла туды пад час яго кволасці і безбароннасці. Мы пэўны ў гэтым — мы пэўны, што кіраўніцтва Беларусі ачысціцца ад выпадковага, наводнага элементу, адшпурне яго прэч ад сябе і, набраўшыся аднастайнасці, згоднасці і святога закахання ў гвязду нашай айчыны, знойдзе сабе і адпавядальных, шчырых, з дзяржаўнай мудрасцю людзей і кіраўнічых. І будучы прakананыя ў дзяржаўнай здольнасці нашага народу, мы вітаем Вялікую Беларускую Раду і зычым ёй добрай параднасці на пачатку яе вялікай працы і ўсклікаем: «Няхай жыве вольная Беларусь!»

## *Паўстанне і нашыя заданні*

Карыстаючыся з агульнадзяржаўнага бязладдзя і жадання ў салдатаў неадкладнага міру, «бальшавікі» распачалі ў Петраградзе паўстанне, арыштавалі Часовы Урад

і забралі ўласць у свае рукі. Яшчэ змаганне за ўладарства ў дзяржаве не скончана — па гарадах ідуць бойкі, льецца кроў, руйнуюцца гістарычныя помнікі і культурныя здабыткі, і трудна, праўда, упэўніцца, чым гэта скончыцца, але адно ясна, што ні «бальшавікі», ні згодна складзенае міністэрства і ні жадны іншы ўрад з Масквы ці з Петраграду ўстанавіць парадку не можа. Не ўстановіць яго і той агульнадзяржаўны Устаноўчы Сойм, на каторы дзе-хто пакладае надзеі і да склікання каторага так млява і нядбала гатуюцца. Падзеі апошняга часу засланілі Устаноўчы Сойм, і калі нават ён і не разаб'ецца а скалы палітычнай бурай і сабярэцца ў тэрмін, дык кожнаму відочна, што ён нікога не здаволіць, парадку не ўстановіць і нічога не зробіць, як нічога не зрабіла т. з. Рада Рэспублікі, пабудаваная па прынцыпу вялікадзяржаўнага цэнтралізму.

Хто дбае аб культуры, хто стаіць за грамадскі лад, за дэмакратызм і еднасць Дзяржавы Расійскай, той мусіць адказацца ад надзеі завядзення парадку з цэнтра і рашуча стаць на грунт федэралізму. Палітыка дзяржаўнага цэнтралізму валтузіць поступ грамадзянскага адбудавання, спрыяе авантурнасці, і ніводзін народ Расіі не можа памірыцца з дыктатурай велікарускай народнасці, каторая не здолела яшчэ прабудзіць у сабе пачуцця нацыянальнага самапазнання.

Палітыка ўраду Керанскага і «предпарламенту» паказала ясна, што паразуменне адтуль чакаць не прыходзіцца. Расійскі «бальшавізм» спрыяе нацыянальным дамаганням і повен жадання здаволіць самыя крайнія дэмакратычныя вымогі, але нядоля яго ў тым, што ён нежыццёвы, не мае грунт і асуджан на знішчэнне. Тут дапраўды справядлівы словы: падняўшы меч, ад мяча і згіне. Становішча з кожным днём горшае, і выйсце з яго толькі адно: як найхутчэйшае скліканне паасобных краёвых устаноўчых соймаў. Украінцы, беларусы і велікарусы, казацтва, Сібір і ўсе аб'яднаныя краі здолеюць кожны паасобку ўтварыць лад і грамадскі парадак, а ўпарадкаваўшы дома, патрапяць устанавіць і агульнадзяржаўны парадак праз сваіх прадстаўнікоў у Маскве ці ў Петраградзе.

Краёвыя соймы ў трывожны час дзяржаўнай калатніны з'яўляюцца канечнай патрэбай дэмакратычнага захісту і захавання тых правоў і вольнасцей, каторыя намі здабыты такім коштам і напружаннем грамадскіх сіл. Хваля рэвалюцыйнасці дайшла да астатняй магчымасці і на моцы законаў падзення адхлыне назад з такой жа шпаркасцю, з якой

шугалася ўперад. І ніхто з пэўнасцю не можа сказаць, дзе само, у якім месцы, на якой палітычнай камбінацыі яна супыніцца. І толькі краёвыя соймы могуць устрымаць хвалю контррэвалюцыйнасці і захаваць дэмакратычныя заваянні. У гэтым — ядыны ратунак, ядынае выйсце з таго скрутнага становішча, у якім апынуліся мы, дзякуючы дзяржаўнаму цэнтралізму, прышчэпленаму расійскай дэмакратыі самадзяржаўным панаваннем.

Краёвая Беларуская Рада стала на чаргу дня і кліча на работу ўсіх, хто любіць свой край, хто жадае яму лепшай светлай будучыны і не хоча загінуць у моры бязладдзя, калатні і заняпаду.

## *У Выканаўчым Камітэце*

31-га кастрычніка адбылося звычайнае паседжанне В. Камітэту Вялікай Рады. На павестцы дня стаялі: даклады загадчыкаў аддзелаў і, паміж іншым, адносіны да газеты «Вольная Беларусь». Усе даклады, якія чыталіся, і прамовы, якія гаварыліся, у большасці вяліся на расійскай мове. За вылучэннем 3—4 сябрукоў Камітэту, рэшта гаварыць па-беларуску не ўмее. Трэба думаць, што гэта з'явіска выпадковае і з часам беларуская мова запануе там, дзе яна павінна горда зычэць і красавацца. Людзі, стаўшыя на чале беларускага руху, павінны навучыцца і чытаць, і пісаць, і гаварыць па-беларуску. На праціўны выпадак, яны, самі таго не бажаючы, будуць руйнаваць адной рукою тое, што пабудуюць другою. Гэта так, і пасылацца на прыклад сіяністаў нам, беларусам, не выпадае...

Жыццё нашае злажылася так, што калі беларус прыватна размаўляе па-польску, дык гэта лічыцца безумоўна дрэнным; але калі беларус без канечнай патрэбы гутарыць па-расійску, дык гэта лічыцца звычайным і заганы не выклікае. Трэба быць справядлівым, а гэтай справядлівасці мы дасягнём тады, калі будзем трымацца свайго роднага, беларускага.

З дакладаў выслуханы быў даклад П. Бадуновай*, за-

---

* Бадунова Палута Аляксандраўна (1885—1938) — настаўніца, у 1917 г. сябра ЦК БСГ, з 1918 — адна з лідэраў Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў.

гадчыцы па бежанскіх справах і па справах дапамогі ахвярам вайны і страціўшым працаздольнасць. Чакалі дакладаў з другіх аддзелаў, але яны не былі яшчэ падгатаваныя. Кааптаваны ў загадчыкі аддзелу прасветы, Я. Лёсік заявіў, што ён ахвотна згаджаецца працаваць прыватным і звычайным сябруком аддзелу, але адмаўляецца быць яго загадчыкам, матывуючы гэта тым, што ён, як неабраны сябрук, не можа ўзяць на сябе жаднага загаду. Выканаўчы Камітэт мае права кааптаваць карысных для справы людзей,— тлумачыў далей Лёсік,— гэта права яму надана Радаю, але ў самой Радзе дзе-хто голасна выказваўся проці яго кандыдатуры ў В. Камітэт і ніхто з тых, хто цяпер стаіць за яго кааптацыю, не пратэставаў». Такім чынам, яго кандыдатура, сабраўшы толькі 4 галасы, была правалена на Радзе. На моцы гэтага, ён не лічыць для сябе магчымым увайсці ў склад В. Камітэту праз кааптацыю і, тым больш, згадзіцца быць загадчыкам таго ці іншага аддзелу. Сабранне, выслухаўшы гэту заяву, аднастайна ўхваліла выбраць іншага загадчыка аддзелу прасветы.

Што датыча пытання аб адносінах Камітэту да газеты «Вольная Беларусь», то з прамоў пагаджаных выявілася, што дзе-хто сярод сябрукоў Камітэту абразіўся перадавым артыкулам, выдрукаваным у № 27 нашай газеты і, як гэта часта бывае, перанёс сваю асабістую абразу на ўсю інстытуцыю. Адзін з сябрукоў Камітэту дык нават вышукаў у нашым артыкуле «сепаратызм», знайшоўшы яго ў выразе «паднявольнае суседства з Масквою». Тут ужо дапраўды, калі хто баіцца, дык з куста зробіць ваўка,— страх і цемра маюць вочы шпаркія. Развіваючы сваю думку, ён, паміж іншым, зазначыў, што Беларусь заўсёды жыла паднявольным жыццём,— то пад Маскоўшчынай, то пад Польшчай (!), і тут нічога ганебнага няма, а калі паднявольнае жыццё з Масквою падкрэсліваюць, дык тут ужо сепаратызм... Маскоўцы могуць спаць спакойна—яны маюць добрых абаронцаў сваіх цэнтралістычных пажаданняў!

Рэшта ж тапталася на тым месцы стацці, дзе гаварылася, што «сярод сябрукоў Камітэту пападаюцца элементы саўсім выпадковыя». І за гэта рыхталіся пакараць газету. Асабліва горача і старанна ўвіхаліся каля гэтага А. Смоліч і П. Бадунова. Апошняя, дарэчы сказаць, ні чытаць, ні гаварыць па-беларуску не ўмее. Яе-то, мабыць, мала абходзіць росквіт беларускага друкаванага слова, недарма ж яна аднакраць выславілася, што такой бяды, калі не будзе беларускай газеты і, разважаючы па сабе, дадала:

«Её всё равно никто не читает». І цяпер, плаваючы ў каламуце дэмагогіі, яна абражана гукала, што, «надрукаваўшы стаццю процiў нас, не любіць свайго краю. Гэта, гэта...» і т. д. Відаць было, што яна і лічыла сябе тым выпадковым, зацікаўленым дэмагагічным уплывам, элементам, што трапіў у В. Камітэт. Смоліч — дык той ставіў пытанне рубам: мы — або газета, і немаведама, чым бы справа кончылася, каб гэты судовы трыбунал не быў перапынены. Устаў Тарашкевіч і заўважыў, што ніхто не мае права судзіць газету за яе погляды, і гэта пытанне трэба зняць з павесткі дня.

Прасілі «дать свои показания» і рэдактара. Хтось зацікавіўся псеўданімам прэступнага артыкула. Але цікавасць гэта не была здаволена.

Рэшта пасяджэння прайшла ў разглядах бягучых спраў. Чарговая парада В. Камітэту была назначана на той час, калі вернецца са Стаўкі дэлегацыя, каторая паехала туды па справах легалізацыі Цэнтральнай Вайсковай Беларускай Рады і арганізацыі беларускага войска.

## *Сучасны мамент*

Падзеі адбываюцца з галавакружачай шпаркасцю. На дзевятым месяцы волі Расія, апанаваная руйнуючым агнём анархіі, апынулася ў становішчы новай рэвалюцыі, новага змагання. Улады няма. Ніхто не пэвен сёння, што здарыцца заўтра. Дзяржаўная машына круціцца, тарахціць, як дашчэнту сапсаваны гадзіннік. Разлад расце, разбухае і шырыцца. Разгойданыя хвалі грамадскага руйнавання захлынулі сабою ўсё людское жыццё.

Восем месяцаў волі прайшлі ў бязглуздым распальванні злосці, восем месяцаў патрачана на палоханне контррэвалюцыяй. У класавай нянавісці, у руйнаванні здабыткаў рэвалюцыі бачылі мэту рэвалюцыі, ядынае заданне, патрэбу і ратунак дэмакратыі. У цёмныя, забітыя, поўныя гневу масы шпурлялі, як пылаючыя махнушы, лозунгі і заклікалі не да працы, не да творчай работы, а на руйнаванне народам здабытага грамадскага дабра. Расійская дэмакратыя, пад сцягам каторай адбываліся ўсе падзеі рэвалюцыйнага часу, як бы адчуваючы ўласнае бяссілле, мэрам наўмысля, толькі тое і рабіла, каб спраўдзіць словы: хоць дзень, але

мой. Ясна, што з цэнтра ратунак не прыйдзе. Украінцы, Сібір, малдаване і ўсе іншыя арганізаваныя народы Расіі парвалі зносіны з цэнтрам і горача ўзяліся за грамадзянскае адбудаванне кожны паасобку. Адна Беларусь маўчыць, толькі яна чагось жджэ, на штось спадзяецца. Усе народы Расіі з жахам адхіснуліся ад таго, што робіцца ў Петраградзе, адна Беларусь не можа парваць з заразным і безнадзейна хворым арганізмам. Прыступіць да захавання свайго краю ад загібелі — яшчэ не значыць аддзяліцца, і беларускаму грамадзянству пара кінуць старыя забабоны і нябаўна пачаць працу па адбудаванню свайго краю коштам уласных сіл і заходаў. Гэтага вымагае ад нас сучасны мамент, дабрабыт, росквіт і доля нашай айчыны; да гэтага валае нас патрэба ўласнага захавання і страх перад тым горам, слязьмі і грамадзянскім заняпадам, што чакаюць нас у будучыні, калі ў свой час не ўжыць патрэбных заходаў. Гэты час настаў, гадзіна дванастая прабіла...

Анархічная зараза, нахлынуўшая на нас з цэнтра, ахапіла ўвесь наш край ад краю да краю. Штодня прыносяцца жахлівыя весткі — што пагромы, гвалт і руйнаванне разліліся па ўсёй шырокай Беларусі. Панскія маёнткі, лясы, сядзібы, усё грамадскае дабро паліцца, крышыцца, нішчыцца або псуецца на вякі. Гіне скарб, пустошыцца край, гарыць народнае дабро. І хто ж дасць ратунак нам, як не мы самі? Хто дапаможа нам, калі кожан затурбован сабой? Украіна гасіць пажар сама і цераз мора бушуючага агніска падае нам раду ўласнага ратавання.

Вялікая Беларуская Рада — айчына ў небяспецы! На сцені Белай Русі паўстаў покліч айчыны: паўстаньце ўсе, як адзін — ратуйце свой край ад згінення!

## *Шлях паратунку*

Расіі няма, і толькі па старай звычцы мы шукаем рэальнага зместу там, дзе засталася фікцыя. Расійская дэмакратыя, якая са сваіх партыяў і грамадскіх арганізацый выдзеліла правіцельства старога і новага ўраду, збанкрутавала, як дзяржаўна-творчы арганізм. Велікаруская нацыя падзеямі апошняга часу выявіла поўнае невуцтва ў справе дзяржаўнага адбудавання. Бальшавізм — гэта культурны і грамадскі барбарызм, а тым часам велікарускае гра-

мадзянства, не гледзячы на сваё абурэнне, нічога зрабіць з ім не можа. Грамадскі лад і дзяржаўная гаспадарка зруйнаваны дашчэнту, а расійская дэмакратыя ахоплена смяртэльным паралюшам заняпаду, толькі скардзіцца, ные і сударожна трымаецца за згніўшы слуп маскоўскага цэнтралізму. І калі цяпер не ўжыць усіх патрэбных захадаў дзеля ўстанаўлення сталага ладу і дзеля ўласнага захавання, дык хваля руйнуючай анархіі захлыне сабой усіх і ўсё. Бачачы гэта, усе народы і паасобныя вобласці Расіі горача завінуліся каля адбудавання ўласнага жыцця, маючы на ўвазе зноў аб'яднаць Расію на грунце федэральнага ладу. І Генеральны Сакратарыят Украіны ўзяў на сябе ініцыятыву арганізаваць федэральны ўрад, каторы можа ўтварыцца ў нас, на Беларусі, у г. Магілёве. Гэта ядыны шлях паратунку — іншага і лепшага выйсця з цяперашняга становіска няма. Бальшавіцкі ўрад народных камісараў, каторы не прызнаецца ні сваімі, ні чужымі, правамоцным лічыцца не можа дый не здацен ён на творчую дзяржаўную работу, як і ўся наогул велікаруская дэмакратыя. «Суждены имъ благіе порывы, но свершить ничего не дано».

«Балоцістая Архангельшчына і лясістая Валагодчына,— піша «Новая Рада»,— не гралі ў гісторыі Расіі ніякай вызначанай ролі і не будуць граць, і таму да бажання Украіны, Каўказу, Дону, Кубані, Бесарабіі — гэтых найбагатшых краёў — мусіць прылучыцца Вялікарасія, якую Надволжскі край ні прагадаваць, ні ўратаваць не зможа. Велікарускі народ страціў дзяржаўнае кіраўніцтва і мусіць цяпер, нараўне з іншымі, пасланць сваіх прадстаўнікоў у Федэральную Усерасійскую Раду, якая выбярэ цвёрды і пэўны Урад, каторы прызнаюць усе края і ўсе народы».

## *Скуткі бальшавіцкага паўстання*

Паўстаннем у ноч з 24 на 25-га кастрычніка бальшавікі скінулі кааліцыйны, напоўсацыялістычны ўрад і забралі ўладу ў свае рукі, утварыўшы т. званае «Рабочее и крестьянское правительство». Разумеецца, што гэта байкі, калі бальшавікоў называюць здраднікамі і нямецкімі шпігамі. Такімі байкамі і ганебнымі плёткамі хітрыя людзі звыклі палохаць дурных і сквапных на таемныя гаворкі грамадзян. Такія людзі гатовы распусціць чуткі, што бальшавікі заміж

гарэлкі п'юць кроў і закусваюць маленькімі дзяцьмі. Людзі, каторым не пад сілу ідэйнае змаганне са сваімі супраціўнікамі, шмат на што адважваюцца. Прыпамятайма, як казалі пра рэвалюцыянераў, што яны падкуплены жыдамі, a потым сталі шырыць чуткі пра японскія мільёны. Тут дарэчы нагадаць, як даўней паганцы ў Рыме казалі на хрысціян, што яны п'юць людскую кроў, а з часам гэтыя ганебныя нагаворы хрысціяне, добра ўмацаваўшыся, перакінулі са свае галавы на жыдоўскія плечы, і цяпер сярод простага беларускага народу існуе легенда пра жыдоўскую мацу.

Распускаючы нагаворы пра хрысціян, паганцы мелі на ўвазе тое, што хрысціяне прычашчаюцца цела і крыві Хрыстуса, а цяперашнія выдумшчыкі пра бальшавікоў, не разумеючы іх ідэёвых заданняў, ганебна тлумачаць погляд бальшавікоў на вайну і адносіны да нямецкага пралетарыяту. З бальшавікамі можна і трэба змагацца ў наш небяспечны час усімі заходамі, але бэсціць людзей і плясці на іх усялякую брыдоту — не гожа; гэта значыць — пляміць самых сябе. З бальшавікамі трэба змагацца дзеля таго, што яны рыхтуюць завесці ў дзяржаве такі грамадзянскі лад, да каторага людзі яшчэ не дараслі. Уводзіць у нас, пры нашай гаспадарскай і грамадскай адсталасці, сацыялістычны лад — гэта ўсё роўна, каб хто захацеў з малога хлопца раптам зрабіць дзецюка ды стаў бы цягнуць яго за вушы ўверх. Разумеецца, апроч калецтва, з гэтага нічога б не выйшла. А тым часам бальшавікі робяць нешта падобнае з Дзяржавай Расійскаю, і мы бачым, што скуткам іх заўчаснай чыннасці пабольшваецца бязлад, калатніна і заняпад, хоць яны шчыра жадаюць дабра працоўнаму народу, але гэтак, як шкадавала адна жаласлівая бабка свайго хворага на тыфус унука. Унук плакаў ды ўсё прасіў даць яму бульбы, каторае пры тыфусу не можна есці. Бабуля змілавалася ды дала, а ўнук з'еў ды памёр.

Нам, беларусам, трэ асабліва ўважліва ставіцца да ўсялякіх цёмных нагавораў, бо ці раз чулі мы, як ворагі нашы на розныя лады бэсцілі нас, называючы святую справу адраджэння нашага народу польскаю інтрыгаю, каторая падтрымліваецца коштам тутэйшых паноў дзеля прылучэння, нібыта нашае бацькаўшчыны да Польшчы. Чаму да Польшчы ганебна прылучаецца і дзе яны чулі, што беларусы жадаюць да каго-небудзь прылучыцца,— яны гэтага не тлумачаць. Не тлумачаць яны і таго, што ў Польшчы жыве гэтакі самы працоўны народ, як і мы,— не горшы і не лепшы за расійцаў ці які іншы народ. Іх гэта

мала абходзе, але гадаўе гэтае добра кеміць, куды гразёю шпурляе. Яны разумеюць, што нашае сялянства, дзякуючы прыкрым гістарычным умовам, звыкла разумець пад палякамі мясцовых паноў-перакінчыкаў і ўсю ганьбу і злосць да паноў-землеўласнікаў пераносе на ўвесь польскі народ, не ведаючы яго і абражаючы людзей саўсім не вінаватых. Так нягодныя людзі каламуцяць воду. Ім бы толькі запалохаць і пасварыць людзей, пашанцавала б толькі растачыць паміж іх калатню, а ўжо потым, стоячы збоку, яны скарыстаюць. Справа тут не ў паляках і не ў расійцах — ворагам нашым наогул не падабаецца рух нацыянальнага адраджэння нашага народу, а яны ведаюць, што беларусы ні да кога не захочуць далучыцца, бо ўжо — калі на тое пайшло — дык лепш мы самі каго-небудзь прылучым да сябе, чым меліся прылучыцца да каго.

Усё гэта, вышэй памянёнае, сведчыць пра тое, як уважна трэба адносіцца да таго, што чуткамі і нагаворамі пашыраецца, і перш, як даць веры, трэба справу ўважна разгледзець, зразумець, абмеркаваць, а ўжо потым даваць той ці іншы свой прысуд. Мы, беларусы, неяк заўсёды ўсіх слухалі, і усімі нібыта згаджаліся, а рабілі па-своему. Гэта добрая прыкмета, яе трэба шанаваць. Дык падтрымайма ж свой характар і тут, у справе бальшавіцкага паўстання, разглядаючы падзеі апошняга часу.

Яшчэ не ўмацаваўшыся ў уласці і скрозь змагаючыся за ўладарства, бальшавікі тым часам адразу прыступілі да сацыяльнага (грамадскага) заканадаўства і змен у сацыяльным жыцці людзей. Так, былі выданы дэкрэты: аб скасаванні ўласнасці на панскія землі і аб перадачы зямлі зямельным камітэтам без выкупу; аб прамысловых, фабрычна-завадскіх зменах, аб кватэрным пытанню і, паміж іншым, славэтны дэкрэт аб замірэнні.

Справядлівым або дэмакратычным мірам бальшавікі лічаць нябаўны мір, мір без анексіяў і кантрыбуцыі, г. зн. без выплаты ваенных страт і без захаплення чужой зямлі і без прымусовага, гвалтоўнага прылучэння чужых народаў. Гэтакі мір прапануюць яны зрабіць усім ваюючым народам нябаўна, выслаўляючы гатоўнасць зрабіць зараз жа, без жаднага адкладу, усе рашучыя шагі наўперад, да канечнае ўхвалы сталых умоваў міру паўнамоцнымі зборамі народных прадстаўнікоў усіх краёў і ўсіх нацыяў. Але разам з тым бальшавіцкі ўрад абвясціў, што ён саўсім не лічыць вышэйпамянёных умоваў міру ультыматыўнымі (абавязковымі) і згаджаецца разгледзець і іншыя прапазі-

цыі міру, дамагаючыся толькі яснасці і безумоўнага вылучэння незразумеласці і жаднай таемнасці ў прапазіцыях міру.

На моцы праканання самых бальшавікоў выходзе, што дэмакратычны мір,— мір без анексіяў і кантрыбуцыі, магчымы толькі тагды, калі ўва ўсіх ваюючых дзяржавах пачнецца сацыяльная рэвалюцыя, або паўстанне працоўнага люду проці сваіх угнятацеляў. Гэта будзе тагды, як увесь свет, усе народы прыйдуць к апошняму этапу капіталістычнага ладу і стануць у сенях далёкага светлага царства будучыны, царства *сацыялізму*. Ведаючы, напрыклад, што робіцца ў Германіі і што за граніцаю не чуваць пра рэвалюцыю, можна з пэўнасцю сказаць, што такога міру прыйдзецца чакаць больш, як перамогі над немцам да «пабеднага канца». Ясна, што такога міру мы не дачакаем. Каб утварыць мір на іншых варунках, трэба атрымаць згоду ўсіх ваюючых дзяржаў, і каб ваюючыя дзяржавы прызналі бальшавікоў законным і правамоцным расійскім правіцельствам. Тым часам на бальшавіцкі покліч памірыцца немцы адказалі, што яны не могуць гэтага зрабіць, не ведаючы поглядаў на гэта ўсёй Расіі, а нашы хаўруснікі пагражаюць раздзелам Расіі. Такім чынам, пры бальшавіцкім урадзе канец вайны адсунуўся яшчэ далей, як быў да гэтага часу.

Што датыча раптоўнага скасавання ўласнасці на зямлю, то гэта пагражае страшэнным эканамічным крахам. На грунце зямельнае ўласнасці пабудаваны зямельныя банкі з міліярднымі коштамі, з каторымі цесна звязаны соткі фабрык, заводаў з дзесяткамі тысяч рабочых і ўсялякага служылага люду. Усё гэта павінна будзе прыпыніцца, пойдзе на ліквідацыю і зруйнуе дзяржаўную гаспадарку дашчэнту. І каб гэты зямельны дэкрэт увайшоў у жыццё, дык ці здолеў бы край калі-небудзь паправіцца і ці не спаткала б яго доля жабрачая, доля Персіі і іншых, ей падобных, краін? А покі што мы бачым, што гэты непрадуманы дэкрэт аб зямлі, апроч шкоды для самога народу, нічога добрага не даў. Пайшлі пагромы, грабункі і бязглуздае нішчэнне ўсяго грамадскага дабра. Сякуцца без ладу лясы — краса і багацце нашага краю, паляцца і руйнуюцца дашчэнту маёнткі, гістарычныя будынкі і культурныя здабыткі. Народ, як бы праканаўшыся, што абяцанка — цацанка, пачынае ў роспачы бурыць тое, на што пасягае, і такім чынам руйнуе той грунт, на каторым павінна будавацца новае, лепшае жыццё.

Бальшавікам удалося забраць уладу ў свае рукі толькі

дзякуючы таму, што яны сваімі дэмагагічнымі абяцанкамі згуртавалі каля сябе частку патомленых вайною салдатаў, матросаў і рабочых, жадаючы неадкладнага міру. Тым часам усё грамадзянства, апроч тых, хто актыўна прычыніўся да паўстання, не згаджаецца прызнаць бальшавіцкага ўраду, захапіўшага ўладу дзякуючы загавору і гвалтоўству. Пачалася грамадзянская вайна. Проціў бальшавікоў паўсталі і ўсе тыя сацыялісты, каторыя лічаць заўчасным завядзенне цяпер сацыялістычнага ладу і прызнаюць немагчымым парадак пралетарскай дыктатуры. Салдацкімі штыкамі і ўзброенымі рабочымі, пад час грамадскай утомленасці, можна рабіць загавары і скідаць урады, накладаць цэнзуры, рабіць арышты, наводзіць страхоцце, але ўпраўляць дзяржавай немагчыма. Ніякі штык на свеце не можа прымусіць да працы ўсіх банкіраў, фабрыкантаў, чыноўнікаў, калі яны самі таго не захочуць. І мы бачым, што ахапіўшы ўсіх сабатаж (маўчаліваe ўхіленне ад работы) прывёў да агульнага бязладдзя, анархіі, безрабоцця і голаду і руйнуе дзяржаўную гаспадарку дашчэнту.

Бальшавізм спакусіў цёмныя, несвядомыя масы моцнымі абяцанкамі скончыць вайну, надарыць зямлёю, накарміць галодных, усцешыць бяздольных, прыпыніць калатніну, устанавіць парадак. Тым часам, нічога гэтага ён зрабіць не здолее, і хутка ўсе адхіснуцца ад яго. Тагды ўрад Леніна — Троцкага разваліцца, як папяровая хатка,— гэта напэўна. Многа нарабіў шкоды бальшавізм, а яшчэ большая небяспека чакае нас наперадзе. Народ утаміўся і перажыў усе стадыі сацыялістычных абяцанак. Гэтыя абяцанкі нічога, апроч утомы і зняверра, яму не далі. Бальшавізм — гэта астатняя хваля рэвалюцыйнага руху — далей пасувацца некуды. Ад гэтага часу рух рэвалюцыйнага поступу пачне здаваць назад і — хто скажа, гдзе гэтае адступленне назад супыніцца? Хто можа быць пэўным, што не з'явіцца ў гэты цяжкі час грамадскага заняпаду які-небудзь Напалеон і не пастараецца завесці парадак на свой густ і разуменне? Недарма ж кажуць, што бальшавіцкае паўстанне — загібель для рэвалюцыі. І народ ужо не зможа змагацца з Напалеонам. Гэта відаць з прыкладу бальшавіцкага паўстання. Проціў бальшавізму абурылася ўсё грамадзянства, і само бальшавіцкае паўстанне адбылося за дапамогаю невялічкіх гурткоў салдатаў і ўзброеных рабочых, а тым часам тысячы ўсялякіх арганізацый, як с.-р., сялянскія хаўрусы, кааператывы, пачтовыя і жалезнадарожныя хаўрусы і інш., не маглі спыніць паўстання. Гэтае з'явішча сведчыць пра

тое, што народ страшэнна ўтаміўся і ўладу ў Расіі можа захапіць кожны, хто патрапіць згуртаваць каля сябе ўзброеных людзей.

Ратунку ад контррэвалюцыі трэба шукаць у нацыянальным адбудаванні свайго жыцця. Фінляндзія гэта зразумела даўно, а братняя нам Украіна зрабіла гэта апошнімі днямі, абвясціўшы Украінскую Рэспубліку.

## *Украінская Рэспубліка і этнаграфічныя граніцы*

Цэнтральная Украінская Рада, зазначаючы ў сваём трэцім універсале межы аўтаномнай Украіны, паміж іншым, апавяшчае, што да тэрыторыі народнай Украінскай Рэспублікі належыць *Чарнігаўшчына.* Тым часам, такое агулавае прылучэнне Чарнігаўскай зямлі да Украіны выклікае прыкрыя непаразуменні. Гаворачы аб Таўрыі, універсал падкрэслівае, што Таўрыя належыць да тэрыторыі Украіны *без Крыму*, толькі датычна Чарнігаўскай зямлі не робіцца жаднага вылучэння. Такім чынам, само сабой разумееца, што універсал уважае ўсю Чарнігаўшчыну зямлёй украінскай. З гэткім абмежаваннем этнаграфічных граніц паміріцца не можна. Паветы Старадубскі, Суражскі, Навазыбкаўскі, Мглінскі, а таксама Ноўгарад-Северск, Гародня і наогул уся паўночная столка Чарнігаўшчыны заселены беларускім народам, і гэтыя землі павінны ўвайсці ў склад аўтаномнай Беларусі. Гэта мы павінны цвёрда падкрэсліць, і Вялікая Беларуская Рада павінна нябаўна ўжыць усіх захадаў дзеля палагоджання выкліканага ўкраінскім універсалам прыкрага непаразумення. Нас заўсёды звязвала з Украінай асабліва цёплае брацкае пачуццё, але святая павіннасць перад родным краем і кроўны інтарэс нашага народу прымушае нас заўважыць, што дзе-хто з украінскага грамадзянства сапраўды ўзіраецца на нашае, адвечна беларускае, сквапным вокам імперыяліста. У беларускай літаратуры яшчэ ні разу не быў падкрэслен сумны факт з краіны навучнага і літаратурнага імперыялізму, пра тое, што вядомы на Беларусі ўкраінскі публіцыст С. Яфрэмаў*

* Яфрэмаў Сяргей Аляксандравіч (1876—1937) — украінскі нацыянальны дзеяч. У 1917—1919 гг. лідэр Украінскай партыі сацыялістаў-федэралістаў.

у сваёй, вельмі цікавай кнізе «Гісторыя Украінскага пісьменства» ўсіх даўнейшых беларускіх дзеячаў і пісьменнікаў залічае да ўкраінскіх і, паміж іншым, на вядомы гістарычны беларускі памфлет каштэляна Смаленскага, Мялешкі пасылаецца, як на прыклад даўнейшага ўкраінскага пісьменства. Мала таго, у п. Яфрэмава неяк выходзе так, што і сам «Літоўскі Статут» напісан украінцамі і па-ўкраінску.

Гэты прыклад сведчыць нам пра тое, што покі мы самі не падбаем аб сабе, дык ніхто нам не паспрыяе. Самы шчыры спагадач і прыхільнік перш за ўсё сцеражэ сваё і затурбован сабой. Беларусь страціла абаронцаў мення свайго, і на працягу доўгага часу грабавалі гаспадарку яе. Цяпер на варце інтарэсаў нашага народу стала Вялікая Рада, і яна павінна пільна сачыць за тым, што робіцца навокала, і бараніць маёнтнасць і цэльнасць айчыны сваёй.

## *Нашто нам федэрацыя?*

### I

У Расійскай Дзяржаве жыве шмат усялякіх асобных народаў, як маскалі, або велікарусы, украінцы, мы, беларусы, літоўцы, татары, латышы, грузіны і многа другіх. Усе яны маюць сваю ўласную культуру, мову і звычаі. Царская, дэспатычная Расія трымала іх у няволі, як нявольнікаў у вастрозе. Народы Расіі маўчалі, і мала хто, напрыклад, ведаў, што жывуць на свеце беларусы або ўкраінцы. Пад царскім уціскам трудна было даведацца, што гэтыя два народы маюць сваю ўласную гісторыю, літаратуру, мастацтва і толькі выпадкова, дзякуючы гістарычнаму гвалту і гістарычнай несправядлівасці, апынуліся пад уладарствам маскоўскіх цароў. Увесь час маскоўскага панавання яны жылі маўчалівым, пад'ярэмным жыццём і не маглі падаць свайго голасу, бо маскоўскі ўрад забараніў ім ужываць сваю родную мову. Расійскі ўрад браў у нашага народу грошы і траціў вялікія кошты на тое, каб трымаць яго ў нацыянальнай несвядомасці, перарабляючы ўсіх на адзін маскоўскі кшталт і ведучы так званую абрусіцельную палітыку. Кожны інтэлігентны беларус з вёскі добра памятае, што вычваралі з яго настаўнікі ў школах. Сваім дзіцячым

розумам ён думаў, што так яно і трэба, што гэтым выбіваецца з яго «деревенская дурь», і ні ён сам, ні цёмны бацька яго не маглі скеміць таго, што гэта робіцца па загаду з Масквы, што гэта прышчапляюць яму яд знявагі да свайго, беларускага, ды перарабляюць на маскоўца. Былі наўмысля пабудаваны семінарыі, як бы дзеля таго, каб гатаваць настаўнікаў для прасветы народа, а дапраўды ж — дзеля таго, каб набраць туды сялянскіх дзяцей ды нагадаваць з іх служак для свае абрусіцельнае палітыкі. І мы бачым, што народ наш, не гледзячы на царскія школы, такі цёмны і неграматны, як бы гэтых школаў зроду ў вочы не бачыў. Тым часам, мэта дасягнута, яд царскага абрусіцельства прышчапіўся, і сялянства нашае разам з выхаванаю ў царскіх школах інтэлігенцыяю скрыва глядзіць на сваё роднае. Кожнаму здароваму чалавеку зразумела, што гэта ненармальна і хваравіта, калі чалавек выракаецца свайго роду, але самому хвораму зразумець гэта трудна. Большасць сучаснага беларускага народу атручана гэтым страшным ядам абрусіцельства і, не гледзячы на такое моцнае і цалючае лякарства, як наша рэвалюцыя, ачуньвае паволі. Маса й да гэтага часу непрыхільна ставіцца да беларускага руху, да свайго ўласнага выздараўлення. Тут трэба заўсёды мець на ўвазе, што гэта людзі хворыя, дзеці, заражаныя ядам царату, і дзе-хто, мабыць, смяртэльна... Самадзяржавіе ведала, што рабіла; яно ўмела лгаць і туманіць людзям вочы і, робячы шкоду народу, патрапляла давесці, што сама шкода пойдзе яму на карысць. За прыкладамі хадзіць не трэба, досыць прыпамятаць гарэлачную манаполію. Хто не чуў, што манаполія на гарэлку заводзіцца дзеля захавання народу ад п'янства? Хітра лгаў царскі ўрад, і многа шкоды нарабіў ён і сваім, і чужым. Зараза абрусіцельства так пашырылася і ўмацавалася, што іншы беларус-перакінчык, нават добра асвечаны, баіцца беларушчыны, не раўнуючы, як кручанае стварэнне вады. І страхоцце тут не ў тым, што ён баіцца,— мала чаго іншы баіцца? — а ў тым, што яго атручаны розум не можа зразумець, што ён заражаны злачынна, наўмысля, дзеля таго, каб яго хворае ўяўленне палохала яго «польскаю інтрыгай» і «панскімі штукамі». Вот дзе страхоцце! Яго хворае разуменне не можа ацаніць таго, што гэтая баязлівасць «польскае інтрыгі» зневажае яго самога, падкрэсліваючы яго кволасць і нешанобнасць да сябе і свайго чалавечага гонару.

## II

У дэспатычнай Расіі толькі адзін народ, народ маскоўскі мог вольна развіваць свае прыродныя сілы і здольнасці. Усе іншыя народы былі скуты кайданамі. Ім было забаронена ўпраўляць сваімі справамі, вучыцца ў школах на сваёй роднай мове, і дзе-каму, як ось нам, беларусам, не дазвалялі доўгі час друкаваць кнігі па-беларуску. Гэта так рабілася таму, што ўся ўласць у Расіі была ў руках цара, маскоўскіх паноў-землеўласнікаў, купцоў і фабрыкантаў. Гэтыя людзі дбалі толькі пра багацце свайго краю — Маскоўшчыны або Вялікарасіі, а на ўсе іншыя землі — акраіны глядзелі як на свае спажыткоўныя калоніі, з якіх забіралі ўсе багатствы, а ў замену за гэта нічога не давалі, апроч паліцыі і чужой маскоўскай школы. Праз гэта землі Цэнтральнай Расіі (Маскоўшчыны) усё больш і больш багацелі, а нашы, акраіны, бяднелі. Там будаваліся фабрыкі, заводы, адчыняліся вышэйшыя навучныя інстытуцыі, пракладаліся жалезныя дарогі. З усіх падаткаў, якія збіраў маскоўскі ўрад з нашай Беларусі, нават палавіна не варачалася дадому, а тое, што вярталася, ішло на такія ўстановы, каторыя прыносілі нам адну шкоду, як, напрыклад: паліцыя, чужая школа, земскія начальнікі, чужыя суды, законы і т. д.

Цяпер знішчаны ўсе гэтыя забароны, і ўсе так званыя «недзяржаўныя» народы прыступілі да будавання свайго жыцця, паводле сваіх патрэб, свайго дабрабыту і культурнага росквіту. Усе яны скідаюць векавыя кайданы і хочуць жыць па сваёй волі на сваёй роднай зямлі. Усе яны дамагаюцца такога дзяржаўнага ладу, які забяспечыць ім права на вольны росквіт і дасць змогу стаць гаспадарамі на сваіх уласных нівах. Дзеля гэтага ўсе нацыянальна абуджаныя народы Расіі дамагаюцца перабудовы Расіі не толькі ў дэмакратычную, але яшчэ ў *федэратыўную рэспубліку.* А калі маскоўская дэмакратыя, прагнаўшая за дапамогаю недзяржаўных народаў свайго цара ды, усеўшыся на яго месца сама, стала перашкаджаць федэратыўнаму адбудаванню дзяржавы, дык усведамлёныя і арганізаваныя народы Расіі, як Украіна, Сібір, Казацтва і іншыя, парвалі зносіны з ёю і сталі самі заводзіць свае парадкі і будаваць сваё жыццё, маючы на думцы прымусіць да гэтага і Маскоўшчыну і ўтварыць потым ядыную федэратыўную рэспубліку.

Федэратыўная дэмакратычная рэспубліка — гэта дабравольная суполка вольных дэмакратычных рэспублік,

каторыя дзе-якія супольныя дзяржаўныя справы перадаюць супольнаму (цэнтральнаму) ураду. Гэты супольны ўрад называецца федэральным урадам, і яго ўладзе падлягаюць толькі тыя справы, якія дабравольна, на моцы ўласнай карысці, перадалі яму асобныя рэспублікі. Ува ўсіх іншых справах кожная такая рэспубліка застаецца саўсім незалежнаю.

## III

Вось гэтакі дзяржаўны лад павінен запанаваць у Расіі. Тагды Расія стане багатаю, дужаю і культурнаю. Трэба, каб усе краі Расіі, заселеныя асобнымі народамі, атрымалі палітычную самаўладу, або нацыянальна-тэрытарыяльную аўтаномію, і каб вольна ўтварылі агульнарасійскую федэрацыю. Такімі вольнымі рэспублікамі расійскай федэрацыі павінны быць: Беларусь, Украіна, Літва, Латвія, Вялікаросія, Сібір, землі Каўказу, Фінляндзія, Эстонія і іншыя. Кожная такая рэспубліка павінна мець сваю ўласную дзяржаўную раду або сойм і сваіх міністраў, свае законы і свой уласны дзяржаўны лад. Але дзе-якія справы, як, напрыклад, абарона дзяржавы і іншае, будуць супольныя для ўсіх, бо гэта будзе карысней для ўсіх асобных рэспублік. Дзеля гэтага яны выбіраюць супольны, федэратыўны ўрад, які і будзе парадкаваць тымі супольнымі справамі. Найважнейшымі заданнямі такога федэральнага ўраду павінны быць вышэйшы суд дзеля палагоджання непаразуменняў паміж асобнымі федэратыўнымі рэспублікамі і дагляд за тым, каб добра і правідлова забяспечваліся патрэбы нацыянальных меншасцяў па ўсіх дзяржавах федэрацыі. Федэратыўны дзяржаўны лад забяспечыць вольнае жыццё ўсім народам і пераменіць вялікую турму народаў на панства свабоды і роўнасці. А дэмакратычная рэспубліка забяспечыць і кожнага асобнага чалавека.

Вось дзеля ўсяго гэтага нам і патрэбна федэратыўная дэмакратычная рэспубліка.

## *Нашыя адносіны да агульнадзяржаўнага Сойму*

Украінскі публіцыст Я. Маеўскі напісаў дужа цікавую брашуру на тэмат «Загальноросійскі Установчі Збори». Змест гэтай брашуры паслужыць нам матэрыялам для нашага артыкула. Сам аўтар скрозь кіраваўся інтарэсамі і патрэбамі сваёй бацькаўшчыны, Украіны, а мы з свайго боку, зрабіўшы дзе-якія ўласныя ўвагі, прыстасуем пагляды аўтара да патрэб нашага краю.

Апошні перапіс насялення Расійскай Дзяржавы адбыўся ў 1897 г. З таго часу агульнадзяржаўнага перапісу не было, але дзе-якія мясцовыя спробы перапісу рабіліся, і вось па гэтых спробах можна рахаваць, што за 20 год у Расіі пабольшылася людзей на 40 %; такім чынам, калі не рахаваць Польшчы і Фінляндзіі, то з 115 мільёнаў душ стала 161 мільён. Разумеецца, паказаную лічбу трэба рахаваць больш-менш пэўнай.

Калі ўзяць на рахунак лік людзей павэдлуг апошняга перапісу і дабавіць туды 40 % прыросту, то, мяркуючы, колькі ад якога народу Расіі пойдзе дэпутатаў у Сойм, саставіцца гэтакая таблічка. Невялічкія народнасці, як якуты, самаеды, тунгузы, на рахунак не йдуць.

| Народы Расіі | Лік у тысячах | Лік прадстаўнікоў у Сойме /1:200000/ |
|---|---|---|
| Велікарусы | 77 942 | 390 |
| Украінцы | 31 381 | 137 |
| Беларусы | 10 240 | 51 |
| Жыды | 7 088 | 35 |
| Кіргізы | 5 717 | 29 |
| Татары | 5 233 | 26 |
| Немцы | 2 506 | 13 |
| Літоўцы і жмудзіны | 2 321 | 12 |
| Башкіры | 2 014 | 10 |
| Латышы | 2 010 | 10 |
| Грузіны | 1 892 | 10 |
| Армяне | 1 635 | 8 |
| Малдаване | 1 570 | 8 |
| Мардва | 1 436 | 7 |

| Народы Расіі | Лік у тысячах | Лік прадстаўнікоў у Сойме /1:200000/ |
|---|---|---|
| Эсты | 1404 | 7 |
| Сарты | 1356 | 7 |
| Чувашы | 1181 | 6 |
| Узбекі | 1017 | 5 |
| Каўказск. горцы | 1528 | 7 |
| *разам* | 159 368 | 778 |

Па рахунку камісіі па справах выбараў да Устаноўчага Сойму ўсіх дэпутатаў павінна быць каля 800 чалавек. Да гэтага ліку трэба дадаць душ колькі ад тых месц, якім (напрыклад, абедзвюм расійскім сталіцам) па тым ці іншым увагам будзе надана права паслаць лішняга дэпутата.

Для нас, беларусаў, як і для іншых недзяржаўных нацый, найбольшае значэнне мае пытанне пра тое, колькі дэпутатаў будзе абстаіваць федэрацыю і колькі за унітарную рэспубліку. Разумеецца, напэўна сказаць гэтага нельга, але, узяўшы пад увагу заявы, зробленыя нацыянальнымі арганізацыямі розных народаў Расіі і іх нахіл у бок федэрацыі ці процiў яе, паскольку ён выяўляўся ў друку — мы даем досыць грунту, каб размежаваць гэтыя народы і іх прадстаўнікоў на тры часткі: 1) народы, каторыя будуць дамагацца федэрацыі, 2) народы, каторыя будуць працівіцца федэрацыі і 3) народы, адносіны каторых невядомы. Працівіцца будуць велікарусы, жыды і немцы; да народаў, каторыя не выяснілі сваіх адносін да федэрацыйнага адбудавання Расіі, належаць мардва, чувашы і, наогул, усе невялічкія нацыі. Усе яны разам будуць мець дэпутатаў у Сойме каля 461 чалавека. Калі вылучыць адгэтуль дэпутатаў ад Сібіры і Казацтва, якія, як гэта цяпер выяснілася, будуць абстаіваць федэрацыю, то рэшта пакажа лік тых прадстаўнікоў, што будуць процiў федэрацыі. Трэба яшчэ дадаць, што не ўсе прадстаўнікі так званых недзяржаўных нацый будуць абстаіваць федэральны лад дзяржавы. Трэба яшчэ рахавацца з тым, што сярод гэтых дэпутатаў шмат знойдзецца такіх, каторыя разам з расійцамі стануць запэўніваць, што мы — не нацыя, а частка, адна столка маскоўскага народу, што ніякай у нас сваёй культуры няма

і быць не можа, што мова наша — не мова, а мешаніна польскіх і маскоўскіх слоў, што ўсё нашае дабро патрэбна Расіі і што, адным словам, мы не маем права на самабытнае культурнае жыццё. І вось, калі ўсё гэта заўважыць і падрахаваць, то можам смела сказаць, што, на самы лепшы выпадак, у агульнарасійскім Устаноўчым Сойме прыпадзе 3 антыфедэралісты на 2 федэралісты. А калі так, то агульнадзяржаўны Сойм стане для нас латарэяй, у якой мы выйграем у залежнасці ад таго, якая зложыцца большасць — за ці процi федэрацыі. Паўстае пытанне, *ці маем мы права вырашаць долю Беларусі на латарэях?* Ці маем мы права наогул ставіць пытанне пра долю сваёй бацькаўшчыны ў залежнасць ад таго ці іншага настрою або ласкі маскоўскага грамадзянства і прыхільных да яго элементаў? Тагды, разумеецца, нам нічога не застанецца, як толькі, прызнаўшы сябе пакорлівымі, паслушнымі падданцамі Масквы, паслаць да агульнадзяржаўнага Сойму душ колькі дэпутатаў і атрымаць ад маскоўскага народу тое, што ён захоча нам падараваць, і, атрымаўшы падарунак — нізенька ўкланіцца, падзякаваць добраму пану ды потым гоцкацца ўсё жыццё з панскім падарункам...

Дык не павінна ж гэтага быць! Сапраўдны беларус, шчыры прыхільнік свайго народу, адважны барэц за волю сваёй бацькаўшчыны мусіць шчыра, але цвёрда сказаць свайму брату-велікарусу, які так павабна і салодка заклікае нас да агульнадзяржаўнага Сойму:

— Да гэтага часу, мой братка, ты валодаў мной па праву штыка і нагайкі, а цяпер ты, скінуўшы з маёй дапамогай цара і маючы штык і нагайку, хочаш атрымаць у мяне яшчэ і вексель праз Сойм, які дасць табе новае права на маю *зямлю і волю,* — але я табе гэтага векселя не дам.

Ты сам абвясціў на цэлы свет, што ўсе народы маюць права на самаадзначэнне, што ўсе маюць права самабытна вырашаць сваю долю; ты прызнаеш, што чэхі, харваты, познанцы маюць права вольна выслаўляць свае вольныя бажанні на *сваіх уласных Устаноўчых Соймах*, дзе над імі ніхто не мае права рабіць ніякага прымусу. І толькі за намі і за нашымі братамі — украінцамі, літоўцамі і іншымі — ты гэтага права не прызнаеш; і заміж таго, каб даць спрамогу кожнаму з нас рашаць сваю долю ў сябе дома, у сваіх нацыянальных *Устаноўчых Соймах*, ты валаеш нас на агульнадзяржаўны Сойм, дзе ты будзеш у большасці і будзеш перамагаць усіх нас сваёй лічбай, сваёй воляй. Але

мы не пойдзем да цябе ў падсуседзі, бо наўперад ведаем, што ты гатуеш для нас на сваём Сойме ў Маскве ці Петраградзе.

Да гэтага часу мы дзеля славы твайго народу аддавалі, не рахуючы, сваё нацыянальнае дабро і кроў сваіх лепшых сыноў. Ты браў нашае багацтва і па-дурному траціў яго, без карысці для каго б то ні было, нават для сябе. Ты браў нашых дзяцей і заваёўваў усё новыя і новыя землі дзеля «славы русскаго оружія» і для ўтварэння новых пасадаў для сваіх чыноўнікаў, настаўнікаў і іншых начальнікаў-русіфікатараў, для тваёй дэмакратычнай інтэлігенцыі і твайго мяшчанства. Мы, як рабы пад страхам смерці, прычыніліся да тваіх разбояў, мы, як катаржнікі, працавалі на цябе. І што ж мы бачым цяпер, што мы маем за ўсё тое? Гвалтоўства, штыкі, разню, бязладдзе й паругу! Мы былі самым бяспраўным народам у свеце — ты адабраў у нас усё, нават нашае імя, нашую школу, нашую мову. Ты сказаў, што ў гэтым вінават не ты, а правіцельства тваіх цароў. Так! Ну а што даў нам ты пасля таго, як мы дапамаглі табе прагнаць цара і яго кампанію, пасля таго, як ты стаў на Русі справаваць і камандаваць сам?..

Ты не даў нам роўна нічога ды стаў каваць для нас новыя, ямчэйшыя кайданы. Твае міністры-сацыялісты і нават твая лепшая дэмакратыя, сабраўшыся ў рады работніцкіх і салдацкіх дэпутатаў, сталі пагражаць братам нашым, украінцам, штыкамі, калі яны, паверыўшы слову твайму пра самаадзначэнне, сталі самі будаваць сваё жыццё. Мы чулі, мы бачылі, як ты трос кулакамі і запэўніваў нас, што рэвалюцыйная Расія «не откажется отъ своего достоянія». І цяпер ты дамагаешся, каб мы паверылі табе ды згадзіліся разам з табой вырашаць сваю долю ў тым сойме, дзе ты, згуртаваўшы каля сябе большасць, станеш гэтаксама трасці кулакамі і пагражаць нам штыкамі!..

Брат, брат — ты вельмі наіўны! Ты ўжо занадта паверыў ў сваё панаванне. Выбары мы зробім, і дзе-хто ад нас пойдзе ў Маскву ці Петраград, але, выбачай, не дзеля таго, каб аддаць на суд твой долю сваёй айчыны, будучыну Беларусі!

Мы мабілізуем свае сілы і праз нашую Вялікую Раду склічам сваіх абронцаў у сэрцы Беларусі і тут выкуем дзяржаўную волю свайго народу, а ты, наш любы браце, падбай пра тое, каб прыйсці з намі да паразумення. Мы потым стрэнемся з табой, ужо, дапраўды, як вольны з вольным і роўны з роўным, і падпішам наш палюбоўны дагавор аб

нашым супольным, федэрацыйным жыцці, а покі што — да пабачэння.

*Мы хочам самі быць гаспадарамі сваёй Зямлі і сваёй Волі.*

## *Тлумачэнне*

Украінскі універсал у зямельнай справе выклікаў шмат запытанняў. Як ведама, універсал касуе прыватную ўласнасць на землі памешчыцкія, манастырскія, царкоўныя, кабінецкія, удзельныя і іншыя землі непрацоўных гаспадарстваў сельскагаспадарчага значэння. Генеральны Сакратарыят, каб не было памылковага тлумачэння, уважае конча патрэбным даць паясненне пра зямельную справу.

У справе зямельнай, як і ў іншых, універсал толькі абвяшчае агульныя падставы, што маюць легці ў аснову адпаведных законаў, якія павінны вырабіцца ў парадку нябаўнасці. Скасаванне права ўласнасці на зямлю трэба разумець так, што права ўласнасці пераходзіць да народу Украінскай Рэспублікі, а значыць, ад дня абвяшчэння універсалу дацяперашнім уласнікам забараняецца зямлю прадаваць, купляць, закладаць, дараваць ці перадаваць камунебудзь ва ўласнасць тым ці іншым спосабам, бо гэтыя землі лічацца ўласнасцю не аддзельных асоб ці ўстановаў, а ўсяго народу, прытым ґэтае скасаванне ўласнасці, як і ўвесь зямельны лад на Украіне, мае пацвердзіць і астатачна ўстанавіць Украінскі Устаноўчы Сойм.

Да Устаноўчага Сойму гэтыя землі перадаюцца пад загад выбраных народам зямельных камітэтаў, якія і будуць парадкаваць імі на аснове спецыяльнага закону, катоpы будзе апрацаваны. Дзеля гэтага, сцерагучы ўсё народнае гаспадарства: машыны, лясы, будынкі, коні, быдла і інш., дбаючы пра парадак на Украіне, універсал забараняе самавольна захопліваць землі і ўсялякае дабро, сеч лес і інш., бо такія захопліванні і парубкі немінуча зруйнуюць народнае багацтва і выклічуць разрухі і сваркі ў краю і сярод сялянства. Разам з тым бяруцца пад апеку інтарэсы служачых і рабочых, што працуюць на эканоміях і іншых гаспадарках сельскагаспадарчага характару.

Таксама, што датыча пытання даўгоў, якія ляжаць на зямлі і сельскагаспадарчых маёнтках, а гэтаксама пытанне

пра форму і размер грамадскай дапамогі тым, хто панёс цяжкія страты праз зямельную рэформу,— усё гэта мае быць разгледжана і вырашана на Устаноўчым Сойме. Ва універсале выразна зазначана, што права ўласнасці касуецца толькі на землі непрацоўных гаспадарстваў, а таму ўсе землі працоўных гаспадарак, якія б яны ні былі, ці сялянскія, ці чые інш., застаюцца ва ўласнасці цяперашніх гаспадароў, і што права ўласнасці касуецца на землі с.-гасп. значэння. Такім чынам права ўласнасці на землі, якія належаць местам, мястэчкам і сёлам або знаходзяцца пад дачамі, сялібамі, агародамі, садамі, пад вопытнымі палямі і станцыямі і гэтаксама пад капальнямі, заводамі, фабрыкамі і інш., не касуецца. Наогул, універсал не толькі не дае права самавольна распараджацца землямі або с.-гаспад. прыладамі, коньмі, быдлам і т. д., а, прызнаючы яго дабро ўсенародным, перадае ўсё пад дагляд і ў распараджэнне павятовых і губернскіх камітэтаў пры дапамозе камітэтаў валасных.

Газета «Нова Рада» вуснамі свайго публіцыста К. Мацыевіча, разбіраючы практычныя вынікі зямельнага маніфесту, паміж іншым, піша: «Маніфест рашуча касуе ўласнасць на зямлю ўсіх непрацоўных гаспадарстваў, і касуе яе ў такіх выразах, што не можа быць жаднага вагання, што ўласнасці на гэтыя землі ўжо не існуе. Не будзем гаварыць пра тое, ці мела Рада права выдаваць такі маніфест. З погляду праўна-рэвалюцыйнага, пэўна не мела, бо гэта сапраўды-такі прэрагатывы Устаноўчай Рады. Нават Ленін на гэта не адважыўся. Пытанне пра гэта мае вялікае практычнае значэнне цераз тое, што калі Устаноўчая Рада касуе ўласнасць, то яна мае паўнамоцтва знайсці для зямлі і «новага гаспадара». Універсал, адмяніўшы ўласнасць, такога гаспадара знайшоў ва «ўсём працоўным народзе», якога волі мы не ведаем і каторы не мае органу для яе выяўлення і распараджэння». Такім чынам, на моцы універсалу, зямля нікому не належыць. «І калі сяляне разумеюць гэта так, што яе можа браць усякі, хто бліжэй, калі яны пачынаюць бойку за зямлю, варачаючыся да часоў захватна-зямельнага перыяду, то не яны вінны ў такіх учынках і падзеях».

Падкрэсліўшы яшчэ колькі больш-менш цікавых уваг, ягомасць К. Мацыевіч зазначае, што ў маніфесце аб зямлі адбіліся гукі тых ідэй, «якія ніколі нашымі роднымі не могуць быць — мы канстатуем нахіл да тых пануючых цяпер расійскіх тэндэнцый механічнага агульнага ўраўнен-

ня зямлі з яе прымусовай *сацыялізацыяй*, каторая нам саўсім чужая і ўяўляе з сябе прадукт іншых зямельных умоў і іншага сельскагаспадарскага ладу. І ад таго, ці пацягнемся мы ў хвасце гэтых чужых нам (расійскіх) тэндэнцыяў, ці пойдзем сваім уласным шляхам індывідуальнага працоўнага гаспадарства, з'яднанага праз кааперацыі, залежыць успех развязання зямельнага пытання. Я пэвен у тым, што калі б усялякія вольныя парадчыкі нашага народу не мудрылі над яго думкамі і воляй, для нас магчымы толькі наш шлях, толькі яго прыме жыццё, але тым часам шмат шкоды нашаму краю, шмат няшчасця нашаму народу прынясе гэтае мудраванне, гэтае адрыванне роднага грунту дзеля ўдыгання чужой і прытым старой, аджыўшай ідэалогіі».

Апошняя ўвага цалкам адносіцца і да тых беларускіх дзеячаў, каторыя перанялі сваю зямельную праграму ад расійскіх с.-р. і думаюць прышчапіць прынцыпы велікарускай абшчыны нашаму народу. Дарэмна думка, марная трата працы і захадаў! Што добра расце ў адным месцы, то можа згінуць дазвання ў другім. Ды і тое сказаць, расійская абшчына, на каторай будуецца эсэраўская сацыялізацыя зямлі, да гэтага часу выяўляла сябе толькі тым, што народ на Маскоўшчыне галадаў амаль не кожнае дзесяцілецце. Гаспадарка нашага селяніна пабудаваная на прынцыпе індывідуалізму, на грунце асобнай, незалежнай гаспадарнасці, не гледзячы на пясчанасць беларускага поля, ніколі галадоўлі не знала, і не было такога здарэння, каб дзяржаўная казна прыходзіла на дапамогу нашаму селяніну. Толькі на грунце звыклага для беларуса карыстання зямлёю можа быць прадуктыўна развязана зямельнае пытанне.

## *«Антось Лата»*

**(«Сцэнічныя творы» Тараса Гушчы)**

Шмат каму даводзілася чуць, як скардзіліся беларусы-артысты з вялікіх расійскіх сцэнаў, што яны ахвотна б працавалі для беларускае справы, пашыраючы беларускую сцэну і граючы беларускія п'есы, каб сцэнічная літаратура наша здавальняла запатрабаванні іх «артыстычнага ста-

жу». На жаль, трэба прызнацца, што скарга іх мела падставу. Да гэтага часу ў беларускай літаратуры не было сталых сцэнічных твораў. Тое, што было, насіла характар шаблоннасці, а анекдатычны змест іх перашкаджаў не толькі іх пашырэнню, а нават таму, каб яны з'явіліся ў друку. І толькі з выйсцем у свет сцэнічных твораў нашага найвялікшага пісьменніка ў прозе, Тараса Гушчы, гэты прабел у нашай сцэнічнай літаратуры папоўніўся, і сцэнічная літаратура наша можа вытрымаць самыя густоўныя запатрабаванні.

«Сцэнічныя творы» складаюцца з двух рэчаў: «Антось Лата» — сцэнічны твор на два акты, і «На дарозе жыцця» — п'еса на адну дзею.

«Антось Лата» напісан дапраўды мастацкі і выхвачаны з самае гушчы сялянскага быту. Аўтар так жыва і вобразна малюе сваіх простых, няхітрых герояў, што яны становяцца ўваччу як жывыя. Яны гавораць, жартуюць, спяваюць, смяюцца і — здаецца, што не ў кніжцы гэта чытаеш, а бачыш жывых людзей. Такую ўжо сілу мае талент!

Карчма — звычайны мястэчкавы патайны ў цяперашні час шынок. Двое сялян, Габрусь і Рыгор, выпіваюць у карчме і скардзяцца на сябе і на сваё цёмнае жыццё, пацяшаючы сябе прыспеўкамі. Каб уцячы ад свайго жыцця, яны гатовы зараз жа паехаць да Амерыкі, дзе ўвесь народ панаваты, працаваць не любіць, а таму заработкаў там колькі хочаш,— «лапатаю агрэбай дзенюшкі». Стары шынкар заўважае, што покі яны заедуць у Амерыку, то да «Рыгі» напэўна трапяць. Так яны п'юць, спяваюць ды жартуюць то з шынкаром, то з шынкаркаю.

З'яўляецца постаць Антося Латы — горкага прапойцы. Праз п'янства ён увагнаў жонку ў дамавіну, пакінулі дзеці яго, і застаўся ён адзін у сваёй, патыхаючай пустэляй, хаце. Ён разумее, што гэта гарэлка згубіла яго, і гэтае адчуванне згубы свае яшчэ горш штоўхае яго па той сцежцы, з каторай сысці ён не можа. «Губляў я гарэлку многа раз,— кажа ён,— але яна не прападала, а гарэлка згубіла мяне адзін раз, і я не знайду сябе». Думка аб згубе сваёй не дае яму супакою. Нават саўсім ап'янелы, ён ані на момант не можа забыцца аб гэтым. Ён зайздросціць усім, хто лепшы за яго, зайздросціць жыду-карчмару, што можа сядзець над Бібляю. «Эх, Бэрка, Бэрка! Святым хочаш быць, законы талмудаў спаўняеш, а Антосю шпількі запускаеш. Ну, што ж?!» Ды, адабраўшы Біблію, шпурляе яе вобземлю, а схамянуўшыся, перапрашае: «Выбачай, Бэрка,— я не са злосці — натура мая такая... Эх, каб я быў пісьменны!

Напісаў бы пра нашае жыццё, ды *як* напісаў бы: слязьмі і кроўю!»

Думка пра горкую, п'яную долю сваю агнём паліць сэрца яго. Як гвозд, засела тая думка ў голаў і не дае яму тхнуць. А людзі... людзі смяюцца, дзеці на вуліцах пальцамі тыцкаюць. Няма, нікагутка няма, хто б усцешыў ласкаю і добраю радаю, даў супакой змучанаму сэрцу яго. Адзінадзінюткі, як той крыж сярод поля.

Канчаецца тым, што па дарозе з карчмы, уночы, сярод лесу, яго хворы, зверадаваны розум уяўляе зданні — П'янства і Цвярозасць, каторыя прыйшлі на суд да яго. Сцэна са зданнямі набірае вялікай трагічнасці. Толькі чытаючы, не кажучы ўжо пра сцэну, аж скура шорхне ад жахоцця. Свае хваравітыя спрэчкі са зданнямі ён канчае так, звярнуўшыся да П'янства: «Ты забрала маё сэрца, паліваючы вантробы мае гэтаю атрутаю. Чуеш ты?!.. Будзь ты праклята! На вечныя вякі праклінаю цябе, чортава служка! У апошні мой час прыйшлі вы насміхацца з мяне. Вам мала насмешак над цэлым маім жыццём». (Як пружына, кідаецца на здань і падае на дол мёртвым.)

«На дарозе жыцця» — пекны, прыгожа напісаны абразок пра Беларусь, каторая шукае раскіданых па свеце дзяцей сваіх. Дзеці пакінулі яе, і нават тыя, якіх выпадкова знаходзіць яна, адракаюцца ад яе,— старой, беднай, у параванай вопратцы. Сцэна канчаецца тым, што Беларусь, у постаці старой кабеціны, кленчыць перад прыдарожным крыжам ды моліцца, каб Бог дапамог ёй сабраць дзетак сваіх. «Божа, распяты на крыжы! Знімі з мяне цяжкі крыж мой і пакажы мне дарогу ў сэрца маіх дзетак!»

## *Вайна і мір*

З таго часу, як улада ў Петраградзе перайшла да бальшавікоў, вайна фактычна скончылася. Фронт разрушан, і Расія перастала быць ваеннай сілай.

Бальшавіцкі ўрад рахаваў на еўрапейскую рэвалюцыю, а кончыў тым, што пайшоў на згоду з нямецкімі імперыялістамі. Рэвалюцыі няма — еўрапейская дэмакратыя маўчыць, і становіцца ясна, што бальшавікі дзеля захавання сябе і свайго палітычнага становішча прымушаны будуць пайсці на такі мір, які дадуць ім немцы. Пачынаючы замі-

рэнне, яны цешылі думку запаліць пажар сацыяльнай рэвалюцыі ў Еўропе, а сталася так, што мір без захватаў і грашавых выплат застаўся пустым летуценнем на паперы.

Паўстае пытанне, што станецца з нашым краем, напаўзабраным немцамі? Што станецца з Беларуссю, на грудзях каторай адбывалася вайна і паўсталі перагаворы аб замірэнню? Ці не паложана ўжо на шалі збаўлення доля нашае бацькаўшчыны? Ці не *мечется жребий о ризах ея?*

Бальшавіцкі ўрад, каторы мы прызнавалі і прызнаём, як урад велікарускай дэмакратыі, не зацікаўлен захаваннем цэльнасці тэрыторыі быўшай Дзяржавы Расійскай. Ён затурбаваны думкамі, каб усчыніць сацыяльнае паўстанне там, дзе фатыгі іх не патрабуюць. Гэта яго дзела — «большому кораблю большое плавание». Урад маскоўскай дэмакратыі можа рабіць на Маскоўшчыне ўсё, што яму забажаецца. Які поп, такі і прыход, а па Сеньку й шапку. Але калі бальшавікі гадаюць купіць сабе мір за кошт нашай бацькаўшчыны, коштам раздзелу Беларусі,— мы павінны рашуча засцерагчы, што тут гаспадарыць мы не пазволім.

А што бальшавіцкі ўрад вядзе гандаль з немцамі нашаю зямлёю,аб гэтым лёгка дагадацца па той таямніцы, з каторай вядуцца перагаворы аб замірэнні. Бальшавікі, з такім зларадствам апублікаваўшыя таемныя ўмовы старога расійскага правіцельства, упарта маўчаць аб тым, за які кошт немцы згаджаюцца аслабаніць бальшавікоў ад вайны, бо кожнаму зразумела, што на мір без анексіяў і кантрыбуцыі немцы не пристануць.

Украіна здолее абараніць сваё дастаянне, і немцы гэта ведаюць. Недарма ж яны пагражаюць парваць міравую, калі не будзе на перагаворах украінскага прадстаўніка.

Для велікарускай дэмакратыі цэльнасць нашае зямлі, на лепшы выпадак, пытанне гонару, а для нас — гэта пытанне жыцця і смерці. Настаў час, калі трэба рашуча стаць на абарону сваіх правоў і перастаць быць прыдаткам да тых, хто распачаў гандаль нашаю айчынаю. Трэба ўжыць усіх заходаў, іначай край наш раздзеляць, і станецца тое, што мы, беларусы, заплацім за ўсю ваенную крываўніцу. Вайна адбылася на нашай зямлі, яна знішчыла наш край, заліла яго слязьмі і кроўю нашых сыноў, братоў і дзяцей — яна ж вымагае ад нас і нашае смерці.

Няхай не будзе гэтага!

Беларускі народ уваскрос, Беларуская рэспубліка на чарзе дня. Мір павінен быць, але не цаною нашага раздзелу. Няхай не будзе гэтага! Да мінуе нас чаша сія...

# *Кручаныя*

Открывшійся в Минске белорусскій съезд, на котором Белоруссию предполагается объявить республикой, не пользуется признанием многих белорусских округов, считающих инициаторов съезда слишком склонными ■ сторону польской ориентаціи, что усматривается между прочим в том, что *издаваемая ими в Минске белорусская газета печатается на таком искусственно-полонизованном языке, который совершенно непонятен крестьянам-белоруссам,* ■ *так же в желании включить в будущую Белоруссию Виленскую* ■ *Гродненскую губернии.*

В виду этого, склоняющиеся к великорусской или украинской ориентациям, многие округа (!), например, Могилевской губ., прислали на съезд представителей не в полном числе, исключительно с информаціонными задачами, и созывают на 15-е декабря ■ Минске второй съезд по той же программе, который и *будут считать истинным выразителем воли Белоруссии.*

(З газет)

Шалёная, або кручаная, сабака баіцца вады, а «белорусс» маскоўскай гадоўлі — польскай інтрыгі.

Вадабоязь — гэта страшная, цяжкая хвароба; захварэўшае на гэтую хваробу стварэнне круціцца, траціць прытомнасць і кусае ўсіх, хто трапіць насустрач.

Польская інтрыга — гэта атрута; атручаны ёю чалавек гэтаксама вар'яцее і робіцца шалёным, але кусае не ўсіх, а толькі здаровых. Стрэўшыся, напрыклад, хворыя на польскую інтрыгу не кусаюцца, як гэта робяць кручаныя сабакі, а, нашаптаўшыся, пачынаюць вышуківаць тых, каму па тых ці іншых прычынах не прышчапіўся яд абрусіцельства і маскоўскага цэнтралізму...

Хіба гэта не хворы на розум распусціў па газетах плёткі, што калі людзі ратуюць свой край ад раздзелу і дамагаюцца прылучэння свае роднае беларускае зямлі, як Віленшчына і Гродзеншчына, да аўтаномнай Беларусі, дык праз гэта яны трымаюцца «польскай арыентацыі»? Хіба ж гэта не шалёны той, хто, не ўмеючы ні чытаць, ні гаварыць па-беларуску, бярэцца судзіць наш родны язык і называе яго паланізатарскім толькі праз тое, што яго хвораму розуму ўсюды мігціцца «польская інтрыга»? Хіба гэта не вар'ят той, хто думае, што калі кніга напісана па-беларуску, дык яе павінен разумець кожын цёмны, бязграматны селянін, каторы зроду кнігі ў вочы не бачыў? І хіба гэта не вар'яцтва — думаць і другіх упэўняць, што калі беларускі друк, дык яго павінен кожын дурань разумець?

Вучыцца трэба, маскоўскія прыхвасні! Вучыцца трэба,

а не разносіць заразу царскага дурману па глухіх кутках цёмнага сялянства. Памятайце, што самадзяржавія няма і не паўстане яно ніколі, дык хто ж вам заплаціць за вашую Каінавую работу? Хіба так трудна адвыкнуць лекаю ад лекайства?! Прэч, каты! Не лезьце са сваімі бруднымі языкамі ў святую справу адраджэння нашага народу! Хіба хто вінен у тым, што ваш хворы глузд усюды бачыць «польскую інтрыгу», хіба мы вінны, што яна трасе вас, як трасца? Гэта маскоўскі пан атруціў ваш бедны розум, гэта ён прымушае вас раўці, як раве вол ад чырвонай анучы. Да яго і звяртайцеся!

Што вас магнусам цягне да Маскоўшчыны, гэта вядома кожнаму, і толькі вар'ят можа хваліцца вар'яцтвам. Але што вы маеце да «ўкраінскае арыентацыі»? Хіба ж гэта не вы ўпэўнялі, што там «аўстрыйская інтрыга»? Пашкадуйце сябе і прыгледзьцеся — увесь свет утыкан інтрыгамі...

Шалейце, вар'яты,— выдумывайце «польскія інтрыгі», але памятайце, што для шалёных людзей у нас заўсёды маецца цэбар халоднае вады...

## *Аўтаномія Беларусі*

### I

Магутным рухам народаў Расіі зруйнаваны муры маскоўскага царызму. Апалі кайданы пякельнай пакуты, паламаны ёрмы няволі й нядолі, і ўсе народы Расіі выйшлі на вольны шлях жыцця. Празваніў звон волі, і ўстае з руін заняпаду наша айчына, наша бацькаўшчына Беларусь. Заруніцца яна жытам-пшаніцаю і заквітнее цветам-калінаю!

Але не ўсе яшчэ разумеюць у нас, на што здаліся нам новыя парадкі. Не кожнаму зразумелы інтарэсы народу. Не ўсім відна выгода ад самабытнасці і *аўтаноміі*. Шмат ёсць і да гэтага часу прыхільнікаў адсталасці і русіфікацыі Беларусі. Шмат каму не пад густ наша адраджэнне, і часта можна чуць, як верадуюць ворагі нашы і крычаць фальшывыя заступнікі долі народнай, пратэстуючы проці нацыянальнай незалежнасці нашай і асветы народа ў яго роднай, спрадвечнай мове. Але гісторыя сведчыць, што не было той справы, не было такой ідэі, якая б не нажыла сабе ворагаў.

Гэта яны, гасіцелі праўды, распіналі Хрыста, палілі Гуса і білі пракакаў...

Заўважыўшы гэта, мы павінны памятаць і заўсёды трымаць на ўвазе, што беларусы — народ асобны і непадобны ні да расійцаў, ні да палякаў, а значыцца, і патрэбы мы маем асобныя, свае беларускія, адметныя і нават нязгодныя з патрэбамі расійцаў, палякаў ці якога іншага народу. Кожны разважае свае справы па-свойму, на карысць свайго ўласнага жыцця, дзеля гэтага і мы павінны меркавацца з тым, што вымагаецца варункамі нашага жыцця, што карысна нам і што спрыяе нашаму нацыянальнаму, культурнаму і гаспадарскаму дабрабыту.

Але што ж будзе, калі мы забудземся аб сваіх беларускіх патрэбах і сапраўды згодзімся з тымі, каторыя кажуць, што ў Дзяржаве Расійскай трэба зрабіць адзін парадак, аднакі для ўсіх народаў Расіі? А будзе тое, што маскоўцы пабудуюць гэты парадак на свой густ, дапасуюць яго да патрэб свайго жыцця і зямлю, напрыклад, падзеляць так, як яны звыклі карыстацца ёй спакон веку. Усё гэта трапіцца з намі, калі мы станем слухаць тых «дабрадзеяў», што не прызнаюць нас за асобны народ, не лічаць нас за беларусаў, каторыя кажуць, што ў нас свае мовы няма і нам непатрэбна яна, што мы павінны парабіцца расійцамі або палякамі, дзеля чаго, моў, будуйце ў сябе школы расійскія ці польскія, а не свае, беларускія. Іншыя кажуць гэта наўмысля, а другія проста па недавумству і глупству. А то бывае і так, што чалавек, як расійскі сацыяліст, напрыклад, не ведае ні нас, ні жыцця нашага. Ён нават і шчыра хацеў бы зрабіць нам дабро, дык не можа і сваёю фатыгай толькі псуе нам і нарабляе шкоды, бо, не ведаючы ні нас, ні жыцця нашага, шые абутак для нас на свой уласны, маскоўскі капыл. Разумеецца, такі абутак будзе заўсёды муляць нам і дапякаць пры ўжыванні.

Ніхто лепей не ведае нашых патрэб, як мы самі: ніхто не завядзе лепшага парадку ў гаспадарцы, як сам гаспадар. Калі мы папусцімся і аддамо развагу сваіх патрэб у рукі чужынцаў або сваіх вырадкаў, што адракліся і нас, і мовы нашай, дык яны ўсё зробяць так, як гэта добра для жыцця на Маскоўшчыне або дзе-небудзь у Польшчы. Канец-канцом мы сцямім і схамянёмся па часе, што нарабілі сабе бяды, але будзе позна. Нас заўсёды запыняць і скажуць: «Не верадуй, васпан,—скачы, уража, як пан кажа!..»

Вось дзеля таго, каб ухіліцца ад усіх гэтых прыкрых з'явішч, каб не папасціся пад загад і кіраўніцтва чужынцам,

каб потым не скардзіцца, не верадаваць, праклінаючы жыццё сваё па часе, каб не клялі нас дзеткі нашы, апынуўшыся праз нас, праз недавумства і нядбаласць нашу, у *нацыянальным* палоне ў чужынцаў—маскоўцаў або палякаў,— дзеля ўсяго гэтага мы і павінны дамагацца *аўтаноміі* для свайго краю, *аўтаноміі Беларусі.* У вольнай дзяржаве ніхто не мае права забараняць жыць так, як народ сам таго хоча, абы не перашкаджала гэта вольнаму жыццю другога народу, бо кажуць, што кожны народ мае права на самаадзначэнне, г. зн. мець свае парадкі, вучыцца і гаварыць сваёю моваю, словам, жыць уласным жыццём, развіваючы сваю культуру і свой гаспадарскі дабрабыт. І калі народ ў дзяржаве жыве сваім уласным жыццём, калі ён мае свае парадкі, свае законы і ўстановы ў сваім родным краі і ніхто яму не перашкаджае, дык і кажуць, што гэты народ жыве *аўтаномна.* Аўтаномна жыве Ірландзія, Трансваль (буры) у Англіі, на грунце аўтаноміі пабудавана жыццё ўсіх краёў у Амерыцы. Усе культурныя, асвечаныя людзі дамагаюцца аўтаноміі, а гэта знача, што і мы, беларусы, не павінны прыставаць ад іх, каб не заблудзіцца ды не згінуць у цемры. Хто хоча сабе дабра, той не скажа, што яму непатрэбна аўтаномія. Толькі цёмны, забіты народ можа гэта сказаць...

Нашы сяляне на з'ездах выслаўляліся ў тым сэнсе, што ім не трэба аўтаномія, але ж рабілі яны гэта па недавумству і цемнаце сваёй, а найбольш па падашуканству, бо разам з гэтым яны казалі, што і мова іх ім непатрэбна. Ніхто на свеце не адракаецца ад сваёй мовы — і немцы, і французы, і палякі, і расійцы, чэхі і балгары шануюць і любяць сваю мову, а нашы сяляне — адракаюцца. Значыць, робяць яны гэта па недавумству і цемнаце. Ведаючы, што наша сялянства забітае і цёмнае, ворагі Беларусі карыстаюць з гэтага і кажуць: «Запытайце ў народу». А хіба, спытаем мы іх, рэвалюцыянеры пыталіся ў народу, як усчыналі рэвалюцыю? Хіба яны не ведалі, што народ па цемнаце сваёй мог спалохацца ды выславіцца за тое, каб цара не чапалі? Яны гэта ведалі і рабілі так, як яно па разумнаму даследу выходзе лепей і карысней.

Яшчэ ворагі беларушчыны кажуць: нашто будаваць беларускія школы, калі народ іх не хоча? Народ... Як жа народ запатрабуе сваіх беларускіх школ, калі ён іх ніколі не бачыў і нічагуткa ў гэтай справе не цяміць? Дзіўная гэта звычка ў людзей пасылацца на народ там, дзе яно саўсім недарэчы. Ува ўсіх іншых пытаннях мы звяртаемся да знаў-

цаў і спецыялістаў, а вот пры дзяржаўным адбудаванні здавальняемся думкамі такіх майстроў, як цёмны, некультурны народ, каторы ў халерны год забіваў дактароў, а ў час рэакцыі лавіў ды выдаваў царскай паліцыі рэвалюцыянераў, паламаўшы ім рэбры... Народ добрая рэч, але яму трэба расказаць, растлумачыць, яго трэба спачатку асвяціць, навучыць, а ўжо потым клікаць да сябе на параду...

## II

Да гэтага часу Расія была і покі што застаецца дзяржавою не хаўруснаю, або, як кажуць, не федэратыўнаю. Ніводзін народ у Расіі не меў аўтаноміі, а жыў так, як загадвалі яму з Петраграду цар і яго служкі. Манархічная Расія ўяўляла з сябе вялізарную казарму, дзе павінны былі жыць адным парадкам, слухаць аднае каманды. Усе народы і краі Расіі былі цесна звязаны паміж сабою, але не добраахвотным перавяслам братэрскага пачуцця, а прымусам і прынукаю, ланцугамі царскага самадзяржавія, накшталт таго, як звязвалі колісь катаржнікаў, заганяючы іх у Сібір.

Няма чаго казаць, што такое супольнае жыццё народаў не мае жаднай вартасці і пры першай прыгодзе рвецца, як гнілая нітка. Толькі добраахвотная, палюбоўная супольнасць моцна звязвае людзей і стварае грунтоўную і магутную дзяржаву. Гэта мы бачым на прыкладзе Англіі, Амерыканскіх Злучаных Штатаў і самой Германіі, з каторай мы цяпер ваюем. У гэтых дзяржавах не толькі кожны асобны народ, але і кожная асобная па жыццёваму ўкладу частка дзяржавы мае свае парадкі, свае законы і ўстановы. Раней за ўсіх зразумела патрэбу і няўхільнасць аўтаноміі Англія. Праўда, дарага гэта ёй каштавала — за сваю навуку яна заплаціла стратаю багатае калоніі — Паўночн. Амерык. Злучаных Штатаў, але раз дасведчыўшыся, што сіламоц нікога ўтрымаць нельга, яна павярнула на іншую дарогу і цяпер сама спрыяе і дапамагае завядзенню аўтаномнага ладу. Сваёю разумнаю палітыкай яна ўтрымала за сабою Канаду, частка якой хацела прылучыцца да суседніх Злучаных Амер. Штатаў, і ўмацавала прыхільнасць прылучаных да сябе вайною бураў у Афрыцы. За цяперашнюю вайну гэтыя калоніі многа дапамагалі Англіі грашмі, людзьмі і ваеннымі прыладамі, хоць маглі і не рабіць гэтага.

Усе гэтыя прыклады сведчаць пра тое, што аўтаномны

лад дзяржавы не аслабляе і не разлучае дзяржаву, а, наадварот, спрыяе таму, каб яна ўзмацнялася ды зноў злучалася нават тады, калі распад ужо пачаўся. Знача, тыя людзі, што палохаюць распадам дзяржавы пры завядзенні аўтаномнага ладу, не маюць пад сабою жаднага грунту. Яны або кепска дасведчаны ў гэтым пытанні, або наўмысля, маючы на ўвазе ўласную карысць і рахуючы выкарыстаць чужую недасведчанасць, пускаюць байкі пра шкадлівы ўплыў аўтаномнага ладу. Гэта трэба запамятаць і, адхіліўшы ўсялякія нагаворы, як мага дамагацца аўтаномнага ладу для свайго роднага краю. Мы павінны мець свой беларускі парламент, сваю Беларускую Краёвую Раду, цалкам незалежную ў межах свайго краёвага заканадаўства ад цэнтральнага, агульнадзяржаўнага ўраду. Толькі такія справы, як зносіны з заграніччнымі дзяржавамі, мытнагрaшовая сістэма, вярхоўнае кіраўніцтва ваеннымі сіламі, важнейшыя жалезныя дарогі,— павінны знаходзіцца пад загадам агульнадзяржаўнай уласці, каторая гэтаксама павінна складацца з прадстаўнікоў усіх нацый і краёў. Агульнадзяржаўная ўласць павінна быць прадстаўніцай усіх людзей, усіх народаў і краёў і іх аб'яднаць.

Мала дабіцца рэспублікі, трэба дамагацца яшчэ і таго, каб рэспубліка была і федэратыўнай, або хаўруснай палатыні, кожны край, кожны асобны народ каб меў сваю аўтаномію. У Францыі рэспубліка існуе ўжо больш соткі год, але яна цэнтралістычная. Там, як і ў нас цяпер і як было гэта пры царызме, усім загадваюць міністры ў Парыжу, а міністраў вызначае агульнадзяржаўны парламент. Пры кожнай перамене большасці ў парламенце змяняюцца і міністры. Жыццё валтузіцца кожны раз пры змене загадчыкаў-міністраў. У самых дробных мясцовых справах трэба чакаць дазволу і ласкі цэнтральнага правіцельства. Такая рэспубліка нас не здавальняе. Мы ўсе патаміліся страшным і прыкрым цэнтралізмам старога, скінутага рэжыму і не хочам, каб ён жыў далей, хоць бы і пад рэспубліканскім чырвоным сцягам. Мы хочам, каб у нашым краю будавалі сваё жыццё нашы людзі і каб у нашы беларускія справы не мяшалася цэнтральная ўласць з Масквы ці з Петраграду. Мы хочам, каб знікла, нарэшце, тая абрыдлая, да смерці шкадлівая розніца паміж дзяржаўнаю і недзяржаўнаю нацыяй, каторая высмоктвала з нас усе нашы сілы. Мы хочам, каб усе народы былі дзяржаўнымі на сваёй зямлі.

Усе ў адзін голас кажуць, што Беларусь самы бедны

край, а народ наш самы цёмны пасярод народаў Расіі, але ніхто даладне не расказаў, чаму гэта так, чаму Беларусь, калісь складаўшая магутнае Літоўска-Рускае гасударства, не ведаўшая татаршчыны, дыктаваўшая сваю волю Маскве, прылучыўшая да сябе ўсю багатую Украіну,— чаму цяпер дайшла да такога заняпаду? Беларусь наша бедная, а народ наш цёмны не затым, што ён горшы за другіх або не мае здатнасці да навукі і прасветы. Нядоля наша ў тым, што мы, страціўшы сваю незалежнасць, па цяжкіх умовах гісторыі, не здолелі адстаяць сваю нацыянальную самабытнасць і сталі папасам для суседзяў, спажыткоўнаю ніваю для чужынцаў. Яны высмоктвалі з нас апошнія сокі, адбіралі ў нас нашых лепшых людзей (Міцкевіч, Касцюшка, Дастаеўскі) і зруйнавалі краіну нашу да сучаснага становішча. Але гэта мінулася, недарма настала свабода. Мы павінны дабіцца сабе аўтаноміі і стварыць у сябе свае ўласныя беларускія парадкі і зажыць сваім уласным беларускім жыццём. Годзе быць пашаю для чужынцаў, годзе карміць чужынцаў сабе на згубу і пастаянную пакуту. Аўтаномія для нас — пытанне жыцця і смерці. Калі мы любім свой край, калі жадаем сабе лепшае долі, калі абрыдзела нам парабецтва, калі мы не страцілі дашчэнту свайго нацыянальнага гонару і не рашыліся чалавечай вартасці,— дык мы павінны стаць на ўласныя ногі. Мы павінны дамагацца самакіравання, бо цэнтралізм маскоўскі і ўплыў польскі заесць нас дазвання. Цэлыя соткі год нас апалячвалі, больш ста год нас амаскалівалі, але ні паланізм, ні русіцызм не крануўся народу нашага анізвання. Народ у істоце сваёй застаўся непарушаным. У гэтым наша сіла, наша збавенне і залог светлай будучыні.

## III

Утварыўшы аўтаномны лад на Беларусі, мы станем паўнамоцнымі гаспадарамі на сваёй зямлі і атрымаем поўную магчымасць павярнуць усе скарбы нашага краю на карысць свайго народу, на свае нацыянальныя патрэбы, дзеля развіцця культуры і гаспадарскага дабрабыту. Тады беларускія працоўныя масы, каторыя на працягу цэлых вякоў абдзіраліся і выкарыстоўваліся дзеля росту і панавання багатых станаў, чужых ім як па нацыянальнасці, так і па культуры,— і дзеля развіцця гэтай чужой культуры,— дастануць змогу выйсці на вольны шлях эканамічнага

і культурнага развіцця і збавяцца ад свайго заняпаду матэрыяльнымі і духоўнымі скарбамі свае зямлі. Тады можна будзе ўжыць усіх багатых заходаў дзеля развіцця ўсёй паўнаты беларускага культурнага і палітычнага жыцця, далучыўшы да гэтага шырокія народныя масы, увесь працоўны народ, коштам каторага да гэтага часу выраcталі толькі чужакультурныя станы і іх эканамічныя і палітычныя ўплывы.

З эканамічнага боку вельмі важна, каб дастаткі беларускае зямлі і людская сіла нашага краю не марнаваліся дарэмна ды не перацягваліся наўмысля на чужы бок рознымі штучнымі і прыватнымі эканамічнымі рахункамі з вялікаю шкодаю для краю і дарэмнаю стратаю для ўсяго нашага народу, а каб ужываліся мудра, маючы на ўвазе інтарэсы свайго краю і дабрабыт свайго народу. Беларусь уяўляе з сябе асобную краіну, з сваім уласным выразным тварам і жыццёвым укладам. Яна як трэба абдаравана ўсялякімі прыроднымі ўмовамі для эканамічнага развіцця і поступу. Яна мае свае рэчкі, горы, радзючы грунт, многа лугоў для гадоўлі гавяды, вялікія запасы лесу, а перш за ўсё і важней за ўсё — народ працавіты, старанны, крэпкі, здольны і цямушчы, што пры самых цяжкіх умовах свае гістарычнае долі здолеў паставіць сваё земляробства вышэй за ўсіх у Расіі. Нягледзячы на свой пясчаны грунт, зямля наша родзіць добра, і, дзякуючы разумнай працавітасці народу нашага, Беларусь не бачыла павальнай галадоўлі — гісторыя не ведае такога здарэння, каб дзяржаўная казна прыходзіла да нас на дапамогу сваімі коштамі, як гэта рабілася на Маскоўшчыне і па іншых кутках Расіі. Зямля там, бадай што, і лепшая, ураджайнейшая за нашу, але народ маскоўскі (велікарусы) да таго некультурны, нядбалы і няўмелы, што галадаў амаль не кожнае пакаленне. Пры самых цяжкіх варунках беларус не траціў датэнпнасці і быў гаспадаром свайго становішча. Адным словам, Беларусь мае ўсё патрэбнае, каб зрабіцца краем цвітучым і багатым, а не такім заняпалым і занядбаным, якім стаўся ён пад загадам маскоўскай дзяржаўнасці. І мы ўсе, грамадзяне зямлі беларускай, павінны далажыць усіх сіл, каб скінуць з сябе апякунства чужынцаў і збавіць край наш ад кіраўніцтва маскоўцаў. Гэта мы павінны зрабіць, бо грубае, некультурнае ўладарства Масквы знішчыць край наш дашчэнту і прывядзе яго да загібелі, як яно вынішчыла і загубіла Дзяржаву Расійскую. Нам трэба дабіцца, каб кіраўніцтва эканамічнымі і грамадзянскімі справамі належала да само-

га краю, да яго аўтаномнага краёвага сойму. Тагды Краёвая Рада, кіруючыся інтарэсамі і дабрабытам свайго народу, не дазволіць, каб цэнтральны ўрад рознымі тарыфнымі штукамі і мытнаю палітыкай калечыў развіццё нашае прамысловасці і гандлю; тагды краёвы ўрад не папусціцца, каб нашу эканамічную энергію і сыровы прадукт перацягвалі штучна да розных пазакраёвых фабрычна-прамысловых раёнаў; тагды не будзе таго, каб цэлы край, заселены народам з светлай і вялікай гісторыяй, пазбаўлены быў вышэйшых навучных інстытуцый і праз соткі год не мог вярнуць таго, што ў яго адабралі ґвалтоўна (Віленскі універсітэт). Дзеля ўсяго гэтага нам патрэбна аўтаномія. Нам патрэбна аўтаномія, каб запэўніць беларускаму хлебаробу як найбольшы прыбытак, а беларускаму пралетарыю — як найвышэйшы заработак, каб даць сваім людзям работу дома, на месцы, на грунце ўласнай *беларускай прамысловасці* і каб нашы людзі не вандравалі, шукаючы заработкаў, у свет, на чужыну, дзе і сам работнік, і яго рабочая сіла прападалі для нашага краю. І мала таго, што наш работнік, трапіўшы ў чужы край, пераймаўся чужыншчынаю і навекі гінуў для роднага краю, але, апарт таго, вярнуўшыся дадому, ён нарабляў шмат шкоды, пашыраючы дэнацыяналізатарскую заразу.

З погляду на культурнае становішча нашага краю становіцца ясна, што толькі пры аўтаномным ладзе пачне расці і квітнець культура, навука, літаратура і ўмеласць здольнага і багата абдараванага нашага народу. Толькі пад загадам аўтаномнага ладу народ наш, з прышчэпу да агульнадзяржаўнага будаўніцтва, вырасце ў магутную асобную расліну — заваюе сабе пачэснае месца ў свеце, стаўшы поплеч з народамі Еўропы. Узгадаваўшы культуру багатую, моцную і арыгінальную, разгарнуўшы ўсю сваю вялікую здольнасць, народ наш стане цэнтрам у сваім краі і сваёю літаратураю, навукаю і мастацтвам звяжа шчыраю любоўю ўсе народнасці Беларусі, каторыя, у сваю чаргу, аддадуць усе свае сілы і розум на карысць супольнай айчыны, на дабро і пыху роднага краю. Усё гэта так важна, проста і ясна, што сапраўды трэба ўлажыць усю сваю душу, аддаць усе свае сілы, каб утварыць светлую будучыню сваёй бацькаўшчыне, здабыўшы шырокую *нацыянальна-тэрытарыяльную* аўтаномію для Беларусі. «Падумайце,— піша праф. Грушэўскі,— якая гэта будзе эканомія часу і энергіі, колькі адпадзе дарэмных турботаў... Адпадзе ўся барацьба за нацыянальнае права, якая пастаянна валтузіла

і затрымоўвала эканамічны і палітычны поступ... Не трэ будзе пакладаць свае здольнасці і энергіі на заходы каля палагоджання сваіх нацыянальных і краёвых спраў у агульнадзяржаўным парламенце, не патрэбны будуць хітрыя партыйныя камбінацыі, каб правесці сваю справу, не трэ будзе «абрабляць» расійскае ліберальнае грамадзянства і іншыя расійскія партыі, каб прыхіліць іх да сваіх нацыянальных і краёвых патрэб. Даволі гэтага! Даволі мы мелі гэтага пры змарлым рэжыме і добра ведаем, як прыемна стасавацца да расійскага грамадзянства! Няхай яно жыве здарова, як само хоча, а нам трэба свае справы разважаць у сябе дома, у сваім краёвым сойме, і толькі тое невялічкае, што датычыцца ўсяе дзяржавы, мы разважым супольна на агульным прадстаўніцтве Расійскай федэратыўнай рэспублікі».

Але не досыць атрымаць аўтаномію, хоць бы і самую поўную. Трэба яшчэ падбаць аб тым, каб сама дзяржава, у склад каторай Беларусь мае ўвайсці, была пабудавана на цвёрдым федэрацыйным грунце, каб гэта была дзяржава *дэмакратычная і федэратыўная.* Чаму ж гэта важна і дзеля чаго гэта трэба?

«Рэч простая,— піша вышэйпамянёны праф. Грушэўскі ў сваёй брашуры «Якой мы хочам аўтаноміі і федэрацыі»,— калі мець нават шырокую палітычную аўтаномію свае нацыянальнае тэрыторыі, але калі дзяржава, з катораю яна будзе злучана, застанецца дзяржавай цэнтралізаванаю, дык хоць бы аўтаномія была забяспечана на моцы канстытуцыйнай хартыі, тым часам становішча яе не будзе пэўнае і адносіны яе да дзяржавы не будуць добрыя. Наша старая гетманская Украіна,— чытаем мы далей,— мела шырокую аўтаномію, была праўдзіваю дзяржаваю, а як звязалася з цэнтралістычнаю Маскоўскаю дзяржаваю, дык яе аўтаномія стала на дрыгвяную плошчу. Да таго часу тая аўтаномія трывала, покі маскоўскі ўрад (Пятра I) не пачуў сябе дужым ды не наважыўся зламаць свой «трактат з Багданам Хмяльніцкім». І зламаў». Гэтаксама было і з Беларуссю. На моцы Люблінскай уніі (1569) яна злучылася з Польшчай у адну Рэч Паспалітую (дзяржаву) як роўная з роўнай і вольная з вольнай, а тым часам стрэў яе аднакі лёс з гістарычнай доляй Украіны. Тое самае мы бачым і на прыкладзе Фінляндзіі. Яна мела сваю канстытуцыю, покі расійскі ўрад яе не скасаваў. Нават Кацярына II, прылучаючы прымусам Беларусь да Маскоўшчыны, дакляравала захаваць яе вольнасці і права паводлуг старых звычаяў і прывілеяў «на

вечныя часы», але ўсім нам ведама, колькі трывалі гэтыя «вечные времена». Скончылася тым, што паступовая русіфікацыя Беларусі, аб якой Кацярына II пісала графу Разумоўскаму, была ўквечана страшэнным у свеце гвалтоўствам — забаронаю ўжываць беларускую мову.

На моцы гэтага гістарычнага і палітычнага даследу мы павінны дамагацца, каб усе часткі Расійскай Рэспублікі былі не толькі аўтаномнымі правінцыямі, а і дзяржавамі, злучанымі паміж сабою *федэрацыйным* (хаўрусным) перавяслам на грунце агульнага інтарэсу, супольнае патрэбы і ўзаемнай дапамогі. І толькі тады становішча Беларусі будзе забяспечана і адносіны яе да Расійскай Рэспублікі будуць шчырыя і пэўныя, калі гэта станецца або калі справы аўтаномнага жыцця злучаць усе народы Расіі ў адзін вольны дзяржаўны хаўрус — *федэрацыю.* А гэта будзе, бо яно вымагаецца і жыццём, і гістарычным поступам народаў Еўропы. Так, гэта будзе, бо павінна быць, калі хоча таго жыццё, калі ў гэтым — прагрэс і культура ўсяго чалавецтва.

# 1918

## *Сяло Мікалаеўшчына, Мінск. павета*

Сяло Мікалаеўшчына, або Мікалаўшчына,— радзіма Якуба Коласа (Тараса Гушчы). Тут залажыўся ў 1905 г. настаўніцкі хаўрус Мінскага павета. Царская паліцыя шмат каго арыштавала з гэтага хаўрусу, шмат каго засудзіла ў вастрог і ссылку, а некаторыя з сябрукоў гэтага хаўрусу, уцякаючы ад царскага гневу, апынуліся ў Амерыцы і толькі цяпер варочаюцца ў свой родны кут. Гэта пра Мікалаўшчыну і яе ваколіцы Якуб Колас сказаў: «Мой родны кут, як ты мне мілы: забыць цябе не маю сілы!»

Ужо ў 1905 г. мікалаўцы свядома адносіліся да палітычных падзеяў, а цяперашнюю рэвалюцыю стрэлі як нешта даўно чаканае і добра знаёмае. Залажыўшы свой камітэт, мікалаўцы пагромаў не чыняць, а спакойна і лагодна вядуць свае справы. Да пагромаў і гвалту адносяцца з агідаю і, пачуўшы аб гэтым, кажуць: «Пусці свінню за стол, дык яна і ногі на стол», «Не дай Бог мужыку панства».

Некія, ім самім невядомыя, мабыць, гістарычныя традыцыі пазваляюць ім усіх ваколічных сялян называць «мужыкамі», а на запытанне, хто яны такія, адказваюць: «Мы? Мы — мікалаўцы». Назваць мікалаўца *мужыком* — дык ён не абразіцца, а толькі здзівіцца, як бы атрымаўшы знячэўку па патыліцы. Сваю асобнасць мікалавец падкрэслівае і ў песнях. Так, напрыклад, на вяселлі, як едуць з прыданкамі, у Мікалаўшчыне спяваюць: «Шчабячы, салавейка, шчабячы — нам дарожаньку пакажы: ці ў тое сяло крывое, ці ў тое мужыччо дурное?»

На сходах мікалаўцы, прамаўляючы, велічаюць сябе — «панове-брацця беларусы». На выбарах да Устаноўчага Сойму падавалі голас за беларускі спісак № 13 і другіх намаўлялі. Настаўнік, каторы стаў чытаць дзецям беларускія кніжкі і гаворыць па-беларуску, адразу прыдбаў сабе прыхільнасць. Сталай нацыянальнай свядомасці яшчэ

не маюць, але востра пачуваюць сваю асобнасць ад расійцаў і палякаў. Разумеюць патрэбу беларускага войска і кажуць, што ад Масквы парадку не будзе. Свой край лічаць забраным і ахвотна згаджаюцца склікаць свой Устаноўчы Сойм у Мінску ці ў іншым сваём горадзе. Расійскіх салдатаў не любяць за тое, што яны лічаць наш край чужым. Украінцаў слухаюць уважна і сярдуюць, што добрым людзям аб'явілі вайну.

Перад Калядамі ўкраінцы, варочаючыся з фронту на Украіну, прымушаны былі пакідаць вінтоўкі ў вёсках, каб не чапляліся бальшавікі. Мікалаўцы забралі вінтоўкі ў камітэт і ўзброілі ўсіх, хто можа абходзіцца з вінтоўкаю. Устанавілі варту ў сяле дзеля таго, каб бараніцца ад пагромшчыкаў, калі што, дык і ад немцаў.

Моладзь і салдаты, прыехаўшыя з фронту, распытваюцца, дзе можна запісацца ў беларускае войска. Усе сярдуюць, што ў Мінску.

«Ад чужога чалавека дабра не будзе,— кажуць мікалаўцы і рыхтуюцца склікаць дамоў усіх асвечаных людзей, што выйшлі з Мікалаўшчыны.

Хваляцца і рады, што з іх сяла выйшаў такі чалавек, як Якуб Колас. Ахвотна чытаюць беларускую літаратуру, але скардзяцца, што з непрывычкі кепска разбіраюць свой друк. Настаўніка хваляць за тое, што вучыць дзяцей «нашаму друку».

## *Крывавая падзея ў г. Мінску*

2-га студня, у звязку з перажываемым хлебным голадам, у горадзе выбухла дэманстрацыя проціў харчовых камітэтаў і хлебнай манаполіі. Каля 11-й гадзіны ўранку на саборным пляцы стала сабірацца таўпа. Былі сцягі з напісамі: «Дайце хлеба, далоў манаполію, далоў харчовыя камітэты».

Натоўп рушыў на Губернатар. вуліцу і запыніўся каля харчовага камітэта. Дэманстранты накінуліся на служачых камітэта з кулакамі. Некаторых служачых пабілі. Міліцыя не магла даць рады. Тым часам натоўп пасуваўся да Захараўскай вуліцы, дзе знаходзіцца губерн. харчовы камітэт. Каля першае гадзіны пачуліся выстралы. Гэта салдатытэкінцы, хочучы разагнаць дэманстрацыю, сталі страляць

спачатку, як казалі, у паветра. Над'ехалі яшчэ тэкінцы. Людзі рынуліся на тэкінцаў і аднаго сцягнулі з каня. Зноў пачалася страляніна. З натоўпу аднаго забілі насмерць, а каля 3—4 чалавек ранілі. Страляніна моцна абурыла ўвесь горад. Стралялі галодных людзей пры маскоўскіх царах...

Г. Мінск — сэрца Беларусі, без хлеба. Горад не прыбіраецца. Па вуліцах прайсці трудна. Тратуары як каўказскія горы.

О, Беларусь! Ці доўга яшчэ будуць гаспадарыць у нас чужынцы, абярнуўшыя гарады нашыя ў галодныя пустэлі?!
Калі ж кончыцца гэты пракляты прыгон...

## *Наш правапіс*

Да гэтага часу беларускія кніжкі і газеты друкаваліся так, як хто ўважаў зручнейшым і густоўным для сябе. Дзеля гэтага не дзіва, што аднакія словы ў адным і тым жа выданні пісаліся розна, як напрыклад: чытае — чытая, сэрца — сэрцэ, жыцьце — жыцце і т. п. Не маючы пэўнага правапісу, разумеецца, і пісаць іначай нельга было.

Але, не гледзячы на гэтую няпэўнасць і расходзячыся густам у драбніцах, тым часам усе пагаджаліся на тым, *што трэба пісаць так, як чуеш*, — што ў аснове нашага правапісу павінна быць *фанетыка*, а не *этымалогія*. Усе паразумеліся на тым, што слова павінна пісацца так, як яго адчувае вуха, а не так, як гэта вымагаецца будоваю слова па этымалогіі. Напрыклад, згодна з этымалагічным правапісам трэба пісаць: *голова, ворона*, а па-фанетычнаму — *галава, варона*, або гэтак, як гавораць.

Практыка паказала, што фанетычны правапіс самы просты і для кожнага зразумелы, а таксама анізвання не перашкаджае лёгкаму разуменню надрукаванага, як заўважылі некаторыя, прывыкшыя да этымалагічнага правапісу. Толькі забабоны і нязвыклая навіна прымушалі іншых скрыва пазіраць на наш фанетычны правапіс. Тым часам

пры этымалагічным напісе трудна сказаць, як жа людзі гавораць — гэтак, як напісана, ці як-небудзь іначай? І толькі дзякуючы нефанетычнаму правапісу ў старым беларускім пісьменстве, нам трудна ўпэўнена сказаць, як жа гаварылі беларусы гадоў 300—400 назад? Іначай кажучы, мы не можам цяпер сказаць, як акцэнтавалі даўней беларусы сваю будзённую гаворку?

Такім чынам, галоўнае і аснаўное правіла нашага правапісу павінна быць такое: *пішы так, як чуеш, як адчуваецца слова вухам*, напрыклад: галава, вада, дарагі, дарогі. Але тая ці іншая рознасць гаворак і не аднакае вымаўленне слоў, а таксама бажанне ўхіліцца ад памылковага, а то і своекарыснага (у законах) талкавання напісанага, перашкаджае захаванню гэтага прынцыпу да канца. Практычнасць вымагае адступіцца ў некаторых выпадках ад правапісу ў фанетыцы. Гэтых адступленняў няшмат, а кожны граматны чалавек іх лёгка запамятае. Усе яны маюць на мэце аднастайнасць (аднакасць, однообразіе) правапісу і адначасна мяркуюцца з гаворкаю ў тым сэнсе, што даюць поўную магчымасць чытаць слова так, як дзе прывыклі яго вымаўляць. Напрыклад, калі мы напішам словы: *горо, поле*, а не *гора, поля*, то гэтым зазначым род і адначасна захоўваем фанетыку слова, бо ў некаторых мясцовасцях так і гавораць: *горо, сэрцо, моро.* А што датычыць тых, што прывыклі вымаўляць гэтакія словы на *а* ці *я* (мора, гора, поля), то тут трэба зазначыць наогул, што ў беларускай мове галосныя гаманкі (звукі) *о* і *е*, калі яны стаяць у слове без націску (без ударения), заўсёды вымаўляюцца як *а* і *я*, і хто не гаворыць: *моро, сэрцо, горо*, той, чытаючы бордза гэтыя словы ў друку, заўсёды прачытае іх, як *мора, сэрца, гора.*

Заўважыўшы гэта, пяройдзем да выкладу тых адступленняў у фанетычным правапісе і некаторых асобных правілаў, якіх карысна трымацца пры пісанні. Яны вымагаюцца практычнасцю і аднастайнасцю ў правапісе і разам з тым надаюць яму стройнасці і ўпэўненасці. Мы прывядзём найбольш важныя сярод іх, што кожнаму кідаюцца ў вочы.

§ 1. У беларускай мове спатыкаюцца траякія адказы: *ні, не* і *ня*. Дзеля аднастайнасці трэба ўва ўсіх выпадках пісаць: *ні*, як у немцаў «nicht», напрыклад: *ні* пайду, *ні*зграбны, *ні* трэба.

§ 2. Безгалосныя падвойныя гаманкі ў іменніках (имена существит.) у беларускай мове заўсёды вымаўляюцца мяк-

ка, калі канчаюцца на мяккі галосны гаманок, дзеля таго паміж імі мяккага знаку ставіць не трэба, напрыклад: жада*нне*, выда*нне*, жы*ццё*, а не — жада*ньне*, выда*ньне*, жы*цьцё*, як іншыя пісалі да гэтага часу.

§ 3. Калі слова азначае сярэдні род, каторы пазнаецца па пытанню *мае*?, і не мае на апошнім галосным гаманку націску (дзіця), дык яго трэба канчаць на літару *о* або *е*, напрыклад: *моро, горо, поле, заданне, полыме.*

Апрач таго, з напісам гэтых слоў трэба сагласаваць і іншыя, да іх даданыя, словы. Робіцца гэта дзеля таго, каб аддзяліць дзіцячы род ад жаночага, напрыклад: пяр*о* ляжа*ло*, кніг*а* ляжал*а*. Таксама словы няпэўнага роду трэба адзначаць літарай *о*, напрыклад: стал*о* змяркацца, аж уваччу пацямнел*о*, нешта зрабіл*о*ся.

§ 4. Чыннікі, або глаголы, у беларускай мове бываюць з кароткімі і доўгімі канчаткамі, напрыклад: *нясе* — мае кароткі канчатак, *нясець* — з доўгім канчаткам. Усе глаголы кароткія павінны канчацца на літару *е*, і толькі пасля шыпячых і літары *р* трэба пісаць *а*, напрыклад: чыта*е*, гуля*е*, піш*а*, гавор*а*.

Літару *е* трэба захоўваць і ў доўгіх канчатках, напрыклад: *чытаець, гуляець*, хоць бы на апошні склад і не падаў націск. І наогул, усе глаголы ў другой і трэцяй асобе цяперашняга часу павінны сагласавацца ў напісе з правапісам глаголаў з кароткімі канчаткамі, іначай сказаць, у канчатках гэтых глаголаў павінна захоўвацца літара *е*, напрыклад: чыта*еш*, гуля*еш*, піш*аш* (бо *піша*, а не *пішэ*). Але не будзе памылкі ў такіх выпадках замяніць літару *е* на *і*, напрыклад: чата*іш*, піш*ыш*, гуля*іць*, бяле*іць*.

Увага. Чыннікі дзеляцца на два спражэнні. У беларускай мове часта трапляецца, што калі ў адной мясцовасці, скажам, першае спражэнне бывае кароткае, то ў другой — яно бывае доўгае і наадварот, напрыклад: нясе — нясець, ідзе — ідзець, чытае — чытаець.

Літару *е* можна замяніць літараю *і* толькі ў тым выпадку, калі апошні склад не мае націску.

§ 5. Прыкметнікі, а гэтаксама заміжіменнікі (местоимен.) у частковым (родительн.) падзежы адной лічбы трэба канчаць на *го*, калі націск у слове не падае на перадапошні склад, напрыклад: добр*аго*, сіня*го*, беларуск*аго*, наш*аго*, ваш*аго*, але скуп*ога*, дурн*ога*, сляп*ога*.

§ 6. Усе прыкметнікі мносцвянай лічбы, не гледзячы на род, трэба канчаць на *я*, напрыклад: новыя сталы, новыя кнігі, новыя вокны.

§ 7. Калі безгалосны гаманок няясна вымаўляецца, дык яго вымаўляюць, мяняючы слова і ставячы пасля няяснага галосны гаманок, напрыклад: *год — годы, хлеб — хлеба, плот — платы.* Зрабіўшы гэта, стане ясна, якую літару трэба пісаць.

§ 8. Гаманок *д* у беларускай мове ніколі не бывае мякім, а калі *д* змякчаецца, то пераходзіць у гаманок *дз*, напрыклад: *дзіця*, а не *діця, дзякуй*, а не *дякуй*. Гэтаксама ў беларускай мове няма мяккага *т*, а яно заўсёды пераходзіць у *ць*, напрыклад: *ты — цябе, сьвет — сьвеціць.*

§ 9. Пасля *ж, ч, ш* трэба пісаць *ы*, а не *і*.

§ 10. Гаманкі *з, с* і *дз*, аддзеленыя ад мяккіх галосных *(е, я, і)* гаманкоў другімі, негартаннымі гаманкамі, а таксама перад *ць*, заўсёды змякчаюцца літараю *ь*, напрыклад *зьмест, зьнік, сьпеваць*, але — *згінуць, схі*сянуцца, *скеміць* — пішацца без *ь*, бо тут маецца гартанны гаманок.

§ 11. Калі іменнікі (имена существ.) канчаюцца на *ка*, то перад складам *ка* пасля *з, с, дз, ц* заўсёды будзе стаяць *ь*, напрыклад: Анто*ська*, ба*цька*, гра*зька*, дзяд*зька*, або: калі іменнік канчаецца на *ь*, то ён захоўваецца і перад *ка*.

§ 12. Словы, маючыя ў адной лічбе канчатак *нне, цце, лле* ў мносцьвенай лічбе канчаюцца на *і*, напрыклад: пытанн*е* — пытанн*і*, лахмоцц*е* — лахмоцц*і*, вясел*ле* — вясел*лі*.

§ 13. Калі трэба аддзяліць безгалосны гаманок ад галоснага, то паміж імі ставіцца *ь*, або ('), напрыклад: зьява, зьеў, пад'еў.

§ 14. Трэба пісаць: *перад, прэд, без, чэраз, цераз*, напрыклад: *пера*пісаць, *прэд*стаўнік, *без*межны.

§ 15. У беларускай мове вельмі часта гаманок *я* без націску пераходзіць у *і*, напрыклад: *міне, цібе, ішчэ, ціпер*, заміж — *мяне, цябе, яшчэ, цяпер.* У гэтым выпадку трэба пісаць так, як гавораць.

§ 16. Злучаныя словы павінны звязвацца літараю *а*, напрыклад: добр*а*чыннасць, нов*а*годні.

§ 17. У словах чужых, небеларускіх, трэба трымацца іх уласнага правапісу, дадаўшы ім беларускую акцэнтацыю, напрыклад: комітэт, соцыяльны, мэльодзія (мелодія) і т. д.

Рэшта правілаў беларускага правапісу будзе вылажана ў напісанай праз філолага Б. Тарашкевіча граматыцы, каторая,толькі дзякуючы цяжкім варункам і грамадзянскай нядбаласці беларусаў, не магла з'явіцца ў друку да гэтага часу.

## *Мінск*

З 14 студзеня горад Мінск зноў апынуўся ў стане аблогі. З 10-ці гадзін увечары жыццё ў горадзе «павінна заміраць», як пісалася ў прыказе пра аблогу. У гэты час вуліцы пусцеюць і пачынаецца страляніна. Страляюць па ўсіх канцах горада і, мабыць, з усіх «родовъ оружія». Часам здаецца, што горад аблажылі ворагі і бяруць яго прыступам. А гэта салдацкая варта бухае ў паветра, каб палохаць злачынцаў, ці, можа, так сабе, дурэючы. Падчас страшна сядзець у памяшканні і робіцца вусцішна і маркотна. Думкі цягнуцца, як павуццё, і наганяюць сум і маркоту.

Тым часам ваенная аблога мала памагае. Няма таго дня і не праходзіць тае ночы, каб дзе не забілі каго ці не аграбілі. Грабяць у самым цэнтры горада, на самых лепшых вуліцах. Залазяць у кватэры і на ваччу гаспадароў забіраюць усё хатняе дабро. Крадзёж і грабежства павялічваюцца. Горад перапоўнены салдатамі з фронту, шмат сартаў, башкіраў, кітайцаў, буратаў і іншых інародцаў, што паварочаліся з ваенных работ. Хлеба ў горадзе няма. У шмат каторых сталоўках абеды падаюцца без хлеба. У продажы за фунт чорнага хлеба плацяць 1 рб. 50 к., але трудна дастаць.

Горад выглядае брудна і не прыбіраецца. Каб трапілі сюды немцы, то сказалі б, што тут жывуць не культурныя людзі, а нейкія бушмены ці тунгусы з паўночнай Сібіры. Па вуліцы валяюцца здохлыя коні, і няма каму вывезці. На самай люднай вуліцы, у цэнтры горада, здох конь раніцай, праляжаў цэлы дзень ды так і начаваць застаўся. Цэлую зіму баставалі дворнікі, снег не ачышчаўся, на тратуарах ляжаў гурбамі. Хадзіць было немагчыма. Людзі валіліся, калечылі сабе бакі і ногі, а ўстаўшы, лаяліся ды карабкаліся далей, апіраючыся аб сцены і падаючы на рукі. Цяпер тратуары крыху абчышчаны, але пападаюцца, так сказаць, «нейтральныя месцы» пры перавулках, дзе і цяпер сабакі ногі паломяць. Па гэтых «нейтральных зонах» людзі праходзяць, пабраўшыся за рукі.

Гарадская Дума распушчана. Было забурэнне з каталікамі з прычыны опісу інвентара ў касцёле катэдральным. Сабраўся натоўп, падняўся гвалт. Стралялі для страху. Каля Залатагорскага касцёла, кажуць, забілі двух мужчын і адну кабету. Потым казалі, што гэта няпраўда, брахня. Хто яго тут разбярэ...

Па горадзе ходзяць розныя цёмныя чуткі. Кажуць, што жыды збіраюцца знішчыць усе цэрквы і касцёлы, а потым

прыйдзе антыхрыст. Адозвам мясцовай бальшавіцкай улады ніхто не дае веры. А трэба сказаць, што бальшавікі паперы не шкадуюць. Увесь горад аблеплен усялякімі адозвамі, дэкрэтамі, прыказамі, пагрозамі і ўспакаеннямі. Кідаецца ў вочы вялізная, як дзіцячае прасціраадла, афіша з напісам: «Удержим ли мы власть?» Гэта камандуючы заход. фронту п. Мяснікоў* заклікаў 25-га студзеня на лекцыю. Кажуць, што п. Мяснікоў зняверыўся ў бальшавіцкай уладзе і праводзіў тую думку, што калі іх падтрымае еўрапейскі пралетарыят, то бальшавікі застануцца ў уласці. «Мы уйдем, но скоро вернемся»,— закончыў сваю лекцыю п. Мяснікоў.

Сталічных газет у горад не пускаюць. Газетчыкі ездзяць па сталічныя газеты недзе пад Барысаў, а потым прадаюць крыёма ў горадзе па 1 рб. за нумар. У мясцовых газетах друкуюцца толькі такія весткі, што не пярэчаць і спрыяюць чыннасці бальшавікоў. За весткі іншага характару газеты закрываюцца і паграрожаюць друкарням рэквізіцыяй, калі выпусцяць што-кольвек такое, што не пад густ будзе бальшавікам. Так быў сканфіскован першы нумар «Вольнай Беларусі». Потым за весткі аб эвакуацыі Мінску былі закрыты газеты: «Dziennik Miński», «Мінская Газета» і «Placówka». Цяпер яны выходзяць пад інымі назвамі, і «Dziennik Miński» стаў «Goniec Miński», а закрытая польская «Placówka» так і памёрла.

26 студзеня хавалі 3 салдатаў, забітых у баю з палякамі. Труны былі абіты чырвоным палатном. Каля Мінску, на злітай слязьмі і крывёю зямлі Беларускай, зноў гатуецца ваенная крываўніца. Завяліся палякі з бальшавікамі ці бальшавікі з палякамі — з польскімі легіёнамі. Сцягваюць войска. Гатуюцца к вайне. Няма надзеі, што прыйдуць да згоды. Вялікая злосць апанавала спорщчыкаў. Былі стычкі пад Воршай, Унечай і Ушой. Ёсць забітыя і раненыя. Пад Унечай бальшавіцкае войска разабрала рэйкі, і цягнік з польскім войскам быў перакулены. Бабруйская фартэцыя ўжо цяперся занята польскімі легіёнамі. Чорныя хмары ваеннай калатніны зноў павіслі над Беларуссю. Уперадзе зноў ахвяры, зноў гора, пакута і слёзы. Беларускаму народу зноў давядзецца перажыць той ваенны жах і страхоцце, каторыя, здавалася, ужо пераржыты. Ужо палякі выказалі жу-

* Мяснікоў (Мяснікян) Аляксандр Фёдаравіч (1886—1925) — савецкі партыйны дзеяч, са студзеня 1918 г.— старшыня аблвыканкама Заходняй вобласці.

дасную думку, што ў разе вайны яны павядуць яе па ўсіх правілах ваеншчыны. Гэта знача, што насяленне мае перажыць новую вайну з усім тым, да чаго яна прымушае. Толькі беларускае войска збавіла б край ад новай патолі, абвясціўшы яго нейтральным. Толькі яно магло б сказаць сваё гаспадарскае слова і прыпыніць распачатую бойню. Але беларускага войска няма, яго забаронена ўкладаць і няма каму заступіцца за наш абяздолены край. Беларусь не мае гаспадара, і няма каму захіліць яе ад новага няшчасця.

Тым часам нішчыцца апошняя завязь беларускіх ваенных арганізацый. 26 студзеня а дванастай гадзіне ўночы ў памяшканні Цэнтр. Вайсковай Беларускай Рады арыштаваны намеснік старшыні Выканаўчага камітэта Рады Езавітаў* і пісар Захарка**. За што — немаведама. Арышт рабілі ўзброеныя матросы по ордэру Мінскага Сав. Р. і С. Дэпутатаў. Пры арышце забралі ўсе паперы, пакінутыя рэчы разбурылі і, паміж іншым, захапілі з сабою двух прыватных людзей, трапіўшых у Раду на той час выпадкова.

Кажуць, што пасля роспуску Гарадской думы новы бальшавіцкі загадчык народнае прасветы заявіў, што ніякіх беларускіх школьных падкамісій не трэба. Гэта ўжо фармальны паход на беларушчыну, якога не было і пры самадзяржавіі. Трэба сказаць, што новы загадчык народнае прасветы родам латыш, а па прозвішчу — Рэзаўскі, той самы Рэзаўскі, каторы разам з Крывашэіным разганялі штыкамі Усебеларускі з'езд. Рэзаўскі кепска, з грубым латышскім акцэнтам, гаворыць па-расійску. Ён жа наводзіў цэнзуру на першы нумар «Вольнай Беларусі» і шмат чаго выкасаваў.

27 студзеня вярнулася ў Мінск беларуская дэлегацыя, што пасылалася ў Брэст на мірную карферэнцыю. Троцкі сказаў, што ён беларускай дэлегацыі не знае і загадаў нікога не пускаць у Брэст без яго пасведчання. Такім чынам, доля Беларусі вырашаецца без беларусаў.

---

* Езавітаў Кастусь (1893—1946) — настаўнік, вучоны, вайсковы і палітычны дзеяч.

** Захарка Васіль (1877—1943) — адзін з лідэраў Цэнтральнай Беларускай вайсковай рады, удзельнік абвешчання БНР.

## *Родная мова і яе значэнне*

Хто ездзіў па чужых краях, той напэўна прыкмеціў, што там усе людзі гавораць адною моваю. Няма там розніцы ў гаворцы. Сяляне і работнікі, папы і чыноўнікі, паны і купцы ў крамах — усе гавораць аднака: у Францыі — па-французску, у Англіі — па-ангельску, у Нямеччыне — па-нямецку, у Польшчы — па-польску. Толькі ў нас, на Беларусі, гавораць не аднака: сяляне адною моваю, *беларускаю*, або, як кажуць, *простаю*, а паны і чыноўнікі — іншаю мовай, расійскаю або польскаю, нібыта «па-панску».

Чаму гэта так? Чаму ў іншых народаў адна мова ў паноў і работнікаў, а ў нашым краю дзве мовы: нібыта панская і простая, сялянская. Ці ж гэта праўда, што беларуская мова *простая*? Хіба беларуская мова горшая ці няздатна да нічога, што паны на ёй не гавораць, а некаторыя сяляне саромеюцца і, патураючы панам, намагаюцца гаварыць па-панску, або «па-благароднаму?»

Не, не горшая нашая мова за іншыя, а можа, яшчэ і лепшая, і гаворыць на ёй цэлых 10 мільёнаў людзей, каторыя ўсе разам складаюць адзін Беларускі народ, меўшы калісь сваю слаўную і магутную дзяржаву.

А толькі паны да іншыя з простых сялянскіх людзей, атрымаўшы дурную адукацыю ў царскіх школах, і зрабіўшыся праз тое нібыта панамі, цураюцца свайго роднага і гавораць не нашаю, *беларускаю*, моваю, а маскоўскаю ці польскаю. Гэтаксама і няграматны хлопец з вёскі, трапіўшы на заработкі ў горад ці куды-небудзь на Маскоўшчыну, вярнуўшыся дадому, пачынаў ламаць сваю гаворку па-чужому і пакепліваць са свайго роднага, беларускага. Ніводзін народ гэтага не робіць — ні француз, ні паляк, ні расіец, а толькі гэтак было ў нас ды яшчэ на Украіне.

А пачалося ў нас гэтае двуязычча цераз тое, што народ наш беларускі доўга быў пад чужым панаваннем: спярша пад Польшчаю, а потым пад маскоўскаю ўладаю. І толькі калісьці Беларусь была вольнаю, ні ад каго незалежнаю і жыла сваім уласным дзяржаўным жыццем. Але суджана ёй было страціць сваю незалежнасць, папасці пад уладу чужынцаў і перажыць горкую долю — долю здзеку, паняверкі і нялюдскага гвалту.

Мала якому народу на свеце даводзілася перажываць трагічнейшую, няшчаснейшую долю, як тая, што зазнаў за сваё гістарычнае жыццё народ беларускі. Выступіўшы на гістарычную арэну са свежымі маладымі сіламі, ён вытва-

рыў быў арыгінальны палітычны лад, паявіў пачаткі ўласнай культуры, даў зароды багатага пісьменства. Калі б была добрая змога вырабляць ды гадаваць усё тое, што ў даўнюю даўніну народ наш меў у багатых і пекных зародах, то цяпер быў бы ён, можа б, адным з найкультурнейшых народаў у свеце, дастойным таварышам у суполцы культурных нацый. Ось жа не так яно склалася. Беларускі народ, што і цяпер вызначаецца сваёю, скажу так, патэнцыяльнаю здатнасцю да культуры, сваім розумам і далікатнасцю — гэты народ цяпер цёмны, заштурханы, бедны. Няма яму прастору, каб выявілася яго прыродная здатнасць і здольнасць; яго зямля родзіць не яму, як не яму служаць і здабыткі сучаснай культуры... Ён стаў і да гэтага часу астаецца толькі гноем, каб на ём маглі вырастаць пышныя кветкі чужой культуры, выпіваючы з яго ўласнага грунту ўсе сокі жывучыя і за гэта амаль што нічога назад не звяртаючы. *«Што ж гэта за фатальная доля такая? Якія прычыны прывялі наш край да такога становішча?»*

Гэтак пісаў і пытаўся ўкраінскі пісьменнік С. Яфрэмаў, маючы на ўвазе сваю бацькаўшчыну Украіну, а далей адказваў, што многа прычын было для такога заняпаду. І найпершая, можа, прычына — геаграфічнае становішча нашага краю — на тым раздарожжы, дзе пастаянна адбываліся ваенныя спаркі суседніх народаў. Як той гарох пры дарозе — так і жыў беларускі народ. Уціснуты паміж іншых народаў, не маючы ніякага ад прыроды затулку, ён быў сходным фарпостам Еўропы, яго край — месцам крывавых падзеяў суседзяў. Народ наш мусіў прымаць на свае грудзі першыя і найцяжэйшыя ўдары ад тых народаў, што сходзіліся на нашай зямлі канчаць свае спаркі агнём і жалезам. Найбольш гэтыя войны на нашай зямлі і канчаліся, а народ наш, прымаючы на сябе гэтыя ваенныя ўдары, страціў многа, вельмі многа. Страціў ён, на самы перад, адпорную сілу і ў той самы час, калі за яго спіной і моцным затулкам суседзі мелі магчымасць складаць моцныя палітычныя арганізацыі, ён і тыя здабыткі пагубіў, што надбаў быў у папярэднія часы коштам вялізарнай напругі сваіх нацыянальных сіл. А пагубіўшы свае нацыянальныя здабыткі, ён мусіў зрабіцца аб'ектам палітычных экперыментаў для тых самых суседзяў, мусіў стаць гноем, на якім яны свае культурныя здабыткі гадавалі і развіналі.

І ось сталася тое, што сталася. Усё пагубіў беларускі народ на доўгім і цяжкім гістарычным шляху сваім да цяперашняга становішча: палітычную незалежнасць і эка-

намічныя дастаткі, сваё права і асвету, свае законы і суд, сваю школу і інтэлігенцыю ды нават імя сваё страціў у бязупынным змаганні з нядоляй сваёю, у барацьбе за сваю нацыянальную індывідуальнасць. Ён зрабіўся нацыяй без прозвішча, нацыяй проста «людзей», шчэ горш — нацыяй «тутэйшых дзядзькоў»... «Цудны наш народ,— дзівіцца ўкраінскі пісьменнік В. Віннічэнка пра народ украінскі,— дужы і сумны... Меў герояў — і ніхто іх не знае... Усё жыццё любіў волю — і ўсё жыццё жыў рабом... Утварыў багацтва песні — і сам яе не знае...» І толькі адзін застаўся яму, гэтаму народу-пакутніку, скарб ад далёкіх прадзедаў. Гэта — родная мова і роднае пісьменства, гэтаю моваю пісанае; абое — як выраз яго духоўнай істоты, як сімвал яго асобнасці нацыянальнай і як пачатак самасвядомасці, як памятка ад прамінулага і надзея на будучыну.

Ось так і звык народ наш жыць пад чужою ўладаю, жыў, хоць на роднай, але не на сваёй зямлі, як выславіўся вялікі ўкраінскі пісьменнік Тарас Шаўчэнка. Ды яшчэ наліха нашая доля судзіла нам быць пад уладаю не саўсім чужых народаў, як, прымерам сказаць, балгарам і сербам пад Турэччынай, а чэхам пад Нямеччынай. Над намі панавалі славяне, нібыта браты нашыя — велікарусы і палякі. Але гэтае «брацкае» панаванне было для нас яшчэ горшае за чужынскае, бо чужыя народы, як немцы і туркі, глядзелі на падуладныя ім славянскія народы як на чужых: іншая мова, іншая вера, звычаі — усё іншае. А на Беларусь і Польшча і Масква глядзелі заўсёды як на свой уласны народ і ўсімі сіламі намагаліся давесці і ўпэўніць усіх людзей, што Беларусі няма, а ёсць толькі Польшча і Расія. Гэтак рабіла польскае правіцельства, як яна была пад яго рукою, і палякі казалі, што Беларусі няма, а ёсць толькі пагранічныя польскія землі (крэсы), *дзе людзі гавораць папсаванаю маскоўскім уплывам польскаю моваю.* Яны стараліся выгнаць нашую мову з ужытку ў школах, судах, у грамадзянскіх інстытуцыях — адным словам адусюль, адкуль толькі можна было. Гэтаксама рабіла і расійскае правіцельства на працягу 120 гадоў, даводзячы, мабыць, назадор палякам, што беларускай мовы няма, *ёсць толькі папсаваная польскім уплывам велікаруская гаворка.*

Не так тыя ворагі, як добрыя людзі — кажа прыказка. І многа ліха зазнала Беларусь не ад чужых, а ад сваіх братоў-славян. За часоў польскага панавання, усе беларускія шляхецкія станы перафарбаваліся на палякаў. Яны адцураліся ад Беларусі і, жывучы на беларускай зямлі.

стараліся ганьбіць і бэсціць усё беларускае, стараліся забыцца, што бацькі іх і дзяды былі беларусы і сваю кроў пралівалі за волю і права сваёй бацькаўшчыны Беларусі. Гэтаксама робяць цяпер нашыя паны і папы, чыноўнікі і настаўнікі, што па царскаму загаду, праз царскія школы парабіліся расійцамі. Яны не толькі адракліся ад усяго роднага беларускага, а яшчэ топчуць нагамі і плююць на тое, што іх дзяды і прадзеды, як святое, шанавалі. Патомкі тых слаўных беларусаў, каторыя некалі мелі сваё магутнае гасударства, чыя мова горда і смела зычэла на ўсім свеце і карысталася вялікаю павагаю і пашанаю — цяпер кажуць, што народ наш не хоча сваёй мовы, не хоча сваіх школ, што народ беларускі не разумее тае мовы, на каторай гаворыць, што быццам бы ахвотней чытае і лепш разумее па-расійску, або, лепей сказаць, па-велікарускую.

Народ... Што значыць народ? Народ цёмны, некультурны, яго трэба навучыць. Як ён можа захацець сваёй беларускай школы, калі ён яе ніколі ў вочы не бачыў? Як ён можа захацець вучыцца на сваёй мове, калі за яе яго лаялі, бэсцілі, крыўдзілі і за людзей не лічылі? Калі ён пастаянна бачыў, што калі хто гаворыць па-беларуску, той бедны, цёмны, галодны, а хто гаворыць іначай, той багаты, асвечаны і сыты? Народ трэба навучыць, яму трэба паказаць, што покі не запануе ў краю яго наша родная беларуская мова, да таго часу ён будзе бедны, цёмны і галодны. Толькі дэмагог і палітычны шарлатан можа пасылацца на народную цемнату і карыстаць з яе дзеля сваіх поглядаў або інтарэсаў. Дзіўная гэта прывычка ў іншых людзей пасылацца на народ там, дзе гэта саўсім недарэчы. Калі хто хоча пабудаваць дом, зрабіць якую машыну ці правесці жалезную дарогу, дык ён звычайна звяртаецца да спецыяліста, да тых, хто знаецца на гэтых справах; толькі ў палітыцы ды ў культурнай працы чамусь звыклі радзіцца з такім знаўцам, як цёмны, неасвечны народ...

Кепска рабілі нашыя паны—патомкі шляхецкіх станаў, але яшчэ горш робяць тыя, хто выйшаў з народу — з вёскі ці мястэчка — ды зрабіўся падпанкам. Мабыць, недарма кажуць: «Не дай Бог свінні рог, а мужыку панства». Парабіўшыся расійцамі, яны ўсіх сіл дакладаюць для таго, каб пашкодзіць Беларусі. Яны сваёю ахвотаю шыліся ў шпігі, у даносчыкі, падглядалі, падслухвалі, а чаго недачувалі ці недабачылі, тое падбрэхвалі і тым падслужваліся сваім панам. Яны брахалі на шчырых, святлейшых сыноў Беларусі, каторыя стараліся вывесці народ свой з цемры і несвя-

домасці на шырокі шлях усялюдскага знання, волі і свету. Брэшучы на беларусаў, гэтыя здраднікі і перакінчыкі палохалі несвядомы народ тым, што беларусы-адраджэнцы намагаюцца прылучыць нашую старонку да Польшчы.

Такую ўжо ўдачу маюць усе здраднікі і перакінчыкі. Яны ненавідзяць тое, ад чаго адракліся, і вымагаюць гэтага ад другіх. Ім хочацца, каб усе смяяліся і здзекаваліся з таго, ад чаго яны адцураліся, мабыць, дзеля таго, каб супакоіць сваё юдзінае сумленне. Вось гэтак рабілі турэцкія янычары, што набіраліся з хрысціянскіх дзяцей і каторых гадавалі ў духу магаметанскай веры. Яны ненавідзелі ўсё славянскае і былі самымі лютымі катамі для сваіх колішніх братоў. Гэтаксама і жыд-выхрыст ужо ненавідзіць усё жыдоўскае. Былі адвеку ў нас гэтыя каты-янычары. Яны звалі сябе беларусамі і душылі ўсё беларускае. Яны намагаліся з навукі давесці, што беларусаў няма, не было і быць не можа; што іх мова не мова, а мешаніна слоў польскіх і велікарускіх. А другія заходзілі з іншага боку і не казалі, што беларускай мовы няма, а казалі, што трэба кінуць сваё і пераймаць расійскую культуру. Гэтых янычараў памятае ўся Беларусь: гэта Саланевічы, Кавалюкі, Акаловічы і шмат іншых.

Што б вы сказалі на тых дзяцей, каторыя пакінулі б у бядзе і няволі сваю матку, што выгадавала, вынянчыла і выпеставала іх? Што б вы сказалі на іх, каб яны абакралі яе ды сталі б яшчэ здзекавацца ды выносіць імя яе на глум і пасмешышча: закідалі б яе гразёю, тыкалі б пальцамі і насміхаліся б перад людзьмі і перад усім светам? Ці не адвярнуліся б вы з агідаю ад такіх вырадкаў?

А гэтак робяць усе перакінчыкі і рэнегаты-беларусы. Не шкада нам іх, дый невялікая карысць з іх будзе і таму народу, да якога яны прылучыліся. Непатрэбны яны нам, як непатрэбен той брудны шум, што накіпае ў гаршку на страве. Але вялікі жаль бярэ за тых, што паслухалі іх і кінулі свой родны народ; шкада нам тых лепшых людзей, разумных і вучоных, што пераліцаваліся на палякаў і расійцаў і панеслі сваю працу, навуку і здольнасць у чужую хату, на чужую ніву, занядбаўшы сваю родную.

Колісь, за часоў незалежнасці Беларусі, народ беларускі быў далёка асвечнейшы за маскоўскі. У той час, як на Маскоўшчыне стаяла страшэнная цемра, у нас панавалі навука, асвета, шырока квітнела грамадзянскае жыццё і ў дзяржаве Беларускай існаваў вольны канстытуцыйны парадак. Цёмныя людзі маскоўскага царства грамілі дру-

карні, гасілі прасвету, баяліся кнігі, не раўнуючы, як чумы ці халеры, тады як нашае грамадзянства, не здавальняючыся ўласным выхаваннем у сябе дома, пасылала дзяцей сваіх да вышэйшых навук за граніцу дзеля большай адукацыі, дзеля лепшага выхавання. І лепшыя, асвечнейшыя людзі Масковіі, як Курбскі, напрыклад, або Мсціславец ці Тодар Друкар, хаваючыся ад раз'юшанага натоўпу, шукалі ратунку ў нашай бацькаўшчыне, уцякалі на т. з. Літву і знаходзілі тут братэрскі прывет і пашану. Відаць, што Беларусь на той час была для Маскоўшчыны, як Швейцарыя ці Францыя нашага часу, куды ўцякалі ад царскага гневу лепшыя людзі дарэвалюцыйнай Расіі.

Беларускія пісьменнікі таго часу мелі вялікі ўплыў на пісьменства маскоўскае і спрычыніліся нават да выраблення самай літаратурнай мовы на Маскоўшчыне (М. Сматрыцкі, С. Полацкі*, Е. Славінскі і многа іншых вучоных). Праз гэта ў расійскай літаратурнай мове пазаставалася і да гэтага часу шмат беларускіх слоў, як *націск, патрэбнасць, абарона, разрушэнне*, не гледзячы на тое, што расійцы, пачынаючы з Ламаносава, старанна выкідвалі іх з ужытку ў літаратуры як словы «польскія». Артадаксальныя велікарусы скоса паглядалі на беларускую літаратуру за яе свецкі і заходнееўрапейскі дух і, як агню, баяліся ерэтыцкіх, «латынскіх» думак з «Літоўскай зямлі». Той страх перад беларускім пісьменствам выяўляўся ў тых рэпрэсіўных заходах, якіх дакладалі маскоўцы, каб не пусціць на Маскоўшчыну беларускіх кніг. Першы ўказ процi беларускага пісьменства выдаў яшчэ патрыярх Філарэт году 1627-га, прыказваючы, «что бы впредь никто никакихъ книгъ литовскія печати не покупали». У той жа год на Маскве спалілі ўчыцельнае евангелле Транквільёна-Стаўравецкага** і іншыя творы гэтага аўтара, а «Катехизисъ» Лаўрэнція Зізанія Тустаноўскага надрукавалі толькі пасля цікавага дыспуту з маскоўскімі «спраўшчыкамі» і ў пераробцы. Году 1672-га быў выдан новы ўказ: «Во всех местах всяких чинов людям учинить закон крепкой с большимъ подкреплением, чтоб те люди польския*** и латинския печати книг никто у себя в домах в тай и явно не держали, а приносили бы и отдавали бы воеводе».

---

* Полацкі Сімяон (1629—1680) — беларускі і рускі грамадскі дзеяч, пісьменнік і публіцыст.

** Транквільён-Стаўравецкі Кірыла — беларускі уніяцкі паэт пачатку XVII ст.

*** Разумеецца, беларускія. *(Заўвага Я. Лёсіка.)*

Наогул, нацыянальная культура на Беларусі стаяла тагды досыць высока, існавала рэлігійная вольнасць і не было нацыянальнага ўціску, так што жыды, напрыклад, мелі роўныя правы з усімі грамадзянамі, і не было жадных нацыянальных сутычак з літоўцамі. У 1517 годзе Ф. Скарына ўзяў на сябе справу вялікай вагі — пераклаў і выдаў Біблію на беларускай мове, «ку лепшаму,— як ён пісаў,— выразумленню люду паспалитаго». Праўда, не надта ўжо проста і зразумела яна перакладзена, шмат мае ц.-славянскіх зваротаў, але гэта была эпоха ў культурным жыцці беларусаў, асабліва калі ўзяць на ўвагу шырокую публісТычную літаратуру таго часу на роднай беларускай мове. Пётр Вялікі, маскоўскі цар, калі захадзіўся вучыць свой маскоўскі народ, дык ён набіраў сабе вучоных з Беларусі, з Полацку, і нашыя вучоныя таго часу далі яму азбуку, т. з. гражданку, на каторай і цяпер друкуюцца расійскія кніжкі. Па беларускай граматыцы М. Сматрыцкага расійцы доўга вучыліся грамаце, перакруціўшы, разумеецца, на свой лад, і Ламаносаў, напрыклад, напісаў па ёй першую велікарускую граматыку.

А калі адабралі ў нас нашую волю і знішчылі нашыя даўнейшыя правы, то народ наш стаў цямнейшы за другіх, бо не стала сваёй уласнай асветы, сваёй школы, сваіх вучоных людзей і пісьменнікаў. Іншыя народы ішлі ўперад, развівалі і мову сваю, і навуку, і асвету, а ў нас, беларусаў, нічога гэтага не было, бо ў нас адабралі нашую мову, у народа нашага вырвалі яго язык... І народ беларускі астаўся адзін, без сваёй навукі, асветы і пісьменства, без сваёй, як гэта кажуць, *інтэлігенцыі*.

І гэтак вялося не год, і не два, а цэлыя соткі гадоў. Праз гэта сталася тое, што на Беларусі ўсё роднае, сваё, беларускае, лічыцца *простым*, а чужое, няроднае — «панскім», расійскім ці польскім. Яно й дапраўды панскае, бо расійцы ў палітыцы, а палякі «тутэйшага родзаю» ў грамадскіх установах панавалі над намі. А за імі, за гэтымі панамі, і сам народ наш перастаў шанаваць сваё роднае і нават саромеецца яго. Француз горда скажа, што ён француз; немец ніколі не зрачэцца сваёй мовы, гэтаксама не зробіць гэтага і паляк ці чэх, або балгарын, а нашыя сяляне нават і не знаюць добра, хто яны, чыіх бацькоў, якога краю. Бывала, спытаеш у селяніна — хто ён? дык ён кажа: «рускі», калі праваслаўны, або «паляк», калі каталік. Бывала, чорная сотня закліча яго запісацца ў «союзъ русскаго народа», набрахаўшы, што за гэта дадуць яму зямлі, дык ён

і туды запішацца. Патураючы панам-перакінчыкам і некаторыя з нашых сялян пнуцца быць «рускімі» або «палякамі», пагарджаюць усім сваім родным, вераць, што гэта ўсё *простае, мужыцкае*, і пачынаюць перакручваць сваю мову то на расійскі, то на польскі лад — «цокаюць», «какаюць» ды так калечаць сваю і чужую мову, што аж брыдка слухаць. І ўсё дзеля таго, каб падрабіцца пад паноў. Асабліва старающца тыя, што вучыліся ў царскіх школах або паслужылі дзе-небудзь у канцэлярыі ў пісцах, а ўжо пра тых, што выбіліся «ў паны», дык гаварыць няма чаго. Яны з родным бацькам гаварыць пры людзях саромеюцца, а некаторыя нават чэснае бацькоўскае прозвішча перарабляюць на чужынскае: так — Каваль — Кавалёвым робіцца, Карась — Карасёвым, Дуброўскі — Дэмброўскім і т. д.

Гэтак было калісь з чэхамі ў Аўстрыі. Немцы былі саўсім анямечылі чэхаў; там гэтаксама гарадскія людзі сталі гаварыць па-нямецку, а сваёй чэшскае мовы саромеліся. І толькі як настала там воля і сяляне крошку прасвятлелі, то завялі заміж нямецкіх школ свае чэшскія. Цяпер там усе, і гарадскія і вясковыя людзі, гавораць адною чэшскаю моваю. Гэтак было ў Нарвегіі, у Фінляндзіі і ў украінцаў. Таксама пачынаецца і ў нас цяпер на Беларусі.

Нядаўна яшчэ пачалося беларускае адраджэнне, пачатак яму палажылі нашы пісьменнікі і паэты і многа іншых верных і шчырых сыноў свайго краю. Яны самі скрозь гавораць па-беларуску, пішуць кніжкі, выдаюць газеты, стараюцца ўвясці сваю мову ў школах і ва ўсіх інстытуцыях нашага краю. І ўсім нам трэба вучыцца гаварыць па-беларуску, бо хто кажа, што ён беларус, а мовы беларускае не прызнае, той кепскі беларус. Не прынясе ён карысці роднаму краю. Міцкевіч і Сыракомля былі беларусы і ведалі, што яны беларусы, але калі яны гаварылі і пісалі па-польску, то ўся праца іх пайшла на багацце і пыху польскага народу. «Хто любіць Айца Нябеснага, а бліжняга свайго ненавідзіць,— сказаў Хрыстос,— той кажа няпраўду». Хто любіць свой край, а культуру яго не прымае, той лжэц — скажам мы ад сябе.

Трэба нам самім шанаваць сваю мову і гаварыць скрозь па-беларуску, як гэта робяць расійцы ці палякі, тагды і чужыя людзі стануць шанаваць яе. А то як жа яны стануць паважаць яе, калі мы самі не шануем?!

Дзеля гэтага нам трэба здабыць сабе навуку і асвету

ў сваёй мове, каб дагнаць іншыя народы, бо мы далёка адсталі ад культурных людзей, дзякуючы таму, што не малі сваіх школ. Асвета наша павінна быць беларуская, бо толькі ў сваёй хаце свая воля і праўда.

Вялікі ўкраінскі паэт Т. Шаўчэнка сказаў:

Вучыцеся, браты мае,
Думайце, чытайце
І чужому навучайцеся,
Але й свайго не цурайцеся.

Не цурайцесь таго слова,
Што маці спявала,
Як маленькіх калыхала,
Малых спавівала.

Трэба вучыцца роднай мове. У нас чамусь думаюць, што калі кніжка ці газета напісана па-беларуску, то яе павінен разумець кожны, нават бязграматны. Каб мова заводзілася толькі дзеля таго, каб лягчэй разумець, то можна было б і не турбавацца: народ беларускі здолен навучыцца ўсялякай мове. Але родная мова мае сваю ўласную цану і значэнне. Перш-наперш, разумеецца, яна дапаможа нам лягчэй і хутчэй пераняць навуку і асвету. Але сэнс у тым, што родная мова — гэта душа народа, яго скарб, багацце і аздоба. Толькі праз асвету ў роднай мове мы дойдзем да лепшай долі, толькі яна выведзе нас із цемры на шлях волі, братэрства і светлага, разумнага жыцця. Быў час, калі ў Заходняй Еўропе ў школах і навуцы панавала латынь. Тагды навука, перанятая ад грэкаў і рымлян, спынілася. Людзі тапталіся на месцы, ламалі галаў над кабалістыкай і алхіміяй, шукаючы некага «жизненнаго элексиру». І толькі тады, як трокнуліся яны, што гэтага «жизненнаго элексиру» і шукаць не трэба, бо яны яго маюць, і што гэты эліксір ёсць іх родная мова — толькі тады пачалася эпоха адраджэння і людзі шпарка сталі пасувацца ўперад па дарозе да навукі, асветы і людскага дабрабыту.

Цікава, што і народ у істоце сваёй разумее гэта і выказаў гэта ў сваіх песнях і казках. Мы ведаем, што народ беларускі, змагаючыся з гістарычнымі злыднямі сваімі, страціў апошнія сілы ды мэрам заснуў летаргічным сном. І мабыць, у гэты страшны час цішы і нацыянальнага ўціску, стварылася казка пра забітага брата. Апавядаецца яна не ўлетку, як свет Божы грае і красуе, і не ўзімку, калі мароз і завіруха, а ў час вялікага посту, напрадвесні, напярэдадні новага жыцця.

Не грай, дудачка, не грай!
Майго сэрца не ўражай.
Мяне брацяйкі забілі,
Нож мне ў сэрцайка ўсадзілі,
Чаранком вочы накрылі.

Брацяйкі — гэта Польшча і Масква, пад панаваннем каторых жыла Беларусь... І апавядаецца ў казцы гэтай, дзе дастаць тых лекаў, дзе можна расстарацца тае вады жывучай і гаючай, каб адратаваць забітага брата.

Для нас, сучасных дзяцей Беларусі, тымі лекамі, тою вадою жывучаю і гаючаю ёсць нашая беларуская мова, пісьменства і асвета на грунце роднай культуры.

Толькі мова і засталася ў народа нашага ва ўсе яго злыдні, толькі яна, моў тая дудачка ў казцы, грала і прамаўляла ўсяму свету, што *жыў яшчэ наш народ, і жыць ён хоча, і жыць ён можа, і жыць ён будзе.* Адна яна, нашая родная мова, асталася памяткаю даўнейшай славы Беларусі і служыць нам неўміручай надзеяй на будучы росквіт, а цяпер нясе народу свет свядомасці нацыянальнай, палітычнай і грамадзянскай.

## *Гістарычная няўхільнасць*

Прайшло 125 гадоў з таго часу, як Міншчына разам з прылеглымі да яе землямі была прылучана да Масквы. Гэта было ў 1793 годзе, пры першым раздзеле Польшчы. Другія часткі Беларусі, як Магілёўшчына, Віцебшчына і інш., былі прылучаны раней, пры першым раздзеле быўшай Рэчы Паспалітай, у 1772 г.

21(8) лютага нямецкая армія ўвайшла ў горад Мінск, у гэтае сапраўднае сэрца Белай Русі, заняла Міншчыну і тым палажыла канец маскоўскаму панаванню.

За ўвесь час маскоўскай улады, многапакутная старонка нашая не бачыла светлага дня ні гадзіны. Маскоўскі ўрад лучыў нас не брацкім яднаннем і воляй, а нацыянальным гнібеннем, гвалтам і няволяй. Ён не лічыўся з нашай нацыянальнай самабытнасцю і панявераў нашай гістарычнай прошласцю. Спачатку ён глядзеў на нас як на палякаў, а далей залучыў да свайго велікарускага народу і груба душыў усе зачаткі нацыянальнай свядомасці і развіцця нацыянальных сіл. Нацыянальнае гнібенне і азіяцкая па-

літыка абмаскалівання шырокай хваляю разліліся па нашаму краю. Край напоўніўся спецыяльнымі чыноўнікамі-абрусіцелямі: была хітра выкарыстана рэлігійная розніца і паланізацыя шляхецкіх станаў; семінарыі, гімназіі, ніжэйшыя школы — усё было скіравана на тое, каб задушыць у народзе ўсё роднае, беларускае, і навярнуць на маскоўскі лад. Падчас грубы маскоўскі жандар стаў прыдавацца народу нейкім абаронцам і заступнікам...

Лепшыя і святлейшыя людзі, выйшаўшыя з народу, бачылі гэты страшны гвалт і падашуканства і, шукаючы паратунку, думалі, што ў нашым нацыянальным прыгнябенню вінават не народ велікарускі, а яго азіяцкі ўрад. І падаўшы братэрскую руку велікарускай інтэлігенцыі, яны адважна рынуліся на бой з праклятым царызмам, цвёрда верачы, што разам з палітычнай воляй знойдуць сабе і нацыянальны паратунак. Гадалася, што тады народ наш без перашкоды стане на роўную нагу са сваім большым па ліку братам, велікарусам.

Але цяжка зняверыліся...

Рэвалюцыя парвала кайданы палітычнай няволі. Здавалася, што народы Расіі сталі напярэдадні новага сацыяльнага жыцця і нацыянальнага росквіту. Здавалася, што ўжо нічога не перашкаджае злучыцца народам Расіі ў адну згодную таварыскую сям'ю. Тым часам пры свеце палітычнай волі выявілася, што велікарускі народ устаў перад намі як новы валадар і гвалтаўнік. Зваліўшы самадзяржавіе, ён праз сваіх міністраў-сацыялістаў рашуча заявіў, што не адкажацца ад свайго нацыянальнага панавання. Карыстаючы з народнай цемнаты, павадыры маскоўскай дэмакратыі, згуртаваныя ў рады работніцкіх, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў, дзеля лягчэйшага ўтрымання свайго ўладарства абазвалі нацыянальны рух буржуазным і контррэвалюцыйным і сталі крывёю і жалезам бараніць сваё панаванне. Так была задушана Украіна, разагнаны першы Усебеларускі З'езд і знішчаны ўсе цэнтральныя беларускія арганізацыі. Батый пашкадаваў хараства слаўнага Кіева, але не злітавалася над ім рука некультурнай маскоўскай дэмакратыі. Наёмныя банды бальшавізму не спыніліся ні перад чым, каб утрымаць сваё нацыянальнае ўладарства...

Так быў паложан канец брацкаму яднанню славянскіх народаў Расіі. Але паспаліты, просты народ яшчэ доўга верыў бы ў братэрскае пачуцце велікарускай дэмакратыі, каб яна сваімі самабытна-маскоўскімі сацыяльнымі ўчын-

камі не апаганіла ўсіх дэмакратычных прынцыпаў. А бязладдзе, голад і агульная разруха дарэсцілі апошнюю кроплю надзеі...

*І вось сталася, што сталася.* Пры ўтвораным палажэнні, народ моўчкі і пакорна, з патаемнай надзеяй на паратунак іншага гатунку, стрэў акупацыю роднага краю праз нямецкае войска. «Была без радасці любоў, разлука стала без печалі...»

І гэты паратунак іншага гатунку ўстаў перад намі ва ўвесь свой рост, ва ўсім яго гістарычным значэнні.

Цэнтр старай арыентацыі адсунуўся ў гістарычную прошласць. Раптам не стала і разбілася магчымасць на федэратыўны звязак пры старым палітычным цэнтры. Зніклі надзеі на далёка сягаючыя сацыяльныя перамены пры старой разбітай арыентацыі. Засталося адно — моцнае і непарушнае, як само жыццё і яго светлая будучыня. *Гэта — дзяржаўная незалежнасць нашай многапакутнай бацькаўшчыны Беларусі.* Тут і толькі тут наш паратунак ад нацыянальнага, палітычнага і сацыяльнага палону.

Захаванне цэлакупнасці і нацыянальнай самабытнасці нашага народу, развіццё яго эканамічнага дабрабыту і грамадзянскага ладу павінны стаць першымі заданнямі ў нашай палітычнай чыннасці і далейшай будзённай працы...

## *Народ і інтэлігенцыя*

Нацыянальны рух — справа культурнага парадку. Простаму, паспалітаму народу трудна ўразумець, дзеля чаго гэты нацыянальны рух, нашто яму тая мова, з каторай кпяць і смяюцца.

Нацыянальнае адраджэнне — справа культурнага разумення. У справе нацыянальнага адраджэння патрэбна разуменне цэлага, а не часткавага. Тут трэба ахапіць тое, што калісь будзе, што свеціцца ў далёкай будучыні, а не дыміцца ў сучаснасці. Трэба любіць дальнага, а не бліжняга і быць закаханым у цэлае, а не часткавае. Трэба меркавацца з творчасцю, а не працавітасцю.

Зусім справядліва, што і без нацыянальнага адраджэння паспаліты народ можна зрабіць сытым і давольным. Але не адным хлебам жыў бывае чалавек. Аддаўшы ўшанаванне

целу перад духам, мы чынім гвалт над натураю. Занядбаны дух засумуе смяртэльна і знішчыць і цела.

Шмат каму гадалася, што, даўшы народу дабрабыт матэрыяльны, лягчэй абудзіць у ім і нацыянальнае. Але памыліліся. Прыняўшы зямлю, народ упарта не прымаў нацыянальнага.

Народ у масе сваёй элемент пасіўны. Народ аб'ект, а не суб'ект. Народ — матэрыял для творчасці сілы ініцыятыўнай, інтэлігентнай. Праўда, у народзе ўсё культура, прагрэс, хараство, але пастольку, паскольку гэта праяўляецца ў творчасці яго сіл актуальных, яго інтэлігенцыі. Глыба мармуру праяўляе хараство, калі над ёй папрацуе сіла творчая — скульптар-мастак, і праявіць у ім сваю думку-ідэю.

Для масы народнай усё роўна, над якім пачаткам жыць, абы — добра, сыта і пакойна. Праўда, народ робіць гісторыю, але не сам, ■ пад кіраўніцтвам кагосьці. Вада круціць калёса ў млыне, але тады, калі творчая сіла прыстасуе да гэтага патрэбныя прылады.

Трэба кінуць думку, што абуджаная маса сама пачне рухаць ідэю нацыянальных заданняў. Народ рухаецца з прычын матэрыяльных, патрэбамі цела. Ідэю нацыянальную трэба выпланаваць у матэрыяльным. Трэба тварыць культуру і яе здабыткі зацвярджаць і ўмацоўваць у народзе.

Для заданняў нацыянальнага адраджэння трэба арганізаваць інтэлігенцыю. Для інтэлігенцыі патрэбы духу маюць сілу абавязковасці, як для масаў патрэбы матэрыяльныя. І толькі сярод інтэлігенцыі ідэя нацыянальнага адраджэння набярэ сілы, значэння і жыццёвай прымусовасці. А здабыткі творчай сілы інтэлігенцыі народ прыме, як прыняў ён хрысціянства, рэфарматарства і рэвалюцыю. Бо інтэлігенцыя — яго дух, яго розум, яго ўласны інстынкт жыцця. Інтэлігенцыя не можа тварыць таго, што не карысна народу — ясней кажучы, інтэлігенцыя заўсёды творыць волю свайго народу, калі мае на ўвазе патрэбы цэлага, а не частковага, патрэбы нацыі, а не яго асобнага стану. Сціслае здавальненне патрэб ці інтарэсу часткі, таго ці іншага стану нацыі, прыводзіць да катастрофы.

Не забываючы справункаў абыходку будзённага, інтэлігенцыя Беларусі павінна запаліцца агнём агульнай, планамернай працы на грунце культурна-нацыянальга росквіту сваёй бацькаўшчыны.

Мы перш за ўсё беларусы, і ўжо потым сацыялісты ці не

сацыялісты, дэмакраты ці не дэмакраты, кансервацісты ці не кансервацісты.

Захаваўшы сваю нацыю і адбудаваўшы сваю хату, мы здолеем завесці ў сябе парадак адпаведны і нашаму сумленню, і нашаму прακананню. Хто не дбае аб нацыі, той смяртэльна хвор або самагубца, бо не можна гатавацца да жыцця і не дбаць аб самой крыніцы жыцця.

Хто кажа, што любіць Айца Нябеснага, а бліжняга свайго ненавідзіць — той лжэц. Хто любіць народ, а мовы яго ці культуры яго не прымае, той падашуканец. Служыце народу, а не людзям, любіце нацыю, а не стан яго...

## *Мір і Беларусь*

У нядзелю, 3(18) сакавіка, у Берасці падпісаны міравы трактат паміж цэнтральнымі дзяржавамі і Вялікаросіей. Такім чынам, бальшавіцкі велікарускі ўрад прымушан быў згадзіцца на тыя варункі міру, якія былі запрапанаваны германцамі. Формула — ні міру, ні вайны — не збавіла ад ганебнага міру. Мала таго, скарыўшыся перад пераможцам, бальшавікі абавязаліся нядаўна памірыцца з Украінскаю Народнай Рэспублікай і вывесці свае войска і чырвоную гвардзію з Украіны і Фінляндзіі. Ратаваўшыя цэлы свет, самі сябе выратаваць не спрамагліся.

На моцы падпісанага трактату Расія страціла ўсе тыя невелікарускія землі, якія былі прылучаны мячом і дыпламатыяй да даўнейшага Маскоўскага Княства. Страчана Арменія, адпала ад Расіі Фінляндзія, землі Надбалтыйскія, Украіна, Польшча, Літва і заходняя частка Беларусі. Усходняя Беларусь, акупаваная пры апошнім наступленні — як Міншчына, палова Магілёўшчыны і Віцебшчыны, паводлуг варункаў міру, фармальна застаюцца пры Вялікаросіі, а фактычна яны будуць заняты нямецкім войскам да тых пор, пакі не ўтворыцца агульнаеўрапейскі мір або не скончыцца расійская дэмабілізацыя. Абшары, забраныя немцамі да апошняга наступлення і быўшыя калісь пад уладаю Расіі, больш да Расіі належаць не будуць, і Расія не мае права ўмешвацца да ўнутраных спраў тых мясцовасцяў.

Такім чынам, ад быўшай Дзяржавы Расійскай засталася толькі Вялікаросія — быўшае Княства Маскоўскае, або Ма-

сковія. Цяпер Вялікаросія, як і даўней, зусім адсунута ад Заходняй Еўропы і зноў апынулася на пагранiччы з Азіяй. З утратаю Надбалтыйскіх правінцый, зачынілася акно ў Еўропу, прарубленае Пятром Вялікім, і згінула праца цароў маскоўскіх. А калі дадаць сюды аднаўленне гандлёвага трактату 1904 г. са зменамі на карысць Германіі, то трэба сказаць, што Вялікаросія пастаўлена ў нязмерна цяжкае эканамічнае становішча. І трудна сказаць, дзе канец тым няшчасцям, якія валяцца з усіх бакоў на быўшую Дзяржаву Расійскую, калі ўзяць яшчэ на ўвагу пасованне японцаў у Сібіры...

Цяжкае становішча і нашай старонкі, Беларусі. На міравыя перагаворы беларусаў не пусцілі. Імя Беларусі ні разу не ўспаміналася ў Берасці, калі абмінуць увагу фон Гофмана аб разгоне «ўсебеларускага кангрэсу». Умовы паміж Вялікаросіей і цэнтральнымі панствамі ясна гавораць, што заходняя частка Беларусі — Віленшчына, Гродзеншчына і частка Міншчыны — адарваны назаўсёды, і лёс іх маюць устанавіць германцы ў паразуменні з насяленнем. Заходняя частка Беларусі акупавана нямецкімі войскамі, і германцы гатовы ачысціць яе ад свайго войска пасля агульнаеўрапейскага міру і аддаць яе Вялікаросіі ўжо, мабыць, без ўсялякага паразумення з насяленнем. І вось так Беларусь падзелена на дзве часткі з тым, каб заходняя частка яе заставалася ў залозе да ўтварэння агульнага міру. Далейшы лёс нашай старонкі залежыць ад таго, як скончыцца ваенная справа немцаў з ангельцамі і французамі.

Тым часам, немаведама калі скончыцца вайна на Захадзе. Мір Вялікаросіі з цэнтральнымі дзяржавамі не зрабіў ніякіх перамен у палажэнні Беларусі. Беларусь як была расцята, так і застаецца. І цяпер справа ў тым, каб за той час, які аддзяляе нас ад агульнага міру, умацавалася на Беларусі пажаданне нашай нацыянальнай незалежнасці і каб утварылася немагчымасць раздзелу нашай спакутаванай айчыны.

Трэба выкарыстаць утворанае палажэнне і далажыць усіх сіл і заходаў, каб злучыць наш край у адзін цэлакупны, нацыянальна незалежны арганізм.

З кім нам быць — з Усходам ці Азіяй? — гэтае пытанне павінна быць вырашана без вагання. Звязак са спустошанаю, эканамічна заняпалаю, зруйнаванаю і адсунутаю ад мора Вялікаросіяй пагражае нам эканамічным, грамадзянскім і нацыянальным заняпадам і не забяспечае нас ад но-

вай ваеннай патолі, бо трудна спадзявацца, каб акрыяўшая Масква не пажадала сабе рэваншу.

Беларусы павінны дабіцца прадстаўніцтва на агульнаеўрапейскім міравым кангрэсе.

## *Памятка беларусам маскоўскай прыхільнасці*

Калі ў Расіі панаваў цар, дык нам казалі, што ў нацыянальным уціску вінаваты не народ велікарускі, а толькі яго цар, хоць трудна было зразумець, хто забараняў велікарускай інтэлігенцыі адстаіваць, напрыклад, нацыяналізацыю школ.

Потым, як скінулі ў Расіі цара, а тым часам нацыянальнай палёгкі не прыйшло, дык гэта тлумачылі тым, што кіраўніцтва ў дзяржаве захапіла буржуазія дый не час, моў, займацца нацыянальным пытаннем. Вось прыйдуць сацыялісты, дык тыя ўжо зробяць і кожнаму ўнаровяць.

Прыйшоў сацыяліст — міністр А. Керанскі і, не вагаючыся, абвясціў, што «не отдастъ достоянія революціонной Россіи и будетъ защищать яго кровью и железомъ». Так пагражаў ён Украіне і Фінляндыі, калі тыя паверылі слову велікарускай дэмакратыі ды сталі «самоопределяться». Прыхільнікі маскоўскай арыентацыі занепакоіліся, але іх усцешылі тым, што Керанскі падупаў буржуазнаму ўплыву, а вось хутка прыйдзе настаяшчая сацыялістычная дэмакратыя, тады... тады народы Расіі атрымаюць поўную магчымасць самаадзначэння і нават моцімуць падтрыманне.

Сталі чакаць і дачакаліся. Прыйшоў бальшавізм, і запанавалі на Беларусі т. званыя «народные комисары Зап. Области». Настаў час сапраўднага ўладарства маскоўскай дэмакратыі. Заварушылася і Беларусь. Сабраўся Першы Усебеларускі З'езд. А велікаруская дэмакратыя праз сваіх кіраўнічых стала дапамагаць беларускаму нацыянальнаму вызваленню такім абычаем: «*Телеграмма. Западофронт, Полукорову.* Сообщите товарищамъ, чтобы на съезде белорусов Рады они произвели переворот умов, раскол и выяснили буржуазность ея. Это требуется. *Главкозап Мясников*».

Гэта — спрыянне беларускаму адраджэнню, а вот дапамога: «*Комиссариат Внутренных Дел Западной Области.*

*17-го декабря 1917 г. № 1425. Товарищу Резаусскому.* Предписывается, имея в своем распоряжении достаточно вооруженную силу, оцепить здание, где происходит заседание Белорусского Съезда, арестовать президіум Съезда, а равно избранный им орган краевой власти; отозвать со Съезда т. т. большевиков и стоящих на точке зрения Советской власти, а самый Съезд объявить распущенным. *Комиссар к. Ландер*. Секретарь* (подпіс нечытэльна напісаны)».

Вось гэтакія і шмат іншых, не менш цікавых «памятак для беларусаў маскоўскай прыхільнасці» было знойдзена ў паперах «народных камісараў» пасля таго, як яны паўцякалі з Мінска перад прыходам немцаў.

Гэта трэба запамятаць і заўсёды трымаць на ўвазе прыказку слаўных нашых продкаў: «З маскалём дружы, а камень за пазухай дзяржы».

## «Паўночныя Балканы»

Пад гэткаю назваю з'явілася ў загранічным друку стацця французскага публіцыста Вільяма Мартэна. Віленская беларуская газета «Гоман» у № 19 ад 5 сакавіка, знаёмячы са зместам памянёнай стацці, разважае пытанне, ці мае слушнасць увага Мартэна, калі ён перасцерагае вялікія дзяржавы ад ўтварэння дробных дзяржаваў паміж Нямеччынай і Расіяй — «паўночных Балканаў».

Тлумачачы прычыну безупынных сварак і змагання паміж балканскімі народамі, Вільям Мартэн бачыць паўтарэнне абмылак 1872 г. у цяперашняй палітыцы Нямеччыны. Нямецкія дэлегаты прызналі правы народаў: Курляндыя, Літва, Эстляндыя, Ліфляндыя, Польшча, Беларусь, Украіна жадаюць незалежнасці. Тым часам усе гэтыя народы так перамешаны між сабою і маюць такія супрэчныя інтарэсы, што спаўненне іх пажаданняў будзе непакоіць усю Еўропу. Толькі Польшчу аўтар адгэтуль вылучае.

«Няхай так,— піша «Гоман»,— можам смела сказаць, што, апроч непамерных апетытаў яе (Польшчы) на нашу

---

* Ландэр Карл Іванавіч (1883—1937) — савецкі палітычны дзеяч. У 1917 г.— старшыня Мінскага савета рабочых дэпутатаў, з 26.11.1917 г.— старшыня СНК Заходняй вобласці і фронту.

зямлю, нас з Польшчай нішто не злучае». Запраўды: паводлуг нацыянальнага складу, Польшча рэзка аддзяляецца ад усіх суседзяў; эканамічных інтарэсаў, супольных з Польшчай, мы зусім у нас не бачым, а старыя ўспаміны аб калішнім супольным дзяржаўным жыцці з ёю ў нас такія горкія, што і супольнасць гістарычных традыцый адпадае. Мы звернемся затое да рэшты народаў, якія жывуць між Расіяй і цэнтральнымі дзяржавамі.

На першым плане стаяць два народы: беларускі і літоўскі, каторыя звяртаюць на сябе ўвагу тым, што нацыянальныя і жыццёвыя інтарэсы і гістарычныя традыцыі не раздзяляюць, а злучаюць іх у адно. Нацыянальныя — бо маюць яны тых самых ворагаў, з каторымі ўжо даўно змагаюцца за свой быт, бо цэнтр нацыянальнага жыцця ў іх супольны — Вільня, каторая, лежучы на этнаграфічным беларускім абшары, была супольнай сталіцай абодвух народаў з таго часу, як тут залажылася Беларуска-Літоўская дзяржава пад імем Вялікага Княства Літоўскага. Жыццёвыя — бо беларускія і літоўскія абшары складаюць адну вялізарную гаспадарку, жывуць адным эканамічным жыццём, у каторым з'яднала іх ад вякоў цягаценне да Балтыцкага мора і цяпер звязвае дапасаваная да гэтага сістэма дарог — чыгунак, шасэ, а таксама супольныя водныя дарогі-рэкі... Дый тое трэба адзначыць, што дзеля развіцця прамысловасці на этнаграфічна літоўскім абшары і дзеля збыту іх Літве патрэбны багатыя сыр'ём Беларускія землі, для каторых ізноў важна мець фабрыкаты літоўскія, дастаўленыя без аплаты мыт. Урэшце, гістарычныя традыцыі ў беларусаў і літвінаў — тыя ж самыя: яны супольна стварылі сваю, некалі незалежную, дзяржаву.

Вось жа развязка пытання аб незалежнасці Беларусі і Літвы напрошваецца сама сабой: утварэнне дуалістычнай дзяржавы, зложанай з дзвюх аўтаномных нацыянальных тэрыторый з адной найвышэйшай цэнтральнай уласцю. Гэтак справа робіцца шмат прасцейшай.

Далей, возьмем суседзяў Беларуска-Літоўскага краю. Для нацыянальных спорак між беларусамі і літвінамі — з аднаго боку, украінцамі і латышамі — з другога ніякага грунту няма: ніводзін з гэтых народаў ніколі не выяўляў жадання панаваць над другімі; кожны мае зусім выразную нацыянальную тэрыторыю; эканамічныя інтарэсы іх не раздзяляюць, а злучаюць, прымушаючы шукаць саюзаў і ўкладаць канвенцыі аб прывозе вытвораў адной стараны чыгункамі другой, аб абмене прадуктамі і т. д. Мы бачым,

што між Украінай і Беларуссю ўжо некалькі месяцаў ідзе супольная работа ў беларуска-ўкраінскай эканамічнай камісіі ў Кіеве. Мы ведаем, што Курляндзія — пры беспасрэднай граніцы нашага краю як з Расіяй, так і Нямеччынай, у такой жа меры мае карысць з беларуска-літоўскага транзіту па чыгунках яе, як мы — з доступу да латышскага ўзбярэжжа мора.

Гэтак не кажучы аб Польшчы, дзеля неспакойства п. Вільям'а Мартэн'а ніякага грунту няма. Мы сказалі: «не кажучы аб Польшчы», бо запраўды, толькі з яе стараны мы бачым захватныя апетыты на чужыя землі, выплываючыя не са злой волі польскага народу, а з нешчаслівага геаграфічнага палажэння Польшчы. І тут перад Еўропай уздымаецца бясспорна труднае пытанне: як супакоіць Польшчу?

Мы не прабуем развязваць гэтага пытання, няхай над ім папрацуюць вялікія дзяржавы. Але адно можам сказаць наперад: калі дамаганні палякаў маюць быць здаволены коштам таго ці іншага з суседніх народаў між Расіяй і Нямеччынай, каторыя жадаюць поўнай свабоды кожны для сябе, дык утворыцца ніколі не зажываючая рана, каторая і дасць аснову дзеля «паўночных Балканаў».»

Так, дзеля добрага суседскага нацыянальнага жыцця Літвы і Беларусі перашкод няма, а дамаганні Польшчы крыюць у сабе цяжкія скуткі і для самой Польшчы. Згоды ў Беларусі з Польшчай быць не можа — аб гэтым парупілася «палітыка на крэсах». Ненавісць да ўсяго, што польскае — вот плён працы гэтай палітыкі і заплата беларускага народу за векавы здзек і паняверку. Ні Польшчы, ні Маскоўшчыны — Беларусь мае ўласны шлях і з яго не збочыць...

# *Гісторыя Вялікага Княства Літоўска-Беларускага*

(паводле летапісаў)

## ПРАДМОВА

Канцом Полацкага перыяду беларускай гісторыі трэба лічыць 1230-я гады. К гэтаму часу ўсе беларускія землі былі падзелены на асобныя княствы, або ўдзелы. Удзель-

ныя князі сталі вадзіцца, сварыцца і ваяваць паміж сабою. Беларусь абяссілела і абяднела. Суседзі карысталі з гэтага. Яны нападалі на полацкія землі, паланілі людзей і грабілі сялібы. Цяжка стала жыць на полацкіх землях. Многа людзей разам з пакрыўджанымі ўдзельнымі князямі сталі пакідаць родную зямлю. Яны кіраваліся на Літву і там, сярод дзікага паганскага племя літоўцаў, сталі шукаць сабе лепшай долі. А на Літве спакон веку жылі і беларусы, як каланісты. Знайшоўшы там прытулак, як прывыкшыя да арганізаванага жыцця, князі-выхадцы сталі гуртаваць каля сябе людзей і заводзіць свае парадкі, а тым часам і самі пераймаліся чужымі звычаямі і бытам. Яны навучыліся чужынскай мове і выпаўнялі ўсе паганскія літоўскія забабоны. Гэта, як на той час, не лічылася дзівам. Кожнаму ведама, як Аляксандр Неўскі дзеля добрых адносін з татарамі добраахвотна пакланяўся ідалам у Ардзе. Каб які татарскі летапісец пісаў гісторыю Аляксандра Неўскага, то, напэўна, сказаў бы, што ён — паганін, як пісалі нашыя летапісцы пра тых князёў, што князявалі на Літве. Няма слова, што іншыя з князёў-выхадцаў рабіліся сапраўднымі паганцамі, мабыць,на той падставе, што з ваўкамі жыць — па воўчы й выць.

Так і жылі яны на Літве, але думка аб родным краю не пакідала іх ніколі. Умацаваўшыся на чужыне, яны пачынаюць пашыраць сваю ўладу на старыя полацкія, дзядоўскія землі. І народ беларускі ахвотна ім пакараўся, бо пабачыў у князях літоўскіх не чужынцаў, а патомкаў полацкіх князёў, сваіх даўнейшых уладароў і гаспадароў, і тым больш, што гэтыя князі былі заўсёды абкружаны беларускім баярствам з выхадцаў. Адзін з гэтакіх князёў літоўскіх, на імя *Рынгольд*, князь Навагрудскі, зрабіўся вялікім князем на Літве.

У 1235 г. *Рынгольд* напаў на беларускія полацкія землі і заваяваў іх. Супраць Рынгольда выступілі паўднёваруския князі: Святаслаў Кіеўскі, Леў Валадзімірскі і Дзмітры Друцкі, і нават паклікалі на дапамогу татар, але былі разбіты дазвання над рэчкаю Нёмнам каля мястэчка Магільнае. Вось як аб гэтым апавядае летапіс:

«Княжачы Рынгольду ні мало на Ноўгарадцы і на многіх горадзех рускіх, і ўчынят змову межы сябе князі рускія пачаці вальку проціў вялікаго князя Рынгольда, а хацячы яго сагнаці з отчын сваіх гарадоў рускіх... І ўзялі тыя князі рускія на помач сабе ад цара Заволжскаго некалькі тысяч татар. І князь вялікі Рынгольд паткаў іх на рэцэ Нёмне на

Магільнай, і ўчыніў з імі бой лют, і біліся з сабою вельмі крэпка, пачаўшы ад паранка аж самаго вечару. І паможа Бог вялікаму князю Рынгольду; аж князей рускіх і ўсю сілу іх і арду татарскую на галаву паразіў і сам, звіцяжства адзяржаўшы, з вялікім вяселіем і дабыткам золата і срэбра і з многімі скарбы і вазвраціўся ва сваясі. І прышоўшы да Новагорадка, разнямогся і ўмрэ, а па сабе заставіў сына сваего на княжэнні Ноўгародзкам *Міндоўга»*. Або: «і разнеможэся і умрэ без плоду».

З гэтага часу пачынаецца новы перыяд беларускай гісторыі, вядомы пад назваю *гісторыі Вялікага Княства Літоўска-Рускага* (Беларускага).

Літоўска-Беларускае княства залажылася на тэрыторыі Чорнай Русі, у цяперашняй Навагрудчыне. Горад Навагрудак быў першаю сталіцаю вялікіх князёў літоўскіх, каторыя ўспамінаюцца ў летапісах. Пачаткам, адкуль пайшло Маскоўскае гасударства, была Суздальская зямля, а тым зернем, з каторага вырасла Літоўска-Беларускае княства, была *Літва.* Але «Літва,— піша праф. В.-Буданаў*,— як племя не мела амаль што жаднай дзяржаўнасці і змушана была скарыцца і скарылася дазвання пачаткам беларускай дзяржаўнасці» (поместья Литовск. госуд., стр. 2).

Усе вялікія князі Літоўска-Беларускага княства былі роду славянскага, патомкі полацкіх князёў-ізгояў, і само Літоўска-Рускае Княства было ў аснове сваёй не літоўскім, ц беларускім. Стоячы на пэўным грунце гістарычных даследзін, мусім ясна зазначыць, што літоўскага элементу ў гэтым княстве было мала, як мала было ўкраінскага ці беларускага ў гасударстве Маскоўскім. Уваходзячы ў склад княства, літоўскі народ не меў ні дзяржаўнага, ні культурнага значэння і мусіў схіліцца перад культурай і дзяржаўнасцю беларускай,тым больш што і па ліку свайму ён быў у меншасці. Гісторыя не мае прыкладу, каб меньшы па ліку народ панаваў над большым. Гэтак беларусы і ўкраінцы, злучаныя з Маскоўшчынай сілаю гістарычных варункаў, не мелі грунтоўнага значэння на дзяржаўны лад і культурны парадак велікарускага народу. У Дзяржаве Расійскай скрозь панавала велікарушчына. Беларускі і ўкраінскі народы выпаўнялі ролю паслугуючую і багацілі культуру велікарускую коштам уласнага нішчэння і заняпаду. Тое, што гэтыя два народы ўваходзілі ў склад Расійскай

---

* В.-Буданаў — Валадзімірскі-Буданаў Міхайла Флегонтавіч (1838—1916), гісторык права.

дзяржавы, Расія не стала ад гэтага ні беларускай, ні ўкраінскай. Зважаючы на гэта, аніяк не можна сказаць, што Літоўска-Рускае Княства было літоўскім.

Памылковы погляд на Літоўска-Беларускае Княства як на дзяржаву літоўскую ўстанавіўся праз тое, што да гэтага часу пра гісторыю Беларусі пісалі чужынцы — маскоўскія або польскія гісторыкі, каторых мала абыходзіла гістарычная доля Беларусі. Разумна глядзець на беларушчыну замінаў ім той памылковы погляд, ці, лепей сказаць, той «гістарычны імперыялізм», па катораму маскоўскія гісторыкі, напрыклад, разглядалі нас і ўкраінцаў як блудных сыноў маскоўскага царства, каторыя ў часы ліхалецця, у гады татарскага іга, адшчапіліся ад яго і, жывучы асобна ад яго, панабіраліся чужынскіх звычаяў і папсавалі сваю «ісконі рускую» (маскоўскую — на іх думку) мову. Гэты «гістарычны імперыялізм» пакрысе адкідаецца, як погляд шкадлівы для навукі і выкліканы да жыцця палітычнымі меркаваннямі людзей, нічога супольнага з гістарычнай навукай не маючымі. З погляду «гістарычнага імперыялізму» гісторыя наша рысуецца шэрай і зблытанай і трудна зразумець таго ці іншага гістарычнага з'яўлення. Тым часам гісторыя сведчыць, што *рускімі* даўней называліся толькі *беларусы* ды яшчэ ўкраінцы; велікарусы ж зваліся маскоўцамі, а само княства іх — Масковіяй. Велікарускае племя злажылася многа пазней і ўяўляе з сябе помесь славян з фінскімі плямёнамі.

Як ужо гаварылася, Вялікае Княства Літоўска-Беларускае залажылася ў так званай Чорнай Русі, у Навагрудчыне, у пачатку XIII сталецця. Новапаўстаўшае Вялікае Княства стала шпарка абрастаць з усходу і поўдня заходнерускімі землямі, і перш за ўсё павялічылась за кошт Полацкай зямлі. З часам у абшары яго ўвайшлі ўсе ўкраінскія землі па Дняпру аж да самага Чорнага мора. Абкружыўшы сябе цэлым поясам беларускіх зямель, Вялікае Княства Літоўскае прыняло саўсім выгляд і характар гасударства беларускага. З XIV веку беларуская народнасць запанавала там і палітычна, і культурна, і духоўна.

Цяжкія адносіны спачатку з нямецкім рыцарствам, потым з Маскоўшчынай прымушалі Вялікае Княства Беларуска-Літоўскае шукаць хаўрусу з суседняю Польшчай. Першае злучэнне з Польскім каралеўствам адбылося ў 1386 г., пры вялікім князю Ягайле. Гэта была так званая вунія 1385—1386 г. Але гэтая вунія фактычнага злучэння Літвы з Польшчай не зрабіла. Беларуска-Літоўскае Княст-

ва засталося і надалей асобным гасударствам і толькі ў 1569 г. на моцы Люблінскай вуніі яно аканчацельна злілося з Польшчай і страціла сваю палітычную і культурную незалежнасць. Вялікае Княства Беларуска-Літоўскае саўсім непадобнае да Маскоўскага. «Маскоўскае гасударства,— піша праф. М. Любаўскі*,— развівалася ўвесь час у кірунку манархічнага абсалютызму і прыняло нарэшце форму манархіі, на чале каторай стаў наследственны гасудар, неабмежаваны ўладар і загадчык. Ён вольна распараджаўся і жыццём і меннем сваіх падданых, а яны, датычна яго, мелі адны толькі абавязкі і не мелі жаднага права... Літоўска-Беларускае Княства зрабілася гасударствам канстытуцыйным, на чале каторага стаяў абраны вялікі князь. Ён з самага канца XIV веку звязваў сябе рознымі хартыямі, каторыя ён выдаваў сваім падданым як усяго гасударства, так і яго асобным часткам. На моцы гэтых хартыяў беларуска-літоўскі гаспадар з канца XV веку быў ужо не самадзяржаўны ўладар, а абмежаваны радаю і згодаю паноў-рады, а з часу выдання статуту 1529 і 1566 гг. і ўхваламі ўсіх станаў шляхты, скліканых на вялікі вальны сойм».

## Наш правапіс

Наш правапіс выклікаў нездавальненне. Мы кажам *нездавальненне*, бо начай нельга назваць таго, што пісалася ў № 29 віленскай часопісі «Гоман» у стацці п. А. Луцкевіча «Аб наш правапіс». З гэтай стацці вынікае адно, што старавіна заўважваецца, а навіна адкідаецца.

Наш правапіс лёгкі, просты, кожнаму зразумелы і не патрабуе шырокіх тлумачэнняў. Шаноўны аўтар мяркуецца з тэндэнцыямі ў аканні, з некаю законнасцю ў правапісу, а мы маем на ўвазе *практычнасць*, бо законнасці ў мове няма. Мова мае свой лад, строй, сваю мелодыю, але пэўных і цвёрдых законаў не мае. Правапіс і граматыка — дзве рэчы асобныя, як людзі і іх законы. Граматыка — жыццё мовы, а правапіс — яе законы, дысцыпліна, і як кожны закон, правапіс у пісьме што-небудзь абмяжуе, чаго-не-

* Любаўскі Мацвей Кузміч (1860—1936) — рускі гісторык, аўтар прац па гісторыі ВКЛ XV—XVI стст.

будзь не дазваляе. Словам, правапіс у мове — гэта тое самае, што парадак, законнасць і дысцыпліна ў грамадзянскім жыцці і што заўсёды мае тэндэнцыю быць штучным, выдуманым, устаноўленым. Разумны закон і парадак ніколі не перашкаджаюць развіццю жыцця, абы яны не грунтаваліся і не выводзіліся з пачатку штучнага, выдуманага і былі б дапасаваны да жыцця.

Добра дапасаваны правапіс, пабудаваны на адным прынцыпе, не можа перашкаджаць развіццю мовы, а вот такая ўвага шаноўнага аўтара, што § 15 нашага правапісу «дае лішнюю волю ў пісанні такіх слоў: *мяне — міне, цяпер — ціпер, яшчэ — ішчэ*»,— можа дапраўды «пашкодзіць правільнаму развіццю нашай літаратурнай мовы». Гэта і ёсць тое, што аўтар называе «заковываць нашу мову ў тыя або іншыя штучныя рамкі». Калі мы пішам: *моро, сэрцо, сонцо* і т. д., то гэта нічому не перашкаджае, бо, з аднаго боку, так гавораць, а з другога — *о* безакцэнтнае (без націску) заўсёды будзе чытацца як *а*, г. зн. так, як таго вымагае іншая гаворка, але нідзе ніхто не гаворыць: *морэ, сэрцэ, сонцэ* дый этымалагічна гэта няправільна.

Гэта трэба заўважыць наогул, што рабіць перашкоды таму ці іншаму вымаўленню слова або ўхіляцца ад розных слоў, азначаючых адно і тое разуменне (чарга — чарод, яха — рэха, маланка — бліскавіца і інш.), безумоўна не дапусціма. Нам ужо прыходзілася пісаць у стацці «Граматыка і родная мова» (гл. № 17 «В. Б.» за 1917 г.), што «мова — гэта арганізм жывы... З'явішчы мовы родзяцца, жывуць і канаюць, як кожная жывая істота... Працэс утварэння мовы ніколі не прыпыняецца... Цяперашняе становішча нашай мовы не апошняе: быў свой пачатак, ёсць сваё жыццё, будзе і свой пэўны канец. Мова пастаянна пасуваецца ўперад, асабліва калі маецца добры грунт на яе ўзрост і поступ. Гэтак жыве кожная мова, гэтак будзе жыць і нашая мова... Літаратурная мова — гэта мёд, які збіраецца пчоламі з розных кветак і раслін. Чым больш сокаў з усялякіх кветак уваходзіць у склад мёду, тым ён прыемнейшы, салодшы і смачнейшы. Літаратурная мова павінна, цвёрда трымаючыся нацыянальнага грунту, лучыць да сябе ўсе тыпічныя, характарныя словы, прыслоўі, выразы і іншыя асобнасці гаворак таго народу, моваю катарага яна ёсць. Расійцы зрабілі вялікую памылку, згадзіўшыся на тым, што тыпічнай мовай іх языка ёсць падмова маскоўская. Гэта іх памылка, што яны, прыняўшы адну гаворку, смяюцца з другіх уласных гаворак, як з брыдкіх павета-

лізмаў. І не дзіва, што просты селянін-расіец, не гледзячы на тое, што іх мова пануе ўсюды, бадай што саўсім не разумее тае мовы, на якой пішуцца ў іх кніжкі і друкуюцца ґазеты...

Заўважыўшы гэта, мы павінны далажыць усіх сіл, усіх заходаў, каб ухіліцца ад гэтага сумнага з'явішча. Мова — гэта душа чалавека, яго краса і аздоба. Мова, як чалавек, павінна шанавацца, паважацца і прыбірацца з кожным разам у лепшыя, багацейшыя і зграбнейшыя ўбранні. Кожнае адметнае слова, кожны асабісты выраз нашых беларускіх гаворак мы павінны страчаць з пашанаю і — з вялікай любасцю, як надзвычайную вартасць, далучаць у агульную скарбніцу нашай літаратурнай мовы, а не хавацца за паветалізм, не цурацца і не казаць неразумна, што *ў нас гэтак не гавораць...* Усё гэта разам злучанае і разумна ўжытае дадае багацця, красы, гучнай ёмкасці і далікатнасці ў літаратуры і людскай размове. Апарт таго, мова, так узгадаваная, усімі гаворкамі выпешчаная, робіцца здатнай, сардэчнай, усім любай і лёгка зразумелай кожнаму, хто хоць крошку падвучыцца».

Устанаўленне асноўных прынцыпаў так званага «акання», аб каторых аўтар ґаворыць,— рэч добрая, калі гэта тычыцца граматыкі, але будаваць правапіс на зыках шырокіх і вузкіх, быццам выплываючых з прынцыпу «акання» — непрактычна і рызыкоўна. Мы кажам *рызыкоўна*, бо маем на ўвазе школу, дзе правапіс не павінен займаць многа часу і дарэмна марудзіць дзяціныя галавы. Перасцярогаю няхай нам будзе велікарускі правапіс, каштаваўшы нам столькі гора, слёз і пакуты. Хіба ж ужо велікарусы не мелі жаднага аснавання, калі пісалі «ѣ» і заводзілі гібель іншых выкрутасаў у сваім правапісе? Разумеецца, яны ўсё гэта абасноўвалі, мелі свае этымалаґічныя довады і т. д.,— недарма ж панапісвана імі гэтулькі кніґ. А дзеля чаго, каму і якая ад гэтага была карысць? Нікому, апроч ласне тых міністраў, што ўхілялі дзяціныя галавы ад «палітычнай заразы».

Калі п. А. Луцкевіч кажа, што трэба пісаць: *дзержава*, а не *дзяржава, вылажэна*, а не *вылажана*, бо гэта нібыта вымагаецца вузкім *е*, выцякаючым з правіла акання, дык мімаволі паўстае пытанне: дзеля чаго гэта? Нашто ў правапісе такая хітрая ўстанова? Кожны беларус, незнаёмы з велікарускім этымалагічным правапісам, ніколі не напіша *«вылажэна* ці *дзержава»*, бо ён павінен пісаць так, як чуе. Гэта аснаўны прынцып нашага правапісу, і мудрыць тут

няма чаго. Гэтасамае трэба сказаць і датычна напісання такіх слоў, як: *перад, прэд, цераз, ні* і іншых. Покі вучань скамбінуе, дзе трэба пісаць *а*, дзе *е*, то напэўна памыліцца і напіша *а* там, дзе трэба было б паставіць *э*. Дык дзеля чаго гэта? Ці не дзеля таго, каб адмеціць граматных ад няграматных, як жартавалі расійцы, лаючы праклятую літару ѣ? Зноў — нашто прыкметнікі множнай лічбы канчаць на *е*, калі нашае аканне вымагае ставіць у гэтакіх выпадках *я*? Вучань ніколі не напіша: новы*е* сталы, а змушан будзе скарыцца перад аканнем і напісаць тут *я*. Дзеля гэтага ўсе прыкметнікі множнай лічбы павінны канчацца на *я*: новы*я* сталы, новы*я* кнігі і т. д...

Далей, п. А. Луцкевіч кажа, што паміж мяккіх падвойных сугалосных літар трэба ставіць *ь* і, разумеецца, пасваему абасновывае. Мы згаджаемся з гэтым абаснаваннем і ніколі спрачацца не будзем, як не будзем спрачацца з расійцамі аб тым, дзе трэба ўжываць «і» або «и». Але запытаем: нашто гэта? Каму гэта патрэбна? Нашто пісаць мяккі знак там, дзе ён саўсім лішні, дзе і без таго вымаўляецца ясна? Дзеля гэтага пішам: *зданне, пытанне, жыццё*, а не — зданьне, пытаньне, жыцьцё, бо, калі тут ставіць мяккі знак, дык чаму не ўжыць часам цвёрдага знаку, каб падкрэсліць цвёрдую вымову таго ці іншага зыку.

І дзеля практычнасці, дзеля нашага зычнага акання мы ўсе кароткія чыннікі пасля шыпячых і літары *р* канчаем на *а*: *піша, рэжа, гавора,* — а не *пішэ, рэжэ, брэшэ**, *гаворэ*, але ўзяўшы пад увагу, што чыннікі з мяккім кароткім канчаткам (качарам) маюць нахіл да зыку *е* (ідзе, нясе, пяе, дае, вядзе), дык дзеля аднароднасці іх трэба канчаць на «е»: *чытае, гуляе* і так далей.

Што ж тычыцца ўвагі шаноўнага аўтара, што я, пішучы аб правапісу, зрабіў вялікі пераскок ад асноўнага прынцыпу, то мушу зазначыць, што няма там памылкі, дзе ясна гаворыцца: «пішы так, як чуеш, як адчуваецца слова вухам... Але тая ці іншая рожнасць гаворак і не аднакае вымаўленне слоў, а таксама жаданне ўхіліцца ад памылковага, а то і своекарыснага (у законах), талкавання напісанага, перашкаджае захаванню гэтага прынцыпу да канца».

---

* Пісаць і гаварыць м о р о, г о р о — натуральна, а вот б р э ш э, ч э ш э, р э ж э — ніхто нідзе не гаворыць. *(Заўвага Я. Лёсіка.)*

## *Беларусь і Украіна*

Нас заўсёды злучала з Украінай пачуццё брацкай салідарнасці. Найбліжэйшы да беларусаў моваю, культурай і супольнасцю гістарычных традыцый, народ украінскі быў для нас тым блізкім народам, каторы разумее нас і каторага разумеем мы, з каторым можна гаварыць аб усём, што набалела на сэрцы і што патрабуе суседскай парады і брацкай развагі. У іх і ў нас была адна мэта, адно заданне, адзін шлях паратунку. Іх радасць была нашаю радасцю, іх гора было нашым горам.

Нас не толькі яднала гістарычная супольнасць у мінуўшчыне, а і аднакая доля ў сучаснасці. Мы разам пакутавалі пад ігам Маскоўшчыны, разам змагаліся калісь з польскім панаваннем, разам нас душылі, разам панявералі і зводзілі са свету — разам жа мы выступілі і на цяжкі шлях вызвалення. Дзяржаўнае будаўніцтва ў межах этнаграфічнага рассялення было нашым заданнем, і здавалася, што на дарозе да гэтай мэты нас не стрэнуць непаразуменні, і мы згодна, без перашкод, адны адным дапамагаючы, дойдзем да лепшай долі, да светлай нацыянальнай будучыні. А вот сталася ж — сталася так, што этнаграфічна беларускія землі, як Мозыр, Рэчыца, Гомель, наша Чарнігаўшчына далучаюцца да Украіны...

Хочацца думаць, што гэта не так, што гэтага не будзе і не можа быць, бо і быць не павінна. Няўжо й самі ўкраінцы не адчуваюць гэтага? Няўжо не разумеюць таго, што ўчынілася? Няўжо яны *свядома* далучаюцца да гэтага? Мабыць, так, але не ўсе. Прынамсі, «Нова Рада», орган незалежнай грамадзянскай думкі, звяртае ўвагу грамадзянства ўкраінскага на гэты ненармальны стан рэчы. Яна зазначае, што «адносіны нашы да беларускай справы наогул і спецыяльна да тых паўднёвых беларускіх зямель, каторыя нібыта маюць адысці да Украіны, павінны паслужыць пробаю сапраўднасці нашага дэмакратызму і вернасці — свяшчэнным прынцыпам павагі да чужых праў. Мы не павінны забываць, што нацыянальнасць — рэч неўмірушчая; калі яна часова прыдушана вагою цяжкіх варункаў гістарычнай долі, дык яе час надыдзе і адродзіцца яна, счакаўшы. Дык няхай жа не спадзе тагды на нас пляма, што і мы былі сярод тых, хто, карыстаючыся з цяжкага стану нацыі, пасягнуў на яе жывую частку. След нашаму грамадзянству, нашай прэсе звярнуць большую ўвагу на долю братняга народу, каб не кінулі на нас таго самага

дакору, які мы раней рабілі братам-суседам: што нас не ведалі і не хацелі з намі пазнаёміцца. Праўдзівая, салідная ўзаемная інфармацыя — пачатак добрага ўзаемнага паразумення».

Справядліва «Нова Рада» кажа, што народ беларускі перажывае цяпер вялікую трагедыю, падобную да той, якую перажывалі яны ў другой палове XVII веку, калі Украіну разарвалі на дзве часткі, раздзеленыя між сабою Дняпром, і за кожную з гэтых частак змагаліся паміж сабою суседзі — Масква, Польшча і Турэччына, уцягаючы да сваіх спорак яшчэ і другія дзяржавы. Цяпер дзеліцца Беларусь, але не на дзве, а на чатыры часткі, па ліку сваіх суседзяў. На Беларусь квапяцца ўсе яе суседзі — Польшча, Масква і Літва, не спынілася перад гэтым і Украіна. Не спынілася... але павінна спыніцца і адысціся назад, бо што падчас забываецца і даруецца чужым, таго няможна забыць і дараваць *сваякам*.

Мы разумеем, што шмат з таго, што цяпер дзеецца, не заўсёды выцякае з добрай волі дзеяча, і толькі гэтым хочам тлумачыць сабе факт прылучэння этнаграфічна беларускіх зямель на поўдні да Украіны. І тут, як і ўсюды, праўдзівая інфармацыя павінна стаць на дапамозе. Беларус павінен упэўніцца, што тут прычыны не хатнія, а надворныя, што час выраўнуе тое, што парыта вайною, і прымусова нарушанае права нацыі будзе выпраўлена. Мы павінны даведчыцца і цвёрда ўпэўніцца, што калі гістарычны лёс судзіў паўднёвым часткам зямлі беларускай быць далучанымі да суседкі-прыяцелькі, то станецца гэта часова і беларушчына будзе там забяспечана, як належыцца. Так мусіць быць, калі мы шануем добрасуседскія адносіны! Бо хто мае вушы слухаць, той чуе, як нарастаюць варожыя пачуцці ў беларускага насельніка да таго, што да гэтага часу разглядаў ён як нешта роднае, блізкае і спагадаючае. Цяпер не дзіва дачуцца, як зняверaюцца людзі і як то там то тут выбухаюць выгукі: мы ніколі не былі пад «хахлом» і быць не будзем! Беларусь уладала Украінай, а не Украіна Беларуссю!

Хто мае вушы слухаць, няхай слухае... І калі «Нова Рада» кажа, што перш за ўсё павінны прамовіць свае слова самі беларусы, а ўкраінцы паслухаюць, то мусім зазначыць, што цяпер перш за ўсё павінны зрабіць гэта ўкраінцы, а ўжо беларусы іх паслухаюць. «Праўдзівая, салідная ўзаемная інфармацыя — пачатак добрага ўзаемнага паразумення». Яшчэ немаведама, як вырашыцца нарэшце доля

Беларусі, але ўжо гэты падзел прыносіць вельмі прыкрыя скуткі. І ад гэтага трэба ўхіліцца, каб не нарабіць сабе шкоды. Гэта вымагаецца правам, супольнасцю нашых гістарычных традыцый і блізкім сваяцтвам нашых культур, пабудаваных на аднакіх укладах жыцця. Гэта трэба зрабіць як найхутчэй, не чакаючы таго, што выслаўляецца прыказкай: што мы маем — не хаваем, а страціўшы — плачам.

## *Рабочы стан пануючых і прыгвалчаных нацый*

Кожны з нас чуў, што «рабочы не мае сваёй бацькаўшчыны», што быццам-та працоўнаму люду ўсё роўна, хто будзе карыстацца працаю рук яго, што рабочаму важна не нацыянальнае адмежаванне, а сусветнае яднанне, а таму нацыянальны рух — гэта хітрыкі мясцовай буржуазіі, каторай нібыта карысна адмежавацца, каб ямчэй гаспадарыць у сябе дома. Асабліва любіла гэта казаць расійская сацыялістычная інтэлігенцыя інтэлігенцыі нацый прыгвалчаных, прадстаўнікам нацый задушаных і занядбалых.

Ці ж праўда гэта? Каб выясніць пытанне, звернемся да сацыялістычнай інтэлігенцыі культурных краёў і запытаем у іх, як яны глядзяць на гэтую справу. Ці ж праўда бо, што нацыянальнае вызваленне — рэч станаў багатых, а рабочаму люду саўсім непатрэбнае?

Вядомы дзеяч міжнароднага сацыялізму, нямецкі сацыял-дэмакрат Аўгуст Бебель, каторы па свайму становішчу сам быў работнікам — не толькі з тэорыі, але нават з практыкі разумеў сэнс сацыялістычнага руху, а таму яго погляд на нашае пытанне павінен уважацца за аўтарытэтны. І вось, гаворачы пра адносіны сацыялістычнага руху да нацыі, ён кажа, што «мы не хочам змешвацца ў агульную міжнародную кашу», разумеючы пад словам *міжнародны* касмапалітызм. «Дзеля чаго мы маем зракацца свае народнасці, нашай мовы, нашых звычаяў?» — кажа ён далей («Интеллигенція и соціализмъ». А. Бебель). На думку Бебеля, «работнік праводзіць сваё жыццё і змаганне за лепшыя варункі жыцця ў тым краю, дзе ён нарадзіўся, дзе ён выгадаваўся, мову ды звычаі каторага ён ведае, у варунках якога ён жыве; ён толькі хоча перарабіць гэтыя варункі паводлуг сваіх ідэй» (Там жа). Такога пагляду

трымаўся на зачэпленае намі пытанне выдатны дзеяч пралетарскага руху.

Дзеля таго каб упэўніцца, што нацыянальны рух не перашкаджае інтарэсам працоўнага люду, а, наадварот, дапамагае і дапаўняе іх, спынімся і выяснім сабе эканамічнае становішча працоўнай беднаты.

Як вядома, нацыі дзеляцца на пануючых і прыгвалчаных. Найлепшым прыкладам дзеля гэтага могуць быць стасункі між Англіяй і яе калоніямі. Вось што пра гэта кажа Маркс: «Адной толькі Індыі даводзіцца плаціць 5 мільёнаў фун. стэрлінгаў за «добрае кіраванне» працэнтаў і дывідэнтаў на ангельскі капітал» («Капітал», т. III. С. 130). Гэтае самае кажа і Кауцкі: «З аднаго боку ўсё больш пашыраецца яе (Англіі) калоніі, усё павялічваецца лік ангельскіх чыноўнікаў і шукацеляў шчасця, каторыя абіраюць гэтыя калоніі і пражываюць свае грошы ў Англіі (сярод пануючай нацыі)» («Антибернштейн»). Гэтакі парадак збоку пануючай нацыі прыкмячаецца скрозь, ува ўсіх дзяржавах, маючых пад сваёй уладай нацыі прыгвалчаныя. Хто пераглядаў дзяржаўныя прыбыткі і выдаткі Расіі, той напэўна заўважыў, што на Беларусь не варочалася і палова тых грошаў, якія плаціла яна ў маскоўскі скарб падаткамі і іншымі аблажэннямі. Значыць, нашыя грошы траціліся сярод пануючай велікарускай нацыі і служылі дапамогай не таму, хто іх запрацаваў, а таму, хто быў дужэйшы іх забраць і па-своему ўжываць.

Вось чаму між пануючымі і прыгвалчанымі нацыямі ідзе змаганне. Змагаецца, значыць, буржуазія прыгвалчаных нацый з буржуазіяй пануючых нацый і наадварот. Гэта зусім зразумела. Але як стаіць справа з працоўным людам? Ці няма часам і там гэтакага самага змагання?

Возьмем для прыкладу якую-небудзь пануючую нацыю, хоць, зноў-такі, ангельскую. Моц Англіі збудавана на прыгвалчэнні народаў, што мешкаюць у яе калоніях. Дзякуючы такому панаванню, ангельская буржуазія мае вялізныя прыбыткі, праз што яна лягчэй згаджаецца здавальняць вымаганні рабочых у метраполіі. Такім чынам, на грошы працоўнага люду прыгвалчаных нацый здавальняецца працоўны люд пануючай нацыі. З гэтага мы бачым, што інтарэсы работнікаў не згодны з інтарэсамі багатых станаў толькі ў сябе «ў хаце», сярод сваёй нацыі; наадварот, у прыгвалчаных нацый інтарэсы капіталістаў і работнікаў робяцца аднакімі. І, як мы бачым, няпраўда тое, што інтарэсы капіталістаў і рабочых ніколі не сходзяцца. У зма-

ганні прыгвалчанай нацыі за сваю нацыянальную незалежнасць інтарэсы ўсіх станаў саўпадаюць, і супрацоўніцтва ў гэтым кірунку не толькі магчыма, але й патрэбна. Гэта вымагаецца іх крывавымі інтарэсамі. У дзяржаўнай незалежнасці сваёй нацыі зацікаўлены ўсе станы нацыі, і толькі дружнаю і супольнаю працаю іх магчыма вызваліцца з-пад нацыянальнага, а значыць, і эканамічнага прыгвалчэння. Расійская палітыка цэнтралізму і абмаскалівання была карысна ўсім станам велікарускай нацыі, праз што нават самая ідэёвая велікаруская інтэлігенцыя на дзеле выявіла сябе самым заядлым ворагам нацыянальнага руху. Адгэтуль вынік: працоўны народ на моцы свайго сацыяльнага стану павінен і мусіць быць нацыянальным і поруч са ўсімі станамі сваёй нацыі бароцца за дзяржаўную і культурна-нацыянальную самабытнасць свайго народу. Гэта дыктуецца інтарэсамі самаго эканамічнага існавання працоўнага народу. Разлучэння тут быць не павінна, а хто думае інача́й, той несвядома для сябе становіцца ворагам таго, каго маніцца бараніць.

Апрач таго, культурна-нацыянальная незалежнасць, каторая немагчыма без дзяржаўнай незалежнасці, хавае ў сабе незлічоныя культурныя, агульна-чалавечыя вартасці, бо культура і развіццё чалавецтва могуць пасувацца ўперад толькі шляхам нацыянальным і незалежным. Культуру твораць не касмапаліты, а пэўныя народы — немцы, ангельцы, беларусы, украінцы і т. д.

## *Алесь Гарун. Матчын Дар*

(Рэцэнзія)

*Алесь Гарун. Матчын Дар. Думы і песні 1907—1914 гг. Кніга выдана коштам Народнага Сакратарыяту Беларусі. Менск. Стар. 128. Цана 2 рб.*

Вершы, умешчаныя ў зборніку «Матчын Дар», напісаны аўтарам у няволі на працягу 1907—1914 гг., часткаю ў турме, а часткаю ў Сібіры, дзе аўтар адбываў кару за палітычны рух 1905 года. Яшчэ ў 1914 г. зборнік гэтых вершаў перасылаўся з Сібіры да Вільні, дзе яго рыхтавалася выдаць існаваўшае ў той час «Беларускае Выдавецкае Тава-

рыства», але паўстаўшая тагды вайна ўнемажлівіла выйсце кнігі на цэлых чатыры гады.

Варункі, у каторых пісаліся вершы — няволя ў турме і разлука з родным краем у Сібіры — налажылі моцны адбітак на паэзію аўтара. Усе творы яго гэтага часу пранятыя грамадзянскім сумам па зняважанай, падупалай бацькаўшчыне і горкай тугою па міламу роднаму краю, каторага, як тагды здавалася аўтару, не ўбачыць ён болей ніколі. І, марнуючы сваё маладое жыццё ў цяжкім выгнанні, паэт, як тая Яраслаўна ў «Слове аб палку Ігара», звяртаецца ў горкім суме да ветру:

Ветрэ, ветрэ вольны,
Стой, зрабі паслугу!
Буду спосаб меці,
Аддзякую, другу.
Злётай, лёгкі, бордза
Ў край, адкуль я родам...

. . . . . . . . . . . . . . .

У краю тым — старонцэ:
Брат мой беларусін
Гібее без слонца.
Там усім паклонам
Нізкім ты скланіся,
Хай жывуць, красуюць...
А потым вярніся.
Гэтта скажаш, браце,
Мне, што там убачыш,
Буду спосаб меці,
Паглядзіш, аддзячу!

Ніводзін народ на свеце не выявіў у пісьменстве такога замілавання да сваёй айчыны, як наш беларускі народ! Хто з нас не памятае хвалюючых душу вершаў Якуба Коласа: «Мой родны кут, як ты мне мілы! Забыць цябе не маю сілы»? Гэтакае замілаванне да спакутанага роднага краю мы спатыкаем і ў Алеся Гаруна. Там, дзе ён звяртаецца, пакутуючы ў выгнанні, да радзімай стараны, чуецца нешта стыхійнае, як біблійны плач «На рэках Бабілонскіх»:

Чаму з маленства, з ураджэнства,
У жыццёвы май,
Ні ўмеў, як маці, шанаваці
Цябе, мой край? —

пытае самога сябе паэт, а далей гаворыць:

То ж я с тваёю ключавою,
Сьвятой вадой,
Напіўся болю аб нядолі,
Бядзе людской.

Я браў, ні бачыў і ні аддзячыў
табе нічым,
Бо счараваны — цябе, укаханы;
Ні знаў саўсім.

Алесь Гарун — паэт самабытны, наскрозь арыгінальны і без жаднага надворнага ўплыву. Верш яго звонкі і чысты, як крышталь. Кожнае слова верша займае сваё месца, і ўсе творы яго напісаны так, што ў іх, дапраўды, словам цесна, а думкам прасторна. «Матчын Дар» — адмысловы падарунак у скарбніцу беларускай літаратуры, каторы надаў бы гонару прыгожаму пісьменству і высокакультурнага народу.

Нашых пісьменнікаў нельга раўняць з пісьменнікамі іншых народаў. Міцкевіч і Пушкін, Талстой і Гётэ — людзі заможных станаў, для каторых пісьменства было ядынаю працай у жыцці, заданнем і зместам іх жыцця. Іх не турбавала думка аб чорным хлебе, яны не гнулі сваіх спін над цяжкай фізічнай работай. Яны вольна і спакойна аддаваліся натхнёнай творчасці, не баючыся таго, што не будзе чаго есці. Яны не баяліся таго, што літаратурная творчасць адбярэ ў іх час, патрэбны для здабыцця штодзённага хлеба. Не тое ў нас. Нашы пісьменнікі — працоўныя, бедныя людзі. Яны не маюць магчымасці пасвяціць сваё жыццё пісьменству, а прымушаны аддаваць свой час цяжкай працы для здабыцця чорнага хлеба. І мы бачым, што Алесь Гарун — сталяр па прафесіі,— не разгінаючы спіны ад сталярскай работы, надарыў нас такімі мастацкімі, натхнёнымі творамі, каторыя надалі б славы кожнаму культурнаму народу — калі мы бачым і маем гэта, дык маем права гардзіцца, беларусы! Гэта сведчыць а вялікай здольнасці нашага народу. Вялік беларускі народ і ў рэнегацтве. Міцкевіч, Касцюшка, Дастаеўскі, Сыракомля — дык якія ж шырокія магчымасці адчыняюцца перад намі, калі мы станем на ўласныя ногі, адбудуем сваё ўласнае гаспадарства ды перастанем быць павабным папасам для чужынцаў! Будзь горд, беларус! Перад табою светлая і вялікая будучыня...

Па харастве выдання «Матчын Дар» можа смела лічыцца першым у нашай маладой, багатай вялікімі магчымасцямі літаратуры. Зграбны фармат, харошая папера, ясны і чытэльны друк, адмысловая вокладка ў старым беларускім гусце работы Р. Зямкевіча*, багаты змест кні-

* Зямкевіч Рамуальд Аляксеевіч (1881—1943) — бібліяфіл, бібліёграф і гісторык беларускай літаратуры.

гі — усё гэта надае кнізе вялікую вартасць і спраўляе прыемнае ўражанне. «Матчын Дар» можа па справядлівасці лічыцца найлепшай настольнай кнігай для інтэлігентнага беларуса. На вялікі жаль, кніга мае адну, досыць значную хібу: яна надрукавана без кароткага нашага «ў» і без «ё». Гэта абцяжае чытанне вершаў, асабліва для малазвыклага чытача. Тым часам хібнасць гэта агульная для ўсіх менскіх беларускіх выданняў, дзе друкарні недапасаваны для беларускага друку і ад чаго пры сучасных варунках ухіліцца немагчыма, не маючы на месцы словалітні.

## *А. Луцкевіч і Я. Станкевіч.* *Беларускі правапіс*

(Рэцэнзія)

*А. Луцкевіч і Я. Станкевіч. Беларускі правапіс. Выданне Беларуск. Камітэту. Вільня. 1918 г. Стар. 32.* In 16.

Гэта ўжо другая спроба даць практычны падручнік беларускага правапісу для пачатковых школ. Першаю спробаю была праца аднаго з першых аўтараў — А. Луцкевіча «Як правільна пісаць па-беларуску», устаноўленыя каторым правілы «акання» праведзены ў правапісе і гэтай кніжачкі. На ўстанаўленні правіл «акання», уласна кажучы, і палягае ўвесь беларускі правапіс. Правапіс сугалосных зыкаў спрэчак не выклікае. Няясныя сугалосныя зыкі выяўляюцца цераз пастаноўку пасля іх зыкаў галосных. Але калі звернешся да праведзеных аўтарамі правілаў «акання», дык адразу натыкаешся на непаразуменне: дзеля чаго аўтары захавалі гэтае дваякае напісанне *не, ня, перад, перэд* і т. д.? Мы не думаем, каб тыя дзеці, для каторых назначаюць аўтары сваю працу, падзякавалі ім за гэта. За хітравумнае тлумачэнне такога правапісу п. А. Луцкевіч заслугуе пахвалы, але для практычнага ўжытку гэта не надаецца. Гэта трэба зазначыць цвёрда, каб надалей ухіліцца ад падобных хітрыкаў у правапісе. Далей, саўсім незразумелым з'яўляецца для нас напісанне прыкметнікаў множнай лічбы з канчарам на *е*, а не на *я*. Беларус любіць «акаць», дык дзеля чаго ж пісаць *е*, калі тут ясна чуецца *я*? Ясна, што камусь не да густу нашае зычнае і ёмкае аканне. Але густ ні з жыццёвай практычнасцю, ні з наву-

каю нічога агульнага не мае, а таму на ём грунтавацца не след.

Зазначыўшы гэта, мы мусім сказаць, што такія спробы практычнага правапісу нам канечне патрэбны, і аўтары добра зрабілі, што не пашкадавалі для гэтага часу. Шкода толькі, што не ўсе правілы яны залічылі патрэбным умацаваць прыкладамі для навучання. У кожным выпадку гэтую кніжачку, за хібнасцю покі што лепшых, можна смела пусціць у пачатковыя школы. Мінчанам не шкодзіла б, дзешто выправіўшы, перадрукаваць яе кірыліцай і пусціць у свае пачатковыя школы.

## *М. Гарэцкі, Г. Гарэцкі. Руска-Беларускі Слоўнік*

(Рэцэнзія)

*Руска-Беларускі Слоўнік. Браты М. і Г. Гарэцкія. Смаленск. 1918 г. Стар. 108; цана 2 рб.*

«Прыражоная пашана і любоў да роднае мовы», гаворыцца ў прадмове да слоўніка, а таксама пачуццё павіннасці перад сваім народам паднялі аўтараў на тое, што яны, «ні маючы эдукацыі філолёгічнай, ля якой на Беларусі дажэ унівэрсітэту німа, адно — слухаючы свайго вуха і не зважаючы натта на тое, ці хто ўхваліць а ці пашкеліць і ганіць будзе, выкладалі жменю цікавейшых слоў ку патрэбі а на добрае ўжываньне маладым адраджоным братом, што памаскоўску чытаць-пісаць умеюць, а па-беларуску няцца хочуць».

Патрэба ў такой працы адчувалася даўно, як толькі пачалося адраджэнне беларускага народу і паўстала пытанне аб звароце да народу тых яго сыноў, якія, прайшоўшы маскоўскую або польскую адукацыю, адышлі ад ужывання сваёй роднай мовы. Ведама, мацярынскай мовы не маглі яны саўсім забыцца, але, дзякуючы навучэннню і ўжыванню ў практычным жыцці чужынскай мовы, лексікон сваёй роднай мовы значна расцярушыўся. Гэта патрэба ў аднаўленні забытых праз неўжыванне слоў роднай мовы і нахіляла людзей да ўлажэння слоўніка, падобнага да слоўніка М. і Г. Гарэцкіх.

Слоўнічак іх маленькі і змяшчае не больш 3000 ра-

сійскіх слоў з тлумачэннем па-беларуску са значным уплывам мясцовай (Мсціслаўскай) гаворкі. Няма тут ні эканамічных, ні тэхнічных, ні іншых, падобных да іх, тэрмінаў, за каторыя найбольш і спатыкаюцца людзі, ідучыя з чужыны дадому.

Ёсць хібы і з другога боку. Аўтары стараюцца кожнае расійскае слова вытлумачыць адным словам беларускім. Для практыкі можа гэта і найбольш пажаданы спосаб, але нельга сказаць, каб ён заўсёды быў трапным.

Само тлумачэнне не заўсёды ўдатнае. Напрыклад, *забор* не толькі *тын*, але і *плот; вездѣ — усюды, ані абыгдзе,— скрозь; жердь* — саўсім не *рубель* і *жэрдка, желёзы — залозы,*— і процьма слоў іншых, саўсім няўдала вытлумачаных.

Найбольшая вартасць слоўніка п. п. Гарэцкіх у тым, што яны прыводзяць шмат слоў арыгінальна беларускіх чыста мясцовага, мсціслаўскага характару. Асаблівыя словы розных беларускіх гаворак павінны цешыцца ў нас вялікаю пашанаю. Гэта надасць нашай літаратурнай мове багацця, паспалітай зразумеласці і зробіць яе для ўсіх аднака блізкай і мілай.

## *Е. Ф. Карскі.*
## *Белорусская Речь*

(Рэцэнзія)

*Е. Ф. Карскі. Белорусская Речь. Очерк народного языка с историческим освещеніем. Петроград. 1918 г. Стар. 60; цана 2 рб. 50 коп.*

Кніжка гэта цікавая; шмат прынясе карысці кожнаму інтэлігентнаму беларусу, але, чытаючы яе, трэба памятаць, што аўтар усё яшчэ глядзіць на беларускую мову, як падмову маскоўскага языка. Ён, напрыклад, ахвотна згаджаецца і навучна вам давядзе, што сербская, польская і чэская мовы асобныя, але беларуская і ўкраінская—гэта ўжо маленькія галінкі мовы велікарускай (маскоўскай). Ён яшчэ да гэтага часу разглядае беларускую мову, як некага блуднага сына, адшчапенца, каторы доўгі час бадзяўся на чужыне і папсаваў сваю мову.

Праф. Е. Ф. Карскі — з навукі прыхільнік маскоўскага

цэнтралізму. Гэтакіх людзей многа выгадавала маскоўская палітыка. Паважаючы іх за іх працу, мы не павінны хаваць аб іх праўды.

## *Памятка*

Беларусь складае вялікі край. Тэрыторыя яго займае 258.000 квадр. кіламетраў, куды ўваходзяць блізу цалкам: Віленшчына, Віцебшчына, Горадзеншчына, Меншчына, Магілёўшчына і са значнымі часткамі — Смаленшчына, Чарнігаўшчына, Сувальшчына, Курляндыя — з насяленнем чыста беларусім у 12.000.000, не лічучы чужаплямённага насялення, як жыды, татары, латышы, ліцвіны, велікарусы-стараверы, украінцы і палякі — каля 4.000.000. Зямля, на якой жывуць беларусы, граніčыць з краем латышскім, Літвою і Польшчай на захадзе, на поўдні — з Украінай, на ўсходзе і поўначы — з Маскоўшчынай. Найдаўжэйшая граніца — гэта граніца з Украінай: яна складае трэцюю часць усяе пагранічнай лініі; найкарацейшая — з Польшчай. Паўднёвая граніца Беларусі праходзіць на поўнач ад Бярэсця, удоўж балот Прыпяці аж да Чарнігава; ад гэтага места простаю ліняю на поўнач аж да Ржэва і на поўнач ад Ржэва крывою ліняй да Рэжыцы і ломанаю ліняй праз Дзвінск аж да Бярэсця.

Беларусь ляжыць у такой мясцовасці, каторая, як гадаюць вучоныя, з'яўляецца прарадзінай калі не ўсіх славян, то, прынамсі, бліжэйшых сваіх славянскіх суседзяў. Беларусы — адзінае славянскае племя, з выключэннем хіба палякаў, каторае спакон веку жыве ў сваём краю, ні адкуль сюды не прыйшло, але й не ўвабрала ў сябе чужых гэтаму племю элементаў. Дзеля гэтага беларусы па гістарычных і этнаграфічных асаблівасцях у найбольш чыстым кшталце захавалі славянскі тып і ў гэтым сэнсе заслугуюць асаблівага антрапалагічнага, этнаграфічнага і лінгвістычнага бадання.

Беларусы вядуць свой род ад старажытных плямён *Крывічоў* і *Дрыгвічоў*, каторыя, павэдлуг гістарычных даследзін, першыя палажылі пачатак дзяржаўнасці сярод славянскіх плямён, што рассяліліся па ўсходняй Еўропе і першыя дасталі найменне *рускіх*.

Часам наіўна сумлеваюцца, што Беларускай Дзяржавы

не было. Гэта праўда — пад такім найменнем дзяржавы не было, як не было да часу ўтварэння дзяржавы Італьянскай, Бельгійскай, Украінскай і г. п. Але беларуская нацыянальнасць складала моцную дзяржаву з плямён Літоўскай Русі, г. зн. тае часткі Русі, каторая была злучана разам з літоўцамі пад назваю *Вялікага Княства Літоўска-Рускага*, або Беларускага.

Беларусь, як гэта ўгледзім ніжэй, параўнаўча толькі нядаўна страціла характар свае дзяржаўнасці — моцнай і трывалай, каторая адмячаецца такімі рысамі развіцця, якімі мы можам толькі гардзіцца і аднаўлення якіх мы павінны дамагацца.

Пачаткам беларускай дзяржаўнасці было княства Полацкае, аб князёх каторага скандынаўскія сагі (песні) успамінаюць ужо ў VI веку. Адгэтуль далейшае дзяржаўнае будаўніцтва сярод усходніх славян пашыралася гэтакім шляхам: Полацак-Пскоў-Ноўгарад-Кіеў-Масква, па дарозе «изъ варягъ въ греки» і назад на захад (Масковія). Пусціўшы расткі ў зазначаным кірунку, беларуская дзяржаўнасць моцна трымалася Балтыйскага мора і прымушана была пасувацца па іншаму шляху, у бок Літвы і Курляндыі. Такім чынам, князі полацкага роду даводзіліся старэйшымі ўсім іншым князём у зазначаных палітычных гуртаваннях, як іх роданачальнікі.

Праўдзівей за ўсё, што, як думаюць вучоныя, *Русью* ў пачатку зваўся гурток кіруючых людзей, маўляў, «белая костка», «лепшыя людзі», князі. Адгэтуль відаць, што назва *Белая Русь* азначае Русь старэйшую, кіруючую, маючую права на першынство.

За гэтае дзяржаўнае *першынство*, новапаўстаўшае ў IX веку, Кіеўскае княства вяло даўгалетныя і ўпорныя войны з Полацкім княствам. І толькі дзякуючы таму, што полацкія князі былі роданачальнікамі іншым князям, потым і маскоўскія князі, умацаваўшыся, сталі прад'яўляць свае правы на беларускія землі, лічачы іх таксама сваімі «вотчынамі». І цікава адзначыць, што ў сваіх дамаганнях маскоўскія князі ніколі не спіраліся з тым, што каралі беларускія «літоўскага роду». Каб гэта было так, то ў ваенных спорках за «вотчыны» яны, напэўна, выкарысталі б гэта, адмаўляючы ім права на валоданне славянскімі землямі, як чужынцам. Тым часам гэтага не было, і споркі адбываліся ўвесь час як двух правамоцных прэтэндэнтаў на законную рэч. Сваё права яны грунтавалі на даўнейшых беларускіх летапісах, каторыя потым маскоўскі цар, Іван

Грозны, захапіўшы Полацак, забраў у Маскву і, мабыць, знішчыў*.

Войны з кіеўскімі князямі адбываліся з страшэннай заўзятасцю і з вялікім праліццём крыві на працягу IX—XIII сталецця. Гэтая гіганцкая барацьба скончылася тым, што Полацкае княства было абяссілена і ў XIII сталецці цэнтр беларускай дзяржаўнасці перанёсся на тэрыторыю з мешаным насяленнем — беларускім і літоўскім. Князі полацкага роду, баронячыся ад нападаў князёў кіеўскіх (украінскіх) або не маючы прытулку ў сябе дома, як ізгоі — шукалі сабе падмогі і новае, лепшае долі ў свежых сілах, сярод дзікага і паганскага племя *ліцвіноў*. Дзеля ўдачнага збірання новых сілаў, яны прымалі літоўскія найменні і часта адпраўлялі паганскія звычаі, так што літоўскі народ мог смела прымаць іх за сваіх аднаверцаў. Тым часам, усе яны былі хрысціянскай веры, побач з паганскімі літоўскімі найменнямі насілі хрысціянскія іменні і гаварылі толькі па-беларуску (Мінгайла — Міхайла, Ягайла — Якуб, Альгерд — Аляксандр, Вітаўт — Аляксандр).

Такім чынам, у XIII веку цэнтр беларускай дзяржаўнасці перанёсся ў новае месца, у цяперашнюю Меншчыну, з сталіцаю ў Навагрудку, каторая з часам пераносілася пад напорам варожых сіл далей на захад — спачатку ў Крэва, потым у Трокі і, нарэшце, у Вільню. У гэты час Беларуская Дзяржава атрымала найменне Вялікага Княства Літоўска-Рускага (Беларускага) і ўяўляла з сябе магутную дзяржаву, абхапляўшую ў сябе ўсе землі беларускія, Літву, Латвію і Украіну па рацэ Дняпру. Беларускі народ стаў дзяржаўным народам у Вялікім Княстве Літоўска-Рускім, а Літва, па сваёй малачысленнасці, не мела ніякага дзяржаўнага значэння. У самой Літве вышэйшы стан людзей ужываў беларускую мову і права, выпрацаванае ў Беларускіх землях. Перавага беларусаў у гэтай дзяржаве была і лічэбная і якасцевая: у той час нашы продкі мелі ўжо высокую дзяржаўнасць і літаратуру, вялі шырокія гандлёвыя зносіны з немцамі, тагды як ліцвіны да злучэння з Руссю не мелі ні дзяржавы, ні пісьменнасці, не вялі гандлю і, наогул, уяўлялі сабой народ, стаяўшы на вельмі нізкай ступені развіцця. Лічэбная перавага Беларускага народу ў складзе гэтай дзяржавы будзе для нас ясна, калі мы прыпомнім,

* Глядзі кніжку Бантыш-Каменскага «Переписка между Россиею и Польшею», ч. 1. С. 124. *(Заўвага Я. Лёсіка.)*

што ў нашы часы ліцвіны — маленькі народ, а тагды, апрача таго, насяленне Літвы жыло яшчэ вельмі рэдка, ураскідную.

Мова беларуская стала ў Вялікім Княстве Беларуска-Літоўскім моваю дзяржаўнаю: «а пісар земскі маець па-руску літарамі і словы рускімі ўсе лісты, выпісы і позвы пісаці, а не іншым языком і словы».

Па-беларуску пісаліся ўсе законы (Літоўскі статут), афіцыяльныя і судовыя дакументы, міжнародныя акты і ўсе летапісы княства. Слова *літоўскі* мела значэнне тэрміну геаграфічнага, тэрытарыяльнага. Беларусы панавалі і палітычна, і духоўна, і культурна.

Цяжкія адносіны спачатку з нямецкім рыцарствам, а потым з Маскоўскім Княствам прымушалі Вялікае Княства Беларуска-Літоўскае шукаць хаўрусу з суседняю Польшчай. Першае злучэнне з Польскім каралеўствам адбылося ў 1386 г., пры вялікім князе Ягайле. Гэта была так званая асабовая унія 1385—1386 гг. Але яна фактычнага злучэння з Польшчай не зрабіла. Дасягнуўшы свае мэты ў змаганні з крыжакамі, калі ў 1410 г. немцы былі разбіты пад Грунвальдам, Беларуска-Літоўскае Княства засталося і далей асобнаю дзяржаваю. І толькі ў другой палавіне XVI сталецця, у 1569 г., упаўнаважаныя народаў Беларуска-Літоўскага Княства падпісалі на Люблінскім Сойме унію (злучэнне). Прычына гэтаму была тая, што, паўстаўшае ў час татаршчыны і акрэпшае пасля вызвалення з пад татарскага іга, Маскоўскае Княства стала прэтэндаваць на беларускія землі, распачаўшы цэлы рад войнаў.

Маскоўская дзяржава развівалася ў кірунку манархічнага абсалютызму і прыняло нарэшце форму неабмежаванай манархіі, на чале каторай стаў наследственны манарх, неаграніччаны ўладар і загадчык. Ён вольна распараджаўся і жыццём, і іменнем сваіх падданых, а яны, датычна яго, мелі адны толькі абавязкі, не маючы ніякага права. Тым часам, Беларуска-Літоўскае Княства зрабілася канстытуцыйнай дзяржавай, на чале каторай стаяў выбраны на сойме вялікі князь. Ён ужо з канца XIV веку звязаў сябе рознымі хартыямі, каторыя выдаваў сваім падданым як усяго гаспадарства, так і асобным яго часткам.

На моцы гэтых хартыяў беларуска-літоўскі гаспадар (князь) з канца XV веку быў ужо не самадзяржаўны ўладар, а абмежаваны радаю і згодаю паноў-рады, а з часу выдання статутаў 1529 і 1566 гг. і ўхваламі ўсіх станаў шляхты, скліканых на Вялікі Вальны Сойм.

Такім чынам, у змаганні Масковіі з Беларуска-Літоўскім Княствам бароліся два прынцыпы: прынцып самадзяржавія і абсалютызму з прынцыпам канстытуцыяналізму. Гісторыя сведчыць, што ў гэтым змаганні арганізацыя, пабудаваная на прынцыпе абсалютызму, брала перавагу, і Беларуска-Літоўскае Княства, каб абараніцца ад Масковіі, каторая нясла з сабою абсалютызм і татарскае барбарства, змушана было падпісаць трактат злучэння з Польшчай, аб каторым успаміналася вышэй. Але павэдлуг Люблінскай вуніі абедзве дзяржавы, Беларусь-Літва і Польшча, злучаліся ў адну рэспубліку на падставе роўнасці. Кожны край захаваў сваё войска, свае фінансы, сваё судовае і мясцовае самаспраўаванне, толькі з супольным соймам для абедзвюх старон.

Але гэты хаўрус, адсунуўшы на нейкі час маскоўскую небяспеку, быў згубай як для Польшчы, так і для Беларусі-Літвы. Палякі не здавольніліся актам хаўрусу, а сталі намагацца апалячыць і акаталічыць праваслаўнае насяленне Літвы-Беларусі. Пачалася рэлігійна-нацыянальная барацьба. Націск паланізму і каталіцызму прымусіў згуртавацца проціў яго праваслаўнае насяленне. Але паланізацыя ўсё ж такі патрапіла зрабіць сваё дзела. Большая частка шляхты і вяльможнага панства перайшла з праваслаўя або з лютэранства, каторае ў той час мела вялікае пашырэнне на Беларусі, у каталіцтва. Пераход у каталіцтва станавіўся разам з тым і пераходам у стан польскай культуры і мовы. Багатыя станы пакідалі свой народ, сваю мову, веру і культуру, прымалі каталіцтва і апалячваліся тым больш, што за гэта яны надзяляліся рознымі прывілеямі. Але меськае мяшчанства моцна трымалася за сваю нацыянальнасць і веру. Сялянства толькі пад прымусам прымала каталіцтва. Усе сілы багатай культурнай нацыі аддаваліся на барацьбу рэлігійную і нацыянальную. Каб пагадзіць і ўціхамірыць гэтую страшэнную варажнечу, у 1696 г. быў падпісан акт царкоўнай уніі, або злучэння праваслаўнай царквы з каталіцкай. З гэтага часу уніяцтва стала нацыянальнай верай беларускага насялення. Уніяцтва бараніла народ ад паланізацыі і каталіцтва і ўмацоўвала нацыянальную беларускую культуру. Пры уніяцкіх царквах і манастырах закладаліся беларускія школы, а самае набажэнства адпраўлялася па-беларуску.

Але паланізацыя мела свой поспех. Польская культура і мова запанавалі сярод вышэйшых станаў грамадзянства, каторыя такім чынам адрываліся ад рэшты народу. Дайшло

да таго, што з другой паловы XVII веку нават беларуская мова пачала выціскацца з судоў, з урадавых установў, з законаў і замянялася языком лацінскім або языком польскім. Каля 1697 году Літоўскі статут быў перакладзены на польскі язык, якабы затым, што беларуская мова недаступна генію польскаму. Разумеецца, пры такіх варунках беларускае насяленне не магло прыхільна ставіцца да ўтворанага саюзу з Польшчай, з тою Польшчай, каторая несла з сабою не дапамогу проціў Масковіі, а нацыянальную смерць.

Скончылася тым, што ў канцы XVIII сталецця злучаная польска-літоўска-беларуская рэспубліка, вядомая пад агульным найменнем *Рэч Паспалітая*, была зруйнавана. Яна была падзелена паміж суседнімі дзяржавамі, як Прусія, Аўстрыя і Расія. Беларусь была аканчацельна прылучана да Расіі ў 1793 г. на моцы згоды, падпісанай у Горадні. Гэтую згоду падпісала маскоўская царыца Кацярына II як ад сябе, так і ад сваіх наследнікаў, дакляруючы захаваць на вечныя часы ў прылучаных да Расіі беларускіх землях усе правы і вольнасці паводлуг звычаяў і прывілеяў гэтага краю. Але ўрачыстыя абяцанкі, што даваліся беларускаму народу, не былі датрыманы, бо самадзяржаўная Расія і не гадала спаўняць тое, што абяцала перад усім светам. Праўдзівыя мэты Расіі ў адносінах да Беларусі можна бачыць у лісце царыцы Кацярыны II да графа Разумоўскага, у каторым яна гаворыць аб паступовай русіфікацыі. На другі год па прылучэнні Беларусі да Расіі пачаліся абмежаванні правоў і вольнасцяў беларускага народу. У 1795 г. пашырылі на Беларусь моц закону, выданага Пятром I у 1720 г. для Украіны, і забаранілі друкаваць у беларускай мове Пісьмо Святое і рэлігійныя кніжкі. Пачаўся ўціск нацыянальнай беларускай уніяцкай царквы: царкоўныя маёнтнасці былі канфіскаваны, уніяцкія манастыры зачыняліся, царкоўныя кніжкі «літоўскага друку», як называлі маскоўцы, паліліся, уніяцкіх свяшчэннікаў каралі, ссылалі ў Сібір або ў глыб Маскоўшчыны, уніятаў гвалтам навarачалі ў праваслаўе і т. д. Нарэшце цар Мікалай I у 1839 г. маніфестам абвясціў грэка-каталіцкую (уніяцкую) веру неіснуючай і зацвердзіў гвалтоўны наварот уніятаў да праваслаўнай маскоўскай царквы. У гэтым жа самым часе ён забараніў царкоўныя казанні і выкладанне навук у школах па-беларуску. Як рэакцыя, пачаўся масавы пераход уніятаў у каталіцтва. У 1864 г. было наогул забаронена друкаваць кніжкі ў беларускай мове.

Расійскі ўрад, жадаючы ў палітычных мэтах русіфіцыраваць беларусаў, дакладаў вялікіх захадаў да таго, каб абмаскаліць беларускі народ праз маскоўскую школу, царкву і вайсковую службу. Апрача таго, Беларусь была напоўнена маскоўскімі чыноўнікамі і папамі, каторым расійскі Сінод да апошняга часу плаціў падвойную пенсію як «місіянерам». Лічба школаў, пачынаючы з 1840 г., зменшылася на чвэрць. Паншчына сялян была асабліва змоцнена на Беларусі. Селянін быў прыкуты да зямлі, а пан атрымаў права караць падданага і нават ссылаць у Сібір. Надаючы гэтакіх правоў над сялянамі панам, расійскі ўрад дасягаў двух мэтаў: з аднаго боку, паны праймаліся спачуццём да новага ўраду, а з другога — маскоўскаму царызму лёгка было давесці спакутанаму народу, што яго гора выходзіць ад «польскіх» паноў і што збаўленне сваё ён можа знасці толькі ў прыхільнасці да Маскоўшчыны. Рэч у тым, што ў гэтыя часы большая частка вышэйшага беларускага стану (шляхецтва) прыняло польскую культуру. Такім чынам, беларускі народ разбіваўся на два страшна варожыя станы, а русіфікатарская школа адбірала ў народу і яго інтэлігенцыю.

Ад 1793 г. да 1905 г. выйшлі толькі два-тры выданні ў беларускай мове, і хаця пасля першай расійскай рэвалюцыі ў 1905 г. абмежаванні для друку былі скасаваны, але расійская ўлада дакладала ўсіх старанняў да таго, каб умацаваць за сабою Беларусь шляхам прышчаплення велікарускай культуры. Не гледзячы на страшэнны гвалт і прыгняценне, думка аб культурна-нацыянальнай і дзяржаўнай незалежнасці Беларусі ніколі не ўмірала сярод беларускага грамадзянства. У пачатку прамінулага сталецця культурна-нацыянальны рух набірае арганізаванага характару і пачынае хутка расці і пашырацца. Нездавальненне расійскім панаваннем узмацняецца і выбухае ў паўстаннях, каторыя адбіліся з асаблівай сілай на Беларусі ў 30-х і 60-х гадах прамінулага сталецця. Уцалелыя паўстанцы зпаміж інтэлігенцыі, адхінаючыся ад Масквы, аканчацельна пераходзілі на бок паднявольнай Польшчы і гінулі для беларускага народу ў польскай культуры, але стагнаўшы ў няволі народ высылаў на змаганне за сваю самабытнасць усё новых і новых людзей. У 80-х гадах пачынаецца чыста дэмакратычны рух проціў расійскага панавання. Рух гэты пашыраўся спачатку сярод народнай масы ў форме культурна-нацыянальнага адраджэння. Утварылася новая беларуская літаратура і перыядычны друк,

пазакладаліся арганізацыі нацыянальныя, эканамічныя, а нарэшце і палітычныя. Дзеля характарыстыкі гэтага культурна-нацыянальнага руху можна паказаць на існаванне гэтакіх органаў друку, як «Наша Ніва», «Наша Доля», «Беларус», «Маладая Беларусь», «Саха», «Лучынка», «Раніца», «Гоман», «Крывічанін», «Крапіва», «Вольная Беларусь», «Беларуская Рада», «Беларуская Зямля», «Беларускі Шлях»,— што выходзілі на Беларусі на працягу апошніх год, і — «Сьветач», «Дзянніца», «Бѣлорусское Эхо», «Бѣлоруссы въ Одессѣ», што выдаваліся і выдаюцца па-за межамі Беларусі. Пазакладаліся беларускія выдавецтвы, як «Мінчук», «Палачанін», «Наша Ніва», «Загляне сонцо і ў нашаваконцо», «Вольная Беларусь» і шмат якіх іншых. Дзеля таго, што каталіцкая часць беларусаў звыкла праз касцёл да лацінскага друку, а праваслаўная — да кірыліцы, беларускія кніжкі і газеты друкаваліся і тым і другім шрыфтам. З'явіліся пісьменнікі і паэты, каторыя зрабілі бы славу любой літаратуры, як Якуб Колас, Тарас Гушча, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі, Янка Купала, Ясакар, Змітрок Бядуля, Алесь Гарун, Антось Галіна, Захар Вехаць, Канстанцыя Буйла, Ядвігін Ш., Альберт Паўловіч і інш.

Але «канстытуцыйная» Расія пасля 1905 г. не давала Беларусі ніякіх іншых правоў, апроч права друкаваць кніжкі і газеты ў беларускай мове. Закон забараняў навучэнне пабеларуску ў пачатковых школах, беларускія бібліятэкі мусілі быць патаёмнымі. Забаронена было чыноўнікам трох міністэрстваў (ваеннага, духоўных спраў і народнае прасветы) падпісывацца на беларускія часопісі або атрымліваць беларускія кніжкі. Пры канстытуцыйным расійскім урадзе прымусовае абрусенне практыкавалась старанна і ўпарта, дзякуючы ўсяму дзяржаўнаму механізму і вялікім выдаткам, робленым на гэта. Беларускія настаўнікі, зрабіўшыя хаўрус, каб адваяваць права ўжываць роднае мовы ў пачатковых школах, былі засуджаны ў вастрог або ў Сібір на засланне, а некаторыя з памянёнага настаўніцкага хаўрусу паўцякалі ў Амерыку.

Да апошніх часоў вясковая палітыка Расійскай Дзяржавы старалася засяляць Беларусь велікарусамі, выхадцамі з Маскоўшчыны. Беларусам-каталікам забаранялася купляць на Беларусі зямлю, займаць урадавыя пасады і закладаць ананімныя таварыствы. Пры выбарах ў Дзяржаўную Думу беларусы не маглі паслаць туды сваіх прадстаўнікоў, дзякуючы асаблівай выбарнай сістэме, прыдуманай спецыяльна для Беларусі. Калі выбухнула сусветная вайна, то

расійскі ўрад ухваліў сістэму помачы пацярпеўшым ад вайны па нацыянальнасцях: ён удзяляў значную помач усім іншым нацыянальнасцям быўшай Расіі, выключыўшы толькі беларусаў, а таксама ўкраінцаў. У гэтым жа часе расійскі ўрад эвакуяваў з розных месц Беларусі сотні тысяч беларускіх сялян, нішчыў хлеб на палях, паліў хаты і гумны; адступаючая расійская армія гнала перад сабою людзей, як быдла, у варунках самых цяжкіх і негігіенічных аж у самую паўночную Расію і Сібір. Частка жыхароў засталася ў сваіх сядзібах дзякуючы адно таму, што іх вёскі ляжалі па-за межамі фронту, або дзякуючы таму, што загадзя пахаваліся ў лясах і балотах.

Калі лютым пераваротам 1917 г. былі зруйнаваны муры маскоўскага царызму і апалі кайданы палітычнай няволі, дык распачаты ў 80-х гадах прошлага сталецця культурна-нацыянальны рух беларусаў адразу набраў палітычнага значэння. Пачалі закладацца беларускія палітычна-нацыянальныя арганізацыі як па ўсёй Беларусі, так і па-за межамі яе, куды параскідала вайна беларусаў. Уваскрослі гістарычныя традыцыі, паўстала прамінулая слава і магутнасць Беларускай Дзяржавы, і ідэя аднаўлення дзяржаўнай незалежнасці Беларусі ў складзе быўшага Вялікага Княства Беларуска-Літоўскага пачала набіраць характар рэальнасці. Усе палітычныя нацыянальныя арганізацыі злучыліся ўвосень 1917 г. у першым агульным нацыянальным прадстаўніцтве — у Вялікай Беларускай Радзе. Умацаваўшы свае пазіцыі ў сэнсе прыдбання агульнага народнага спачуцця, выяўленага ў многачысленных дэлегацкіх рэзалюцыях з усіх месц Беларусі, Вялікая Беларуская Рада склікала 5—17 снежня (стст.) 1917 году ў м. Менску Усебеларускі З'езд. Гэты З'езд поўнасцю адбіваў волю беларускага народу. На ём было 1167 дэлегатаў з пастанаўляючым і 705 з дарадчым голасам ад валасных, павятовых, губернскіх самаспраўаванняў і ад розных вайсковых арганізацыяў. Здзяйсняючы права беларускага народу на самаакрэсленне, Усебеларускі З'езд устанавіў у межах Беларусі краёвую рэспубліканскую ўласць і перадаў яе сваёй Радзе З'езду. Збройны разгон З'езду бальшавіцкімі камісарамі не даў магчымасці закончыць работы, а Рада З'езду, меўшая ўзяць краёвую ўласць у свае рукі, прымушана была хавацца ад бальшавіцкага праследавання, каторае тэрарызавала ўсё мясцовае жыццё і асабліва беларускія арганізацыі.

Нягледзячы на цяжкія варункі бальшавіцкага панавання, работа не прыпынялася. Дзеля правядзення ў жыццё

пастановаў З'езду, Рада выдзеліла зпаміж сябе Спаўняючы Камітэт, каторы быў папоўнены прадстаўнікамі ўсіх нацыянальнасцяў, мяшкаючых на Беларусі. Камітэт пасылаў сваю дэлегацыю на міравыя перагаворы ў Бярэсце, але яна, па загаду з Петраграду, не была прапушчана цераз фронт. Калі пры надыходку германскага войска к Менску бальшавікі ўцяклі з горада, то Спаўняючы Камітэт, здзяйсняючы волю З'езду, узяў кіраўніцтва краем у свае рукі і ўтварыў 19 лютага 1918 г. урад — Беларускі Народны Сакратарыят, што было абвешчана народу Устаўною Граматаю ад 21 лютага т. г.

Вайсковая Рада, існаваўшая ў той час у Менску, таксама разагнаная і арыштаваная бальшавікамі, ачысціла Менск ад астаткаў бальшавіцкіх элементаў і ўсю сваю чыннасць аддала Народнаму Сакратарыяту, каторы быў затурбаваны ўстанаўленнем парадку і нармальнага жыцця ў краю. З гэтага часу Спаўняючы Камітэт, злучаны з Вайсковай Радай і папоўнены прадстаўнікамі гарадскіх і земскіх установаў, атрымаў найменне Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

У час акупацыі Менску германскімі войскамі, 25 лютага ў памяшканне Народнага Сакратарыяту прыйшоў германскі камендант і збройнай сілай забраў памяшканне Сакратарыяту і скінуў беларускі нацыянальны сцяг. У памяшканні быў зроблены вобыск, забраны грошы і разагнаны служачыя. Народны Сакратарыят зрабіў запытанне германскім акупацыйным уласцям, на якой падставе ўчыніўся вышэйпамянёны гвалт і якія, наогул, адносіны германскай улады да дзяржаўнага будаўніцтва Беларусі, але адказу не атрымаў.

24 сакавіка 1918 г. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі выпусціла Устаўную Грамату, у каторай абвяшчала: «Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай. Самі народы Беларусі, у асобе свайго Устаноўчага Сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных звязях Беларусі. На моцы гэтага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя звязі, якія далі магчымасць чужому ўраду ўкінуць наш край у пажар вайны і падпісаць за Беларусь трактат у Бярэсці, што забівае насмерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі. На моцы гэтага ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі мае ўвайсці ў адносіны з зацікаўленымі старанамі, прапануючы ім перагледзіць тую часціну Берасцейскага трактату, якая датычыць Беларусі, і падпісаць міравую ўмову з усімі ваяваўшымі дзяржавамі.

Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічэбную перавагу беларускі народ, а ласне: Магілёўшчыну, беларускія часці Меншчыны, Гродзеншчыны (з Гродняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежныя часці суседніх губерняў, заселеныя беларусамі».

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі з'яўляецца адзінай законнай і правамоцнай прадстаўніцай беларускага народу і ўсяго яго краю. Папоўненая Статутам 9-га кастрычніка г. г. прадстаўнікамі ад усіх існуючых на Беларусі грамадзянскіх, культурна-прасветных, рэлігійных і прафесіянальных арганізацыяў, яна тым самым стала і правамоцным Краёвым Органам да склікання Беларускага Устаноўчага Сойму. Мы спадзяёмся, што еўрапейскія народы на міравом кангрэсе не будуць перашкаджаць дзяржаўнаму будаўніцтву Беларусі і дапамогуць Беларускаму народу ў яго жаданні культурна-нацыянальнай і дзяржаўнай самабытнасці, страчанай толькі дзякуючы цяжкім гістарычным умовам. Асновы дзяржаўнай самабытнасці глыбока заложаны ў беларускай нацыянальнасці і трымаюцца на моцных падставах — гістарычных, этнаграфічных, лінгвістычных, эканамічных. Гэтыя асаблівасці адзначалі ўсю гісторыю Беларусі, яны прысушчы беларусам і цяпер і крэпка ўнетраны ў народную гушчу. Нахіл да дзяржаўнай самабытнасці, уменне адстаіваць гэтую самабытнасць, жаданне вольнага дэмакратычнага ладу з'яўляюцца аснаўным рысам гістарычнага прамінулага беларускага народу.

# *Летапіс жыцця і творчасці*

## 1883

6 лістапада (стыль невядомы). У вёсцы Мікалаеўшчына Мінскага пав. Мінскай губ. (цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.) у сям'і арандатараў кн. Радзівілаў Юрыя і Крысціны Лёсікаў нарадзіўся сын. Ахрышчанае ў Мікалаеўскай царкве дзіця атрымала імя Іосіф.

## 1884—1897

«Як самы малодшы ў сям'і, зразумела, Язэп быў пестуном маці і бацькі, братоў і сёстраў. Маленства Язэпа, значыцца, прайшло для яго добра, бяз усякіх турбот і асаблівых абавязкаў, бо былі старэйшыя браты, якія выконвалі ўсе гаспадарскія справы; нават не застаўлялі Язэпа пасціць гусі, што звычайна ўскладалася на малых. Язэп жыў вольна і праводзіў час як хацеў»*.

Маленькі хлопчык прагна цягнецца да вучобы, да кніжак, добра канчае два класы Мікалаеўскага народнага вучылішча.

## 1897—1902

У 1897 г. спрабуе паступіць у Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, але «зразаецца» на іспытах з-за беларускага акцэнту. У 1898 г. паступае ў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю, аднак праз год яго адлічваюць адтуль за непакорлівасць без права паступлення ў іншыя навучальныя ўстановы. Адукацыю Я. Лёсік атрымлівае ў Ноўгарад-Северску (Чарнігаўшчына), дзе настаўнічаў яго брат Антон і куды ён пераязджае ў 1901 г. Там будучы вучоны канчае гарадское вучылішча (1902), а затым здае экзамен пры гімназіі на званне настаўніка народнай школы і хатняга настаўніка пачатковай школы.

## 1902—1905

«Язэп пажадаў працаваць на Меншчыне, адкуль ён родам. Яго назначылі за выкладчыка расейскае мовы ў Бабруйскую сельскагаспадарскую школу. Працаваў ён у Бабруйску толькі адзін год і ў 1903 г. зноў прыехаў

* Антон Лёсік. З жыцьця Язэпа Лёсіка. Новы Шлях. Менск, 1944, №№ 4—6. (Далей па тэксце проста — Антон Лёсік.)

да мяне ў Ноўгарад-Северск і выказаў жаданне працаваць у Ноўгарад-Северскім павеце. Яго назначылі за настаўніка ў добрую школу ў мястэчку Грамяч... Язэп хутка наблізіўся да народу, зрабіўся для яго вялікім аўтарытэтам і цалкам увайшоў у грамадскае жыцьцё Грамяча» (Антон Лёсік).

## 1905

«У Расеі сталі падымацца хвалі пратэстаў супроць царскага самаўладства. Язэп... вельмі захапіўся палітычнымі справамі і стаў знаёміць з палітычнымі пытаньнямі грамяцкіх сялян. Сяляне зьбіраліся ў школу, дзе Язэп чытаў ім газэты. Зразумела, што гэтыя зборышчы сталіся ведамымі паліцыі» (Антон Лёсік). Пасля публічнага прачытання 19 снежня (ст. ст.) 1905 г. на сельскім сходзе складзенага самім жа Я. Лёсікам «приговора, в котором заключались требования о созыве учредительного собрания, наделения землёй лишь техъ, кто в состоянии обрабатывать её собственным трудом» яго арыштоўваюць і саджаюць у Старадубскую турму.

## 1906—1907

Павінен быў адбыцца суд над сваволным настаўнікам, але Язэп Лёсік уцякае ў родную Мікалаеўшчыну, дзе жыве нелегальна, употайкі і спрабуе перабрацца за мяжу. На радзіме ён шмат чытае, разам з настаўнікамі вядзе арганізаваную дзейнасць. Настаўніцкі з'езд у Мікалаеўшчыне і ідэя Беларускага вучыцельскага хаўрусу — гэта шмат у чым ініцыятыва Язэпа Лёсіка. Менавіта ў гэты перыяд паміж ім і Якубам Коласам узнікае шчырае сяброўства аднадумцаў і калегаў.

Усё болей зацягваецца пятля: паліцыя натрапіла на след і ўпарта шукае ўцекача. Я. Лёсік пакідае Мікалаеўшчыну, пакідае старэнькіх бацькоў, сваіх братоў і сёстраў, пакідае *назаўсёды...*

Наперадзе спачатку Пецярбург, дзе Язэп Лёсік набывае шмат кніг, а потым перахоўвае ў старэйшага брата Міхася, начальніка чыгуначнай станцыі Красноўка каля Луганска. Так праходзіць год. Чыгуначны жандар пачаў звяртаць увагу на маладога чалавека без пэўных заняткаў. Значыць, трэба ўцякаць ізноў. У канцы 1907 г. Я. Лёсік прыязджае ў Ноўгарад-Северск да брата Антося. Ён ведаў, што нельга было так рабіць, але іншага выйсця не было — без добрага пашпарту і грошай цяжка схавацца ад вока паліцыі.

Яго арыштоўваюць другі раз. Зноў знаёмыя сцены Старадубскай турмы.

## 1908—1917

18 лютага 1908 г. (ст. ст.) «Особое Присутствие» Кіеўскай судовай палаты выносіць прысуд: «На основании 1 и 2 п. 1 ч. 129, 17 и 62 ст. Угол. Улож. крестьянина села Никольскаго, Минскаго уезда, Иосифа Георгиева Лосика, 21 года, сослать на поселение в местности, для того предназначенныя, с праволишениями и последствиями, указанными в 23, 25, 28—31, 34 и 35 Угол. Улож».

15 сакавіка 1908 г. абвешчаны прысуд уваходзіць у законную моц. Бестэрміновая высылка ў Сібір са стратаю правоў на маёмасць, атрыманне

спадчыны, стратаю грамадзянскіх правоў і магчымасці знаходзіцца на дзяржаўнай, саслоўнай, земскай, гарадской ці грамадскай службе. А самае галоўнае, што неўзабаве абернецца рэальнасцю галоднай смерці — страта правоў настаўнічаць.

У пачатку ліпеня 1908 г. вязень «в наручниках» адпраўляецца ў Іркуцкую губ., а ўжо 31 ліпеня загадам турэмнага аддзялення Іркуцкага губернскага праўлення Лёсік прыпісваецца ў сяло Караткоўскае Мартынаўскай воласці Кірэнскага павета. Але стала там не жыве. У пошуках працы па білету ссыльнапасяленца вандруе па сёлах Кірэнскага пав. З 1912 па 1914 гг. жыве ў Мельнічным выселку, дзе знаёміцца з Алесем Гаруном. А пасля таго, як Іркуцкая казённая палата запісала Лёсіка з 1 чэрвеня 1914 г. у сяляне Мартынаўскай воласці, ён перабіраецца ў Бадайбо, дзе працуе (успаміны Ванды Лёсік) памочнікам пісара ў канторы залатых капальняў да 1917 г.

Першая вядомая карэспандэнцыя Лёсіка была надрукаваная «Нашай Нівай» 23 лют. (ст. стылю) 1912 г.

Першы вядомы літаратурны твор «Рабы Міхась Крэчка, што быў за суддзю» ўбачыў свет 19 ліпеня (ст. ст.) 1912 г. у «Нашай Ніве».

У 1914 г. у Вільні ў друкарні Марціна Кухты асобнай кніжачкай выходзіць «Не ўсе ж разам, ягамосці!..».

## 1917—1920

Я. Лёсік вяртаецца з Сібіры на Беларусь у красавіку 1917 г. і стала жыве ў Менску. Грамадскае і палітычнае жыццё хутка мяняецца, і ў сувязі з гэтым мяняюцца ўлады, умовы працы. З вялікім энтузіязмам уключаецца Лёсік у беларускі нацыянальны рух. Рэдагуе газеты «Вольная Беларусь», «Звон», «Беларусь», выдае кніжкі. Уступае ў БСГ і вядзе актыўную палітычную дзейнасць спачатку як «аўтанаміст», а потым як «незалежнік». Заняты і грамадскімі справамі — аднаўляе Беларускі настаўніцкі саюз, арганізуе і чытае лекцыі, працуе ў Школьнай радзе. Акрамя гэтага,укладае для беларускіх школ хрэстаматыі прыгожага пісьменства «Наша Крыніца» (II — III і IV ступені), складае «Практычную граматыку беларускай мовы», перакладае з паляшуцкай гаворкі «Пінскую шляхту» і «Залёты» В. Дуніна-Марцінкевіча, заняты разборам архіву Каруся Каганца.

Хто ведаў тады Я. Лёсіка — дзівіўся яго працаздольнасці. Днём курсы, рэдактарскія і выдавецкія справы, увечары — пасяджэнні, перамовы, справы грамадскія, а ўночы — праца за кнігаю ці над чарговым артыкулам. Шмат у чым дапамагае яму Ванда Лявіцкая, з якой Лёсік бярэ шлюб ў канцы 1917 г.

## 1920—1930 гады

З прыходам савецкай улады ў ліпені 1920 г. працягвае жыць у Менску па Старажоўскай вуліцы ў доме Русецкіх. Ізаляваны ад палітычнага жыцця, Я. Лёсік вымушаны заняцца амаль выключна толькі педагагічнай і навуковай дзейнасцю. Вядзе працу над падручнікамі, а з ліпеня 1921 г. чытае курс беларускай мовы ў БДУ і на 9-месячных беларускіх лектарскіх курсах. І ўсё ж 10 верасня 1921 г. ЧК па падазрэнні ў прыналежнасці да контррэвалюцыйнай арганізацыі арыштоўвае Лёсіка і толькі па хадайніцтве У. Ігнатоўскага вызваляе 23 верасня.

«Жыву як мыш пад мятлою» — прызнаваўся Язэп брату Антону.

З 1922 г. з'яўляецца сапраўдным членам Інбелкульту, працуе ў Тэрміналагічнай камісіі і чытае лекцыі ў Белпедтэхнікуме. Адзін з галоўных дакладчыкаў на Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе правапісу і азбукі (лістапад 1926 г.). У 1928 г. перасяляецца ва ўласны дом па вул. Шпітальнай (цяпер на тым месцы парк імя Горкага). Паводле пастановы СНК БССР ад 26.XII.1928 г. зацверджаны правадзейным членам Беларускай Акадэміі Навук, з'яўляецца дырэктарам Інстытута навуковай мовы. У пачатку 1930 г. прызначаецца старшынёй Тэрміналагічнай камісіі.

У 1920—1929 гг. піша граматыкі для беларускіх школ і тэхнікумаў, па якіх вучылася ўся БССР. Для школ Я. Лёсікам была складзена «Школьная граматыка», для тэхнікумаў напісаны «Фанетыка», «Марфалогія» і «Сінтакс».

Апроч гэтага, у перыядычным друку з'яўляюцца ягоныя публіцыстычныя артыкулы, пераклады, папулярна выкладзеныя навуковыя працы, даклады і апавяданні. Спадчына была б большай, каб не цэнзура.

## 1930—1938

20 ліпеня 1930 г. па справе «Саюза вызвалення Беларусі» Я. Лёсіка арыштоўваюць у Мацэсце, дзе ён лячыўся ад хваробаў, набытых у царскай ссылцы. У адпаведнасці з прысудам калегіі АДПУ ад 10.4.1931 высылаецца на 5 гадоў у г. Камышын на Волзе. Там працы не знаходзіць, таму жыве ў г. Нікалаеўскім, выкладае ў педтэхнікуме. Летам 1933 г. да яго пераязджае сям'я. У лістападзе 1934 г. амнісціраваны і ўлетку 1935 г. просіць дазволу на вяртанне калі не ў Менск, то хаця б у Беларусь. Атрымаўшы катэгарычную адмову, пераязджае з сям'ёй на Браншчыну. Год працуе настаўнікам у Малавышкаўскай школе (ст. Злынка). Летам 1936 г. перасяляецца ў Дубаўку Саратаўскай вобл., дзе выкладае ў школе. Але толькі год, бо яму зноў адмаўляюць у працы. Восенню 1937 г. уся сям'я пераязджае ў г. Аткарск Саратаўскай вобл., дзе Я. Лёсік выкладае ў педтэхнікуме рускую мову і літаратуру. Тут ён піша сваю апошнюю працу — «Синтаксис русского языка».

## 1938—1940

25 чэрвеня 1938 г. Лёсіка арыштоўваюць зноў. Спачатку знаходзіцца ў Аткарскай турме, потым пераводзіцца ў Саратаўскую № 2 (па іншых звестках № 1). У канцы ліпеня сям'я атрымлівае ад яго вестачку. Гэта была паштоўка, напісаная 16 ліпеня 1938 г., у якой Я. Лёсік развітваецца з блізкімі.

31 сакавіка 1940 г. пастановай «Особого Совещания при НКВД СССР» засуджаны на 5 гадоў ИТЛ «по обвинению в антисоветской агитации против руководителей ВКП(б) и Советского правительства».

Дакладнае месца, дата і абставіны смерці невядомыя. Афіцыйная версія паводле звестак упраўлення ўнутраных спраў выканаўчага камітэту Саратаўскага абласнога савета народных дэпутатаў (ф. 109, воп. 1, справа 63) такая: «Лесик Иосиф Юрьевич, находясь под следствием в тюрьме № 1 г. Саратова, 13 марта 1940 года поступил на излечение в больницу при тюрьме, где и умер 1 апреля 1940 года от вторичного туберкулеза легких (ніколі не хварэў на сухоты.— *А. Ж.*), что подтверж-

дается медицинским заключением. Захоронен Лесик И. Ю. на Воскресенском кладбище г. Саратова. Могила в настоящее время не сохранилась».

Справа абвінавачвання 1938 г. спынена Саратаўскім абласным судом 18 лістапада 1958 г.

Справа 1931 г. спынена судовай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 11 ліпеня 1988 г.

Пастановай Савета Міністраў БССР ад 17 мая 1990 г. за № 123 Язэп Лёсік адноўлены ў званні акадэміка Беларускай Акадэміі Навук.

# *Каментарыі*

Усе творы Язэпа Лёсіка размешчаны ў храналагічным парадку па двух вялікіх раздзелах: літаратурным і публіцыстычным. У каментарыях дзеля спрашчэння падачы крыніц публіцыстыка 1917—1918 гг. разбіта па гадах на падраздзелы. Гэта дазволіла пры ўказанні перыёдыкі апускаць год выдання, бо ён супадае з годам дадзенага падраздзела. Дадаткова ў спасылках 1917—1918 гг. назва газеты «Вольная Беларусь» падаецца абрэвіатурай «ВБ». Акрамя таго, укладанне публіцыстыкі 1917—1918 гг. праводзілася па тых крыніцах, што пазначаны ў каментарыях без дадатковай на тое адзнакі.

Пададзены таксама вядомыя пазнейшыя перавыданні.

Пры складанні заўваг была выкарыстана наступная літаратура:

1. БелСЭ;
2. Энцыклапедыя «Літаратура і Мастацтва». Мн., 1984 г.;
3. Українська Радянська Енциклопедія. Киев, 1977 г.;
4. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе парагранічча. Мн., 1986 г.;
5. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Мн., 1988 г.;
6. Насовіч І. Слоўнік беларускай мовы. Мн., 1982 г.;
7. Народная лексіка. Мн., 1977 г.;
8. З народнага слоўніка. Мн., 1975 г.

Дзеля паказу дынамікі выкарыстання Язэпам Лёсікам псеўданімаў у каментарыях па кожнай публікацыі ёсць дакладная на тое звестка. Разам з тым яны зведзены дзеля нагляднасці ў табліцу каментарыяў, куды ўключаны ўсе вядомыя псеўданімы і подпісы перыяду 1912—1920 гг. Гэта вынікае з таго, што публіцыстыка 1917—1920 гг. цесна звязана паміж сабою і дае — як адзінае цэлае — ключы да разгадкі аўтарства (не толькі Лёсікава). На жаль, кніга абмежавана 1918 г. і тым самым пазбаўляе магчымасці прыдзірлівага чытача проста па кнізе бачыць сувязь паміж рознымі псеўданімамі і крыптанімамі Язэпа Лёсіка. А паколькі творчасць аўтара сістэматызуецца ўпершыню, то ўкладальнік лічыць даць і неабходныя тлумачэнні.

*М. Кепскі.* Аўтарства пацвярджаецца М. Багдановічам (гл. прадмову).

*І. L. (Apalczeńniec).* Гл. прадмову. Па матэрыялах Інстытута літаратуры БАН.

*Смутак.* Аўтарства пацвярджаецца артыкулам «У Выканаўчым Камітэце», які з'яўляецца водгукам пэўных падзей вакол публікацыі «Вялікая Беларуская Рада» Я. Лёсіка.

*Смутны.* Варыянт псеўданіма *Смутак.* За Лёсікава аўтарства выступаюць такія аргументы:

Табліца псеўданімаў і крыптанімаў Язэпа Лёсіка (1912—1920 гг.)

| Поўны подпіс або псеўданім | Варыянты подпісу і скарачэнняў |
|---|---|
| Язэп Лёсік | Язэп Лесік, Язэп Лосік, Язэп Ліосік, Я. Лёсік, Я. Лесік, Я. Ліосік, Я. Лосік, Язэп Л-к, Я. Л-к, Я. Л-н, Яз. Л., Я. Л., Л-к, Л. |
| Павал Ксяневіч | П. Ксяневіч, П. К., К-ч |
| Язэп Ксяневіч* | Я. Ксяневіч, Я. К-ч, Яз. Кс., Яз. К., Я. К., К-ч, К-н, К. |
| Язэп Ліхадзіеўскі | Яз. Ліхадзіеўскі, Я. Ліхадзіеўскі |
| Іншыя | М. Кепскі, J. L. /Apalczeňniec/, Смутны, Смутак, Nemo, N. |

1. Жанравае падабенства. «Бусел і бусляняты» *Смутнага* — «Геркулес і селянін» Я. Лёсіка;

2. Біяграфічнасць. Змест публікацыі «Хто я?» *Смутнага* ў асноўным нагадвае жыццяпіс Я. Лёсіка (у асноўным, бо вядомыя нам факты жыцця Лёсіка перыяду 1902—1908 гг. супярэчлівыя);

3. Тэматычнае падабенства. Артыкул «Праціўнікам беларускага руху» *Смутнага* характэрны для публіцыстыкі Я. Лёсіка.

*Павал Ксяневіч.* Прыналежнасць псеўданіма Лёсіку згадваецца ў публікацыі «1917 год у люстры газэты» («Беларуская газэта». Менск, 1942 г., № 92(112), 10 снеж.). Аўтар артыкула невядомы, але цалкам верагодна, што інфармацыя пра псеўданім належыць Антону Лёсіку, брату Язэпа, які ў той час жыў у Менску. Існуе яшчэ адзін важны доказ: у газ. «Беларусь» 1920 г. у № 42(98) за 26 лют. пад псеўданімам *Я. Ксяневіч* быў надрукаваны артыкул «У справе тэрміну «Літва». Фрагменты гэтай публікацыі пазней былі выкарыстаны аўтарам у рабоце «Літва-Беларусь». Гістарычныя выведы. («Школа и Культура Советской Белоруссии. Менск, 1921 г.) за подпісам Я. Лёсік.

Псеўданімам *Ксяневіч* у розных варыянтах (гл. табл.) Язэп Лёсік шырока карыстаўся (асабліва ў 1919—1920 гг.), але невядома яго паходжанне. Магчыма, гэта дзявочае прозвішча маці або імя дзяўчыны (Ксенія?), якую кахаў Лёсік і якая памерла ад сухотаў (са слоў Алесі Лёсік).

*К-ч.* Вытворны ад псеўданіма *Ксяневіч.* Сустракаецца ў газетах «Вольная Беларусь», «Звон», «Беларусь» 1918—1920 гг. У «Вольнай Беларусі» ім упершыню падпісаны вельмі востры на той момант артыкул

* У поўнай форме псеўданім не зафіксаваны ў літаратуры.

«Крывавая падзея ў г. Мінску», які адзіны са ўсяго нумару пакінуў на сабе сляды цэнзурных правак. На такую рызыкоўную публікацыю мог пайсці, на нашу думку, толькі сам рэдактар. Вядомы яшчэ «Ліст у рэдакцыю» («Звон», 1919 г., № 6, 5 вер.) *К-ч*(а), адкуль бясспрэчна вынікае аўтарства Лёсіка (Лёсік — заснавальнік адноўленага Беларускага Настаўніцкага саюза).

За тым жа подпісам ёсць публікацыі ў 1920 годзе:

«Славяна-беларускія слоўнікі». Беларусь, № 13(69), 22 студз. (Падáў *К-ч*);

«Спектакль для дзяцей Менскіх беларускіх школ і прытулкаў». Беларусь, № 53(109), 10 сак. (Пад крыпт. *К-н* (памылка друку).

*Язэп Ліхадзіеўскі.* У тым, што гэта псеўданім — няма ніякіх сумненняў. Яго геаграфія абмежавана менскімі газетамі «Вольная Беларусь», «Звон», «Беларусь» (выключэнне — «Беларускі Шлях») і дакладным перыядам: 1918—1920 гг. Болей нідзе не сустракаецца. Ці належыць ён Я. Лёсіку? Пераканаўча адказаць на гэта дапаможа сам Ліхадзіеўскі. Дэбют яго ў «Вольнай Беларусі (№ 5, 17 лют. 1918 г.) адкрываецца публікацыяй «Мінск». З тэксту вынікае, што змест цесна звязаны з папярэднім артыкулам *К-ч*(а) «Крывавая падзея ў г. Мінску», з'яўляецца водгукам на змену палітычнай абстаноўкі і напісаны інфармаваным чалавекам, які блізка стаіць да спраў рэдакцыі «Вольная Беларусь».

Вядомы яшчэ публікацыі Язэпа Ліхадзіеўскага за 1919—1920 гг.:

«Даўнейшая гутарка». Звон. 1919 г., № 8, 10 вер. (Пад псеўд. Я. Ліхадзіеўскі);

«Пасмяяўся кацёл з гаршка, што абое чорныя». Звон, 1919 г., № 8, 10 вер. (Пад псеўд. Я. Ліхадзіеўскі);

«Марная надзея». Звон, 1919 г., № 11, 17 вер. (Пад псеўд. Я. Ліхадзіеўскі);

«Урадавыя абвесткі па-расійску». Звон. 1919 г., № 17, 1 кастр. (Пад псеўд. Я. Ліхадзіеўскі);

«Чаму ім не падабаецца Беларуская незалежнасць?» Беларусь. 1920 г., № 86(142), 24 крас. (Пад псеўд. Яз. Ліхадзіеўскі).

*П. К.* Вытворны ад псеўданіма *Павал Ксяневіч.* На сягонняшні момант публікацыі *П. К.* у «Вольнай Беларусі» прыпісваюцца Паўлу Каравайчыку (гл. Саламевіч Я. Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў XVI—XX стст., Мн., 1983 г. С. 97) па наступных меркаваннях:

1. У №№ 8—13 «Вольнай Беларусі» за 1917 г. змешчана хроніка «З'езд дэлегатаў 8—10 ліпеня ў Мінску», якая падпісана крыптанімамі *П. К.* Вывад такі: паколькі Павел Каравайчык быў на з'ездзе сакратаром (а гэта вынікае з тэксту хронікі), то ён мусіў весці стэнаграму з'езду і, натуральна, апублікаваў яе пад крыптанімамі, утворанымі з ініцыялаў свайго імя і прозвішча;

2. У №№ 23, 26 «Вольнай Беларусі» за той жа год надрукаваны «Лісты з Петраграду» *П. К.* Выснова такая: Павел Каравайчык да гэтага часу перабраўся жыць у Петраград і адтуль дасылаў свае «лісты» ў «Вольную Беларусь».

На падставе гэтых двух аргументаў усе публікацыі *П. К.* у «Вольнай Беларусі» прыпісваюцца Каравайчыку. Большых доказаў аўтарства няма.

Цяпер разгледзім, у якой ступені гэта зможа аспрэчваць *Павал Ксяневіч.*

1. Я. Лёсіку ўласціва скарачаць свае псеўданімы, утвараць з іх крыптанімы (гл. табл.);

2. Што да стэнаграмы з'езду, то — улічваючы адлюстраваную ў ёй дыскусійнасць і аб'ём інфармацыі — напрошваецца выснова: яе цяжка

было б зрабіць аднаму чалавеку (да таго ж невядома, ці валодаў ён навыкамі стэнаграфіі). На нашу думку, дыскусія стэнаграфавалася агульнымі сіламі рэдакцыі «Вольная Беларусь», а потым сам рэдактар рыхтаваў матэрыял да друку;

3. Аналіз публікацый «Лісты з Петраграду», «Петраград» («Вольная Беларусь», 1917 г., № 23, 25, 26) паказвае, што аўтар іх *не жыве стала ў Петраградзе*, а прыехаў туды на кароткі тэрмін і ўсю тую інфармацыю, што паспеў назапасіць за час побыту, адлюстраваў у кароценькіх нататках. Прычым бачна, што яго хвалюе справа продажу газет «Вольная Беларусь», і ён у Петраградзе (як і Я. Лёсік) другі раз. Адсутнасць далейшых карэспандэнцый з Петраграду і яўна састарэлая інфармацыя аб петраградскім беларускім руху ў № 25 «Вольнай Беларусі» — усё гэта не на карысць Каравайчыка як «уласнага карэспандэнта»;

4. Існуюць іншыя публікацыі *П. К.:*

«Беларускі тэатр». Вольная Беларусь. 1917 г., № 6, 7 ліп.

«Беларускі тэатр». Вольная Беларусь. 1917 г., № 9, 26 ліп.

«Выбары гласных у Мінскую Гарадзкую Думу». Вольная Беларусь. 1917 г., № 13, 11 жн.

Напрошваецца выснова:

Першыя дзве публікацыі характэрны для публіцыстычнай тэматыкі Лёсіка. Вось бібліяграфічныя прыклады за 1920 г.:

«Беларускі тэатр». Беларусь, № 41(97), 25 лют. (Пад крыпт. К.);

«Беларускі тэатр». Беларусь, № 52(108), 8 сак. (Пад крыпт. Я. К.);

«Тэатр і мастацтва». Беларусь, № 91(147), 30 крас. (Пад псеўд. Nemo).

Сабраныя разам, яны выяўляюць лучнасць паміж сабою, паколькі напісаны адным і тым жа чалавекам, для якога вобраз, сцэна і, падкрэслім, чысціня мовы мае вялікае значэнне.

Трэцяя з пералічаных вышэй публікацый 1917 г. мае нават непасрэднае дачыненне да самога аўтара: Язэп Лёсік выстаўляў сваю кандыдатуру ад блоку нацыянальных сацыялістычных партый (спіс № 12), як сябра БСГ але, відаць, не прайшоў на выбарах.

## ЛІТАРАТУРНЫЯ ТВОРЫ

*Рабы Міхась Крэчка, што быў за суддзю* (с. 16)

Друкуецца паводле газ. «Наша Ніва», 1912 г., № 28—29, 19 ліп., дзе ўпершыню апублікавана пад псеўданімам М. Кепскі.

*Гэркулес і селянін* (с. 20)

Фотакопія тэксту з газ. «Наша Ніва», 1912 г., № 30, 26 ліп., дзе ўпершыню апублікавана. Перавыдавалася:

1. Зб. «Нашай Нівы». Вільня, 1912 г.;
2. Беларускі каляндар на 1916 г. Вільня, 1915 г.;
3. Зб. «Наша Крыніца». Ч. II. Менск, 1919 г.;
4. Зб. «Наша Крыніца». Берлін, 1922 г., выданне 2-е;
5. Зб. «Наша Крыніца». Рыга, 1927 г., выданне 3-е;
6. Газ. «Знамя юности», 1989 г., 26 ліп.;
7. Час. «Беларусь», 1990 г., № 8.

*«Не ўсе ж разам, ягамосці!..»* (с. 21)

Упершыню ў газ. «Наша Ніва», 1912 г., №№ 43, 44, 2, 9 лістап. за подпісам: Я. Лёсік. Перавыдавалася:

1. Лёсік Я. Не ўсе ж разам, ягамосці!.. Вільня, 1914 г.;

2. Лёсік Я. Не ўсе ж разам, ягамосці!.. Вільня, 1924 г.;

3. Дварчанін І. Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры. Вып. IV. Вільня, 1927 г. (змешчаны ўрывак);

4. Дварчанін І. Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры. Вільня, 1927 г. (змешчаны ўрывак);

5. Час. «Беларусь», 1990 г., № 8 (змешчаны ўрывак).

Друкуецца паводле віленскага выдання 1914 г.

*Winszawańnie z sałdataú* (с. 36)

Фотакопія верша з газ. «Biełarus“, Wilnia, 1914 h, 18 snieźnia, дзе ўпершыню апублікаваны за подпісам: J. L. (Apalczeńniec).

*Першынка* (с. 37)

Друкуецца паводле газ. «Наша Ніва», 1914 г., № 13, 27 сак., дзе ўпершыню апублікавана за подпісам: Язэп Лёсік.

*Апавяданне без назвы* (с. 44)

Было напісана аўтарам з 19 лютага па 25 чэрвеня 1914 г. Упершыню друкавалася па частках у 1917—1919 гг. наступным парадкам:

Раздзел «Яўхім-Плашка». Газ. «Вольная Беларусь», 1917 г., № 1, 28 мая за подпісам: Язэп Лёсік;

Раздзелы «Наша гаспода», «Каля карчмы», «Дома» (часткі I—III). Газ. «Вольная Беларусь», 1918 г., № 25, 6 ліп. за подпісам: Я. Лесік;

Раздзел «Падарож да навукі» (часткі I — II). Газ. «Вольная Беларусь», 1918 г., № 28, 11 жн. за подпісам: Я. Ліосік;

Раздзел «Панскія дзяўчаты», або «Юзікава натура». Газ. «Вольная Беларусь», 1918 г., № 34, 6 кастр. за подпісам: Я. Лёсік;

Раздзел «Гаронім у дарозе». Газ. «Беларусь», 1919 г., №№ 27, 28, 20, 21 лістап. за подпісам: Я. Ліосік.

Перавыдавалася часткова такім чынам:

Раздзел «Яўхім-Плашка»

1. Літаратурны зборнік «Вольнае Беларусі». Менск, 1917 г.;

2. Выпісы з беларускай літаратуры. Менск, 1923 г.;

3. Час. «Спадчына», 1991 г., № 3.

Раздзелы «Гаронім-ляснік» (часткі I — V), «Наша гаспода», «Каля карчмы»

Час. «Спадчына», 1991 г., № 3.

Раздзелы «Дома», «Падарож да навукі» (часткова з аўтарскімі зменамі)

1. Зб. «Наша Крыніца» Ч. II. Менск, 1919 г.;

2. Зб. «Наша Крыніца». Берлін, 1922 г., выданне 2-е;

3. Зб. «Наша Крыніца». Рыга, 1927 г., выданне 3-е.

Раздзел «Гаронім у дарозе» (часткова)

1. Дварчанін І. Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры. Вып. IV. Вільня, 1927 г.;

2. Дварчанін І. Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры. Вільня, 1927 г.;

3. Час. «Беларусь», 1990 г., № 8.

Друкуецца па газетным варыянце 1917—1919 гг.

*Бусел і бусляняты* (с. 97)

Друкуецца паводле газ. «Вольная Беларусь», 1917 г., № 16, 28 жн., дзе апублікавана за подпісам: Смутны.

*Нёман* (с. 98)

Друкуецца паводле газ. «Вольная Беларусь», 1918 г., № 13, 14 крас., дзе ўпершыню апублікавана за подпісам: Язэп Лёсік.

